АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
*Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа*

# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ І ГРУПОЎКА БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

*Пад рэдакцыяй
члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР
Р. І. Аванесава,
акадэміка Акадэміі навук БССР
К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы)
і доктара філалагічных навук
Ю. Ф. Мацкевіч*

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1968

# УВОДЗІНЫ

Аб'ектам апісальнай дыялекталогіі з'яўляецца дыялектная мова ў яе сінхронным зрэзе [1]. Лінгвістычная геаграфія, вывучаючы адначасовыя рознатэрытарыяльныя моўныя сістэмы ў іх агульных і адрознівальных рысах, адносіцца да сферы апісальнай дыялекталогіі. Інтэрпрэтацыя даных лінгвістычнай геаграфіі ў залежнасці ад свайго характару можа адносіцца як да апісальнай, так і да гістарычнай дыялекталогіі [2].

Надзвычай важна падкрэсліць прынцыповую двухбаковасць дыялектнай мовы: наяўнасць у ёй уласна структурнага і тэрытарыяльнага аспектаў. Дыялектная мова — гэта перш за ўсё пэўная структура, аднак для дыялекталогіі важным з'яўляецца тое, што як структура ў цэлым, так і яе асобныя элементы праецыруюцца на тэрыторыю. Пры гэтым структура дыялектнай мовы можа вывучацца па-за яе тэрытарыяльнай праекцыяй. Як вядома, розныя структуры ці адрозненні ў структуры дыялектнай мовы наогул самі па сабе не дапускаюць такой праекцыі: тыя і другія ў прынцыпе могуць ужывацца ў адным тэрытарыяльным пункце. Аднак калі структурны аспект вывучэння дыялектнай мовы не дапускае абавязковай яе тэрытарыяльнай праекцыі, то тэрытарыяльны аспект яе вывучэння павінен у далейшым сінтэзавацца са структурным, г. зн. вывучацца ў сувязі з пэўным структурнамоўным зместам, паколькі агульнае і адрознае ў мове на дадзенай тэрыторыі — гэта пэўныя элементы структуры.

Пры вывучэнні дыялектнай мовы як чыстай структуры розныя структурныя разнавіднасці яе выдзяляюцца ў выглядзе чыста тыпалагічных велічынь. Пры вывучэнні дыялектнай мовы ў тэрытарыяльным аспекце, г. зн. пры праецыраванні яе агульных і адрознівальных рыс на геаграфічную карту, мы атрымліваем з'явы тэрытарыяльныя, якія з улікам структурнага аспекту сінтэзуюцца ў велічыні структурна-тэрытарыяльныя.

---

[1] Аб паняцці «дыялектная мова» гл. у Р. І. Аванесава [4, *293—315*].

[2] Аб суадносінах апісальнай і гістарычнай дыялекталогіі гл. у Р. І. Аванесава [4, *308—315*].

Л 59
4 Бел

Гэта праца з'яўляецца першай спробай вывучэння лінгвістычных карт «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (Мінск, 1963). У ёй у сінхронным плане вызначаюцца ізаглосы, аналізуюцца і каменціруюцца шматлікія пучкі ізаглос, вызначаецца іх склад і дынаміка. Акрамя таго, асвятляюцца пытанні паходжання і развіцця асноўных з'яў фаналагічнай сістэмы, граматычнай структуры і лексікі беларускіх гаворак у іх узаемасувязі з рускімі і ўкраінскімі гаворкамі. Грунтоўна распрацоўваецца таксама пытанне групоўкі беларускіх гаворак. Выдзяляюцца асноўныя дыялекты і групы гаворак у межах гэтых дыялектаў і даецца поўная характарыстыка іх адрозненняў на розных узроўнях іх структуры. Вызначаюцца, акрамя дыялектаў, зоны гаворак.

7-1-1
46 68

Калі структура дыялектнай мовы вывучаецца па-за яе тэрытарыяльнай праекцыяй з мэтай выдзялення тыпалагічных разнавіднасцей, зусім неістотна тое, як размяркоўваюцца адрознівальныя (для прастаты будзем называць бінарныя) суадносныя варыянты на тэрыторыі: ці яны размяркоўваюцца па прынцыпу шахматнай дошкі (г. зн. кожны дадзены пункт па сваіх моўных асаблівасцях адрозніваецца ад суседняга), ці ўтвараюць два суцэльныя тэрытарыяльныя масівы (рыс. 1, 2).



Рыс. 1



Рыс. 2

Інакш абстаіць справа, калі дыялектная мова з мэтай выдзялення дыялектаў вывучаецца ў тэрытарыяльным аспекце з улікам даных структурнага аспекту вывучэння, таму што агульнасць тэрыторыі ўлічваецца як істотны прызнак дыялекту.

Структура дыялекту вельмі складаная, яна прадстаўляе сабою ўтварэнне, элементамі якога з'яўляюцца такія самі па сабе складаныя ярусы, як фаналагічная сістэма, прасодыя, флексія і будова слова, сінтаксічны лад, слоўнікавы састаў, якія знаходзяцца паміж сабою ў складаных узаемаадносінах. Пры дыялекталагічным вывучэнні звычайна выдзяляюцца асобныя ўзроўні або нават асобныя элементы ў адным з іх, якія і вывучаюцца ў структурным ці тэрытарыяльным аспекце. Трэба адзначыць, што ў дыялектнай мове выдзяляюцца рысы агульныя і рысы адрознівальныя ў тым ці іншым маштабе. Вывучаючы дыялектную мову як у чыста структурным, так і ў тэрытарыяльным аспекце, асаблівую ўвагу звычайна ўдзяляюць рысам адрознівальным.

У аспекце структурным адрознівальныя рысы складаюць тое, што мы называем адпаведнай з'явай, якая ўтварае дыялектнае адрозненне [1]. Дыялектнае адрозненне — гэта такі

[1] Гэта пытанне распрацавана ў радзе прац Р. І. Аванесава [2, 5], больш падрабязна гл. у кнізе «Вопросы теории лингвистической географии» [33].

элемент структуры мовы, які ў асобных прыватных дыялектных сістэмах выступае ў розных сваіх суадносных варыянтах, у розных сваіх членах. Кожны з гэтых варыянтаў сам па сабе з'яўляецца элементам той ці іншай прыватнай дыялектнай сістэмы. Сукупнасць варыянтаў у іх міжсістэмных адносінах утварае адпаведную з'яву. Такім чынам, адпаведная з'ява заўсёды двухчленная (нават у тым выпадку, калі адзін з членаў прадстаўляе сабою лінгвістычны нуль, г. зн. указвае толькі на адсутнасць з'явы) ці мнагачленная. Члены адпаведнай з'явы знаходзяцца паміж сабою ў пэўных заканамерных адносінах, узаемавыключаючыся ў адной прыватнай дыялектнай сістэме і ўзаемазамяшчаючыся ў розных сістэмах.

Такім чынам, дыялектнае адрозненне ёсць катэгорыя дыялектнай мовы як структуры. Яна можа вывучацца ў чыста структурным плане без уліку тэрытарыяльнага аспекту. Але яна можа і павінна таксама праецыравацца на тэрыторыю, таму што тэрытарыяльны аспект, істотна важны ў дыялекталогіі наогул і ў лінгвістычнай геаграфіі асабліва, з'яўляецца ледзь не рашаючым пры выдзяленні дыялектаў, устанаўленні дыялектнага члянення мовы.

Пры праецыраванні дыялектнага адрознення на карту мы атрымліваем тое, што зручней за ўсё назваць тэрмінам «ізаглоса», хоць унутраная форма яго і не адпавядае ў поўнай меры ўстанаўліваемаму паняццю. Такім чынам, ізаглоса — гэта тое, што атрымліваецца ў выніку праецыравання на тэрыторыю, на геаграфічную карту дыялектнага адрознення. Значыць, ізаглосу нельга сабе ўявіць без яе структурнага зместу, у той час як дыялектнае адрозненне, як гэта ўжо было падкрэслена раней, можна разглядаць і па-за яго тэрытарыяльнай праекцыяй як з'яву чыста структурную. Пры дапамозе ізаглосы ў гэтым разуменні ўстанаўліваюцца граніцы тэрытарыяльнага распаўсюджання асобнай адпаведнай з'явы ў яе суадносных варыянтах.

Такое разуменне ізаглосы адрозніваецца ад таго паняцця ізаглосы, якое з'явілася ў лінгвістычнай геаграфіі ў тую пару яе развіцця, калі прадстаўнікамі яе поўнасцю або ў значнай меры адмаўлялася разуменне мовы як сістэмы. Натуральна, што пры адмаўленні мовы як сістэмы і атамістычнай канцэпцыі мовы ізаглоса разглядалася звычайна як лінія на геаграфічнай карце, якая злучае крайнія пункты пашырэння асобнага дыялектнага варыянта і ўказвае на тэрыторыю яго распаўсюджання, як правіла, безадносна да тэрытарыяльнага распаўсюджання іншых суадносных варыянтаў. З цягам часу дыялекталогія і лінгвістычная геаграфія ў адпаведнасці з агульным напрамкам развіцця лінгвістычнай навукі ператварыліся ў дысцыпліны, якія вывучаюць структуру дыялектнай мовы, аднак паняцце ізаглосы істотна не перагледалася

і не было заменена іншым. Пры звычайным разуменні тэрмін «ізаглоса» ледзь не паўтарае тэрмін «арэал», калі пад апошнім разумець «вобласць распаўсюджання дадзенага факта або сукупнасці фактаў» [78, *37*].

Такім чынам, ізаглоса, калі яе разумець як вынік праецыравання на карту дыялектнага адрознення, можа ўказваць на распаўсюджанне не толькі дадзенага дыялектнага варыянта на дадзенай тэрыторыі, але таксама і другога — суадноснага першаму — варыянта на другой тэрыторыі. Інакш кажучы, у адпаведнасці з супрацьпастаўленым дыялектным адрозненнем (двухчленным ці мнагачленным) ізаглоса таксама з'яўляецца супрацьпастаўленай: параўн., напрыклад, на матэрыяле рускай дыялектнай мовы ізаглосы окання : акання, g : γ (знак : указвае на міждыялектную адпаведнасць). Аднак у дыялекталогіі нярэдка даводзіцца мець справу і з несупрацьпастаўленай ізаглосай супрацьпастаўленага (г. зн. двухчленнага ці мнагачленнага) дыялектнага адрознення, бо аказваецца, што не ўсе члены дыялектнага адрознення пры іх праекцыі на геаграфічную карту з'яўляюцца аднолькава істотнымі з пункту погляду тэрытарыяльнага аспекту вывучэння дыялектнай мовы. Гэта асабліва датычыць пытання аб выдзяленні дыялектаў. Аднак аб гэтым ніжэй.

Асобна ўзятая ізаглоса прадстаўляе сабою лінію на карце, якая ўказвае на граніцу распаўсюджання двух ці больш суадносных дыялектных варыянтаў (у тым ліку «лінгвістычнага нуля»). Указваючы на граніцу, ізаглоса, натуральна, указвае сабою і на распаўсюджанне таго ці іншага варыянта па адзін і па другі бок ад граніцы. Аднак яна можа не ўказваць на замкнёную тэрыторыю пашырэння асобных варыянтаў на супрацьлеглых ад граніцы баках.

Прывядзём некалькі тыповых схем, паказаных на рыс. 3—11. Ізаглосы ў іх праведзены пры дапамозе лініі з рыскамі ў адзін з яе бакоў. Прымем, што яны абазначаюць варыянты $a : a_1$ нейкай суадноснай з'явы, прычым $a$ распаўсюджана ў бок рысак, а $a_1$ — у супрацьлеглы бок.

На рыс. 3 ізаглоса ўказвае на пашырэнне варыянтаў з'явы $a : a_1$ адпаведна на поўнач і поўдзень ад граніцы, але не паказвае іншых граніц іх распаўсюджання (пашырэнне гэтых варыянтаў выходзіць за межы тэрыторыі, якую ахоплівае карта). На рыс. 4 ізаглоса ўказвае на граніцу распаўсюджання варыянтаў $a$ (за межамі круга) і $a_1$ (унутры круга). З прычыны замкнёнасці ізаглосы і астраўнога распаўсюджання варыянта $a_1$ ізаглоса тут акрэслівае тэрыторыю пашырэння (арэал) варыянта $a_1$. Аднак граніцы распаўсюджання варыянта $a$ выходзяць за межы тэрыторыі, якую ахоплівае карта. Рыс. 5 па сваёй асноўнай ізаглосе не адрозніваецца ад рыс. 3, але па адзін і па другі бок ад граніцы распаўсюджа-

ны ў выглядзе астраўкоў супрацьлеглыя варыянты (на тэрыторыі распаўсюджання $a - a_1$, на тэрыторыі распаўсюджання $a_1 - a$).

Бінарныя супрацьпастаўленні пры дапамозе ізаглос найбольш характэрны, але для рада з'яў вядомы таксама трохчленныя і мнагачленныя супрацьпастаўленні, аднапланавыя і мнагапланавыя, апошнія з паслядоўным ці перакрыжаваным чляненнем [33]. У прыведзенай на рыс. 6 прасцейшай




Рыс. 3




Рыс. 4




Рыс. 5

трохчленнай схеме ($a : a_1 : a_2$) выдзяляюцца граніцы варыянтаў $a : a_1$ (лінія з рыскамі па адзін бок і без іх па другі), $a_1 : a_2$ (лінія без дадатковага знака па адзін бок і з кружочкамі па другі).




Рыс. 6

Вядома, што пры накладванні ізаглос адна на адну тэрыторыя дыялектнай мовы аказваецца перасечанай у розных напрамках ізаглосамі асобных моўных з'яў, кожная з якіх указвае на агульнасць і адрозненне асобных частак гэтай тэрыторыі ў адносінах варыянтаў дадзенай з'явы. Адны з'явы выдзяляюць два ці некалькі буйных тэрытарыяльных масіваў, другія — вялікую колькасць больш дробных тэрыторый; адны з'явы ўтвараюць больш ці менш выразную граніцу, другія ўзаемна пранікаюць, г. зн. супрацьлеглы варыянт астраўкамі сустракаецца па-за межамі пашырэння дадзенага варыянта, і г. д. Аднак пры ўсёй разнастайнасці ізаглос розных з'яў па сваёй канфігурацыі, па таму, якія тэрыторыі яны выдзяляюць і супрацьпастаўляюць, усё ж сярод іх сустракаецца

большая ці меншая колькасць тыповых ізаглос, якія блізка праходзяць адна ад адной, прыблізна паўтараюць адна адну, выдзяляюць у асноўным адны і тыя ж тэрыторыі — утвараюць групу ці «пучок» ізаглос. Вядома, што іменна дзякуючы наяўнасці такога роду пучкоў ізаглос супрацьпастаўляюцца адзін аднаму вялікія тэрытарыяльныя масівы, якія характарызуюцца агульнасцю сістэмы мовы па варыянтах моўных з'яў дадзенага пучка ізаглос, інакш кажучы, выдзяляюцца




Рыс. 7

дыялекты. Выдзяленне дыялектаў як структурна-тэрытарыяльных адзінак звычайна праводзіцца не па аднаму суадноснаму варыянту, а па комплексу суадносных варыянтаў на аснове ўліку пучка ізаглос. Пры гэтым аказваецца, што розныя «бакі» асобнай ізаглосы, якая ўваходзіць у пучок, далёка не заўсёды маюць аднолькавую значнасць: адзін з варыянтаў, пашыраны па адзін бок граніцы, для выдзялення дадзенага дыялекту аказваецца істотным, а другі, пашыраны па другі бок яе, з'яўляецца неістотным. Разгледзім гэта на прасцейшым прыкладзе пучка з дзвюх ізаглос.

Па тэрыторыі $AA_1D_1D$ праходзіць пучок з дзвюх ізаглос двухчленных адпаведных з'яў: па лініі $BB_1$ ізаглоса $a : a_1$, па лініі $CC_1$ ізаглоса $b : b_1$ (варыянты $a$, $b$ распаўсюджаны ў бок рысак, варыянты $a_1$, $b_1$ — у супрацьлеглы бок). Пры гэтым як першая, так і другая ізаглоса можа паўтарацца з ізаглосамі іншых з'яў.

Гэтыя ізаглосы па адзінству ва ўжыванні суадносных варыянтаў дадзеных з'яў на асобных тэрыторыях выдзяляюць два тэрытарыяльныя масівы (умоўна — «поўнач» і «поўдзень») і ў адпаведнасці з гэтым два палярныя дыялекты, якія адрозніваюцца паміж сабою комплексам суадносных ва-

рыянтаў дыялекту ($P$ і $P_1$). $P$ характарызуецца варыянтамі $a$, $b$, $P_1$ — варыянтамі $a_1$, $b_1$. Калі б ізаглосы аднаго пучка пры накладванні іх адзін на другі поўнасцю супадалі, то розныя члены супрацьпастаўленага дыялектнага адрознення або розныя варыянты суадносных з'яў па абодва бакі граніцы іх распаўсюджання мелі б аднолькава істотнае значэнне для выдзялення дыялектаў $P$ і $P_1$. Аднак ізаглосы, што ўваходзяць у пучок, звычайна не супадаюць, як яны не супадаюць у нашым прыкладзе, а праходзяць на блізкай адлегласці або аддаляюцца адна ад адной, выдзяляючы тыя ж па свайму напрамку тэрыторыі (у нашым прыкладзе «поўнач» і «поўдзень»).

Таму, акрамя тэрыторыі палярных дыялектаў, выдзяляецца яшчэ тэрыторыя цэнтральных гаворак ($S$), якая абмяжоўваецца ізаглосамі дадзенага пучка і гаворкі якой характарызуюцца камбінацыяй дыялектных варыянтаў, уласцівых дыялектам $P$ і $P_1$. Так, калі дыялекту $P$ уласцівы варыянты $a$, $b$, а дыялекту $P_1$ — $a_1$, $b_1$, то тэрыторыя $BB_1C_1C$ характарызуецца варыянтамі $a_1$, $b$. Іменна пагэтаму не ўсе рысы дадзенага моўнага комплексу з'яўляюцца аднолькава спецыфічнымі для дыялекту $P$ або дыялекту $P_1$. Рыса $b$, уласцівая дыялекту $P$, разам з тым уласціва і $S$-гаворкам. Рыса $a_1$, уласцівая дыялекту $P_1$, разам з тым таксама ўласціва і $S$-гаворкам. У выніку спецыфічнай для $P$ з'яўляецца рыса $a$, а для $P_1$ — рыса $b_1$. Рыса $a_1$ ўласціва як $P_1$, так і $S$-гаворкам, а рыса $b$ — як $P$, так і $S$-гаворкам.

Сказанае азначае, што пры выдзяленні дыялектаў адзін з членаў дыялектнага адрознення можа аказацца істотным у супрацьлегласць другому, неістотнаму. Практычна гэта азначае, што розныя «бакі» ізаглосы пры выдзяленні дыялектаў могуць мець неаднолькавае значэнне. Супрацьпастаўленыя дыялектныя адрозненні могуць праецыравацца на карце — для выдзялення аднаго з палярных дыялектаў — і ў выглядзе несупрацьпастаўленых («аднабаковых») ізаглос, што акрэсліваюць арэал пэўнага варыянта, які з'яўляецца істотным для выдзялення адпаведнага дыялекту.

З гістарычнага пункту погляду палярныя дыялекты прадстаўляюць сабою больш старажытныя ўтварэнні ў параўнанні з цэнтральнымі гаворкамі. Асобныя палярныя дыялекты ў свой час маглі ўтварыцца з цэнтральных гаворак, таксама як і апошнія могуць развіцца ў палярныя дыялекты: гэта мае месца ў тых выпадках, калі на дадзенай тэрыторыі ў выніку працяглай гістарычнай агульнасці з'яўляюцца спецыфічныя рысы, якія адрозніваюць у моўных адносінах дадзеную тэрыторыю ад тэрыторыі палярных дыялектаў старэйшай пары. Такім чынам, істотным прызнакам палярных дыялектаў з'яўляецца наяўнасць спецыфічных суадносных моўных рыс, па

якіх яны выдзяляюцца і супрацьпастаўляюцца адзін аднаму. Цэнтральныя гаворкі, наадварот, характарызуюцца сумяшчэннем спецыфічных рыс розных палярных дыялектаў.

У мове, як і ў кожнай з'яве, якая развіваецца, звычайна цяжка вызначыць, калі адбываецца пераход адной якасці ў другую. Так, гаворкі, якія ў цэлым поўнасцю падыходзяць да нашага азначэння цэнтральных гаворак, з развіццём асобных нешматлікіх спецыфічных рыс могуць пастулова набліжацца да таго, што мы вызначылі як палярны дыялект. Аднак, нягледзячы на практычныя цяжкасці размежавання аб'ектаў па іх адносінах да паняццяў палярных дыялектаў і цэнтральных гаворак, іх важна адрозніваць тэарэтычна.

Дыялектная структура мовы звычайна іерархічная і шматступенная. Схематычна гэта можна паказаць наступным чынам:




Рыс. 8




Рыс. 9




Рыс. 10

Лініі $AA_1$ (рыс. 8), $BB_1$ (рыс. 9) і $CC_1$ (рыс. 10) на аснове пэўных ізаглос адпаведна супрацьпастаўляюць адзін аднаму дыялекты першай, другой і трэцяй ступеней члянення, якія выдзяляюць больш буйныя (з індэксам *1*), менш буйныя (з індэксам *2*) і яшчэ менш буйныя (з індэксам *3*) дыялектныя тэрыторыі. Для прастаты тут прымаюцца пад увагу толькі палярныя дыялекты (і не ўлічваюцца магчымасці існавання на міждыялектных стыках групы *S*-гаворак). Роз-

ныя ступені дыялектнага члянення тут даюцца для нагляднасці на асобных схемах. Калі гэтыя схемы накласці адна на адну і распаўсюдзіць паслядоўнае члянение на ўвесь прамавугольнік, атрымаецца схема, якая больш дакладна адлюстроўвае дыялектную структуру мовы.

Схемы паказваюць, што непасрэдна супрацьпастаўляюцца адзін аднаму дыялекты толькі адной ступені члянення, аднаго «рангу» (напрыклад, дыялекты *1* і *1а*, што ўваходзяць у склад дадзенай мовы, або дыялекты *2* і *2а*, якія ўваходзяць у склад дыялекту *1а*, або дыялекты *3* і *3а*, што ўваходзяць у склад дыялекту *2*), паколькі толькі ў гэтых выпадках ёсць у наяўнасці суадносныя моўныя рысы, якія ўзаемна выключаюцца ў розных дыялектах дадзенай ступені члянення, па якіх яны выдзяляюцца, і якія можна назваць канстытутыўнымі. Спроба супрацьпаставіць дыялекты розных ступеней члянення (напрыклад, дыялекты першай і другой ступеней) заўсёды будзе няўдалай з пункту погляду адзнак, па якіх супрацьпастаўляюцца дыялекты аднаго і таго ж вышэйшага «рангу» (*1* і *1а*), дыялекты розных «рангаў» *1* і *2* прадстаўляюць тоеснасць, таму што дыялект *2*, уваходзячы ў склад дыялекту вышэйшага падзелу *1*, падзяляе тым самым істотныя рысы апошняга, якія ў ім, як і ў кожнай іншай разнавіднасці дыялекту *1*, з'яўляюцца абавязковымі. Няўдачай заканчваецца і спроба супрацьпаставіць дыялекты розных ступеней члянення (напрыклад, *1* і *2*) па рысах, якімі дыялект *2* адрозніваецца ад дыялекту той жа ступені члянення *2а*: спецыфічныя рысы аднаго і таго ж дыялекту ніжэйшага «рангу» (*2* і *2а*) у адносінах да «свайго» дыялекту вышэйшага «рангу» (*1*), у які яны ўваходзяць, з'яўляюцца абыякавымі, нейтральнымі — у складзе дыялекту *1* яны могуць быць у наяўнасці, але могуць і адсутнічаць.

Са сказанага вынікае, што паняцці канстытутыўнай рысы і рысы нейтральнай з'яўляюцца паняццямі адноснымі. Тая ці іншая кваліфікацыя адной і той жа моўнай з'явы залежыць ад таго, у якіх сувязях, у якіх супрацьпастаўленнях мы яе разглядаем — у дыялектах адной ступені члянення, аднаго «рангу» або розных ступеней. Канстытутыўная рыса ў адносінах да дыялектаў аднаго і таго ж ніжэйшага дзялення выступае як нейтральная ў дыялекце вышэйшага, больш буйнога дзялення, і, наадварот, нейтральныя рысы дадзенага дыялекту вышэйшага дзялення могуць быць канстытутыўнымі ў дыялектах больш дробнага, ніжэйшага дзялення. Так, дысімілятыўнае яканне з'яўляецца рысай канстытутыўнай пры выдзяленні разнавіднасцей паўднёвага дыялекту рускай мовы, якія могуць характарызавацца рознымі відамі якання, і ў той жа час рысай нейтральнай у адносінах да паўднёвага дыялекту ў цэлым, паколькі апошні можа характарызавацца

любым відам якання. Оканне: аканне—рысы, якія з'яўляюцца нейтральнымі ў складзе рускай дыялектнай мовы як цэлай, але канстытутыўнымі для выдзялення яе двух асноўных дыялектаў — паўночнага і паўднёвага, таму што першы характарызуецца оканнем, другі — аканнем. Адрозніванне фанем [о] і [ô] або наяўнасць адпаведна ім адной фанемы [о] ў рускай мове з'яўляецца канстытутыўнай рысай пры выдзяленні дыялектаў ніжэйшага «рангу» (напрыклад, асобных гаворак у складзе паўночнага дыялекту або асобных гаворак паўднёвага дыялекту), але ў маштабе рускай дыялектнай мовы ў цэлым з'яўляецца рысай нейтральнай, бо сустракаецца ў гаворках як паўночнага, так і паўднёвага дыялекту. Таму, запісаўшы слова *конь* з [о] або [ô], мы не можам па гэтаму прызнаку аднесці гаворку да паўночнага або паўднёвага дыялекту, паколькі *кôн'* можа сустрэцца, напрыклад, у Варонежскай і Валагодскай абласцях, а *кон'*— у Калужскай і Архангельскай.

Трэба сказаць некалькі слоў аб тым, у якой меры могуць быць супрацьпастаўлены адзін аднаму дыялекты розных ступеней члянення, калі дадзены дыялект ніжэйшага «рангу» не ўваходзіць у разглядаемы дыялект вышэйшага «рангу» (рыс. 11).

Гутарка ідзе аб супастаўленні рыс дыялекту *2* у адносінах да дыялекту *1*. Характэрныя рысы дыялекту *2* з'яўляюцца канстытутыўнымі ў адносінах да адпаведных рыс дыялекту *2а*. Тыя ж рысы ў складзе дыялекту вышэйшага «рангу» *1а* можна назваць спадарожнічаючымі. Напрыклад, рыса *а* дыялекту *2* з'яўляецца нейтральнай для дыялекту вышэйшага «рангу» *1а* (рыс. 11), але яна сустракаецца толькі ў дыялекце *1а*, хоць і не ва ўсіх яго больш дробных падзелах (паддыялектах). Таму яна заўсёды сведчыць аб прыналежнасці дыялекту ніжэйшага «рангу» да дыялекту вышэйшага «рангу» *1а*. Так, напрыклад, запісаўшы слова *веду* з **о** ў пераднаціскным складзе (*в'оду́*), мы можам вызначыць аднесенасць адпаведнай гаворкі да паўночнага дыялекту рускай мовы. Аднак адсутнасць гэтай рысы не сведчыць аб тым, што дадзеная гаворка не адносіцца да гэтага дыялекту, таму што многія паўночныя гаворкі не ведаюць гэтай рысы.

Такім чынам, адна і тая ж рыса будзе канстытутыўнай у адных сувязях і супрацьпастаўленнях (пры супрацьпастаўленні дыялектаў адной ступені члянення, што ўваходзяць у адзін і той жа дыялект вышэйшай ступені, як, напрыклад, дыялекты *2* і *2а*, якія ўваходзяць у дыялект *1а*), нейтральнай— у другіх (у складзе дыялекту вышэйшай ступені *1а*) і спадарожнічаючай — пры супрацьпастаўленні дыялекту ніжэйшай ступені (напрыклад, *1*), у склад якога дадзены дыялект не ўваходзіць.

Карціна дыялектнага члянення, і без таго складаная, яшчэ ўскладняецца тым, што на стыках палярных дыялектаў асобныя ізаглосы рэдка поўнасцю супадаюць адна з адной, а часцей праходзяць больш або менш блізка адна ад адной, выдзяляючы тэрыторыю пучка ізаглос і разам з ім тэрыторыю цэнтральных гаворак. У сувязі з гэтым вернемся яшчэ раз да рыс. 7. Ізаглоса $a:a_1$, якая праходзіць па лініі $BB_1$ па дыялектнаму варыянту $a$, выдзяляе «паўднёвую» граніцу «паўночнага» дыялекту ($P$), а ізаглоса $b:b_1$, якая праходзіць па лініі $CC_1$ па дыялектнаму варыянту $b_1$, выдзяляе «паўночную» граніцу «паўднёвага» дыялекту. Гэтыя рысы з'яўляюцца ў поўнай меры канстытутыўнымі, таму што рыса $a$ сустракаецца толькі ў дыялекце $P$, а рыса $b_1$ — толькі




Рыс. 11

ў $P_1$. Што датычыцца рыс $a_1$ і $b$, то першая з іх з'яўляецца нейтральнай у адносінах да дыялекту $P$ і $S$-гаворак, а другая — у адносінах да дыялекту $P_1$ і $S$-гаворак. Такім чынам, калі $P$ характарызуецца рысамі $a$, $b$, а $P_1$ — $a_1$, $b_1$, то $S$-гаворкі (прамавугольнік $BB_1C_1C$) характарызуюцца камбінацыяй рыс: адной рысы $P$ з другой рысай $P_1$.

Так, у рускай дыялекталогіі па оканню праводзіцца паўднёвая мяжа паўночнага дыялекту, а па фрыкатыўнаму ўтварэнню [g] — паўночная мяжа паўднёвага дыялекту, таму што оканне з'яўляецца спецыфічнай рысай паўночнага дыялекту (у той час як суадносная з ім рыса — аканне характарызуе не толькі паўднёвы дыялект, але і так званыя пераходныя гаворкі), а γ з'яўляецца спецыфічнай рысай паўднёвага дыялекту (суадносная з γ рыса — выбухное ўтварэнне g характарызуе паўночны дыялект і так званыя пераходныя гаворкі). Такім чынам, два асноўныя рускія дыялекты характарызуюцца наступнымі рысамі: $P$ (паўночны) — оканнем і g (выбухным), $P_1$ (паўднёвы) — аканнем і γ (фрыкатыўным), а рускія $S$-гаворкі — аканнем і g, прычым канстытутыўнай рысай для $P$ з'яўляецца оканне, а для $P_1$ — γ.

Вышэй ставілася задача — паказаць прынцыповую двухбаковасць дыялектнай мовы, наяўнасць у ёй уласна структурнага і тэрытарыяльнага аспектаў, паказаць, што паміж імі

існуюць адносіны цеснай функцыянальнай сувязі, але ні ў якім разе не тоеснасць.

Адным з асноўных паняццяў, якія адносяцца да галіны дыялектнай мовы як структуры, з'яўляецца паняцце адпаведнай з'явы, што ўтварае дыялектнае адрозненне. Пры тэрытарыяльным аспекце вывучэння яму адпавядае ізаглоса. Двухбаковаму (двухчленнаму) або шматбаковаму (мнагачленнаму) дыялектнаму адрозненню адпавядае двухбаковая або шматбаковая ізаглоса. Кожная асобная ізаглоса ўказвае на мяжу пашырэння двух ці больш суадносных дыялектных варыянтаў дадзенай з'явы (у тым ліку лінгвістычнага нуля — у адпаведнасці з характарам дыялектнага адрознення). Аднак высвятляецца, што пры выдзяленні дыялектаў з дапамогай пучка блізка праходзячых адна ад адной ізаглос розныя «бакі» ізаглос, якія адлюстроўваюць розныя члены дыялектнага адрознення, могуць функцыяніраваць неаднолькава: адзін з бакоў выдзяляе той ці іншы дыялект па яго істотнай, канстытутыўнай рысе, у той час як другі бок не мае такой уласцівасці. Інакш кажучы, двухбаковая ізаглоса выкарыстоўваецца як аднабаковая, як указанне на тэрыторыю пашырэння, арэал дадзенага дыялектнага варыянта. З гэтым звязана вучэнне аб шматступеннасці члянення і аб рысах канстытутыўных і нейтральных, а таксама спадарожнічаючых. Высвятляецца, што гэта паняцці адносныя: адна і тая ж дыялектная рыса ў розных сувязях і супрацьпастаўленнях можа быць канстытутыўнай і нейтральнай, а таксама спадарожнічаючай рысай.

У заключэнне трэба яшчэ раз падкрэсліць неабходнасць строгага размежавання структурнага і тэрытарыяльнага аспектаў даследавання дыялектнай мовы, паколькі ў даследчай практыцы яны часта змешваюцца. Напрыклад, паняцце дыялектнай дыферэнцыяцыі нярэдка ўжываецца як у чыста структурным сэнсе, так і тэрытарыяльным. Між тым у першым выпадку мы мадэліруем прыватныя дыялектныя сістэмы (мікрасістэмы) як дыялектныя тыпы, г. зн. у чыста структурным плане, па-за тэрытарыяльнай праекцыяй, у другім — канфігурацыю і тыпалогію ізаглос, лінгвістычны ландшафт.

Толькі дакладна размяжоўваючы гэтыя аспекты, мы можам іх сінтэзаваць, «памножыць» адзін на другі, улічваючы не толькі характар ізаглос, іх канфігурацыю, але і тое, што за імі хаваецца (з'ява агульная або прыватная — канкрэтны факт, што адносіцца да таго ці іншага ўзроўню сістэмы мовы; частотная або рэдкая, структурная або неструктурная і г. д.). Сінтэзуючы тэрытарыяльны і структурны аспекты і разглядаючы так дыялектную мову з пункту погляду структурна-тэрытарыяльнага, мы мадэліруем дыялекты рознай ступені члянення як структурна-тэрытарыяльныя адзінкі.

* * *

Асноўны змест манаграфіі складае тыпалогія ізаглос на беларускай моўнай тэрыторыі. Як вядома, ізаглосы адрозніваюцца не толькі сваім напрамкам, але і тым, што хаваецца за кожнай з іх,— сістэмная з'ява (фанетычная, марфалагічная) або з'ява лексікалізаваная ці, нарэшце, асобны адзінкавы факт. Ізаглосы адрозніваюцца таксама ў залежнасці ад таго, выдзяляюць яны значныя тэрытарыяльныя масівы ці невялікія тэрыторыі. Аднак як першыя, так і другія разнавіднасці ізаглос прадстаўляюць вялікую цікавасць, паколькі кожная з іх — гэта вынік працяглага развіцця мовы, абумоўленага гісторыяй носьбітаў данай мовы.

Паасобныя ізаглосы, што праходзяць блізка адна каля адной і выдзяляюць аднолькавыя па сваёй канфігурацыі тэрыторыі дыялектных з'яў, аб'ядноўваюцца ў пучкі. Супрацьпастаўленыя члены суадносных з'яў аднаго пучка займаюць неаднолькавыя арэалы, таму пры накладванні адных ізаглос на другія ў радзе населеных пунктаў яны не супадаюць. У сувязі з гэтым пучкі ізаглос падзяляюцца на больш дробныя падтыпы, якія аб'ядноўваюць па некалькі ізаглос, найбольш блізкіх па сваёй канфігурацыі; кожны з гэтых пучкоў супрацьпастаўляе тэрыторыі большых ці меншых маштабаў, якія характарызуюцца агульнасцю сістэмы па варыянтах моўных з'яў усяго пучка.

Згрупаваныя ў асобныя пучкі ізаглосы інтэрпрэтуюцца ў тэрытарыяльным і структурным аспектах. Тэрытарыяльны аспект уключае вызначэнне характару распаўсюджання дыялектных з'яў (кампактны, рассеяны, астраўны). У структурным плане выдзяляюцца агульныя і прыватныя сістэмы і суадносныя варыянты ў межах іх.

Усе ізаглосы падзяляюцца на восем тыпаў, якія па сваймў напрамку папарна супрацьпастаўляюцца: паўночна-усходнія — паўднёва-заходнія, паўночныя — паўднёвыя, паўночна-заходнія — паўднёва-ўсходнія, усходнія — заходнія.

Пры групоўцы ізаглос, выдзяленні іх пучкоў ужываецца паняцце «напрамак ізаглос», якое не трэба разумець у генетычным плане, укладваць у яго генетычны змест. Гэта паняцце азначае толькі тое, што ў пэўным напрамку дадзеныя дыялектныя варыянты «затухаюць», уступаючы месца сваім суадносным варыянтам.

Вышэй было ўказана, што адзін з варыянтаў, які пашыраны па адзін бок ізаглосы, нярэдка аказваецца больш істотным для выдзялення дадзенага дыялекту, чым другі суадносны яму варыянт, распаўсюджаны па другі бок ізаглосы, апошні ў параўнанні з першым з'яўляецца неістотным або менш істотным. Калі ў гэтым даследаванні выкарыстоўваецца

паняцце «напрамак ізаглос», то гэта азначае, што ў якасці зыходнага лічыцца той бок ізаглосы, які ўказвае на дыялектныя варыянты, што прызнаны за істотныя адзнакі дадзенага дыялекту. Напрыклад, група спецыфічных дыялектных варыянтаў выдзяляе на паўднёвым захадзе адносна невялікую тэрыторыю палескіх гаворак, а суадносныя з імі варыянты характарызуюць не адзін які-небудзь дыялект, а ўсю тэрыторыю Беларусі. Тут маецца на ўвазе прыкладна такая канфігурацыя (рыс. 12).



Рыс. 12



Рыс. 13

Такія ізаглосы кваліфікуюцца як пучок ізаглос паўночна-ўсходняга напрамку, таму што асобныя дыялектныя варыянты займаюць іменна ў паўночна-ўсходнім напрамку большую або меншую тэрыторыю і супрацьпастаўляюць па дыялектных адзнаках паўднёва-заходні куток Беларусі астатняй частцы рэспублікі. Такім чынам, пучок ізаглос паўночна-ўсходняга напрамку выдзяляе паўднёвы захад і, наадварот, ізаглосы паўднёва-заходняга напрамку — паўночны ўсход; такія ж ізаглосы паўночна-заходняга напрамку выдзяляюць паўднёвы ўсход, а ізаглосы паўднёва-ўсходняга напрамку — паўночны захад; ізаглосы паўднёвага напрамку выдзяляюць поўнач, а ізаглосы паўночнага напрамку — поўдзень.

Што датычыць ґенетычнага боку, то ў адных выпадках сучаснае тэрытарыяльнае размеркаванне суадносных дыялектных варыянтаў магло атрымацца ў адпаведнасці з напрамкам ізаглосы ў растлумачаным вышэй разуменні, а ў другіх — у супрацьлегласць гэтаму напрамку. У першым выпадку размова ідзе аб тэрытарыяльным распаўсюджанні дадзенага дыялектнага варыянта, а ў другім аб звужэнні яго распаўсюджання ў выніку страчвання на частцы тэрыторыі. Такім чынам, схематычна (рыс. 13) пучок ізаглос паўночнага напрамку выдзяляе дыялект поўдня.

У генетычным плане такая карціна магла атрымацца ў выніку экспансіі адпаведных дыялектных варыянтаў на поўнач (у адпаведнасці з напрамкам ізаглосы). Але яна магла скласціся таксама ў выніку паступовага страчвання гэтых варыянтаў на поўначы і захавання іх толькі на тэрыторыі

поўдня. Гэта і падобныя пытанні разглядаюцца на аснове гістарычнай інтэрпрэтацыі ізаглос, даных гісторыі мовы, адноснай храналогіі моўных з'яў з прыцягненнем па меры неабходнасці экстралінгвістычных даных (гістарычных, этнаграфічных, археалагічных і г. д.).

Пры вывучэнні дыялектнага падзелу беларускай мовы ў гэтай працы ўжываюцца тэрміны «дыялект», «група гаворак», «гаворка», а таксама «дыялектная зона». Дыялекты



Рыс. 14. Тэрытарыяльная распаўсюджанасць дыялектных варыянтаў з поўдня на поўнач



Рыс. 15. Тэрытарыяльнае звужэнне раней агульнараспаўсюджанага варыянта і захаванне яго на абмежаванай тэрыторыі поўдня




Рыс. 16




Рыс. 17

з'яўляюцца найбольш буйнымі дыялектнымі адзінкамі. У кожным пункце тэрыторыі свайго распаўсюджання дыялект характарызуецца адзінствам моўнай сістэмы па колькасці вызначаных рыс. Групы гаворак (інакш іх можна называць паддыялектамі) — гэта больш дробныя структурна-моўныя адзінкі ў межах асобнага дыялекту. І самая дробная — гаворкі, якія выдзяляюцца ў той ці іншай групе гаворак.

Паміж асобнымі палярнымі суадноснымі дыялектнымі адзінкамі розных рангаў можа знаходзіцца больш або менш шырокая паласа пераходных гаворак (напрыклад, паміж двума дыялектамі беларускай мовы — паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім — праходзіць шырокая паласа сярэднебеларускіх гаворак).

Інакш выдзяляюцца зоны гаворак. Яны знаходзяцца ў баку ад паслядоўнага дыялектнага падзелу і ахопліваюць тэрыторыю, на якой распаўсюджаны часткі розных дыялектаў,

Уявім сабе схематычна тэрыторыю, на якой размяшчаюцца два дыялекты (рыс. 16). Тут у наяўнасці паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты. Пункцірнай лініяй (рыс. 17) абазначана тэрыторыя зоны гаворак, у гэтым выпадку — усходняя зона гаворак, якая ахоплівае часткі тэрыторый паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў.

Вядома, што зона гаворак выдзяляецца па тых моўных рысах, якія з'яўляюцца нейтральнымі ў адносінах да гаворак. Агульныя моўныя рысы зоны гаворак, такім чынам, як бы накладваюцца на тэрыторыю, на якой распаўсюджаны суадносныя рысы асобных дыялектаў.

Гістарычная інтэрпрэтацыя падобнай сітуацыі можа быць рознай. Тут дастаткова падкрэсліць толькі адно: выдзяленне дыялектаў і ўтварэнне зон гаворак праходзіла ў розныя часы. Зона гаворак можа адлюстроўваць рэшткі моўных з'яў, якія ў мінулым адносіліся да дыялектнага падзелу, і, наадварот, яны могуць сведчыць аб пазнейшым развіцці структурна-тэрытарыяльнай агульнасці. У раздзеле, прысвечаным генезісу дыялектаў беларускай мовы, і робіцца якраз першая спроба разгляду паходжання паасобных дыялектных моўных з'яў, а таксама дыялектаў і груп гаворак на тэрыторыі Беларусі.

І апошнія заўвагі тэхнічнага характару. У дужках даюцца спасылкі на карты «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (ДАБМ, карта №...) і на карты пучкоў ізаглос (карта №...), якія змяшчаюцца ў другой частцы працы.

У раздзеле «Групоўка дыялектаў на тэрыторыі Беларусі» спасылкі на «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» даюцца ў тых выпадках, калі тыя ці іншыя моўныя з'явы не аналізуюцца ў раздзеле «Тыпалогія ізаглос», а таму ізаглосы гэтых з'яў адсутнічаюць у наяўных пучках.

# 1
# ТЫПАЛОГІЯ ІЗАГЛОС

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯГА НАПРАМКУ

### Дамачэўска-целяханска-столінскі пучок
(карта № 1)

Агульнавядома, што дыялекты як тэрытарыяльныя велічыні выдзяляюцца на аснове ізаглос аднолькавай канфігурацыі, якія, прадстаўляючы сабою праекцыю на карту дыялектных адрозненняў рознай значнасці, звычайна не супадаюць адна з адной. Пры гэтым адны з іх замыкаюцца на тэрыторыі той ці іншай асобна ўзятай мовы, другія выходзяць за межы пашырэння яе. Апошняе характэрна для большасці ізаглос, якія ў той ці іншай меры адлюстроўваюць дыялектнае чляненне беларускай мовы. Выходзячы за межы Беларусі, яны працягваюцца на тэрыторыі рускай і ўкраінскай моў, а таксама ў беларускіх гаворках Літвы і Польшчы. Так, ізаглосы, што на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці размяжоўваюць формы роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на цвёрды зычны (*хатэ́й*, *ха́тэй* : *хат*, *ха́таў*) [1], наяўнасць або адсутнасць прыстаўных [γ], [h] перад пачатковымі націскнымі [о], [у] ([γ]*о́зера,* [h]*о́зера* : [в]*о́зера, о́зера*) [2], формы назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, што абазначаюць назвы маладых істот (*цяле́ : цяля́, цялё, цялёнак, цялёнка, цялю́к, тыле́та*) [3], назвы столі (*по́вал : столь, патало́к,*

---

[1] У дадзеным выпадку, як і ў далейшым, тое, што пашырана ў гаворках брэсцка-пінскага арэала (паўднёвы захад Брэсцкай вобл.), супрацьпастаўляецца таму, што адзначаецца ў іншых беларускіх гаворках.

[2] Прыстаўныя [γ], [*h*] перад пачатковымі націскнымі [о], [у] адзначаюцца таксама ў нас. пп. Грыцавічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці, Збураж, Радзеж, Арэхава Маларыцкага раёна, Ліплёўка Брэсцкага раёна, Федары, Гараднoе Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 47).

[3] Па-за межамі асноўнага масіву форма *цяле́* адзначана ў нас. пп. Відомля, Бярозаўка, Каленкавічы Камянецкага раёна, Збураж, Хоцілаў Маларыцкага, Ліплёўка Брэсцкага, Альманы, Рухча II Столінскага раёнаў Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 84).

*пакóт, пóлак*), франтона (*фацыя́т : шчыт, закот, лоб, застрэ́шак*), абложнай зямлі (*злог : аблóга, я́лавіна, дзірва́н, памёт*), непакладанага быка (*буя́н : бык, бугáй, стáднік*), працягваюцца ў заходнепалескіх гаворках украінскай мовы. На тэрыторыі Беларусі яны ў асноўным праходзяць на поўдзень ад лініі Дамачова — Целяханы — Столін. Разам яны складаюць дамачэўска-целяханска-столінскі пучок.

## Камянецка-бярозаўска-пінскі пучок
(карта № 2)

Ізаглоса пашырэння слова *сыўбá* ў значэнні 'ўсходы азімых', якая на поўдзень ад Брэста і Дзівіна праходзіць прыкладна па 54° паўночнай шыраты (на поўнач ад яе для абазначэння адзначанай рэаліі ўжываюцца словы *рунь, скарадá* і зрэдку *ўсхóды*), працягваецца ў заходнепалескіх гаворках украінскай мовы, а таксама ва ўкраінскіх гаворках на тэрыторыі Польшчы. Тое ж трэба сказаць і аб некаторых іншых ізаглосах, якія, як бы насоўваючыся з паўднёвага захаду, адхіляюцца далей на поўнач і ўсход. Да іх ліку адносіцца ізаглоса, якая размяжоўвае формы роднага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў мужчынскага, ніякага і жаночага роду *мой, твой, свой* (*маёго : майгó, майгá, маягó; у маёе : у маёй, у маёй, у маé*)[1], а таксама ізаглоса, якая з поўначы і ўсходу акрэслівае арэал ужывання слова *стырня́* (Камянец — Жабінка — Дзівін). У іншых беларускіх гаворках як у якасці агульнай назвы зжатага поля, так і для абазначэння зжатага поля, на якім расло жыта, ужываюцца словы *пóжня (пыжня, пýжня), жніўнік, жнéўнік, сцёран, сцёрань, жы́тнішча, жы́тніско* (апошнія два адзначаюцца толькі як назвы зжатага поля, што было засеяна жытам), *ржы́шча, іржы́шча, аржы́шча,* а таксама іншыя назвы, утвораныя ад кораня **рж-**. Яшчэ далей на поўнач і ўсход адхіляюцца ізаглосы, што размяжоўваюць арэалы ўжывання слоў *біяк : біч, бічык, бічýк, біцýк, бічóўка, абічóўка* (Пружаны — Іванава)[2], *латáць, латáты : лáтаць, лáпіць, крапíць* у значэнні 'ставіць заплаты' (Пружаны — Бяроза — Пінск)[3], месца на-

---

[1] Побач з формамі *маёго, у маёе* на поўдзень і ўсход ад адзначанай вышэй лініі ўжываюцца формы *магó, у мэ́е,* якія, акрамя таго, вядомы іншым беларускім гаворкам (ДАБМ, карты № 139, 140).

[2] Слова *біяк,* акрамя гаворак, размешчаных на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, спарадычна сустракаецца ў іншых беларускіх гаворках (ДАБМ, карта № 258).

[3] Па-за межамі брэсцка-пінскіх гаворак словы *латáць, латáты* ужываюць рэдка і разрознена (ДАБМ, карта № 323).

ціску і ненаціскныя галосныя ў канчатку 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння (*н'ас'éц'е, несéте : н'ас'иц'ó, н'ес'ац'é, н'ас'óц'е*; Пружаны — Івацэвічы — Пінск).

У іншых беларускіх гаворках 2-я асоба множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння з націскным канчаткам **-еце(-ете)** адзначаецца пераважна на паўночным захадзе Гродзенскай вобласці, а таксама на мазырскім Палессі (ДАБМ, карта № 152). Гэтыя ізаглосы ўтвараюць камянецка-нараўлянска-пінскі пучок.

## Камянецка-антопальска-дзівінскі пучок
**(карта № 3)**

Большасць іншых ізаглос, што, як і разгледжаныя вышэй, працягваюцца ў заходнепалескіх гаворках украінскай мовы, украінскіх і беларускіх гаворках на тэрыторыі Польшчы, аб'ядноўваюцца ў пучкі, якія адрозніваюцца паміж сабою ў залежнасці ад таго, наколькі той ці іншы з іх адхіляецца на ўсход. На поўначы (у межах Камянецкага і Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці) ізаглосы, што ўваходзяць у розныя пучкі, нярэдка супадаюць.

Менш за іншыя адхіляецца на ўсход камянецка-антопальска-дзівінскі пучок. У склад яго ўваходзяць ізаглосы, што размяжоўваюць формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот (*аб тэлЯтаві : аб целЯці, аб цялЮ, аб цялЁнку;* Шарашова—Пружаны—Бяроза— Кобрын —Маларыта), націскныя канчаткі меснага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на мяккі зычны (*на пнёві : на пні, на пню, на пне;* Шарашова—Кобрын—Дамачова), націскныя канчаткі меснага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на зацвярдзелы зычны (*на канцóві : на канцý, на канцэ́;* Шарашова—Пружаны—Антопаль—Дзівін); формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду *кажух, катух (у кажухóвы, у кажýхавы : у кажухý, у кажýху, у кажýсе, у кажусé;* Шарашова—Пружаны—Антопаль—Маларыта), формы меснага склону назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на [г] (*на лугóві, на лýгаві : на лýзе, на лузé, на лýге;* Шарашова — Пружаны — Бяроза — Антопаль — Дзівін). Канчатак **-аві(-аві)**, арэал якога акрэсліваецца апісанымі вышэй ізаглосамі з поўначы і ўсходу, спарадычна адзначаны на тэрыторыі Драгічынскага, Іванаўскага і Пінскага раёнаў Брэсцкай вобласці.

Некалькі далей на поўнач і ўсход адхіляецца ізаглоса, якая акрэслівае тэрыторыю пашырэння слоў *ляшка, ляшóк,*

*ляшкі* (Свіслач — Бяроза — Іванава — Дзівін). Слова *ляшка* (укладка снапоў з адной ляхі) адзначана таксама ў трох населеных пунктах Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 286). У іншых беларускіх гаворках для абазначэння малой укладкі снапоў у полі ўжываюцца словы *ба́бка, аба́бка, ба́бак, аба́бак, аба́бкі, мэ́ндля, мэ́ндаль, мэ́ндлік, мэ́тлік, мэ́ндлі, мар'я́нка, стропэ́ц, стры́пчык, стропцы́,* а таксама назвы, утвораныя ад лічэбніка *дзесяць (дзесятак).*

З захаду да гэтага пучка набліжаецца ізаглоса, што размяжоўвае варыянты вымаўлення слова *мёд* (*м'ид : м'од, мйод, м'ед, мед;* Камянец — Жабінка — Маларыта). Аднак у некаторых населеных пунктах, размешчаных уздоўж адзначанай лініі, варыянты *м'ид, мед* ужываюцца паралельна. Тэрыторыя пашырэння апошняга на поўнач і ўсход вызначаецца лініяй, што праходзіць па верхняму цячэнню Нарава на поўнач ад Івацэвіч, Лунінца, на поўдзень ад Мікашэвіч і далей па цячэнню Ствігі да граніцы з УССР. Вымаўленне *мед* спарадычна адзначаецца таксама ўздоўж мяжы з Украінай на тэрыторыі мазырскага Палесся (ДАБМ, карта № 30).

## Камянецка-пружанска-пінскі пучок
**(карта № 4)**

Ізаглосы камянецка-пружанска-пінскага пучка ў асноўным праходзяць на захад і поўдзень ад лініі, што вызначаецца цячэннем Стыры і Прыпяці (да Пінска), Ясельды (на захад ад вытокаў Агінскага канала), Нарава. Яны размяжоўваюць фанетычныя варыянты ненаціскнога канчатка творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а(-ја)** з мяккай асновай (*віш*[*н'ийу*], *віш*[*н'ьйу*] : *віш*[*н'ай*], *віш*[*н'ий*], *віш*[*н'ьй*]) [1], дзеясловы з суфіксам **-ва** без папярэдняга галоснага або з тым ці іншым галосным (*раска́з*[*ува*]*ць, раска́з*[*ова*]*ць : раска́з*[*ва*]*ць, раска́з*[*ъва*]*ць, раска́з*[*ава*]*ць*) [2], галосныя на месцы «е» ў паслянаціскным закрытым складзе ў аснове слова (*во́*[*сы*]*нь : во́*[*с'и*]*нь, во́*[*с'ь*]*нь, во́*[*с'а*]*нь*). Пабач з [ы] ў брэсцка-пінскіх гаворках на месцы «е» ў паслянаціскным закрытым складзе асновы слова адзначаюцца [и], [ь], вядомыя ў гэтай пазіцыі і ў паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках (ДАБМ, карта № 16). У склад разглядаемага пучка ўваходзяць таксама ізаглосы, што размяжоўваюць адрознен-

---

[1] Ненаціскны канчатак **-ийу(-ьйу)**, які ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з мяккай асновай пашыран на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, адзначаецца таксама на ўсходзе Магілёўскай вобласці (ДАБМ, карта № 72).

[2] Дзеясловы з суфіксам **-ува,** акрамя брэсцка-пінскага арэала, прыкметна пашыраны ў іншых беларускіх гаворках, асабліва на паўднёва-ўсходняй ускраіне Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 25).

ні па націску ў слове *рошчына* (*рашчы́на : ро́шчына*) [1], варыянты формы назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў са старым коранем **дѣт-** (*дыты́на : дзіця́, дзі́ця, дзе́ця, дзіцё, дзіцянё, дзіцёнак*), націскныя канчаткі меснага склону адзіночнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на [к] (*на быко́ві, на быке́ві : на быку́, на быке́*) [2], варыянты вымаўлення слова *быў* (*був : быў, буў, б'иў*) [3], ненаціскныя канчаткі меснага склону адзіночнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай (*аб сынаві : аб сыну, аб сыне*), формы роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот (*тэля́та, тэле́та : цяля́ці, цяля́, цялёнка, цялюка́*).

## Камянецка-пінска-столінскі пучок

**(карта № 5)**

У камянецка-пінска-столінскі пучок аб'ядноўваюцца ізаглосы, якія размяжоўваюць галосныя на месцы «е» ў другім складзе перад націскам у прыстаўцы **пера-** ([*пы*]*рамы́ць :* [*п'и*]*рамы́ць,* [*п'е*]*рамы́ць,* [*п'а*]*рамы́ць,* [*па*]*рамы́ць*); на месцы «е» ў трэцім складзе перад націскам ([*вы*]*рацяно́ :* [*в'и*]*рацяно́,* [*в'ь*] *рацяно́,* [*в'е*]*рацяно́,* [*в'а*]*рацяно́,* [*ва*]*рацяно́*); на месцы «е» (з «е» і «ё») у паслянаціскным неканцавым адкрытым складзе (*во́*[*зы*]*ра : во́*[*з'и*]*ра, во́*[*з'ь*]*ра, во́*[*з'е*]*ра, во́*[*з'а*]*ра*); формы роднага і творнага склонаў адзіночнага ліку ўказальнага займенніка жаночага роду *тая* (*тэ́е : той, то́е, тае́, тае́й; за тэ́ю : за той, за туй, за то́ю, за тае́й*) [4]; галосныя на месцы тэматычнага «е» ў ненаціскным канчатку 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння (*ме́л'имо,* [*м'е́лымо*] *: м'е́л'ам, м'е́л'ем* [*ме́л'емо*], *м'е́л'им, м'е́л'ом* [*ме́л'омо*]; варыянты вымаўлення слова *авёс* (*ове́с : ов'о́с, авйо́с, ав'йо́с*); адрозніванне і неадрозніванне цвёрдасці-мяккасці [р] (*го́*[*р*]*ад, г*[*р*]*ом, ку*[*р'и́*]*ць,* [*р'е́*]*заць, ку*[*р'у́*], *за*[*р'а́*], *суха́*[*р'*] *: го́*[*р*]*ад, г*[*р*]*ом, ку*[*ры́*]*ць,* [*р*]*э́заць, ку*[*р*]*у́, за*[*р*]*а́, суха́*[*р*] [5],

[1] Варыянт *рашчы́на* шырока вядомы іншым беларускім гаворкам, пераважна Віцебскай і Магілёўскай абласцей (ДАБМ, карта № 194).

[2] Націскны канчатак **-еві** ў месным склоне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на [к] адзначаецца толькі на поўначы Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 73).

[3] Па-за межамі брэсцка-пінскага арэала варыянт *був* адзначан толькі ў в. Прыбылавічы Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 40).

[4] Формы *тэ́е, за тэ́ю,* пашыраныя на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, спарадычна адзначаюцца ў іншых беларускіх гаворках (ДАБМ, карты № 135, 137).

[5] Адрозніванне цвёрдасці-мяккасці [р], што назіраецца на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, вядома таксама беларускім гаворкам пераважна на поўдні Гомельскай, усходзе Віцебскай і Магілёўскай абласцей (ДАБМ, карта № 42).

фанетычныя і словаўтваральныя варыянты слова *калодзеж* (*калодяз : калодезь, калодзеж, калодзец*); формы вышэйшай ступені прыметніка *тонкі* (*тонч, тоньч, тончы, тоньчы : тонш, тоньш, тоншы, тоньшы*); націскныя канчаткі назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў (*маладыі, маладыя : маладыя[е], маладэя*); канчаткі меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (*аб маладому, аб жоўтому : аб маладым, аб маладом, у жоўтым, у жоўтом, у жоўтам, у жоўтум*) [1]; фанетычныя і словаўтваральныя варыянты і адрозненні па націску і роду назоўніка *брыво* (*мая брова : мая брыва, маё брыво, маё брова, мая брывіна*) [2]. На ўсходзе яны адхіляюцца за Стыр, а ў межах Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці праходзяць на поўдзень ад лініі Бяроза — Пружаны — Шарашова (карта № 5).

З ізаглосамі гэтага пучка, адхіляючыся ад іх у межах Лагішынскага і Лунінецкага раёнаў Брэсцкай вобласці да лініі Лагішын — Лунінец, супадаюць ізаглосы, якія з поўначы і ўсходу акрэсліваюць тэрыторыю пашырэння ненаціскных галосных [ы], [е] на месцы «ě» ў канчатках меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў (*у ха*[*ты*], *у ле*[*сы*], *у ха*[*те*], *у ле*[*се*]); галосных [и(ы)] на месцы «о» ў закрытым націскным складзе ([*д'и*]*м*, [*ды*]*м*, [*к'и*]*нь*, [*кы*]*нь*, [*в'и*]*л*, [*вы*]*л*) і націскнога канчатка **-і** ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з асновай на цвёрды зычны (*к сцяні, на сцяні*). У іншых беларускіх гаворках на месцы «ě» ў канчатках меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ужываюцца ['и], ['е], ['а] (*у ха*[*ц'и*], *у ле*[*с'и*], *у ха*[*ц'е*], *у л'е*[*с'е*], *у ха*[*ц'а*], *у л'е*[*с'а*]). На месцы «о» ў закрытым націскным складзе адзначаюцца [о], [ô], [у] або дыфтонг [уо] (*д*[*о*]*м, к*[*о*]*нь, в*[*о*]*л, д*[*ô*]*м, к*[*ô*]*нь, в*[*ô*]*л, д*[*у*]*м, к*[*у*]*нь, в*[*у*]*л, д*[*уо*]*м, к*[*уо*]*нь, в*[*уо*]*л*), а ў давальным і месным склонах адзначаных назоўнікаў жаночага роду ўжываецца націскны канчатак **-е** ( *к сцяне, на сцяне*; ДАБМ, карты № 35, 67).

Толькі ў раёне Лагішына ад гэтага пучка адхіляюцца ізаглосы, якія з поўначы і ўсходу акрэсліваюць тэрыторыю пашырэння націскнога і ненаціскнога канчатка **-ый** у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду (*маладый, новый*). Адзначаныя канчаткі побач з націскным **-эй** (*маладэй*), націскным і ненаціскным **-ы** (*малады, новы*) —

---

[1] Акрамя брэсцка-пінскіх гаворак, прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з націскным і ненаціскным канчаткам **-ому** ў месным склоне адзіночнага ліку спарадычна адзначаны ў іншых беларускіх гаворках, пераважна на поўдні Гомельскай вобласці (ДАБМ, карты № 117, 118).

[2] Па-за межамі брэсцка-пінскіх гаворак варыянт *брова* (жаночы род з асновай на **-а**) адзначан рэдка (ДАБМ, карта № 108).

апошні сустракаецца амаль паўсюдна — пашыраны на поўначы і ўсходзе Беларусі (ДАБМ, карты № 110, 111).

Ізаглоса ж, якая з поўначы і ўсходу акрэслівае тэрыторыю пашырэння такой моўнай з'явы, як замена заднеязычнага шыпячым у парадыгме цяперашняга часу (*стрыжу́, печу́, стрыжэ́ш, пече́ш, стриже́м, пече́м, стрижу́т, печу́т'*), адхіляецца да лініі Пружаны — Бяроза — Лагішын — Лунінец — Давыд-Гарадок — Столін. Зрэдку замена заднеязычнага шыпячым у парадыгме цяперашняга часу адзначаецца і ў іншых беларускіх гаворках на поўдні Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 158).

## Камянецка-целяханска-столінскі пучок
**(карта № 6)**

Некалькі далей на поўнач і ўсход ад папярэдніх адхіляюцца ізаглосы, якія аб'ядноўваюцца ў камянецка-целяханска-столінскі пучок. Яны размяжоўваюць галосныя на месцы «ě» ў націскным складзе ([*л'и*]*с* : [*л'е*]*с,* [*л'ê*]*с,* [*л'и͡е*]*с*) [1]; зычныя [д'], [т'] і [дз'], [ц'] у пазіцыі перад націскным галосным, які адпавядае «ě» [*д'е*]*д,* [*д'ие*]*д,* [*д'и*]*д,* [*т'е́*]*ста,* [*т'ê*с]*та,* [*т'и͡е*]*ста;* [*т'и́*]*ста* : [*дз'е*]*д,* [*дз'ê*]*д,* [*дз'и͡е*]*д,* [*дз'и*]*д,* [*ц'е́*]*ста,* [*ц'ê*]*ста,* [*ц'и͡е*]*ста,* [*ц'и́*]*ста*). У брэсцка-пінскіх гаворках побач з [д'], [т'] (апошнія вядомы таксама іншым беларускім гаворкам, пераважна сумежным з украінскімі) у пазіцыі перад націскным галосным, які адпавядае «ě», адзначаюцца [д], [т] цвёрдыя (ДАБМ, карта № 57).

У канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння цвёрдае [т] больш пашырана на тэрыторыі Камянецкага, Пружанскага, Бярозаўскага, Івацэвіцкага раёнаў, тады як мяккі варыянт яго пераважае ў гаворках Брэсцкага, Маларыцкага, Кобрынскага, Драгічынскага, Іванаўскага, Пінскага, Столінскага раёнаў Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 156).

Ізаглосы, якія размяжоўваюць формы 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння (*ид'и́те* [*иди́те*] : *идз'и́ц'а, идз'и́т, идз'е́ц'е* [*идз'ê*ц'е], *идз'е́ц'* [*идз'ê*т']), формы назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *ўвесь* (*ус'и́, вс'и, всы* : *ус'е́, вс'е, все, ус'ê, ус'и͡е, вс'е*) [2],

[1] Галосны [и] на месцы «ě» ў націскным складзе, кампактна пашыраны ў брэсцка-пінскіх гаворках, спарадычна адзначаецца ў іншых беларускіх гаворках, пераважна на поўдні Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 34).

[2] Акрамя брэсцка-пінскіх гаворак, формы *ўс'и, вс'и* (назоўны склон множнага ліку азначальнага займенніка *ўвесь*) пашыраны ў іншых беларускіх гаворках — пераважна на ўсходзе Віцебскай і Магілёўскай абласцей (ДАБМ, карта № 141).

зычныя на месцы мяккага губнога «м» у пазіцыі перад «а» ([*м'н'*]*аса* : [*м'*]*аса*), мяккія і цвёрдыя [з], [с] у пазіцыі перад «е», «и» ([*зе*]*лёны,* [*се́*]*мя,* [*зы*]*ма́,* [*сы́*]*ла, ка*[*сы́*]*ць* : [*з'е*]*лёны,* [*с'е́*]*мя,* [*з'и*]*ма́,* [*с'и́*]*ла, ка*[*с'и́*]*ць;* [д], [т] і [дз'], [ц'] у пазіцыі перад «е», «и» (*и*[*ды́*], [*ты́*]*ха,* [*де*]*нь,* [*те*]*нь* : *и*[*дз'и́*], [*ц'и́*]*ха,* [*дз'е*]*нь,* [*ц'е*]*нь*) па сваёй канфігурацыі не адрозніваюцца ад разгледжаных вышэй.

Перад «е», «и» побач з [д], [т] на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці адзначаюцца таксама [д'], [т'], а ў некаторых населеных пунктах (Белая Камянецкага, Лінова Пружанскага, Травы Кобрынскага, Асаўцы, Кабакі, Лукамір Бярозаўскага, Парэчча Лагішынскага, Застружжа, Махро Іванаўскага раёнаў) — і [дз'], [ц']. Паралельнае ўжыванне мяккіх і цвёрдых [д], [т] у пазіцыі перад «е», «и» адзначана таксама ў іншых беларускіх гаворках, сумежных з украінскімі (ДАБМ, карта № 56).

Ізаглоса цвёрдага вымаўлення [д] перад «е» з «е» ў 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў тыпу *ісці, класці* (*идём* [*идёмо*], *кладём* [*кладёмо*]), адхіляючыся на поўнач, не супадае з ізаглосай пашырэння цвёрдых [д], [т] у пазіцыі перад «е», «и» (ДАБМ, карта № 150). У склад разглядаемага пучка ўваходзяць таксама ізаглосы, што размяжоўваюць формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў з асновай на [к] (*на рацы́* : *на рацэ́, на раке́*) [1]; формы творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду, што абазначаюць назвы маладых істот (*цяля́там* : *цялём, цяле́м, це́лям, целя́м, цяля́цем, цялёнкам*); націскныя і ненаціскныя канчаткі роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (*маладо́і дзе́ўкі* : *маладэ́й дзе́ўкі, маладэ́е дзе́ўкі, малады́й дзе́ўкі, малады́е дзе́ўкі; но́ваі ха́ты* : *но́вай ха́ты, но́вэй ха́ты*) [2]; мяккія і цвёрдыя губныя зычныя [б], [п], [м], [в] у пазіцыі перад «и» ([*б*]*ыць,* [*п*]*ыць,* [*м*]*ы́ска* : [*б'*]*іць,* [*п'*]*іць,* [*м'*]*іска*).

Ізаглоса цвёрдага вымаўлення [б] у слове *бёрда* адхіляецца некалькі далей на поўнач. Аднак у брэсцка-пінскіх гаворках, якія непасрэдна прымыкаюць да заходнепалескіх гаворак украінскай мовы, губны вымаўляецца мякка (ДАБМ, карта № 31).

Яшчэ далей, амаль да лініі Столін — Ганцавічы — Івацэвічы, адхіляецца ізаглоса, якая з поўначы і ўсходу акрэслі-

---

[1] Па-за межамі брэсцка-пінскіх гаворак канчатак **-ы** ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на [к] адзначаецца рэдка (ДАБМ, карта № 66).

[2] У брэсцка-пінскіх гаворках побач з націскным канчаткам **-оі** і ненаціскным **-аі**, якія, акрамя таго, адзначаюцца ў асобных населеных пунктах Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей, прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку іншы раз ужываюцца з канчаткамі **-ой, -ое** пад націскам і **-ай, -ае**, калі націск падае на аснову (ДАБМ, карты № 119, 120).

вае тэрыторыю пашырэння цвёрдых зычных перад «е» ў паслянаціскным закрытым складзе ў аснове слова. Цвёрдае вымаўленне зычнага перад [ы] з «е» ў гэтай пазіцыі ў асноўным пашырана на поўдзень ад лініі Камянец — Кобрын — Бяроза — Пінск (ДАБМ, карта № 16).

## Пружанска-лунінецка-столінскі пучок
**(карта № 7)**

Ізаглосы, што аб'ядноўваюцца ў пружанска-лунінецка-столінскі пучок, размяжоўваюць назвы прылады, якой пераць бялізну (*прач : пранік, апраннік, праннік, прайнік, пральнік*) [1]; пытальныя часціцы *чы* і *ці* [2]; дзеясловы, якія абазначаюць працэс баранавання (*валачыць : бараніць, скарадзіць, пахаць, прыбіваць*) [3], а таксама з поўначы і ўсходу акрэсліваюць тэрыторыю пашырэння цвёрдых зычных перад [е] з «е» ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння (*ідём* [*ідёмо*], *кладём*, [*кладёмо*], *несём* [*несёмо*]); мяккага і цвёрдага [т] у канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў І спражэння (*мéл'ут', мéл'ут, м'éл'ат', м'éл'ет', мéл'ат*). Акрамя брэсцка-пінскіх гаворак, мяккае і цвёрдае [т] у канчатку 3-й асобы множнага ліку адзначаецца ў іншых беларускіх гаворках, пераважна на поўдні Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 156).

Большасць з адзначаных ізаглос праходзіць у асноўным па лініі Столін — Лунінец — Целяханы — Івацэвічы — верхняе цячэнне Нарава.

## Пружанска-лунінецка-давыд-гарадоцкі пучок
**(карта № 8)**

Яшчэ далей на ўсход, прыкладна да граніцы з Жыткавіцкім і Лельчыцкім раёнамі Гомельскай вобласці, адхіляецца пружанска-лунінецка-давыд-гарадоцкі пучок. У склад яго ўваходзяць ізаглосы, якія размяжоўваюць поўнае ці частковае адрозніванне галосных няверхняга пад'ёму на месцы «е», «ё», «'а» і супадзенне іх пасля мяккіх зычных у адным гуку,

---

[1] Слова *прач*, акрамя гаворак, размешчаных на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, адзначана ў радзе населеных пунктаў Гомельскай і Мінскай абласцей (ДАБМ, карта № 252).

[2] На поўнач і ўсход ад лініі Столін—Лунінец—Целяханы—Івацэвічы часціца *чы* адзначаецца рэдка (ДАБМ, карта № 226).

[3] Акрамя *валачыць*, для абазначэння працэсу баранавання ў гаворках брэсцка-пінскай тэрыторыі ўжываецца слова *баранаваць*, якое ў гэтым значэнні на тэрыторыі Беларусі адзначана паўсюдна (ДАБМ, карта № 266).

што, акрамя гаворак, размешчаных на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, назіраецца на поўдні Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці (ДАБМ, карты № 5—7); цвёрдыя і мяккія губныя [б], [п], [м], [в] у пазіцыі перад «е» (*гра[бé], на [пé]чы, [мé]сці, [вé]чар* [1] *: гра[б'é], на [п'é]чы, [м'é]сці, [в'é]чар*); формы інфінітыва дзеяслова *пасвіць* (*пáс'ц'и, пáсты, пас'ц'й, пасты́ : пáсв'иц', пáсвыты, пáс'ц'иц', пас'ц', паст, пá-с'ц'ив'иц'*) [2]; назвы будынка, у якім складаюць снапы, салому (*клýня, клю́ня* [3] *: гумнó, гуннó, ток*); канчаткі меснага склону адзіночнага ліку назоўніка *двор* (*на дворы́ : на дварэ́, на двóры, на дварý*) [4]; назвы лісцяў і сцяблоў гароху (*гарахвя́нне : гарахвя́ннік, гарóхвіны, гарóхавіны, гарóшаны*) [5]; назвы пакладанага кабана (*вяпрýк : паршýк, япрýк, вапéр, пóтсвінак, бóраў*). Побач са словам *вяпрýк* як назвы пакладанага кабана ў брэсцка-пінскіх гаворках ужываюцца словы *кабáн, парсю́к*, якія ў гэтым значэнні на тэрыторыі Беларусі зафіксаваны амаль паўсюдна. У іншых беларускіх гаворках слова *вяпрýк* адзначаецца рэдка (ДАБМ, карта № 292).

На поўначы ізаглосы гэтага пучка супадаюць або набліжаюцца да ізаглос камянецка-целяханска-столінскага і пружанска-лунінецка-столінскага пучкоў.

Некаторыя моўныя з'явы ў брэсцка-пінскіх гаворках адзначаюцца рэдка. У асноўным гэта датычыць вымаўлення [у] на месцы «о» ў другім складзе перад націскам пасля цвёрдых зычных і лексічных асаблівасцей. Пры гэтым адны словы адзначаны толькі ў брэсцка-пінскіх гаворках, тады як другія вядомы іншым беларускім гаворкам.

### Пружанска-лунінецка-тураўскі пучок
**(карта № 9)**

Некалькі ізаглос групуецца ў пружанска-лунінецка-тураўскі пучок, які акрэслівае арэал пашырэння фанетычнага ва-

---

[1] Па-за межамі брэсцка-пінскіх гаворак цвёрдыя губныя зычныя [б], [п], [м], [в] у пазіцыі перад «е» адзначаюцца рэдка (ДАБМ, карта № 53).

[2] Формы *пáс'ц'и, пáсты, пас'ц'й, пасты́* вядомы таксама іншым беларускім гаворкам. Асабліва шырока яны распаўсюджаны на паўднёвым усходзе Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 177).

[3] Слова *клю́ня* адзначаецца на тэрыторыі Кобрынскага раёна і ў пагранічных з ім нас. пп. Сасноўка Пружанскага, Вярхі, Хмялёва, Якоўчыцы Камянецкага, Радванічы Брэсцкага, Аса, Чарняны Маларыцкага, Юхнавічы Іванаўскага раёнаў Брэсцкай вобласці.

[4] У іншых беларускіх гаворках канчатак **-ы** ў месным склоне адзіночнага ліку назоўніка *двор* сустракаецца рэдка.

[5] Слова *гарахвя́нне*, кампактна пашыранае на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці, у іншых беларускіх гаворках адзначана рэдка (ДАБМ, карта № 278).

рыянта формы 2-й асобы множнага ліку займенніка *вы* (*в'и*), хоць тут часта ў якасці паралельнай адзначаецца агульнапашыраная літаратурная форма *вы*. У межах арэала назіраецца супрацьпастаўленне варыянта *в'и* своеасабліваму ўтварэнню *в'йте* (*в'йт'е, выта, в'ёт'е* і інш.). У заходніх раёнах Брэсцкай вобласці пашыран варыянт *в'йт'е* (*в'йте* і інш.), каля Пінска і далей на ўсход да Убарці адзначана форма *в'и* [88, *219*]. На астатняй тэрыторыі Беларусі прадстаўлена форма *вы*, а ў паўднёва-заходніх раёнах Гомельскай вобласці — фанетычны варыянт *ву*.

Гаворкі разглядаемай тэрыторыі характарызуюцца ўжываннем займенніка *шчо*, спарадычна *шо*. Займеннік *шчо* зрэдку сустракаецца ў гаворках Церахоўскага і Камарынскага раёнаў Гомельскай вобласці. На астатняй тэрыторыі Беларусі бытуе слова *што* (ДАБМ, карта № 63).

Супрацьпастаўляюцца гаворкі поўдня і наяўнасцю адноснага прыметніка з суфіксам **-яч-** ад назоўніка *гусь* (*гуся́чы*) астатнім гаворкам, дзе агульнапашыраным з'яўляецца варыянт *гусіны*. Адзінкавыя выпадкі словаўтваральнага варыянта з суфіксам **-яч-** адзначаны ў гаворках каля Слуцка, на Гродзеншчыне і ў некаторых іншых населеных пунктах (ДАБМ, карта № 184).

У галіне лексікі выдзелены арэал характарызуецца наяўнасцю слоў *шо́па*, *шо́пка* як назвы пабудовы са сценамі для захавання гаспадарчых прылад. Праўда, на гэтай жа тэрыторыі сустракаюцца і іншыя назвы: *шур*, *шу́рык* (у заходніх раёнах Брэсцкай вобл.). Слова *паве́ць*, якое з'яўляецца літаратурнай нормай і пашырана ў гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі, адзначаецца побач са словам *шо́па* ў гаворках самай паўночнай ускраіны гэтага арэала; на тэрыторыі Брэсцкай вобласці зрэдку адзначаны іншыя адзінкавыя назвы: *дашо́к* (Высокаўскі р-н), *коле́шня* (Драгічынскі р-н), *трохсценнік* (Лагішынскі р-н), *пудда́шше* (Брэсцкі р-н) (ДАБМ, карта № 238).

Непаслядоўна ў гаворках разглядаемай тэрыторыі ўжываецца слова *скры́ня*, якое абазначае зруб у студні. У дыялектных матэрыялах, сабраных на поўдні Беларусі, часта падаецца толькі агульная назва *кало́дзезь* або адзначаецца, што замест драўлянай скрыні ставяцца цэментавыя трубы. Гэтым, зразумела, і тлумачыцца даволі рэдкае ўжыванне слова *скры́ня* на тэрыторыі, якая выдзяляецца пружанска-лунінецка-тураўскім пучком.

На поўнач ад гэтага арэала ўжываюцца розныя словаўтваральныя варыянты з коранем *руб-* (*зрубо́к, абру́б, о́бруб, ізру́б* і інш.), якія спарадычна сустракаюцца і ў межах арэала слова *скры́ня* (ДАБМ, карта № 245).

## Пружанска-лунінецка-нараўлянскі пучок
(карта № 10)

Ізаглосы, якія групуюцца ў пружанска-лунінецка-нараўлянскі пучок, пачынаючы ад Івацэвіч, паступова апускаюцца на поўдзень і праходзяць паабапал Прыпяці ў напрамку да граніцы з УССР. Умоўную лінію гэтага пучка можна правесці праз Пружаны — Івацэвічы — Лунінец — Петрыкаў — Мазыр і далей па Прыпяці к паўднёвай граніцы БССР. На поўдзень ад гэтай лініі размяшчаецца арэал окання. Тут на месцы «о» ў розных пазіцыях вымаўляецца [о]: *вода́, воды́, воду́, ноɣ'и́, на стол'ие; ɣолова́, солодз'и́ц', молоды́, ɣолубо́ў, ɣо́рода, во́лоса; ɣо́род, ко́лос* (ДАБМ, карты № 1, 2, 8, 9, 12, 13).

На поўначы ад пружанска-лунінецка-нараўлянскага пучка оканне наглядаецца непаслядоўна. Так, вакалізм змешанага тыпу (окаюча-акаючы) характарызуе гаворкі заходняй і паўднёвай часткі Гомельскай, паўднёвых раёнаў Мінскай і паўночных раёнаў Брэсцкай абласцей [88, *49—51*].

На тэрыторыі окаючых гаворак ненаціскное «о» можа мяняць сваю якасць у аснове слова ў залежнасці ад розных фанетычных умоў. У паўднёва-заходніх раёнах Брэсцкай вобласці (Брэсцкі, Высокаўскі, Камянецкі, Маларыцкі, Кобрынскі і Драгічынскі) на месцы «о» часта вымаўляецца больш лабіялізаваны галосны, які набліжаецца да [у] або супадае з ім (*ɣулува́, сулудз'и́ц', ɣулубо́ў, нучува́ц', вуда́, стулы́, вуро́та, твуйа́, пудн'а́ц', пушо́в, пуйма́л'и, кува́л', коуро́ва, боуɣа́ты*). Больш паслядоўна лабіялізацыя [о] адзначаецца на крайнім захадзе Брэсцкай вобласці. Пераход [о] ў [у] абумоўлен звычайна суседствам губных (часцей за ўсё ў прыстаўках) або задненёбных зычных [88, *47*].

У гаворках Кобрынскага і Камянецкага раёнаў Брэсцкай вобласці ў канчатках творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду адзначаецца галосны [у] замест [о] (*беро́зую, ло́жкую, доро́гуй*), а ў Брэсцкім, Маларыцкім, Драгічынскім, Іванаўскім раёнах — [ы] (*каро́выю, ча́шкыю, адзе́жыю*).

За межамі арэала назоўнікаў творнага склону адзіночнага ліку з канчаткам **-ой (-ою)** рэалізацыя ненаціскнога галоснага ў гэтым канчатку залежыць ад характару паслянаціскнога вакалізму (ДАБМ, карта № 71).

Пружанска-лунінецка-нараўлянскі пучок выдзяляе паўднёвую тэрыторыю, гаворкі якой характарызуюцца наяўнасцю галоснага [о] ў ненаціскным канчатку роднага, давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду з асновай на мяккі зычны: *сі*[*н'о*]*го, сі*[*н'о*]*му, у сі*[*н'о*]*м.* Галосны [о] на месцы [е] адзначаецца і ў

формах прыметнікаў жаночага роду: *сі*[*н'о*]*й хўсткі, рá*[*н'н'о*]*ю порóю* [84, *167*, 88, *197*]. Тэрыторыя пашырэння гэтых форм амаль супадае з тэрыторыяй окання.

Відаць, у гаворках, дзе адсутнічае аканне, захаваўся старажытны тып пераходу **е** ў **о** пасля спрадвечна мяккіх зычных [14, *331*]. Такая з'ява, магчыма, падтрымліваецца і захаваннем «о» ў ненаціскных канчатках роднага і давальнага склонаў прыметнікаў мужчынскага роду з асновай на цвёрды зычны (*дóброго, нóвого, дóброму, нóвому*).

За межамі арэала форм прыметнікаў з ненаціскным [о] пасля мяккіх зычных (*сі*[*н'о*]*го, сі*[*н'о*]*му*) пашырана ўжыванне форм з канчаткамі **-яга**, **-яму** і **-ім** (*сіняга, сіняму, у сінім*).

Сцягнутыя формы назоўна-вінавальнага склону прыметнікаў ніякага роду складаюць агульную рысу паўднёва-заходніх гаворак, у межах якіх наглядаюцца супрацьпастаўленні фанетычных варыянтаў канчаткаў **-е**, **-о**, **-а** (*нóвэ, нóво, нóва вядрó*).

Формы прыметнікаў з ненаціскным канчаткам **-е** (*нóвэ, зелёнэ, смáчнэ, шырóке*) характарызуюць гаворкі на тэрыторыі, якую выдзяляе пружанска-лунінецка-нараўлянскі пучок, хоць спарадычна, асабліва ў яе цэнтральнай частцы, адзначаюцца формы з ненаціскным канчаткам **-о** (*нóво, грáзно, глыбóко вóзеро*), якія больш паслядоўна выступаюць у гаворках Гродзенскай вобласці.

На тэрыторыі паўднёва-заходніх раёнаў Гомельскай і некаторых раёнаў Брэсцкай (Столінскі і Лунінецкі) абласцей пашыраны сцягнутыя формы з націскным канчаткам **-е** (*маладэ́, старэ́, сухé*).

Формы з канчаткам **-а** уласцівы ў асноўным гаворкам Слуцкага, Старадарожскага, часткова Капыльскага і Клецкага раёнаў (ДАБМ, карта № 115).

Пашырэнне сцягнутых форм прыметнікаў ніякага роду суправаджаецца спарадычным, а часта і паралельным ужываннем несцягнутых форм (*нóвэе ведрó, спéлэе жыто, нóвае, шырóкае*), якія характарызуюць гаворкі паўночнага ўсходу Беларусі (ДАБМ, карта № 115).

У гаворках паўднёва-заходняй часткі Беларусі лічэбнік мужчынскага і ніякага роду *два* ва ўскосных склонах мае аснову *дво-* (*двох, двом, двóма*). Аднак форма творнага склону з асновай *дво-* займае меншую тэрыторыю, чым формы роднага і давальнага склонаў. Паўночная мяжа распаўсюджання формы творнага склону з захаваннем [о] ў аснове супадае ўвогуле з мяжой пашырэння окання [1]. Але і тут варыянт

[1] Форма творнага склону з асновай *дво- (двóма)* адзначана за межамі пружанска-прыпяцкага арэала: у Добрушскім, Гомельскім, Веткаўскім, Чачэрскім, Кармянскім, Буда-Кашалёўскім раёнах Гомельскай вобласці і зрэдку ў іншых населеных пунктах Беларусі.

асновы *дво-* не з'яўляецца адзіным: у гаворках заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці шырока ўжываецца варыянт з галосным [у] ў аснове (*двумá*), а каля Пінска — з галосным [ы] (*двымá*; ДАБМ, карта № 144).

Адрозніваюцца гаворкі поўдня Беларусі ад астатніх беларускіх гаворак наяўнасцю спалучэння «губны+*л'*» у формах 1-й асобы адзіночнага і 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння з асновай на губны[1] (*лоўлю — лóўлять, роблю — рóблять, сплю — спляць, стáўлю — стáўляць*). На той жа тэрыторыі спарадычна адзначаюцца формы 3-й асобы множнага ліку без [л'].

На разглядаемай тэрыторыі зрэдку сустракаюцца выпадкі уніфікаванай асновы ва ўсёй парадыгме (*лóўлеш, лóўле, лóўлем, лóўляць*). У гаворках Бярозаўскага і ўсходняй часткі Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці ў 1-й асобе адзіночнага і 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў пасля губнога развіўся [j] (*ловjý — лóвjать, кормjý — кóрмjать*). На гэтай тэрыторыі тып асновы з [j] пасля губнога выступае ва ўсёй парадыгме дзеясловаў I спражэння (*дрэмjý, дрэ́мjем, дрэ́мjеце, дрэ́мjут*) [79, *53*, *55*].

Ва ўсходняй частцы арэала спарадычна адзначана аснова на [*j*] у форме 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння (*лóўjац'*).

Паўднёвыя гаворкі, якія абмежаваны пружанска-лунінецка-нараўлянскім пучком, выдзяляюцца ўжываннем указальна-асабовых займеннікаў 3-й асобы з прыстаўным [в] (*вон, вонá, вонó, воны́*). На астатняй тэрыторыі ім супрацьпастаўляюцца формы з прыстаўным [j] (*йон, йанá, йанó, йаны́*). На паўночным усходзе Беларусі сустракаюцца формы без прыстаўных зычных (*анí, анé*; ДАБМ, карта № 133).

На тэрыторыі паўднёвай часткі Беларусі пашырана форма назоўнага склону множнага ліку *балатá* (з націскам на канчатку). Зрэдку сустракаецца форма з ненаціскным канчаткам (*балóта*). За межамі пружанска-лунінецка-нараўлянскага пучка ўжываецца варыянт з канчаткам **-ы** (*балóты*; ДАБМ, карта № 98).

Гаворкі паўднёвай часткі Беларусі характарызуюцца пашырэннем адноснага прыметніка *свiня́чы*, утворанага пры дапамозе суфікса **-яч-** ад назоўніка *свiння.* За межамі гэтай тэрыторыі прыметнік *свiня́чы* сустракаецца зрэдку на Гродзеншчыне, каля Баранавіч і ў самых крайніх паўночных і ўсходніх раёнах Віцебскай вобласці.

Гаворкам астатняй тэрыторыі ўласцівы іншыя ўтварэнні: *свiны́, свiнíны* (ДАБМ, карта № 183).

---

[1] Спалучэнне «губны+*л'*» у 1-й асобе адзіночнага ліку і адсутнасць такога чаргавання ў астатніх асабовых формах характарызуе літаратурную мову і большасць беларускіх гаворак.

## Пружанска-слуцка-мазырскі пучок
(карта № 11)

Для канфігурацыі ізаглос, якія групуюцца ў пружанска-слуцка-мазырскі пучок, характэрна іх сумяшчэнне з ізаглосамі пружанска-слуцка-рэчыцкага пучка ў заходняй частцы і рэзкае адхіленне на поўдзень у раёне Бабруйска. Ізаглосы гэтага пучка праходзяць паабапал лініі, якую ўмоўна можна правесці праз Пружаны — Слуцк — Глуск і далей па Пцічы і Прыпяці да граніцы з УССР.

Да гэтага пучка адносіцца ізаглоса, якая акрэслівае паўднёвую тэрыторыю паслядоўнага распаўсюджання ненаціскнога [е] ў формах назоўна-вінавальнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду з асновай на мяккі зычны (*кам'ен'н'е, см'ец'ц'е, нас'ен'н'е*; ДАБМ, карта № 17) і з асновай на шыпячы, **ц** і **р** (*сўчче, клочче, збоже, жытн'ишче, море, горе*) [88, *99*] [1].

У гаворках за межамі разглядаемай тэрыторыі ў гэтай пазіцыі пераважае [а], аднак вельмі часта паралельна адзначана [е], а ў многіх гаворках Гродзенскай вобласці пашырана [о] (*кам'ен'н'о, в'ас'ел'о*).

З арэалам захавання галоснага [е] ў форме назоўна-вінавальнага склону назоўнікаў ніякага роду сумяшчаецца арэал вымаўлення [е] ў слове *добра* (*добре, добр'е*). За межамі гэтага арэала ў слове *добра* ў канцавым складзе вымаўляецца [а].

Гаворкі, якія выдзяляюцца пружанска-слуцка-мазырскім пучком, супрацьпастаўляюцца гаворкам астатняй тэрыторыі Беларусі і па скланенню назоўніка *старшына*. На поўдзень ад ізаглосы характэрны формы творнага склону адзіночнага ліку з канчаткам **-ой** (*старшыной*). Гэта форма спарадычна ўжываецца ў гаворках на поўначы ад пружанска-слуцка-мазырскага пучка, дзе пануючымі з'яўляюцца формы *старшынóм* (усходняя частка Беларусі) і *старшынёй* (Гродзенская вобл. і заходнія р-ны Віцебскай вобл.).

Крыху вылучаецца з агульнага пучка ізаглоса, якая супрацьпастаўляе гаворкі па ўтварэнню форм дзеясловаў будучага складанага часу. Ва ўсходняй частцы тэрыторыі яна перасякае Пціч і аддаляецца на ўсход да Бярэзіны, затым апускаецца на поўдзень і на граніцы з УССР зноў збліжаецца з астатнімі ізаглосамі пучка.

У гаворках, якія размешчаны на поўдзень ад гэтай ізаглосы, пашырана сінтэтычная форма будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання (*рабіцьму, несціму, хваліцімам,*

---

[1] Тут выкарыстан таксама дадатковы матэрыял, які не ўвайшоў у «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы».

*гаворы́цьмом, чу́цімеце, чу́цімуць*). Адрозненні ў аснове гэтай формы залежаць ад разнавіднасці неазначальнай формы дзеяслова (*рабіць — рабіці*).

Аднак на акрэсленай тэрыторыі паралельна з сінтэтычнай формай будучага часу дзеясловаў амаль паўсюдна выступае складаная форма будучага часу (*бу́ду рабіць*). Апошняя форма як літаратурная норма з'яўляецца агульнапашыранай (ДАБМ, карта № 166).

Да пружанска-слуцка-мазырскага пучка набліжаецца ізаглоса, на поўдзень ад якой для абазначэння часу дзеяння ўжываецца беспрыназоўнікавая канструкцыя роднага склону займенніка або прыметніка з назоўнікам (*жа́лі гэ́тае пары́, былі́ тае́ зімы́, таго́ ле́та, прыхо́дзіць да нас уся́кае пары́, ко́жнага ве́чара гуляюць, хадзілі про́шлае вясны́*). На поўнач ад гэтай ізаглосы такія канструкцыі адзначаны толькі ў некаторых населеных пунктах паўднёвых і заходніх раёнаў Мінскай вобласці. Ад астатніх ізаглос разглядаемага пучка яна адрозніваецца тым, што ў раёне Пружан апускаецца больш на поўдзень.

## Ваўкавыска-баранавіцка-лунінецкі пучок
**(карта № 12)**

Ізаглосы, што размяжоўваюць формы інфінітыва з асновай на галосны (*садз'и́ц'и* [*сады́ты*] : *садз'и́ц'* [*сад'и́т'*], *сад'и́т'* [*сад'и́т, садз'и́ц*]) [1]; назвы сцяблоў і лісця агуркоў (*гуркаве́нне* : *агуро́чнік, гурко́ўнік*) [2]; сцяблоў і лісця бульбы (*картафле́нне* : *бульбо́ўнік, курдо́пнік, наці́на* і інш.) [3]; назвы ястраба (*шуля́к* : *каршу́н, ко́ршак, каршо́к, каршу́к*) [4]; ручкі касы (*ку́лька* : *рукая́тка, рукавя́тка, пупо́к, па́лец* і інш.) [5];

---

[1] Формы інфінітыва на **-ці**, **-ты** адзначаюцца таксама на поўдні Гомельскай і захадзе Гродзенскай абласцей (ДАБМ, карта № 173).

[2] Слова *гуркаве́нне* (на тэрыторыі пашырэння яго для абазначэння сцяблоў і лісця агуркоў іншы раз ужываюцца словы *агуро́чнік, агурэ́чнік, гурко́віна*) вядома таксама некаторым гаворкам Гродзенскай вобласці (ДАБМ, карта № 279).

[3] На тэрыторыі Пружанскага раёна, а таксама ў радзе іншых населеных пунктаў Брэсцкай вобласці (Лукамір Бярозаўскага, Травы, Замосце Кобрынскага р-наў) замест слова *картафле́нне* ў якасці назвы сцяблоў і лісця бульбы ўжываецца слова *бульбаве́нне.* У іншых беларускіх гаворках яно ўжываецца рэдка (ДАБМ, карта № 281).

[4] У асобных населеных пунктах, пераважна ўздоўж дзяржаўнай граніцы (Маларыцкі, Брэсцкі, Камянецкі р-ны Брэсцкай вобл.), побач са словам *шуля́к* адзначаны назвы *ко́ршун, я́страб* (ДАБМ, карта № 310).

[5] На тэрыторыі пашырэння слова *ку́лька* (зрэдку яно адзначана ў іншых беларускіх гаворках Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абл.) для абазначэння ручкі касы ўжываюцца словы *ру́чка, лучо́к, вязо́к* (ДАБМ, карта № 260).

кальца, якім замацоўваецца каса на касільне (*напарстак: банька, рэхва, грывянка*) [1], выходзяць за межы брэсцка-пінскіх гаворак. Як і многія ізаглосы, яны працягваюцца ў палескіх гаворках украінскай мовы, а таксама ва ўкраінскіх гаворках на тэрыторыі Польшчы. Гэтыя ізаглосы ўтвараюць ваўкавыска-баранавіцка-лунінецкі пучок.

## Гродзенска-баранавіцка-лунінецкі пучок

**(карта № 13)**

Далёка за межы брэсцка-пінскіх гаворак выходзяць ізаглосы, якія працягваюцца ў палескіх гаворках украінскай мовы і беларускіх гаворках на тэрыторыі Літвы. Яны ў асноўным праходзяць паабапал лініі Радунь — Столін і размяжоўваюць наяўнасць або адсутнасць прыстаўнога [γ] у словах *вуліца, аруць* ([γ]*уліца,* [γ]*уліця,* [γ]*улыца,* [γ]*улыця* : [*в*]*уліца,* [*в*]*улыца;* [γ]*аруць,* [γ]*оруць : аруць,* [*в*]*оруць, араюць, оруць*); варыянты слоў па націску (*памярла, умярла : памёрла, памерла, умерла; весяло : весела, вясёла; халадно : холадна, халодна*); назвы вагі ў студні з жураўлём (*коварат, ковадыр, коварацень, калаварот, калавер : вага, вага, ваг, страла, журавель, жорай, журай, асвер, свер* і інш.); назвы вочапа ў студні з жураўлём (*ключ, ключка, клюка : вочап, почап, крук, кручок* і інш.); назвы прывязкі ў цэпе (*вужык, ужык, вуж, уж, ужойка, вужойка, гужойка, ужок : гужык, гуж, гужок, прывязка, угарына, капіца* і інш.); назвы зжатага поля, на якім рос ячмень (*ячменіска, ячніска : ячнішча, ячанне, ячменішча, ячменне*); назвы зжатага поля, на якім рос авёс (*аўсяніска, оўсіска, воўсіска, аўсіска : аўсянішча, оўсішча, воўсішча, аўсішча, аўсянне*); назвы сцяблоў і лісця гарбузоў (*гарбузенне, гарбузавенне : гарбузнік, гарбузеннік, гарбузоўнік, націна, косы*); назвы верхніх мужчынскіх штаноў (*нагавіцы, ганавіцы : штаны, порткі, брюкі, майткі*); падзыўныя для гусей (*гусь-гусь : це-це-це-це, цэга-цэга, зю-зю-зю, зюлю-зюлю, жуль-жуль*).

Паколькі пералічаныя вышэй супрацьпастаўленыя дыялектныя адрозненні ў радзе выпадкаў узаемапранікаюць, усходняя мяжа гаворак, размешчаных на захадзе Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, у значнай меры размыта. У карысць гэтага меркавання гаворыць таксама і тое, што ізаглосы большасці моўных з'яў, уласцівых адзначаным гаворкам, не ў аднолькавай меры адхіляюцца на ўсход.

---

[1] У асобных выпадках на тэрыторыі пашырэння слова *напарстак* як назва банькі ў касе адзначана слова *кальцо* (ДАБМ, карта № 261).

## Гродзенска-ружанска-мазырскі пучок

**(карта № 14)**

Адна з ізаглос гродзенска-ружанска-мазырскага пучка вызначае тэрыторыю, у гаворках якой перад націскнымі галоснымі [о] і [у] адсутнічае прыстаўны [в]. У чыстым выглядзе такая з'ява характэрна для гаворак паўднёвага захаду Брэсцкай вобласці (*осень, озера, ýха*). На астатняй частцы арэала спарадычна адзначана наяўнасць прыстаўнога [в] (у гаворках крайніх заходніх раёнаў Гродзенскай вобл. і ў гаворках, якія знаходзяцца на ўсход ад Пінска: [*в*]*озера*, [*в*]*ýха*) і [γ] ([γ]*озера*, [γ]*ýхо*) (гаворкі Іванаўскага, Столінскага, Драгічынскага і Лагішынскага р-наў Брэсцкай вобл.) (ДАБМ, карта № 47).

Акрэсленая тэрыторыя характарызуецца наяўнасцю ў гаворках формы роднага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў мужчынскага і ніякага роду *магó, твагó, свагó* (*могó, твогó, свогó*). Толькі ў частцы гаворак Брэсцкай вобласці (Высокаўскі, Камянецкі, Брэсцкі, Кобрынскі, Маларыцкі р-ны) пераважае форма *маёго, тваёго, сваёго*. У адзінкавых нас. пп. Гродзенскай і Гомельскай абласцей адзначаны формы *маягó, тваягó, сваягó*. Супрацьпастаўляюцца гэтыя формы ўтварэнням *майгó, твайгó, свайгó*, якія характэрны для гаворак астатняй тэрыторыі Беларусі (ДАБМ, карта № 139).

Гаворкі разглядаемай тэрыторыі супрацьпастаўляюцца гаворкам астатняй тэрыторыі наяўнасцю цвёрдага [с] у зваротнай часціцы: *баюса, мыліса, мыўса, купáліса*. За яе межамі, а таксама ў паўднёва-заходніх раёнах Брэсцкай вобласці ў часціцы **-ся** зычны мяккі: *мыліся, мыўся* і інш. (ДАБМ, карта № 165).

Супрацьпастаўляюцца гаворкі акрэсленай тэрыторыі іншым гаворкам Беларусі ўжываннем слова *пóжня* і яго фанетычных варыянтаў (*пыжня, пýжня, пôжня*) у значэнні 'агульная назва зжатага поля' і 'назва зжатага поля, на якім расло жыта'.

На захад ад ізаглосы, на тэрыторыі заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці (Высокаўскі, Брэсцкі, Маларыцкі, часткова Камянецкі і Кобрынскі р-ны), пашыраны словы *стырня́, стерня́, сцерня́*. На поўнач ад яе адзначана *пóжня* ў Асіповіцкім, Пухавіцкім, паўднёвай частцы Чэрвеньскага раёнаў; зрэдку ў Гомельскай вобласці сустракаецца аднакарэнны варыянт *жнíўнік, жнéўнік*. На працягу амаль усёй ізаглосы мае месца супрацьпастаўленне розным назвам, утвораным ад кораня **рж-**, і толькі ва ўсходніх раёнах Гомельскай вобласці зафіксаваны *сцёран, сцёрань* (ДАБМ, карты № 269, 271).

## Лідска-бабруйска-мазырскі пучок
### (карта № 15)

Гэты пучок аб'ядноўвае ізаглосы, што адносяцца да фанетычнага і марфалагічнага ўзроўняў дыялектнай мовы. Больш кампактна яны групуюцца на адрэзку Ліда — Мінск і разгаліноўваюцца ў паўднёвым напрамку: адны з іх адхіляюцца на захад, другія — на ўсход ад Мазыра, утвараючы шырокую пераходную зону. Агульны напрамак пучка вызначаецца прыблізна лініяй Ліда — Бабруйск — Мазыр.

Блізка да гэтай лініі, толькі з адхіленнем ад Мазыра на Лоеў, праходзіць ізаглоса, якая супрацьпастаўляе гаворкі па наяўнасці ці адсутнасці падоўжаных зычных на месцы старога спалучэння «ньј» у пазіцыі паміж галоснымі. На поўнач ад гэтай ізаглосы (Ашмяны — Валожын — Мінск — Рудзенск — некалькі на захад і поўдзень ад лініі Старыя Дарогі—Глуск—Акцябрскі —Мазыр—Лоеў) знаходзяцца гаворкі, у якіх на месцы «ньј» вымаўляецца [н'н'] (*нас'е́н'н'е, с'н'ада́н'н'е*), а ў гаворках на поўдзень ад яе — спалучэнне [н'ј] ці зычны [н'] (*нас'е́н'је, с'н'ада́н'је* ці *нас'е́н'е, с'н'ада́н'е*). Пры гэтым на захад ад Баранавіч і Івянца пераважна вымаўляецца [н'], а на ўсход — [н'ј]. Праўда, на гэтай жа тэрыторыі адзначаны і гаворкі з падоўжанымі зычнымі. У частцы гаворак суіснуюць два варыянты: [н'ј] і [н'], а ў некаторых — яшчэ і падоўжанае [н'н'].

Нягледзячы на тое што на карце № 64 закартаграфаваны толькі зычныя на месцы старога спалучэння «ньј», ізаглоса гэтай з'явы адлюстроўвае агульны стан суадносін падоўжаных і непадоўжаных зычных на месцы старога спалучэння іншых мяккіх зычных +ј, супрацьпастаўляючы гаворкі з падоўжанымі зычнымі [л'л'], [з'з'], [с'с'], [дз'дз'], [ц'ц'], [шш], [жж], [чч] гаворкам, у якіх падаўжэнне адсутнічае зусім ці суіснуе з варыянтамі [л'ј], [з'ј], [с'ј], [дз'ј], [ц'ј], [шј], [жј], [чј]. Гаворкі, у якіх адсутнічае падаўжэнне зычных, на поўдні супрацьпастаўляюцца гаворкам з наяўнасцю падоўжаных зычных.

Адносна рэалізацыі зычных трэба сказаць, што ў адных гаворках на месцы гэтых спалучэнняў выступаюць падоўжаныя зычныя, у другіх наадварот — непадоўжаныя і прытым толькі адзін з тыпаў: «непадоўжаны зычны +ј» або «непадоўжаны зычны» ці абодва варыянты.

Ізаглоса формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на мяккі і зацвярдзелы зычны адхіляецца ад асноўнага пучка на захад у раёне Ліды і набліжаецца да Друці ў раёне Бабруйска. На поўдзень і захад ад гэтай ізаглосы выдзяляецца форма на **-е(-э)** (*каваля́, нажэ́*) кампактным арэалам і рассеяна (ДАБМ, карта № 96).

На поўначы і ўсходзе ад ізаглосы адзінай нормай для розных груп назоўнікаў з'яўляецца форма на **-ы(-і)**, якая пашыраецца і на паўднёва-заходнія гаворкі, дзе суіснуе з мясцовым варыянтам (*кавалé, нажэ́* і *кавалí, нажы́*).

У межах паўднёва-заходняга арэала адрозніваюцца формы множнага ліку ў залежнасці ад фанетычнага складу канчатка: **-е(-э)** : **-ê**[и͡е].

Формы тыпу *кавал'и͡е, нажи͡е* адзначаны ў матэрыялах, сабраных у Пружанскім, Бярозаўскім раёнах Брэсцкай вобласці і ў некаторых іншых населеных пунктах (ДАБМ, Каментарыі, стар. 532—536).

Акрамя разнавіднасцей формы на **-е**, спарадычна адзначана і форма на **-а(-я)** сярод назоўнікаў, якія абазначаюць назву асоб па роду дзейнасці, прафесіі *(учыцяля́, дактара́, шафяра́)*, у назвах машын (*трактара́*) і інш., пераважна ў межах той галіны лексікі, якая звязана з эканамічнымі і культурнымі пераўтварэннямі вясковага жыцця ў паслярэвалюцыйны час. Як адно з праяўленняў агульнага ўплыву літаратурных норм рускай мовы на мясцовыя гаворкі такога тыпу словы, пранікаючы ў дыялектную мову, уносяць і новыя граматычныя формы.

Ізаглоса формы роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду адхіляецца на поўнач прыкладна да лініі Мінск—Чэрвень, на іншых адрэзках пучка яна аб'ядноўваецца з ізаглосамі, што праходзяць на ўсходзе ад Мазыра. На поўдзень і захад ад гэтай ізаглосы пашырана поўная форма роднага склону на **-ое(-ае)**, а на поўнач і ўсход ад яе— скарочаная форма на **-ой(-ай)**. У акаючых гаворках адрозніваюцца фанетычныя варыянты канчатка ў залежнасці ад націску: **-óе** : **-ае**, **-óй** : **-ай** (***маладóе* : *дóбрае, маладóй* : *дóбрай***; ДАБМ, карты № 119, 120).

У паўднёва-заходніх гаворках двухскладовы канчатак роднага склону прыметнікаў жаночага роду дыферэнцыруецца ад іншых склонавых форм адзіночнага ліку — давальнага, меснага (*да маладóе : даць маладóй, аб маладóй*) у супрацьлегласць паўночна-ўсходнім гаворкам, дзе гэтыя склоны уніфікаваліся ў адзіным тыпе **-ой**, **-ай** (*да маладóй, далі маладóй, аб маладóй*).

Супрацьпастаўленне гаворак па размежаванню і уніфікацыі адзначаных склонаў з'яўляецца рэгулярным, яно праходзіць праз усё займеннае скланенне, што выяўляецца ў групоўцы па канфігурацыі рада ізаглос прыметнікаў і неасабовых займеннікаў.

Адпаведна адрозніванню гаворак па фанемнаму складу [ê] : [и] з «ё» форма роднага склону на **-ое(-ае)** супрацьпастаўляецца форме на **-оі(-ыі)** (*маладóе, дóбрае : маладóі, дóбраі*).

У гаворках Магілёўскай вобласці адзначаюцца формы роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду на **-ые**(**я**), **-іе**(**я**) пры розных тыпах націску (*маладые*(*я*) *дзеўкі, новые*(*я*) *хаты*) [1].

Характарыстыка паўднёва-заходняга арэала, акрэсленага ізаглосай займенных форм, дапаўняецца спецыфікай форм загаднага ладу дзеясловаў. Тут формы 1-й асобы множнага ліку загаднага і абвеснага ладу дзеясловаў I спражэння дыферэнцыруюцца ў залежнасці ад характару вымаўлення галоснага ў канчатку: [е], [ê] або [о], [ô], першы тып характарызуе форму загаднага ладу, другі — форму абвеснага ладу (*жн'ем!* або *жн'êм!* : *мы жном* або *жнôм*; ДАБМ, карта № 167).

На поўдзень і ўсход ад гэтай ізаглосы граматычнае значэнне загаднага ладу выражаецца пры дапамозе імператыўнай часціцы і формы абвеснага ладу (*давай*(*це*) *пажнём!*), а таксама формай інфінітыва ці будучага складанага часу (*давайце жаць! давайце будзем жаць!*).

Аналітычны спосаб выражэння загаднага ладу характарызуе не толькі паўночна-ўсходнія гаворкі, але шырока ўжываецца і ў паўднёва-заходніх гаворках.

Як і дзеясловы I спражэння, размяжоўваюцца формы загаднага і абвеснага ладу дзеясловаў II спражэння (*сп'êм, сп'ём(о)!* : *мы сп'им'о*); ДАБМ, карта № 168).

Арэалы адпаведных форм на **-ем**(**-êм**) розных класаў дзеясловаў сумяшчаюцца, адрозненні датычацца толькі характару распаўсюджання іх. Больш кампактна, асабліва на захад ад лініі Ліда—Пінск, выдзяляецца адпаведная форма дзеяслоаў I спражэння. Яна адзначана ў радзе населеных пунктаў і на ўсход ад праведзенай ізаглосы.

Да ізаглосы форм 1-й асобы множнага ліку набліжаюцца ізаглосы форм 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў. На паўднёвым усходзе апошнія адхіляюцца ад першай на захад. Паміж разгалінаваннямі пучка выдзяляецца тэрыторыя рассеянага пашырэння формы на **-еце**(**-êце**) дзеясловаў II спражэння (*с'адз'éц'е, сп'éц'е* або *с'адз'êц'е, сп'êц'е*).

На поўдзень і захад ад ізаглос адзначаецца паралельнае ўжыванне форм 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу (*б'арéц'е—б'арыц'е! раб'éц'е—раб'íц'е!*), што сведчыць аб выцясненні форм на **-еце**(**-эце**) як элемента старой граматычнай сістэмы формай на **-іце**(**-ыце**), якая прасоўваецца з поўначы і ўсходу. З поўдня, відаць, аказваюць уплыў і ўкраінскія гаворкі з іх формай на **-ит**(**е**), **-ит'**(**е**).

---

[1] Аб паходжанні канчатка **-ые** ёсць розныя меркаванні: адны разглядаюць яго як вынік фанетычных змен ва ўмовах дысімілятыўнага акання [85, *100*], другія звязваюць гэты канчатак са старажытнай формай роднага склону прыметнікаў жаночага роду на **-ыѣ** (**-иѣ**) [26, *65—67*].

На ўсход ад Гарыні і на поўдзень ад Прыпяці адзначаны скарочаныя формы 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў тыпу *идз'êц', ид'ет'*, якія адпавядаюць украінскім утварэнням.

У межах паўднёва-заходняга арэала форм загаднага ладу захоўваецца адрозненне ў характары галоснага ў канчатку: [е] : [ê] (*идз'éм : идз'êм, идз'éц'е : идз'êц'е*).

Адпаведна формам 1-й і 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу на **-ем (-êм)**, **-еце (-êце)** паўднёва-заходняга арэала на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці зафіксаваны формы на **-имо**, **-ите**, у якіх зычны асновы перад [и] канчатка змякчаецца (*жн'ем, сп'ем* або *жн'êм, сп'êм, жн'éц'е, сп'éц'е* або *жн'êц'е, сп'êц'е* : *жн'им(о), сп'им(о), жн'ите, сп'ите*).

Апошняе супрацьпастаўленне з'яўляецца прыватным выпадкам фаналагічнага размежавання гаворак з розным складам галосных фанем [ê] : [и], што з большай або меншай паслядоўнасцю праходзіць праз адпаведныя формы скланення і спражэння і выяўляецца ў тэрытарыяльных суадносінах: з арэалам форм роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду на **-ое (-ае)**, **-е** прыметнікаў і займеннікаў (*маладóе, дóбрае, таé*) амаль паўсюдна сумяшчаецца арэал форм 1-й і 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў, г. зн. займенныя формы на **-ое (-ае)**, **-е** і формы загаднага ладу на **-ем (-êм)**, **-еце (-êце)** выступаюць на тэрыторыі, дзе ў пэўных фанетычных умовах з'яўляецца [ê], што паходзіць з «ě», а формы на **-оі**, **-ыі** (*дорогóі, нóвыі*) і загаднага ладу на **-ім**, **-іте** з мяккасцю зычнага асновы на брэсцка-пінскай ускраіне, дзе ў адпаведных умовах на месцы «ě» развілося **і** [1].

Лідска-бабруйска-мазырскія ізаглосы ў сваёй сукупнасці прадстаўляюць цэлы комплекс фанетыка-марфалагічных асаблівасцей, які характарызуе паўднёва-заходнія гаворкі. У гэтых адносінах ізаглосы разглядаемай групы, як і наогул ізаглосы моўных з'яў паўднёва-заходняй лакалізацыі, з'яўляюцца аднабаковымі, яны адлюстроўваюць мясцовую спецыфіку гаворак як асобнай дыялектнай адзінкі.

Не асобнымі элементамі, а ўсёй граматычнай сістэмай з захаваннем яе традыцыйнай дыферэнцыяцыі ў формах скланення і спражэння паўднёва-заходнія гаворкі супрацьпастаўляюцца паўночна-ўсходнім, у якіх шырока выступаюць вынікі граматычнай аналогіі, уніфікаваныя тыпы канчаткаў у парадыгмах скланення і спражэння.

Калі паўднёва-заходнія гаворкі супрацьпастаўляюцца паў-

---

[1] Непаслядоўная фіксацыя фанемы [ê] ў дыялектных матэрыялах дае падставы меркаваць, што ў выніку суіснавання фанем [е] і [ê] ў адных і тых жа гаворках, (а магчыма, пад уплывам марфалагічнага фактару) фанема [ê] ў канчатках загаднага ладу выціскаецца [е] ва ўмовах агульнага працэсу сцірання элементаў старажытнай фанетычнай сістэмы.

ночна-ўсходнім пераважна па адрозненнях ў іх марфалагічнай структуры, то з брэсцка-пінскімі гаворкамі яны аб'ядноўваюцца агульнасцю цэлага рада марфалагічных характарыстык і супрацьпастаўляюцца толькі ў плане дыялектных адрозненняў фанетычнага выражэння агульных марфалагічных форм, фанемным складам канчаткаў скланення і спражэння.

Адрозненні на фанетычным узроўні пры адзінстве марфалагічнай будовы паўднёва-заходніх і брэсцка-пінскіх гаворак сведчаць аб тым, што генетычна яны цесна звязаны, аднак першыя з іх захоўваюць больш старажытную фанетычную сістэму: наяўнасць закрытых галосных [ê], [ô] або дыфтонгаў [и͡е], [о͡у] паралельна з іншымі.

## Лідска-бабруйска-рэчыцкі пучок
**(карта № 16)**

Да лідска-бабруйска-мазырскага пучка ізаглос набліжаецца лідска-бабруйска-рэчыцкі. Ізаглосы яго не ўтвараюць шчыльнага аб'яднання: адны з іх ад асноўнай лініі адхіляюцца на поўнач і ўсход, а другія — на поўдзень і захад, утвараючы шырокую паласу разыходжання.

Лідска-бабруйска-рэчыцкі пучок уключае ізаглосы фанетычных моўных з'яў, блізкіх па паходжанню і месцу, якое яны займаюць у фанетычнай сістэме беларускіх гаворак. Адна з іх супрацьпастаўляе гаворкі па якасці націскнога галоснага на месцы «ě» ў закрытых і адкрытых складах і на месцы «е» ў новых закрытых складах, якія ўзніклі пасля падзення рэдуцыраваных. На поўнач ад гэтай ізаглосы адпаведна названым галосным звычайна вымаўляецца [е] — нелабіялізаваны галосны пярэдняга рада верхняга пад'ёму (*с'н'ех, б'елы, п'еч*), а на поўдзень ад яе [ê] — нелабіялізаваны пярэдняга рада сярэдне-верхняга пад'ёму або дыфтонг [и͡е] ці [и] — нелабіялізаваны галосны пярэдняга рада верхняга пад'ёму (*с'н'êх, б'êлы, п'êч* ці *с'н'и͡ех, б'и͡елы, п'и͡еч,* ці *с'н'их, б'илы, п'ич*). Галосны [ê] і дыфтонг [и͡е] суіснуюць у суседніх гаворках (ці нават і ў адной), утвараючы агульны арэал гаворак, які на поўдні супрацьпастаўляецца гаворкам з галосным [и] (ДАБМ, карта № 34).

У цэнтральнай частцы гаворак, якім вядома [ê] ці [и͡е] (Клецкі, Капыльскі, Слуцкі, Старобінскі, Любанскі, Старадарожскі р-ны Мінскай вобл., Навагрудскі, Карэліцкі р-ны Гродзенскай вобл., Акцябрскі, Капаткевіцкі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі р-ны Гомельскай вобл., Гарадзішчанскі, Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Івацэвіцкі, Пружанскі р-ны Брэсцкай

вобл.), галосны [ê] ці дыфтонг [и͡е] адзначаны амаль ва ўсіх абследаваных гаворках.

Сярод гэтага тэрытарыяльнага масіву сустракаюцца толькі асобныя населеныя пункты, у гаворцы якіх [ê] ці [и͡е] не адзначаны. Для перыферыі, што акружае названы масіў, характэрна адваротнае. У заходняй і цэнтральнай частках Гродзенскай і ва ўсходняй частцы Гомельскай абласцей гаворкі з [ê] ці [и͡е] і гаворкі з [е] размешчаны ўперамешку. Прычым на Гомельшчыне і адны і другія пашыраны прыкладна аднолькава ці з невялікай перавагай гаворак з [ê] і [и͡е], а на Гродзеншчыне наадварот — з яўнай перавагай гаворак, у якіх адзначана толькі [е].

Галосны [ê] ўжываецца не аднолькава паслядоўна. У шмат якіх гаворках побач з [ê], [и͡е] ў тых жа фанетычных умовах адзначаецца [е]. У гаворках паўночнай часткі Брэсцкай (Ружанскі, Івацэвіцкі, Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Гарадзішчанскі, Ганцавіцкі р-ны), паўднёвай частцы Мінскай (Клецкі, Капыльскі, Слуцкі, Старобінскі р-ны), некаторых раёнаў Гродзенскай (Свіслацкі, Ваўкавыскі, Зельвенскі, Слонімскі р-ны) і заходняй часткі Гомельскай абласцей (Жыткавіцкі, Тураўскі, Петрыкаўскі, Лельчыцкі р-ны) назіраецца пераважаючае ўжыванне [ê], а [е] адзначаецца спарадычна. З прасоўваннем на поўнач і ўсход ад названых тэрыторый колькасць выпадкаў ужывання [е] побач з [ê] ўзрастае. У сувязі з суіснаваннем у адной гаворцы ў тоесных фанетычных умовах галосных [ê] і [е] неабходна адзначыць наступнае. Па-першае, у традыцыйнай лексіцы галосны [ê] звычайна ўжываецца часцей, чым у лексіцы новай, у якой часцей выступае [е], хоць у частцы гаворак такая розніца не адзначана. Па-другое, неаднолькавая ступень ужывальнасці [ê] і [е] ў мове прадстаўнікоў розных узроставых груп насельніцтва: у адных гаворках [ê] і [е] аднолькава характэрны для мовы старэйшага і малодшага пакаленняў, а ў другіх [ê] часцей сустракаецца ў мове людзей старэйшага пакалення і параўнальна радзей у мове моладзі.

Галосны [ê] нават у межах адной гаворкі ў розных лексемах можа быць неаднолькава вузкі—у адных выпадках ён менш звужаны і набліжаецца да [е], у другіх—больш звужаны і набліжаецца да [и]. Напрыклад, у гаворцы нас. п. Танежыцы Слуцкага раёна ў словах *пайêхал'и, хл'êп* галосны [ê] блізкі да верхняга пад'ёму — амаль супадае з [и], а ў іншых больш шырокі — сярэдне-верхняга пад'ёму. Яшчэ больш выразна розніца ў ступені звужэння [ê] выступае пры параўнанні асобных гаворак. У паўночнай частцы гаворак, якім уласціва [ê], гэты галосны менш звужаны, чым у гаворках, што знаходзяцца больш на поўдзень, а ў гаворках Брэстчыны, асабліва ў

суседніх з тымі, дзе на месцы «ě» выступае [и], вядома зусім вузкае [ê], падобнае да [и].

Дыфтонг [и͡е] адзначан у гаворках Брэсцкай вобласці, дзе ён часта суіснуе з [и], і ў гаворках Гомельскай вобласці, дзе ён суіснуе з [е]. Асобнага самастойнага масіву гаворкі, якім уласцівы дыфтонг [и͡е], не ўтвараюць. Яны размешчаны ўперамешку з гаворкамі, якім уласціва [ê].

Другая ізаглоса гэтага пучка размяжоўвае гаворкі па якасці націскнога галоснага на месцы «о» ў новых закрытых складах. У заходняй і ўсходняй частках пучка яна праходзіць у непасрэднай блізкасці да першай ізаглосы, а ў цэнтральнай часткы — некалькі паўднёвей яе [1]. На поўнач ад ізаглосы адпаведна «о» ў націскным закрытым складзе вымаўляецца [о] — лабіялізаваны галосны задняга рада сярэдняга пад'ёму (*дом, кон'*), а на поўдзень ад яе [ô] — лабіялізаваны галосны задняга рада сярэдне-верхняга пад'ёму або [у] — лабіялізаваны галосны задняга рада верхняга пад'ёму, дыфтонг [у͡о] або [и] — нелабіялізаваны галосны пярэдняга рада верхняга пад'ёму (*дôм, кôн'* ці *дум, кун', ду͡ом, ку͡он'* ці *д'им, к'ин'*). Рэфлексы [ô], [у], [у͡о] адзначаны на агульнай тэрыторыі. Яны ўжываюцца ўперамешку ў гаворках розных населеных пунктаў або нават суіснуюць у адной гаворцы. Тэрыторыя пашырэння [о], [у], [уо] на поўдні супрацьпастаўляецца тэрыторыі, гаворкам якой уласцівы рэфлекс [и] (ДАБМ, карта № 35).

Як і ў выпадку з ужываннем [ê] ці [и͡е] на месцы «ě» і «е», у цэнтральнай часткы апісваемага масіву гаворак рэфлексы [ô], [у], [у͡о] асобна ці ў суіснаванні адзначаны амаль ва ўсіх абследаваных населеных пунктах; не зарэгістраваны яны толькі ў асобных гаворках. На Гомельшчыне, асабліва ў міжрэччы Пцічы — Прыпяці — Дняпра, гаворкі з рэфлексамі [ô], [у], [у͡о] суіснуюць з гаворкамі, што характарызуюцца галосным [о], а на захадзе Гродзеншчыны гаворкі з рэфлексамі [ô], [у], [у͡о] складаюць меншасць.

Амаль ва ўсіх гаворках, якім вядома [ô], [у] ці [у͡о], або ўсе яны разам, у тых жа фанетычных умовах ужываецца і [о]. Частотнасць ужывання і характар суіснавання іх абумоўлены галоўным чынам трыма акалічнасцямі. Па-першае, ступенню ўжывальнасці [ô], [у], [у͡о], з аднаго боку, і [о], з другога, у разнастайных пластах лексікі. У некаторых гаворках у традыцыйнай лексіцы рэфлексы [ô], [у], [у͡о] ўжываюцца часцей, чым у лексіцы новай, у якой звычайна выступае [о], напрыклад у гаворцы нас. п. Танежыцы Слуцкага раёна: *шкôл'ны, саўхôс,*

---

[1] На карце № 16 яны паказаны агульнай лініяй.

*партóрх, аүранóм* пры паслядоўным ужыванні [о] ў традыцыйнай лексіцы. У іншых жа гаворках такое размежаванне не зафіксавана. Па-другое, ступенню ўжывальнасці [ô], [у], [у͡о] і [о] ў мове розных узроставых груп насельніцтва: вядома, што ў мове моладзі часцей ужываецца [о], а рэфлексы [ô], [у], [у͡о] адпаведна «о» чуюцца менш выразна, чым у прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Але вядомы шматлікія гаворкі, дзе такога адрознення няма, і іншы раз выхадцы з такіх населеных пунктаў доўгі час, нават усведамляючы асаблівасць свайго вымаўлення, не могуць пазбавіцца ад [ô], [у] ці [у͡о] поўнасцю. І, нарэшце, уздзеяннем суседніх гаворак. У гаворках, якія з поўдня прымыкаюць да разглядаемай ізаглосы, г. зн. знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці, у кантактуючым суседстве з гаворкамі, што ляжаць на поўнач ад гэтай ізаглосы, частае ўжыванне [о] побач з [ô] выклікана не толькі дзвюма раней названымі акалічнасцямі, а і непасрэдным уплывам суседніх гаворак.

Ступень звужэння манафтангічнага галоснага на месцы «о» ў розных гаворках неаднолькавая. У адных вымаўляецца [ô] — галосны сярэдне-верхняга пад'ёму, які выразна адрозніваецца і ад [о] і ад [у], у другіх вымаўляецца менш звужаны галосны [ô], зусім блізкі да [о], а ў трэціх — моцна звужаны гук, блізкі да [у]. У гаворцы нас. п. Танежыцы ступень звужэння [ô] ў пэўнай меры нават лексікалізавана. У словах *бôл'ш, мôжно, н'имнôшко, мазôл'* чуваць моцна звужаны гук, блізкі да [у], а ў апошнім слове [ô], відаць, успрымаецца як [у] і самім насельніцтвам, бо і ў ненаціскной пазіцыі вымаўляецца [у] (*мазул'á*). Наогул [ô] і [у] даволі часта суіснуюць у адной гаворцы; зарэгістравана таксама суіснаванне [и] і [у].

Дыфтонг [у͡о] да строга адмежаванай тэрыторыі не прымацаваны. У адных выпадках ён адзначан у суіснаванні з [ô] ці [у], у другіх — самастойна ў гаворках, суседніх з тымі, якім уласцівы [ô] ці [у].

У асобных запісах для ДАБМ і ў некаторых даследаваннях адзначан і дыфтонг (и͡е): *к'и͡ен', в'и͡ел* [136, *53, 54*].

Ізаглосы [е] : [ê] і [о] : [ô] падзяляюць тэрыторыю беларускіх гаворак на дзве часткі, якія супрацьпастаўляюцца ў фаналагічным плане: на поўдні і захадзе ад ізаглос выдзяляюцца гаворкі з сяміфанемным, а на поўнач і ўсход — з пяціфанемным складам галосных. Паўднёва-заходнім гаворкам супрацьпастаўляюцца гаворкі брэсцка-пінскай ускраіны, для якіх характэрны часткова шасціфанемны і пераважна пяціфанемны склад галосных [88, *20*].

Да фанетычных ізаглос па канфігурацыі набліжаецца цэлая група марфалагічных ізаглос, што супрацьпастаўляюць беларускія гаворкі па асаблівасцях скланення і спражэння.

У гэту групу ўваходзіць ізаглоса адрозненняў у скланенні назоўнікаў ніякага роду, што абазначаюць маладых істот. Яна ідзе па лініі Ліда — Чэрвень — Рагачоў і далей на ўсход ад Гомеля. На паўднёвым захадзе ад ізаглосы выдзяляецца арэал парадыгмы адзіночнага ліку, якая ў назоўна-вінавальным склоне характарызуецца формай на **-я**, у родным, давальным і месным склонах суфіксам **-яц** і канчаткам **-і**, у творным склоне формай на **-ем** або **-ям** *(цяля́, цяля́ці, аб цяля́ці, цéлем*(*ям*); ДАБМ, карты № 84, 86, 87).

На поўнач і ўсход ад ізаглосы пры наяўнасці зыходных форм пашыраны паралельныя ўтварэнні: у назоўным склоне форма *цялё*, у родным *цяля́*, у творным *цялём*, якімі назоўнікі разглядаемага тыпу аб'ядноўваюцца з назоўнікамі **-о**(**-jo**)-асновы.

Больш кампактна выдзяляюцца формы назоўнага і творнага склонаў *цялё, цялём*, арэалы якіх на ўсходзе даходзяць да Бярэзіны, а на поўначы — да лініі, праведзенай ад вярхоўя Бярэзіны да Свіры. Форма творнага склону (*цялём*) пашырана і за межамі разглядаемай ізаглосы (ДАБМ, карты № 84, 87). Наадварот, формы роднага і меснага склонаў *цяля́, аб цялю́* рассеяны на фоне большай канцэнтрацыі суфіксальных форм адпаведных склонаў (*цяля́ці, аб цяля́ці*; ДАБМ, карты № 86, 88).

Падобна да форм роднага *цяля́* і меснага *цялю́* не выдзяляецца кампактным арэалам і форма назоўнага склону адзіночнага ліку *дзіцё*. На лінгвагеаграфічнай карце яна адзначана прыкладна ў 40 нас. пп. супраць 183, у якіх зафіксавана адпаведная форма назоўнікаў, што абазначаюць маладых істот тыпу *цялё* (параўн. карты ДАБМ № 84 і 85).

Форма назоўнага склону на **-ё** і бессуфіксальныя формы ўскосных склонаў сведчаць аб працаканні уніфікацыйных працэсаў, аб разбурэнні рэшткаў старажытнай сістэмы скланення назоўнікаў з асновай на зычныя, аб падпарадкаванні іх сістэме назоўнікаў з асновай на **-о**(**-jo**). У гэтай сувязі беларускі дыялектны матэрыял сведчыць, што пераход **'а** у **'о** ў формах *цялё, цялём* адбыўся не фанетычным шляхам [1], а на аснове граматычнай аналогіі, па мадэлі скланення назоўнікаў ніякага роду тыпу *сяло́, жыццё*, як і ў некаторых украінскіх гаворках [153, *15*].

Такім чынам, у структурным плане і тэрытарыяльна апошняя разнавіднасць скланення выдзяляецца ў асобны пераходны тып. У межах паўднёва-заходняй тэрыторыі пры кампактным пашырэнні форм роднага і меснага склонаў *цяля́ці, аб*

---

[1] Паслядоўнасць замены канцавога націскнога **-'е** на **-'о** *(ус'о́, жыц'ц'о́, н'ес'ац'о́)* у розных марфалагічных катэгорыях ва ўмовах акання магла толькі спрыяць гэтаму марфалагічнаму працэсу.

*цяляці* вар'іруе форма творнага склону (ДАБМ, карта № 87). Акрамя адзначанай формы на **-ём**, у паўднёвай частцы арэала пераважае форма на **-ям**, часта ў суіснаванні з іншымі тыпамі формы (*цялям, цялём, цялём*). У паўднёва-заходніх гаворках суіснуюць варыянты формы, якія адрозніваюцца характарам націску: каранёвым (*цёлем*) і канцавым (*цялём(-ям)*.

Адзначаныя формы творнага склону аб'ядноўваюцца адсутнасцю суфікса і ў гэтым плане супрацьпастаўляюцца формам ускосных склонаў *(цёлем (-ям, -ём) : цяляці, аб цяляці*) у адных і тых жа гаворках. Такім чынам, бессуфіксальная форма творнага склону адзіночнага ліку тэрытарыяльна сумяшчаецца з суфіксальнымі формамі іншых ускосных склонаў.

Парадыгма *цялЯ, цяляці, цёлем (-ям, -ём), аб цяляці*, што лакалізуецца на паўднёвым захадзе ад ізаглосы, супрацьпастаўляецца пераважна па характаруканчатка парадыгме брэсцка-пінскіх гаворак, якая, акрамя наяўнасці суфікса ў творным склоне, адрозніваецца канчаткамі: **-а** ў родным і **-аві** ў давальным і месным склонах пры форме на **-е(-я)** у назоўным склоне (*тэлё(я), тэлята, тэлятам, тэлятаві*).

Па наяўнасці суфікса ва ўскосных склонах (акрамя творнага) гэтыя парадыгмы аб'ядноўваюцца, аднак яны значна разыходзяцца па сваіх фармантах: калі першая з іх характарызуецца адзіным тыпам канчатка ў родным, давальным і месным склонах (*цяляці*), то другая, засвоіўшы канчаткі **-а**, **-аві** ўскосных склонаў, прыпадабнілася да скланення назоўнікаў з асновамі на **-о(-jo)**, **ŭ** [1].

На тэрыторыі Брэстчыны адрозніваюцца формы назоўнага склону адзіночнага ліку разглядаемай парадыгмы: *тэлё (тэлюк)*, *дытына : цялЯ, дзіцЯ*. Форма на **-е** ўзнікла фанетычным шляхам, аб чым сведчыць тэрытарыяльнае сумяшчэнне гэтай формы з арэалам пашырэння [е] на месцы «'а» (параўн. карты ДАБМ № 84 і 7). Словаўтваральны варыянт з суфіксам **-ук** выдзяляецца асобнымі астраўкамі не толькі на поўдні (каля Пінска), але і на захадзе (каля Воранава і Нарачы).

Да разглядаемага пучка адносіцца ізаглоса націскнога канчатка меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду. Але яна адхіляецца ў бок Мінска, а таксама адыходзіць у паўночным напрамку ад пучка. Гэта ізаглоса размяжоўвае формы меснага склону прыметнікаў. На поўдзень і захад выдзяляецца форма на **-ом**, а на поўнач і ўсход — на **-ым**, г. зн. па адзін бок ізаглосы формы

---

[1] Параўн. наяўнасць формы меснага склону тыпу *на лугóві, пнёві, стогóві, у кажухóві* (ДАБМ, карты № 73—75, 77—79).

творнага і меснага склонаў прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду адрозніваюцца (з *маладым—аб маладóм*), а па другі супадаюць (*з маладым, аб маладым*).

Падобнае тэрытарыяльнае размяшчэнне маюць і адпаведныя формы ўказальнага займенніка *той* (*аб маладóм, у том : аб маладым, у тым*; ДАБМ, карта № 117).

Больш позняга паходжання канчатак **-ым** у якасці літаратурнай нормы пашырыўся на ўсю тэрыторыю беларускіх гаворак. У выніку гэтага адзначаецца паралельнае суіснаванне традыцыйнай формы на **-ом** і літаратурнай на **-ым** у паўднёва-заходніх гаворках.

Форма на **-ом** уласціва беларускім гаворкам і за межамі праведзенай ізаглосы — на ўсход ад Магілёва. Спарадычна адзначаецца яна ў брэсцка-пінскіх гаворках, аднак тут пераважае форма меснага склону, якая супадае з формай давальнага склону (*молодóму, аб молодóму*).

Такім чынам, паўднёва-заходні арэал націскных канчаткаў творнага і меснага склонаў прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду супрацьпастаўляецца арэалам уніфікаванага канчатка: па тыпу творнага склону, з аднаго боку, і па тыпу давальнага — з другога.

У разглядаемы пучок уваходзіць ізаглоса роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўказальнага займенніка *тáя.* Яна размяжоўвае формы не толькі ў залежнасці ад тыпу канчатка і націску, але і ад характару каранёвага галоснага: на поўдзень і захад ад ізаглосы пашырана форма *таé,* на поўнач ад яе пераважае скарочаная форма *тэй,* а на ўсход — *тый.* Адзначаныя формы ўваходзяць у адпаведныя парадыгматычныя рады, якія характарызуюцца цэлым комплексам дыялектных адрозненняў, як аб гэтым сведчаць лінгвагеаграфічныя карты (ДАБМ, карты № 135—137). Больш агульныя адрозненні парадыгмаў займеннага скланення выяўляюцца ў супрацьпастаўленні галосных асновы *той : тэй* — першай на поўдні ад лініі Ліда — Мінск — Орша, другой на поўначы і ўсходзе ад яе. З тыпам галоснага спалучаюцца больш прыватныя адрозненні — адрозненні ў канчатках асобных склонаў, у першую чаргу ў родным склоне адзіночнага ліку.

Парадыгма першая характарызуецца двухскладовымі формамі роднага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку, наяўнасцю [о] ў аснове форм давальнага, творнага і меснага склонаў і рухомасцю націску ў родным склоне (*тáя, таé, той, тýю, тóю, аб тóй*). Зыходныя формы ўскосных склонаў суіснуюць тут з паралельнымі ўтварэннямі, што развіліся на аснове двухскладовай формы роднага склону (*таé—таéй, той — таé, тóю — таéю*).

На ўсход ад разглядаемай ізаглосы пашыраны аднатыпныя формы ўскосных склонаў *той* пры наяўнасці варыянтаў

роднага склону (*тый, тые, тыі*). На поўначы ад гэтай ізаглосы форма ўскосных склонаў *тэй* суіснуе з формай *той*. Апошняя адзначаецца на ўсёй тэрыторыі беларускіх гаворак.

Форма роднага склону адзіночнага ліку ўказальнага займенніка жаночага роду *тае́* (ад *та́я*) выдзяляецца на большай тэрыторыі ў параўнанні з адпаведнай формай прыметнікаў, а таму ізаглосы іх адносяцца да розных пучкоў. Арэал формы роднага склону *тае́* на ўсходзе абмяжоўваецца лініяй Днепр—Друць.

Форма *тае́* выступае кампактным арэалам і рассеяна ў суіснаванні з іншымі марфалагічнымі варыянтамі, у прыватнасці з варыянтамі *тей* і *тае́й*. Першы з іх пашыран на большай тэрыторыі, другі пераважае ў паўночнай частцы арэала на стыку з тэрыторыяй распаўсюджання формы *тэй*.

Улічваючы фактар тэрытарыяльнага размяшчэння, форму роднага склону *тае́й* можна разглядаць як прамежкавае ўтварэнне, якое ўзнікла ў выніку ўзаемадзеяння сумежных форм *тае́* і *тей*.

Форме роднага склону *тае́* супрацьпастаўляецца двухскладовая форма роднага склону брэсцка-пінскага арэала *те́йи* [1].

Вызначаныя парадыгмы па адных рысах аб'ядноўваюцца, а па другіх адрозніваюцца. Па формах роднага склону яны падзяляюцца на дзве групы: парадыгмы з двухскладовымі формамі (*тае́, тэ́і, ты́і*) і аднаскладовымі формамі (*той, тэй*).

Падобнай ізаглосай размяжоўваюцца формы роднага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў. Тэрытарыяльна супрацьпастаўляюцца дзве формы — на **-е** (*мае́, твае́, свае́*) і на **-ей** (*мае́й, твае́й, свае́й*). Першая пашырана не толькі на паўднёва-заходнім, але і на паўднёва-ўсходнім абшары, а таму ізаглоса гэтай формы не зусім падыходзіць па сваёй канфігурацыі да разглядаемага пучка. Аднак калі ўлічыць характар распаўсюджання, то больш кампактны арэал яе сумяшчаецца з паўднёва-заходнім арэалам формы ўказальнага займенніка *тае́*, як і паўночныя арэалы формы на **-ей** (*мае́й, твае́й, свае́й*), і ўказальнага займенніка *тэй* (ДАБМ, карты № 135, 140).

Уваходзяць у гэты пучок ізаглосы аднаскладовых і двухскладовых канчаткаў прыналежных займеннікаў жаночага роду *на́ша, ва́ша*. Але яны адхіляюцца ад пучка ў паўночным напрамку на адрэзку Навагрудак — Рагачоў. На поўдзень і захад яны выдзяляюць арэал пашырэння двухскладовых, а на поўнач і ўсход — аднаскладовых форм адзіночнага

---

[1] На карце № 135 ДАБМ форма *те́йи* закартаграфавана як *те́йе* ў сувязі з тым, што аўтар карты не ўлічваў фанетычных адрозненняў картаграфуемай формы.

і множнага ліку гэтых займеннікаў (*на́шая : на́ша, на́шыя : на́шы;* ДАБМ, карта № 142). Скарочаная форма адзначаецца на ўсёй тэрыторыі беларускіх гаворак, а на паўднёвым захадзе — паралельна з поўнай формай. У сваю чаргу поўная форма спарадычна выступае на поўначы ад ізаглосы.

Лідска-бабруйска-рэчыцкі пучок ізаглос па цэламу раду фанетыка-марфалагічных моўных рыс у тэрытарыяльным і структурным плане супрацьпастаўляе паўднёва-заходнія гаворкі, з аднаго боку, паўночна-ўсходнім, а з другога — брэсцка-пінскім гаворкам.

## Лідска-слуцка-мазырскі пучок

**(карта № 17)**

Асобныя ізаглосы адхіляюцца ў заходнім напрамку ад папярэдняга пучка і праходзяць прыблізна па лініі Навагрудак — Слуцк — Мазыр і далей па Прыпяці і Дняпру да дзяржаўнай граніцы БССР. Да іх ліку адносяцца ізаглосы форм 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў і ізаглоса назваў чырвонага кута. Гэтыя ізаглосы акрэсліваюць паўднёва-заходні арэал пашырэння поўнай формы на **-мо** 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў і назвы чырвонага кута — *по́куць*(*е*). Па адзначаных рысах гэты арэал супрацьпастаўляецца астатняй тэрыторыі, на якой выступае аднаскладовы канчатак 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў і няма асобнай назвы чырвонага кута (ДАБМ, карты № 154, 161, 335).

Поўныя формы ад розных класаў дзеясловаў, часта ў залежнасці ад граматычнай функцыі адрозніваюцца характарам тэрытарыяльнага пашырэння.

Арэалы форм на **-мо** тэматычных і нетэматычных дзеясловаў амаль сумяшчаюцца. Толькі ва ўсходняй частцы на поўдзень ад Слуцка ізаглосы гэтых форм некалькі разыходзяцца.

Форма на **-імо(-ымо)** тэматычных дзеясловаў II спражэння адзначаецца ў суіснаванні з формай на **-ім(-ым)** (*ро́бімо, ро́бім*) пры больш паслядоўным пашырэнні першай з іх на брэсцка-пінскай ускраіне.

Адпаведная форма дзеясловаў I спражэння займае значна меншую тэрыторыю. Больш кампактны арэал яе з поўначы і ўсходу акрэсліваецца лініяй Нараў — Ясельда — Прыпяць.

У параўнанні з поўнай формай цяперашняга часу дзеясловаў на большым абшары пашырана адпаведная форма 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу.

Калі ізаглоса формы абвеснага ладу дзеясловаў I спражэння адхіляецца на захад і поўдзень, то ізаглоса формы загаднага ладу набліжаецца да лініі Бабруйск — Рэчыца —

Лоеў і, такім чынам, праходзіць некалькі на ўсход ад мяжы пашырэння формы на **-мо** абвеснага ладу дзеясловаў II спражэння.

Розныя арэалы поўных форм 1-й асобы множнага ліку, сумяшчаючыся сваімі часткамі, выдзяляюць на паўднёва-заходняй ускраіне (па лініі Нараў — Ясельда — Прыпяць) зону найбольшай кампактнасці, дзе поўныя формы ўтвараюцца ад розных класаў дзеясловаў як у абвесным, так і ў загадным ладзе.

На значна большай тэрыторыі сумяшчаюцца поўныя формы абвеснага і загаднага ладу дзеясловаў II спражэння і нетэматычных дзеясловаў. На поўнач і ўсход ад арэала кампактнага распаўсюджання такая форма адзначаецца радзей (ДАБМ, карты № 154, 161, 169).

Па меры памяншэння канцэнтрацыі поўнай формы 1-й асобы множнага ліку ў абвесным і загадным ладзе ўзрастае ўжыванне супрацьпастаўленых скарочаных форм з поўначы і ўсходу.

У найбольшай ступені абмяжоўваецца поўная форма скарочанай у межах дзеясловаў I спражэння. Форма з уніфікаванай асновай на цвёрды зычны (*ідóм, нясóм*) разам з яе мяккай разнавіднасцю (*ідзём, нясём*) пашыраецца ў паўднёва-заходнім напрамку.

Выцясняецца поўная форма скарочанай у межах дзеясловаў II спражэння, аб чым пераканаўча сведчыць суіснаванне абедзвюх форм на адной і той жа тэрыторыі (ДАБМ, карта № 154).

Найбольшую тэрыторыю займае форма на **-ма(о)** 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу. На ўскраіне паўднёва-заходніх беларускіх гаворак яна сумяшчаецца са скарочанай формай 1-й асобы множнага ліку абвеснага ладу. Поўныя і скарочаныя канчаткі адрозніваюцца тут па свайму граматычнаму значэнню (параўн. *пасéйма жы́та*! : *мы пасеéм жы́та*).

Ізаглосы поўных форм 1-й асобы множнага ліку абвеснага і загаднага ладу дзеясловаў, як і рад іншых ізаглос моўных з'яў паўднёва-заходняй лакалізацыі, не замыкаюцца на тэрыторыі беларускіх гаворак. Яны перасякаюць дзяржаўную граніцу БССР у паўднёвым напрамку і пераходзяць на тэрыторыю ўкраінскіх дыялектаў.

Такім чынам, у межах беларускіх і ўкраінскіх гаворак выдзяляецца вялікая колькасць агульных дыялектных асаблівасцей. Некаторыя з іх працягваюцца і далей, на тэрыторыі іншых славянскіх моў [165, *71*].

Ізаглоса назвы покуці па сваёй агульнай канфігурацыі набліжаецца да ізаглос формы 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў. Толькі ў заходняй частцы, прыблізна ў раёне Нава-

грудка, яна адхіляецца на поўнач і перасякае дзяржаўную граніцу ў раёне Віліі.

На захад і поўдзень ад гэтай ізаглосы выдзяляецца арэал наяўнасці асобнай назвы чырвонага кута: *пóкуць* (*пóкут*), *пóкуцье* (*пóкутье*). На ўсход ад ізаглосы *пóкуць* адзначаецца спарадычна.

У межах арэала назвы чырвонага кута супрацьпастаўляюцца варыянты лексемы па наяўнасці і адсутнасці суфікса **-ьj**-*е*: *пóкуць(е) (пóкутье) : пóкуць*, што выяўляецца ў граматычнай дыферэнцыяцыі, у аднесенасці назоўнікаў да пэўнага граматычнага роду, у даным выпадку да ніякага і жаночага. Суфіксальны тып лексемы перважае на поўдні ад лініі Брэст — Пінск.

Супрацьпастаўляюцца таксама наступныя словаўтваральныя варыянты: *пóкутье, пóкуць* : *нáкуць;* апошні займае невялікую тэрыторыю каля в. Нарач.

Назвы покуці, як і рад іншых украінска-беларускіх моўных з'яў, ужо разглядаліся ў літаратуры па беларускай дыялекталогіі [86, *59—68*], а таму тут не даецца іх падрабязны аналіз.

## Лідска-бабруйска-лоеўскі пучок
**(карта № 18)**

Ізаглосы лідска-бабруйска-лоеўскага пучка супрацьпастаўляюць варыянты дыялектных адрозненняў на ўзроўні флексіі. Яны ўтвараюць даволі шчыльны пучок, што праходзіць з захаду на паўднёвы ўсход па лініі Ліда — Бабруйск — Лоеў. На заходняй частцы пучка ізаглосы раздвойваюцца, адны з іх перасякаюць дзяржаўную граніцу ў раёне Ліды, другія адхіляюцца ад асноўнага пучка ў бок Гродна.

Большасць ізаглос лідска-бабруйска-лоеўскага пучка звязана з дыялектнымі адрозненнямі ў канчатках скланення. Ізаглоса формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду акрэслівае паўднёва-заходні арэал з канчаткам **-а**, які супрацьпастаўляецца тэрыторыі пашырэння формы на **-ы** (*вóкна, вёдра, гýмна* : *вóкны, вёдры, гýмны*; ДАБМ, карта № 97). Аднак тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне з'яўляецца частковым, паколькі арэал адной формы перакрываецца арэалам другой, у выніку чаго на значнай частцы паўднёва-заходняй тэрыторыі адзначана суіснаванне дыялектнага варыянта з агульнапашыранай формай, якая адпавядае норме літаратурнай мовы.

На поўнач і ўсход ад ізаглосы пераважае форма з канчаткам **-ы** пры адзінкавых выпадках формы на **-а**.

Калі ўлічваць характар гэтага адрознення, то разглядаемая ізаглоса супрацьпастаўляе наяўнасць адной формы на

адной тэрыторыі яе адсутнасці на другой: **-а** : ⦰. Калі ж разглядаць гэты канчатак у акружэнні марфалагічных паказчыкаў гэтай формы ў межах усіх назоўнікаў, то тая ж ізаглоса супрацьпастаўляе размежаванне форм назоўнага склону множнага ліку розных класаў назоўнікаў іх уніфікацыі ў адной форме. Такім чынам, у залежнасці ад плана супрацьпастаўлення ізаглоса выступае як аднабаковая або двухбаковая.

Акрамя назоўнікаў ніякага роду, форма на **-а** спарадычна адзначаецца ў назоўніках мужчынскага роду з рухомым націскам (*гарадá, бакá*). Яна сканцэнтравана невялікімі астраўкамі каля Гродна, Баранавіч, Свіры і пераважна на поўдні ў раёнах Прыпяці і Ясельды [1]. Нераўнамернае пашырэнне формы на **-а** мужчынскага роду, відаць, абумоўлена розным характарам паходжання яе на асобных тэрыторыях.

Пераважная канцэнтрацыя формы на **-а** (*гарадá*) на паўднёва-заходняй тэрыторыі, магчыма, звязана з яе развіццём у выніку засваення канчатка **-а** назоўнікамі мужчынскага роду пад уплывам адпаведнай формы назоўнікаў ніякага роду.

Паўночная частка арэала формы на **-а** назоўнікаў ніякага роду сумяшчаецца з тэрыторыяй пашырэння формы на **-е(-э)** назоўнікаў мужчынскага роду (*лясэ́, сынэ́*) і часткова назоўнікаў жаночага роду (*жанке́, хустке́*; ДАБМ, карта № 96, 99).

У межах паўднёва-заходняй тэрыторыі форма на **-е(-э)** мае розны характар пашырэння ў залежнасці ад тыпу асновы: большую частку займае форма з асновай на мяккі і зацвярдзелы зычны (*кавале́, нажэ́*) і значна меншую — форма з цвёрдай разнавіднасцю асновы тыпу *братэ́, сынэ́* (параўн. карты ДАБМ № 95, 96).

Падобны характар тэрытарыяльнага распаўсюджання форм назоўнага склону множнага ліку працягваецца ў беларускіх гаворках на Беласточчыне. Геаграфічнае пашырэнне канчатка **-е** і тут залежыць ад асновы назоўніка: форма з мяккай і зацвярдзелай асновай (*kowal'e, staraž'e, pazur'e*) пашыраецца на ўсю тэрыторыю, адпаведная ж форма назоўнікаў цвёрдай асновы (*syn'e, val'e*) займае паўночны абшар [164, *48, 49*].

На паўночна-заходнюю частку тэрыторыі пашырэння формы на **-э** мужчынскага роду напластоўваецца адпаведная форма назоўнікаў жаночага роду з асновай на заднеязычны тыпу *дзяўке́, хустке́*. У выніку на розных частках паўднёва-заходняй тэрыторыі форма назоўнага склону множнага ліку

---

[1] Карта, прысвечаная гэтай форме, у ДАБМ не ўключана. Пералік населеных пунктаў, дзе яна адзначана, даецца ў каментарыях да карт № 95, 96, стар. 528—532.

на **-е(-э)** выступае не з аднолькавай кампактнасцю: з большай — на паўночна-ўсходняй ускраіне арэала, дзе гэта форма аб'ядноўвае назоўнікі розных граматычных класаў — назоўнікі мужчынскага роду з розным тыпам асновы і часткова назоўнікі жаночага роду. На ўсходзе і поўдні такія формы сустракаюцца рэдка.

Характар тэрытарыяльнага распаўсюджання формы назоўнага склону множнага ліку на **-е(-э)** розных груп назоўнікаў, відаць, залежыць ад яе паходжання. Ёсць падстава разглядаць форму на **-е(-э)** мяккай і зацвярдзелай разнавіднасці назоўнікаў як наваўтварэнне па тыпу назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў былых асноў на **-і** і зычны (*зяте, учителе, лекаре*).

Сувязь сучасных дыялектных і былых форм на **-е** пацвярджаецца той акалічнасцю, што сучасныя назоўнікі мяккай і зацвярдзелай (у мінулым таксама мяккай) разнавіднасцей асновы ўтрымліваюць канчатак **-е(-э)** на большай тэрыторыі ў параўнанні з адпаведнай формай назоўнікаў цвёрдай разнавіднасці.

У працэсе выраўноўвання канчатак **-е**, відаць, у першую чаргу засвойваўся назоўнікамі з асновай на **-jo**, што абазначалі назву асобы (*мужé, ковалé*), а пад уплывам іх у пазнейшы час пашырыўся на цвёрдую разнавіднасць неадушаўлёных назоўнікаў. Агульнасць гэтага працэсу пацвярджаецца данымі рада славянскіх моў [159, *175—178*].

Акрамя непасрэднага засваення канчатка **-е** пад уплывам зыходнай формы, можна дапусціць шлях скарачэння былой формы на **-ове** (*братóве — брáтэ*). Вядома, што канчатак **-ове** ад асноў на **-ŭ** пашырыўся на іншыя тыпы асноў, асабліва на назоўнікі са значэннем асобы (*братóве, мужóве*), якія ў такой форме захоўваюцца ў пазнейшых пісьмовых помніках.

Ад агульнапашыраных форм на **-ове**, відаць, у пазнейшы час і адбыўся пераход да скарочанай формы на **-е** (*сыновé— сыне́, мужóве—мужé*) [1], якая потым пашыралася на ўсе назоўнікі мужчынскага роду з рухомым націскам.

Форма на **-е** адлюстравана помнікамі XVII ст.: *осподаре, наймите, бое, грабеже, стороже* [140, *267, 289*].

Відаць, у пазнейшы час засвоіўся канчатак **-е** назоўнікамі жаночага роду з нерухомым націскам на аснове (*дзяўкé, хусткé*). Перадумовай аб'яднання назоўнікаў жаночага роду ў адзінай форме на **-е** з назоўнікамі мужчынскага роду паслужыла перамяшчэнне націску з асновы на канчатак (*дзéўкі—дзяўкí*) на даволі вялікім абшары (ДАБМ, карта № 99).

---

[1] Параўн. захаванне асновы на цвёрды зычны перад канчаткам **-е** ў сцягнутых формах прыметнікаў ніякага роду тыпу *з'ел'óне*.

Брэсцка-пінскі арэал характарызуецца суіснаваннем форм з рознымі тыпамі канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду (*гарады́—гарада́*) пры паслядоўнасці формы на **-а** назоўнікаў ніякага роду тыпу *гу́мна, тэля́та*.

Такім чынам, характар размеркавання тыпаў канчаткаў назоўнага склону множнага ліку сярод розных груп назоўнікаў у тэрытарыяльным і структурным аспектах адрозніваецца: на поўдні і захадзе ад разглядаемай ізаглосы тыпалогія канчаткаў вызначылася ў залежнасці ад граматычнага роду назоўнікаў, а ў межах асобных груп — ад асновы і націску назоўнікаў. На поўначы і ўсходзе ад ізаглосы уніфікаваўся адзіны тып канчатка **-ы(-і)** для розных груп назоўнікаў.

Супрацьпастаўленне канчаткаў **-а** : **-ы** назоўнікаў ніякага роду з'яўляецца прыватным выпадкам больш агульнага супрацьпастаўлення форм назоўнага склону множнага ліку ў межах усяго скланення назоўнікаў. У гэтым плане канчатак **-а** ўваходзіць у агульны рад марфалагічных паказчыкаў дадзенай формы назоўнага склону **-а**, **-е(-э)**, **-ы(-і)** на адной тэрыторыі ў супрацьпастаўленні аднаму тыпу **-ы(-і)** на другой. Інтэнсіўнасць пашырэння форм на **-ы(-і)** увесь час узрастае пад уплывам літаратурнай мовы.

Такім чынам, ізаглоса формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду не толькі тэрытарыяльна размяжоўвае арэалы варыянтаў формы, але і супрацьпастаўляе структурныя адрозненні ў скланенні назоўнікаў, у размеркаванні канчаткаў, іх суадносіны ў розных групах назоўнікаў.

Ізаглоса форм назоўнікаў жаночага і ніякага роду ў спалучэннях з лічэбнікамі *два, тры, чаты́ры* праходзіць па цэнтральнай частцы лідска-бабруйска-лоеўскага пучка, толькі ў раёне Бабруйска яна адхіляецца на ўсход. На поўдзень і захад ад яе размяшчаецца арэал формы на **-е**, якая ўзыходзіць да назоўна-вінавальнага склону парнага ліку. На поўнач і ўсход ад гэтай ізаглосы тыя ж назоўнікі ўжываюцца з канчаткам множнага ліку **-ы**: *дзве* (*тры, чаты́ры*) *ха́це, брыга́дзе, вакне́, пісьме́* : *дзве* (*тры, чаты́ры*) *ха́ты, брыга́ды, два* (*тры, чаты́ры*) *вакны́, пісьмы́* (ДАБМ, карты № 206, 207).

Канструкцыя з рэшткамі формы парнага ліку не з'яўляецца адзінай на паўднёва-заходняй тэрыторыі. Акрамя паралельнай формы на **-ы**, што адпавядае літаратурнай норме, у такіх канструкцыях спарадычна адзначаецца форма на **-а** назоўнікаў ніякага роду: *два (тры, чаты́ры) сяла́, пісьма́, вядра́, акна́*. Апошняя форма з'яўляецца прамежкавым утварэннем: з рэшткамі архаічнай формы парнага ліку яна аб'ядноўваецца націскам, а з формай множнага ліку назоўнікаў ніякага роду — канчаткам. У сувязі з дваістасцю прыроды формы на **-а** назоўнікаў ніякага роду ў словазлучэннях тыпу *два сяла́* правамерна разглядаць яе развіццё як вынік узаема-

дзеяння зыходных форм назоўнікаў ніякага роду: формы множнага ліку і канструкцый з формай парнага ліку, арэалы якіх тэрытарыяльна сумяшчаюцца (ДАБМ, карты № 97, 206).

Уплыў множнага ліку назоўнікаў ніякага роду адбіўся ў пашырэнні канчатка **-а** на канструкцыі лічэбніка з назоўнікам пры захаванні апошнім канцавога націску адпаведна форме парнага ліку. Адсюль магла з'явіцца кантамінацыйная форма з націскным канчаткам **-а** тыпу *два сяла́* [16, *19—30*; 17, *18*]. У сучасных умовах такія канструкцыі падтрымліваюцца не толькі мясцовай формай множнага ліку назоўнікаў ніякага роду, але і ўзрослым уплывам норм рускай літаратурнай мовы.

Па цэнтральнай частцы пучка праходзяць ізаглосы сцягнутых форм прыметнікаў з ненаціскнымі канчаткамі. На поўдзень і захад ад гэтых ізаглос выдзяляецца арэал скарочаных форм назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду, а на поўнач і ўсход — арэал форм з поўнымі канчаткамі тых жа прыметнікаў (*но́ва ха́та, но́ву ха́ту : но́вая ха́та, но́вую ха́ту*; ДАБМ, карты № 113, 124).

Блізка да апошніх дзвюх праходзіць ізаглоса супрацьпастаўлення форм назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (*но́ва, но́ве вядро́;* ДАБМ, карта № 115). Толькі на заходнім адрэзку пучка апошняя ізаглоса адхіляецца на поўдзень ад ізаглос сцягнутых форм жаночага роду і таму яна аднесена да гродзенска-слуцка-брагінскага пучка.

Параўнальна меншую тэрыторыю займаюць сцягнутыя формы прыметнікаў з націскнымі канчаткамі. Форма жаночага роду тыпу *малада́* больш кампактна выдзяляецца на паўднёвай частцы, што акрэсліваецца лініяй Пінск—Слуцк—Мазыр—Прыпяць і рассеяна за межамі яе. Адпаведная форма ніякага роду тыпу *маладэ́* выступае толькі на паўднёвай ускраіне Беларусі.

У залежнасці ад тэрытарыяльнага сумяшчэння можна выдзеліць арэал найбольш кампактнага пашырэння сцягнутых форм прыметнікаў, які акрэсліваецца на поўдні ізаглосай формы ніякага роду з націскным канчаткам (*дороге́, дорого́;* карта № 23).

Ізаглосы, што выдзяляюць арэалы мінімальнай і максімальнай кампактнасці сцягнутых форм адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага і ніякага роду, як і іншых моўных з'яў паўднёва-заходняй лакалізацыі, не замыкаюцца на тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы», яны перасякаюць дзяржаўную граніцу БССР і пераходзяць на тэрыторыю суседніх украінскіх гаворак[1].

[1] Ф. Т. Жылко, спыняючыся на аналізе асновы прыметнікаў у паўднёва-заходніх украінскіх гаворках, адзначае сцягнутыя формы жаночага і ніякага роду тыпу *магу́тна, могу́тне* [48, *97*].

У параўнанні з формамі адзіночнага ліку сцягнутая форма назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў выдзяляецца толькі на паўднёва-заходняй ускраіне — на захад ад Лунінца, дзе сцягнутая форма *(но́вы ха́ты)* паралельна суіснуе з поўнай формай *(но́выі ха́ты)*. Толькі на захад ад Кобрына выдзяляецца невялікая тэрыторыя кампактнага пашырэння сцягнутай формы множнага ліку (ДАБМ, карта № 128). У адносінах да гэтай рысы брэсцка-пінскія гаворкі працягваюць асаблівасць паўднёва-заходніх украінскіх гаворак (параўн. *до́брі л'у́ди$^е$, мал'і д'іти$^е$*) [48, *97*]. На ўсходняй частцы тэрыторыі пашырэння сцягнутых форм прыметнікаў і за межамі яе адзначана форма са стратай інтэрвакальнага [*j*] ў канчатку назоўнага склону прыметнікаў жаночага роду *(но́ваа, малада́а)*. На той жа тэрыторыі несцяжэнне галосных адзначана ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў *(пагуля́а, дзе́лаа, кіда́а*; ДАБМ, Каментарыі, стар. 607—609). Сцягнутыя канчаткі прыметнікаў і дзеясловаў выступаюць як агульная з'ява беларускіх і суседніх рускіх (бранскіх) гаворак і сведчаць аб агульнасці працэсу сцяжэння для рада ўсходнеславянскіх дыялектаў. Кампактныя тэрыторыі сцягнутых форм прыметнікаў, відаць, адносяцца да ранейшых вынікаў працякання гэтага працэсу. Разрэджаныя формы сцягнутых прыметнікаў на ўсходняй частцы тэрыторыі — вынік сцірання, а магчыма, і пазнейшага паходжання; паколькі працэс сцяжэння адбываўся ў розныя часы на асобных славянскіх тэрыторыях [124, *101, 102*].

Да ізаглос сцягнутых форм прыметнікаў жаночага роду па свайму напрамку набліжаецца ізаглоса супрацьпастаўлення ў залежнасці ад націску формы вінавальнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а(-ја)** (*но́гу, ру́ку, во́ду, зе́млю : нагу́, руку́, ваду́, зямлю́;* ДАБМ, карта № 195). Першы тып формы, што лакалізуецца на паўднёва-заходняй тэрыторыі, прадстаўляе рухомасць націску ў формах адзіночнага ліку *(рука́, рукі́—ру́ку)*, наадварот, паўночна-ўсходні варыянт адносіцца да парадыгмы з нерухомасцю націску ў формах адзіночнага ліку (*рука́, руку́*), што адпавядае літаратурнай норме [112, *96, 97*].

Акрамя паўночна-ўсходняй тэрыторыі, форма з канцавым націскам адзначана паралельна з першай на поўдзень і захад ад разглядаемай ізаглосы. Больш рэдкія выпадкі суіснавання варыянтаў форм з розным тыпам націску знаходзім на поўначы і ўсходзе ад гэтай ізаглосы.

Лідска-бабруйска-лоеўскі пучок, акрамя ізаглос форм скланення, дапаўняецца ізаглосамі форм спражэння. Аналіз супрацьпастаўленых форм з наяўнасцю і адсутнасцю **-ць** у 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў гл. на стар. 116—117 (астравецка-лоеўскі пучок, карта № 49).

Да лідска-бабруйска-лоеўскага пучка адносіцца ізаглоса, якая супрацьпастаўляе не варыянты асобных форм, а дыялектныя адрозненні ў характары размеркавання форм з **-ць** і без **-ць** у межах дзеясловаў I і II спражэнняў.

Як вядома, супрацьпастаўленне **-ць** : Ø выконвае неаднолькавую функцыю ў розных гаворках. Наяўнасць і адсутнасць **-ць** у 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу ўказвае на размежаванне форм у залежнасці ад тыпу спражэння на адных тэрытарыяльных адзінках і ў залежнасці ад характару націску — на другіх.

Ізаглоса, што супрацьпастаўляе гэтыя адрозненні, праведзена з улікам тэрытарыяльнага распаўсюджання форм без **-ць** дзеясловаў I спражэння, з аднаго боку (ДАБМ, карты № 148, 149), і адпаведнай формы без **-ць** дзеясловаў II спражэння — з другога (ДАБМ, карта № 153). Як і астатнія ізаглосы разглядаемага пучка, яна праходзіць з захаду на паўднёвы ўсход, ад дзяржаўнай граніцы ў раёне Воранава Гродзенскай вобласці праз Чэрвень—Бабруйск да Дняпра ў раёне Лоева.

На поўдзень і захад ад разглядаемай ізаглосы выдзяляецца араэл формы без **-ць** з націскным і ненаціскнымканчаткам дзеясловаў I спражэння *(ідзé, кáжа)* у суіснаванні з формай на **-ць** дзеясловаў II спражэння *(стаíць, хóдзіць)*.

На поўнач і ўсход ад ізаглосы выдзяляецца тэрыторыя з іншым характарам суадносін разглядаемых форм. Калі на паўднёвым захадзе адсутнасць **-ць** указвае на адносіны формы да дзеясловаў I спражэння, а яго наяўнасць — да II спражэння, то на супрацьлеглай ад ізаглосы тэрыторыі адсутнасць гэтага паказчыка не з'яўляецца марфалагічнай адзнакай таго ці іншага класа, паколькі характар асабовага канчатка ў 3-й асобе адзіночнага ліку залежыць тут пераважна ад націску: дзеясловы з рухомым націскам і нерухомым націскам на аснове аб'ядноўваюцца ў адной форме (*кáжа, хóдзя*), а дзеясловы з канцавым націскам — у другой *(стаíць, ідзéць* пры наяўнасці паралельнай формы *ідзé)*.

Акрамя форм 3-й асобы адзіночнага ліку, характарыстыка супрацьпастаўленых арэалаў дапаўняецца дыялектнымі адрозненнямі ў формах 3-й асобы множнага ліку. Структурная адпаведнасць паміж формамі адзіночнага і множнага ліку праяўляецца ў тэрытарыяльным сумяшчэнні іх дыялектных адрозненняў.

На поўнач і захад ад ізаглосы, як і формы 3-й асобы адзіночнага ліку, размяжоўваюцца формы 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу ў залежнасці ад тыпу спражэння дзеясловаў (*кáжа — хóдзіць*; *кáжуць—хóдзяць*). На поўнач і ўсход ад разглядаемай ізаглосы уніфікаванай форме адзіночнага ліку адпавядаюць уніфікаваныя формы

множнага ліку дзеясловаў з ненаціскнымі канчаткамі (*кáжа, хóдзя; кáжаць, хóдзяць, нóсяць*, або *кáжуць, хóдзюць, нóсюць*).

Суадносныя формы 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў цяперашняга часу з'яўляюцца асноўнымі звеннямі парадыгмаў спражэння ў іх структурных і тэрытарыяльных адрозненнях. У структурным плане ізаглоса акрэслівае паўднёва-заходні арэал размежавання асабовых канчаткаў у межах дзеясловаў I і II спражэнняў (*ідý, кажý, ідзéш, кáжаш, ідзé кáжа, ідзём (ідóм), кáжам, ідзяцé, кáжаце, ідýць, кáжуць; стаю́, хаджý, стаíш, хóдзіш, стаíць, хóдзіць, стаíм, хóдзім, стаіцé, хóдзіце, стая́ць, хóдзяць*).

Паўднёва-заходні арэал супрацьпастаўляецца арэалу неразмежавання асабовых канчаткаў дзеясловаў з рухомым націскам і нерухомым націскам на аснове.

Такім чынам, ізаглоса парадыгмаў спражэння размяжоўвае не ізаляваныя формы, а цэлыя сістэмы з адпаведнымі ім марфалагічнымі паказчыкамі. Па свайму характару яна адносіцца да ліку абагульненых ізаглос, што супрацьпастаўляюць асобныя сістэмы.

Парадыгмы спражэння пры тэрытарыяльным вар'іраванні аб'ядноўваюцца і агульнымі рысамі, да ліку якіх належаць суадносіны націскных канчаткаў на **-е**||**-о** ў асабовых формах цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (*н'ас'éш, н'ас'é, н'ас'óм*), а таксама перамяшчэнне націску на канцавы галосны ў 2-й асобе множнага ліку (*несяцé(ё), стаіцé(ё)*). Выключэнне складаюць гаворкі, размешчаныя на захадзе і поўдні (Гродна—Брэст—Пінск), дзе ў формах цяперашняга часу [е] не чаргуецца з [о] і націск у 2-й асобе множнага ліку не парушаецца.

На арэал пашырэння парадыгмы цяперашняга часу з суадносінамі **е**||**о** ў асабовых канчатках напластоўваюцца адпаведныя формы на **-о** (*идз'óш, идз'óц', идз'óц'е*).

Формы цяперашняга часу на **-о** не выдзяляюцца кампактна, яны рассеяны па ўсёй тэрыторыі, аднак з пераважнай канцэнтрацыяй на паўночным усходзе, на мяжы з тэрыторыяй смаленскіх гаворак, дзе пераважаюць гэтыя формы (*идёть, вязёть, пяёть*) пры больш рэдкім ужыванні формы на **-е** (*идзéть, льеть*) [113, *32*]. Вядома, што суседнія смаленскія гаворкі аказваюць уплыў на пашырэнне разглядаемых форм сярод беларускіх гаворак. Разам з тым трэба ўлічваць нівеліруючае ўздзеянне на беларускія гаворкі рускай літаратурнай мовы. У гэтай сувязі формы на **-о** можна разглядаць як камбінаваныя ўтварэнні, што развіліся на аснове кантактавання парадыгмаў спражэння—дыялектнай з літаратурнай: ад першай захаваліся тыпова беларускія фанетычныя рысы, напрыклад, **-ць** (а не **-ть**) у формах 3-й асобы, ад другой — выраўноў-

ванне галоснага **-о** і нерухомасць націску ў 2-й асобе множнага ліку (*идз'óц', идз'óц'е*).

Формы такога ўтварэння з'яўляюцца ілюстрацыяй аднаго з выпадкаў пранікнення асобных нармалізаваных элементаў граматычнага ладу рускай літаратурнай мовы ў дыялектную.

Да лідска-бабруйска-лоеўскага пучка адносіцца ізаглоса формы 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу (ДАБМ, карта № 169), ізаглоса, якая ўказвае яшчэ на адну рысу ў дыялектных адрозненнях форм спражэння на супрацьпастаўленых тэрыторыях. На поўдзень і захад яна выдзяляе арэал наяўнасці формы загаднага ладу на **-ма(о)**, на поўнач і ўсход — тэрыторыю адсутнасці асобнай формы ў такой функцыі (*стáньма, кіньма!* : Ø).

## Гродзенска-слуцка-брагінскі пучок
**(карта № 19)**

Гродзенска-слуцка-брагінскі пучок дапаўняе характарыстыку выдзеленых арэалаў лідска-бабруйска-лоеўскім пучком.

Акрамя ізаглосы форм назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду, аб якой гаварылася вышэй, разглядаемы пучок уключае ізаглосу, што супрацьпастаўляе дыялектныя адрозненні ў скланенні назоўнікаў мужчынскага роду тыпу *бáцька* (ДАБМ, карта № 91).

Парадыгматычны рад форм адзіночнага ліку, што выдзяляецца на поўдзень і захад ад ізаглосы, па сваіх канчатках набліжаецца да скланення назоўнікаў з асновай на **-о**: н. *бáцько,* р., в. *бáцька,* а на поўнач і ўсход ад ізаглосы — да скланення назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а**: н. *бáцька,* р. *бáцькі,* в. *бáцьку.*

У канчатку назоўнага склону першага тыпу скланення, акрамя **-а**, можа быць **-о** ва ўмовах захавання ненаціскнога [о] ў канцавым адкрытым складзе (*с'éно, мáсло*; ДАБМ, карта № 14) і частковага неадрознівання «а» і «о» ў марфемах (параўн. з'яўленне ['о] адпаведна ['а] ў зваротных дзеясловах: *сп'óкс'о*; ДАБМ, карта № 164).

Ізаглоса клічнай формы (ДАБМ, карта № 94) на поўдзень і захад акрэслівае арэал пашырэння асобнай формы на **-о(-е)** назоўнікаў жаночага роду, якая ўжываецца ў поклічах тыпу *мáмо! Вáле!* Акрамя жаночага роду, тут ужываецца адпаведная форма назоўнікаў мужчынскага роду: *брáце! сынку!* [88, *152, 153*].

Супрацьпастаўленне па наяўнасці і адсутнасці рэшткаў форм клічнага склону дапаўняе комплекс дыялектных рыс, якімі паўднёва-заходнія гаворкі адрозніваюцца ад паўночна-ўсходніх.

Заключная ізаглоса разглядаемага пучка супрацьпастаўляе дыялектныя варыянты форм давальнага і меснага склонаў назоўнікаў тыпу *лю́дзі* (ДАБМ, карта № 106) [1]. Гэтыя склоны адрозніваюцца як характарам націску, так і асаблівасцямі канчаткаў, але ні адзін тып адрозненняў не выдзяляецца кампактным арэалам на супрацьпастаўленых ізаглосай тэрыторыях. Формы з націскам на аснове больш сканцэнтраваны на адрэзку Брэст—Лунінец і разрэджана адзначаюцца на астатняй паўднёва-заходняй тэрыторыі. Адзінкава яны рассеяны і на поўнач ад ізаглосы, аднак з большай канцэнтрацыяй уздоўж паўночна-заходняй граніцы БССР. На паўночным захадзе пашыраны адпаведныя формы з канцавым націскам.

З акцэнтуацыйнымі тыпамі звязаны адрозненні ў канчатках. На поўдзень і захад ад ізаглосы і за межамі яе пры каранёвым націску адзначаюцца формы на **-ям, -ях** (*лю́дзям, на лю́дзях*). На поўнач і ўсход ад ізаглосы пераважаюць формы з націскнымі канчаткамі **-ям**, **-ях** і **-ём, ёх** (*людзя́м, людзём, людзя́х, людзёх*), якія заходзяць і на паўднёва-заходнюю тэрыторыю.

Мяккая разнавіднасць скланення разглядаемых назоўнікаў тэрытарыяльна суадносіцца з цвёрдай разнавіднасцю назоўнікаў мужчынскага роду: формы давальнага і меснага склонаў множнага ліку з націскнымі канчаткамі тых і другіх (*людзя́м* (*-ём*), *людзя́х* (*-ёх*), *брата́м* (*-а́х*) сумяшчаюцца на поўнач і ўсход ад ізаглосы (параўн. карты ДАБМ № 103, 105 з картай № 106). На поўдзень і захад ад яе спарадычныя формы з націскнымі канчаткамі мяккай разнавіднасці сумяшчаюцца з формамі цвёрдай разнавіднасці (*людзём, людзёх, брато́м, брато́х*).

Тэрытарыяльнае размеркаванне форм давальнага і меснага склонаў розных груп назоўнікаў дазваляе ставіць пытанне аб характары паходжання некаторых дыялектных утварэнняў.

У гэтых адносінах наяўнасць ненаціскных канчаткаў **-ям, -ях** на параўнальна вялікай тэрыторыі можна разглядаць як вынік агульнага працэсу уніфікацыі ўскосных склонаў множнага ліку розных груп назоўнікаў па тыпу адпаведных склонаў назоўнікаў з асновай на **-а(-ја)**. Магчыма, што марфалагічны працэс ускладніўся напластаваннем фанетычных асаблівасцей — неадрозніваннем ['е] і ['а] ва ўмовах недысімілятыўнага акання.

Спарадычныя формы на **-ём, -ёх** на паўднёва-заходняй тэрыторыі падтрымліваюцца формамі на **-ом, -ох** цвёрдай раз-

---

[1] Пры інтэрпрэтацыі формы творнага склону мы ўлічваем характар тэрытарыяльнага пашырэння канчатка давальнага склону множнага ліку (асобнай карты ў ДАБМ няма).

навіднасці назоўнікаў *(братóм, братóх)*, а магчыма, узніклі пад непасрэдным уплывам апошніх.

Беларускія формы на **-ём, -ёх** паўночна-ўсходніх гаворак, відаць, маюць агульнае паходжанне з адпаведнымі формамі велікарускіх гаворак, з якімі яны звязаны тэрытарыяльна. Як адзначае П. С. Кузняцоў, гэтыя гаворкі адлюстроўваюць старажытны стан у параўнанні з літаратурнай мовай [73, 75].

Брэсцка-пінскі арэал супрацьпастаўляецца паўднёва-заходняму характарам рэалізацыі галоснага ў ненаціскных канчатках давальнага і часткова меснага склонаў назоўнікаў мяккай разнавіднасці. Пры разрэджанасці формы на **-ям** больш кампактна выдзяляецца форма на **-ом** (**-ум**) (*л'ýдз'ом, л'ýд'ум*). Наяўнасць паралельных тыпаў абумоўлена фанетычнай сістэмай гаворак, з'явай лабіялізацыі і пераходу **о** ў **у**, аб чым сведчаць фанетычныя карты (ДАБМ, карты № 2, 12 і інш.). У форме давальнага склону, дзе галосны стаіць у пазіцыі перад губным зычным, больш паслядоўна выступае фанетычны врыянт канчатка **-ум** у параўнанні з месным склонам, дзе пераважаюць варыянты на **-ях, -ёх**.

Побач з фанетычнымі разнавіднасцямі канчаткаў давальнага і меснага склонаў на асобных частках тэрыторыі адзначаецца форма на **-ем, -ех** (*л'ýдз'ем, у л'ýдз'ех*). Больш сканцэнтраваны формы апошняга тыпу на поўдзень ад лініі Лунінец—Мазыр.

Для гаворак паўднёвай ускраіны, у тым ліку і тэрыторыі, дзе адзначаны формы з канчаткамі **-ем, ех**, характэрна так званае еканне, наяўнасць [е] адпаведна «ę» ў пазіцыі пасля мяккага зычнага (параўн. *хóдзець* — форма 3-й асобы множнага ліку). У выніку пашырэння гэтай фанетычнай з'явы на асобныя марфалагічныя катэгорыі, у тым ліку і на ненаціскныя канчаткі мяккай разнавіднасці назоўнікаў, маглі ўзнікнуць фанетычныя варыянты канчаткаў **-ем, -ех**, якія паходзяць з **-ям, -ях**.

На фоне агульнапашыраных форм давальнага і меснага склонаў множнага ліку цвёрдай і мяккай разнавіднасцей назоўнікаў, што супадаюць з нормай літаратурнай мовы, выдзяляецца некалькі тыпаў суадносін дыялектных форм для асобных тэрыторый:

а) суіснаванне форм з націскнымі канчаткамі цвёрдай і мяккай разнавіднасцей (*братáм, братáх — людзём (-ям), людзёх (-ях)* у гаворках паўночна-ўсходняй тэрыторыі;

б) суіснаванне форм з націскнымі канчаткамі цвёрдай разнавіднасці з націскнымі і ненаціскнымі канчаткамі мяккай разнавіднасці ў гаворках паўднёва-заходняй тэрыторыі *(братóм, пры братóх—людзём, на людзёх, лю́дзям, лю́дзях);*

в) суіснаванне націскных канчаткаў цвёрдай разнавіднасці з ненаціскнымі канчаткамі мяккай разнавіднасці ў

гаворках брэсцка-пінскай ускраіны *(братáм, пры братáх—лю́дзем (-юм), лю́дзех (-ёх).*

Агульным кампанентам цвёрдай і мяккай разнавіднасцей назоўнікаў паўночна-ўсходняй лакалізацыі выступае канцавы націск пры адрозніванні па націску тых жа назоўнікаў у паўднёва-заходніх гаворках.

Такім чынам, у першай і часткова ў другой сістэмах націск аб'ядноўвае формы цвёрдай і мяккай разнавіднасцей назоўнікаў, а ў трэцяй і часткова ў другой размяжоўвае іх.

Калі ўлічыць, што формы давальнага і меснага склонаў назоўнікаў на **-а(-я)** зканчаткамі **-ам(-ям)**, **-ах(-ях)** *(рукáм, на рукáх)* пашыраны на ўсёй тэрыторыі, то пры накладванні ізаглос адпаведных форм іншых груп назоўнікаў выдзяляюцца арэалы рознай кампактнасці такіх форм — большай на паўночна-ўсходняй частцы тэрыторыі і на брэсцка-пінскім адрэзку, паколькі ў адзіных формах тут аб'ядноўваюцца назоўнікі розных тыпаў асновы.

Параўнальна менш кампактна выступаюць яны ў паўднёва-заходняй частцы тэрыторыі, дзе сярод назоўнікаў былых **-о** і **ŭ**-асноў пераважаюць формы на **-ом, -ох.**

## Ашмянска-лоеўскі пучок
**(карта № 20)**

Ашмянска-лоеўскі пучок уключае ізаглосы, якія падзяляюць тэрыторыю беларускіх гаворак на два моўныя арэалы, супрацьпастаўленыя па граматычных і лексічных асаблівасцях. У гэты пучок уваходзіць ізаглоса, якая размяжоўвае гаворкі па характару форм назоўнікаў у функцыі аб'екта дзеяння пры пераходных дзеясловах. На паўднёвым захадзе ад ізаглосы знаходзяцца гаворкі, у якіх адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне множнага ліку захоўваюць форму на **-ы(-і)** *(пагнáў валы́*; ДАБМ, карта № 210).

Тэрытарыяльна пашырэнне такой формы амаль супадае з распаўсюджаннем адпаведнай формы ў назоўніках жаночага роду *(падаіла карóвы;* ДАБМ, карта № 209). Але ізаглоса размежавання вінавальнага склону назоўнікаў жаночага роду праходзіць больш на поўнач ад ізаглосы паслядоўнага ўжывання форм вінавальнага склону мужчынскага роду на **-ы(-і),** таму яна аднесена да другога пучка. Прычым формы на **-ы(-і)** на тэрыторыі паўднёвага захаду ўжываюцца побач з формай вінавальнага склону множнага ліку на **-оў** (*пагнáў валóў, падаіла карóў*), як і ў гаворках на поўнач і ўсход ад ізаглосы. Такім чынам, паўднёва-заходнія гаворкі характарызуюцца суіснаваннем розных форм (*пагнáў валы́* і *валóў*),

а паўночна-ўсходнія — наяўнасцю другой формы пры спарадычным ужыванні ў паўднёвых раёнах гэтай тэрыторыі першай (*пагнáў валы́*).

Да ашмянска-лоеўскага пучка адносіцца ізаглоса, якая падзяляе гаворкі па характару формы вінавальнага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем прамога аб'екта (*знайшóў гры́ба — знайшóў грыб*; ДАБМ, карта № 211). На поўдзень і захад ад ізаглосы пашырана форма на **-а** (*знайшóў гры́ба),* на поўнач і ўсход ад яе — форма вінавальнага склону, якая супадае з назоўным. Калі пашырэнне форм назоўна-вінавальнага склону ў паўночна-ўсходніх гаворках вытрымліваецца паслядоўна, то форма на **-а** ў гаворках паўднёвага захаду можа суіснаваць з першай.

Адрозніванне форм вінавальнага склону залежыць ад значэння назоўнікаў і дзеясловаў. Так, напрыклад, рэчыўныя, зборныя, абстрактныя назоўнікі маюць форму назоўна-вінавальнага склону і ў паўднёва-заходніх гаворках. Дзеяслоў *даць* звычайна патрабуе ў гэтых гаворках форму назоўніка на **-а** (*падáй нажá*, але *прынясі нож).*

Канструкцыя з формай вінавальнага склону адзіночнага ліку на **-а** неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з'яўляецца істотнай асаблівасцю паўднёва-заходніх гаворак. Суіснаванне розных форм вінавальнага склону можна тлумачыць у некаторай ступені адрозненнем у значэнні назоўніка або дзеяслова.

У ашмянска-лоеўскі пучок уваходзіць ізаглоса, якая падзяляе гаворкі ў залежнасці ад характару лексічных асаблівасцей. На поўдзень і захад ад ізаглосы знаходзяцца гаворкі, у якіх прылада для вастрэння касы называецца словамі, утворанымі ад кораня *мент-,* якія адрозніваюцца на ўказанай тэрыторыі словаўтваральнымі сродкамі, націскам і фанетычным складам: *мянтá, мянця́, мéнта, мéнця, мянтáшка, мянтýшка, мянтэ́шка, мянтáчка, мытэ́нька, метэ́нька.*

Паўночна-ўсходнія гаворкі характарызуюцца рознакаранёвымі лексічнымі варыянтамі, распаўсюджанне якіх ахоплівае тэрыторыі, што супадаюць з арэаламі пашырэння іншых моўных асаблівасцей. На гэтай тэрыторыі адзначаны лексемы *трапáчка (трапáшка, трапы́шка), лапáтачка* (*лапáтка*) і *сцябáчка.*

## Воранаўска-чэрвеньска-лоеўскі пучок

**(карта № 21)**

Рад ізаглос праходзіць з захаду на паўднёвы ўсход на тэрыторыі Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей па лініі Воранава—Мінск—Чэрвень—Рэчыца—Лоеў. Па канфігурацыі

гэтыя ізаглосы аб'ядноўваюцца ў адзін пучок — воранаўска-чэрвеньска-лоеўскі.

Арэалы моўных з'яў, выдзеленых ізаглосамі гэтага пучка, амаль супадаюць у сваёй заходняй частцы, паміж Лідай і Мінскам. На адрэзку паміж Мінскам і Лоевам яны разыходзяцца і шырокай паласой накіроўваюцца да граніцы з УССР.

Моўныя з'явы, ізаглосы якіх уваходзяць у воранаўска-чэрвеньска-лоеўскі пучок, адносяцца да марфалогіі. Ізаглоса канчатка творнага склону адзіночнага ліку размяжоўвае гаворкі па наяўнасці двухскладовага і аднаскладовага канчаткаў назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а(-ја)** і былых асноў на **-і** пад націскам і не пад націскам: *хатаю, вішняю, сажаю* : *хатай, вішняй, сажай; гусёю, гразёю, мышою, пуцёю* : *гусёй, гуссю, гусём, гразёй, граззю, мышой, мышшу, мышый, пуцём, пуцёй.*

Ізаглоса супрацьпастаўляе арэалы: паўднёва-заходні, дзе пашырана форма з двухскладовым канчаткам, і паўночна-ўсходні з аднаскладовым канчаткам.

Канчатак **-ою(-аю)** назоўнікаў жаночага роду на **-а** пасля цвёрдай асновы даволі паслядоўна распаўсюджан на паўднёвым захадзе Беларусі *(сцяною, хатаю)*. Паабапал ізаглосы двухскладовы канчатак або суіснуе з аднаскладовым *(сцяною, хатаю* і *сцяной, хатай)*, або апошні з'яўляецца адзіным ва ўжыванні (*сцяной, хатай*) (ДАБМ, карты № 69—70).

У паўночна-ўсходніх гаворках, дзе пашырана форма **-ой(-ай)**, двухскладовы канчатак сустракаецца спарадычна.

Тэрыторыя паўднёвага захаду вызначаецца пашырэннем двухскладовых націскных і ненаціскных канчаткаў адзначаных катэгорый *(сцяною, хатаю)*.

У межах распаўсюджання двухскладовага канчатка выдзяляецца тэрыторыя, дзе ў залежнасці ад акання або окання пашыран канчатак **-ою** *(хатою)*. Ізаглоса гэтай асаблівасці праходзіць па лініі Пружаны—Лунінец—Мазыр—па Прыпяці да граніцы з УССР.

Па сваёй канфігурацыі ізаглоса ненаціскнога канчатка **-ою** супадае з ізаглосай окання (ДАБМ, карты № 1, 2, 8, 9, 12, 13).

Такі ж характар размеркавання двухскладовага і аднаскладовага канчаткаў уласцівы адпаведным формам назоўнікаў на мяккі і зацвярдзелы зычны асноў на **-а(-ја)** *(зямля, мяжа, вішня)*. На паўднёвым захадзе ад лініі Воранава—Мінск—Бабруйск—Рэчыца распаўсюджаны формы **-ою(-ёю)**, **-аю(-яю)** *(зямлёю, мяжою, вішняю)*, на паўночным усходзе ад гэтай лініі — формы **-ой(-ёй)**, **-ай(-яй)** *(зямлёй, мяжой, вішняй*; ДАБМ, карты № 71, 72).

Калі ў форме творнага склону адзіночнага ліку цвёрдай разнавіднасці назоўнікаў з асновай на **-а** поўны канчатак супрацьпастаўляецца кароткаму *(рукою : рукой)*, то назоўнікі

мяккай і зацвярдзелай разнавіднасцей, акрамя таго, супрацьпастаўляюцца ў залежнасці ад рэалізацыі галоснага пад націскам: **-ею(-эю) : -ою(-ёю)** (*зямле́ю, мяжэ́ю* : *зямлёю, мяжо́ю*). Націскны канчатак **-ею** выдзяляецца ў межах арэала распаўсюджання двухскладовага канчатка на поўдзень ад лініі Пружаны — Баранавічы — Навагрудак — Мінск — Чэрвень—Бабруйск—Лоеў. Гаворкі гэтай тэрыторыі захавалі зыходны тып канчатка былых асноў на **-а(-ја)** мяккай разнавіднасці.

Такім чынам, па аднаскладовасці і двухскладовасці канчаткаў творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду **а**-асноў выдзяляюцца паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні арэалы, а ў плане рэалізацыі галоснага элемента ў канчатку ў межах агульных супрацьпастаўленняў выдзяляюцца больш або менш прыватныя супрацьпастаўленні пераважна фанетычнага характару.

Адносіны двухскладовых і аднаскладовых канчаткаў творнага склону адзіночнага ліку з розным тыпам рэалізацыі націскнога галоснага назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а** пашырыліся на назоўнікі былых асноў на **-і** (*гусь, гразь, мыш, пуць*) [1]. У выніку структурнай агульнасці гэтых форм у розных класах назоўнікаў арэалы іх у асноўным сумяшчаюцца, але наглядаюцца і свае спецыфічныя адрозненні ў распаўсюджанні уніфікаваных форм (гл. стар. 79, 80).

Блізка ад разглядаемай праходзіць ізаглоса, якая размяжоўвае двухскладовы і аднаскладовы націскны і ненаціскны канчаткі творнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду: **-ою(-аю) : -ой(-ай)**: *маладо́ю, но́ваю* : *маладо́й, но́вай* (ДАБМ, карты № 125, 126).

Двухскладовы націскны канчатак кампактным арэалам выдзяляецца на паўднёвым усходзе. У залежнасці ад характару першага кампанента канчатка ўнутры арэала супрацьпастаўляюцца канчаткі **-ою** і **-ею(-эю)** (*маладо́ю* : *маладэ́ю*). Апошні мае месца ў брэсцкіх гаворках, на поўдзень ад лініі Пружаны — Пінск — да граніцы з УССР.

Трэба адзначыць, што ў паўднёва-заходніх гаворках амаль паўсюдна суіснуюць двухскладовы канчатак **-ою** і аднаскладовы **-ой**. На паўночным усходзе ад лініі Воранава — Мінск — Бабруйск — Рэчыца — Лоеў пануе аднаскладовы канчатак. Толькі спарадычна ў некалькіх населеных пунктах адзначан **-ою.**

Ізаглоса ненаціскнога канчатка выдзяляе таксама два арэалы: паўднёва-заходні, дзе пашырана поўная форма, і паўночна-ўсходні, дзе пашырана скарочаная форма.

---

[1] На гэту з'яву дадаткова складзены карты, якія захоўваюцца ў Архіве сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

У межах пашырэння двухскладовага канчатка супрацьпастаўляюцца формы ў залежнасці ад асаблівасцей ненаціскнога вакалізму. У гаворках з недысімілятыўным аканнем, г. зн. на поўдзень ад лініі Воранава — Мінск — Бабруйск — Рэчыца—Лоеў, пашыран канчатак **-аю** (*нóваю*), у окаючых гаворках **-ою** (*нóвою*); у гаворках пінска-брэсцкай тэрыторыі выступае некалькі фанетычных разнавіднасцей канчаткаў як вынік складанасці тут фанетычнай сістэмы: паўночней Брэста **-ую** (*нóвую*), на тэрыторыі ад Брэста да Пінска **-ыю** або **-ію** (*нóвыю, нóвію*), а таксама **-ею** (*нóвею*). Двухскладовы ненаціскны канчатак **-аю** суіснуе з **-ай** і толькі на Брэстчыне пераважае двухскладовы тып.

На тэрыторыі паўночна-ўсходніх гаворак распаўсюджан канчатак **-ай** і толькі дзе-нідзе зафіксаван **-аю** [85, *78—82;* 26, *91—95*].

Ізаглоса форм творнага склону адзіночнага ліку ўказальна-асабовага займенніка 3-й асобы жаночага роду акрэслівае супрацьпастаўленыя арэалы пашырэння варыянтаў канчатка — двухскладовага і аднаскладовага (ДАБМ, карта № 132).

На поўдні і захадзе ад ізаглосы пашырана двухскладовая форма творнага склону на **-у** [йóйу], [йéйу], якая тэрытарыяльна сумяшчаецца з двухскладовым канчаткам адпаведнага склону назоўнікаў жаночага роду **-ою** і **-ею**. На поўнач і захад ад ізаглосы пашырана аднаскладовая форма [йой].

У межах паўднёва-заходняга арэала ў залежнасці ад якасці каранёвага галоснага выдзяляецца некалькі арэалаў меншага памеру.

На паўднёвым усходзе ад лініі Гродна — Баранавічы — Мінск — Бабруйск —Рэчыца — Лоеў вызначаецца тэрыторыя, дзе кампактна размяркоўваецца форма [йéйу]. Форма [йóйу] не мае такога пашырэння. Больш паслядоўна яна прадстаўлена на захадзе ад лініі Ліда — па Нёману — Баранавічы — на ўсходзе ад Гродна. Для астатняй тэрыторыі паўднёва-заходняга масіву характэрна суіснаванне адзначаных тыпаў або пераважнае ўжыванне аднаго з іх. З усходу ад Чэрвеня, Бабруйска часцей сустракаецца толькі [йóйу]; на поўнач і поўдзень ад Слуцка выдзяляецца тэрыторыя з паралельным ужываннем [йóйу] і [йéйу]; на поўдзень ад Гродна, амаль на ўсёй тэрыторыі Брэсцкай і на поўдні Гомельскай абласцей адзначана форма [йéйу].

На тэрыторыі, дзе пашырана аднаскладовая форма творнага склону, выдзяляюцца два арэалы ў залежнасці ад рэалізацыі галоснага. У гаворках паўночнага захаду ад лініі Ліда — Мінск — Орша і да граніцы з РСФСР распаўсюджана форма [йей]; на ўсход ад лініі Орша — Барысаў — Чэрвень — Бабруйск — Лоеў — форма [йой]. Спарадычна тут адзначаны формы [йóйу] і [йéйу] [71, *182—184*].

Ізаглоса пашырэння формы з двухскладовым націскным канчаткам творнага склону прыналежных займеннікаў жаночага роду (*маёю, маею, тваёю, тваею, сваёю, сваею*) выдзяляе паўднёва-заходні арэал, які супрацьпастаўляецца арэалу аднаскладовай формы на **-ей**, **-ой**: на паўночны захад — *маей, тваей, сваей*, на паўночны ўсход — *маёй, тваёй, сваёй.*

Поўная форма на **-ою** мае неаднолькавы характар распаўсюджання на тэрыторыі паўднёва-заходняга масіву. Кампактны арэал яе з поўдня і ўсходу акрэсліваецца лініяй Гродна — Ліда — Навагрудак — Баранавічы. У брэсцкіх гаворках гэта форма адзначаецца спарадычна. На астатняй тэрыторыі яна сустракаецца непаслядоўна.

У межах пашырэння поўнай формы супрацьпастаўляюцца разнавіднасці націскнога канчатка **-ею** : **-ёю** ў залежнасці ад характару галоснага гука *маею, тваею, сваею : маёю, тваёю, сваёю.*

З пашырэннем двухскладовага канчатка назоўнікаў, прыметнікаў і прыналежных займеннікаў тэрытарыяльна супадае адпаведная форма ўказальнага займенніка [та́йа]. На паўднёвым захадзе пашыраны формы [то́йу], [те́йу]. Найбольшую тэрыторыю займае форма [то́йу], якая акрэсліваецца на поўдні лініяй Пружаны — Лунінец — да граніцы з УССР. Унутры паўднёва-заходняга арэала, прыблізна на тэрыторыі, дзе ўжываецца двухскладовы канчатак творнага склону назоўнікаў (*землею, мяжэю, гусею*), адзначана форма [тайе́йу]. Апошняя суіснуе з формай [то́йу], але на поўнач ад Брэста і паміж Гарынню і Убарцю выдзяляецца тэрыторыя, дзе адзінай з'яўляецца форма [те́йу]; у брэсцкіх гаворках пашырана форма [те́йу]. Паўднёва-заходняму арэалу, дзе пераважае двухскладовая форма, супрацьпастаўляецца паўночна-ўсходні арэал аднаскладовай формы: [той], [тей]. (Аб размяшчэнні варыянтаў з галосным [е] ў форме творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду назоўнікаў і прыналежных займеннікаў гл. стар. 79, 80).

Разгледжаны вышэй воранаўска-чэрвеньска-лоеўскі пучок, які аб'ядноўвае ізаглосы, што размяжоўваюць формы творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду назоўнікаў, поўных прыметнікаў і ўказальна-асабовага займенніка 3-й асобы, выдзяляе супрацьпастаўленыя арэалы — паўднёва-заходні і мсціслаўска-магілёўска-чачэрскі, дзе пашыран двухскладовы канчатак у назоўніках і прыметніках і форма займенніка [йо́йу], [йе́йу], а таксама паўночна-ўсходні арэал, дзе пашыран аднаскладовы канчатак у назоўніках і прыметніках і формы займенніка [йой], [йей].

Поўная форма творнага склону назоўнікаў і прыметнікаў жаночага роду, якая была пануючай у старажытныя часы, па сведчанню лінгвагеаграфічных даных, значна ўступае

скарочанай. Так, на карце № 69 ДАБМ націскная форма з канчаткам **-ою** назоўнікаў жаночага роду адзначана ў 515 нас. пп., у той час як форма на **-ой**—у 650, на карце № 71 ненаціскная форма на **-аю** (**-ою**, **-ую**, **-ыю**) адзначана ў 427 нас. пп., форма на **-ай** — у 627.

Суадноснасць форм двухскладовага і аднаскладовага канчаткаў прыметнікаў яскрава ілюструюць карты № 125 і 126 ДАБМ. На карце № 125 націскная форма творнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду на **-ою** зафіксавана ў 416 нас. пп., форма на **-ой** — у 620; на карце № 126 ненаціскная форма на **-аю(-ою, -ую)** зафіксавана ў 420 нас. пп., форма прыметнікаў жаночага роду на **-ай (-уй, -эй)** — у 675.

Тое ж трэба сказаць і аб распаўсюджанні форм творнага склону адзіночнага ліку ўказальна-асабовага займенніка жаночага роду 3-й асобы. Найбольшае пашырэнне мае скарочаная форма [*йой*], [*йей*], якая паступова пранікае на тэрыторыю паўднёва-заходніх гаворак.

Ізаглоса, якая размяжоўвае пашыраныя на паўднёвым захадзе двухскладовыя канчаткі **-ое(-оі)**, **-ае(-аі)** і на паўночным усходзе аднаскладовыя канчаткі **-ой(-ай)** роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду, на адрэзку Мінск—Лоеў праходзіць некалькі паўднёвей, чым разгледжаныя ізаглосы воранаўска-чэрвеньска-лоеўскага пучка паўночна-ўсходняга напрамку.

Супрацьпастаўляюцца арэалы з розным характарам канчатка: з двухскладовым (*маладóе, нóвае, маладóі, нóваі*) на паўднёвым захадзе і аднаскладовым (*маладóй, нóвай*) на паўночным усходзе.

У межах пашырэння двухскладовага канчатка супрацьпастаўляюцца формы на **-ое(-ае)** : **-оі** ў плане фаналагічнага складу канчаткаў. Тэрытарыяльнае размеркаванне іх адпавядае размеркаванню [е] і [и] на месцы «ě» (ДАБМ, карта № 34), г. зн. на брэсцка-пінскай ускраіне пашырана форма **-оі(-аі)** (*маладóі, нóваі*), на астатняй паўднёва-заходняй тэрыторыі **-ое(-ае)** (*маладóе, нóвае*). Побач з разглядаемымі формамі, якія пераважаюць на ўсім паўднёва-заходнім абшары, непаслядоўна адзначаецца форма з аднаскладовым канчаткам **-ой** (*маладóй*), што зайшла сюды з паўночнага ўсходу (ДАБМ, карты № 119, 120).

У склад воранаўска-чэрвеньска-лоеўскага пучка ўваходзяць таксама ізаглосы адной канфігурацыі, якія супрацьпастаўляюць арэалы ненаціскнога канчатка меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў мужчынскага і ніякага роду і ненаціскнога канчатка давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў жаночага роду.

Форма меснага склону на **-ум** (фанетычны варыянт канчатка **-ом** [1]) пераважае на паўднёвым усходзе і каля Клімавіч (*у жоўтум, у нашум*) і ўжываецца ў пазіцыі не пад націскам пры ўсіх відах асновы [85, *82—87*].

Найбольшая канцэнтрацыя форм на **-ум** адзначана на тэрыторыі паміж Гродна і Баранавічамі і вакол Слуцка. У брэсцка-пінскіх гаворках, дзе пераважае канчатак **-ому** (*у жоўтому*), канчатак **-ум** сустракаецца рэдка. Дзе-нідзе форма на **-ум** сустракаецца на супрацьлеглай тэрыторыі, часцей на паўночным захадзе ад Полацка, і спарадычна ў астатніх паўночна-ўсходніх гаворках пры пераважным пашырэнні формы на **-ым** (*у жоўтым, у гэтым*). Апошняя форма пашыралася і на ўсе паўднёва-заходнія гаворкі (ДАБМ, карта № 118).

З арэалам формы меснага склону мужчынскага роду на **-ум** сумяшчаецца арэал формы давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў жаночага роду з канчаткам **-уй**. Апошні ўзнік фанетычным шляхам з канчаткам **-ой** [64, *119*]. Форма на **-уй** ужываецца не пад націскам і характэрна для ўсіх відаў асновы (*новуй, у гетуй, у летнюй, у харошуй*).

Аднак у параўнанні з папярэдняй гэта форма мае некалькі іншы характар пашырэння: яна больш кампактна групуецца паміж Навагрудкам і Баранавічамі, вакол Слуцка і Мазыра, каля Брэста [2]. На астатняй паўднёва-заходняй тэрыторыі форма на **-уй** сустракаецца рэдка. Распаўсюджаная на паўночным усходзе форма на **-ай**, якая супрацьпастаўляецца форме на **-уй**, пераважае на паўднёвым захадзе.

На ўсход ад Мсціслаўля, Магілёва і Чачэрска выдзяляецца невялікая тэрыторыя, для гаворак якой характэрна суіснаванне двухскладовых і аднаскладовых канчаткаў назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў.

Назоўнікі жаночага роду з асновай на **-а(-ја)** ў творным склоне адзіночнага ліку пасля цвёрдага зычнага пад націскам ўжываюцца з канчаткам **-ою** (*сцяною, вадою*). З ненаціскных канчаткаў большае пашырэнне мае **-ыю(-ъю)**: *хатыю* (*хатъю*), які ў некаторых гаворках суіснуе з аднаскладовым канчаткам **-ый(-ъй)**: *хатыю* (*хатъю*) і *хатый* (*хатъй*). Тут жа сустракаецца ненаціскны канчатак **-уй** замест **-ой:** *хатуй* (ДАБМ, карта № 71), з'яўленне якога звязана з уплывам сярэднерускіх гаворак, дзе ён даволі пашыран [119, *68*].

---

[1] У лінгвістычнай літаратуры гэты канчатак разглядаецца як вынік фанетычных змен. А. А. Шахматаў выводзіць **у** з дыфтонга **о͡у**, які ўзнік у выніку падаўжэння **о** ў канчатку **-омь** пасля адпадзення рэдуцыраванага ў канцы слова [143, *97*]; аб гэтым гл. таксама ў Я. Ф. Карскага [64, *119*].

[2] Відаць, з'яўленне **у** на месцы **о** ў канчатку **-уй** звязана з асаблівасцю вакалізму — з уканнем.

Суіснуюць аднаскладовыя і двухскладовыя канчаткі назоўнікаў на мяккі і зацвярдзелы зычны. Тут адзначаюцца канчаткі **-ой(-ёй)**, **-ою(-ёю)** пад націскам (*зямлёй, мяжой* і *зямлёю, мяжóю*) і **-ій(-ьй)**, **-ію(-ью)** не пад націскам (*віш*[*н'ий*], *віш*[*н'ьй*] і *віш*[*н'ийу*], *віш*[*н'ьйу*]).

Прыметнікі жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку ў разглядаемых гаворках адрозніваюцца таксама націскнымі канчаткамі **-ою**, **-ой** і рэдка **-эй** (*маладóю, маладóй, маладэ́й*) і фанетычнымі варыянтамі не пад націскам пры наяўнасці поўных і скарочаных форм **-аю**, **-ую**, **-ай**, **-уй** (*нóваю, нóвую, нóвай, нóвуй*).

З форм творнага склону адзіночнага ліку ўказальна-асабовага займенніка 3-й асобы жаночага роду тут пашырана [йóйу]; форма [иейу] адзначана ў 5 нас. пп.; для некаторых гаворак характэрна форма [йой].

Прыналежныя займеннікі жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку часцей ужываюцца тут з двухскладовым націскным канчаткам (*маёю, тваёю, сваёю*), радзей адзначаюцца формы на **-ей** (*маéй, тваéй, сваéй*).

Для ўказальнага займенніка жаночага роду [тáйа] характэрны формы [тóйу] і [той], якія суіснуюць у гэтых гаворках. Формы [тéйу] і [тей] сустракаюцца рэдка.

Прыметнікі ў родным склоне адзіночнага ліку характарызуюцца канчаткамі **-ые(-ыя)** [1] і **-эе**(*маладые, маладыя* і *маладэе*). Ізаглоса канчатка **-ые(-ыя)** праходзіць па лініі Орша — на ўсход ад Чэрвеня — каля Бабруйска і Гомеля і акрэслівае, такім чынам, найбольшую тэрыторыю ў параўнанні з тэрыторыямі пашырэння іншых з'яў усходняй лакалізацыі.

Формы на **-ые(-ыя)**, **-іе(-ія)**, якія, відаць, генетычна звязаны з формамі старажытнай пары, шырока прадстаўлены ў рускіх гаворках [72, *152, 153;* 119, *123*].

Канчатак **-эе**, адзначаны ў гаворках паміж Гомелем і Клімавічамі, ужываецца выключна пад націскам (*маладэ́е*). Тут распаўсюджан аднаскладовы канчатак назоўнага склону адзіночнага ліку **-ой(-ай)**, а таксама націскны канчатак **-эй** прыметнікаў мужчынскага роду (*маладэ́й*), які лакалізуецца ў віцебскіх гаворках, і канчатак **-ый** не пад націскам (*нóвый*), што пашыран на ўсходзе ў магілёўска-гомельскіх гаворках.

Прыметнікам і займеннікам жаночага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку разглядаемых гаворак уласціва паралельнае ўжыванне канчаткаў **-ай** і **-уй**. Разам з тым у многіх выпадках зафіксаван адзін канчатак **-ай**.

Форма меснага склону адзіночнага ліку на **-ум** прыметнікаў і займеннікаў мужчынскага і ніякага роду, пашыраная на паўднёва-заходнім масіве, на ўсходняй тэрыторыі адзначана

---

[1] Аб паходжанні формы на **-ые(-ыі)** гл. [26, *27*; 85, *100*].

толькі ў 9 нас. пп., у астатніх гаворках ужываецца канчатак **-ым**.

Разгледжаны матэрыял паказвае, што ў гаворках мсціслаўска-магілёўска-чачэрскага арэала двухскладовыя і аднаскладовыя канчаткі назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў вызначаюцца разнастайнасцю фанетычных варыянтаў. Гэта звязана з кантамінацыяй асаблівасцей паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх гаворак.

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎНОЧНАГА НАПРАМКУ

### Лельчыцка-мазырска-брагінскі пучок
(карта № 22)

Рад ізаглос рознага моўнага ўзроўню (фаналагічнага, марфалагічнага, лексічнага, словаўтваральнага) аб'ядноўваецца ў пучкі, якія выдзяляюць паўднёвую тэрыторыю Беларусі.

Даючы агульную характарыстыку моўнай структуры паўднёвых гаворак Беларусі, неабходна адзначыць, што, з аднаго боку, рад моўных рыс разглядаемай тэрыторыі, супрацьпастаўляецца суадносным з'явам астатняй тэрыторыі Беларусі, з другога боку, наглядаюцца супрацьпастаўленні ў межах паўднёва-заходняга масіву.

Многія моўныя рысы паўднёвай лакалізацыі выступаюць у чыстым выглядзе, з'яўляюцца адзіна магчымымі варыянтамі для дадзенай тэрыторыі, другія як бы накладваюцца на варыянты, агульныя для ўсяго паўднёва-заходняга дыялекту, што прыводзіць да паралельнага або спарадычнага ўжывання той ці іншай формы.

У адных выпадках на мяжы арэалаў выдзяляецца больш шырокая паласа сумяшчэння супрацьпастаўленых з'яў, у другіх яна нязначная.

На поўдні Беларусі па раду моўных рыс выдзяляецца невялікая тэрыторыя ў раёне ніжняга цячэння Прыпяці. Праўда, кожная ізаглоса мае тут сваю канфігурацыю і аб'ядноўваецца ў лельчыцка-мазырска-брагінскі пучок толькі ўмоўна. На захадзе гаворкі гэтай тэрыторыі займаюць басейн Убарці, на поўначы абмяжоўваюцца Прыпяццю, а на ўсходзе — Дняпром. Адны моўныя з'явы займаюць тут большую, другія меншую тэрыторыю.

Адна з ізаглос выдзяляе гаворкі Камарынскага, Брагінскага, Хойніцкага, Нараўлянскага, Ельскага, Мазырскага, паўднёвай часткі Лоеўскага і Калінкавіцкага раёнаў, дзе ўжываецца слова *валачы́ць* у значэнні 'баранаваць'. У заходняй частцы тэрыторыі слова *валачы́ць* суіснуе з *баранава́ць*. За межамі яе *валачы́ць* у значэнні 'баранаваць' характарызуе

гаворкі паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 266).

У гаворцы некаторых населеных пунктаў, якія знаходзяцца ў басейне Прыпяці, пачынаючы ад Петрыкава да граніцы з УССР, пашырана слова *крапіць* у значэнні 'латаць', якое супрацьпастаўляецца словам *лáтаць* (*латáць*) і *лáпіць* (ДАБМ, карта № 323).

У гаворках Камарынскага, Нараўлянскага, Ельскага, паўднёвай часткі Лельчыцкага і часткова Мазырскага раёнаў замест спецыяльных падзыўных для каровы выкарыстоўваецца яе мянушка (ДАБМ, карта № 304). Зрэдку так падзываюць кароў у населеных пунктах, якія размешчаны каля Гомеля, ва ўсходняй частцы Брэсцкай вобласці, каля Мінска.

Гаворкі ў раёне ніжняга цячэння Прыпяці характарызуюцца ўжываннем падзыўных *цю-цю-цю* (для курэй), як і гаворкі заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці. У суседніх гаворках выкарыстоўваюцца падзыўныя *ціп-ціп-ціп* (ДАБМ, карта № 306).

У гаворках рада раёнаў Гомельскай вобласці (Нараўлянскі, Мазырскі, Ельскі, усходняя частка Лельчыцкага і Петрыкаўскага, паўднёвая частка Калінкавіцкага і Капаткевіцкага) ужываецца слова *фацыят* у значэнні 'франтон', якое пашырана ў гаворках Піншчыны.

На поўдзень ад ізаглосы, якая праходзіць прыкладна па Убарці ад граніцы з УССР, а затым ідзе на паўднёвы ўсход па Прыпяці, малая ўкладка снапоў у полі мае назвы *стáўка, ставóк, ставéц, стаўкí,* якія супрацьпастаўляюцца слову *кýчка* на захадзе і поўначы ад разглядаемага арэала, а на ўсходзе— слову *бáбка* (ДАБМ, карта № 286).

Для гаворак Брагінскага, Хойніцкага, Нараўлянскага і некаторых населеных пунктаў Лельчыцкага і Лоеўскага раёнаў характэрна наяўнасць [е] ў зваротнай часціцы (*баю́се, спёксе, купáлісе*). За межамі арэала [е] ў зваротнай часціцы адзначана спарадычна ў некаторых населеных пунктах Брэстчыны і Случчыны (ДАБМ, карта № 164). У некаторых населеных пунктах паўднёвай часткі Гомельскай вобласці зафіксавана [е] на месцы [а] ў слове *зáўтра* (*зáўтре, зáўтр'е*).

## Лунінецка-жыткавіцка-мазырскі пучок
**(карта № 23)**

На крайнім паўднёвым усходзе Беларусі некалькі ізаглос аб'ядноўваюцца ў лунінецка-жыткавіцка-мазырскі пучок. Умоўна лінію гэтага пучка можна правесці па Прыпяці (пачынаючы на ўсходзе ад граніцы з УССР) да Мазыра, затым на захад праз Капаткевічы і далей у напрамку да Лунінца.

Адны ізаглосы паварочваюць на поўдзень у раёне Лунінца, другія ідуць далей на захад і захопліваюць тэрыторыю Пінскага раёна. Першы тып выдзяляе арэал пашырэння 3-й асобы множнага ліку з [е] ў канчатку дзеясловаў II спражэння і арэал наяўнасці [о] ў канчатку 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння.

Ізаглоса вымаўлення [е] ў канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння адрозніваецца ад астатніх ізаглос пучка тым, што ва ўсходняй частцы яна больш адхіляецца ў напрамку паўночнага ўсходу, даходзіць да Дняпра прыкладна ў раёне Рэчыцы і толькі тады паварочвае на захад, уліваючыся ў пучок ізаглос у раёне Мазыра.

На поўдзень ад ізаглосы першага тыпу знаходзяцца гаворкі, у якіх ненаціскны канчатак 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння мае варыянт **-ець** (*хóдзець, нóсець, пýсцець, кóрмець*). За межамі гэтай ізаглосы такі канчатак адзначан толькі ў некалькіх населеных пунктах паўднёвых раёнаў Мінскай вобласці, а таксама спарадычна сустракаецца ў Кобрынскім, Драгічынскім і Іванаўскім раёнах Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 157).

Гаворкі тэрыторыі, якая выдзяляецца лунінецка-жыткавіцка-мазырскім пучком, характарызуюцца яшчэ адной рысай у дзеяслоўных формах: на месцы ненаціскнога [е] ў канчатку 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння вымаўляецца [о] (*м'éл'ом, сы́пл'ом, знáйом*). Аднак гэта форма вельмі рэдка выступае як адзіны варыянт на дадзенай тэрыторыі. Звычайна побач з формамі тыпу *м'éл'ом* ужываюцца формы з ненаціскным [е] ў канчатку (*м'éл'ем;* ДАБМ, карта № 151).

Для гаворак разглядаемай тэрыторыі характэрна і наяўнасць галоснага **е(э)** ў канчатку назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду. Прычым тут маюць месца як поўныя, так і сцягнутыя формы: *маладэ́е, малэ́е, старэ́е* і *маладэ́, малэ́, старэ́.* У заходняй частцы арэала (на захад ад Гарыні) у асноўным пашырана поўная форма, на ўсход ад Гарыні пераважае сцягнутая форма, хоць часта паралельна, асабліва паміж Убарцю і Прыпяццю, а таксама на левабярэжжы Прыпяці, паміж Случчу і Пціччу, ужываецца поўная форма. Гэтыя формы супрацьпастаўляюцца формам з канчаткам **-ое**: *маладóе, малóе* (ДАБМ, карта № 114).

У галіне лексікі гаворкі тэрыторыі, якую выдзяляе лунінецка-жыткавіцка-мазырскі пучок, характарызуецца ўжываннем словаформы *стóля* адпаведна літаратурнаму *столь.* Слова *столь* ужываецца амаль ва ўсіх гаворках Беларусі (за выключэннем гаворак заходняй часткі Брэсцкай і некаторых раёнаў Гродзенскай абласцей, дзе адзначаюцца лексемы *повáл, пакóт, пацёс* і інш.; ДАБМ, карта № 228).

У гаворках Беларусі вельмі часта ў якасці паралельнага варыянта да слова *столь* ужываецца *паталóк,* якое, відаць, пранікла ў беларускія гаворкі з рускай мовы.

У многіх населеных пунктах разглядаемай тэрыторыі сцяблы і лісце бульбы маюць назву з коранем *гіч-* (*гіч, гічáнік, гічáнне*; у адзінкавых выпадках *гічнік, гічáльнік, гічáрнік*). Асноўнай жа назвай на гэтай тэрыторыі з'яўляецца слова *картафлянік,* якое распаўсюджана ў гаворках паўднёвай часткі Мінскай і заходняй часткі Гродзенскай абласцей (ДАБМ, карта № 281).

## Давыд-гарадоцка-слуцка-мазырскі пучок
**(карта № 24)**

Некаторыя моўныя рысы паўднёвай часткі Беларусі акрэсліваюцца ізаглосамі, што групуюцца ў пучок, умоўную лінію якога можна правесці прыкладна па лініі Петрыкаў — Слуцк — Глуск — Мазыр — Ельск.

У гаворках гэтай тэрыторыі назоўнікі жаночага роду на **-а** ўжываюцца з памяншальным суфіксам **-іцк-***а*: *паліца — паліцка, рукавіца — рукавіцка, сястрá — сястрыцка, вадá — вадзіцка.* Відаць, у гэтых гаворках мае месца своеасаблівы тып утварэння, пры якім суфіксальнае [ц] не чаргуецца з [ч] у адрозненне ад літаратурнай мовы, дзе наглядаюцца формы тыпу *рукавічка, сястрычка.* Аднак у словах тыпу *тóрбачка, качáлачка* зафіксавана толькі [ч]. Формы з суфіксам **-іцк-***а* пашыраны і на тэрыторыі паўночных раёнаў Віцебскай вобласці.

Для выдзеленай групы гаворак характэрна ўжыванне дзеепрыметніка залежнага стану ад дзеяслова *замыкáць* (*замыканы*). На паўночным захадзе гэтай форме супрацьпастаўляецца *замкнёны,* на паўночным усходзе — *замкнýты.* Зрэдку гэтыя формы адзначаюцца і на тэрыторыі пашырэння формы *замыканы* (ДАБМ, карта № 180).

У галіне лексікі гаворкі, якія выдзяляюцца давыд-гарадоцка-слуцка-мазырскім пучком, характарызуюцца ўжываннем слова *лучóк*[1] у значэнні 'ручка касы'. Спарадычна гэта слова адзначаецца ў гаворках Гродзенскай і Магілёўскай абласцей. У гаворках на захад ад разглядаемага пучка пашырана слова *кýлька,* на поўнач — *пупóк,* на ўсход — *рýчка* (ДАБМ, карта № 260). У якасці падзыўных для каровы выкарыстоўваюцца словы *псéйка-псéйка* і зрэдку ў цэнтральнай частцы арэала *псе-псе* (ДАБМ, карта № 304).

---

[1] Рэалія атрымала назву па форме.

## Пінска-слуцка-петрыкаўскі пучок

**(карта № 25)**

Ізаглосы пінска-слуцка-петрыкаўскага пучка акрэсліваюцца лініяй, якая праходзіць па заходняй граніцы Пінскага раёна, па Ясельдзе да Бярозы, затым паварочвае на паўночны ўсход да Баранавіч і Слуцка і апускаецца на поўдзень.

Характэрнай рысай гаворак гэтай часткі тэрыторыі ў галіне лексікі з'яўляецца пашырэнне слоў *чапляя́* і *я́ўкае* (аб кошцы) (ДАБМ, карты № 251, 301).

Крыху іншую тэрыторыю выдзяляюць ізаглосы пашырэння формы назоўна-вінавальнага склону з аднаскладовым канчаткам прыметнікаў жаночага роду (*малада́, маладу́*). Аднак гэтыя формы напластоўваюцца на формы з двухскладовым канчаткам (*малада́я, маладу́ю*), якія характарызуюць гаворкі астатняй тэрыторыі Беларусі. Ад першых дзвюх ізаглос яны адрозніваюцца тым, што ў паўночна-заходняй частцы менш адхілены на захад, а на ўсходзе, пачынаючы ад Глуска, паступова апускаюцца на поўдзень да Мазыра, затым адхіляюцца на ўсход і ідуць да Дняпра.

## Пружанска-салігорска-брагінскі пучок

**(карта № 26)**

Для гаворак, якія выдзяляюцца пружанска-салігорска-брагінскім пучком, характэрна захаванне ненаціскнога [е] ў канчатку творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на мяккі зычны (*ві́шнею, пе́снею, ка́плею, ба́нею*) [1] і пашырэнне слова *сцёпка* ў значэнні 'будынак для захавання бульбы, гародніны' (будуецца на паверхні зямлі, часта з печкай). У раёне паміж Лагішынам і Жыткавічамі гэтыя ізаглосы адхіляюцца ад асноўнага пучка больш на поўнач, а ва ўсходняй частцы заходзяць за Прыпяць, да Дняпра.

Побач са словам *сцёпка* адзначаюцца яго фанетычныя варыянты (*усцёпка, высцёпка, вусцёпка, ісцёпка, істэ́бка, стэ́пка*) [2].

За межамі пружанска-салігорска-брагінскага пучка найбольш распаўсюджана слова *сто́пка*; пашыраны таксама словы *варыу́ня́* і *камо́рка* (ДАБМ, карта № 240).

---

[1] У брэсцка-пінскіх гаворках такія формы сустракаюцца радзей побач з формамі на **-ію** (*ві́шнію*) і на **-ёю** (*ві́шнёю*).

[2] У паўднёва-заходніх раёнах Брэсцкай вобласці гэтыя назвы адсутнічаюць у сувязі з тым, што няма такой пабудовы.

## Пружанска-слуцка-рэчыцкі пучок
### (карта № 27)

Ізаглосы, якія на поўдні Беларусі аб'ядноўваюцца ў пружанска-слуцка-рэчыцкі пучок, адлюстроўваюць з'явы фанетычнага ўзроўню (ненаціскнога і націскнога вакалізму, кансанантызму), а таксама марфалагічныя і лексічныя з'явы. У заходняй частцы тэрыторыі ізаглосы гэтага пучка групуюцца ў раёне Пружан, у цэнтральнай частцы яны паварочваюць на поўнач і праходзяць прыкладна праз Слуцк або крыху вышэй, затым паступова апускаюцца на поўдзень і ва ўсходняй частцы тэрыторыі канцэнтруюцца ў раёне Гомеля. Такім чынам, умоўная лінія гэтага пучка праходзіць праз Пружаны — Івацэвічы — Слуцк — Глуск — Рэчыцу — Гомель.

У гаворках, размешчаных на поўдзень ад гэтай лініі, галосны [а] ў корані слова пасля мяккіх зычных у ненаціскной пазіцыі рэалізуецца ў [е] (*зáйец, м'éс'ец, пáм'ец', пóйес, дз'éв'ец', дз'éс'ец'* і інш.).

Тут жа спарадычна адзначаецца вымаўленне галоснага, сярэдняга паміж [а] і [е] (*зáйа$^е$ц, дз'éс'е$^а$ц, пóйе$^а$с*). У гаворках паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці побач з [е] ў паслянаціскных складах наглядаецца [ь], [и] (*пáм'ьц', зáйиц*). Але рэалізацыя ненаціскнога [а] ў [е] або [ь], [и] прадстаўляе ў пэўнай ступені рассеяную з'яву, якая адзначаецца побач з аднаўленнем [а] (*зáйац, пáм'ац', дз'éс'ац'*).

На гэтай жа тэрыторыі адзначана захаванне [е] ў канчатку 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння з асновай на мяккі зычны: *м'éл'ем(о), сы́пл'ем(о)*. Спарадычна такія формы захаваліся і на астатняй тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту Беларусі. Што датычыцца гаворак паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці, то ў іх часта ўжываюцца формы 1-й асобы множнага ліку з канчаткам **-ім(о)**, **-ым(о)** (апошнія ў тых гаворках, дзе маюць месца цвёрдыя зычныя перад галоснымі пярэдняга рада): *м'éл'имо, сы́пл'имо, сы́пл'им* і *м'éлымо, сы́плымо.*

У заходніх і паўднёвых раёнах Гомельскай вобласці ў канчатку 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння з мяккай асновай вымаўляецца ['о] (*м'éл'ом, сы́пл'ом*). За межамі пружанска-слуцка-рэчыцкага пучка ў канчатку разглядаемых дзеяслоўных форм у залежнасці ад тыпу якання адзначаецца [а] або [и] (ДАБМ, карта № 151).

Для гаворак акрэсленай тэрыторыі характэрна вымаўленне [у] на месцы націскнога [ы] ў розных формах дзеяслова *быць* (*буў, бýўшы, бýты*; ДАБМ, карта № 40). Замена [ы] на [у] ў формах дзеяслова *быць* адзначаецца і ў ненаціскной пазіцыі (*булá, бул'í, було́*; ДАБМ, карта № 23).

На граніцы з УССР (Столінскі, Лельчыцкі і Нараўлянскі р-ны) побач з пераходам [ы] ў [у] наглядаецца рэалізацыя [ы] ў [и] (*б'ила́, б'иу́*).

На поўдзень ад лініі Ружаны — Баранавічы — Слуцк — Глуск — Рэчыца — Церахоўка размяшчаюцца гаворкі, для якіх характэрна ацвярдзенне губных [б], [п], [в] і з'яўленне [j] перад [а] (*пйац', вйа́н'е*). На поўнач ад гэтай лініі захоўваюцца мяккія губныя (*п'ац', в'а́н'е*).

Амаль на ўсёй тэрыторыі пашырэння цвёрдых губных з наступным [j] спарадычна адзначаецца ўжыванне варыянта з мяккім губным без [j]. Прычым на стыку гаворак, у якіх цвёрдыя-мяккія адрозніваюцца перад [а] і ў якіх перад [а] вымаўляюцца цвёрды губны і [j], назіраецца суіснаванне абодвух варыянтаў. Больш на поўдзень варыянт з мяккім губным ужываецца радзей (ДАБМ, карта № 50).

Гаворкі гэтай жа тэрыторыі характарызуюцца спалучэннем цвёрдага губнога [м] з [j] (*мйа́са, мйа́та, мйац'*) або з [н] (*мн'а́со, мн'ац', мн'а́та*) у пазіцыі перад [а]. Варыянт са спалучэннем [мн'] пашыран на тэрыторыі паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці (ДАБМ, карта № 51).

Ізаглоса, якая размяжоўвае гаворкі паўднёвай тэрыторыі, дзе зафіксавана форма 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу нетэматычнага дзеяслова *ядзя́ць*, і гаворкі астатняй тэрыторыі, дзе пашырана форма *яду́ць*, адхіляецца ад разглядаемага пучка ў раёне Гомеля ў паўночным напрамку.

Акрамя кампактнага арэала формы *ядзя́ць*, які размяшчаецца на поўдзень ад лініі Пружаны — Івацэвічы — Слуцк — Глуск — Чачэрск, форма *ядзя́ць* зрэдку сустракаецца на астатняй тэрыторыі беларускіх гаворак, што, відаць, тлумачыцца ўплывам нармалізаванай формы рускай мовы на беларускія гаворкі. У Іванаўскім, Бярозаўскім, Кобрынскім і Драгічынскім раёнах Брэсцкай вобласці ў форме 3-й асобы множнага ліку нетэматычнага дзеяслова *ядзя́ць* назіраецца замена націскнога [а] на [е] (*йедз'е́ц'*). У сваю чаргу форма *яду́ць* часта пранікае на тэрыторыю пашырэння формы *ядзя́ць*. Асабліва часта суіснаванне гэтых форм наглядаецца ў гаворках паўночнай часткі Гомельскай і паўднёвай часткі Мінскай абласцей (ДАБМ, карта № 162).

Пружанска-слуцка-рэчыцкі пучок уключае ізаглосу, якая адлюстроўвае з'яву лексічнага ўзроўню. На поўдзень ад ізаглосы пашырана лексема *сашні́к* як назва лемеша ў плузе. Праўда, зрэдку ў якасці паралельнага або спарадычнага варыянта ўжываюцца словы *ле́мех, ляме́х* (Гомельская вобл.) і *ляме́ш* (Высокаўскі і Камянецкі р-ны Брэсцкай вобл.). Такія лексічныя варыянты характарызуюць беларускія гаворкі паўночнага ўсходу. У заходняй групе гаворак пашырана слова *наро́г* (ДАБМ, карта № 255).

## Пружанска-гомельскі пучок
(карта № 28)

Адметнай рысай пружанска-гомельскага пучка з'яўляецца тое, што ізаглосы, якія ўваходзяць у гэты пучок, выключаюць з тэрыторыі, якая знаходзіцца на поўдзень ад іх, гаворкі заходніх або паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці.

Для гаворак, якія абмяжоўваюцца гэтым пучком, характэрна звычайна вымаўленне гука [j] ў слове *авёс (авйóс, ав'йóс, аўйóс)*.

Аднак у многіх населеных пунктах разглядаемай тэрыторыі адзначаецца ўжыванне паралельнай формы з мяккім губным без [j] (*ав'óс*), якая ў асноўным характарызуе беларускія гаворкі па-за межамі пружанска-гомельскага пучка (ДАБМ, карта № 29). У гаворках паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці адзначаецца цвёрдае вымаўленне губнога [в] перад [е] (*овéс*). На граніцы з Чарнігаўшчынай, а таксама ў Свіслацкім і Зельвенскім раёнах Гродзенскай і Плешчаніцкім, Валожынскім і Маладзечанскім раёнах Мінскай абласцей у той жа пазіцыі вымаўляецца мяккі гук [в] (*ав'éс*).

Характэрнай асаблівасцю размяшчэння ізаглосы, якая супрацьпастаўляе варыянты *м'ед* і *м'од,* з'яўляецца яе значнае аддаленне ад пучка на поўдзень. Такім чынам, паўночная мяжа арэала варыянтаў *м'ед* і *мед* акрэсліваецца лініяй Пружаны — Лунінец — Капаткевічы — Калінкавічы — Гомель. Прычым на заходняй частцы тэрыторыі пашыран варыянт з цвёрдым губным (*мед*), а на ўсходняй — варыянт з мяккім губным (*м'ед*). У гаворках на поўнач ад указанай лініі ўжываецца варыянт з галосным [о] і папярэднім мяккім зычным (*м'од*), і толькі каля Слуцка пасля [м] вымаўляецца [j] (*мйод*; ДАБМ, карта № 30). У крайніх заходніх раёнах Брэсцкай вобласці пашыран варыянт *м'ид.*

Ізаглоса, якая акрэслівае арэал ужывання адноснага прыметніка з суфіксам **-яч-** ад назоўніка *карóва* (*карóвяча, карóўяча*), як і дзве папярэднія ізаглосы, адмяжоўвае гаворкі паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці, дзе ў асноўным пашырана словаформа з суфіксам **-ьj-** (*карóўя*), як і ў гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі. Праўда, каля Слуцка, Баранавіч і Бабруйска, а таксама ў радзе населеных пунктаў Гродзенскай вобласці і іншых месцах Беларусі адзначана форма *карóвіна,* а ва ўсходніх раёнах Магілёўскай і Віцебскай абласцей прадстаўлена форма *карóўскае* (ДАБМ, карта № 182).

## Свіслацка-бабруйска-рэчыцкі пучок
**(карта № 29)**

Па сваёй канфігурацыі свіслацка-бабруйска-рэчыцкі пучок выдзяляецца наступным: ізаглосы яго праходзяць паабапал лініі Свіслач — Слонім — Баранавічы — Навагрудак — на поўдзень ад Мінска і далей праз Чэрвень, Бабруйск, заходней Гомеля апускаюцца да граніцы з УССР.

Увогуле ізаглосы гэтага пучка супадаюць па сваёй канфігурацыі. Аднак на ўсім працягу да Бабруйска яны адступаюць адна ад адной то на поўдзень, то на поўнач і ўтвараюць шматлікія выступы. Найбольш цеснае перапляценне іх мае месца на адрэзку ад Бабруйска да Рэчыцы.

Ізаглосамі дадзенага пучка супрацьпастаўляюцца формы творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду назоўнікаў і прыналежных займеннікаў, назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду, формы 3-й асобы ад дзеяслова *быць*.

На поўдзень ад лініі Свіслач — Баранавічы — Мінск — Лоеў пашыран канчатак творнага склону **-ею (-эю)**. Ён уласцівы назоўнікам жаночага роду на **-а** з мяккай і зацвярдзелай асновай (*зямлéю, мяжэ́ю, душэ́ю*), назоўнікам жаночага і мужчынскага роду былых асноў на **-і** (*гусéю, грязéю, мышэ́ю, пуцéю*) і прыналежным займеннікам жаночага роду (*маéю, тваéю, сваéю*).

Ізаглоса двухскладовага канчатка **-ею** назоўнікаў жаночага роду на **-а** з мяккай і зацвярдзелай асновай акрэслівае арэал кампактнага пашырэння гэтай з'явы. Разам з тым канчатак **-ею** тут амаль паўсюдна суіснуе з канчаткам **-ою**, а ў гаворках паміж Бярэзінай і Прыпяццю яшчэ і з аднаскладовым канчаткам **-ой**.

Блізкая да папярэдняй па сваёй канфігурацыі ізаглоса двухскладовага канчатка **-ею (-эю)** назоўнікаў асноў на **-і** (*гусéю, гразéю, мышэ́ю, пуцéю*). У творным склоне адзіночнага ліку, як і назоўнікі жаночага роду на **-а**, яны ў большасці гаворак выдзеленага арэала ўжываюцца і з канчаткам **-ею** і з канчаткам **-ою** (гл. стар. 65). У гаворках суседніх арэалаў распаўсюджаны варыянты: на захадзе назоўнікам на **-а** (*зямля́, мяжа́*) уласцівы поўны націскны канчатак **-ою** (*зямлёю, мяжóю*), на паўночным усходзе — аднаскладовы канчатак **-ой** (*зямлёй, мяжóй, душóй*); назоўнікі асноў на **-і** (*гусь, мыш*) маюць на захадзе канчатак **-аю** (*гýсяю, мы́шаю*), на паўночным захадзе — аднаскладовы канчатак **-ю** (*гýс'ю, мы́ш'ю*), на поўначы і паўночным усходзе — **-ой**, **-ою** і **-у (-ю)** (*гусёй, мышóй, гусёю, мышóю, гýссю, мы́шшу*); назоўнікі *гразь* і *пуць* на захадзе ўжываюцца з двухскладовым канчаткам **-ою** (*гразёю, пуцёю*), на поўначы і паўночным усходзе

адзначаюцца канчаткі **-ёй** і **-ю** (*гразёй, пуцёй, гра́ззю, пу́ццю*), а таксама канчатак **-ом** у назоўніку *пуць* (*пуцём*) [1].

Форма на **-ею** прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* унутры паўднёва-заходняга арэала супрацьпастаўляецца форме на **-ёю**: *маéю, тваéю, сваéю* : *маёю, тваёю, сваёю* (у гаворках паміж Навагрудкам і Пружанамі). На паўночным усходзе пашыраны кароткія канчаткі **-ей** і **-ёй**. Пры гэтым калі канчатак **-ей** адзначаецца на паўночным захадзе (Віцебск — Барысаў — Ліда), то канчатак **-ёй** пашыран на ўсходзе (Віцебск — Мінск — Лоеў). Адсюль двухскладовы націскны канчатак **-ею** супрацьпастаўляецца аднаскладовым націскным канчаткам **-ей, ёй.** Пашырэнне канчатка **-ею** ў межах вызначанага арэала залежыць ад таго, да якой граматычнай катэгорыі слоў ён адносіцца.

З'яўляючыся зыходнай формай для назоўнікаў з асновай на **-а** мяккай і зацвярдзелай разнавіднасцей, канчатак **-ею** ў той жа час тут не адзіны ва ўжыванні: амаль паўсямесна ён суіснуе з канчаткам **-ёю** (*зямлéю* і *зямлёю*). На тэрыторыі, якая вызначаецца цячэннем Пцічы, Прыпяці, Дняпра, Бярэзіны, распаўсюджан і канчатак **-ой**. Тут могуць суіснаваць паўднёва-заходняя (г. зн. **-ею** і **-ою**) і паўночна-ўсходняя формы (г. зн. **-ею, -ою** і **-ой**). Заўважым, што канчатак **-ой** знайшоў пашырэнне на ўсёй тэрыторыі паўднёва-заходняга арэала, а на поўдні яго паміж Гарынню і Дняпром — аднаскладовы канчатак **-эй**.

Канчатак **-ею** назоўнікаў *гусь, гразь, мыш* размяркоўваецца больш паслядоўна, чым назоўнікаў тыпу *зямля́, мяжа́*. Поўны канчатак **-ою** фіксуецца тут рэдка. Выключэнне складаюць брэсцка-пінскія гаворкі, дзе назоўнікі *гусь, гразь, пуць* у творным склоне ўжываюцца пераважна з канчаткам **-ою** (*гразёю, пуцёю*), а назоўнік *мыш* — з канчаткам **-ую** (*мышую*). Канчатак **-ею** тут адзначаецца астраўкамі.

У прыналежных займенніках канчатак **-ею** (*маéю, тваéю, сваéю*) кампактна размяркоўваецца на тэрыторыі, якая выдзяляецца ізаглосай, што праходзіць паўднёвей Гродна, праз Баранавічы, на паўночны захад ад Слуцка, праз Бабруйск, каля Рагачова, праз Рэчыцу, паўночней Лоева і далей да граніцы з УССР. Спарадычна тут адзначана форма з **-ою**.

Паміж Брэстам і Пінскам, акрамя поўных форм прыналежных займеннікаў (*маёю, тваёю, сваёю*), адзначаюцца фор-

---

[1] У назоўніках *гразь, пуць* форма творнага склону на **-ою** больш кампактна адзначаецца каля Ліды, вакол Навагрудка, каля Баранавіч. На астатняй тэрыторыі паўднёва-заходняга арэала яна раскідана, ужываецца непаслядоўна. На ўсход ад Гродна (цэнтральная частка Гродзенскай вобл.) слова *пуць*, як аб гэтым сведчаць заўвагі збіральнікаў, не ўжываецца.

мы *мэю, твэю, свэю.* Прычым там, дзе бытуе форма *мэю,* адсутнічае *маёю* і наадварот [1].

Ізаглоса, якая, некалькі адступаючы ад ізаглос форм творнага склону, праходзіць паўночней Пружан у напрамку на Бабруйск і далей на поўдзень да перасячэння з Прыпяццю, размяжоўвае формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на [к]. Пры гэтым на паўднёвым захадзе ад лініі Пружаны — Лоеў (заходней Дняпра) пашыран націскны канчатак **-і** (*дзяўкі́, хусткі́*); націскны канчатак **-е** (*дзяўке́, хустке́*) ужываецца на паўночным захадзе ад гэтай лініі, а ненаціскны канчатак **-і** (*дзе́ўкі, ху́сткі*) — на паўночным усходзе ад яе. Суіснаванне гэтых форм з пэўным тыпам націску характэрна для паўднёва-заходніх гаворак.

Ізаглоса формы 3-й асобы адзіночнага ліку ад дзеяслова *быць* на захадзе, а таксама на ўсходзе адступае ад агульнага напрамку ізаглос разглядаемага пучка. Яна праходзіць на ўсходзе ад Гродна праз Навагрудак, Чэрвень, Барысаў і далей па Бярэзіне, праз Рэчыцу і да граніцы з УССР.

На поўдзень і захад ад ізаглосы адзначана наяўнасць скарочанай формы [йе] ў суіснаванні з іншымі варыянтамі, якія адрозніваюцца характарам галоснага, а таксама адсутнасцю ці наяўнасцю канцавога зычнага [йес'ц'], [йос'ц']. Форма [йе] выступае побач з формай [йо]: [йес'ц'], [йес'], [йест] і [йос'ц'], [йос']. Больш паслядоўна яна ўжываецца на паўднёвым усходзе выдзеленага арэала (гл. ДАБМ, карта № 163). Супрацьпастаўленне форм [йе], [йес'ц'] : [йо], [йос'ц'] складае прыватны выпадак больш агульнай з'явы захавання «е» і нефанетычнага пераходу [е] ў [о] ў розных марфалагічных катэгорыях. У гэтым плане ізаглоса форм на [е] суадносіцца з іншымі ізаглосамі, што звязаны з гэтай з'явай.

Арэал формы [йе] на частцы тэрыторыі сумяшчаецца з арэалам форм без **-ць** дзеясловаў I спражэння: *ідзе́* (*іде́*), *ка́жа* (*ка́жэ*). Арэал формы [йо] ў асноўным сумяшчаецца з арэалам без **-ць** дзеясловаў II спражэння (*хо́дзя*) і часткова з арэалам форм на **-ць** дзеясловаў розных спражэнняў: [йо], [йос'ц'], *ка́жэць, хо́дзіць* (параўн. карты ДАБМ № 163 і 148, 149, 153).

Самай паўночнай ізаглосай свіслацка-бабруйска-рэчыцкага пучка з'яўляецца ізаглоса націскнога канчатка 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння.

---

[1] Форма творнага склону прыналежных займеннікаў *мэю, твэю, свэю* ўтварылася па аналогіі з формамі назоўнага склону адзіночнага ліку: *мэй, твэй, свэй.* Даследчыкі мяркуюць, што апошняя форма ўзнікла «або ў выніку палаталізацыі галоснага **о** перад **j**, або ў выніку пераходу гука **ы** (рэфлекса **о** ў закрытым складзе з наступным ацвярдзеннем зычнага — *мый, твый, свый*) у гук **е**, што, між іншым, назіраецца ў адпаведных гаворках (паміж Брэстам і Пінскам)» [88, *227*].

На поўдзень і захад ад гэтай ізаглосы пашырана форма з канцавым [е] ([с'аz'иц'é], [седытé]), а на паўночны ўсход — форма з канцавым [о] ([с'аz'иц'ó])[1]. Форма 2-й асобы множнага ліку на [-ц'е] паслядоўна размяркоўваецца на тэрыторыі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, і толькі ў некаторых выпадках побач з ёю адзначаецца форма на [-ц'о.] Такое паслядоўнае ўжыванне канцавога [е] ў дзеяслоўных формах звязана з захаваннем [е] ў іншых граматычных формах, а таксама і ў пэўных фанетычных умовах. Для іх з'яўляюцца звычайнымі формы з захаваннем [е]: *зямлéю, гразéю, днем, пнем, бéрда, далéка* і інш. (ДАБМ, карты № 70, 29—33) [79, *160*].

Ізаглоса слова *далёка* з захаваннем [е] па сваёй канфігурацыі адрозніваецца ад астатніх ізаглос свіслацка-бабруйска-рэчыцкага пучка. Яна праходзіць на поўначы ад Пружан, паміж Баранавічамі і Лунінцом, праз Слуцк, на поўдні ад Бабруйска, праз Гомель да граніцы з УССР. У гаворках Бярозаўскага, Кобрынскага, Лагішынскага і Іванаўскага раёнаў Брэсцкай вобласці суіснуюць формы з [е] і [о]: *да*[*л'é*]*ка* і *да*[*л'ó*]*ка*. На поўнач ад ізаглосы слова *да*[*л'é*]*ка* супрацьпастаўляецца форме з [о]—*да*[*л'ó*]*ка*.

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯГА НАПРАМКУ

### Церахоўска-гомельскі пучок
### (карта № 30)

Рад ізаглос паўночна-заходняга напрамку ў заходняй частцы тэрыторыі групуецца ў раёне Пінска або Давыд-Гарадка, на ўсходзе — у раёне Гомеля або крыху паўночней і выдзяляе гаворкі Гомельскай, часткова паўднёвых раёнаў Магілёўскай, Мінскай і ўсходніх раёнаў Брэсцкай абласцей. Такім чынам, арэалы моўных асаблівасцей паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі ляжаць у межах паўднёва-заходняга дыялекту і сумяшчаюцца з паўднёвай часткай сярэднебеларускіх гаворак.

Па раду лексічных рыс можна выдзеліць невялікую тэрыторыю каля Гомеля. У гаворках Церахоўскага, Добрушскага, Гомельскага, Уваравіцкага раёнаў Гомельскай вобласці ўжываецца слова *цáмра* ў значэнні 'зруб у студні'. За межамі гэтага арэала *цáмра* адзначана ў нас. п. Навікі і *цэ́мра* ў нас. п. Радуша Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

У гаворках Церахоўскага, Добрушскага, Гомельскага раёнаў, а таксама ў нас. п. Чабатовічы Уваравіцкага раёна Го-

[1] Форма 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння пры захаванні націскнога канцавога [е] адзначана ў радзе манаграфій [15, *325*; 149, *314*; 111, *292*; 135, *173* і інш.].

мельскай вобласці ўжываецца слова *талóка* як назва абложнай зямлі.

Слова *зáпан* у значэнні 'фартух' пашырана ў гаворках Церахоўскага, Добрушскага, Гомельскага і ў нас. п. Астрагляды Брагінскага раёнаў. Ужываецца яно паралельна з *фартýх;* апошняе характэрна для гаворак усёй тэрыторыі Беларусі. Адзінкавыя словаўтваральныя варыянты ад *зáпан* адзначаны за межамі разглядаемай тэрыторыі: *запíнка, зáпінка* (Столінскі р-н), *запáска* (Лельчыцкі р-н).

Як назва прылады, якой перуць бялізну, адзначана слова *прач* у гаворцы Церахоўскага раёна, нас. п. Крупец Добрушскага, Акцябр Уваравіцкага, Бабічы Рэчыцкага раёнаў Гомельскай вобласці [1].

На тэрыторыі Церахоўскага, Добрушскага і ў некаторых населеных пунктах Веткаўскага і Чачэрскага раёнаў ужываецца слова *замáшкі* для назвы плоскуняў.

Крыху большую тэрыторыю (Церахоўскі, Гомельскі, Уваравіцкі, Лоеўскі, часткова Рэчыцкі і Камарынскі р-ны Гомельскай вобл.) займаюць гаворкі, у якіх назіраюцца падзыўныя *бар-бар-бар* для авечак.

## Мазырска-бабруйска-гомельскі пучок

**(карта № 31)**

Да ліку асаблівасцей гаворак, выдзеленых ізаглосамі мазырска-бабруйска-гомельскага пучка, адносіцца ўжыванне слоў *ёмка, скарадá* і *кáпіца,* а таксама формы меснага склону прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду з ненаціскным канчаткам **-ам** (*у жóўтам, у дóбрам*).

На захадзе ізаглосы, якія выдзяляюць арэалы слоў *ёмка* і *скарадá,* даходзяць амаль да Слуцка і Убарці, на поўначы ахопліваюць Бабруйшчыну. Ва ўсходняй частцы тэрыторыі ізаглоса пашырэння слова *ёмка* праходзіць паўночней Гомеля, а ізаглоса, якая акрэслівае арэал слова *скарадá,* адхіляецца на поўдзень ад Гомеля.

Асноўным супрацьпастаўленнем слову *скарадá* з'яўляецца *рунь.* Аднак трэба адзначыць, што ў паўднёвай частцы разглядаемай тэрыторыі словы *скарадá* і *рунь* ужываюцца паралельна.

Толькі ў гаворках Гомельшчыны адзначана слова *кáпіца* (прывязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна). На захадзе арэал пашырэння гэтага слова даходзіць да Бабруйска і Мазыра (у некаторых населеных пунктах — *капíца*). Але

---

[1] Асноўны арэал пашырэння гэтага слова — паўднёва-заходнія раёны Брэсцкай вобласці.

вельмі часта ў якасці назвы разглядаемай рэаліі ўжываюцца розныя словаўтваральныя варыянты ад кораня *вяз-*, якія адрозніваюца па націску (*прывязка, прывязка, прывязь, увязка* і інш.), яны пашыраны таксама ў гаворках Магілёўскай і часткова Мінскай абласцей. На захад ад арэала слова *капіца* зафіксаваны розныя варыянты слова *гужык* (*вужык, ужык, гуж, вуж, ужоўка, гужок* і інш.).

Для гаворак, якія выдзяляюцца мазырска-бабруйска-гомельскім пучком, характэрны фанетычны варыянт ненаціскнога канчатка меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду **-ам** (*у жоўтам, у новам, у доб рам*). У паўночна-ўсходняй частцы Гомельшчыны формы з [а] ў канчатку перамяжаюцца з формамі, якія маюць у канчатку [ы] (*у жоўтам—у жоўтым*); у паўднёвай частцы — з формамі, якія маюць у канчатку [ы], [о], [у] (*у жоўтам—у жоўтым, у жоўтом, у жоўтум*) (ДАБМ, карта № 118).

Частка гаворак тэрыторыі, якую выдзелілі ізаглосы мазырска-бабруйска-гомельскага пучка, характарызуецца таксама ўжываннем слова *кучка* ў значэнні 'малая ўкладка снапоў у полі'. Гэта назва адзначаецца ў гаворках заходніх раёнаў Гомельскай вобласці і зрэдку каля Гомеля. Супрацьпастаўляецца *кучка* словам з коранем *баб-* на поўнач і ўсход ад ізаглосы, а на захадзе і паўночным захадзе — словам з каранямі *дзесят-* і *мэндль-*.

## Давыд-гарадоцка-глуска-лоеўскі пучок
**(карта № 32)**

Ізаглосы, якія групуюцца ў давыд-гарадоцка-глуска-лоеўскі пучок, на ўсходзе, прыкладна ў раёне Лоева, выходзяць за межы Беларусі на тэрыторыю Чарнігаўшчыны, на поўначы яны ідуць па лініі Жлобін—Глуск—Старобін, затым частка з іх праходзіць на поўдзень, перасякаючы Прыпяць у раёне Турава, другая частка ідзе ад Старобіна далей на захад, затым адхіляецца на поўдзень па Лані і Гарыні, аб'ядноўваючыся, такім чынам, на поўдні з ізаглосамі столінска-чэрвеньска-кармянскага пучка.

Чатыры ізаглосы выдзяляюць арэал вымаўлення [у] на месцы [ы] пасля губных зычных у розных марфемах і складах незалежна ад націску. Так, на месцы націскнога [ы] вымаўляецца [у] ў назоўным склоне множнага ліку асабовых займеннікаў і назоўнікаў мужчынскага роду (*му, ву; паɣрабу, хлявý, снапý;* ДАБМ, карты № 37, 38, 41), а таксама ў корані слова (*бук, кабула, мула;* ДАБМ, карта № 39). Вымаўленне [у] на месцы ненаціскнога [ы] адзначаецца ў корані слова, а таксама ў канчатку назоўнага склону множнага ліку назоў-

нікаў жаночага роду (*путáц', бáбу, халя́ву;* ДАБМ, карты № 22, 24).

Аднак на самым поўдні арэала (паўднёвая частка Лельчыцкага, Ельскага, Нараўлянскага, Камарынскага, Церахоўскага р-наў Гомельскай і Столінскага р-на Брэсцкай абл.) мае месца вымаўленне [и] замест [ы] (*ми, ви, бик, питáць, пограбі́й, бáби*) або галоснага, сярэдняга паміж [ы], [и] [28, *114—119*].

На гэтай жа тэрыторыі ў радзе населеных пунктаў адзначаецца [у] ў канчатках склонавых форм прыметнікаў (*цамантóву, крыву́, с'л'епу́й, слáбуй; нóвуйе, слáбуйе, дубóвуйа; у дажджл'íвух; нóвум'и; к нóвум*).

За межамі разглядаемага арэала, г. зн. у большасці беларускіх гаворак, [ы] захоўваецца без змен (*мы, вы, бык, паграбы́, мы́ла, бáбы, пытáць, слáбы, нóвыйа*).

Гаворкі тэрыторыі, выдзеленай давыд-гарадоцка-глускалоеўскім пучком, характарызуюцца наяўнасцю галоснага [е] ў форме давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з асновай на мяккі зычны (*в'íшн'ем, кáпл'ем, сарáйем, канóпл'ем*). Аднак на гэтай жа тэрыторыі адзначаюцца таксама формы з [а] ў канчатку (*в'íшн'ам, кáпл'ам, канóпл'ам*). У адзінкавых выпадках маюць месца фанетычныя разнавіднасці гука [е] (*к в'íшн'ьм, кáпл'ьм, бáн'а$^е$м, к сарáйе$^а$м*). Збіральнікі дыялектных матэрыялаў адзначаюць, што знакі **ь**, **а$^е$**, **е$^а$** перадаюць няясны гук, сярэдні паміж [е] і [а].

На захад і поўнач ад акрэсленага арэала [е] на месцы [а] адзначаецца вельмі рэдка.

У гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі ў асноўным атрымалі пашырэнне формы з [а] ў ненаціскным канчатку (*в'íшн'ам, канóпл'ам*). І толькі на тэрыторыі ўсходняй часткі Магілёўскай і Віцебскай абласцей у той жа марфеме адзначаецца [и] (*в'íшн'им, канóпл'им*; ДАБМ, карта № 20).

Адметнай марфалагічнай рысай гаворак, якія выдзяляюцца давыд-гарадоцка-глуска-лоеўскім пучком, з'яўляецца націскны канчатак **-ям** у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў тыпу *цяля́* (*цялям́, з ягня́м, парася́м*). Зрэдку на гэтай жа тэрыторыі адзначаюцца формы *цялéм, цéлем.*

Форма з націскным канчаткам **-ям** супрацьпастаўляецца формам *цялём, парасём* (у асноўным тэрыторыя Мінскай вобл.), *цéлем, з жарэ́бем* (Гродзенская вобл.) і *цяля́там, цяля́цем* (паўднёва-заходнія р-ны Брэсцкай вобл.) (ДАБМ, карта № 87).

З арэалам форм тыпу *цяля́м* (уключаючы яшчэ і раён Слуцка, а таксама заходнюю частку Бабруйскага р-на) супадае арэал захавання націскнога [е] ў канчатку творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду (*агнéм, днем, рублéм*). На паўночнай ускраіне гэтай тэрыторыі [е]

сустракаецца толькі ў прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі, на астатняй тэрыторыі [е] ў канчатку творнага склону змянілася ў [о]: *канём, днём* [14, *319, 321, 333, 334*].

### Пінска-слуцка-гомельскі пучок
**(карта № 33)**

Ізаглосы пінска-слуцка-гомельскага пучка акрэсліваюць тэрыторыю пашырэння некалькіх марфалагічных і лексічных рыс, якія супрацьпастаўляюць гаворкі паўднёвага ўсходу Беларусі (Гомельская вобл., паўднёвыя р-ны Мінскай і ўсходнія р-ны Брэсцкай абл.) астатнім беларускім гаворкам.

Дзве ізаглосы, вельмі блізкія па канфігурацыі, выдзяляюць арэалы форм інфінітыва з асновай на [г] і [к]. Гаворкам разглядаемай тэрыторыі ўласціва ўжыванне формы на **-ці** пры захаванні заднеязычнага ў аснове (*берагці, сцерагці, стрыгці, пекці, секці, сякці*).

У гаворках, размешчаных на захад і поўнач ад арэала форм на **-ці**, ужываюцца формы на **-чы** пры захаванні ў аснове задненёбнага (*бегчы, стрыгчы, пякчы, сякчы*). У межах тэрыторыі пашырэння форм тыпу *берагці, секці* маюць месца адрозненні ў націску: націск можа падаць на інфінітыўны суфікс або на каранёвую марфему. Варыянт з націскам на суфіксе **-ці** (*берагці, стрыгці* і інш.) характэрны для гаворак паўднёва-заходніх раёнаў Магілёўскай, паўднёвых раёнаў Мінскай, Гомельскай і часткова Брэсцкай абласцей. Але для інфінітыва з асновай на [к] больш распаўсюджаным з'яўляецца варыянт з каранёвым націскам (*секці, цекці, пекці*) [79, *18—22*].

На мяжы арэалаў форм тыпу *берагці, пекці* і *берагчы, пячы,* часцей за ўсё ў гаворках паўднёвых раёнаў Мінскай і паўднёва-заходніх раёнаў Магілёўскай абласцей, адзначаецца паралельнае суіснаванне розных форм (ДАБМ, карты № 178, 179).

Гаворкі паўднёвага ўсходу адрозніваюцца ад астатніх гаворак Беларусі і ў галіне лексікі. У мясцовай гаворцы гэтай часткі Беларусі ўжываюцца словы *тавар* і *худоба* ў значэнні 'агульная назва скаціны' [1].

Супрацьпастаўляецца арэал ужывання слоў *тавар* і *худоба* арэалу слоў *скаціна, скот.* Апошняя назва сустракаецца

---

[1] Аднак у дыялектных матэрыялах знаходзім заўвагі збіральнікаў аб тым, што слова *тавар* у гаворках некаторых населеных пунктаў мае больш вузкае значэнне. Слова *тавар* суправаджаецца паметамі: «толькі каровы», «буйная рагатая жывёла». Пры слове *худоба* часта бываюць такія заўвагі: «уся жывёла», «агульная назва хатняй жывёлы» (ДАБМ, Каментарыі, стар. 887).

рэдка, пераважна ў суіснаванні са словам *скаціна* (ДАБМ, карта № 293).

Арэалы пашырэння слоў *тава́р* і *худо́ба* ў асноўным сумяшчаюцца. Толькі ва ўсходняй частцы тэрыторыі, пачынаючы ад Бярэзіны, ізаглоса пашырэння слова *худо́ба* адхіляецца больш на поўнач і праходзіць прыкладна праз Клічаў, паўднёвей Быхава, праз Карму і паўночней Чачэрска. За межамі разглядаемай тэрыторыі слова *худо́ба* адзначана ў некаторых населеных пунктах Віцебскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей.

У паўночнай частцы арэала, на стыку з астатняй тэрыторыяй Беларусі, побач з *тава́р* і *худо́ба* ў тым жа значэнні ўжываецца слова *жывёла,* якое спарадычна сустракаецца і ў гаворках Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай абласцей, у паўночных раёнах Брэсцкай і заходніх раёнах Магілёўскай абласцей [83, *130—135*].

Адрозніваюцца гаворкі разглядаемай тэрыторыі па ўжыванню гукапераймальных дзеясловаў *бэ́кае, мэ́кае* (аб авечцы) ад гаворак астатняй тэрыторыі Беларусі, дзе пераважае дзеяслоў *бляе́.* Дзеяслоў *бляе́* спарадычна адзначаецца і на тэрыторыі пашырэння слоў *бэ́кае, мэ́кае* (у паўднёвых р-нах Гомельскай і ўсходніх р-нах Брэсцкай абл.).

Дзеяслоў *бэ́кае* пашыран у гаворках паўднёвых раёнаў Мінскай і Бабруйскага раёна Магілёўскай абласцей. Астатняя тэрыторыя, выдзеленая пінска-слуцка-гомельскім пучком, характарызуецца пашырэннем дзеяслова *мэ́кае,* хоць спарадычна адзначаецца і дзеяслоў *бэ́кае.* Па-за межамі акрэсленай тэрыторыі дзеяслоў *бэ́кае* адзначан у Навагрудскім і Карэліцкім раёнах Гродзенскай і Маларыцкім раёне Брэсцкай абласцей.

З ізаглос пінска-слуцка-гомельскага пучка вылучаецца ізаглоса пашырэння слова *ката́ра* ў значэнні 'агароджанае месца для жывёлы ў полі ці лесе'. Ва ўсходняй частцы тэрыторыі яна адхіляецца к поўначы і далучае да разгледжанай групы гаворак гаворкі паўднёвых раёнаў Магілёўскай вобласці. На поўнач ад гэтай ізаглосы маюць пашырэнне розныя словаўтваральныя варыянты слова *за́гарадзь,* а таксама іншыя назвы (*пастаўні́к, заго́н, майда́н;* ДАБМ, карта № 232) [40, *23—26*].

У гаворках, якія выдзелены пінска-слуцка-гомельскім пучком, адзначаецца ўжыванне слова *жы́тнішча* ў значэнні 'зжатае поле, на якім расло жыта'. Толькі ў заходняй частцы арэала (у некаторых населеных пунктах Ганцавіцкага, Лунінецкага, Столінскага і Пінскага р-наў Брэсцкай вобл.) пашыран варыянт з суфіксам **-іск-** (*жы́тніско*). За межамі арэала слова *жы́тніско* адзначана ў Кобрынскім і Камянецкім раёнах Брэсцкай вобласці. Трэба адзначыць, што суфікс **-іск-**

з'яўляецца даволі прадуктыўным пры ўтварэнні слоў са значэннем зжатага поля (*пшбльніско, аўсяніска, аржыска* і інш.) не толькі ў заходняй частцы тэрыторыі, выдзеленай пінскаслуцка-гомельскім пучком, але і ў заходніх раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей [6, *85—95*].

На разглядаемай тэрыторыі для абазначэння зжатага поля, на якім расло жыта, часта побач з *жытнішча* выкарыстоўваюцца іншыя назвы, напрыклад *ржышча* (усходняя частка тэрыторыі), *пбжня* (заходняя частка тэрыторыі). Слова *ржышча* і словаўтваральныя варыянты яго характарызуюць у асноўным гаворкі паўночна-ўсходняй часткі Беларусі, *пбжня*— гаворкі паўднёва-заходняй (ДАБМ, карта № 271).

## Столінска-чэрвеньска-кармянскі пучок
**(карта № 34)**

Ізаглосы, якія ўтвараюць столінска-чэрвеньска-кармянскі пучок, на ўсходзе групуюцца ў раёне Слаўгарада і Кармы і выходзяць на тэрыторыю РСФСР, а на захадзе апускаюцца прыкладна па цячэнню Лані і Гарыні на поўдзень да граніцы з УССР. Для гаворак гэтай тэрыторыі характэрна форма 1-й асобы множнага ліку на **-ом** з захаваннем заднеязычных у аснове дзеясловаў I спражэння (*пякóм, стрыгóм*).

У паўднёвых раёнах Гомельскай вобласці (на граніцы з УССР) часта адзначаецца захаванне заднеязычнага толькі ў форме 1-й асобы множнага ліку пры аснове на шыпячы ў астатніх асабовых формах (*стрыжý, стрыжэ́ш, стрыжэ́, стрыгóм, стрыжацé, стрыжýць*) або наяўнасць шыпячых ва ўсёй парадыгме (*стрыжý, стрыжэ́ш, стрыжэ́, стрыжэ́м, стрыжацé, стрыжýць*), што характарызуе і гаворкі паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці.

На поўнач ад столінска-чэрвеньска-кармянскага пучка пашыраны тып асновы з чаргаваннем заднеязычных і шыпячых адпаведна літаратурнай норме (*стрыгý, стрыжэ́ш, стрыжэ́, стрыжóм, стрыжацé, стрыгýць*). Толькі ў гаворках усходніх раёнаў Віцебскай і Магілёўскай абласцей заднеязычны захоўваецца ва ўсёй парадыгме цяперашняга часу (*стрыгý, стрыгéш, стрыгéць, стрыгём, стрыгіцё, стрыгýць*) (ДАБМ, карта № 158).

З арэалам формы тыпу *пякóм, стрыгóм* сумяшчаецца арэал пашырэння формы 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння з цвёрдым зычным у аснове (*нясóм, кладóм, скрабóм*). Цвёрды зычны ў разглядаемай форме мае месца і ў гаворках паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці, аднак формы 1-й асобы множнага ліку адрозніваюцца наяўнасцю другога галоснага ў канчатку (*ідэ́м, кладэ́м*).

У заходняй частцы Гродзенскай вобласці адзначаюцца формы з мяккім зычным і галосным [е] (*ідз'ём, кладз'ём, н'ас'ём*). На астатняй тэрыторыі пашыраны формы з мяккім зычным у аснове і канчаткам **-ём** (*ідз'ом, н'ас'ом*) (ДАБМ, карта № 150).

На тэрыторыі, выдзеленай столінска-чэрвеньска-кармянскім пучком, пашырана назва драпежнай птушкі *коршак* з націскам на корані. Варыянт гэтага слова з націскам на суфіксе (*каршак*) адзначаецца зрэдку ў гаворках паўночнай часткі Гомельскай вобласці. Ва ўсходніх жа раёнах (левабярэжжа Сожа) пашырана слова *каршун*. Гаворкам усходніх раёнаў Гомельшчыны вядомы таксама другі сінонім — *ястраб*, які суіснуе побач з *каршун* у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках.

Гаворкам з наяўнасцю слоў *коршак, каршак* супрацьпастаўляецца на захадзе арэал пашырэння слова *шуляк* (Брэстчына і паўднёвыя р-ны Гродзенскай вобл.).

Ізаглоса слоў *адонак, адзёнак* у значэнні 'падмосткі пад стог' адхіляецца на поўнач ад цэнтральнай часткі пучка і праходзіць па цячэнню Бярэзіны да Докшыц, утвараючы своеасаблівы паўвостраў на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту.

У межах разглядаемай тэрыторыі супрацьпастаўляюцца варыянты слова *адонак—адзёнак*[1]. Слова *адзёнак* распаўсюджана на тэрыторыі паўднёва-заходніх раёнаў Гомельскай і ў паўднёвых раёнах Мінскай абласцей. На астатняй тэрыторыі пашырана слова *адонак*. За межамі разглядаемага пучка спарадычна адзначана гэта слова на тэрыторыі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, а таксама ў населеных пунктах на граніцы з РСФСР. Зрэдку тут сустракаюцца і іншыя словаўтваральныя варыянты (*падонне, адонішча*). Супрацьпастаўляюцца словы *адонак, адзёнак* іншым назвам на поўнач і захад ад ізаглосы (*стажар'е, падок*) (ДАБМ, карта № 287).

## Столінска-слуцка-аршанскі пучок

**(карта № 35)**

Столінска-слуцка-аршанскі пучок складаюць ізаглосы некалькіх цікавых лексічных з'яў. Падобнай ізаглосай размяжоўваюцца дыялектныя адрозненні ў некаторых традыцыйных назвах пасудзіны для піцця вады.

На тэрыторыі Беларусі пашыраны назвы *кубак, кварта, карэц, конаўка, кружка* і *кухлік* (ДАБМ, карта № 248). Мяркуючы па асаблівасцях іх пашырэння, усе яны, відаць, не

---

[1] *Адонак* узыходзіць к *дно*. Можна дапусціць і форму *дьно* (адкуль *адзёнак*) побач з *дъно* [109, т. І, *640*].

складаюць адной дыялектнай з'явы і не супрацьпастаўляюцца як яе структурныя варыянты. Некаторыя з гэтых назваў адносяцца, магчыма, да неаднолькавых прадметаў (па матэрыялу, выгляду і г. д.), іншыя адрозніваюцца часткова па сферы ўжывання (старыя і новыя абазначэнні). У выніку гэтага арэалы іх у той ці іншай ступені сумяшчаюцца адзін з адным. А таму больш падстаў разглядаць зараз тэрытарыяльнае адрозненне сучаснай дыялектнай мовы па наяўнасці або адсутнасці кожнай з гэтых назваў паасобку, бо выразна супрацьпастаўленых тэрытарыяльна комплексаў або складаных тэрытарыяльных варыянтаў яны ўсё ж не ўтвараюць.

Неабходна адзначыць таксама, што большасць назваў з'яўляюцца не толькі тэрытарыяльна несупрацьпастаўленымі адна адной, але і характарызуюцца малавыразным тэрытарыяльным супрацьпастаўленнем па наяўнасці і адсутнасці. Назва *ку́бак* зафіксавана, напрыклад, амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Не адзначаецца яна толькі на самым усходзе. Але калі на захадзе і паўночным захадзе арэала слова *ку́бак* указваецца на ўжыванне яго аднаго для абазначэння пасудзіны для піцця вады, то на ўсходзе арэала паралельна з ім у такім значэнні выступаюць і іншыя словы.

Такая ж невыразная мяжа наяўнасці і адсутнасці слова *ква́рта* як назвы пасудзіны для піцця вады. Аднак калі слова *ку́бак* больш пашырана на захадзе, *ква́рта* шырэй адзначаецца на ўсходзе. Рэдка ўказваецца на яго толькі на паўночным захадзе (на тэрыторыі, сумежнай з Літвой). У дадзеным выпадку заўважаецца як бы супрацьпастаўленне па тэрыторыі пашырэння слоў *ку́бак* і *ква́рта*. Але на значнай тэрыторыі іх арэалы сумяшчаюцца, і яны суіснуюць паралельна (аб указаннях адносна іх размежавання гл.: ДАБМ, Каментарыі, стар. 813—821).

Што датычыцца назвы *кру́жка,* то яна выступае зрэдку на ўсёй тэрыторыі і крыху часцей у самых паўночна-ўсходніх раёнах.

Блізкая па тэрытарыяльнай ужывальнасці да папярэдніх і назва *ко́найка*. Праўда, асноўны раён яе пашырэння ў цэнтры Беларусі, у раёнах вакол Мінска. На астатняй тэрыторыі яна вельмі рэдкая.

Назва ж *ку́хлік* адзначаецца на поўдзень ад Прыпяці паралельна з іншымі і абазначае, як правіла, гліняную пасудзіну для піцця.

Найбольш выразны арэал пашырэння слова *карэ́ц*. Ізаглоса наяўнасці і адсутнасці гэтай назвы пасудзіны для піцця вады і ўваходзіць якраз у якасці адной з важнейшых у столінска-слуцка-аршанскі пучок. Пашырана гэта слова на паўднёвым усходзе ад ізаглосы паралельна з іншымі, але часта яно адзначаецца толькі адно. Адносіны яго да іншых назваў

пасудзіны для піцця ў розных мясцовасцях самыя разнастайныя. У многіх выпадках, асабліва на ўсходзе арэала, на яго ўказваецца як на назву своеасаблівай прылады для чэрпання вады, якая ўжывалася ў мінулым. Але на паўднёвым захадзе свайго арэала яно выступае ў якасці назвы пасудзіны для піцця, пашыранай ва ўжытку зараз (ДАБМ, Каментарыі, стар. 813—821).

У гэты ж пучок уваходзіць таксама ізаглоса наяўнасці і адсутнасці прыназоўніка *пайз* (*павыз, памыз, выз, поз*). З прыназоўнікам *пайз* утвараюцца словазлучэнні дзеясловаў з назоўнікамі ў вінавальным або родным склоне. Прыназоўнік *пайз* мае значэнне, блізкае да значэння прыназоўніка *калś*. Як і прыназоўнік *каля,* ён указвае на размяшчэнне і рух збоку названага прадмета, але з той розніцай, што месца размяшчэння і руху разумеецца як працягласць: *ішлі пайз лес, сядзяць пайз рэчку,* але *сядзіць каля мяне, ходзіць каля двара.*

Прыназоўнік *пайз*, як і слова *карэц*, зафіксаваны на паўднёвым усходзе ад ізаглосы. На паўночны захад ад яе ў дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі Беларусі падобныя словазлучэнні ўтвараюцца з прыназоўнікам *каля* (*кала, ля*). Аднак несупрацьпастаўленасць прыназоўнікаў *пайз* і *каля* вынікае з таго, што апошні мае больш шырокае сінтаксічнае значэнне і ўжываецца таксама паралельна з прыназоўнікам *пайз* у арэале яго пашырэння. Толькі тут прыназоўнік *пайз* некалькі абмяжоўвае, зразумела, сэнсавую сферу яго ўжывання.

Больш паслядоўна адзначаецца прыназоўнік *пайз* на паўднёвым захадзе тэрыторыі свайго пашырэння. На ўсходзе Магілёўскай вобласці ён сустракаецца радзей.

Такую ж ізаглосу мае адрозненне ў акцэнтуацыі назоўніка *арэх* у назоўным склоне множнага ліку (ДАБМ, карта № 196). На паўднёвым усходзе ад яе націск у форме назоўнага склону множнага ліку гэтага назоўніка адзначаецца на канцавым складзе. На паўночным захадзе націскным з'яўляецца той жа склад, што і ў адзіночным ліку [1].

Паўночна-заходні варыянт *арэхі* часта сустракаецца і ў межах пашырэння варыянта *арахі.* У многіх выпадках назіраецца нават ужыванне толькі яго аднаго. Наогул арэал варыянта *арахі* ў адносінах сваёй мяжы ў Беларусі не зусім выразны. Варыянт *арахі* толькі як бы праглядвае дзе-нідзе на паўднёвым усходзе побач з агульнабеларускім варыянтам *арэхі.*

У паласе ізаглос столінска-слуцка-аршанскага пучка заўважаецца адна з межаў дыялектных адрозненняў у адносінах назвы кормнага парсюка, кормніка. Адзначаюцца тры

---

[1] Такой акцэнтуацыяй характарызуецца, відаць, уся парадыгма множнага ліку.

найбольш пашыраныя назвы: *парсю́к (паршу́к), вяпру́к* (*япру́к, вапе́р*) і *каба́н* (ДАБМ, карта № 292).

Выразны па межах арэал слова *вяпру́к* і аднакаранёвых з ім. Яно пашырана на паўднёвым захадзе (пад Навагрудкам, Баранавічамі і Слуцкам і на поўдзень і захад у Брэсцкай вобл.). Аднакаранёвае слова *вапе́р* (зрэдку *вапру́к*) адзначаецца на паўночным усходзе ў гаворках каля граніцы РСФСР.

Дзве іншыя назвы — *парсю́к* (*паршу́к*) і *каба́н* — маюць невыразныя арэалы. Але тэрытарыяльнае адрозненне дыялектнай мовы Беларусі па іх ужыванню можна ўсё ж заўважыць.

Як *парсю́к (паршу́к)*, так і *каба́н* агульнавядомы і адзначаюцца зараз у дыялектнай мове па ўсёй Беларусі. Але *парсю́к* (*паршу́к*) — гэта ўсё ж больш пашыраная і звычайная назва кормніка на паўночным захадзе (*парсю́к*) і захадзе (*паршу́к*) Беларусі. На ўсходзе і асабліва на паўднёвым усходзе кормнік абазначаецца звычайна словам *каба́н,* таму можна ў пэўным сэнсе гаварыць усё ж аб тэрытарыяльнай супрацьпастаўленасці слоў *парсю́к (паршу́к)* і *каба́н.* Мяжа ж гэтага значна нівеліраванага супрацьпастаўлення хоць і не зусім відавочна, але як быццам праглядвае каля ізаглос наяўнасці і адсутнасці слова *карэ́ц* і прыназоўніка *паўз.*

Нагадвае некалькі па месцы праходжання ізаглосы гэтага пучка і мяжа тэрытарыяльных адрозненняў у назвах вочапа ў студні з жураўлём (ДАБМ, карта № 244).

Да столінска-слуцка-аршанскага пучка прымыкае таксама крыху асаблівая па праходжанню ізаглоса тэрытарыяльных адрозненняў і ў назвах сахі ў студні з жураўлём. Па ёй тэрытарыяльна супрацьпастаўляецца слова *саха́,* якім называюць саху ў студні на паўднёвым захадзе, значнай колькасці іншых слоў, якімі называюць гэту прыладу ў іншых кутках Беларусі (*ві́лы, ба́ба, зво́д* і інш.). Тэрытарыяльныя адносіны паміж усімі гэтымі назвамі досыць складаныя і недастаткова відавочныя.

## Пружанска-слуцка-аршанскі пучок

**(карта № 36)**

Пружанска-слуцка-аршанскі пучок уключае ізаглосы адрозненняў у вымаўленні звонкіх і глухіх зычных у канцы слова і перад глухімі (і звонкімі) зычнымі, ізаглосы адрозненняў у формах займеннікаў *мой, твой, свой* у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду, а таксама ў родзе назоўніка *я́блык* і адну з ізаглос тэрытарыяльных варыянтаў дапаможнага дзеяслова *ёсць.* Ізаглосы гэтага пучка паміж Слуцкам і Пружанамі не супадаюць па праходжанню. Аб'ядноўваюцца

ў пучок яны паміж Оршай і Слуцкам, пераплятаючыся з папярэднім пучком. Пружанска-слуцка-аршанскія ізаглосы цікавыя перш за ўсё тым, што яны звязваюць у адзінства па раду асаблівасцей гаворкі ўсяго Палесся з часткай гаворак паўночнага ўсходу Беларусі.

Ізаглосы адрозненняў у рэалізацыі зычных па звонкасці і глухасці (ДАБМ, карты № 45, 46) найбольш важныя ў гэтым пучку. Супадаючы з іншымі паміж Оршай і Слуцкам, у сваёй паўднёва-заходняй частцы яны праходзяць адасоблена ад іх (паміж Слуцкам, Клецкам і Пружанамі). Размяжоўваюцца гэтымі ізаглосамі гаворкі, дзе назіраецца вымаўленне як глухіх, так і звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі ў сярэдзіне, і гаворкі, у якіх вымаўляюцца ў адпаведных умовах толькі глухія зычныя.

Вымаўленне як глухіх, так і звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі ў сярэдзіне характэрна на поўдні і ўсходзе ад ізаглос (гаворкі ўсяго Палесся, Гомельскай і Магілёўскай абл.). Праўда, у гэтых гаворках назіраецца таксама і супадзенне глухіх і звонкіх зычных у глухіх. Сумяшчаецца такое вымаўленне з вымаўленнем папярэдняга тыпу асабліва часта непасрэдна паблізу ад ізаглос. Далей на поўдзень і ўсход ад ізаглос падобнае сумяшчэнне наглядаецца рэдка або зусім адсутнічае.

Паслядоўная рэалізацыя глухіх і звонкіх зычных фанем у глухіх варыянтах у канцы слоў і перад глухімі зычнымі характэрна для мясцовага вымаўлення на поўначы і захадзе ад ізаглос (Віцебская, Мінская і Гродзенская вобл.).

У гэтых жа гаворках назіраецца таксама паслядоўная рэалізацыя глухіх і звонкіх зычных фанем перад звонкімі зычнымі гукамі ў звонкіх варыянтах. Інакш кажучы, у мясцовай мове на адпаведнай тэрыторыі «парныя па звонкасці і глухасці зычныя фанемы знаходзяцца ў адносінах пазіцыйнага чаргавання, г. зн. з'яўляюцца парнымі звонкімі-глухімі і па ўтварэнню і па ўжыванню» [88, *106*].

Супадаюць па праходжанню ізаглосы форм прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* у родным склоне адзіночнага ліку жаночнага роду і ізаглоса родавых варыянтаў слова *яблык*. Але з ізаглосамі адрозненняў у вымаўленні звонкіх і глухіх зычных на захадзе Беларусі яны значна разыходзяцца. Праходзяць яны ад Асіповіч у напрамку на захад каля Стаўбцоў па Нёману на Ліду і Радунь.

Асабліва выразная ізаглоса родавых варыянтаў слова *яблык* (ДАБМ, карта № 107). Яна размяжоўвае ўжыванне варыянта *я́блыка* ніякага роду, што назіраецца ў гаворках на поўдні і ўсходзе ад яе, і варыянта *я́блык* мужчынскага роду, характэрнага для гаворак на другім баку ад гэтай мяжы, на поўначы і захадзе.

Выразна выступае таксама і ізаглоса форм займеннікаў *мой, твой, свой* у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду (ДАБМ, карта № 140). Яна размяжоўвае гаворкі паўночна-заходняй тэрыторыі Беларусі, для якіх характэрны ў родным склоне формы *маéй, тваéй, сваéй* (або *маёй, тваёй, сваёй* ці паралельна з папярэднімі формамі), і гаворкі ўсходу, поўдня і захаду рэспублікі, дзе адзначаюцца толькі формы *маé, тваé, сваé* (*мэ́е, твэ́е, свэ́е* — на Брэстчыне) або паралельна з формамі *маёй, тваёй, сваёй* (радзей *маéй, тваéй, сваéй,* або *маéе, тваéе, сваéе*).

Прасочваецца таксама ізаглоса, у нейкай меры падобная да разгледжаных вышэй, якая размяжоўвае гаворкі ў адносінах формы цяперашняга часу дзеяслова са значэннем 'знаходзіцца ў наяўнасці'. У беларускай дыялектнай мове адзначаецца адна асабовая форма адпаведнага дзеяслова, але ў некалькіх варыянтах: *есць, ёсць; éсцека, ёсцека; есь, ёсь; éсека, ёсека* і *е, ё,* а таксама *ест.*

Ізаглосай тыпу папярэдніх размяжоўваецца тэрыторыя наяўнасці, з аднаго боку, і адсутнасці, з другога, структурных варыянтаў адзначанай формы *е* або *ё*. Ужыванне варыянта *е* адзначаецца на поўдзень ад лініі Гродна—Баранавічы—Дзяржынск—Бабруйск—Гомель. Да арэала варыянта *е* прымыкае арэал *ё,* паўночна-заходняя мяжа якога праходзіць па лініі Дзяржынск—Мінск—Плешчаніцы—Чашнікі—Сянно—Багушэўск (ДАБМ, карта № 163). Гэтыя неаформленыя асабовым паказчыкам варыянты ўжываюцца звычайна паралельна з аформленымі: *е* з *есць, есь* і *ест,* а *ё* з *ёсць, ёсь,* хоць нярэдка адзначаюцца толькі неаформленыя варыянты (напрыклад, на ўсходзе Палесся — варыянт *е,* на ўсходзе Магілёўскай вобласці — варыянт *ё*). Аднак у цэлым размежаванне варыянтаў *е* і *ё* не зусім выразнае. Прытым і паходжанне гэтых варыянтаў, відаць, неаднолькавае. У адных выпадках іх можна разглядаць як з'яву вельмі далёкага мінулага, у другіх — як вынік позніх фанетычных працэсаў [79, *179—182*; 88, *276*]. Таму натуральна, што арэалы аднолькавых варыянтаў могуць быць вынікам камбінацыі тэрытарыяльнага праяўлення розных па часе працэсаў дыялектнага развіцця.

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНЯГА НАПРАМКУ

### Полацка-кармянскі пучок

**(карты № 37—44)**

Полацка-кармянскі пучок — гэта згушчэнне ізаглос на ўсходзе Беларусі. Таму гэтыя ізаглосы ўмоўна можна назваць усходнімі. Утвараюць яны істотную дыялектную мяжу па тэ-

рыторыі Магілёўскай і Віцебскай абласцей. На паўднёвым усходзе каля дзяржаўнай граніцы Беларусі ўсходнія ізаглосы звязваюцца ў адно перапляценне з ізаглосамі сярэдняга пучка другога тыпу (гл. стар. 116). Але ў напрамку на паўночны захад усходні пучок адхіляецца ад ізаглос сярэдняга пучка на ўсход, праходзячы каля Магілёва і далей паміж Віцебскам і Полацкам.

Колькасць усходніх ізаглос досыць вялікая, і складаюць яны даволі значнае адзінства. Гэты пучок ізаглос з'яўляецца як бы ўсходнім краем ці берагам шырокай паласы праходжання розных пучков ізаглос паўднёва-заходняга напрамку ва ўсёй іх сукупнасці.

Моўныя з'явы, ізаглосы тэрытарыяльных адрозненняў якіх уваходзяць ва ўсходні пучок, структурна разнастайныя. Аднак пераважная большасць іх адносіцца да фанетыкі або звязана з лексікай. Граматычных, у прыватнасці марфалагічных, сярод іх мала.

Ёсць і яшчэ адна агульная асаблівасць усходніх ізаглос. Паміж некаторымі моўнымі з'явамі з гэтымі ізаглосамі заўважаецца непасрэдная ўзаемазалежнасць у структурна-генетычных адносінах. У сваёй канкрэтнай рэалізацыі адна з'ява абумоўлена нярэдка характарам рэалізацыі другой, хоць па сваім месцы ў структуры мовы яны зусім розныя.

Адной з найбольш прыкметных і важных, нават вызначальных ізаглос усходняга пучка з'яўляецца ізаглоса адрознення фаналагічных сістэм гаворак у адносінах складу санорных плаўных фанем вібрантаў [1]. Праходзіць гэта ізаглоса (з поўначы) па лініі Расоны—Полацк—Шуміліна—Дуброўна, потым па Дняпру да Быхава, дзе адхіляецца на ўсход у напрамку Карма — Чачэрск (ДАБМ, карта № 42).

Адзначаная ізаглоса выразна і рэзка размяжоўвае два асноўныя тыпы ўжывання санорных плаўных вібрантаў. На ўсход ад яе ў фаналагічнай сістэме мясцовых гаворак на тэрыторыі Беларусі адзначаецца наяўнасць фанемы [р] у пары з фанемай [р']. Звычайна ў гэтых гаворках фанемы [р] і [р'] размяркоўваюцца па ўжыванню прыблізна так, як і ў рускай мове. Толькі ў некаторых выпадках ад гэтага ў нейкім сэнсе стандартнага тыпу размеркавання [р] і [р'] назіраюцца нязначныя адхіленні ў бок павелічэння сферы ўжывання фанемы [р'] за кошт звужэння сферы фанемы [р] або наадварот. Але такія адхіленні маюць адзінкавы і выпадковы характар [2].

---

[1] Вялікае значэнне надаваў гэтаму адрозненню пры групоўцы гаворак Я. Ф. Карскі [63, *193*].

[2] Яны найбольш назіраюцца на беразе арэала фанемы [р'] на мяжы з цвёрдаэрымі гаворкамі або пры суседстве з так званымі астраўнымі цвёрдаэрымі гаворкамі на тэрыторыі мяккаэрых [147, *69—83*; 150].

На захад і поўдзень ад гэтай ізаглосы пашыраны беларускія гаворкі, фаналагічнай сістэме якіх уласціва толькі фанема [р]. Ужываецца яна як у адпаведнасці з фанемай [р], так і з фанемай [р’] гаворак па другім баку ізаглосы. Рэалізуецца фанема [р] на паўднёвым захадзе ў цвёрдым плаўным вібранце. Але на поўдні Беларусі яна ў некаторых гаворках больш або менш заканамерна выступае ў дзвюх разнавіднасцях — цвёрдай і мяккай [88, *127—130*].

Супадае па праходжанню з адзначанай ізаглосай таксама вельмі выразная ізаглоса формы назоўнага склону множнага ліку займенніка *ўвесь* (або, дакладней, канцавога галоснага ў форме). У асноўнай масе беларускіх гаворак на захад ад ізаглосы адзначаецца форма *усе́* з канцавым націскным **е** або **ê**, **ие** ў строгай адпаведнасці з наяўнасцю або адсутнасцю ў гаворках у складзе націскных гукаў падобных галосных [1]. Адпавядае таксама асаблівасці націскнога вакалізму гаворак паўднёвага захаду Беларусі (Брэсцкая вобл.) і рэалізацыя галоснага ў выглядзе [и] (*ус’и́* або *уси́,* ці *вси* падобна *л’ис, сн’иɣ, с’и́но; лис, сниɣ, си́но*).

На ўсход ад ізаглосы адзначаецца амаль паслядоўна форма *ус’и́.*

З ізаглосай розных фанематычных тыпаў плаўных вібрантаў у той ці іншай ступені звязаны перш за ўсё межы паслядоўнага або пераважнага ўжывання (а ў асобных выпадках і проста межы пашырэння) усходніх варыянтаў некаторых з’яў.

Найбольш важная асаблівасць з адзначанай групы з’яў — гэта дысімілятыўнае аканне беларускага тыпу. Мяжа пашырэння паслядоўнага дысімілятыўнага акання вызначаецца зараз некалькі на захад ад ізаглосы плаўных вібрантаў (ДАБМ, карта № 1). Але калі ўлічваць пэўную цяжкасць у практычным размежаванні дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання і прытым яшчэ індывідуальныя ўяўленні розных збіральнікаў матэрыялаў аб тыпах гучання галосных, а таксама значную складанасць самой моўнай з’явы ў цэлым у гаворках на тэрыторыі Беларусі, то гэта частковае і нязначнае несупадзенне можна разглядаць як неістотнае або не прымаць пад увагу зусім.

З мяжой пашырэння паслядоўнага дысімілятыўнага акання амаль супадае таксама і мяжа найбольш паслядоўнага дысімілятыўнага якання. На пераважнай паўднёвай частцы свайго арэала (з усходу) яно такога ж тыпу, як і дысімілятыўнае аканне. На поўначы ж (Віцебская вобл.) адзначаецца дысімілятыўнае аканне з рэалізацыяй ненаціскной [а] пасля мяккіх

[1] Ва ўскосных склонах — *ус’и́х, ус’и́м, ус’и́м’и* паслядоўна ва ўсіх гаворках на тэрыторыі Беларусі.

зычных у першым складзе перад націскам у выглядзе галоснага **и** не толькі перад націскной [а], але і [е] (*с'ц'ану́, с'ц'ано́й, с'ц'аны́*, але *с'ц'ина́, с'ц'ин'е́*; ДАБМ, карта № 4).

Супадае з ізаглосай плаўных вібрантаў усходняя мяжа найбольш паслядоўнага і выразнага вымаўлення канцавога [й] у формах назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду (ДАБМ, карты № 110, 111). Як і характар акання, наяўнасць або адсутнасць канцавога [й] — досыць цяжкая з'ява дляназірання і дакладнага выяўлення і ўстанаўлення. Фанеме [й] у адзначаных умовах папярэднічаюць у гаворках, як правіла, галосныя [ы], [и], блізкія да яе па ўтварэнню. Акрамя таго, ва ўмовах канца слоўнай формы яна з'яўляецца часта не зусім выразнай. Праўда, на тэрыторыі, дзе больш паслядоўна адзначаецца [й] у прыметнікавых формах, перад [й] пад націскам вымаўляецца [е] (*маладе́й, худе́й, прасте́й, сух'е́й*). У такіх выпадках наяўнасць [й] устанавіць не цяжка. Але гэта з'ява характэрна пераважна толькі для паўночнай часткі арэала [й] у прыметнікавых формах, а на астатняй тэрыторыі назіраецца зрэдку, толькі паасобнымі астраўкамі. Дарэчы, хоць вымаўленне [й] і наяўнасць [е] ў прыметнікавых формах не знаходзяцца ў строгай тэрытарыяльнай адпаведнасці, ёсць усё ж нейкія падставы меркаваць, што захаванне [й] звязана з гэтай асаблівасцю [1].

Тут жа праходзіць таксама мяжа найбольш шырокага ўжывання інфінітываў дзеясловаў з асновай на зычны і пры націску на аснове (*не́сці, ве́зці, пле́сці, се́сці; пячы́, сячы́, стрыгчы́, сцерагчы́*) са «скарочаным» суфіксам неазначальнасці **-ч, -ць**, як і ва ўсіх іншых дзеясловах: *несць, сесць, плесць, везць* [2], *печ, тоўч, сеч, стрішч—стріжць, сцяре́жч—сцяре́жць* (ДАБМ, карты № 174, 175, 178, 179). Трэба толькі адзначыць, што інфінітывы з асновай на заднеязычны могуць мець у гаворках і націск на суфіксе. Натуральна, што тады [ы] захоўваецца (*пячы́, сячы́, сцерагчы́*). Тэрыторыя пашырэння інфінітываў з націскам на суфіксе сваім усходнім краем некалькі заходзіць на тэрыторыю пашырэння адпаведных інфінітываў з націскам на аснове. Гэта і вядзе да некаторай своеасаблівасці ізаглосы інфінітываў са «скарочаным» суфіксам. Інфінітыўныя формы тыпу *пячы́, сцерагчы́* могуць, як паказваюць матэрыялы, выклікаць паралельнае ўжыванне форм

---

[1] Вымаўленне [й] у формах назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду адзначаецца таксама паслядоўна ў гаворках заходняга Палесся. Наяўнасць яго звязана там з некалькі іншымі прычынамі. Канчатак **-ий** прыметнікаў у гэтых гаворках ёсць фанетычны варыянт канчатка **-ой**, дзе фанема [о] ва ўмовах закрытага складу рэалізуецца ў [и] (*маладо́й — маладий*, як *кот — к'ит*).

[2] Спалучэнне [с'ц'] у адпаведнасці з пэўнай фанетычнай асаблівасцю гаворак вымаўляецца ў некаторых месцах як **с'** [88, *135*, *136*].

*пе́кчы* побач з *пекч (печ), сцярэ́гчы* і *сцярэ́гч (сцярэ́жч)*. Але з-пад гэтых напластаванняў усё ж выразна выступае мяжа даволі паслядоўнага ўжывання форм *печ, сцярэ́жч*, блізкая да ізаглосы плаўных вібрантаў.

У адносінах разгледжаных вышэй ізаглос трэба зрабіць адну істотную заўвагу. Калі звярнуць увагу на іх праходжанне, то можна бачыць, што прыблізна на тэрыторыі мяжуючых раёнаў Магілёўскай і Віцебскай абласцей, г. зн. у сваёй сярэдняй частцы, адны з ізаглос (напрыклад, ізаглоса плаўных вібрантаў) адхіляюцца па праходжанню ў напрамку на ўсход ад пучка і нярэдка досыць значна, а другія, наадварот, як бы адступаюць ад пучка ў напрамку на захад (ізаглоса паслядоўнага і спарадычнага дысімілятыўнага акання і якання). Пучок усходніх ізаглос у сваёй сярэдняй частцы на тэрыторыі Беларусі як бы некалькі разыходзіцца, робіцца больш шырокім, чым у сваёй паўночнай і паўднёва-ўсходняй частках. У сувязі з гэтым у дадзены пучок ізаглос можна ўключыць, відаць, і ізаглосы, якія з'яўляюцца межамі пашырэння на захад дыялектных асаблівасцей з усходняй часткі Беларусі, але з поўнай або частковай адсутнасцю іх каля сярэдняй часткі пучка. Гэта назіраецца, напрыклад, у адносінах пашырэння ў гаворках асабовых форм дзеясловаў з асновай на заднеязычныя **г**, **к**, **х** з захаваннем у іх фанематычных якасцей (*пяку́, пяке́ш, пяке́ць, пякём, пікіцё, пяку́ць*). Паслядоўнае ўжыванне такіх форм адзначаецца толькі на поўнач ад Віцебска (ДАБМ, карта № 158). На поўдзень ад гэтага раёна, прыблізна да Дняпра, указваецца на наяўнасць іх пераважна або паралельна з формамі *пяку́, пячэ́ш, пячэ́ць, пячо́м* і інш. Такое ж паралельнае або пераважнае ўжыванне назіраецца і ў гаворках самых усходніх раёнаў Магілёўскай вобласці. Паміж гэтымі як бы асобнымі арэаламі адзначаюцца толькі формы тыпу *пяку́, пячэ́ш, пячэ́ць*, характэрныя для гаворак Беларусі на захад ад усходняй групы ізаглос.

Менш выразная мяжа тэрытарыяльных адрозненняў у характары зычнага ў аснове давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **г**, **к**, **х**. Дыялектная мова ўсходу Беларусі формамі *наге́, руке́, стрáхе́* адрозніваецца ад мовы ўсёй тэрыторыі Беларусі з формамі *назе́, руцэ́, страсе́*. Формы на **г'**, **к'**, **х'** выступаюць зноў жа двума астраўкамі на поўначы і поўдні ўсходняга арэала. Аднак у адрозненне ад папярэдняй з'явы ўжывальнасць усходніх форм *наге́, руке́, стряхе́* нават у межах астраўкоў іх выяўлення спарадычная, асабліва ў Магілёўскай вобласці (ДАБМ, карты № 65, 66).

Амаль усе разгледжаныя з'явы звязваюцца па межах сваіх тэрытарыяльных адрозненняў з ізаглосай плаўных вібрантаў (або, дакладней, з ізаглосай наяўнасці і адсутнасці ў га-

ворках фанемы [р']) толькі ў адносінах паслядоўнай або пераважнай ужывальнасці ўсходніх варыянтаў. Спарадычна ж усходнія тэрытарыяльныя варыянты адзначаюцца, як правіла, на значнай тэрыторыі на захад ад мяжы іх панавання і ізаглосы плаўных вібрантаў.

Асабліва паказальныя ў гэтым сэнсе тэрытарыяльныя суадносіны розных асаблівасцей акання і якання.

Пры назіранні над матэрыяламі па геаграфіі асаблівасцей, звязаных з аканнем і яканнем, заўважаецца як бы паступовасць пераходу акання і якання дысімілятыўнага тыпу да акання і якання недысімілятыўнага тыпу (або, наадварот, пераходу ад недысімілятыўнага акання і якання да дысімілятыўнага, што з сінхроннага пункту гледжання аднолькава верагодна). Прытым гэта паступовасць выступае і выяўляецца ў асаблівасцях акання і якання на тэрыторыі паміж крайнімі разнавіднасцямі абодвух тыпаў, у тэрытарыяльных адносінах паміж адпаведнымі асаблівасцямі аднаго і другога тыпу і, нарэшце, у тэрытарыяльных сувязях паміж рознымі прыватнымі асаблівасцямі асобна акання і асобна якання.

Дысімілятыўнае аканне пашырана тэрытарыяльна з усходу на захад як у сваёй паслядоўнай рэалізацыі, так і ў частковым, непаслядоўным праяўленні сваіх асаблівасцей амаль у аднолькавых межах. На заходнім беразе яго арэала пераплятаюцца ў асноўным іншыя ізаглосы ўсходняга пучка. Выпадкі наяўнасці дысімілятыўнага акання побач з недысімілятыўным у выглядзе паралельнай сістэмы або ў якасці адзінкавых элементаў на захад ад усходняга пучка ізаглос рэдкія (па матэрыялах ДАБМ). Толькі ў сваёй паўночнай частцы ізаглоса дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання як бы раздвойваецца. Мяжа пашырэння паслядоўнага дысімілятыўнага акання ўваходзіць у групу ўсходніх ізаглос (ДАБМ, карта № 1). А мяжа яго пашырэння паралельна з недысімілятыўным звязваецца фактычна з сярэднім пучком ізаглос паўднёва-ўсходняга напрамку (гл. стар. 114).

Пры дысімілятыўным аканні ў першым складзе перад націскной галоснай [а] ненаціскная фанема [а] рэалізуецца ў пэўных умовах не ў гуку **ы(ъ)**, а ў гуку **у** [147, *29*]. Адзначаная з'ява назіраецца як на тэрыторыі паслядоўнага дысімілятыўнага акання, так і пры паралельным суіснаванні яго з недысімілятыўным.

Паслядоўнае дысімілятыўнае аканне суправаджаецца радам звязаных з ім асаблівасцей у вакалізме іншых ненаціскных складоў. У паслядоўна дысімілятыўна акаючых гаворках у другім і наступных складах перад націскам пасля цвёрдых зычных ненаціскная фанема [а] рэалізуецца, як і ў першым складзе перад націскной фанемай [а], у гуках верхняга пад'ёму (*гылывá, сыладз'йц'*). Мяжа пашырэння на захад гэтай

«спадарожнічаючай» дысімілятыўнаму аканню асаблівасці ў яе паслядоўным праяўленні праходзіць у асноўным там, дзе і мяжа паслядоўнага дысімілятыўнага акання. Толькі ў цэнтральнай частцы яна ў некаторых месцах крыху адхіляецца на захад. Аднак з арэалам непаслядоўнай рэалізацыі адзначанай асаблівасці справа больш складаная.

Па матэрыялах ДАБМ (карта № 8), на захад ад мяжы свайго паслядоўнага праяўлення гэта з'ява адзначаецца досыць часта на значнай тэрыторыі. Больш часта выступае яна на паўночным захадзе ў межах непаслядоўнага дысімілятыўнага акання. Тут яна ў крайнім выпадку адзначаецца як неабмежаваная лексічна, хоць указваецца часта на наяўнасць паралельнага, аднолькава ўжывальнага вымаўлення гука **а** ў адпаведных умовах.

Але ў адрозненне ад дысімілятыўнага акання выпадкі рэалізацыі ненаціскной фанемы [а] ў другім і наступных складах перад націскам у гуку **ы(ъ)** назіраюцца часта ў гаворках і далей у напрамку на паўднёвы захад. Лінія, што злучае крайнія заходнія пункты выяўлення падобнай з'явы, амаль што супадае з астравецка-лоеўскім пучком ізаглос паўднёва-заходняга напрамку.

Вызначыць якасць ненаціскнога галоснага гука ў адзначанай пазіцыі на слых досыць цяжка. Таму можна было б дапусціць, што ўказанні на адзінкавыя выпадкі вымаўлення галоснага **ы(ъ)** з'яўляюцца проста вынікам недакладнай інтэрпрэтацыі аслабленага вымаўлення галосных у ненаціскной пазіцыі наогул. Аднак некаторыя факты сведчаць, што гэта, відаць, не зусім так. Па-першае, на тэрыторыі, дзе адзначаецца вымаўленне галоснага **ы(ъ)** у падобнай пазіцыі ў адзінкавых выпадках, назіраецца таксама ў пэўных умовах у гэтай пазіцыі і вымаўленне галоснага **у** (*пув'ал'й, галубо́ў, нучува́ц'*; ДАБМ, карта № 9). Гэта асаблівасць часта выяўляецца ў гаворках з паслядоўным вымаўленнем галоснага **ы(ъ)** у другім і наступных складах перад націскам. Па-другое, самыя выпадкі адзінкавага вымаўлення наглядаюцца толькі ў гаворках паўночна-ўсходняй часткі Беларусі, а не ва ўсіх акаючых гаворках. Таму можна меркаваць, што ў многіх выпадках падобная з'ява не была заўважана, а таму не знайшла адлюстравання.

Гук верхняга пад'ёму **ы(ъ)** у адпаведнасці з [а] не пад націскам адзначаецца паслядоўна ў дысімілятыўна акаючых гаворках пасля цвёрдых зычных і ў складах пасля націску, за выключэннем канцавога адкрытага складу (ДАБМ, карты № 12, 13). Але калі ў другім і наступных складах перад націскам падобнае вымаўленне назіралася значна далей на паўднёвы захад ад мяжы пашырэння дысімілятыўнага акання, то з'ява тыпу *го́рыда, го́ръда* або *го́рыд, го́ръд* паслядоўна на-

глядаецца ў межах паслядоўнага дысімілятыўнага акання і выступае ў суіснаванні з вымаўленнем тыпу *го́рада, го́рад* у тых гаворках, дзе дысімілятыўнае аканне суіснуе паралельна з недысімілятыўным.

Супадае з мяжой пашырэння дысімілятыўнага акання ў заходнім напрамку і дысімілятыўнае яканне (ДАБМ, карта № 4). Але ў адносінах пашырэння як само дысімілятыўнае яканне, так і суправаджаючыя яго асаблівасці ненаціскнога вакалізму істотна адрозніваюцца ад дысімілятыўнага акання.

На паўднёвы захад ад мяжы сваёй паслядоўнай рэалізацыі дысімілятыўнае яканне на значнай тэрыторыі хоць і адзначаецца ў суіснаванні з недысімілятыўным, але выступае, відаць, пераважнай, пануючай асаблівасцю ў дыялектнай мове. Бо досыць часта недысімілятыўнае яканне заўважаецца тут толькі ў адзінкавых словах. Мяжа такога непаслядоўнага дысімілятыўнага якання вызначаецца прыблізна каля лініі Гомель—Рагачоў—Чэрвень—Мінск—Маладзечна — Паставы і супадае з сярэднім пучком ізаглос. А мяжа, да якой заўважаецца яно ў асобных словах, праходзіць ажно ў паласе ашмянска-гомельскага пучка ізаглос паўднёва-заходняга напрамку.

На тэрыторыі паслядоўнага дысімілятыўнага якання адзначаецца таксама паслядоўна гук **и**(**ь**) у адпаведнасці з ненаціскной фанемай [а] пасля мяккіх зычных у другім і наступных складах перад націскам: *с'ир'ида́, в'икува́ц', ц'иц'ару́к, дз'ир'иза́, п'итачо́к* [88, *80, 81*], *п'ир'амы́ц'* (ДАБМ, карта № 10), *в'ир'иц'ано́, в'ьр'иц'ано́, з'ил'иныват*ы́ (ДАБМ, карта № 11). Як і дысімілятыўнае яканне, гэта асаблівасць пашырана ў гаворках і далей на паўднёвы захад, прыблізна да пучка ашмянска-гомельскіх ізаглос, і суіснуе ў розных адносінах з вымаўленнем тыпу *с'ерада́, з'ел'енава́ты* або *с'арада́, з'ал'анава́ты,* якім суправаджаецца паслядоўнае недысімілятыўнае яканне.

Прыблізна такі ж арэал рэалізацыі ненаціскной фанемы [а] ў пазіцыі пасля мяккіх зычных у гуку [и] ў складах пасля націску тыпу *во́з'ира, с'о́л'ита* (ДАБМ, карта № 15), *во́с'ин', хло́п'иц* (ДАБМ, карта № 16), *за́йиц, па́м'иц'* (ДАБМ, карта № 19). У дысімілятыўна акаючых гаворках гэта з'ява выступае досыць паслядоўна. У межах суіснавання двух тыпаў акання заўважаюцца варыянты з гукам **е** або **а**, характэрныя пры паслядоўным недысімілятыўным аканні: *во́з'ера—во́з'ара, во́с'ен'— во́с'ан'* і інш.

Некалькі іншую мяжу на паўднёвым захадзе мае арэал вымаўлення гука [и] ў адпаведных умовах у некаторых граматычных формах, у прыватнасці ў давальным склоне множнага ліку назоўнікаў з мяккай асновай (ДАБМ, карта № 20). Пашыранасць вымаўлення *ка́пл'им, в'и́шн'им* такая ж

прыблізна, як і вымаўленне **ы(ъ)** пасля цвёрдых зычных у аналагічнай пазіцыі [1].

Пры разглядзе наяўнасці, характару і межаў пашырэння акання і якання неабходна, відаць, крытычна аднесціся да некаторых назіранняў.

З матэрыялаў ДАБМ вынікае, што дысімілятыўнае аканне і яканне са звязанымі з імі асаблівасцямі ненацікнога вакалізму супадаюць у сваім пашырэнні ў гаворках толькі межамі паслядоўнай рэалізацыі. Што ж датычыцца межаў непаслядоўнага і частковага праяўлення абедзвюх з'яў са сваімі спадарожнічаючымі асаблівасцямі, то гэтыя межы значна адрозніваюцца па праходжанню. Межы розных асаблівасцей, звязаных з дысімілятыўным аканнем або залежных ад яго, праходзяць у асноўным разам з ізаглосамі астравецка-лоеўскага пучка, а межы дысімілятыўнага якання і адпаведных асаблівасцей звязваюцца па праходжанню з ашмянска-гомельскім пучком.

Аднак тэрытарыяльная неадпаведнасць паміж суадноснымі асаблівасцямі дысімілятыўнага акання і дысімілятыўнага якання ў беларускай дыялектнай мове не з'яўляецца яшчэ бясспрэчным фактам. Абодва гэтыя віды ненацікнога вакалізму выступаюць структурна як разнавіднасць аднаго тыпу акання ў шырокім сэнсе. Адзіныя яны паміж сабою і генетычна. Таму некалькі супярэчлівыя сучасныя даныя аб пашырэнні дысімілятыўнага акання і якання ў іх канкрэтных асаблівасцях з'яўляюцца, магчыма, вынікам недакладнасці ці метадалагічнага непаразумення. На гэта ўказваюць прама ці ўскосна некаторыя з разгледжаных матэрыялаў.

Цікавай з'яўляецца таксама ў сувязі з гэтым і рэалізацыя галоснага ў складзе пасля націску ў суфіксе дзеясловаў *раска́зваць, закі́дваць* і інш. (ДАБМ, карта № 25). У гаворках з паслядоўным дысімілятыўным аканнем назіраецца паслядоўна *раска́зываць, закі́дываць,* што зусім натуральна. Вымаўленне ў суфіксе гука **ы(ъ)** у адпаведных дзеясловах паралельна з **а** або то з **а**, то з **ы(ъ)** мае такі ж арэал, як і дысімілятыўнае яканне.

Нельга не звярнуць увагу ў гэтай сувязі і на адваротны факт. Маецца на ўвазе арэал вымаўлення гука **а** ў першым складзе перад націскам у адпаведнасці з [ы] перад [а]: *па-*

---

[1] Цікавыя ў сувязі з гэтым матэрыялы аб галосным у ненацікным канчатку 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (ДАБМ, карта № 151). Вельмі выразная ізаглоса, якая адмяжоўвае гаворкі паўночнага ўсходу Беларусі з паслядоўным ужываннем у адпаведных умовах галоснага **и** *(м'е́л'им, сы́п'им, зна́йим)* ад паўднёвага захаду з ужываннем тут галоснага **а** (пры недысімілятыўным яканні) або **е** ці **о** (пры еканні і оканні), уваходзіць у ашмянска-гомельскі пучок ізаглос.

*та́ц', рассапа́ц'* (ДАБМ, карта № 22), *бала́* (ДАБМ, карта № 23). Пашырэнне гэтай з'явы на паўднёвы захад акрэсліваецца мяжой дысімілятыўнага акання.

Такім чынам, дысімілятыўнае аканне і яканне, а таксама залежныя ад іх асаблівасці вакалізму гаворак межамі свайго пашырэння звязваюць усходні пучок ізаглос з астравецка-лоеўскім і ашмянска-гомельскім пучкамі, інакш кажучы, усе буйныя адзінствы ізаглос паўднёва-заходняга напрамку.

На значнай адлегласці ад мяжы сваёй паслядоўнай рэалізацыі праходзіць і паўднёва-заходняя мяжа непаслядоўнага вымаўлення [й] у канчатках назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду (ДАБМ, карты № 110, 111). Мяжа непаслядоўнай рэалізацыі гэтай з'явы звязваецца з астравецка-лоеўскім пучком ізаглос. У зоне паміж межамі паслядоўнай і непаслядоўнай рэалізацыі вымаўленне [й] з'яўляецца або спарадычным, або не зусім выразным, або назіраецца ў адзінкавых выпадках.

З астравецка-лоеўскім пучком ізаглос паўднёва-заходняга напрамку супадае і паўднёва-заходняя мяжа паралельнага суіснавання «скарочаных» усходніх інфінітыўных форм *несць, печ* (ДАБМ, карты № 174, 175, 178, 179) з формамі *не́сці, пячы́,* характэрнымі для паўднёвага захаду. Больш таго, «скарочаныя» ўсходнебеларускія дыялектныя формы *печ, сеч* адзначаюцца нярэдка ў якасці паралельных да паўднёва-заходніх яшчэ далей за гэту мяжу ў напрамку на паўднёвы захад. Іх арэал, відаць, мае паўднёва-заходнюю мяжу, якая супадае таксама з ашмянска-гомельскім пучком ізаглос (ДАБМ, карта № 179).

Значна больш складаную сістэму ўтвараюць ізаглосы наяўнасці галоснай фанемы [е] або [о] пасля цвёрдых зычных пад націскам і не пад націскам перад [й] у канчатках прыметнікаў і займеннікаў.

Усходні пучок уключае ізаглосу, што адмяжоўвае гаворкі, у якіх у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў адзначаюцца формы на *-ей* (*маладэ́й, сухе́й*), ад гаворак, для якіх характэрны формы на **-ой**, **-ое**, **-оі** (*маладо́й, сухо́й; маладо́е, сухо́е; маладо́і, сухо́і*).

Формы на **-ей** назіраюцца на ўсход ад ізаглосы. Але ў адрозненне ад аналагічных ізаглос папярэдніх з'яў гэта ізаглоса выступае толькі мяжой непаслядоўнай рэалізацыі падобных форм (наяўнасці і адсутнасці), а не іх паслядоўнага ўжывання. На тэрыторыі свайго пашырэння формы на **-ей** адзначаюцца паралельна з паўднёва-заходнімі формамі на **-ой**, а таксама ўсходнімі на **-ыя** (ДАБМ, карты № 119, 120).

Прыблізна такая ж мяжа і арэала ўсходніх форм на **-ей** у творным склоне адпаведных прыметнікаў. На паўднёвым усходзе ад пучка ўсходніх ізаглос формы на **-ей** не адзначаны.

ды і ў сваім арэале на ўсходзе Беларусі яны не адзіныя. Часта ўжываюцца яны ў паўночнай частцы арэала. У паўднёвай жа частцы адзначаюцца спарадычна (ДАБМ, карты № 125, 126).

Такім чынам, усходнія ізаглосы адрозненняў у разгледжаных прыметнікавых формах выступаюць у якасці межаў пашырэння на паўднёвы захад асаблівасцей, характэрных для гаворак усходу Беларусі (форм на **-ей**), а не іх паслядоўнага ўжывання, як гэта ўласціва ўсходнім ізаглосам іншых адрозненняў (напрыклад, адрозненняў у аканні). Паслядоўна адзначаюцца да гэтых межаў у напрамку на ўсход супрацьлеглыя, паўднёва-заходнія суадносныя асаблівасці (паўднёва-заходнія формы), якія суіснуюць паралельна з усходнімі ў арэале іх пашырэння.

Заўважаецца сувязь з разгледжанымі асаблівасцямі ў адносінах арэала пашырэння ўсходніх адрозненняў на паўднёвы захад у формах давальнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду. Але ўсходнія формы на **-ей** (ДАБМ, карты № 121, 122) сустракаюцца толькі ў паўночнай частцы гаворак усходняга арэала (Віцебшчына). Праўда, у некалькіх месцах яны адзначаны і ў паўднёвай частцы (Магілёўшчына), што і дае нейкія падставы лічыць мяжой іх пашырэння ў напрамку на паўднёвы захад паласу ўсходніх ізаглос (маючы на ўвазе пры гэтым адрозненне гаворак паўночнай і паўднёвай частак усходняга арэала і ў адносінах рэалізацыі асаблівасцей папярэдніх з'яў — дысімілятыўнага якання, чаргавання **г, к, х** : **з, ц, с** і інш.).

Ізаглосай усходняга пучка размяжоўваецца ўжыванне ў назоўным склоне множнага ліку прыметнікавых форм на **-ейе** (*маладэ́я, сухе́я*), якія адзначаюцца на ўсходзе, і адпаведных форм на **-ыйе**, характэрных для астатняй тэрыторыі Беларусі. Ужывальнасць форм на **-ейе** на ўсходзе (ДАБМ, карта № 127) нязначная. Пераважаюць формы на **-ыйе**. Таму ізаглоса выступае не зусім выразна. І яшчэ адна асаблівасць. Ужывальнасць усходніх форм хоць і нязначная, але больш-менш аднолькавая як у паўночнай частцы гаворак, так і ў паўднёвай.

Натуральна было б бачыць падобнае размежаванне адрозненняў і ў іншых блізкіх да прыметнікаў па формаўтварэнню словах у аналагічных умовах, напрыклад у ўказальнага займенніка *той*. Але матэрыялы сведчаць, што хоць дыялектная аднесенасць варыянтаў з [о] і [е] перад [й] займеннікавых форм такая ж, як і аналагічных прыметнікавых (варыянты з [о] паўднёва-заходнія, варыянты з [е] ўсходнія, ці, дакладней, паўночна-ўсходнія), але па межах пашырэння (па тэрытарыяльных адносінах) адзначаныя варыянты займеннікавых форм істотна адрозніваюцца ад суадносных прыметнікавых.

У родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду займенніка *той* у беларускіх гаворках назіраюцца варыянты з галоснымі [е], [о], [ы]: *тэй* (*тэ́е*), *той* (*то́е, тае́, тае́й*) і *тый* (*ты́е, тые́*). Тэрытарыяльнае пашырэнне іх наступнае. Варыянты з [о] паслядоўна адзначаюцца ў гаворках паўднёвага захаду Беларусі. Ужываюцца яны і ў гаворках паўночнага ўсходу. Але значна больш пашыраны тут варыянты з [е] або [ы]. Ізаглоса ж гэтага дыялектнага адрознення ўваходзіць, аднак, не ва ўсходні пучок, як мяжа тэрытарыяльных варыянтаў аналагічных форм прыметнікаў, а ў ашмянска-гомельскі пучок ізаглос паўднёва-заходняга напрамку (ДАБМ, карта № 135).

У давальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду займенніка *той* на паўночным усходзе адзначаецца таксама варыянт *тэй* досыць часта паралельна з варыянтам *той,* пашыраным на паўднёвым захадзе. Аднак тэрыторыя варыянта з [е] ў адрозненне ад падобнага варыянта ў родным склоне абмежавана толькі паўночнай часткай гаворак паўночнага ўсходу Беларусі. У гаворках паўднёвай часткі паўночнага ўсходу пашыран варыянт з [о]. Варыянт з [е] адзначаецца тут так рэдка, што разглядаць гэту тэрыторыю як частку яго арэала наўрад ці можна.

Адпаведная форма на **-ей** у прыметніках назіралася толькі ў паўночнай частцы гаворак на ўсходзе Беларусі (ДАБМ, карта № 121).

Падобнае геаграфічнае размяшчэнне і падобную па праходжанню ізаглосу маюць таксама аналагічныя варыянты з [о] (*той, то́ю, тае́й, тае́ю*) і [е] (*тэй, тэ́ю*) у творным склоне адзіночнага ліку займенніка жаночага роду *той* (ДАБМ, карта № 137) [1].

Варыянты *той* і *тэй* характэрны адпаведна для гаворак паўднёвага захаду і паўночнага ўсходу Беларусі і ў назоўным склоне адзіночнага ліку займенніка мужчынскага роду *той.* На паўночным усходзе варыянт *тэй* пашыран і амаль што пануе на тэрыторыі Магілёўскай і ў прымыкаючых раёнах Гомельскай і Віцебскай абласцей. Мяжа яго пашырэння на захад некалькі адыходзіць ад важнейшых усходніх ізаглос. Адзначаецца варыянт *тэй* зрэдку і далей на паўднёвы захад за гэтай мяжой. Але пашыраецца ён у гэтым напрамку ўсё ж толькі да ашмянска-гомельскага пучка ізаглос.

У прыметніках у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду адпаведная форма назіраецца непаслядоўна і на адносна меншай тэрыторыі (ДАБМ, карта № 110).

---

[1] Варыянты з [е] разгледжаных склонавых форм займенніка *той* уласцівы гаворкам самага паўднёвага захаду (Брэсцкая вобл.). Але тут яны назіраюцца пры адсутнасці падобнай з'явы ў прыметніках. Іх хутчэй трэба разглядаць у сувязі з формамі займенніка *сей (цей),* характэрнага для гэтай групы гаворак, замест займенніка *гэ́ты.*

Нарэшце, ізаглоса варыянтаў *тэ́я* і *ты́я* множнага ліку займенніка *той,* як і іх пашырэнне, у асноўным адпавядае ўжывальнасці і тэрытарыяльнаму размежаванню формы множнага ліку прыметнікаў на **-ея** і **-ыя** (ДАБМ, карты № 127, 138).

Такім чынам, ізаглосы адрозненняў у адносінах галоснага ў канчатках прыметнікаў і аналагічных формах займенніка *той* складаюць таксама сістэму, падобную ўвогуле на сістэму ізаглос ненаціскнога вакалізму. Утвараюць гэту сістэму ізаглосы ўсходняга пучка разам з ізаглосамі ашмянска-гомельскага пучка. Але калі ў сістэме ізаглос ненаціскнога вакалізму розныя па аднесенасці ізаглосы з'яўляліся межамі рознай ступені ўжывальнасці пэўных асаблівасцей, то ў сістэме ізаглос адзначаных дыялектных адрозненняў розныя па аднесенасці ізаглосы як бы часткова «лексікалізаваныя». Ізаглосы ўсходняга пучка выступаюць пераважна межамі супрацьпастаўлення варыянтаў з [е] і [о] ў склонавых канчатках прыметнікаў, а ізаглосы ашмянска-гомельскага пучка — мяжой супрацьпастаўлення адпаведных форм указальнага займенніка *той.*

З гэтага ж боку цікавыя тэрытарыяльныя адрозненні гаворак адносна формы творнага склону лічэбнікаў *два* (ДАБМ, карта № 145), *тры* (ДАБМ, карта № 146) і інш. [88, *212, 213*].

У лічэбніка *два* супрацьпастаўляюцца тэрытарыяльна форма *двумá,* з аднаго боку, і формы *двумя́* (*двум*)*, дву́мі* (*дву́мы*) — з другога. Размяжоўваюцца гэтыя два тэрытарыяльныя адрозненні досыць прыкметна крыху на захад ад тыповых усходніх ізаглос, але ўсё ж у паласе гэтага пучка.

Размяшчаюцца тэрытарыяльна адрозненні і іх структурныя варыянты наступным чынам. Форма *двумá* з'яўляецца характэрнай для гаворак на паўднёвы захад ад ізаглосы. Зрэдку ўказваецца на ўжыванне *двумá* і на ўсходняй тэрыторыі. Аднак пры гэтым трэба мець на ўвазе, што форма *двумá* уласціва беларускай літаратурнай мове.

Астатнія формы складаюць структуру ўсходняга дыялектнага адрознення. Формы *двумя́* і *дву́мі* суіснуюць у паўднёвай частцы гаворак усходняга арэала Беларусі (паўднёва-ўсходнія раёны Магілёўскай і ўсходнія раёны Гомельскай абл.) [1]. У іншых гаворках усходу адзначаецца форма *двумя́,* за выключэннем гаворак на поўнач ад Віцебска, дзе ўжываецца форма *двум* (гл. стар. 229). У сваім пашырэнні на паўднёвы захад форма *двумя́* выходзіць за межы ўсходняга пучка. Яна суіснуе паралельна з формай *двумá* да ашмянска-гомельскага пучка ізаглос і зрэдку нават яшчэ далей

[1] Тут жа зрэдку сустракаецца і форма *дву́мы.*

на захад. Праўда, тэрытарыяльныя адносіны паміж формамі творнага склону лічэбніка *два* ўсё ж не зусім выразныя. З гэтага боку больш цікавыя матэрыялы аб тэрытарыяльных суадносінах форм лічэбніка *тры*.

Дыялектныя адрозненні лічэбніка *тры* таксама рэалізуюцца ў форме *трымá*, якая характэрна для тых жа гаворак, што і форма *двумá* (зрэдку *трóма, трóмá* на поўдні Палесся, у адзінкавых выпадках *трэ́ма* на поўначы Палесся), і ў формах *трымя́* (*трóмя, тром*), *трóмі* (*трóмы, трымí, трымы́*) у гаворках, дзе пашыраны адпаведныя формы лічэбніка *два*. Аднак ізаглоса дыялектных адрозненняў больш выразна выступае ў паласе ізаглос ашмянска-гомельскага пучка.

Заслугоўвае ўвагі ў сувязі з усходнім пучком і ізаглоса адрозненняў у націску ў прыметніку *малы́* (ДАБМ, карта № 198). У гаворках Беларусі ўжываюцца формы гэтага прыметніка з націскам на аснове (*мáлы, мáлая, мáлае, мáлыя*) і на канчатку (*малы́, малáя, малóе, малы́я*). Тэрытарыяльна яны размяжоўваюцца ізаглосай усходняга пучка. На паўднёвы захад ад ізаглосы амаль паслядоўна адзначаюцца формы з націскам на канчатку. На ўсход ад яе пашыраны формы з націскам на аснове, але непаслядоўна. У многіх выпадках указваецца на ўжыванне толькі форм з націскам на канчатку або паралельна з формамі з націскам на аснове. Ізаглосу гэтай з'явы трэба разглядаць у сувязі з ізаглосамі ашмянска-гомельскага пучка, якія размяжоўваюць у нейкай ступені аналагічныя адрозненні адносна месца націску ў прыметніках *тóўсты* (ДАБМ, карта № 197) і *прóсты* (ДАБМ, карта № 199) [1].

З усімі разгледжанымі з'явамі па асаблівасцях размежавання сваіх адрозненняў звязана таксама і такая лексіка-граматычная з'ява, як ужыванне і спецыфіка слова для абазначэння найвышэйшай ступені якасці пры прыметніках і прыслоўях. У беларускіх гаворках адзначаюцца ў такіх умовах словы *нáдта* (*занáдта*), *вéльмі* (*вéльма, вéльме*) і *дýжа*.

Слова *нáдта* (*занáдта*) у пераважнай большасці гаворак Беларусі з'яўляецца паралельным варыянтам да іншых слоў у адзначанай функцыі. Арэал яго як бы накладваецца з паўночнага захаду на арэалы пашырэння суадносных з ім па функцыі слоў *вéльмі* і *дýжа* (ДАБМ, карта № 322).

Што датычыцца слоў *вéльмі* і *дýжа*, то адносна іх пашырэння і тэрытарыяльнага размежавання можна сказаць наступнае. Слова *вéльмі* адзначаецца паслядоўна як асноўны

---

[1] Падобная супрацьпастаўленасць не адзінкавая. Гаворкі ўсходу характарызуюцца таксама, па некаторых назіраннях, формамі тыпу *стáры* (у астатніх гаворках — *стары́*), *ця́жкі* (у астатніх — *цяжкí*) і інш. Але матэрыялаў для дакладнага вызначэння межаў ужывання апошніх няма.

варыянт абазначэння ступені якасці на паўднёвым захадзе, а слова *дўжа* — на паўночным усходзе. Арэалы іх часткова заходзяць адзін за другі. Але ўсё ж больш-менш прыкметная мяжа тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення іх праходзіць прыблізна ў ашмянска-гомельскім пучку ізаглос. Далей на ўсход за гэтым пучком слова *вéльмі* адзначаецца радзей, і, наадварот, на паўднёвым захадзе ад пучка рэдка ўжываецца слова *дўжа.*

Пучок усходніх ізаглос у адносінах да гэтай з'явы выступае, з аднаго боку, мяжой пашырэння слова *нáдта* на ўсход і, з другога,—усходняй мяжой паралельнага (хоць і непаслядоўнага) ужывання слова *вéльмі.* На ўсход ад гэтага пучка пануе слова *дўжа.* Асобныя выпадкі ўжывання тут слова *вéльмі* можна звязваць з уплывам літаратурнай мовы.

Усходні пучок ізаглос з'яўляецца, відаць, мяжой прадуктыўнага словаўтварэння назоўнікаў з суфіксам **-іна(-ына)** са значэннем адзінкавасці (*гўсіна, мышына, газéціна, салóміна, паплéціна, бўльбіна, памідóрына, гарóшына, сяніна, сурына, валасіна, лісціна, хварасціна, мўшына, пчаліна рыбіна, шыбіна* і інш.). Хоць аб арэале гэтай дыялектнай з'явы дакладных матэрыялаў зараз няма, але вядома, што такія ўтварэнні асабліва характэрны для дыялектнай мовы ўсходу Беларусі. Некаторае ўяўленне аб праходжанні магчымай ізаглосы наяўнасці і адсутнасці падобных утварэнняў даюць матэрыялы аб формах назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў *мыш* (ДАБМ, карта № 80) і *гусь* (ДАБМ, карта № 81) [1].

У сувязі з арэалам назоўнікаў *мышына* і *гўсіна* цікавая тэрыторыя пашырэння слоў з суфіксам **-іна** ад назоўніка *брывó* (ДАБМ, карта № 108). Словы *брывінá, брóвіна, брывіна* характэрны для гаворак паўночнага ўсходу Беларусі. Але пашыраны яны значна больш на паўднёвы захад, чым словы *гўсіна* і *мыш*ына, што зноў жа паказальна з пункту гледжання сувязі ізаглос усходняга пучка з іншымі пучкамі ізаглос паўднёва-заходняга напрамку.

Звязаны, відаць, з усходнім пучком сваімі ізаглосамі і некаторыя іншыя з'явы з малавыразнымі адрозненнямі і невыразным іх размежаваннем. Гэта, напрыклад, граматычны род назоўніка *гусь.* Мужчынскі род, хоць і не паслядоўна, мае гэты назоўнік на ўсходзе Беларусі. На астатняй тэрыторыі ён жаночага роду (ДАБМ, карты № 81, 82).

Складаныя і не зусім відавочныя тэрытарыяльныя адносіны паміж формамі меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на **г, к, х** (ДАБМ, карты № 74, 75). Пашыраны ў гаворках Беларусі формы з канчат-

---

[1] Карты складзены на матэрыяле адказаў на пытанне № 71 «Праграмы», якое арыентавала на высвятленне роду назоўнікаў *мыш, гусь* і *пуць.* Таму іх варыянты са значэннем адзінкавасці адзначаліся выпадкова.

камі **-е** (*на лу́зе, на лузе́, на лу́ге, на луге́*), **-у** (*на лугу́, на лу́гу*), а таксама **-ові** (*на луго́ві, на лу́гаві*). Апошнія спарадычна адзначаюцца толькі ў гаворках Брэсцкай вобласці. Формы на **-е** і **-у** выступаюць амаль паўсюдна; можна толькі заўважыць большую ці меншую пашыранасць форм аднаго ці другога тыпу на розных тэрыторыях. Формы з канчаткам **-у** больш уласцівы гаворкам паўночнага ўсходу, а з канчаткам **-е** — гаворкам паўднёвага захаду. Больш выразна гэта відаць з матэрыялаў аб формах меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў *кажу́х* і *кату́х* (ДАБМ, карта № 75). Праўда, формы з канчаткам **-у** (*у кажуху́, у катуху́*) адзначаюцца і ў гаворках паўднёвага захаду, але затое паўднёва-заходнія формы *ў кажу́се, у кату́се* амаль не заходзяць за межы ашмянска-гомельскага пучка ізаглос. Інакш кажучы, на паўночна-ўсходняй тэрыторыі Беларусі пануюць формы з **-у**, а на паўднёвым захадзе адзначаюцца формы з **-у** і **-е** пры перавазе апошніх.

Такое ж у агульных рысах тэрытарыяльнае размежаванне і адпаведных форм назоўнікаў *луг* і *стог* (ДАБМ, карта № 74). Але тут формы з канчаткам **-е** адзначаюцца значна далей на паўночны ўсход. Мяжа іх ужывання паралельна з формамі на **-у** праходзіць недзе ў паласе ўсходніх ізаглос. Далей на ўсходзе яны сустракаюцца прыкметна радзей. Такім чынам, і ў пашырэнні форм меснага склону адзначаных назоўнікаў таксама заўважаецца сувязь паміж усходнім і ашмянска-гомельскім пучкамі ізаглос.

Ізаглосы ўсходняга пучка характэрны для некаторых адрозненняў у лексіцы. У гэты пучок уваходзіць ізаглоса словаўтваральных варыянтаў назвы маці мужа (ДАБМ, карта № 90). На ўсход ад гэтага пучка адзначаецца слова *свякро́ва*. На астатняй тэрыторыі пашыраны варыянты *свякро́ўка* (захад Віцебскай вобл.), *свякру́ха* (паўднёва-ўсходняя частка Беларусі) і *свякро́ў* (заходняя частка Беларусі).

Не зусім выразна, але ўсё ж больш-менш прыкметна ў межах усходняй групы ізаглос супрацьпастаўляецца тэрытарыяльна па способу словаўтварэння прыметнік ад назоўніка *каро́ва*. На ўсходзе пашыран прыметнік *каро́ўскі* (ДАБМ, карта № 182). Невялікім астраўком ён адзначаецца і на самым паўночным захадзе Віцебскай вобласці. Зрэдку ўказваецца на яго ўжыванне ў цэнтральнай Беларусі. Але на паўднёвы захад ад усходніх ізаглос спачатку наглядаецца прыметнік *каро́ўі*, далей на поўдзень аднačасова і *каро́він*, а для самых паўднёвых гаворак (Палессе і захад Гродзенскай вобл.) характэрны прыметнік *каро́вячы* (*каро́ўлячы* і інш.)[1].

[1] Гэту ізаглосу можна аднесці і да астравецка-лоеўскага пучка, калі невялікі паўночна-заходні астравок ужывання прыметніка *каро́ўскі* не адасабляць ад астатняй тэрыторыі пашырэння адпаведнага прыметніка (ДАБМ, карта № 193).

Да ўсходняга пучка адносіцца ізаглоса назваў плота з жэрдак. На паўднёвым захадзе ад яе адзначаецца ў гаворках слова *плот* [1]. Усходнія гаворкі на поўначы характарызуюцца ўжываннем слова *згаро́да,* а на поўдні—*пра́сла* (ДАБМ, карта № 246).

Такая ж ізаглоса назваў вісячай калыскі (ДАБМ, карта № 247). Супрацьпастаўляюцца гаворкі на ўсход ад гэтай ізаглосы астатнім гаворкам назвай *люлька* (на поўначы слова *люлька* ўжываецца паралельна са словамі *зы́бка, зы́балка, зы́бкалка*), якая, між іншым, дзе-нідзе сустракаецца і на захадзе ад ізаглосы. Але характэрна для гаворак на захадзе і поўдні Беларусі назва *калы́ска* (*калы́шка, калубе́ль, калбе́ль* і інш.).

Цікавыя ўзаемаадносіны ўсходняй ізаглосы назвы мянташкі (ДАБМ, карта № 264) з іншымі ізаглосамі дыялектных назваў гэтай рэчы, калі разглядаць адпаведныя ізаглосы як сістэму.

Размяжоўваюцца ў гаворках тэрытарыяльна словы *мянта́шка (мянту́шка, мянты́шка, мянта́, ме́нта), трапа́чка (трапа́шка, трапы́шка), сцяба́чка* і *лапа́тка (лапа́тачка).* Сістэма супрацьпастаўленняў наступная. Увесь паўднёвы захад Беларусі характарызуецца ўжываннем назваў тыпу *мянта́шка.* Мяжа іх пашырэння на паўночны ўсход праходзіць у паласе ашмянска-гомельскіх ізаглос. Далей на паўночны ўсход адзначаюцца словы *трапа́чка, трапы́шка* і інш. Мяжа іх пашырэння — паласа ўсходніх ізаглос. На тэрыторыі пашырэння гэтых слоў асобным значным арэалам на паўночным захадзе ад Мінска зафіксавана слова *сцяба́чка.* Для гаворак усходу характэрны словы *лапа́тка, лапа́тачка* і інш.

Сістэма ізаглос адзначаных назваў, як бачым, разнапланавая. Ізаглосай першага плана з'яўляецца, як можна меркаваць, мяжа тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення слоў *мянта́шка* і *трапа́чка.* Гэта ізаглоса характарызуецца з паўднёвага захаду дыялектным адрозненнем, якое рэалізуецца ў адным структурным варыянце (*мянта́шка*), а з паўночнага захаду—у некалькіх структурных варыянтах (*трапа́чка, сцяба́чка, лапа́тка*).

Ізаглоса ўсходняга пучка гэтай сістэмы выступае ізаглосай другога плана, інакш кажучы, ізаглосай дыялектных адрозненняў гаворак паўночнага ўсходу Беларусі.

Такім чынам, двухпланавая сістэма ізаглос назваў мянташкі таксама, як і папярэднія, досыць паказальная і важная для разумення ўсходняга пучка ізаглос паўднёва-заходняга

---

[1] На самым захадзе Беларусі (Гродзенская і Брэсцкая вобл.) вызначаецца «пустая» тэрыторыя. У адзінкавых населеных пунктах тут указваецца на ўжыванне слова *плот* або *жэ́рдкі.*

напрамку ў адносінах яго сувязі з іншымі пучкамі ізаглос, якія праходзяць па паўночна-ўсходняй частцы тэрыторыі Беларусі.

Некаторую агульнасць з сістэмай ізаглос назваў мянташкі мае сістэма ізаглос словаўтваральных варыянтаў назваў павеці (ДАБМ, карта № 237).

У гаворках Беларусі адзначаюцца ў якасці назваў *паве́ць, паве́тка, падпаве́ць, падпаве́цце* і *падпаве́тка* (*паве́цце, паве́так, паве́тачак, паві́тня*). Структурна супрацьпастаўляюцца, з аднаго боку, назвы *паве́ць, падпаве́ць, падпаве́цце : паве́так, падпаве́так* і, з другога, *паве́ць, паве́так : падпаве́ць, падпаве́так.* Аднак тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне выглядае некалькі інакш. Дыялектным адрозненнем гаворак у цэлым выступае першае структурнае супрацьпастаўленне. Але ізаглоса назваў *паве́ць, падпаве́ць, падпаве́цце,* характэрных для гаворак усходу Беларусі, і *паве́тка, падпаве́тка,* пашыраных на захадзе, не з'яўляецца ўсходняй. Яна адносіцца хутчэй да мерыдыянальных ізаглос (гл. стар. 163).

Другое структурнае супрацьпастаўленне назваў павеці таксама з'яўляецца і тэрытарыяльным. Аднак словы *падпаве́ць, падпаве́цце, падпаве́тка* і *паве́ць, паве́тка* не звязаны ў групы ў сваім тэрытарыяльным пашырэнні. Назіраюцца асобныя тэрытарыяльныя супрацьпастаўленні слоў *паве́тка : падпаве́тка* і *паве́ць : падпаве́ць, падпаве́цце.* Слова *падпаве́тка* адзначаецца ў паўднёвай частцы гаворак на захадзе Беларусі, а *паве́тка* — у паўночнай. На ўсходзе ад гэтых назваў пашырана слова *паве́ць,* а *падпаве́ць* і *падпаве́цце* суіснуюць досыць часта паралельна з назвай *паве́ць* на самым усходзе Беларусі з мяжой пашырэння гэтых слоў у напрамку на захад, блізкай па праходжанню да іншых ізаглос усходняга пучка.

З усходнім пучком супадае таксама ізаглоса наяўнасці і адсутнасці слова *сто́пка* (і звязанай з ёй рэаліі — невялікага памяшкання для захавання гародніны), характэрнага для гаворак Беларусі на паўднёвым захадзе і невядомага на ўсходзе (ДАБМ, карта № 240).

Пераплятаецца з ізаглосамі ўсходняга пучка і ізаглоса наяўнасці і адсутнасці слова *я́страб* (ДАБМ, карта № 310). Яно адзначаецца на ўсходзе ад пучка паралельна са словам *каршу́н* (*ко́ршун*), характэрным для гаворак паўднёвага захаду Беларусі (за выключэннем групы гаворак Брэсцкай і паўднёвых р-наў Гродзенскай абл., дзе паслядоўна адзначаецца ў якасці назвы адпаведнай драпежнай птушкі слова *шуля́к*). Асобным ізаляваным астраўком вылучаецца слова *я́страб* і на захад ад Мінска.

Па мяжы, блізкай да ўсходніх ізаглос, адрозніваюцца гаворкі ўсходу Беларусі ад астатніх прыназоўнікам перад на-

зоўнікамі, якія называюць у словазлучэннях прадмет спецыялізацыі пры дзеяслове *вучыцца*. На ўсходзе паслядоўна адзначаюцца словазлучэнні *вучыцца на доктара, вучыцца на трактарыста, вучыцца на настаўніка* (ДАБМ, карта № 212). У гаворках на паўднёвым захадзе пашыраны словазлучэнні *вучыцца за доктара, вучыцца за трактарыста, вучыцца за настаўніка*. Досыць часта ўсходні варыянт тут адзначаецца ў якасці паралельнага, асабліва ў гаворках паўночнага захаду Беларусі.

Падобнай ізаглосай размяжоўваюцца гаворкі ўсходу і паўднёвага захаду Беларусі па прыназоўніку ў словазлучэнні назоўніка са значэннем аб'екта пры дзеяслове *смяяцца*. У гаворках усходу Беларусі пашыраны словазлучэнні тыпу *каля яго смяюцца, над ім смяюцца* і *з яго смяюцца,* на астатняй тэрыторыі — словазлучэнні *з яго смяюцца* і *над ім смяюцца* (ДАБМ, карта № 224). Толькі ў гаворках Брэсцкай вобласці адзначаюцца, як і на ўсходзе Беларусі, словазлучэнні з прыназоўнікам *каля* (*коло*), але ўсё ж пры перавазе словазлучэнняў з прыназоўнікамі *з* і *над*.

І апошняя з сінтаксічных ізаглос усходняй групы — гэта ізаглоса словазлучэнняў назоўніка ў ролі назвы прадмета параўнання па якасці, якая абазначаецца вышэйшай ступенню прыметніка (ДАБМ, карта № 225). Не зусім выразна, але ўсё ж можна заўважыць, што для гаворак усходу Беларусі ў адрозненне ад іншых характэрны разам з пашыранымі на паўднёвым захадзе словазлучэннямі тыпу *саладзейшы за мёд* словазлучэнні тыпу *саладзейшы мёду* і *саладзейшы за мёду*.

## Езярышчанска-ульска-лёзненскі пучок
**(карта № 45)**

На паўночным усходзе Віцебскай вобласці выдзяляецца пучок ізаглос, які акрэслівае тэрыторыю пашырэння рада з'яў, пераважна фанетычных і лексічных.

Асноўнай у гэтым пучку з'яўляецца ізаглоса дысімілятыўнага якання віцебскага тыпу (*в'исна́, с'ика́ч, п'ита́к; в'ичёра, б'ис'ёда, паб'ил'ёў, йийёшн'а, йичм'ён',* але *п'аку́, б'агу́, гл'аджу́, с'астры́, йазы́к, в'адро́, дз'ажо́й, з'ал'о́ный, п'ато́к* і інш.). Ізаглоса дысімілятыўнага якання віцебскага тыпу пасля шыпячых, [ц], [р] адступае ад яе на ўсход і акрэслівае меншую тэрыторыю (*пчъла́—пчыла́, цъна́, ръка́; чып'ёц, пачырн'ёла, рыв'ёц', ап цын'ё,* але *пчалы́, цану́, рако́й, пшан'и́ца, жары́, страх'и́* і інш.). Іншыя фанетычныя з'явы гэтага пучка таксама абумоўлены дысімілятыўным яканнем віцебскага тыпу. Паміж ізаглосамі дысімілятыўнага якання пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных праходзіць ізаглоса вымаўлення

*н'ис'éц', с'ик'éц', гл'идз'éц'*. Часткова супадаючы або адступаючы на захад ад ізаглосы дысімілятыўнага якання пасля мяккіх зычных, праходзіць ізаглоса вымаўлення *м'ин'é, ц'иб'é, с'иб'é*, а таксама *ц'ип'éр;* яшчэ больш адступае на захад ізаглоса *йийé*.

Ізаглосай дысімілятыўнага якання віцебскага тыпу пасля мяккіх зычных як асноўнай для разглядаемага пучка фанетычных ізаглос акрэсліваецца тэрыторыя ўсходніх раёнаў Віцебскай вобласці: Віцебскі, Лёзненскі, Гарадоцкі і прылягаючыя часткі Полацкага, Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў.

Яканне віцебскага тыпу пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных і абумоўленае ім вымаўленне *м'ин'é, ц'иб'é, с'иб'é, ц'ип'éр, н'ис'éц', гл'идз'éц', йийé* адзначаны яшчэ ў групе гаворак на паўночным захадзе Віцебскай вобласці (Верхнядзвінскі і часткова Браслаўскі і Міёрскі р-ны). У гэтых гаворках таксама найменшую тэрыторыю займае яканне віцебскага тыпу пасля зацвярдзелых зычных (шыпячых, [ц], [р]), найбольшую — вымаўленне *м'ин'é, ц'иб'é, с'иб'é, ц'ип'éр*. Але яканне віцебскага тыпу пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных у гэтых гаворках прадстаўлена менш паслядоўна, чым на ўсходзе Віцебскай вобласці.

На тэрыторыі паміж усходнім і заходнім пучкамі ізаглос з яканнем віцебскага тыпу наглядаецца непаслядоўнае ўжыванне *м'ин'é, ц'иб'é, с'иб'é, ц'ип'éр,* часта паралельна з *м'ан'é, ц'аб'é, с'аб'é, ц'ап'éр* (Расонскі, Полацкі, паўночная частка Глыбоцкага, Лепельскага, заходняя частка Бешанковіцкага р-наў).

Да пучка разгледжаных ізаглос фанетычных з'яў прымыкае некалькі ізаглос марфалагічных асаблівасцей. Форма 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу (*с'адз'óм, с'п'óм*) ужываецца на паўночным усходзе і часткова на паўночна-заходніх ускраінах Віцебскай вобласці (ДАБМ, карта № 168). Ізаглоса формы прыметніка *к маладéй* (ДАБМ, карта № 121) выходзіць за межы віцебскага якання на поўдні, ахопліваючы Бешанковіцкі, Чашніцкі, Сенненскі, Дубровенскі і значную частку Аршанскага раёнаў (гэтыя формы адзначаны і ў некаторых усходнемагілёўскіх гаворках). Ізаглоса ўжывання формы прыметніка *з маладéй* (ДАБМ, карта № 125) змыкаецца з ізаглосай *к маладéй* у межах усходняй часткі Віцебскай вобласці; ва ўсходнемагілёўскіх гаворках форма *з маладéй* пашырана некалькі больш, чым *к маладéй*.

Пучок фанетыка-марфалагічных ізаглос суправаджаецца некаторымі лексічнымі ізаглосамі: паслядоўнага ўжывання слова *навóз* (ДАБМ, карта № 284), амаль паслядоўнага ўжывання слоў *кукýшка* (ДАБМ, карта № 309), *свáдзьба* (ДАБМ, карта № 338) і падзыўных для авечак (ДАБМ, карта № 305).

На меншай тэрыторыі, чым яканне віцебскага тыпу, адзначана слова *пу́тца* і ў частцы гаворак — *ре́мень* для абазначэння прывязкі, якой прымацоўваецца біч да цапільна (ДАБМ, карта № 259). На яшчэ меншай тэрыторыі зафіксаваны словы *кро́шні* 'прыстасаванне для нашэння сена і саломы' (Лёзненскі, усходняя палавіна Віцебскага і поўнач Сенненскага р-наў), а таксама *му́льніца* 'ручка касы' (ДАБМ, карта № 260). За межы тэрыторыі якання віцебскага тыпу выходзіць ізаглоса слова *жбано́к* 'гліняная пасудзіна для малака' (ДАБМ, карта № 250). На значна большай тэрыторыі сустракаецца слова *згаро́да* 'плот з жэрдак' (уся ўсходняя частка Віцебскай вобл. і на поўдні амаль да Магілёва; ДАБМ, карта № 246). У гаворках на паўночным захадзе Віцебскай вобласці гэтыя назвы не адзначаны.

На тэрыторыі, акрэсленай езярышчанска-ульска-лёзненскім пучком ізаглос, адсутнічаюць некаторыя назвы: *паса́г* — *паса́га* (ДАБМ, карта № 109), няма назвы сахі (зрэдку адзначана *стоўб*), вагі, вочапа ў студні з жураўлём, што тлумачыцца адсутнасцю рэаліі (ДАБМ, карты № 242—244), замест назваў *столь, гара́* выступаюць *чарда́к, на ха́це* (ДАБМ, карта № 229).

## Астравецка-лоеўскі пучок

**(карты № 46—51)**

У паўднёва-заходнім напрамку ад полацка-кармянскага пучка ізаглос назіраецца яшчэ адно значнае тэрытарыяльнае згушчэнне ізаглос — астравецка-лоеўскі пучок. Гэтыя ізаглосы перасякаюць тэрыторыю Беларусі з паўночнага захаду, пачынаючы ад дзяржаўнай граніцы з Літоўскай ССР, каля Астраўца або Свіры, на паўднёвы ўсход як бы па дыяганалі, праходзячы крыху на поўнач ад Мінска і ідучы далей у напрамку на Краснаполле або Лоеў. Сярод пучкоў ізаглос паўднёва-заходняга напрамку яны займаюць сярэдняе месца па размяшчэнню. Таму для зручнасці пучок іх можна назваць сярэднім.

Сярэдні пучок складаюць ізаглосы лексічна абмежаваных моўных з'яў, спецыфічных па сваіх адносінах да структуры дыялектнай мовы, нярэдка неістотных з функцыянальнага боку. Многія з гэтых ізаглос недастаткова выразныя ў адносінах дыялектных адрозненняў, якія яны размяжоўваюць. Аднак ёсць сярод іх і досыць важныя і вельмі прыкметныя, якія размяжоўваюць яркія і тэрытарыяльна амаль несумяшчальныя дыялектныя адрозненні тых ці іншых моўных з'яў. Межы паміж дыялектнымі адрозненнямі ў такіх выпадках з'яўляюцца вельмі выразнымі, у той час як у іншых вы-

падках для іх характэрна некаторая няпэўнасць у праходжанні.

У сярэдні пучок ізаглос аб'ядноўваюцца дзве крыху розныя групы ізаглос па геаграфічнай арыентацыі. Можна было б лічыць іх асобнымі самастойнымі пучкамі. Але ўсё ж разглядаць іх толькі як групы сярэдняга пучка ёсць больш падстаў. Па сутнасці ў гэтым пучку адрозніваюцца прыкметна па праходжанню перш за ўсё дзве вельмі важныя і выразныя ізаглосы. Гэта ізаглоса словаўтваральных тыпаў назоўнікаў, якія абазначаюць малых у жывёл і птушак, і ізаглоса канчаткаў дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку.

Астатнія ізаглосы, якія аб'ядноўваюцца ў сярэдні пучок, больш або менш яўна прымыкаюць то да адной, то да другой з іх. Аднак галоўнае ў тым, што наглядаецца цесная тэрытарыяльная сувязь паміж межамі асаблівасцей, цесна звязаных структурна з тымі дыялектнымі адрозненнямі, якія размяжоўваюцца ізаглосай словаўтваральных тыпаў указаных назоўнікаў і ізаглосай канчаткаў дзеясловаў. Гэта сведчыць аб сувязі адзначаных вышэй ізаглос і дае магчымасць разглядаць іх разам з тымі ізаглосамі, якія да іх прымыкаюць па праходжанню, як адзіны пучок.

Найбольш істотныя ізаглосы з сярэдняга пучка прымыкаюць да ізаглосы словаўтваральных тыпаў назоўнікаў, якія абазначаюць малых у жывёл і птушак. Разам з ёю гэтыя ізаглосы ўтвараюць першую групу сярэдняга пучка.

Назоўнікі, якія абазначаюць малых у жывёл і птушак, выступаюць у гаворках Беларусі ў двух асноўных тэрытарыяльных варыянтах. На паўднёвым захадзе адзначаюцца пераважна назоўнікі ніякага роду з асновай на **-а** (*цыля́*[1], *парася́*, *ягня́*, *птушаня́*). На паўночным усходзе гэтыя назоўнікі характарызуюцца асновай на **-о** (*цялё, парасё, ягнё, птушанё* або *цялёнак, парасёнак, ягнёнак, птушанёнак*)[2].

Ізаглоса размежавання абодвух варыянтаў асновы адзначаных назоўнікаў праходзіць у сваёй заходняй частцы значна на поўдзень ад ізаглос сярэдняга пучка. Да сярэдняга пучка адносіцца ізаглоса размежавання розных варыянтаў назоўнікаў з асновай на **-о** — тыпу *цялё, парасё, ягнё* і тыпу *цялёнак, парасёнак, ягнёнак, кацяно́к.* Бессуфіксальныя варыянты адзначаюцца на паўднёвым захадзе ад ізаглосы, а варыянты з суфіксам **-нок**(**-нак**) — на паўночным усходзе (ДАБМ, карта № 84).

---

[1] Парадыгма — н. *цыля́*, р., д. і м. *цыля́ці*, т. *це́лям* або *цыля́м* (ДАБМ, карты № 86—88).

[2] Парадыгма — н. *цялё*, р., д. і м. *цыля́ці*, т. *цялём* або *цяле́м*. Назвы з суфіксам **-нок**(**-нак**) скланяюцца, як назоўнікі мужчынскага роду тыпу *адо́нак, кава́лак.*

Ізаглоса гэтай дыялектнай з'явы мае цікавыя асаблівасці. Паўднёва-ўсходняя частка яе па лініі Лоеў — Рэчыца — Светлагорск характарызуецца толькі адным бокам супрацьпастаўлення — паўночна-ўсходнім. Тут гэта ізаглоса як бы дваістай структуры. Яна размяжоўвае гаворкі па наяўнасці або адсутнасці варыянтаў назоўнікаў з суфіксам **-нок**(**-нак**) і адначасова па ўжыванню варыянтаў з асновай на **-о**, з аднаго боку, і на **-а** — з другога. У гэтай сваёй частцы яна набліжаецца па праходжанню да ашмянска-гомельскага пучка ізаглос.

Далей на паўночны захад (прыблізна паміж Светлагорскам і Чэрвенем) з паўднёва-заходняга боку яе ў прылягаючай паласе гаворак адзначаецца ўжыванне бессуфіксальных варыянтаў з асновай на **-о** (*ягнё, парасё*), але паралельна з бессуфіксальнымі варыянтамі з асновай на **-а** (*ягня́, парася́*). А яшчэ далей на паўночны захад ізаглоса варыянтнасці па асновах трапляе ў ашмянска-гомельскі пучок, а ізаглоса наяўнасці або адсутнасці суфікса **-нок**(**-нак**) адхіляецца на поўнач і ідзе прыблізна па лініі Чэрвень — Барысаў — Плешчаніцы — Паставы.

Ад агульнай ізаглосы словаўтваральных тыпаў гэтых назоўнікаў адасабляецца ізаглоса адрозненняў ва ўтварэнні назоўніка *дзіця́*. Характарызуецца яна некалькі іншымі супрацьпастаўленымі структурнымі варыянтамі. З паўночна-ўсходняга боку ад яе адзначаецца суфіксальны варыянт *дзіцёнак (дзяцёнак)*. Але калі паралельнае ўжыванне бессуфіксальных назоўнікаў тыпу *ягнё, парасё* (*ягня, парася*) на паўночным усходзе назіраецца рэдка, то бессуфіксальны варыянт *дзіця́* пашыран тут у значна большай ступені. Аднак істотным адрозненнем гэтай ізаглосы з'яўляецца тое, што паўночна-ўсходні суфіксальны варыянт *дзіцёнак* (*дзяцёнак*) з асновай на **-о** супрацьпастаўляецца тэрытарыяльна непасрэдна бессуфіксальнаму варыянту *дзіця́* з асновай на **-а**. Толькі зрэдку ў межах пашырэння варыянтаў *цялё, ягнё, парасё* адзначаюцца варыянты з асновай на **-о**: *дзіцё, дзяцё* або нават *дзіцянё* (ДАБМ, карта № 85) [1].

Ізаглоса канчаткаў дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку, з якой звязваецца другая група сярэдняга пучка ізаглос, у адрозненне ад ізаглосы бессуфіксальных і суфіксальных словаўтваральных варыянтаў разгледжаных назоўнікаў характарызуецца больш паўночнымі каардынатамі ў сваёй паўночна-ўсходняй частцы. Гэта частка яе праходзіць прыблізна па лініі Краснаполле — Магілёў — Докшыцы. Паў-

---

[1] Цікавы матэрыял, які мае дачыненне да словаўтварэння падобных назоўнікаў, дыялектных адрозненняў у гэтай галіне і іх ізглос, даюць назіранні над сучаснай беларускай антрапаніміяй [13, *42, 45*].

ночна-заходняя частка яе, наадварот, мае больш паўднёвыя каардынаты, чым папярэдняя, праходзячы каля Маладзечна на Астравец (ДАБМ, карты № 148, 149, 153).

Гэта ізаглоса размяжоўвае гаворкі, для якіх характэрна паслядоўнае ўжыванне ў 3-й асобе адзіночнага ліку форм дзеясловаў толькі з мяккай канцавой фанемай [ц'], і гаворкі, у якіх у адных умовах адзначаюцца адпаведныя формы дзеясловаў з [ц'], у другіх умовах — без [ц']. Паслядоўнае ўжыванне форм з [ц'] тыпу *сядзíць, ляжы́ць, рóбіць, хóдзіць, нóсіць, ідзе́ць, нясе́ць, гуля́іць, пíшыць* назіраецца на паўночны ўсход ад ізаглосы.

На паўднёвы захад ад ізаглосы пашыраны гаворкі з двума асноўнымі відамі форм дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку з [ц'] і без [ц']. На паўднёвым захадзе Беларусі назіраецца пераважна паслядоўнае ўжыванне ў 3-й асобе адзіночнага ліку форм з [ц'] толькі ў дзеясловах II спражэння: *ляжы́ць, ляцíць, вóзіць, нóсіць, ме́ліць.* Дзеясловы ж I спражэння маюць формы без [ц']: *ідзе́, нясе́, гуля́е, пíша* і інш. Але паўночна-ўсходняя мяжа пашырэння такіх дзеяслоўных форм не судакранаецца з адзначанай ізаглосай, а праходзіць у межах паўднёвай групы сярэднебеларускіх ізаглос.

У нешырокай паласе гаворак паміж тэрыторыяй тыповага паўднёва-заходняга марфалагічнага афармлення 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў і тыповага паўночна-ўсходняга назіраецца другі від ужывання форм з [ц'] і без [ц']. Наяўнасць асабовай формы дзеяслова з [ц'] залежыць ад месца націску. Формы з націскам на канчатку маюць звычайна [ц']: *ідзе́ць, нясе́ць, дае́ць, ляжы́ць, стаíць.* У формах з націскам на аснове незалежна ад спражэння дзеяслова [ц'], як правіла, адсутнічае: *гуля́е, пíша, рóбе, ме́ле, вóзе, пóйдзе, вы́несе, вы́стае.* Утвараюцца, такім чынам, два своеасаблівыя фанетыка-марфалагічныя варыянты канчаткаў — з [ц'] пад націскам і без [ц'] не пад націскам. Назіраюцца і адхіленні ад такога ўтварэння форм дзеясловаў у 3-й асобе адзіночнага ліку. У адных выпадках падобныя адхіленні маюць непасрэдную сувязь з паўднёва-заходнім тыпам формаўтварэння дзеясловаў (параўн. ужыванне форм *ідзе́, бярэ́, нясе́;* ДАБМ, карта № 148), у другіх — з паўночна-ўсходнім (ДАБМ, карта № 149), у трэціх — з тым і другім адначасова (ДАБМ, карта № 153).

Паласа гаворак, у якіх назіраецца ўжыванне варыянтаў канчаткаў 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў з [ц'] і без [ц'] у залежнасці ад націску, адмяжоўваецца ад гаворак з тыповымі паўднёва-заходнімі формамі 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў прыблізна там, дзе праходзяць ізаглосы, звязаныя з мяжой бессуфіксальных і суфіксальных варыянтаў назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот. Гэта

ўказвае на іх сувязь і з'яўляецца падставай для аб'яднання ўсіх ізаглос абодвух груп у адзіны пучок.

Да ізаглосы суфіксальных і бессуфіксальных назоўнікаў са значэннем маладых істот, або, інакш кажучы, да асноўнай ізаглосы першай групы сярэдняга пучка ізаглос, прымыкае досыць выразная ізаглоса націскных варыянтаў форм 1-й асобы адзіночнага ліку прыставачных дзеясловаў незакончанага трывання, утвораных ад дзеясловаў *насіць, вазіць, хадзіць, вадзіць*. На паўночны ўсход ад ізаглосы для беларускай дыялектнай мовы характэрны формы з націскам на канчатку: *прыхаджу́, вынашу́, падважу́, знахаджу́* (*нахаджу́*) і інш. Такія формы ўжываюцца тут вельмі паслядоўна. Паралельна з паўднёва-заходнімі адзначаюцца яны толькі паблізу ад ізаглосы. У гаворках на паўднёвым захадзе ад ізаглосы назіраюцца формы з націскам на аснове: *прыхо́джу, выно́шу, падво́жу, знахо́джу* (ДАБМ, карта № 204).

Ізаглоса форм дзеясловаў 1-й асобы адзіночнага ліку з адрозненнямі ў націску выступае ў якасці асобнага члена цэлай групы ізаглос, падобных да яе па праходжанню і па характару адрозненняў. Такія адрозненні ў націску, як паказваюць даследаванні [51, *10—12*; 79, *213, 232, 233*] і назіранні, характэрны для прыставачных дзеясловаў, утвораных ад *насіць, вазіць, хадзіць, вадзіць*, у іншых формах. Магчыма, што гаворкі паўночнага ўсходу адрозніваюцца ад гаворак паўднёвага захаду не націскам у паасобных формах дзеясловаў, а ва ўсёй іх парадыгме формаўтварэння. Сцвярджаць гэта было б заўчасна. Але заўважаецца, што на паўночным, усходзе падобныя дзеясловы захоўваюць у сваіх формах націск, характэрны для адпаведных форм беспрыставачных дзеясловаў, а ў паўднёва-заходніх гаворках «дзеясловы гэтыя маюць нерухомы, замацаваны на аснове націск» [51, *11*]. Так, у паўночна-ўсходніх гаворках у інфінітывах: *прыхадзі́ць, прынасі́ць, выхадзі́ць, захадзі́ць, завадзі́ць, паднасі́ць, навазі́ць, падхадзі́ць* (параўн. беспрыставачныя *хадзі́ць, насі́ць, вадзі́ць, вазі́ць*). Тое ж назіраецца і ў асабовых формах (*прыхаджу́ — хаджу́, прыхо́дзіш — хо́дзіш, прыхо́дзіць — хо́дзіць, прыхо́дзім — хо́дзім*), у формах прошлага часу (*прыхадзі́ў — хадзі́ў, прыхадзі́ла — хадзі́ла*), у формах загаднага ладу (*прыхадзі́ — хадзі́, прыхадзі́ця — хадзі́ця*). У паўднёва-заходніх гаворках ва ўсіх гэтых формах прыставачных дзеясловаў націск адзначаецца на аснове, а ў адпаведных беспрыставачных — як і на паўночным усходзе (у інфінітыве: *прыхо́дзіць*, але *хадзі́ць;* у асабовых формах: *прыхо́джу*, але *хаджу́, прыхо́дзіш*, як і *хо́дзіш, прыхо́дзіць — хо́дзіць, прыхо́дзім — хо́дзім* і інш.; у прошлым часе: *прыхо́дзіў, прыхо́дзіла, прыхо́дзілі*, але *хадзі́ў, хадзі́ла, хадзі́лі;*

у загадным ладзе: *прыхóдзь,* але *хадзí; прыхóдзьце,* але *хадзíце*).

Да першай групы сярэдняга пучка ізглос належаць таксама ізаглосы тэрытарыяльных адрозненняў у назоўніках, якія абазначаюць так званыя адушаўлёныя прадметы, у вінавальным склоне множнага ліку (ДАБМ, карты № 209, 210).

На паўднёвым захадзе ад гэтых ізаглос у беларускіх гаворках у вінавальным склоне множнага ліку такія назоўнікі маюць формы, агульныя з назоўным склонам: *падаíла карóвы, пагнáў валы́, пас цялята, пайдý па карóвы, напáлі ваўкí на авéчкі* і інш. Ужыванне адзначаных форм адушаўлёных назоўнікаў назіраецца пераважна паралельна з формамі, агульнымі з родным склонам: *падаíла карóў, пайдý па карóў, пагнáў валóў, пáс цялят.* Але гэта, можна думаць, вынік навейшых працэсаў у дыялектнай мове (уплыў беларускай і рускай літаратурных моў).

На паўночны ўсход ад гэтай ізаглосы назоўнікі, якія абазначаюць адушаўлёныя прадметы, у вінавальным склоне множнага ліку маюць толькі такія формы, як у родным: *пагнáў валóў, падаíла карóў, накармíла дзяцéй* [1].

У гэту групу ўваходзяць і некаторыя лексічныя ізаглосы.

Выразная ізаглоса першай групы характэрна для супрацьпастаўленых дыялектна слоў *вýтка* і *кáчка* (у значэнні вядомай вадаплаўнай птушкі).

Арэал слова *вýтка,* ужывальнага ў гаворках на паўночным усходзе Беларусі, і арэал паўднёва-заходняга адпаведніка да яго *кáчка* амаль што не заходзяць адзін за адзін. Праўда, спарадычна на тэрыторыі пашырэння слова *вýтка* адзначаецца і слова *кáчка* (ДАБМ, карта № 297) [2]. Сустракаецца таксама слова *вýтка* і на тэрыторыі назоўніка *кáчка,* але тут яно мае прыкметныя тэрытарыяльныя асаблівасці ў пашырэнні. Зусім не адзначаецца слова *вýтка* ў гаворках на захадзе арэала слова *кáчка* (Гродзенская і Брэсцкая вобл.). Пад Слуцкам і Бабруйскам вызначаецца досыць значны раён паралельнага суіснавання абодвух слоў, які непасрэдна прымыкае да паўночна-ўсходняй тэрыторыі пашырэння слова *вýтка.* На тэрыторыі ж усходняга Палесся ў Тураўскім, Столінскім і Давыд-Гарадоцкім, а таксама асобна ў Камарынскім раёнах назіраецца пераважна слова *вýтва.*

У межах першай групы ізаглос сярэдняга пучка праходзіць таксама ізаглоса адрозненняў ва ўтварэнні слоў са

---

[1] Формы вінавальнага склону множнага ліку, аднолькавыя з назоўным, сустракаюцца ў некаторых умовах усё ж і тут: *вучы́ўся на земляме́ры, паступíў на дактары́* (параўн. *вучы́ўся на землямéра, на дóктара* [88, 307]).

[2] У некаторых выпадках на паўночным усходзе слова *кáчка* ўжываецца ў пераносным значэнні, а слова *вýтка* — у прамым.

значэннем кавалка матэрыі, якім зашываюцца дзіркі ў адзенні (ДАБМ, карта № 324).

На паўднёвым захадзе ад ізаглосы адзначаецца пераважна слова *ла́тка* або радзей *ла́та*. Спарадычна на тэрыторыі Гродзенскай вобласці і на паўднёвы захад ад Мінска назіраюцца ў мясцовай мове словы з іншай асновай (*ла́піка, ла́пікла, ла́піна* і *ла́пік*). Толькі на ўсходзе Брэсцкай вобласці вызначаецца досыць значны суцэльны раён паслядоўнага ўжывання слова *ла́пік* (або *ла́піна*).

На паўночным усходзе ад ізаглосы больш за ўсё пашырана слова *ла́пік,* а таксама розныя аднакаранёвыя з ім словы, адрозныя па словаўтваральных сродках. З аднакаранёвых асобную і досыць значную тэрыторыю (захад Віцебскай вобл.) займае слова *ла́піна.* Іншыя падобныя словы адзначаюцца па краю арэала назваў паўночна-ўсходняга тыпу. Так, слова *лапе́ка* назіраецца ў вузкай паласе гаворак на ўсход ад ізаглосы, прыблізна ад Гомеля да Чэрвеня, а слова *ла́пікла* займае невялікую кампактную тэрыторыю паміж Барысавам і Лепелем.

Крыху нагадвае гэту ізаглосу па месцы праходжання мяжа ўжывання слоў *ла́таць* і *ла́піць* (ДАБМ, карта № 323). Слова *ла́піць* характэрна для гаворак паўночнага ўсходу ў межах пашырэння слова *ла́пік* і аднакаранёвых з ім. На паўднёвым захадзе ад ізаглосы ў межах ужывання слова *ла́тка* і аднакаранёвых з ім адзначаецца не толькі слова *ла́таць,* але і *ла́піць.*

Тут жа праходзіць мяжа, хоць і не зусім выразная, паміж характэрным пераважна для паўднёвага захаду словам *мала́нка* і яго паўночна-ўсходнім аднакаранёвым адпаведнікам *маладня́* (*малання́*).

На захадзе ізаглоса слоў *мала́нка* і *маладня́* менш прыкметная, бо тут арэалы іх перакрываюцца арэалам слова *бліскаві́ца* (яно тут, можна сказаць, пануе як назва маланкі). Толькі *бліскаві́ца* ( з рознымі варыянтамі па месцы націску) або аднакаранёвы з ім дзеясловаў *бліска́ць* (*«бліска́е»*) характэрны для гаворак поўдня Беларусі. У асобных месцах на поўдні адзначаюцца ў такім значэнні словы *мігаві́ца* (або *міга́е* ад *міга́ць* — на поўдзень ад Пінска) і *зіхаві́ца* (або *зіха́е* ад *зіха́ць* — на поўдзень ад Мазыра ў Нараўлянскім р-не на граніцы з Украінай).

Да ўказанай групы прымыкае таксама ізаглоса назваў шарсцяных вязаных пальчатак з адным пальцам. Ёю размяжоўваюцца гаворкі, для якіх характэрна слова *рукаві́цы* (паўднёвы захад Беларусі), і гаворкі, дзе адзначаюцца словы *вязе́нкі* і *іспо́дкі* (паўночны ўсход).

Слова *рукаві́цы* — адзіная назва на паўднёвым захадзе Беларусі. Толькі паблізу ад ізаглосы назіраюцца зрэдку

ў якасці паралельных словы, пашыраныя на паўночным усходзе ад ізаглосы. На поўдзень ад Мінска слова *рукавіцы* выступае ў словаўтваральным варыянце *рукáўкі* (ДАБМ, карта № 333).

Паўночна-ўсходнія дыялектныя назвы *іспóдкі* і *вязёнкі* ўжываюцца не паралельна, а з'яўляюцца тэрытарыяльна супрацьпастаўленымі. Слова *іспóдкі* характэрна для дыялектнай мовы Віцебскай і паўночна-ўсходняй часткі Магілёўскай абласцей, а *вязёнкі* займае меншы арэал у паўднёвых раёнах Магілёўскай і ўсходніх раёнах Гомельскай абласцей. Спарадычна, праўда, яно назіраецца і ў арэале слова *іспóдкі*. На паўночным усходзе нярэдка ўжываецца таксама слова *рукавіцы,* што звязана, відаць, з замацаваннем яго ў літаратурнай беларускай мове.

Досыць выразна размяжоўваюцца падобнай ізаглосай беларускія гаворкі па назвах спецыяльнай глінянай пасуды для захавання малака (ДАБМ, карта № 250). На тэрыторыі Беларусі адзначана шэсць найбольш пашыраных слоў з такім значэннем: *глады́ш* (*глады́шка,* фанетычныя варыянты *лады́ш* і *лады́шка*), *жбанóк* (*збанóк*), *гарлáч, стаўбýн, бýнька (бáнька)* і *кушы́н (куўшы́н, кукшы́н)*[1]. Слова *куўшы́н* з варыянтамі займае ў гэтым радзе слоў асобнае месца. Яно абазначае гліняную пасудзіну для малака, але з прымацаванай збоку ручкай, у той час як іншыя абазначаюць адпаведную пасудзіну без ручкі. Слова *куўшы́н* ужываецца пераважна на паўднёвым усходзе Беларусі, як бы накладваючыся сваім арэалам на тэрыторыю пашырэння паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх назваў пасуды без ручкі для захавання малака.

Гэтыя назвы размяшчаюцца ў адносінах да ізаглосы, што ўваходзіць у першую групу сярэдніх ізаглос, наступным чынам. На паўднёвым захадзе ад яе пашыраны словы *глады́ш* або *глады́шка.* Слова *глады́ш (ладыш)* назіраецца ў цэнтральнай частцы Беларусі (Мінская і ўсходнія р-ны Гродзенскай абл.). Поўдзень і захад Беларусі (Гомельская, Брэсцкая і захад Гродзенскай абл.) характарызуецца наяўнасцю слова *глады́шка* (*лады́шка*).

На паўночным усходзе ад ізаглосы пашыраны словы *гарлáч, стаўбýн* і *збанóк* (*жбанóк*). Найбольш часта адзначаецца слова *гарлáч.* Яно характэрна для дыялектнай мовы Магілёўшчыны і поўдня Віцебшчыны, дзе арэал яго часткова перакрывае арэалы слоў *стаўбýн* і *збанóк* (*жбанóк*), ужывальных адпаведна на захадзе і ўсходзе Віцебшчыны.

---

[1] Адзінкавыя малапашыраныя назвы — *гаршóк, падзíнка(?), кýбар, судынка* (ДАБМ, Каментарыі, стар. 822, 823).

Словы *гарла́ч* і *стаўбу́н* характарызуюць толькі гаворкі на паўночны ўсход ад ізаглосы. Слова ж *збано́к (жбано́к)* нельга лічыць толькі дыялектнай паўночна-ўсходняй назвай. Арэал пашырэння слова *збано́к* (*жбано́к*) вельмі вялікі. Яно адзначаецца паралельна з іншымі назвамі амаль па ўсёй Беларусі. Не зафіксавана яно толькі на паўднёвым усходзе. Цікава адзначыць, што ступень яго ўжывальнасці прыкметна павялічваецца каля граніцы з Літоўскай ССР, дзе ўжо іншыя назвы адзначаюцца толькі спарадычна. Адзінай мясцовай назвай выступае слова *збано́к* (*жбано́к*) на поўначы Віцебшчыны. Яно з'яўляецца тут самастойным тэрытарыяльным дыялектным адрозненнем, супрацьпастаўленым да іншых беларускіх тэрытарыяльных адрозненняў у назвах пасуды для малака. На астатняй тэрыторыі арэала свайго пашырэння, дзе гэта слова ўжываецца паралельна з іншымі, яно выступае ўжо толькі як дадатковы і агульны элемент у мясцовых тэрытарыяльных адрозненнях у абазначэнні пасуды для малака.

Да папярэдніх ізаглос падобныя па праходжанню ізаглоса адрозненняў у назве паліцы ў плузе (частка плуга, якой пераварочваецца і адкідаецца набок зямля пры ворыве) і ізаглоса адрозненняў у назве лемяша (частка плуга, якой падразаецца знізу зямля пры ворыве).

Ізаглоса назваў паліцы ў плузе размяжоўвае ўжыванне слова *палі́ца*, пашыранага на паўднёвым захадзе ад яе, і слова *адва́л* (*атва́л*), характэрнага для беларускай дыялектнай мовы на паўночны ўсход ад яе. У арэалах гэтых найбольш пашыраных слоў і непасрэдна тэрытарыяльна супрацьпастаўленых па дадзенай ізаглосе паасобнымі астраўкамі адзначаюцца менш пашыраныя словы з адпаведным значэннем. У межах арэала слова *палі́ца* невялікімі астраўкамі вакол Мінска і на поўначы ад Брэста выступае слова *акладня́* (*аткладня́, аткладні́ца*). На заходняй ускраіне арэала слова *адва́л* (захад Віцебскай вобл.) утварае асобны астравок слова *крыло́* ў якасці адпаведнай назвы. Спарадычна яно адзначаецца па ўсёй Віцебшчыне. Акрамя гэтага, на самай поўначы Віцебскай вобласці вылучаецца зноў невялікі астравок гаворак з назвай *аткладня́* (ДАБМ, карта № 256).

Блізкая да ізаглосы назваў паліцы ізаглоса назваў лемяша (ДАБМ, карта № 255) размяжоўвае некалькі іншыя па структуры лексічныя супрацьпастаўленні. На паўночным усходзе ад яе ў якасці такой назвы выступае слова *лямё́ш* (*лё́меш, лямё́х, лё́мех*). Але гэта ізаглоса не з'яўляецца паўднёва-заходняй мяжой яго сучаснага арэала. *Лямё́ш* адзначаецца і далей на паўднёвым захадзе ад яе. Аднак пашыраны тут словы *наро́г* (Мінская і Гродзенская вобл.)

і *сашнік* (Гомельская і Брэсцкая вобл.). Такім чынам, ізаглоса назваў лемяша ў адрозненне ад папярэдняй размяжоўвае больш складаныя па характару лексічныя дыялектныя адрозненні.

Да разглядаемай першай групы сярэдняга пучка, акрамя адзначаных досыць выразных ізаглос, прымыкаюць таксама ізаглосы паасобных адрозненняў у марфалогіі і сінтаксісе сучаснай дыялектнай мовы з невыразнымі тэрытарыяльнымі супрацьпастаўленнямі.

З адрозненняў у марфалогіі такі характар супрацьпастаўлення мае ўжыванне канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў давальным (ДАБМ, карта № 103) і месным склонах множнага ліку (ДАБМ, карта № 105).

Супрацьпастаўляюцца тэрытарыяльна як у давальным, так і ў месным склоне два варыянты канчаткаў — **-ам** : **-ом** у давальным (*дубáм* : *дубóм*) і **-ах** : **-ох** у месным (*дубáх* : *дубóх*). Канчаткі *-ам* і *-ах* адзначаюцца зараз у дыялектнай мове ўсёй Беларусі. Невыразныя і разбітыя на астраўкі арэалы канчаткаў **-ом** і **-ох** ахопліваюць тэрыторыю на паўднёвы захад ад першай групы сярэдняга пучка ізаглос. Супрацьпастаўляецца паўночны ўсход паўднёваму захаду Беларусі ў адносінах варыянтаў гэтых канчаткаў часткова: **-ам, -ах** — на паўночным усходзе, **-ам, -ах** і **-ом, -ох** — на паўднёвым захадзе. Супрацьпастаўленне гэта не зусім паслядоўнае і з недастаткова пэўнай па праходжанню ізаглосай.

З адрозненняў у сінтаксісе падобнай ізаглосай (і такой жа, як папярэдняя, невыразнай і няпэўнай) размяжоўваюцца тэрытарыяльна адпаведныя па значэнню словазлучэнні дзеясловаў з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на* і назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *за* (*ісці па бáцьку* : *за бáцькам, ісці па вадý* : *за вадóй*). Гэтыя розныя па будове словазлучэнні не знаходзяцца ў адносінах тэрытарыяльнага, дыялектнага ўзаемавыключэння. Супрацьпастаўляюцца гаворкі не па ўжыванню розных словазлучэнняў, а па наяўнасці толькі аднаго з гэтых словазлучэнняў і паралельнаму ўжыванню абодвух (іншы раз з перавагай аднаго з іх). Праўда, паралельнае ўжыванне словазлучэнняў *ісці па бáцьку* і *ісці за бáцькам* назіраецца не на паўднёвым захадзе, а на паўночным усходзе. На паўднёвым захадзе пашыраны толькі словазлучэнні з прыназоўнікам *па* (ДАБМ, карты № 213—216).

Блізкая да ізаглос гэтай групы па праходжанню досыць выразная ізаглоса адрознення ў месцы націску ў прыслоўі, утвораным ад прыметніка *халóдны*. На тэрыторыі Беларусі вядомы тры яго акцэнтуацыйныя варыянты — *хóладна, халóдна* і *халаднó*. Усе яны маюць сваю тэрыторыю пашырэння. Ізаглосай, якая адносіцца да адзначанай групы,

размяжоўваюцца арэалы паўночна-ўсходняга варыянта *халóдна* і паўднёва-заходняга варыянта *хóладна,* які ў сваю чаргу яшчэ далей на паўднёвым захадзе мяжуе з арэалам трэцяга варыянта *халаднó.* Праўда, паўночна-ўсходні варыянт *халóдна* на поўдні ад Мінска заходзіць значным клінам на паўднёвы захад. Але тут спарадычна ўсё ж адзначаецца сумежны паўднёва-заходні варыянт *хóладна* (ДАБМ, карта № 202).

Другая група ізаглос сярэдняга пучка, якая прымыкае да другой важнай і асноўнай ізаглосы гэтага пучка — ізаглосы адрозненняў канчаткаў дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку,— размяжоўвае ў цэлым адрозненні дыялектнай мовы паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду Беларусі ў галіне слоўніка.

Такой па праходжанню ізаглосай размяжоўваюцца адрозненні ў назвах куранят (ДАБМ, карта № 296). Розных дыялектных слоў, якімі называюць куранят, на тэрыторыі Беларусі адзначаецца зараз досыць многа (*куранятьı, ціпляты, піскляты, пыляняты, цівяняты* і іх варыянты). Аднак арэалы іх пашырэння тэрытарыяльна не супрацьпастаўляюцца, а як бы накладваюцца адзін на адзін поўнасцю або заходзяць адзін за адзін сваімі берагамі, іншы раз досыць глыбока. Ізаглосай другой групы сярэдняга пучка характарызуецца пашырэнне слова *куранятьı.* Яно распаўсюджана на паўднёвым захадзе Беларусі і адсутнічае на паўночным усходзе.

Несупрацьпастаўленасць слова *кураняты* пашыранаму на паўночным усходзе слову *цыпляты* (*ціпляты*) абумоўлена тым, што гэту апошнюю назву нельга лічыць зараз дыялектнай паўночна-ўсходняй. Яна з'яўляецца агульнавядомай на ўсёй тэрыторыі Беларусі. На паўднёвым захадзе слова *цыпляты* адзначаецца досыць часта паралельна са словам *кураняты* (ці варыянтамі яго). Назіраюцца нават асаблівыя мясцовыя варыянты на паўднёвым усходзе (*цыпляняты, цыпяняты, цыплюкі*), якія ўжываюцца не толькі паралельна са словам *кураняты,* але ў некаторых месцах утвараюць кампактныя астраўныя арэалы (Брэсцкая вобл.). Атрымліваецца, што арэал слова *кураняты* як бы накладваецца на паўднёвым захадзе Беларусі на арэал агульнабеларускага слова *цыпляты.* Праўда, з гістарычнага пункту погляду дакладней было б, відаць, гаварыць аб адваротным «накладванні». Другасным храналагічна на паўднёвым захадзе з'яўляецца, відаць, усё ж слова *цыпляты* і яго варыянты (вынік паўночна-ўсходняга беларускага дыялектнага ўплыву на паўднёвы захад ці, часцей, вынік уплыву рускай мовы). У сувязі з гэтым магчыма, што ў мінулым разглядаемая ізаглоса размяжоўвала арэалы слоў *кураняты* і *цыпляты*, аднак цяпер па

ёй супрацьпастаўляецца беларуская дыялектная мова толькі па наяўнасці і адсутнасці слова *кураня́ты*. Старое адрозненне як бы сцёрлася.

Сучаснае адрозненне беларускай дыялектнай мовы па гэтай ізаглосе не зводзіцца, аднак, толькі да гэтага асноўнага супрацьпастаўлення. На яго накладваюцца адрозненні ў іншых назвах куранят, але апошнія характэрны толькі для частак тэрыторыі па розных баках ізаглосы і не размяжоўваюцца ёю непасрэдна. Так, на паўднёвым захадзе ад ізаглосы непасрэдна каля яе на поўначы ад Мінска і на поўдні ад Гомеля каля граніцы з Украінскай ССР заўважаюцца невялікія астраўкі ўжывання слова *пыляня́ты* паралельна з *кураня́ты*. На ўсходзе ад Слуцка і на поўдні ад Мазыра назіраецца астравок слова *цівяня́ты*. Гэта дадатковыя вузка дыялектныя паўднёва-заходнія назвы куранят. На паўночным усходзе падобнай назвай куранят з'яўляецца слова *піскля́ты*, якое адзначаецца таксама паралельна з асноўнай паўночна-ўсходняй назвай *цыпля́ты* (*ціпля́ты*). Але пашырана яно не астраўкамі, а амаль на ўсёй тэрыторыі на паўночным усходзе ад ізаглосы, за выключэннем толькі поўначы Віцебскай вобласці (прыблізна правабярэжжа Заходняй Дзвіны). Акрамя слова *цыпля́ты*, вузка дыялектнай паўночна-ўсходняй назвай выступае слова *курча́ты* (*курчаня́ты, курчукі́*). Арэал яго размяшчаецца ў арэалах слоў *цыпля́ты, піскля́ты* каля граніцы з Літоўскай ССР. Хоць структурна слова *курча́ты* звязана са словам *кураня́ты* — асноўнай паўднёва-заходняй назвай, але становішча яго сярод беларускіх дыялектных назваў куранят гэтым, відаць, не вызначаецца. Яно таксама сустракаецца як варыянт назвы *кураня́ты* на паўднёвым захадзе. Аднак і там арэал слова *курча́ты* адасабляецца вузкай паласой ад слова *кураня́ты* па граніцы з Літоўскай ССР. Таму разглядаць яго як варыянт паўднёва-заходняй дыялектнай назвы *кураня́ты*, відаць, было б няправільна. Гэта асобная дыялектная разнавіднасць назвы.

Да другой групы ізаглос сярэдняга пучка прымыкае таксама ізаглоса суадносных па значэнню слоў *трэ́ба* і *на́да* (ДАБМ, карта № 227). Па праходжанню гэта ізаглоса крыху адрозніваецца ад асноўнай ізаглосы другой групы. У прыватнасці, у раёне Бягомля яна значна адхіляецца на поўнач і праходзіць потым па лініі Бешанковічы — Бялынічы — Краснаполле. Размяжоўвае яна паслядоўную ўжывальнасць слова *трэ́ба*, што характэрна для гаворак на паўднёвым захадзе ад яе, і паралельнае або спарадычнае існаванне ў гаворках слоў *на́да* і *трэ́ба*, што назіраецца на паўночным усходзе. Праўда, чым далей ад ізаглосы на паўночны ўсход, тым часцей слова *на́да* фіксуецца як адзінае і, наадварот, чым бліжэй да ізаглосы, тым яно адзначаецца

радзей. Ствараецца ўражанне, што паўднёва-заходні бераг яго арэала (па ізаглосе) як бы размыты ці разбіты на паасобныя астраўкі. Таму магчыма, што значнае адхіленне ізаглосы слоў *трэ́ба* і *на́да* на поўнач ёсць вынік інтэнсіўнага пашырэння ў гэтым напрамку слова *трэ́ба.* Такое меркаванне ўзнікае і ў сувязі з тым, што ў асобных выпадках указваецца яшчэ на ўжыванне слова *на́да* на тэрыторыі паміж асноўнай і разглядаемай ізаглосамі. Арэал слова *на́да,* такім чынам, у мінулым, відаць, займаў і гэту тэрыторыю.

Прыкметна звязана па праходжанню з другой групай сярэдняга пучка ізаглоса слова *паха́ць* для абазначэння дзеяння па апрацоўцы зямлі бараной (ДАБМ, карта № 266). Адзначаецца ў такім значэнні гэта слова на паўночным усходзе Беларусі. Праўда, у цэнтральных раёнах Беларусі яно ў адпаведным значэнні пашыраецца на поўдзень за ўказаную групу ізаглос. Ізаглоса яго ўжывання праходзіць каля Мінска на Беразіно—Рагачоў.

Адрозненне ў беларускай дыялектнай мове па пашырэнню слова *паха́ць* у разгледжаным значэнні патрабуе некаторых тлумачэнняў.

Слова *паха́ць* у значэнні 'баранаваць' з'яўляецца адной з лексічных адзінак групы дзеясловаў, якія абазначаюць працэс баранавання. Праўда, канкрэтны лексічны састаў гэтай групы і сэнсавыя адносіны паміж яе лексічнымі адзінкамі ў розных беларускіх гаворках паўночнага ўсходу зараз дакладна невядомы.

Зыходзячы з наяўных матэрыялаў (ДАБМ, Каментарыі, стар. 839—846), адносна складу групы дзеясловаў, якія абазначаюць працэс баранавання, пэўна можна толькі сказаць, што ён неаднолькавы. У заходняй частцы гэту групу складаюць дзеясловы *паха́ць* і *баранава́ць,* радзей — *паха́ць* і *прыбіва́ць* або *паха́ць, прыбіва́ць* і *баранава́ць.* На ўсходзе ж у склад яе ўваходзяць дзеясловы *паха́ць* і *скарадзі́ць* або *паха́ць, скарадзі́ць* і *баранава́ць,* а ва ўсходніх раёнах Магілёўшчыны — *паха́ць, скарадзі́ць, валачы́ць, баранава́ць* або *паха́ць, баранава́ць, скарадзі́ць* ці *валачы́ць, баранава́ць, скарадзі́ць.* У апошнім выпадку выступае як бы тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне *паха́ць* : *валачы́ць.*

Калі гаварыць аб сэнсавых адносінах паміж дзеясловамі ў розных падобных дыялектных групах, то ў цэлым можна меркаваць, што дзеясловы звычайна выступаюць не як сінонімы, а ўтвараюць так званыя лексіка-семантычныя сістэмы (прадметна-сінанімічныя групы), адрозніваючыся адзін ад аднаго па значэнню. Розныя дзеясловы такіх груп у гаворках абазначаюць працэсы баранавання ў іх паслядоўнасці або апрацоўку глебы пад розныя сельскагаспадарчыя культуры і інш.

Групы дзеясловаў, якія абазначаюць працэс баранавання, цесна звязаны гістарычна з дзеясловамі, якія абазначаюць працэс ворыва. Таму на гэтай жа паўночна-ўсходняй тэрыторыі дзеяслоў *пахáць* у некаторых гаворках абазначае працэс ворыва (усход Магілёўскай вобл.).

Улічваючы гэтыя акалічнасці, можна меркаваць, што дадзеная ізаглоса размяжоўвае беларускія гаворкі не па наяўнасці і адсутнасці слова *пахáць* для абазначэння працэсу баранавання, а па складу прадметна-сінанімічных груп дзеясловаў са значэннем працэсу баранавання. З аднаго боку пашыраны паўночна-ўсходнія дыялектныя групы, а з другога — паўднёва-заходнія. Праўда, на паўднёвым захадзе падобныя групы маюць, відаць, больш просты склад. Тут пераважна адзначаецца група *баранавáць, скарадзíць* (*скарóдзіць*). Толькі на Палессі, на ўсходзе, — *баранавáць, валачы́ць* (Гомельская вобл.), на захадзе — *валачы́ць* або *валачы́ць* і *баранавáць* і ў Гродзенскай вобласці — *баранавáць*.

Прымыкае да ізаглос другой групы сярэдняга пучка і ізаглоса назваў хмары (ДАБМ, карта № 313). На паўночным усходзе ад яе суіснуюць паралельна словы *ту́ча* і *хмáра*. Аднак слова *хмáра* чым далей ад ізаглосы ў напрамку на паўночны ўсход, тым ужываецца радзей. А ў крайніх паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі яно сустракаецца зусім рэдка.

Для паўднёвага захаду Беларусі характэрна слова *хмáра*.

Падобныя да папярэдніх ізаглосы размяжоўваюць адрозненні беларускай дыялектнай мовы ў месцы націску ў паасобных словах або групах слоў. Агульная асаблівасць гэтых адрозненняў — астраўное пашырэнне на паўночным усходзе варыянтаў па націску, характэрных для дыялектнай мовы гэтай часткі Беларусі.

Да ліку такіх ізаглос адносіцца ізаглоса адрозненняў у націску ў слове *вярбá*. Тэрытарыяльна супрацьпастаўляюцца варыянты *вярбá* і *вéрба* (ДАБМ, карта № 188). Варыянт з націскам на канцавым складзе з'яўляецца паўднёва-заходнім. На паўночным усходзе пашыран варыянт з націскам на пачатковым складзе. Вылучаюцца тут два прыкметныя і значныя масівы яго ўжывання. Амаль што паслядоўна адзначаецца варыянт *вéрба* на ўсходзе Магілёўскай і на захадзе Віцебскай абласцей. Паміж імі назіраецца спарадычнае ўжыванне варыянтаў *вéрба* і *вярбá* (невялікімі астраўкамі).

Прыблізна такая ж ізаглоса адрозненняў у націску ў слове *ву́гал*. Але тут супрацьпастаўленне па ўжывальнасці і тэрытарыяльныя ўзаемаадносіны варыянтаў больш складаныя (ДАБМ, карта № 189). Супрацьпастаўляецца варыянт *ву́гал*, пашыраны на паўднёвым захадзе, варыянту *вугóл*, які адзначаецца на паўночным усходзе. Але гэта супрацьпастаўленне ў дэталях не зусім выразнае.

Паўднёва-заходні варыянт *вўгал* адзначаецца, па-першае, і спарадычна або асобнымі астраўкамі на паўночным усходзе. Паўночна-ўсходні ж варыянт *вугóл* нідзе не займае тут значнай і кампактнай тэрыторыі. Па-другое, паўночна-ўсходні варыянт *вугóл* пашыран асобным значным масівам на паўднёвым захадзе Беларусі.

Супрацьпастаўляюцца такім жа чынам гаворкі Беларусі па націску ў слове *вéсела*. Паўночна-ўсходні варыянт *вясёла* размяжоўваецца тут з паўднёва-заходнім варыянтам *вéсела*, які ў сваю чаргу супрацьпастаўляецца далей на паўднёвым захадзе варыянту *весялó* (ДАБМ, карта № 201). Але на тэрыторыі паўночна-ўсходняга варыянта *вясёла*, як і ў папярэдніх адрозненнях, вельмі шырока адзначаецца сумежны паўднёва-заходні варыянт *вéсела*.

У сувязі з гэтымі ізаглосамі знаходзіцца, трэба меркаваць, таксама ізаглоса тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення варыянтаў слова *рóшчына* па націску. На паўночным усходзе пашыран варыянт *рашчы́на*, у асобных месцах — *рóшчына*. Але апошні характэрны для гаворак паўднёвага захаду, за выключэннем гаворак Брэсцкай вобласці, дзе, як і на паўночным усходзе, пашыран варыянт *рашчы́на*. Асаблівасцю тэрытарыяльнага размежавання варыянтаў *рóшчына* і *рашчы́на* з'яўляецца тое, што паўночна-ўсходні варыянт каля граніцы з Літоўскай ССР вузкай паласой пашыраецца на поўдзень, дасягаючы тэрыторыі паўднёвага арэала варыянта *рашчы́на* і злучаючы як бы мастом паўднёвы арэал варыянта *рашчы́на* з паўночна-ўсходнім (ДАБМ, карта № 194).

Можна аб'яднаць, відаць, з усімі папярэднімі ізаглосамі адрозненняў у месцы націску адну з ізаглос тэрытарыяльных адрозненняў у націску ў формах прошлага часу жаночага роду дзеясловаў *нéсці, вéзці* (ДАБМ, карта № 203). Па гэтай ізаглосе супрацьпастаўляецца паўночны ўсход Беларусі, дзе паслядоўна адзначаюцца варыянты з націскам на канцавым складзе (*нясла́, вязла́*), цэнтральнай (сярэдняй) паласе гаворак і гаворкам усходу Палесся, для якіх характэрны варыянты (*нéсла, вéзла*) з націскам на аснове [88, *284*].

Пры высвятленні складу сярэдняга пучка ізаглос прыцягваюць увагу яшчэ дзве лексічныя ізаглосы, якія хоць і прымыкаюць да другой групы ізаглос сярэдняга пучка, але па некаторых сваіх асаблівасцях у праходжанні стаяць асобна. Адна з іх — гэта ізаглоса адрозненняў у назве жэрдкі, пры дапамозе якой прыціскаюць зверху снапы або сена на возе. У гаворках Беларусі супрацьпастаўляюцца, як быццам, тэрытарыяльна дзве назвы — *рубéль* (*пáрубень*) і *жэ́рдка* (*жэ́рдзь, жэ́рдзя*). Але наўрад ці дакладнай будзе такая характарыстыка супрацьпастаўлення. Слова *рубéль* (*пáрубень*) на тэрыторыі свайго пашырэння сапраўды з'яўляецца спецыяльнай

назвай адпаведнага прадмета, тэрмінам. Відавочна таксама, што на тэрыторыі, дзе яно адсутнічае, такі прадмет мае назву *жэ́рдка*. Аднак тут гэта не спецыяльны тэрмін, а агульная назва падобных доўгіх нятоўстых палак. Пры гэтым у падобным значэнні слова *жэ́рдка* вядома і ў арэале слова *рубе́ль*. Таму гэту ізаглосу больш правільна будзе, відаць, разглядаць як ізаглосу наяўнасці і адсутнасці слова *рубе́ль* (*пáрубень*) або ізаглосу супрацьпастаўлення *рубе́ль, жэ́рдка* : *жэ́рдка*.

Слова *ру́бель* (*рубе́ль, ру́бень, рублі́на, пáрубень, парубе́нь, пáрубель*) пашырана ў гаворках на паўднёвым захадзе Беларусі і адсутнічае на паўночным усходзе. Мяжа яго наяўнасці і адсутнасці цесна прымыкае да другой групы ізаглос амаль на ўсім працягу. Але на захадзе каля самай граніцы з Літоўскай ССР яна адхіляецца на поўдзень, да Мінска, а потым ідзе на паўднёвы захад па Нёману і на Ваўкавыск (ДАБМ, карта № 289). Гэтым яна рэзка адасабляецца ад тыповых ізаглос сярэдняга пучка.

Другая такая асобная па праходжанню ізаглоса характэрна для тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення слоў *хóладна* (*халóдна, халаднó*), *сцюдзёна* і *зі́мна* (ДАБМ, карта № 321). Слова *хóладна* (*халаднó, халóдна*) з'яўляецца амаль што агульнапашыраным. Зрэдку адзначаецца яно (як і слова *сцюдзёна*) толькі ў арэале слова *зі́мна*. Таму апошняе можна лічыць тэрытарыяльна супрацьпастаўленым астатнім. Але ізаглоса гэтага супрацьпастаўлення ў сярэдні пучок не ўваходзіць. Яна праходзіць па тэрыторыі Беларусі каля граніцы з Літоўскай ССР.

У сярэдні пучок, у прыватнасці ў другую групу, уваходзіць ізаглоса, якая размяжоўвае тэрыторыю пашырэння толькі слова *хóладна (халаднó, халóдна)* на паўднёвым захадзе і тэрыторыю суіснавання слоў *халóдна* (і варыянтаў) і *сцюдзёна* на паўночным усходзе. Магчыма таксама, што гэта — несупрацьпастаўленае дыялектнае адрозненне па наяўнасці і адсутнасці слова *сцюдзёна*. Тым больш, што слова *сцюдзёна* адзначаецца, як правіла, паралельна са словам *хóладна* (*халóдна*) і мае, відаць, нешта адрознае ад яго ў сваім значэнні або ўжыванні [1].

У сваёй усходняй частцы гэта ізаглоса супадае прыблізна з ізаглосамі другой групы сярэдняга пучка. Але на захадзе яна адхіляецца ад іх значна на поўдзень.

---

[1] Параўн. некаторыя заўвагі да адказаў на адпаведнае пытанне «Праграмы»: «*хóладна*; радзей *с'ц'удз'óна*»; «*хóладна, с'ц'удз'óна* гавораць старыя»; «*халóдна, студз'óна* — калі дуе рэзкі зімовы вецер» і інш. (ДАБМ, Каментарыі, стар. 922).

## Ашмянска-гомельскі пучок
**(карта № 52)**

Даволі густы пучок ізаглос праходзіць з захаду на паўднёвы ўсход прыблізна па лініі Ашмяны—Маладзечна—Мінск—Беразіно — Клічаў — Рагачоў — Гомель. Большая частка ізаглос, якія характарызуюць гэты пучок, адносяцца да з'яў ненаціскнога вакалізму.

Асноўнай у гэтым пучку з'яўляецца ізаглоса дысімілятыўнага якання беларускага (жыздрынскага) тыпу: *в'исна́, с'ика́ч, п'ита́,* але *в'асны́, с'аку́, п'ато́й, з'ал'о́ны, н'ас'е́ш* (ДАБМ, карта № 4). З ёю блізка сыходзяцца ізаглосы рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму пасля мяккіх зычных у [и], [ь] у другім складзе перад націскам: *с'ирада́—с'ьрада́, в'икава́ц', м'исайе́т, п'итачо́к* і вымаўлення [и] на месцы «е» ў другім складзе перад націскам у прыстаўцы **пера-**: *п'ирамы́ц', п'ирашла́* (ДАБМ, карта № 10) і [и], [ь] у трэцім складзе перад націскам: *в'ирац'ано́—в'ьрац'ано́, з'ил'инывáты* (ДАБМ, карта № 11). Тут жа праходзяць ізаглосы рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў [и], [ь] у паслянаціскных складах на месцы «е», «ё» — у неканцавым складзе: *во́з'ира — во́з'ьра, с'о́л'ита* (ДАБМ, карта № 15); у канцавым закрытым складзе: *во́с'ин' — во́с'ьн', па́л'иц* (ДАБМ, карта № 16); на месцы «а» ў канцавым закрытым складзе: *па́м'иц' — па́м'ьц', м'е́с'иц, за́йиц* (ДАБМ, карта № 19); на месцы тэматычнага «е» ў форме 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў І спражэння: *м'е́л'им, сы́п'им* (ДАБМ, карта № 151). Да гэтага пучка адносіцца і ізаглоса вымаўлення [у] на месцы «'а» ў ненаціскным канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння: *хо́дз'уц', ко́рм'уц',* а таксама ў форме дзеепрыслоўяў цяперашняга часу, утвораных ад дзеясловаў II спражэння: *хо́дз'учы, ко́с'учы* (ДАБМ, карты № 157, 181).

Большасць гэтых ізаглос з'яўляюцца паўднёвымі межамі з'яў ненаціскнога вакалізму, якія характэрны для гаворак паўночна-ўсходняй Беларусі — дысімілятыўнага якання і рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў [и], [ь] у розных ненаціскных пазіцыях (паслядоўна і непаслядоўна). У заходняй частцы гэтай тэрыторыі побач з [и] на месцы «е», «ё» спарадычна сустракаецца [е] ў розных ненаціскных пазіцыях: *в'есна́, с'ерада́, во́з'ера, во́с'ен'.* Утварэнне [у] ў ненаціскным канчатку форм 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння (*хо́дз'уц', но́с'уц'*) і ў адпаведных формах дзеепрыслоўяў (*хо́дз'учы, но́с'учы*) таксама звязана з рэдукцыяй ненаціскных галосных, характэрнай для гаворак паўночна-ўсходняй групы.

Усе гэтыя ізаглосы ўтвараюць даволі густы пучок, больш шчыльны на паўднёвым усходзе і разгалінаваны на паўноч-

ным захадзе, дзе ізаглосы рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў [и], [ь] у паслянаціскных складах некалькі адыходзяць на ўсход ад ізаглосы такой жа рэалізацыі гэтых галосных у складах перад націскам (не ў першых).

Да гэтага пучка адносіцца ізаглоса, на поўнач і ўсход ад якой у суфіксе інфінітыва і форм прошлага часу дзеясловаў з асновай на шыпячы вымаўляецца [е]: *маўчэ́ць, дрыжэ́ць, крычэ́ла, дрыжэ́ў* (ДАБМ, карта № 36). Такія формы ў паўночна-ўсходніх гаворках суіснуюць з формамі на **-аць**: *крычэ́ць — крыча́ць, маўчэ́ла — маўча́ла, дрыжэ́ў — дрыжа́ў*. На паўднёвы захад ад ізаглосы пануючымі з'яўляюцца формы з суфіксам **-аць**. Толькі ў асобных населеных пунктах адзначаецца паралельнае суіснаванне форм на **-аць** і **-эць**. Больш часта суфікс **-эць** сустракаецца ў брэсцка-пінскіх гаворках. Паходжанне гэтага суфікса на розных тэрыторыях неаднолькавае. У гаворках паўночна-ўсходняга масіву замена суфіксальнага [а] на [е] абмежавана дзеясловамі з асновай на шыпячы. У іншых умовах такой замены не адзначаецца, што сведчыць аб марфалагічным паходжанні дадзенай з'явы, аб яе развіцці шляхам марфалагічнай аналогіі па ўзору непрадуктыўных дзеясловаў на **-ець** (*глядзе́ць, сядзе́ць*) [79, *29*].

Іншае паходжанне маюць формы дзеясловаў з суфіксальным [е] ў гаворках на поўдзень і захад ад праведзенай ізаглосы. У гаворках, блізкіх да паўночна-ўсходніх, такія формы маглі з'явіцца пад уплывам апошніх. У гаворках паўднёвых раёнаў Брэсцкай вобласці суфіксальнае [е] з'яўляецца ў выніку фанетычных працэсаў. Тут пры наяўнасці пяціфанемнага складу галосных [е] ужываецца і там, дзе ў астатніх гаворках вымаўляецца фанема [а]: *з'ец', ц'е́га, ше́пка* замест *з'ац', ц'а́га, ша́пка* [88, *24—31*].

Такім чынам, можна сказаць, што гаворкі паўночна-ўсходняга арэала ў II спражэнні маюць адзіную марфалагічную структуру (*маўчэ́ць* як *гарэ́ць*). У частцы гаворак поўдня Беларусі падобныя ўтварэнні развіліся за кошт фанетычных змен, якія прывялі да наяўнасці фанетычнай разнавіднасці формы (*маўчёты* як *з'ец'*).

Да ашмянска-гомельскага пучка адносіцца ізаглоса, што падзяляе тэрыторыю на дзве часткі па характару асновы дзеясловаў I спражэння. Гэты тып дзеясловаў адрозніваецца чаргаваннем спалучэння губных $+л'$ у 1-й асобе адзіночнага ліку з губным у астатніх формах — у гаворках на паўночным усходзе Беларусі — і адсутнасцю такога чаргавання на паўднёвым захадзе (ДАБМ, карта № 159).

Паўночна-ўсходнія гаворкі не з'яўляюцца аднастайнымі. Тут амаль паслядоўна адзначаецца паралельнае ўжыванне двух тыпаў парадыгмы: парадыгма з чаргаваннем спалучэння

губны *+л'* з губным і з захаваннем губнога *+л'* ва ўсіх асабовых формах.

Адсутнасць чаргавання — з'ява старажытная і, як паказвае матэрыял, устойлівая. Адной з асаблівасцей гаворак паўночна-ўсходняга арэала з'яўляецца тое, што непаслядоўнасць чаргавання носіць лексікалізаваны характар. Старажытны тып парадыгмы ўтрымлівае дзеяслоў *драма́ць* (*драмлю́, дрэ́млеш, дрэ́млюць* і г. д.), а ў іншых дзеясловах адзначаецца чаргаванне (*сы́пац' — сы́плю, сы́пім — сы́пяць*). У гэтых гаворках адбываецца, відаць, напластоўванне новай з'явы на старажытную. Гэты працэс праходзіць паступова і не адразу ахоплівае ўвесь тып дзеясловаў, а спачатку толькі некаторыя з іх.

Паўднёва-заходнія гаворкі характарызуюцца тым, што парадыгма спражэння выраўноўваецца па 1-й асобе адзіночнага ліку. Тут чаргаванне не адбываецца.

Усе адзначаныя ізаглосы ў складзе ашмянска-гомельскага пучка акрэсліваюць з поўдня тэрыторыю моўных з'яў, якія з'яўляюцца канстытутыўнымі для гаворак паўночна-ўсходняй часткі Беларусі — дысімілятыўнае яканне і звязаная з ім рэалізацыя галосных няверхняга пад'ёму ў [и], [ь] у іншых ненаціскных пазіцыях, акрамя канцавога адкрытага складу, а таксама комплекс марфалагічных рыс: аснова цяперашняга часу з чаргаваннем губных у дзеясловах I спражэння (*драмлю́ — дрэ́меш*), канчатак **-уць** дзеясловаў II спражэння з рухомым націскам і нерухомым на аснове (*яны́ хо́дзюць, ста́вюць*), форма інфінітыва на **-эць** (*крычэ́ць*).

Гэтым моўным асаблівасцям з поўдня і захаду супрацьпастаўляецца недысімілятыўнае яканне і звязаная з ім рэалізацыя галосных на месцы «е», «ě» ў [а], [е] ў іншых ненаціскных пазіцыях: *с'арада́—с'ерада́, в'екава́ц'—в'акава́ц, в'ерац'ано́—в'арац'ано́, з'ел'анава́ты—з'ал'анава́ты; во́з'ара—во́з'ера, во́с'ан'—во́с'ен';* пры вымаўленні [а] на месцы «а»: *п'атачо́к, ц'ашкава́та; па́м'ац', м'е́с'ац', ты́с'ача,* а таксама марфалагічныя рысы: аснова цяперашняга часу без чаргавання губных (*драмлю́, дрэ́млеш*), форма 3-й асобы множнага ліку з ненаціскным канчаткам **-аць (-эць)** дзеясловаў II спражэння (*хо́дзяць, хо́дзець*), форма інфінітыва на **-аць** (*дрыжа́ць*).

На поўдзень ад недысімілятыўнага якання пашырана еканне, вакалізм з рэалізацыяй «е», «ě» ў [ы], [и] (*высна́, сика́ч*) або ў [е] (*весна́, с'ека́ч*) пры адрозніванні ['а] (*п'ата́, в'аза́ты*).

Ашмянска-гомельскі пучок ізаглос падзяляе гаворкі Беларусі на паўночна-ўсходнія і паўднёва-заходнія. Першыя характарызуюцца дысімілятыўным тыпам якання, другія — рознымі тыпамі ненаціскнога вакалізму—яканнем, еканнем і інш.

Гэта геаграфічнае чляненне беларускіх гаворак на фанетычным узроўні дапаўняецца комплексам супрацьпастаўленых моўных рыс на ўзроўні флексіі.

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎДНЁВАГА НАПРАМКУ

### Браслаўска-ушацка-расонскі пучок
**(карта № 53)**

У браслаўска-ушацка-расонскі пучок аб'ядноўваюцца ізаглосы, якія праходзяць паабапал лініі, якую ўмоўна можна правесці праз Браслаў — Докшыцы — Лепель — Ушачы — Расоны. Да яго адносіцца ізаглоса, якая акрэслівае арэал слова *вазо́ўня* ў значэнні 'пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад' (ДАБМ, карта № 238). Яна праходзіць прыкладна па лініі Браслаў — Паставы — Докшыцы — Ушачы — Расоны. Разглядаемы арэал супрацьпастаўляецца астатняй тэрыторыі Беларусі, дзе ў тым жа значэнні ўжываецца слова *паве́ць*. Аднак і ў межах арэала побач з асноўным *вазо́ўня* ў радзе пунктаў адзначана *паве́ць*. Таму выдзяляць арэал слова *вазо́ўня* можна толькі ўмоўна, кіруючыся тым, што гэта слова найбольш кампактна адзначаецца іменна ў межах, акрэсленых ізаглосай.

На астатняй жа тэрыторыі беларускіх гаворак слова *вазо́ўня* адзначаецца вельмі разрознена і рэдка.

Гэта слова ў палескіх і гродзенскіх гаворках супрацьпастаўляецца словам *шо́па (шо́пка)* і *шур (шу́рык)*.

У гаворках рускіх старажылаў Літвы, Латвіі і Эстоніі [93, *48*] гэта слова адзначаецца ў тым жа значэнні, а таму, магчыма, яно захавалася і ў сярэднерускіх гаворках. У такім выпадку гэта асаблівасць мае працяг у рускіх гаворках.

Блізкай па канфігурацыі, але крыху далей адхіленай на паўднёвы ўсход з'яўляецца ізаглоса слова *угары́на* (*уга́рына*) і іншых назваў гэтага ж кораня для абазначэння прывязкі, якой прымацоўваецца біч да цапільна (ДАБМ, карта № 259). Гэта слова адзначаецца досыць кампактна, яно характэрна толькі для выдзеленага арэала і невядома іншым гаворкам Беларусі, у якіх пашыраны словы *пры́вязка, увя́зка, гу́ж, ка́піца* ў тым жа значэнні.

Арэал пашырэння слова *крыло́* ў значэнні 'паліца ў плузе' праходзіць паласой, паўднёвая мяжа якой набліжаецца да ізаглосы слова *вазо́ўня* (ДАБМ, карта № 256). Гэты арэал супрацьпастаўляецца арэалам слоў *палі́ца, акладня́* (*аткладня́*) на паўднёвым захадзе і слова *адва́л* — на паўднёвым усходзе Беларусі. Слова *крыло́* за межамі арэала адзначаецца толькі ў нас. пп. Навасёлкі, Сапраны і Астрэйкава Віцебскага, Шэркіна і Ноў Лёзненскага і Задроўе Аршанскага

раёнаў. Аднак і на поўначы арэала спарадычна адзначаецца *акладня́, аткладня́* і *адва́л*.

Невялікі арэал акрэслівае ізаглоса пашырэння слова *жэ́гіні* (*жэ́гі, іжэ́гіні*) у значэнні 'прыстасаванне для сушкі снапоў, вікі, гароху і канюшыны' (ДАБМ, карта № 234). Яна праходзіць па лініі Браслаў — Шаркаўшчына — Міёры — Верхнядзвінск. Гэта слова на разглядаемай тэрыторыі выступае толькі ў 8 нас. пп., а ў пераважнай большасці адзначаецца адсутнасць самой рэаліі. Слова *жэ́гіні* супрацьпастаўляецца на астатняй тэрыторыі словам *азяро́д, зяро́д, перапло́т, друкі́, астро́ўкі, байра́к* і інш. у тым жа значэнні.

## Свірска-лепельска-віцебскі пучок

**(карта № 54)**

У напрамку з захаду на ўсход праходзіць рад ізаглос, якія выдзяляюць зону крайніх паўночных гаворак. Адной з асаблівасцей гэтых ізаглос з'яўляецца тое, што яны не канцэнтруюцца ў шчыльны пучок, а месцамі то набліжаюцца адна да адной, то, перасякаючыся, разыходзяцца, акрэсліваючы паўночную групу гаворак. Гэта група супрацьпастаўляецца астатнім паўночна-ўсходнім гаворкам. Асноўнымі з'яўляюцца лексічныя і словаўтваральныя супрацьпастаўленні. Некалькі ізаглос супрацьпастаўляюць гаворкі на ўзроўні фанетыкі і марфалогіі. Да асаблівасцей гаворак, выдзеленых свірска-лепельска-віцебскім пучком, належыць вымаўленне [ц] на месцы [ч] у памяншальным суфіксе **-ічк-**: *с'астры́цка, рукав'и́цка, л'ис'и́цка, трав'и́цка, пал'и́цка.* Ізаглоса праходзіць ад граніцы з Літвой, прыблізна па прамой лініі да Бярэзіны (на поўдзень ад Пастаў і Глыбокага), затым паварочвае на поўнач і, агінаючы Полацк, паралельна Заходняй Дзвіне, праз Гарадок, ідзе да граніцы з РСФСР. Трэба адзначыць, што ў адной і той жа гаворцы разглядаемага арэала ў суфіксе **-ічк-** можа вымаўляцца і [ч] і [ц] (ДАБМ, карта № 43).

Другі арэал распаўсюджання назоўнікаў жаночага роду з [ц] у суфіксе **-ічк-** размешчан у заходняй частцы Гомельскай і ўсходняй частцы Брэсцкай абласцей. Зрэдку суфікс **-іцк-** адзначаецца ў заходніх раёнах Брэсцкай вобласці. І на гэтай тэрыторыі разнавіднасці суфікса (**-ічк-**, **-іцк-**) могуць суіснаваць у гаворцы адной вёскі.

У свірска-лепельска-віцебскі пучок уваходзіць ізаглоса, якая выдзяляе на поўначы арэал распаўсюджання слова *агурэ́чнік* у значэнні 'сцяблы і лісце гуркоў'. Гэта слова супрацьпастаўляецца яго варыянту з адрозненнем галоснага ў суфіксе: *агурэ́чнік — агуро́чнік* (ДАБМ, карта № 279).

Да разглядаемага пучка адносіцца ізаглоса, якая супрацьпастаўляе гаворкі па характару назвы касільна (ДАБМ, карта № 262). На поўнач ад ізаглосы знаходзяцца гаворкі, якім уласцівы назвы, утвораныя ад асновы *касав-*. Прычым у гэтым арэале тэрытарыяльна дыферэнцыруюцца суфіксальныя ўтварэнні ад названай асновы. Слова *касаўё* пашырана ўздоўж усходняй і паўночна-заходняй граніцы БССР і спарадычна адзначаецца на астатняй тэрыторыі паўночнага масіву. Акрамя таго, яно адзначана на супрацьлеглым баку ізаглосы — уздоўж заходняй граніцы БССР, каля Бабруйска, на тэрыторыі паміж Гарынню і Убарцю. Варыянт *касавілна* пашыран у цэнтральных і ўсходніх гаворках.

На захадзе свірска-лепельска-віцебскага арэала бытуе слова *касавіла,* на крайнім усходзе — *касавішча.* У заходняй частцы гэтай групы гаворак адзначаны адзінкавыя назвы: *касавідла, касавёліна.*

Такім чынам, унутры арэала, які выдзяляецца свірска-лепельска-віцебскім пучком ізаглос, вылучаюцца астраўкі гаворак, у якіх ад асновы *касав-* утвараецца назва касільна пры дапамозе асобных у кожным выпадку суфіксаў.

Акрэсленыя свірска-лепельска-віцебскім пучком ізаглос гаворкі супрацьпастаўляюцца навакольным гаворкам, якім уласцівы варыянты з коранем *кас-: кóссе, акóссе, касільна* і інш.

Падобным тэрытарыяльным размеркаваннем вызначаюцца варыянты назвы цапільна ад вытворнай асновы *цапав-*. Слова *цапаўё* мае непаслядоўнае пашырэнне на ўсёй тэрыторыі паўночнай групы гаворак. У заходніх раёнах пераважае словаўтваральны варыянт *цапавіла* пры спарадычнасці ўжывання *цапавідла.* У крайніх населеных пунктах заходняй часткі арэала зафіксаваны іншы варыянт — *цапавіска.* У цэнтральных раёнах разглядаемага арэала гаворак пашырана слова *цапавільна.*

Словаўтваральныя сродкі лексічных варыянтаў *касільна* і *цапільна* тэрытарыяльна суадносяцца (ДАБМ, карты № 257, 262).

Апошнія дзве ізаглосы супрацьпастаўляюць гаворкі па характару асновы: *касав-, цапав-* : *кас-, цап-.*

У значэнні назвы ручкі касы ў групе паўночных гаворак ужываюцца словы *пáлец, палю́х* (*палю́к*). Слова *пáлец* мае паслядоўнае распаўсюджанне на поўнач ад Заходняй Дзвіны. На поўдзень ад Заходняй Дзвіны ў межах акрэсленага арэала гэта слова адзначаецца непаслядоўна. Значнае месца займае тут слова *палю́х* (*палю́к*) (ДАБМ, карта № 260).

Да свірска-лепельска-віцебскага пучка адносіцца таксама ізаглоса, што выдзяляе на поўначы арэал пашырэння назвы бручкі: *гры́жа, гры́жына, гры́жынка, грыжáн.* Адзначаныя

варыянты супрацьпастаўляюцца слову *бру́чка* і вытворным ад яго (ДАБМ, карта № 276).

Ізаглоса назвы непакладанага кабана ў гаворках выдзяляе паўночны арэал пашырэння слоў *кілу́н* і *кіла́ш* (ДАБМ, карта № 291). Абодва варыянты распаўсюджаны непаслядоўна, часта яны суіснуюць або мяжуюць з іншымі словамі ў тым жа значэнні: *кнур, кныр, кно́раз, кірно́з, храк.* Словы *кныр* і *кнур* з'яўляюцца агульнапашыранымі. Слова *храк* лакалізуецца ў гаворках усходніх раёнаў Беларусі, *каба́н* — на тэрыторыі Магілёўшчыны, *карзу́к* — у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці, *гук* — на Гродзеншчыне.

Да свірска-лепельска-віцебскага пучка прымыкае ізаглоса, што выдзяляе на поўначы гаворкі, для якіх характэрна слова *лоб* і вытворныя ад яго ў значэнні назвы франтона. Варыянты назваў адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі — суфіксамі і прыстаўкамі (*лоб, лабя́к, зало́бак, нало́бнік*).

На поўдзень ад ізаглосы ў гэтым жа значэнні ўжываюцца *шчыт* і *франто́н.* Апошнія заходзяць на тэрыторыю паўночнай групы гаворак і суіснуюць з асноўнай назвай *лоб* (ДАБМ, карта № 230). У сваю чаргу словы *лоб* і вытворныя ад яго, якія характэрны для гаворак выдзеленай групы, невялікімі астраўкамі сустракаюцца на поўдзень ад ізаглосы.

Ізаглоса паслядоўнага пашырэння прыналежных займеннікаў *яго́ны, е́йны, і́хны* таксама ўваходзіць у свірска-лепельска-віцебскі пучок і акрэслівае некалькі большую тэрыторыю ў параўнанні з разгледжанымі вышэй ізаглосамі. На поўдзень ад гэтай ізаглосы займеннік *і́хны* адзначаецца паралельна з займеннікам *іх.* Займеннікі *е́йны* і *яго́ны* сустракаюцца тут спарадычна на фоне агульна пашыраных форм *яе* і *яго* (ДАБМ, карта № 187).

Да свірска-лепельска-віцебскага пучка адносіцца ізаглоса, якая выдзяляе на поўначы гаворкі з формай на **-ом** пры аснове на мяккі зычны ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу нетэматычных дзеясловаў *йадз'о́м, дадз'о́м* (ДАБМ, карта № 161). Для гаворак на поўдзень ад гэтай ізаглосы характэрна форма *ядзі́м, дадзі́м.* На сумежнай тэрыторыі абедзве формы суіснуюць. На поўдзень ад Мінска, а таксама на Гомельшчыне канчатак **-ом** адзначаецца з папярэднім цвёрдым зычным асновы.

Апошняя ізаглоса разглядаемага пучка выдзяляе на поўначы арэал пашырэння слова *стоўб* са значэннем сахі ў студні з жураўлём. Гэта слова пераважае ў цэнтральнай частцы арэала і спарадычна адзначаецца ва ўсходніх і заходніх раёнах. На выдзеленай тэрыторыі спарадычна ўжываюцца варыянты гэтага слова, якія пашыраны на поўдзень ад ізаглосы. На захадзе вылучаецца невялікі арэал пашырэння слова *асве́р* (ДАБМ, карта № 242). Слова *стоўб* адзначана яшчэ на паў-

днёвым захадзе Брэстчыны і ў адзінкавых населеных пунктах на ўсходзе Беларусі.

Такім чынам, большасць з'яў, якія акрэсліваюцца свірска-лепельска-віцебскім пучком ізаглос, не займаюць тут суцэльнага масіву. Сюды пранікаюць асаблівасці суседніх беларускіх і рускіх гаворак.

Акрамя разгледжаных ізаглос, што выдзяляюць больш-менш кампактныя арэалы, у пучок уваходзяць і ізаглосы, якія супадаюць па напрамку з іншымі свірска-лепельска-віцебскімі ізаглосамі, але адрозніваюцца велічынёй акрэсленых арэалаў. Так, ізаглоса формы назоўнага склону адзіночнага ліку ўказальнага займенніка мужчынскага роду *тот* праходзіць па лініі Браслаў — Верхнядзвінск — Асвея — Расоны — на поўнач ад Гарадка — на поўдзень ад Суража і супрацьпастаўляе форму *тот,* якая займае тэрыторыю на поўнач ад ізаглосы формам *той* і *тэй* на поўдзень ад яе. Абедзве формы суіснуюць у сумежных раёнах (ДАБМ, карта № 134).

Слова *прайнік,* што абазначае назву прылады, якой пераць бялізну, размяшчаецца двума астраўкамі на паўночным усходзе. Адзін з іх вузкай паласой цягнецца ўздоўж граніцы з Літвой, другі — уздоўж паўночна-ўсходняй граніцы з РСФСР (ДАБМ, карта № 252). Апошні менш кампактны. Ізаглоса акрэслівае арэалы распаўсюджання *прайнік* (з наяўнасцю [j]) і супрацьпастаўляе іх навакольным гаворкам з пашырэннем *пра́нік* (*пра́ннік*).

Падобныя па канфігурацыі арэалы распаўсюджання слова *ягнілася* (аб авечцы) (ДАБМ, карта № 298). Ізаглоса гэтага слова праходзіць прыблізна па цячэнню Заходняй Дзвіны. Невялікі астравок адзначаецца каля граніцы з Літвой. На поўдзень ад ізаглосы пашырана слова *кацілася.* Супрацьпастаўленыя словы *ягнілася* : *кацілася* на сумежных тэрыторыях узаемапранікаюць.

Некалькі своеасаблівыя контуры мае арэал распаўсюджання слова *дзяцініха* (назва курыцы, якая водзіць куранят). Ізаглоса праходзіць на захад ад Расон, Верхнядзвінска, на ўсход ад Браслава, Шаркаўшчыны, Падсвілля, Докшыц, затым цягнецца ўздоўж левабярэжжа Бярэзіны, каля Плешчаніц паварочвае на ўсход і даходзіць да Улы, далей каля Ушач, Полацка, Віцебска да граніцы з РСФСР.

На поўдзень ад ізаглосы ў тым жа значэнні ўжываюцца словы *квакту́ха, кваку́ха, піскля́тніца* (ДАБМ, карта № 295).

Ізаглоса, што акрэслівае пашырэнне назвы памёт (абложная зямля), праходзіць па лініі Езярышча — Полацк — Расоны — Шаркаўшчына — Падсвілле, далей ідзе ўздоўж Бярэзіны, затым каля Крупак — Чашнікаў — Бешанковіч — Гарадка і зноў выходзіць да Езярышча (ДАБМ, карта № 275). На захадзе ад ізаглосы пашыраны словы *дзірва́н, перало́г,*

а на ўсходзе ад яе — *аблóга, пустыр, зáлеж, яланіна* ў тым жа значэнні.

Слова *пашына,* якое абазначае назву падмосткаў пад стог, размяшчаецца на поўнач ад ізаглосы, што праходзіць па лініі Браслаў, Шаркаўшчына—Ушачы—Лепель, агінае з поўдня Чашнікі і ідзе на Віцебск — Гарадок — Езярышча. Аднак гэта назва адзначаецца тут непаслядоўна. Паралельна з ёю ў тым жа значэнні часта ўжываюцца словы *стажáр'е*, радзей— *падмóсткі* (апошняя пераважае на захадзе).

Такім чынам, усе ізаглосы свірска-лепельска-віцебскага пучка выдзяляюць паўночную тэрыторыю, якая адрозніваецца ў кожным асобным выпадку памерам. Арэалы асаблівасцей па краях размыты ў выніку ўзаемапранікнення форм з сумежнай тэрыторыі.

## Ашмянска-мінска-клімавіцкі пучок

**(карта № 55)**

Ізаглосы ашмянска-мінска-клімавіцкага пучка перасякаюць тэрыторыю Беларусі па гарызантальнай лініі з захаду на ўсход. Да ліку апошніх у першую чаргу адносіцца ізаглоса, якая размяжоўвае два тыпы асноў у парадыгме скланення лічэбніка *два.*

На поўнач ад ізаглосы ў родным, давальным, творным і месным склонах амаль паслядоўна адзначаецца аснова *дву-*. Выключэнне складае невялікая група гаворак Віцебскай і Магілёўскай абласцей, дзе ў гэтых склонах сустракаецца аснова *двы-*. У адных гаворках яна можа быць фанетычнай па паходжанню — тут магчыма дэлабіялізацыя [у] і пераход яго ў [ы]. У другіх гаворках гэта аснова марфалагічнага паходжання. З'явілася яна па аналогіі з формамі прыметнікаў і ўказальных займеннікаў (*двых, двым,* як *тых, тым, дóбрых, дóбрым*) [145, *145*]. На поўдзень ад разглядаемай ізаглосы ў формах роднага, давальнага і меснага склонаў пераважае аснова *дво-* (*двох, двом, аб двох*). У творным склоне гэта аснова мае меншае распаўсюджанне, што можна тлумачыць асаблівасцямі ненаціскнога вакалізму гаворак Беларусі, для большасці якіх не характэрна захаванне **о** не пад націскам. Аснова *дво-* больш паслядоўна адзначаецца ў окаючых гаворках і ў гаворках, дзе гэта аснова з'яўляецца націскной (усход Гомельскай і паўднёвы ўсход Магілёўскай абл.: *двóмы, дз'в'óмы*). У астатніх гаворках акрэсленага паўднёвага арэала гэта аснова выступае ў фанетычным варыянце *два-* (Гродзенская вобл., спарадычна на астатняй тэрыторыі; ДАБМ, карта № 144). На поўдзень ад ізаглосы бытуюць формы з асновай

*дву-,* якія пранікаюць сюды з паўночнага арэала. Часта аснова *дву-* адзначаецца паралельна з *дво-* ва ўсёй парадыгме.

У частцы гаворак Брэстчыны аснова *дву-* мае фанетычнае паходжанне. З'явілася яна ва ўмовах лабіялізацыі **о** ў выніку так званага «укання» (ДАБМ, карта № 3).

Акрамя разгледжаных асноў, у гаворках на поўдзень ад ізаглосы ў формах творнага склону захавалася аснова *две-* (характэрная форма творнага склону былога парнага ліку), якая ў радзе выпадкаў выступае ў фанетычных варыянтах *дв'и-, двы-* (*дв'имá, двымá*).

Такім чынам, падобныя формы ў сучасных гаворках могуць мець розную прыроду. Так, у паўночна-ўсходніх гаворках аснова *двы-* фанетычна ўзыходзіць да формы *дву-мá.* Гэта ж аснова (*двы-мá*) у паўднёва-заходніх гаворках узыходзіць да старажытнай формы парнага ліку *двѣ-ма.*

У такім жа напрамку праходзяць ізаглосы, якія падзяляюць гаворкі па характару галоснага ў формах ускосных склонаў указальнага займенніка *той.* На поўнач ад ізаглосы ў родным, давальным і месным склонах пашыраны формы *тэй* (*тэ́е*), *к тэй, за тэй* (*за тэ́ю*).

Падобныя, але іншага паходжання формы адзначаюцца ў гаворках брэсцка-пінскага арэала, у якіх [е] з'явілася ў выніку рэгрэсіўнай асіміляцыі, у той час як наяўнасць яго ў гаворках поўначы тлумачыцца радам фанетычных змен [145, *168—172*].

Адной з характэрных асаблівасцей ізаглос ашмянска-мінска-клімавіцкага пучка з'яўляецца невялікая шчыльнасць дыферэнцыяцыі. Невыразнасць межаў пашырэння разгледжаных з'яў абумоўлена ўзаемапранікненнем супрацьпастаўленых асаблівасцей на сумежных тэрыторыях (ДАБМ, карты № 135—137).

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎДНЁВА-ЎСХОДНЯГА НАПРАМКУ

### Пастаўска-глыбоцка-верхнядзвінскі пучок
**(карта № 56)**

Ізаглосы пастаўска-глыбоцка-верхнядзвінскага пучка акрэсліваюць арэалы, што выходзяць на тэрыторыю Літвы і Латвіі. У гэты пучок аб'яднаны ізаглосы слоў і лексіка-семантычных з'яў *(мышá, гуся́, пастаўнíк, ля́да* ў значэнні 'беспарадак, шкода', падзыўныя для авечак і гусей).

Ізаглосы *мышá* і *гуся́* з націскам на канчатку (ДАБМ, карты № 80, 81) амаль супадаюць і праходзяць прыкладна па лініі Свянцяны (Літва)—Мядзель—Глыбокае—Верхнядзвінск. За межамі разглядаемага арэала гэтыя словы

супрацьпастаўляюцца распаўсюджаным па ўсёй Беларусі словам жаночага роду *мыш*, гусь і характэрным для паўночнаўсходніх гаворак суфіксальным утварэннем *мышына, гўсіна*, якія маюць адценне адзінкавасці, а таксама слову *гусь* мужчынскага роду ў паўночна-ўсходніх гаворках.

Характэрнай адзнакай слоў *мыша́, гуся́* на тэрыторыі іх пашырэння з'яўляецца выхад з адной граматычнай структуры і пераход у другі тып (у скланенне назоўнікаў з націскным канчаткам **-а**(**-я**) *(мяжа́, зямля́)*. Магчыма, тут дзейнічае з'ява аналогіі.

Ва ўскосных склонах словы *мыша́, гуся́* таксама змяняюцца па тыпу назоўнікаў *мяжа́, зямля́*. Падобная з'ява назіраецца і ў рускіх гаворках, дзе назоўнік *мыш* скланяецца па тыпу назоўнікаў мужчынскага роду [119, *270, 275, 277*].

У межах арэала найбольш паслядоўна разглядаемыя словы выступаюць каля граніцы з Літвой і Латвіяй, у той час як на астатняй яго частцы гэтыя формы адзначаюцца радзей. Тут яны выступаюць паралельна з *мыш, гусь.*

За межамі арэала слова *мыша́* адзначана толькі ў нас. пп. Парэчча Гродзенскага, Кірпічоўшчына Шчучынскага і Кульшычы Слаўгарадскага раёнаў, а *гуся́* — у нас. пп. Янкавічы Расонскага, Лінова Пружанскага і Вярхі Камянецкага раёнаў.

Ізаглоса слова *пастаўнік* у значэнні назвы агароджанага месца для жывёлы ў полі ці лесе акрэслівае меншы арэал і праходзіць па лініі Шаркаўшчына — Падсвілле — Верхнядзвінск (ДАБМ, карта № 232). Гэта назва спарадычна сустракаецца ў гаворках паўднёвага захаду і паўднёвага ўсходу, аднак найбольш кампактна яна выдзяляецца ў межах акрэсленага арэала. У корані слова *пастаўнік* адлюстроўваецца асноўнае прызначэнне агароджанага месца — ставіць жывёлу на адпачынак.

Гэты арэал супрацьпастаўляецца арэалам слоў з коранем *-гарад-*(<*-город-*); *за́гарадзь, за́гарадка, за́гарада, вы́гарадзь, вы́гарадка,* а таксама *каша́ра, заго́н, майда́н* і інш.

На арэал слова *пастаўнік* заходзяць у некаторых населеных пунктах словы з коранем *-гарад-* і слова *заго́н* (нас. п. Мётлы Пліскага р-на).

Да пастаўска-глыбоцка-верхнядзвінскага пучка адносіцца таксама ізаглоса слова *ляда* ў значэнні 'беспарадак, шкода' (ДАБМ, карта № 337). Ва ўсходняй частцы Беларусі гэта слова выступае ў значэнні 'высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле', у заходняй — у значэннях 'набіліцы ў кроснах', 'прылада, пры дапамозе якой падымаюць цяжкія прадметы', смецце ў абмалочаным збожжы', 'драўлянае карыта ў сячкарні'. Такім чынам, слова *ляда* ў значэнні 'беспарадак, шкода' супрацьпастаўляецца яго ўжыванню ў пералі-

чаных значэннях на астатняй тэрыторыі Беларусі. Праўда, на значнай частцы беларускай тэрыторыі па цячэнню Віліі, Свіслачы, Пцічы, Случы *ляда* не адзначана зусім. За межамі выдзеленага арэала гэта слова ў значэнні 'беспарадак, шкода' зарэгістравана толькі ў нас. пп. Старыя Валосавічы Лепельскага, Вішнева Полацкага, Якубава Расонскага раёнаў Віцебскай вобласці і Несцяняты Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

У разглядаемы пучок уваходзіць таксама і ізаглоса падзыўных для авечак *кузю́-кузю́* (ДАБМ, карта № 305). Арэал гэтай з'явы невялікі і з поўдня абмяжоўваецца ізаглосай падзыўных для авечак *вуль-вуль*.

Супрацьпастаўляюцца падзыўныя для авечак *кузю́-кузю́* падзыўным *вуль-вуль, шу-шу* на паўночным усходзе, *шут-шут* — на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, *куцу́-куцу́* — уздоўж граніцы з Літвой па Віліі, Бярэзіне, Нёману.

Блізкай да папярэдняй, толькі крыху далей пасунутай на поўнач з'яўляецца ізаглоса падзыўных для гусей *жуль-жуль* (ДАБМ, карта № 307). Аднак у межах арэала гэтых падзыўных сустракаюцца і формы *зю-зю, зю́лю-зю́лю, вуць-вуць, вуль-вуль, гусь-гусь,* якія заходзяць сюды з тэрыторыі супрацьпастаўленых форм. Падзыўныя для гусей *жуль-жуль* супрацьпастаўляюцца і форме *це-це,* якая пашырана на большай частцы тэрыторыі беларускіх гаворак.

## Смаргонска-глыбоцка-пастаўскі пучок
(карта № 57)

Ізаглосы, якія выходзяць на тэрыторыю Літвы і ахопліваюць арэал ад Шаркаўшчыны на поўначы і да Маладзечна на поўдні, аб'ядноўваюцца ў смаргонска-глыбоцка-пастаўскі пучок. Ізаглосы гэтага пучка выдзяляюць арэалы, якія значна адрозніваюцца адзін ад аднаго па плошчы, а таксама па канфігурацыі, але супадаюць па размяшчэнню. Некаторыя ізаглосы невялікіх арэалаў накладваюцца адна на адну. Так, у цэнтры пучка перасякаюцца ізаглосы пашырэння слоў *сцяба́чка, вішчы́ць* у значэнні 'ржэ', *цмок* у значэнні 'вясёлка' і *на́куць* у значэнні 'покуць'. Гэты пучок ахоплівае з'явы лексіка-семантычнага ўзроўню. Ізаглоса, якая акрэслівае арэал пашырэння слова *кру́чка* (*гру́чка*) у значэнні 'бручка' (ДАБМ, карта № 276), праходзіць па лініі Ашмяны—Маладзечна—Падсвілле—Шаркаўшчына. *Кру́чка* супрацьпастаўляецца словам *бру́чка, бру́шка, бру́ква* на поўдзень і паўднёвы ўсход ад ізаглосы, *бу́льба* (*бу́льма*) — паміж Пцічу і Случчу і *гры́жына, гры́жа, гры́жынка, гры́жан* — на паўночны ўсход ад ізаглосы.

Слова *кру́чка* ў тым жа значэнні зарэгістравана і ў беларускіх гаворках на тэрыторыі Літвы (нас. пп. Старыя Трокі, Новыя Мацалі, Стральцы, Навасады). Такім чынам, ізаглосу гэтай з'явы можна было б прадоўжыць на суседнюю тэрыторыю Літвы. У такім жа значэнні слова *кру́чка* адзначана і ў польскіх гаворках, якія мяжуюць з БССР [162, *350*].

Значна аддаляецца на паўднёвы ўсход ад усяго пучка і даходзіць да Пастаў—Смаргоні—Маладзечна—Смалявіч—Барысава—Лепеля—Падсвілля ізаглоса, якая абмяжоўвае даволі кампактны арэал слова *сцяба́чка* і іншых утварэнняў з коранем *сцеб-* у значэнні 'прылада, якой вострадь касу' (ДАБМ, карта № 264). Гэта з'ява мае індывідуальны характар пашырэння.

На выдзеленую гэтай ізаглосай тэрыторыю заходзяць у некалькіх населеных пунктах супрацьпастаўленыя словы: *трапа́чка* — на мяжы з тэрыторыяй яе распаўсюджання і некалькі назваў з коранем *мент-*. Слова *сцяба́чка* супрацьпастаўляецца на поўнач ад ізаглосы слову *трапа́чка,* на ўсход — *лапа́тачка, лапа́тка,* на паўднёвы ўсход — *трапа́шка, трапы́шка* і на поўдзень ад яе — *мянта́шка, мянту́шка* і іншым словам з коранем *мент-*. За межамі гэтай ізаглосы *сцяба́чка* і іншыя варыянты з коранем *сцеб-* адзначаюцца спарадычна.

Зусім невялікі арэал мае слова *на́куць* (*на́кут*) у значэнні 'ўпрыгожаны кут у хаце, покуць' (ДАБМ, карта № 335). Супрацьпастаўляецца гэта слова распаўсюджаным у паўночнаўсходняй частцы Беларусі словам *кут* і на паўднёвым захадзе *по́куць* (*по́кут*), *по́куть*(*ць*)*е* ў тым жа значэнні.

Яшчэ меншы арэал выдзяляе ізаглоса слова *цмок* у значэнні 'вясёлка' (ДАБМ, карта № 312). За межамі арэала гэта слова адзначана ў нас. пп. Лугі і Багданаўка Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці і Гоцк Салігорскага раёна Мінскай вобласці. На астатняй тэрыторыі беларускіх гаворак яно супрацьпастаўляецца словам *ра́дуга, вясёлка, весялу́ха* і *тэ́нча.*

Прыкладна такі ж арэал мае дзеяслоў *вішчы́ць* у значэнні 'ржэ' (ДАБМ, карта № 299). Яно супрацьпастаўляецца на астатняй тэрыторыі Беларусі словам *ржэ, раго́ча, рэ́хча, гаго́ча.*

Гэты ж пучок уключае таксама ізаглосу, якая акрэслівае арэал падзыўных для гусей *зю-зю, зю́лю-зю́лю* (ДАБМ, карта № 307). Адзначаная з'ява не на ўсёй тэрыторыі выступае паслядоўна: найбольш кампактна яна распаўсюджана на граніцы з Літвой, а ва ўсходняй частцы ў адзінкавых выпадках перамяжоўваецца з падзыўнымі для гусей *це-це* і *гусь-гусь.*

За межамі разглядаемай ізаглосы форма *зю-зю* выступае ў нас. пп. Селішчы Ашмянскага, Рулевічы Лідскага, Старыя Васілішкі Шчучынскага раёнаў Гродзенскай вобласці, Ілан-

цы і Мураж Браслаўскага, Мілейкі Міёрскага, Палотнікі Полацкага, Петракова і Юхавічы Расонскага раёнаў Віцебскай вобласці.

Падзыўныя *зю-зю* (*зю́лю-зю́лю*) супрацьпастаўляюцца формам *це-це* (*цэ́га-цэ́га*) на поўдзень і ўсход ад ізаглосы, *жуль-жуль* — на поўнач ад яе і рассеяна адзначаным на ўсёй тэрыторыі Беларусі формам *вуць-вуць* (*вуль-вуль*), *гусь-гусь* і інш.

## Свірска-бягомльска-расонскі пучок
**(карта № 58)**

Свірска-бягомльска-расонскі пучок выдзяляе арэал распаўсюджання шасці з'яў лексічнага ўзроўню (*гука́ць, піяць, стаўбу́н, свякро́ўка, ла́піна, вуль-вуль*). Ізаглосы, аб'яднаныя ў гэты пучок, далёка разыходзяцца адна ад адной, і таму пераходная тэрыторыя паміж паўночнай і паўднёвай межамі пашырэння адпаведных з'яў даволі шырокая.

Паўднёва-ўсходняя мяжа арэала праходзіць ад месца перасячэння ракой Віліяй дзяржаўнай граніцы з Літвой, па цячэнню Віліі да Смаргоні, Вілейкі, далей спускаецца да Плешчаніц, затым па Бярэзіне ідзе ніжэй Барысава, зварочвае на поўнач у напрамку да Крупак, Чашнікаў і выходзіць на тэрыторыю РСФСР заходней Езярышча. На паўночным жа захадзе гэты арэал абмяжоўваецца лініяй Шаркаўшчына—Верхнядзвінск і выходзіць на тэрыторыю Латвіі, перасякаючы Заходнюю Дзвіну (ДАБМ, карта № 320).

Цэнтральнай у гэтым пучку можна лічыць ізаглосу, якая размяжоўвае распаўсюджанне дзеясловаў са значэннем 'гаварыць' : *гука́ць* : *гаманіць, бала́каць, гу́тарыць, зю́каць*. Яна праходзіць па лініі Паставы—Мядзель—Крывічы—Плешчаніцы—Лепель—Ушачы—Полацк—Расоны, а астатнія ізаглосы пучка групуюцца вакол яе, то набліжаючыся, то аддаляючыся.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што на выдзеленым арэале слова *гука́ць* у значэнні 'гаварыць' не з'яўляецца адзіным. Амаль паўсямесна паралельна з *гука́ць* тут выступае *гавары́ць*, якое характэрна для ўсіх беларускіх гаворак.

У некаторых населеных пунктах арэала слова *гука́ць* зусім не адзначаецца, зрэдку замест яго ўжываецца слова *гаманіць* са значэннем 'моцна гаварыць, калі сабралася многа людзей' або *бала́каць* 'гаварыць абы-што'. У частцы населеных пунктаў слова *гука́ць* выступае побач з *гаманіць, гу́тарыць, бала́каць*.

На арэале, акрэсленым ізаглосамі свірска-бягомльска-расонскага пучка, найбольш кампактна выдзяляецца слова

*піяць* у значэнні 'пець' (ДАБМ, карта № 316). Ізаглоса гэтай з'явы праходзіць па лініі Астравец—Смаргонь—Вілейка—Крывічы—Барысаў—Крупкі—Чашнікі ў напрамку да Расон. Слова *піяць* на поўдзень і ўсход ад ізаглосы супрацьпастаўляецца словам *спяваць* і *пець*.

Тое, што *піяць* выступае з асновай на *-j*, сведчыць аб тым, што тут адбылося выраўноўванне асновы інфінітыва па аснове цяперашняга часу *п'aj-ý* (**-еш**, **-é**)—*п'aj-áць*. Пераход жа пераднаціскнога **'а** ў **і** тлумачыцца распаўсюджаннем дысімілятыўнага акання на ўсёй паўночна-ўсходняй частцы Беларусі.

Аднак і аб гэтым слове нельга сказаць, што яно з'яўляецца адзіным на выдзеленым арэале. Спарадычна тут сустракаецца *спяваць* (у кутку на граніцы з Літвой і Латвіяй і на ўсходзе арэала), а таксама *пець* (пераважна ва ўсходняй частцы), якія характэрны для гаворак суседніх тэрыторый. Слова ж *піяць* адзначаецца і за межамі арэала ў радзе населеных пунктаў на ўсход ад ізаглосы.

Даволі блізка да цэнтральнай праходзіць ізаглоса, якая акрэслівае арэал слова *стаўбýн* у значэнні 'гліняная пасудзіна для малака' (ДАБМ, карта № 250). Арэал гэтай з'явы выдзяляецца значнай кампактнасцю, хоць і тут, як і ў папярэдніх выпадках, сустракаюцца словы, характэрныя для супрацьпастаўленай тэрыторыі. У некаторых населеных пунктах слова *стаўбýн* выступае паралельна са *жбанóк, гарлáч, кушын* або ў суіснаванні і з тым, і з другім. Такое паралельнае ўжыванне ўласціва пагранічнай тэрыторыі разглядаемага арэала. Слова *стаўбýн* супрацьпастаўляецца слову *жбанóк* (на паўночны ўсход ад ізаглосы) і *гарлáч, кушын, гладыш, ладыш* і інш. (на ўсход і поўдзень ад яе).

За межамі вызначанага арэала слова *стаўбýн* спарадычна сустракаецца на тэрыторыі распаўсюджання сярэднебеларускіх гаворак.

Слова *столбýн* адзначаецца ў рускіх гаворках Літоўскай ССР (Ёнаўскі р-н), але выступае там у значэнні 'дымаходны стаяк' [93, *314*]. Паколькі носьбітамі гэтых гаворак з'яўляюцца выхадцы з наўгародскіх, пскоўскіх і цвярскіх земляў, то можна лічыць, што гэта слова ўласціва сярэднерускім гаворкам, а значыць, арэал слова *стаўбýн* не замыкаецца і мае працяг у рускіх гаворках. Слова *столбýн* у значэнні 'дымаходны стаяк', і *стаўбун* у значэнні 'гліняная пасудзіна для малака' маюць агульнае ў тым, што па форме гліняная труба, якую ўстаўляюць у комін, напамінае збан-стаўбун. Магчыма, тут адбылося перанясенне назвы з глінянай устаўкі ў комін на ўвесь комін.

Больш вузкай паласой у параўнанні з папярэднімі працягваецца арэал слова *свякрóўка* (ДАБМ, карта № 90),

якое супрацьпастаўляецца на суседніх тэрыторыях словам *свякроў* (на поўдзень ад ізаглосы), *свякрова* (на ўсход ад яе) і *свякруха* (у паўднёва-ўсходнім напрамку). Аднак не на ўсім арэале *свякроўка* пашырана з аднолькавай паслядоўнасцю: найбольш кампактна гэта слова адзначаецца ў заходняй частцы, на астатняй тэрыторыі, блізкай да ізаглосы, у сярэдняй яе частцы сустракаецца побач з *свякроў,* а на мяжы з РСФСР — побач з *свякрова.*

Слова *свякроўка,* як і *свякрова,* выступае вытворным варыянтам ад *свякроў,* аднак суфікс **-к-** у ім з'яўляецца словаўтваральным, а не суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі. Змяняецца гэты назоўнік па тыпу назоўнікаў жаночага роду на **-а(-я)** з адпаведнай асновай [88, *175*]. Свекровка адзначаецца і ў паўночнай дыялектнай зоне рускіх гаворак [119, *246*]. За межамі арэала *свякроўка* сустракаецца толькі ў адзінкавых выпадках на паўночным усходзе і на паўднёвым захадзе Беларусі.

Ізаглоса слова *лапіна* ў значэнні 'латка' акрэслівае меншую тэрыторыю і праходзіць па лініі Шаркаўшчына—Полацк—Езярышча. *Лапіна* супрацьпастаўляецца словам *лапік, лапіка, лапікла, лапека* (на ўсход ад ізаглосы) і словам з коранем *лат-: латка, лата* і інш. (на паўднёвы ўсход ад яе). За межамі арэала слова *лапіна* адзначаецца спарадычна. У такім значэнні гэта слова зафіксавана ў рускіх гаворках перасяленцаў Літвы, Латвіі і Эстоніі, якія прыбылі сюды з наўгародскіх, пскоўскіх і цвярскіх земляў [93, *142*], а значыць, характэрна і для сярэднерускіх гаворак. Уласціва яно і гаворкам заходняй групы паўднёвага дыялекту рускай мовы [119, *246*].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што, пачынаючыся на паўночна-заходняй ускраіне беларускіх гаворак, слова *лапіна* мае працяг у рускіх гаворках.

Ізаглоса, якая акрэслівае арэал распаўсюджання падзыўных для авечак *вуль-вуль,* абмяжоўвае яго з паўночнага захаду і з паўднёвага ўсходу (ДАБМ, карта № 305). Паўднёвая мяжа пашырэння гэтых падзыўных блізкая па канфігурацыі да ізаглосы слова *свякроўка*, аднак арэал гэтай з'явы праходзіць з поўначы на паўночны захад у выглядзе паласы, якая на паўночным захадзе мяжуе з арэалам падзыўных для авечак *кузю-кузю.* На паўднёвы захад ад ізаглосы гэты арэал супрацьпастаўляецца арэалу падзыўных для авечак *куцў-куцў,* на паўночны захад — арэалу падзыўных *кузю-кузю.* На поўдзень і ўсход ад ізаглосы падзыўныя *вуль-вуль* супрацьпастаўляюцца падзыўным *айца-айца, шу-шу, шут-шут, шуркі-шуркі.* За межамі арэала падзыўныя для авечак *вульвуль* адзначаюцца толькі ў нас. п. Гарэлае Докшыцкага раёна.

## Полацка-мінска-лідскі пучок

**(карта № 59)**

На паўночным захадзе Беларусі праходзіць рад ізаглос, што размяжоўваюць дыялектныя адрозненні розных узроўняў моўнай сістэмы. Па сваёй канфігурацыі і напрамку яны падзяляюцца на некалькі пучкоў. Асноўны з пучкоў — полацка-мінска-лідскі аб'ядноўвае ізаглосы, якія з усходу і поўдня акрэсліваюць арэалы слова *фасо́ль,* формы творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў былых аснŏў на **-і**, указальнага займенніка *гэ́ны,* дзеепрыслоўяў прошлага часу ў ролі выказніка, назвы абложнай зямлі і вагі ў студні з жураўлём. Характэрнай асаблівасцю разглядаемага пучка з'яўляецца тое, што аб'яднаныя ў ім ізаглосы, выходзячы за межы Беларусі, працягваюцца ў пскоўскіх гаворках рускай мовы і беларускіх гаворках на тэрыторыі Літвы.

Арэалы моўных з'яў, выдзеленых ізаглосамі гэтага пучка, поўнасцю не сумяшчаюцца. Найбольшае разыходжанне іх наглядаецца паміж Полацкам і Лідай.

Моўныя рысы, характэрныя для тэрыторыі, выдзеленай полацка-мінска-лідскім пучком, маюць месца ў гаворках на супрацьпастаўленай тэрыторыі, а некаторыя асаблівасці, уласцівыя суседнім гаворкам, праніклі на паўночны захад.

Найбольш характэрнай з іх з'яўляецца ізаглоса вымаўлення ў слове *фасоля* пачатковага [ф]: *фасо́ль, фасо́ля.*

Як вядома, губна-зубныя фанемы [ф], [ф'] не з'яўляюцца спрадвечнымі. Яны ўжываюцца толькі ў словах іншамоўнага паходжання і сустракаюцца ў абмежаванай колькасці гукавых спалучэнняў. У беларускіх гаворках амаль заўсёды губна-зубныя [ф], [ф'] рэалізуюцца ў іншых гуках або спалучэннях. Ужыванне таго ці іншага гука або спалучэння на месцы [ф], [ф'] канкрэтнымі фанетычнымі ўмовамі не вызначаецца. Звычайна ў адной і той жа гаворцы ў ідэнтычных умовах розныя словы выступаюць з неаднолькавымі гукамі або спалучэннямі. Прычым кожнае слова мае сваю тэрыторыю ўжывання гукаў або спалучэнняў на месцы [ф] [88, *145—148*], (ДАБМ, Каментарыі, стар. 422—423).

Слова *фасо́ль* (*фасо́ля*) у гаворках полацка-мінска-лідскага арэала размяркоўваецца непаслядоўна. Найбольш сканцэнтравана яно вакол Полацка. У маладзечанскіх гаворках *фасо́ль* (*фасо́ля*) адзначаецца не ва ўсіх гаворках; тут сустракаецца *пасо́ль* і *хвасо́ль*. Разам з тым выпадкі ўжывання [ф] у слове *фасо́ля* маюць месца ў гаворках на астатняй тэрыторыі Беларусі. На ўсходзе ад Віцебска акрэсліваецца астравок, дзе адзначана слова *фасо́ля* з [ф]. Сустракаюцца такія астраўкі і на паўднёва-заходнім арэале.

На ўсход і поўдзень ад ізаглосы слова *фасо́ль* (*фасо́ля*) акрэсліваюцца арэалы, дзе на месцы [ф] адзначаюцца спалучэнне [кв]: *квасо́ль* (Віцебская, Магілёўская, Гомельская і паўночна-ўсходняя частка Мінскай абл.) і гук [п]: *пасо́ля, пасо́ль* (гродзенска-мінскі арэал).

Ізаглоса, што выдзяляе арэал аднаскладовага націскнога канчатка **-ёй** (*гусёй, гразёй, мышо́й, пуцёй*) у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў былых асноў на **-і**, па сваёй канфігурацыі амаль супадае з папярэдняй. Форма на **-ёй** прадстаўлена тут даволі паслядоўна. Акрамя таго, сустракаюцца формы з канчаткамі **-у(-ю)** і **-ём** (*гу́ссю, гра́ззю, мы́шшу, пуцём*), якія ўласцівы гаворкам на ўсходзе ад ізаглосы, а таксама беларускай літаратурнай мове. Канчаткі **-ю** і **-ём** у полацка-мінска-лідскім арэале адзначаны астраўкамі. На поўдні аднаскладовы канчатак **-ёй** мяжуе з двухскладовымі канчаткамі **-ёю** (*гусёю, гразёю, пуцёю*) і **-аю** (*мы́шаю*) і аднаскладовым ненаціскным канчаткам **-ю** (*гу́сью*).

Блізкая да разгледжаных па сваёй канфігурацыі ізаглоса ўжывання ў прэдыкатыўнай функцыі дзеепрыслоўяў на **-ўшы, -шы**. Структура выказніка можа быць і простай і складанай. Найбольш характэрны і пашыраны сказы з простым выказнікам (*ру́кі абадра́ўшы, даро́гу заня́ўшы*). Складаная форма дзеепрыслоўнага выказніка можа ўтварацца з дзеясловам-звязкай *быць* толькі ў форме прошлага часу (*во́зера было́ вы́сахшы, сын быў прые́хаўшы*). На адзначанай тэрыторыі сустракаюцца выпадкі ўжывання сказаў, калі прэдыкатыўная прыкмета ў іменным выказніку абазначаецца дзеепрыслоўямі не толькі закончанага, але і незакончанага трывання прошлага часу (*я тут даўно́ бы́ўшы, ха́та там была́ стая́ўшы*).

Гэта асаблівасць пераважна адзначаецца на заходняй ускраіне — на поўнач і ўсход ад Полацка і каля Свіры. На астатняй тэрыторыі выдзяляюцца асобныя астраўкі. Па-за межамі полацка-мінска-лідскага арэала ўжыванне ў ролі выказнікаў пераходных і непераходных дзеепрыслоўяў закончанага трывання, а таксама асобных дзеепрыслоўяў незакончанага трывання прошлага часу адзначаецца каля Віцебска (Марчанкі Гарадоцкага, Навасёлкі, Задуброўе, Зазыбы Віцебскага, Шэркіна, Кучыншчына Лёзненскага р-наў Віцебскай вобл.), каля Барысава (Цотава Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл., Мачулішчы, Дакучын Крупскага, Бытча Барысаўскага р-наў Мінскай вобл.) і каля Баранавіч (Іванава Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.). У гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі ў ролі выказніка выступае лексічна абмежаваная група дзеепрыслоўяў тыпу *пагі́пшы, вы́піўшы* [88, *297—301*].

Ад папярэдніх ізаглос некалькі адступае на ўсход і поўдзень ізаглоса ўказальнага займенніка *ге́ны* (ДАБМ, карта

№ 186). Яна праходзіць каля Полацка і Барысава, праз Мінск, па Нёману, паўночней Ліды і да граніцы з Літвой.

Заўважым, што ў большасці беларускіх гаворак са значэннем указання на прадметы ўжываюцца два займеннікі. На далёкія па часе і месцы прадметы ўказвае займеннік *той* (ДАБМ, карта № 134), на блізкія ў полацка-мінска-лідскім арэале ўказвае займеннік *гэ́ны* або *е́ны.* Займеннік *гэ́ты* адзначаецца рэдка, толькі на граніцы з Літвой і Латвіяй і на захадзе ад Маладзечна. На астатняй тэрыторыі ўказальны займеннік *гэ́ны* супрацьпастаўляецца займенніку *гэты* (*е́ты*). У гаворках Камарынскага раёна Гомельскай вобласці са значэннем указання на блізкія прадметы ўжываецца займеннік *сей* (*сей чалаве́к, сіе́ хаты́*). У значнай частцы гаворак Палесся (заходняя частка Гомельскай і паўднёвыя р-ны Мінскай абл.) зафіксаван займеннік *це́ты* або *ваце́ты,* зрэдку — *те́ты, вате́ты* (*це́ты чалаве́к, ваце́тая ха́тка*) [88, *222—224*].

Вельмі блізкі па сваіх контурах да полацка-мінска-лідскага арэала арэал назвы вагі ў студні з жураўлём: *асве́р* і варыянты *свер, перасве́р, свіршня́, свірсня́.* Найбольшае пашырэнне тут мае слова *асве́р;* яно адзначана ў полацка-барысаўска-маладзечанскіх гаворках. Невялікім астраўком на поўнач ад Свіры на граніцы з Літвой і Латвіяй у 6 нас. пп. зафіксавана слова *свер. Свіршня́* і *свірсня́* адзначаны на граніцы з Літоўскай ССР (на поўначы ад Свіры). На поўнач ад Барысава пашырана назва *перасве́р.* Разам з тым каля Маладзечна ўжываецца назва *вага́,* якая ўласціва гаворкам Магілёўскай вобласці.

На астатняй тэрыторыі Беларусі астраўкамі ці значнымі масівамі прадстаўлены розныя назвы вагі. На ўсходзе пашыраны словы *вага́, ва́га, слі́га* (на поўначы ад Гомеля); на поўдні, у трохвугольніку Мінск — Магілёў — Мазыр,— *страла́*; у раёне Слуцка — *пругло́*; у басейне Прыпяці разам з іншымі назвамі — *жураве́ль, жо́рай;* у частцы брэсцкіх і гродзенскіх гаворак — *ко́варат, ко́варацень, калаваро́т, ко́вадыр, кало́вер;* спарадычна на Гомельшчыне — *во́чап, по́чап;* каля Магілёва — *насі́лка, насі́лкі;* каля Быхава — *саламяно́;* у раёне Оршы — *шчо́гла;* каля Гродна — *сцябло́;* на ўсход ад Брэста — *звод* і некаторыя інш.

Большы арэал выдзяляе ізаглоса назвы абложнай зямлі: *дзірва́н* (*дзерва́н, дзярва́н*). Гэта слова даволі паслядоўна распаўсюджана на поўдні полацка-мінска-лідскага арэала. На захадзе ад Полацка адзначана назва *залёг,* якая ў гаворках нас. пп. Навіны, Мілейкі, Пялікі Шаркоўшчынскага, Залессе Глыбоцкага раёнаў Віцебскай вобласці суіснуе з назвай *дзірва́н.* На поўнач і поўдзень ад Полацка ў некаторых гаворках ужываюцца і *дзірва́н* і *памёт* (апошняе прадстаўлена ў трохвугольніку Віцебск—Полацк—Барысаў). На поўнач

ад Маладзечна ў некалькіх населеных пунктах суіснуюць назвы *дзірва́н* і *я́лавіна* (*я́лавіна* з'яўляецца асаблівасцю паўднёва-заходніх гаворак). Слова *дзірва́н* параскідана па ўсёй Беларусі. На супрацьпастаўленай тэрыторыі на паўночным усходзе выдзяляецца масіў ужывання слова *памёт;* з усходу прымыкае арэал назвы *абло́га;* паўднёва-заходнім гаворкам уласціва назва *я́лавіна;* у брэсцкім арэале пашыраны словы *абло́г* і *зало́г;* каля Гродна і Ліды — *адло́г.*

## Лідска-баранавіцка-ваўкавыскі пучок
**(карта № 60)**

Вышэй ужо гаварылася аб тым, што па наяўнасці некаторых дыялектных адрозненняў гаворкі брэсцка-пінскага арэала аб'ядноўваюцца з паўднёва-заходнімі гаворкамі, размешчанымі на паўночным захадзе Гродзенскай вобласці. Аднак апошнія па раду ўласцівых ім моўных рыс адрозніваюцца як ад гаворак брэсцка-пінскага арэала, так і ад іншых паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. Яны выдзяляюцца ізаглосамі аднолькавай канфігурацыі, якія, выходзячы за межы Беларусі, працягваюцца ў беларускіх гаворках Літвы і Польшчы. Самай заходняй з іх (адхіляецца да лініі Радунь—Ліда—Жалудок—Ваўкавыск) з'яўляецца ізаглоса, якая з усходу і поўдня акрэслівае тэрыторыю пашырэння націскнога канчатка **-е** ў месным склоне адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай (*на пне*) [1]. За ёй, паступова адхіляючыся на поўдзень або ўсход, праходзяць ізаглосы, што размяжоўваюць націскныя канчаткі меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з асновай на [ж], [ч], [ш] (*на мяжэ́, у дзяжэ́, на шашэ́* : *на мяжы́, у дзяжы́, на шашы́*)[2]; формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на [к] (*дзяўке́, хустке́* : *дзе́ўкі, ху́сткі, дзеўке́, хустке́*); назвы цапільна (*цапі́льня, цапі́льна, цапо́льна, цапе́льна, цапільно́* і інш.); зычныя асновы і націскныя галосныя ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (*идз'е́м* [*ид'емо*] : *идз'о́м, идо́м* [*идо̂м*], *иде́м* [*иде́мо*], *ида́м*); назвы мянташкі (*мянта́, мянця́ ме́нта, ме́нця* : *мянта́шка, мянту́шка*); назвы сцяблоў

---

[1] З іншых беларускіх гаворак націскны канчатак **-е** ў месным склоне адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў з мяккай асновай прыкметна распаўсюджан на поўдні і ўсходзе Гомельскай вобласці (ДАБМ, карта № 78).

[2] Формы *на мяжэ́, у дзяжэ́, на шашэ́* прыкметна пашыраны на поўдні Гомельскай вобласці, а таксама ў беларускіх гаворках Віцебскай і Магілёўскай абласцей, сумежных з гаворкамі рускай мовы (ДАБМ, карта № 68).

і лісця агуркоў (*гурковіна*: *агуро́чнік, агурэ́чнік, гурко́ўнік, гуркаве́нне*); назвы пакладанага кабана (*паршу́к*: *каба́н, парсю́к, вяпру́к, япру́к, вапе́р, по́тсвінак, бо́раў*); галосныя на месцы «е» ў канцавым адкрытым складзе ў форме назоўна-вінавальнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду з мяккай асновай (*кам'е́нн['о], ве́цц['о]* : *каме́нн['а], ве́цц['а], каме́нн['е], ве́цц['е]*); націскныя галосныя на месцы «ы» пасля губных зычных у канчатку назоўнікаў мужчынскага роду назоўнага склону множнага ліку (*паграб[е́]* : *паграб[ы́], паграб[у́], пагра[б'и́]*); асновы творнага склону лічэбніка *два* (*двама́* : *двума́, двом́а, двыма́, дзвіма́, двема́*); назвы будынка для захавання збожжа (*све́ран* : *сві́ран, свіро́нак, амба́р, імба́р, клець, кле́тка, шпіхі́р*); прадмета, якім умацоўваюць снапы або сена на возе (*жэ́ртка* : *рубе́ль, парубе́нь, жэрдзь*).

Далей за іншыя да лініі Радунь—Стоўбцы—Старыя Дарогі—Лунінец—Ляхавічы—Івацэвічы—верхняе цячэнне Нарава (ДАБМ, карта № 87) адхіляецца ізаглоса, якая з усходу і поўдня акрэслівае тэрыторыю пашырэння ненаціскнога канчатка **-ям** у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў — назваў маладых істот (*це́лям, парэ́сям, е́гням*).

Некаторыя супрацьпастаўленыя дыялектныя адрозненні, пашыраныя пераважна на паўночным захадзе Гродзенскай вобласці, у пэўнай ступені вядомы іншым беларускім гаворкам. Да іх ліку адносіцца націскны канчатак **-е**(**-э**) ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай (*сталэ́, дубэ́, луге́, баке́*); канчатак **-оё** пад націскам і **-аё** не пад націскам у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (*маладо́ё, но́ваё*); канструкцыі з прыназоўнікам *каля* (*бег каля са́ду*); наяўнасць слоў *камо́рка, ба́ба* (назва сахі ў студні з жураўлём), *зо́пка* (аброчная торба), *гук* (непакладаны кабан), *бы́дла* (агульная назва жывёлы; ДАБМ, карты № 95, 114, 115, 221, 240, 242, 253, 291, 293).

Толькі на тэрыторыі разглядаемай паўночна-заходняй падгрупы паўднёва-заходніх беларускіх гаворак у якасці агульнай назвы зжатага поля адзначаюцца словы *ржы́ска, іржы́ска, аржы́ска* (ДАБМ, карта № 270), утвораныя ад кораня **рж-** пры дапамозе суфікса **-ыск-**, які ў сучаснай беларускай мове з'яўляецца непрадуктыўным. Як адзначаецца ў лінгвістычнай літаратуры, ужыванне суфіксаў **-дл-**, **-ідл-** і **-іск-** «на тэрыторыі, якая мяжуе з польскай тэрыторыяй, гаворыць аб пэўнай сувязі беларускіх дыялектных фактаў з польскімі» [6].

Гаворачы аб паўночна-заходняй падгрупе паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, нельга не адзначыць, што ўсходняя і паўднёвая межы яе ў значнай меры размыты. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца несупадзенне ізаглос большасці

моўных з'яў, па наўянасці якіх яна выдзяляецца (карта № 11), а таксама ўзаемапранікненне некаторых з пералічаных вышэй супрацьпастаўленых дыялектных адрозненняў (ДАБМ, карты № 17, 41, 99, 144, 239, 257, 264, 279, 289, 292). Аб гэтым сведчыць таксама і тое, што некаторыя моўныя рысы, як, напрыклад, націскны канчатак **-оё** і ненаціскны **-ае** ў назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (*маладо́ё, но́вае*), словы *ухва́т* (чапяла), *гук* (непакладаны кабан), *бы́дла* ў значэнні 'скаціна' ў гаворках разглядаемай падгрупы адзначаюцца рэдка і разрознена (ДАБМ, карты № 114, 115, 251, 291, 293).

## Свірска-слуцка-лідскі пучок

**(карта № 61)**

Своеасаблівыя контуры маюць ізаглосы, якія складаюць свірска-слуцка-лідскі пучок: усе яны пачынаюцца з розных пунктаў ад граніцы з Літвой (на поўначы і поўдні ад Свіры), далей ідуць па лініі Бягомль—Барысаў—Бабруйск—Слуцк і, разыходзячыся, накіроўваюцца шырокай паласой зноў да граніцы з Літвой. Аб'яднаныя ў названы пучок ізаглосы выдзяляюць арэалы пераважна лексічных асаблівасцей.

Ізаглоса па́шырэння слова *варыўня́,* якая праходзіць праз Свір, Рагачоў, Маладзечна, акрэслівае тэрыторыю даволі паслядоўнага яго ўжывання. У гэтым арэале яно з'яўляецца назвай уцепленага будынка, які прыбудоўваецца да хаты ці ставіцца асобна для захавання бульбы і гародніны.

У большасці гаворак выдзеленага арэала паралельна з гэтым словам ужываецца яшчэ *сто́пка* ў тым жа значэнні, што і *варыўня́.* Як заўважаецца ў каментарыі да карты № 240, *«варыўн'а́, исто́пка—имшо́найа буды́н'ина с п'е́чкай б'ис трубы́ и сып'уц' бу́л'бу ў катух'и́»* (ДАБМ, Каментарыі, стар. 805).

На захадзе арэала спарадычна сустракаецца слова *камо́рка.* У заўвагах збіральнікаў матэрыялаў для ДАБМ адзначаецца, што *камо́рка* — гэта назва халоднага будынка, які звычайна знаходзіцца каля хаты, *камо́рка* — кладоўка, адгароджаная ў сенцах, якая служыць для захоўвання прадуктаў (ДАБМ, Каментарыі, стар. 805).

Слова *варыўня́* уласціва толькі гаворкам свірска-слуцка-лідскага арэала. У гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі яно сустракаецца рэдка і звычайна суіснуе з іншымі словамі. На ўсход і поўдзень ад ізаглосы слова *варыўня́* выдзяляюцца арэалы варыянтаў аднаго і таго ж слова — *сто́пка* і *сцёпка,* на захадзе вызначаецца тэрыторыя, дзе зафіксавана слова *камо́рка.*

Некалькі іншую тэрыторыю акрэслівае ізаглоса назвы малой укладкі снапоў у полі: *мэндлік, мэндаль, мэндлі, мэндля, мэтлік.* Яна праходзіць па лініі Свір—Мінск—Пружаны—Ліда. У межах выдзеленага арэала астраўкамі прадстаўлены ўтварэнні ад кораня *мэнд-, мэд-* або *мэт-*. Гаворкам на тэрыторыі паміж Маладзечна і Навагрудкам уласціва назва *мэндлік,* вузкую паласу ўздоўж ізаглосы, каля Мінска, Слуцка і Лунінца займае назва *мэтлік.* Паміж Нёманам і Шчарай пашырана слова *мэндаль,* спарадычна на поўначы і поўдні арэала адзначаюцца словы *мэндля* і *мэдлі.*

На супрацьпастаўленай тэрыторыі распаўсюджаны іншыя назвы малой укладкі снапоў у полі. Для паўночна-ўсходняга арэала характэрна *бабка,* на поўдні, у раёне Лунінца — *кучка,* паміж Лунінцом і Кобрынам — *дзесятак, дзесяткі,* каля Пружан — *ляшок, ляшкі,* у гродзенскіх гаворках — *дзесятка, дзесятак, дзесяткі.*

У гаворках на паўночным усходзе свірска-слуцка-лідскага пучка сустракаецца слова *бабка,* а таму тут наглядаецца суіснаванне апошняга з назвай ад кораня *мэнд-* або *мэт-* (*бабка, мэндлік, мэтлік;* ДАБМ, карта № 286).

Некалькі меншую тэрыторыю ў параўнанні з папярэднімі займае арэал слова *порткі* — назва верхніх мужчынскіх штаноў. Гэта слова прадстаўлена даволі кампактным арэалам. Разам з тым амаль паўсюдна ўжываецца слова *штаны,* якое як літаратурная норма вядома ўсім гаворкам Беларусі. У каментарыях да карты заўважаецца: *«Портк'и, штаны* — сінонімы. Пераважна ўжываецца слова *порткі». «Штаны* — гаворыць моладзь». *«Портк'и* — кажуць старыя» (ДАБМ, Каментарыі, стар. 930).

Зрэдку як назва верхніх мужчынскіх штаноў адзначаецца слова *майткі,* якое сустракаецца ў гаворках на захад ад Слуцка і Ліды. На граніцы з Літвой у 4 нас. пп. зафіксавана слова *гаці* ў тым жа значэнні, што і *порткі.* Аднак трэба заўважыць, што матэрыял, сабраны для агульнаславянскага атласа, а таксама матэрыял літоўска-беларускай экспедыцыі, якая была арганізавана ў кастрычніку 1966 г. Акадэміяй навук Літоўскай ССР, сведчыць аб іншым: слова *гаці* ўжываецца ў гаворках беларуска-літоўскага пагранічча як назва ніжніх штаноў.

За межамі свірска-слуцка-лідскага пучка слова *порткі* мае месца ў гаворках 4 нас. пп. (Дзежкаўцы Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл., Дрэбск, Сітніца Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл., Валадарскае Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.).

На супрацьпастаўленай тэрыторыі, акрамя слова *штаны,* беларускім гаворкам вядомы словы *нагавіцы, ганавіцы* (*анавіцы* — пачатковае г адпала), *брюкі* і некаторыя іншыя. Самае пашыранае з іх — *нагавіцы* і вытворныя ад яго *ганавіцы*

(*анавіцы*). Яно ўласціва гаворкам на поўдзень ад свірска-слуцка-лідскага пучка [41, *131—133*].

Ізаглоса слова *ко́найка* — назвы пасудзіны, якой чэрпаюць ваду, з'яўляецца асноўнай. Яна выдзяляе тэрыторыю, дзе канцэнтруецца комплекс моўных з'яў, акрэсленых ізаглосамі свірска-слуцка-лідскага пучка. Пашырана гэта слова пераважна на тэрыторыі Мінскай вобласці, зрэдку сустракаецца каля Свіры і Гродна.

У каментарыі да карты № 248 у паасобных выпадках адзначана: «*ко́найка* — гаворaць старыя». «*Па-дайн'ейшаму раб'і́л'и ко́найк'и драўл'а́ныйа, а ц'ип'е́р с ку́пка пійуц'*» (ДАБМ, Каментарыі, стар. 813—821). Але часцей у заўвагах падкрэсліваецца, што «*ко́найка* — медны кубак»; «*ко́найка — м'е́днайа, з ру́чкайу»; «ко́найка* — з вушкам, самаробная; робіцца з жоўтай медзі». Слова *ко́найка* ў мінулым ужывалася для абазначэння драўлянай пасудзіны для піцця [95, *244,* 43, т. II, *152,* 109, т. I, *345*]; зараз яно вядома большасці беларускіх гаворак, а таксама літаратурнай мове [10, *396*] як назва металічнай кружкі.

З іншых назваў у разглядаемым арэале адзначаны словы *ку́бак, ква́рта* і *кру́жка. Ку́бак* паўсюдна ўжываецца побач з *ко́найка;* на ўсходзе ўздоўж ізаглосы *ко́найка* суіснуе са словам *ква́рта,* у гаворках на ўсходзе Мінскай і на поўначы Гродзенскай абласцей астраўкамі раскідана назва *кру́жка.*

На тэрыторыі суседніх арэалаў распаўсюджаны наступныя словы: з паўночнага ўсходу — назвы *ква́рта,* з паўднёвага ўсходу — *карэ́ц* і з захаду — *ку́бак.*

У склад свірска-слуцка-лідскага пучка ўваходзіць адна ізаглоса фанетычнай з'явы—ненаціскнога галоснага **-а** на месцы «е» ў канчатку меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў. Яна выдзяляе арэал меншых памераў і праходзіць па лініі Ліда—Навагрудак—Слуцк—Чэрвень—Барысаў—Свір. Канчатак **-а** (у *ха́ц'а,* у *л'е́с'а*) у гаворках гэтага арэала ўжываецца паслядоўна, аднак амаль паўсюдна тут ён суіснуе з канчаткам **-е** (у *ха́ц'е,* у *л'е́с'е*). Паабапал ізаглосы канчатак **-а** адзначаецца разам з канчаткамі **-е** і **-і** (*у ха́ц'а, у л'е́с'е, у л'е́с'и*). На астатняй тэрыторыі Беларусі з усходу і поўдня ад ізаглосы пашыран канчатак **-і**.

## Верхнядзвінска-слуцка-гродзенскі пучок

**(карта № 62)**

Рад ізаглос праходзіць па лініі Верхнядзвінск—Бягомль—Слуцк—Баранавічы—Гродна. Усе яны перасякаюць на поўначы дзяржаўную граніцу Латвійскай ССР, на захадзе — Польскай Народнай Рэспублікі (большасць ізаглос) і Літоўскай ССР. Гэтыя ізаглосы не супадаюць па праходжанню

і не ўтвараюць суцэльнай паласы, а на розных адрэзках перасякаюцца і разыходзяцца адна з адной.

Найбольш кампактным арэалам выдзяляюцца формы інфінітыва дзеясловаў *ісці, знайсці* (ДАБМ, карта № 176). На паўночна-заходняй тэрыторыі амаль паўсюдна ўжываецца толькі форма з устаўным [с] (*ісці, знайсці*), як і ў беларускай літаратурнай мове. У астатніх беларускіх гаворках формы *ісці, знайсці* адзначаюцца без устаўнога [с] (*іці, знайці*), якія ўзыходзяць да старажытнай формы *ити*. У гаворках усходняй ускраіны Віцебскай, Магілёўскай і часткова Гомельскай абласцей паралельна з *іці* ўжываюцца іншыя варыянты гэтай формы — *іціць, ідзіць*. На паўднёвым усходзе Беларусі распаўсюджана форма *ісці*, якая ў многіх гаворках суіснуе з *іці*. Асабліва часта такое суіснаванне наглядаецца ў гаворках паабапал ізаглосы дадзенай з'явы. Па меры аддалення на ўсход і поўдзень формы *ісці, знайсці* з устаўным [с] сустракаюцца радзей, а ў гаворках, якія мяжуюць з рускімі і ўкраінскімі, яны зусім адсутнічаюць [79, *7—18*, 88, *247—251*].

У верхнядзвінска-слуцка-гродзенскі пучок уваходзяць ізаглосы лексічных асаблівасцей.

Ізаглоса слова *сту́дня* выдзяляе арэал з паслядоўным распаўсюджаннем гэтага слова. Толькі каля Гродна і Маладзечна побач са словам *сту́дня* адзначаецца *кало́дзезь*, якое ў такім фанетычным афармленні ўласціва гаворкам поўначы Віцебскай вобласці і паўднёва-заходнім гаворкам. Выключэнне тут складаюць гаворкі брэсцкага арэала: у гаворках паміж Брэстам і Пінскам пашырана слова *кало́дзяз*. Гаворкам Магілёўскай вобласці ўласцівы *кало́дзезь* і яго фанетычны варыянт *кало́дзеж*.

З папярэднім арэалам у асноўным сумяшчаюцца тэрыторыі, на якіх адзначаюцца назвы *абру́с* і *кашу́ля*. *Абру́с* у выдзеленым арэале паўсюдна суіснуе з назвай *насто́льнік*, а ў гаворках на захад ад Полацка, на ўсход ад Маладзечна і вакол Навагрудка — са словамі *насто́льнік* і *ска́церць*. На граніцы з Латвіяй у залежнасці ад націску супрацьпастаўляюцца варыянты: *абру́с* і *о́брус, во́брус*. На захад ад Навагрудка сустракаецца назва *абру́сак* (*абру́сік*). Па-за межамі арэала слова *абру́с* ужываецца ў некаторых гаворках вакол Барысава, Бабруйска, Пінска і спарадычна ў гаворках на астатняй тэрыторыі Беларусі.

Тэрыторыя пашырэння слоў *насто́льнік, насто́льніца*, уласцівых гаворкам поўдня Гродзенскай і поўначы Брэсцкай абласцей, выдзяляецца мерыдыянальнай ізаглосай. Гэтыя словы заходзяць таксама за арэал слоў *ска́церць, ска́церка, ска́церсць* (*ска́церсь*), *ска́цер*. На ўсходзе ад арэала слова *абру́с* пашыраны словы *ска́цер, ска́церка* (гл. стар. 174, 175).

Ізаглоса слова *кашу́ля* выдзяляе арэал з некампактным пашырэннем назвы. Тут гэта слова ўжываецца разам са словамі *саро́чка* або *руба́шка*, якія пашыраны на астатняй тэрыторыі Беларусі: на паўночным усходзе — *саро́чка* і *руба́шка*, на поўдні — *саро́чка*. Як назва сарочкі *кашу́ля* сустракаецца астраўкамі ў гаворках усходняга арэала.

Некалькі адыходзіць на ўсход і поўдзень ад разглядаемага пучка ізаглоса назвы лемяша ў плузе — *наро́г*. Гэта слова ў паўночна-заходнім арэале пашырана даволі паслядоўна. Аднак на Гродзеншчыне яно сустракаецца рэдка: гэтым гаворкам уласціва слова *ляме́ш*. У адзінкавых выпадках сустракаецца слова *наро́г* у гаворках на ўсходзе ад выдзеленага арэала. На супрацьпастаўленай тэрыторыі адзначаюцца назвы: на поўначы Беларусі — *ляме́ш*, на ўсходзе — *ле́меш* і *ляме́ш*, на поўдні — *сашні́к*.

На захад і поўдзень ад пучка адыходзіць ізаглоса назвы мяшка для кармлення каня — *абро́чная то́рба*. Гэта назва кампактна прадстаўлена двума арэаламі: паўночна-заходнім на граніцы з Латвіяй і Літвой і ў цэнтры квадрата Мінск — Слуцк — Баранавічы — Навагрудак. На астатняй тэрыторыі рассеяна назва *то́рба*, як і ва ўсіх гаворках беларускай мовы, за выключэннем астраўка, што выдзяляецца паміж Пружанамі, Навагрудкам і Гродна, дзе ўжываецца назва *зо́пка*. На супрацьпастаўленай тэрыторыі пашырана слова *то́рба*, вакол Бягомля спарадычна адзначана *мяшо́к*, на паўднёвым усходзе беларускай тэрыторыі — *ко́нская то́рба*.

Словы *дзя́га* і *дзя́жка* характарызуюць гаворкі верхнядзвінска-слуцка-гродзенскага арэала па лініі, якая ідзе праз Полацк, на ўсход ад Бягомля, праз Барысаў, каля Ліды, Навагрудка і да граніцы з Польшчай. Распаўсюджаны гэтыя назвы даволі раўнамерна, і толькі на ўсходзе яны суіснуюць са словамі *рэ́мень* і *раме́нь*, што характарызуюць гаворкі полацка-магілёўскага арэала, і на поўдні — з *папру́га*.

## ІЗАГЛОСЫ ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯГА І ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНЯГА НАПРАМКАЎ

### Сярэднебеларускія ізаглосы першай групы

**(карта № 63)**

Рад ізаглос акрэслівае сярэднюю моўную тэрыторыю Беларусі. Дыялектныя з'явы сярэдняй лакалізацыі дазваляюць меркаваць, што пашырэнне іх магло адбыцца ад цэнтра да перыферыі. Ізаглосы гэтых з'яў адрозніваюцца ад вышэй разгледжаных напрамкаў ізаглос, яны выяўляюць агульныя рысы з ізаглосамі, якія выдзяляюць замкнутыя арэалы.

Аднак сярэднебеларускія арэалы моўных з'яў выходзяць за межы моўнай тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы». Яны акрэсліваюцца ізаглосамі толькі з двух бакоў — з паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду. Ізаглосы абодвух напрамкаў не ўтвараюць кампактных пучкоў, а праходзяць на значнай адлегласці адна ад адной.

У большай ступені збліжаюцца ізаглосы, што абмяжоўваюць сярэднюю тэрыторыю з паўночнага ўсходу. Гэта ізаглосы недысімілятыўнага акання і рада марфалагічных з'яў: формы творнага склону множнага ліку на **-мы** іменнага і займеннага скланенняў (*сухімы рукамы, з вамы*), а таксама лічэбнікаў *два, тры, чатыры* на **-ма** і **-мя** (*трыма́* : *трымя́*), канчатка **-аць** у 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў I спражэння (*яны кажаць*) і інш. Ізаглосы пералічаных моўных рыс набліжаюцца да лініі Браслаў — Лепель — Быхаў — Чачэрск. Толькі ізаглоса суфікса **-ава-** (*раска́заваць*) адхіляецца ад яе на поўнач і ўсход. Паўднёвыя ізаглосы сярэдніх арэалаў даходзяць прыкладна да лініі Радунь — Стоўбцы — Бабруйск — Камарын. Месцамі яны набліжаюцца адна да адной, а на адрэзку Бабруйск — Мазыр разыходзяцца: адны з іх аддаляюцца на ўсход, а другія — на захад.

Некалькі ў іншым напрамку праходзяць ізаглосы, што выдзяляюць кампактныя арэалы моўных з'яў на сярэдняй тэрыторыі. Да іх адносіцца ізаглоса формы 3-й асобы адзіночнага ліку без *t* дзеясловаў II спражэння, а таксама ізаглоса формы прошлага часу жаночага роду з каранёвым націскам. Паўночная ізаглоса формы без *t* праходзіць уздоўж Віліі з захаду на ўсход прыблізна па лініі Крупкі — Чавусы — Краснаполле. Паўднёвая ізаглоса гэтай формы па лініі Валожын — Асіповічы — Лоеў набліжаецца да іншых ізаглос, што выдзяляюць сярэдні арэал.

Паўночная ізаглоса формы *несла, везла* перасякае арэал форм тыпу *ходзя* ў заходняй частцы, а таксама на поўдзень ад лініі Маладзечна — Лагойск — Барысаў. Ва ўсходняй частцы на адрэзку Бялынічы — Карма яна аб'ядноўваецца з іншымі ізаглосамі, а далей ідзе на поўдзень у бок Лоева, некалькі адхіляючыся ад іх к захаду на адрэзку Карма — Уваравічы. Паўднёва-заходняя ізаглоса формы *несла, везла* набліжаецца да лініі Радунь — Навагрудак — Стоўбцы. На ўсходзе ад Слуцка яна паварочвае на поўдзень і праходзіць у гэтым напрамку да перасячэння з дзяржаўнай граніцай БССР у раёне Убарці.

Цэнтральныя часткі арэалаў форм *несла, ходзя* супадаюць з тэрыторыяй астатніх моўных з'яў сярэдняй лакалізацыі, выдзяляючы найбольш кампактны масіў гаворак, які характарызуецца цэлым комплексам моўных рыс у адрозненне ад перыферыйных зон, куды заходзяць толькі асобныя

рысы, напрыклад, форма 3-й асобы адзіночнага ліку без *t* працягваецца на левабярэжжы Дняпра, а тэрыторыя пашырэння формы *несла* выходзіць за межы іншых арэалаў на захадзе.

Як вынікае з папярэдняга разгляду, сярэднебеларускія моўныя з'явы адрозніваюцца характарам распаўсюджання— адны з іх выдзяляюцца кампактнымі арэаламі, другія рассейваюцца і выходзяць за межы сярэдняй тэрыторыі.

Найбольш кампактна выдзяляецца недысімілятыўнае поўнае аканне (ДАБМ, карты № 1, 14), з якім сумяшчаюцца іншыя асаблівасці арганічна звязаныя з аканнем.

З моўных рыс, якія характарызуюцца рассеяным распаўсюджаннем на цэнтральнай тэрыторыі, заслугоўваюць увагі прыставачныя дзеясловы з суфіксам **-ава-** (*раска́звацъ, вып́ытавацъ*), яны выступаюць у акружэнні і суіснаванні з асновамі іншых суфіксальных тыпаў: **-ыва-(-іва-)** на паўночным усходзе, **-ува-** на паўднёвым усходзе, **-ва-** на поўдні. Тэрыторыя найбольшай канцэнтрацыі суфікса **-ава-** выдзяляецца з захаду ад лініі Полацк—Чэрвень.

Адзначаныя разнавіднасці асновы знаходзяцца ў пэўных адносінах з тыпамі асновы цяперашняга часу. Інфінітыўнай аснове з суфіксамі **-ава-** і **-ва-** адпавядае аснова цяперашняга часу з наяўнасцю тых жа суфіксаў (*раска́завацъ — раска́заваюцъ, раска́звацъ — раска́зваюцъ*), а інфінітыўная аснова з суфіксамі **-ыва-(-іва-)**, **-ува-** пераважна суадносіцца з асновай цяперашняга часу на **-уje-** (*раска́зывацъ, раска́зуваці — раска́зуе, раска́зуюцъ*).

Для паўднёвай часткі тэрыторыі характэрна суіснаванне ўтварэнняў на **-а-** і **-ва-** пры аднатыпнасці націску (*выко́пацъ — выко́пвацъ, выме́тацъ — выме́твацъ*), дзе ў цяперашнім часе пераважае тып асновы на **-уje-** (*выко́пуюцъ, выметуюцъ*).

Такім чынам, арэал наяўнасці суфікса ў абедзвюх асновах знаходзіцца ў акружэнні іншага тыпу суадносін, дзе суфікс адзначаецца толькі ў аснове інфінітыва.

Не выдзяляюцца кампактна іншыя асаблівасці, спецыфічныя для сярэдняй тэрыторыі. Так, форма творнага склону множнага ліку з канчаткамі **-амы, -ымы** (*з ма́лымы брата́мы, з на́мы;* ДАБМ, карта № 104, 129) выступае разрознена па лініі Маладзечна — Узда і Беразіно — Чачэрск, а таксама невялікімі астраўкамі на поўначы ад Барысава і на захадзе ад Шаркоўшчыны.

Астраўкі цвёрдага варыянта канчатка творнага склону множнага ліку іменнага і займеннага скланенняў сумяшчаюцца з тэрыторыяй суіснавання форм творнага склону колькасных лічэбнікаў на **-ма** і **-мя** (*двума́—двумя́, трыма́ — трымя́, чатырма́—чатырмя́;* ДАБМ, карты № 145, 146).

Разрэджаным пашырэннем характарызуецца і форма 3-й асобы множнага ліку на **-аць** дзеясловаў I спражэння (*яны́ ка́жаць, шы́яць;* ДАБМ, карта № 156), больш кампактна яна выдзяляецца ў заходняй частцы сярэдняй тэрыторыі па лініі Свір — Маладзечна — Мінск, а таксама на паўднёвым усходзе вакол Гомеля і спарадычна адзначаецца на паўднёва-заходнім масіве пры пануючай форме на **-уць.**

У параўнанні з адзначанымі асаблівасцямі больш паслядоўна выступае форма 3-й асобы адзіночнага ліку без *t* дзеясловаў II спражэння з рухомым націскам і нерухомым націскам на аснове, а таксама форма прошлага часу жаночага роду з націскам на каранёвай марфеме (ДАБМ, карты № 153, 203). Аднак арэалы апошніх з'яў на ўскраінах размываюцца пад уздзеяннем сумежных дыялектаў, што выяўляецца ў суіснаванні тэрытарыяльных варыянтаў (*хо́дзя — хо́дзіць, не́сла — нясла́*) у радзе населеных пунктаў.

Сярэдняя тэрыторыя характарызуецца як наяўнасцю спецыфічных моўных асаблівасцей, так і агульнымі рысамі, якія аб'ядноўваюць яе з палярнымі масівамі. Сюды заходзіць цэлы комплекс моўных рыс, па якіх паўднёва-заходні дыялект супрацьпастаўляецца паўночна-ўсходняму. Як супрацьпастаўленыя элементы адпаведных моўных з'яў, так і спецыфічныя мясцовыя рысы знаходзяцца тут у пэўнай сувязі і ўзаемаадносінах, што складае істотнае адрозненне сярэднебеларускіх гаворак у параўнанні з асноўнымі дыялектамі. Так, напрыклад, калі дысімілятыўнае аканне вызначае сістэму ненаціскнога вакалізму паўночна-ўсходняга дыялекту і дысімілятыўнае яканне з'яўляецца арганічнай часткай адзінай сістэмы, то на тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак дысімілятыўнае яканне і недысімілятыўнае аканне як сістэмныя элементы палярных дыялектаў суіснуюць, утвараючы асобны тып суадносін, адрозных ад зыходных сістэм ненаціскнога вакалізму.

Своеасаблівымі рысамі адрозніваецца і скланенне назоўнікаў. Так, паўднёва-заходняму дыялекту ўласціва больш паслядоўнае захаванне спецыфічных канчаткаў назоўнікаў з асновай на зычны (*цяля́, цяля́ці*), а ў сярэднебеларускіх гаворках яны маюць агульныя рысы з назоўнікамі ніякага роду з асновай на **-о** (н. *цялё, ягнё* па тыпу *сяло́, акно́,* р. *цяля́ці* і паралельна *цяля́,* д. *цяля́ці* і *цялю́*), г. зн. утвараюць пераходны тып парадыгмы, які набліжаецца да скланення назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

У выніку кантактавання асабовых форм 3-й асобы цяперашняга ча́су палярных дыялектаў на сярэдняй тэрыторыі склаліся своеасаблівыя адносіны паміж рознымі тыпамі спражэння. Тут суіснуюць формы без *t* дзеясловаў I і II спражэнняў, аднолькавыя па націску, а форме адзіночнага

ліку на **-а** адпавядае форма множнага ліку на **-аць** тых жа дзеясловаў (*меля, нося — меляць, носяць*).

Супадзенне асабовых канчаткаў сведчыць аб наяўнасці асобнай уніфікаванай парадыгмы цяперашняга часу, у якой аб'ядналіся дзеясловы I і II спражэнняў, аднатыпныя па націску (*мялю, нашу, меляш, носі(я)ш, меля, нося, меля(і)м, носі(я)м, меляця, носяця, меляць, носяць*). Арэал апошняй прыблізна можа быць акрэслен ізаглосамі формы без *t* дзеясловаў II спражэння (ДАБМ, карта № 153).

Сярэднебеларускія гаворкі, якім уласціва асобная парадыгма з ненаціскнымі канчаткамі, супрацьпастаўляюцца, з аднаго боку, паўднёва-заходнім гаворкам, дзе незалежна ад націску дзеясловы размяжоўваюцца па спражэнню (*кажа : ходзіць, кажуць : ходзяць*), а з другога, яны аб'ядноўваюцца з паўночна-ўсходнімі гаворкамі, у якіх такога тыпу дзеясловы уніфікаваліся ў адным спражэнні, але з іншымі асабовымі канчаткамі (*мялю, нашу, меліш, носіш, меліць, носіць, мелім, носім, меліця, носіця, мелюць, носюць*). У гэтых адносінах сярэднебеларускія гаворкі з'яўляюцца паўднёвай ускраінай паўночна-ўсходняга арэала уніфікаваных форм дзеясловаў, які супрацьпастаўляецца паўднёва-заходняму арэалу размежавання дзеясловаў па спражэнню незалежна ад іх націску.

Пры структурнай агульнасці сярэднебеларуская і паўночна-ўсходняя парадыгмы маюць і адрозненні, якія ў першую чаргу датычацца плана выражэння форм 3-й асобы: калі ў першай з іх характэрнай адзнакай з'яўляецца адсутнасць *t* у форме адзіночнага ліку (*кажа, ходз'а*) і наяўнасць канчатка **-аць** у множным ліку, то другая вызначаецца фармантам **-ць** у адзіночным ліку (*кажыць, ходзіць*) і канчаткам **-уць** у множным ліку (ДАБМ, карты № 148, 149, 153, 156, 157).

Пры структурным супрацьпастаўленні паўднёва-заходняя і цэнтральная парадыгмы аб'ядноўваюцца наяўнасцю формы 3-й асобы адзіночнага ліку без *t*. У гэтых адносінах сярэднебеларускія гаворкі з'яўляюцца паўночнай ускраінай паўднёва-заходніх гаворак або інакш—працягам арэала форм без *t*. Аднак характар размеркавання і функцыя *t* як асобнага марфалагічнага паказчыка ў іх адрозніваецца. Калі ў першых гэты фармант размяжоўвае дзеясловы ў залежнасці ад тыпу спражэння (параўн. *ідзе, рэжа : стаіць, ходзіць*), то ў другіх ён пераважна дыферэнцыруе дзеясловы ў залежнасці ад характару націску (параўн. *стаіць : ходзя, ідзець : меля*), у якіх адсутнасць *t* з'яўляецца характэрнай адзнакай уніфікаваных дзеясловаў, аднатыпных па націску.

Па колькаснаму ахопу дзеяслоўнай лексікі уніфікаваная група дзеясловаў займае першае месца, яна аб'ядноўвае пераважную большасць дзеясловаў I і II спражэнняў. Выключэнне

складаюць дзеясловы з націскнымі асабовымі канчаткамі, якія размяжоўваюцца па спражэнню. З характару лексічнага размеркавання вынікае, што на тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак уніфікаваная форма без *t* утвараецца ад большасці дзеясловаў і колькасна пераважае над формай з наяўнасцю *t*.

Дзеясловы з націскнымі канчаткамі ў сярэднебеларускіх гаворках, як і паўсюдна, дыферэнцыруюцца па спражэнню, але ў выніку кантактавання з палярнымі дыялектамі сюды заходзяць формы 3-й асобы адзіночнага ліку без *t* дзеясловаў I спражэння (*ідзé, ідзéць*) з перавагай першага ці другога варыянта па меры тэрытарыяльнага набліжэння да адпаведнага арэала.

У выніку напластоўвання розных форм цэнтральная парадыгма ўскладнілася паралельнымі ўтварэннямі, якія абумовілі яе пераходны характар. Разам з тым яна захоўвае свае спецыфічныя рысы, што адрозніваюць і супрацьпастаўляюць яе парадыгмам палярных дыялектаў.

Акрамя суцэльных масіваў, некаторыя дыялектныя асаблівасці пашыраны толькі на абмежаванай частцы сярэднебеларускай тэрыторыі. Так, разрозненымі астраўкамі выдзяляецца [о] адпаведна націскному «а» ў пазіцыі перад [ў]: *доў, казóў, прóўда*. На астатняй тэрыторыі захоўваецца [а] (*даў, прáўда, настáўнік*) пры адзінкавых выпадках лабіялізацыі (ДАБМ, карта № 28).

С. Глінка адзначае наяўнасць такой жа з'явы ў беларускіх гаворках асобных мясцовасцей Беласточчыны. «Група *au*,— канстатуе ён,— у некаторых ваколіцах вымаўляецца як ou або óu. Пад націскам маем *próuda* 'prawda', *dou* 'dał', *spou* 'spał' у складзе не пад націскам *daunó* 'dawno'» [156, *41*].

У заходняй частцы сярэднебеларускай тэрыторыі па лініі Свір — Бягомль — Маладзечна выдзяляецца астравок вымаўлення [а] адпаведна [о] ў націскным канчатку роднага склону адзіночнага ліку займеннікаў мужчынскага роду *майγá, твайγá, свайγá* (ДАБМ, карта № 139). Адзначаныя асаблівасці выдзяляюцца з рада іншых сярэднебеларускіх рыс у тых адносінах, што яны выступаюць разрознена, арэалы іх размыты.

## Сярэднебеларускія ізаглосы другой групы
**(карта № 64)**

На тэрыторыі Беларусі вызначаецца група гаворак, якім уласцівы пэўныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Выдзяляюць гэту групу ізаглосы паўночна-ўсходняга і

паўднёва-заходняга або паўднёвага напрамкаў. Першыя з іх праходзяць каля Свіры, Бягомля і Магілёва, другія — каля Пружан, Лунінца, праз Мазыр і на паўднёвым усходзе да граніцы з Чарнігаўскай вобласцю УССР. Такім чынам, акрэсліваюцца сярэднебаларускія гаворкі, якія займаюць большую тэрыторыю, чым сярэднебеларускія гаворкі першай групы.

Гаворкам, якія выдзяляюцца ізаглосамі другой групы, уласцівы недысімілятыўнае аканне, цвёрдае [р], канчаткі **-аў** (*хатáў, сцéнаў*) у форме роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з цвёрдай асновай, канчатак **-ы** (*малады́, нóвы*) у форме назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду, форма на **-е** назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *увéсь—усé*.

Недысімілятыўнае аканне — супадзенне галосных няверхняга пад'ёму «о» і «а» ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых зычных у адным гуку [а] незалежна ад якасці націскнога галоснага (*нагá, нагí, назé*) — уласціва гаворкам Мінскай, Гродзенскай, заходнім раёнам Магілёўскай, усходняй частцы Гомельскай і паўночнай частцы Брэсцкай абласцей (ДАБМ, карта № 1).

На паўночным усходзе сярэднебеларускай групы недысімілятыўнаму аканню супрацьпастаўляецца дысімілятыўнае аканне, на поўдні — оканне.

Паміж гаворкамі з дысімілятыўным і недысімілятыўным аканнем, з аднаго боку, окаючымі гаворкамі і недысімілятыўным тыпам акання, з другога, знаходзяцца гаворкі, у якіх суіснуюць гэтыя тыпы вакалізму або пераважае адзін з іх. Такія гаворкі адзначаюцца на захадзе Віцебскай вобласці: тут пераважае недысімілятыўнае аканне, а дысімілятыўнае аслабляецца ў напрамку з поўначы на поўдзень, паступова замяняючыся недысімілятыўным аканнем. Нават у сярэднебеларускіх гаворках наглядаецца некалькі невялікіх астраўкоў з дысімілятыўным аканнем (Клюшчанцы, Слабада Смаргонскага р-на Мінскай вобл.; Нарач, Ілішчавічы Вілейскага р-на Гродзенскай вобл.; Краснае, Белае Лагойскага р-на, Аксакаўшчына, Закаблукі Мінскага, Паплавы, Багушэвічы Чэрвеньскага р-наў Мінскай вобл.; Сеўрукі Гомельскага р-на Гомельскай вобл.).

На поўдні Беларусі ў окаючых гаворках недысімілятыўнае аканне заўважаецца ў раёне паміж Лунінцом і Лоевам. Побач з тым у сярэднебеларускіх гаворках у адзінкавых выпадках адзначаецца оканне.

Прыкладна такую ж тэрыторыю, што і недысімілятыўнае аканне, займае адна з характэрных беларускіх рыс—няпарная па цвёрдасці-мяккасці зычная фанема [р]. На паўночным усходзе ізаглоса гэтай асаблівасці праходзіць па лініі

Полацк — Віцебск — Орша — Магілёў — Гомель, некалькі адхіляючыся на ўсход ад папярэдняй ізаглосы недысімілятыўнага акання. Паўднёвая ізаглоса праходзіць па лініі Кобрын — Пінск — Лунінец і да дзяржаўнай граніцы з Украінай, потым зноў з'яўляецца на тэрыторыі Беларусі (па цячэнню Убарці), падыходзіць да Мазыра і па Прыпяці заходзіць на тэрыторыю Украіны (ДАБМ, карта № 42).

Цвёрдаму [р] цэнтральнай зоны на паўночным усходзе і поўдні супрацьпастаўляюцца гаворкі, якім уласцівы [р] і [р']: *го́*[*р*]*ад, г*[*р*]*ом, ку*[*р'и́*]*ць,* [*р'е́*]*заць, ку*[*р'у́*], *за*[*р'а́*], *суха́*[*р'*] і інш.[1]

На марфалагічным узроўні выдзяляецца арэал займеннага скланення прыметнікаў. У сярэднебеларускіх гаворках паслядоўна распаўсюджана форма назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду з канчаткам **-ы**(**-і**). На супрацьпастаўленай тэрыторыі, на паўночным усходзе, зафіксаваны пад націскам канчаткі **-ый**, **-эй** (*мaлады́й, маладэ́й*), не пад націскам **-ый** (*но́вый*), а на поўдні — толькі **-ый** (*малады́й, но́вый*; ДАБМ, карты № 110, 111).

Форма назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду з канчаткам **-ы**(**-і**) самая пашыраная ў гаворках: у сярэднебеларускай групе яна з'яўляецца адзінаўжывальнай, і толькі дзе-нідзе зафіксавана форма *малады́й, но́вый, сі́ній*; на супрацьпастаўленай тэрыторыі наглядаецца суіснаванне канчаткаў **-ы**(**-і**), **-ый**(**-ій**), **-эй**.

Гаворкам, што выдзяляюцца сярэднебеларускімі ізаглосамі другой групы, уласціва форма роднага склону множнага ліку з канчаткам **-аў** у назоўніках жаночага роду на **-а** (ДАБМ, карта № 101). Больш кампактна гэта форма распаўсюджана ў гродзенскіх гаворках.

На паўночным захадзе і ў цэнтры сярэднебеларускіх гаворак канчатак **-аў** паўсюдна суіснуе з нулявым канчаткам (*ха́таў* і *хат, сцэ́наў* і *сцэн*). У гомельскіх і мазырскіх гаворках сустракаецца канчатак **-аў**.

На паўночным усходзе яму супрацьпастаўляецца нулявы канчатак, а на поўдні, у гаворках брэсцка-пінскага арэала,— канчатак **-эй** (*ха́тэй, сцэ́нэй* і *хатэ́й, сцэнэ́й*).

У сярэднебеларускіх гаворках паслядоўна адзначаецца форма назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *усе́* (ДАБМ, карта № 141). На поўначы ізаглоса гэтай з'явы праходзіць па лініі Полацк — Барысаў — Магілёў — Гомель, а на поўдні па Ясельдзе, праз Пінск да граніцы

---

[1] У паўночна-ўсходніх гаворках [р'] адзначаецца перад галоснымі фанемамі [и], [е], [а], [о], [у] і ў канцы слова; тое ж мае месца ў гаворках Гомельскай вобласці; на паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці [р'] ужываецца перад рэфлексам старажытнага «ě», перад галоснымі [а], [у] і перад [и] з «о».

з Украінай, потым зноў з'яўляецца на тэрыторыі Беларусі, ідзе па Убарці, праз Мазыр і выходзіць на тэрыторыю Украіны. На паўночным усходзе і поўдні форме *усé* супрацьпастаўляецца форма [*ус'й*] ([*вс'и*] [*всы*]).

## ІЗАГЛОСЫ ЎСХОДНЯГА І ЗАХОДНЯГА НАПРАМКАЎ
**(карты № 65—68)**

Па некаторых моўных асаблівасцях супрацьпастаўляюцца ўсходняя і заходняя часткі сучаснай беларускай дыялектнай мовы. Ізаглосы моўных з'яў з такім тэрытарыяльным размяшчэннем адрозненняў можна назваць умоўна мерыдыянальнымі, бо ў цэлым гэта група ізаглос характарызуецца мерыдыянальным геаграфічным праходжаннем. Складаюць мерыдыянальныя ізаглосы адносна нешматлікае адзінства, але тэрытарыяльна досыць расцягнутае ў шырыню. Умоўная сярэдняя лінія, вакол якой гэтыя ізаглосы пераплятаюцца адна з адной, праходзіць праз Асвею — Бягомль — Лагойск — Рудзенск — Слуцк — Старобін — Давыд-Гарадок.

Сярод моўных з'яў з мерыдыянальным размежаваннем тэрытарыяльных адрозненняў вельмі мала такіх, у якіх бы гэтыя адрозненні рэалізаваліся ў розных структурных варыянтах. Падобныя з'явы, у якіх выразнае тэрытарыяльнае размежаванне мерыдыянальнага характару маюць іх паасобныя структурныя варыянты (ці групы варыянтаў), адзінкавыя. Ізаглосы з такім характарам супрацьпастаўлення адрозненняў займаюць асобнае становішча сярод мерыдыянальных ізаглос. Але ўсё ж ёсць падставы разглядаць іх не як асобную падгрупу, а як вынік развіцця тэрытарыяльных супрацьпастаўленняў, характэрных для ізаглос мерыдыянальнай групы.

Для мерыдыянальнай групы характэрны ізаглосы, якія размяжоўваюць не поўнасцю супрацьпастаўленыя, але досыць складаныя тэрытарыяльныя адрозненні. Значная колькасць ізаглос, якія ўваходзяць у мерыдыянальную групу, размяжоўвае тэрыторыю суіснавання ўсяго комплексу структурных варыянтаў, у якіх рэалізуецца тая ці іншая моўная з'ява ў дыялектнай мове Беларусі, і тэрыторыю ўжывання толькі аднаго ці некалькіх з іх ліку. Атрымліваюцца такія тэрытарыяльныя адрозненні ў выніку таго, што арэал адных структурных варыянтаў моўнай з'явы займае ўсю тэрыторыю яе пашырэння, а арэал другіх мае мяжу свайго тэрытарыяльнага размяшчэння мерыдыянальнага характару.

Відавочна, што падобныя ізаглосы істотна адрозніваюцца ад папярэдніх. Яны выступаюць у якасці мяжы толькі

часткова супрацьпастаўленых дыялектных адрозненняў. Размяжоўваюцца імі тэрытарыяльна не паасобныя варыянты структурнага адзінства варыянтаў моўнай з'явы, а толькі яе асобны варыянт ці некалькі варыянтаў і ўсе варыянты разам. Такая структурная іерархія тэрытарыяльных адрозненняў, калі, з аднаго боку, выступаюць усе варыянты моўнай з'явы, а з другога,— толькі адзін ці некалькі варыянтаў, абумоўлівае пэўную аднабаковасць адзначаных ізаглос.

Акрамя ізаглос, якія маюць такія структурныя адносіны паміж сваімі тэрытарыяльнымі адрозненнямі, у мерыдыянальную групу ўваходзіць таксама даволі многа ізаглос з падобнымі да папярэдніх структурнымі адносінамі паміж тэрытарыяльнымі адрозненнямі, але з іншым характарам іх тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення. Як і папярэднія, гэтыя ізаглосы размяжоўваюць ужыванне аднаго варыянта моўнай з'явы ці некалькіх варыянтаў яе, з аднаго боку, і ўсіх варыянтаў — з другога. Але ўсе варыянты падобных моўных з'яў адзначаюцца не на ўсёй тэрыторыі на другім баку ад ізаглос, як у папярэдніх супрацьпастаўленнях, а толькі на частцы тэрыторыі. Яны тут у сваю чаргу супрацьпастаўляюцца тэрытарыяльна зноў аднаму ці некалькім сваім структурным варыянтам.

Зразумела, што паасобных ізаглос у дыялектнай з'яве ў такіх выпадках па меншай меры дзве. Але адна з іх, у прыватнасці мерыдыянальная, разглядаецца сінхронна як ізаглоса асноўнага супрацьпастаўлення, а другая — дадатковага (супрацьпастаўлення другога плана). Магчыма, безумоўна, і адваротная сінхронная інтэрпрэтацыя падобных ізаглос у сувязі з тым, што арэал паралельнага ўжывання ўсіх варыянтаў моўнай з'явы можна далучаць да арэала асобнага ўжывання кожнага з гэтых варыянтаў. Але пры высвятленні дыялектных супрацьпастаўленняў гэта не мае асаблівага істотнага значэння, таму што гутарка ідзе аб складзе мерыдыянальнай групы ізаглос і характары адрозненняў, якія яны размяжоўваюць, а не аб паслядоўнасці складвання такіх адрозненняў у той ці іншай моўнай з'яве.

У адпаведнасці з адзначанымі асаблівасцямі мерыдыянальныя ізаглосы з тэрытарыяльнымі адрозненнямі першага тыпу можна разглядаць як першую падгрупу, а з тэрытарыяльнымі адрозненнямі другога тыпу — як другую падгрупу мерыдыянальных ізаглос.

Сярод мерыдыянальных ізаглос першай падгрупы ў сваю чаргу вызначаюцца два віды: ізаглосы з усходнім сумяшчэннем і ізаглосы з заходнім сумяшчэннем. Від ізаглосы ўстанаўліваецца ў залежнасці ад размяшчэння супрацьпастаўленых дыялектных адрозненняў моўнай з'явы з таго ці іншага боку ад ізаглосы. Калі на ўсходнім баку ад яе знаходзіцца

тэрыторыя суіснавання (паралельнага ці спарадычнага ўжывання) усяго комплексу структурных варыянтаў моўнай з'явы, то такая ізаглоса адносіцца да ізаглос з усходнім сумяшчэннем. Ізаглосы з супрацьлеглым размяшчэннем адрозненняў з'яўляюцца ізаглосамі з заходнім сумяшчэннем.

Мерыдыянальныя ізаглосы першай падгрупы з усходнім сумяшчэннем характэрны перш за ўсё для адрозненняў у рэалізацыі глухіх зычных **ф** і **ф'** у словах іншамоўнага паходжання. Рэалізацыя гэтых гукаў, спрадвечна чужых для фаналагічнай сістэмы беларускай дыялектнай мовы, цікава галоўным чынам тым, што ў яе асаблівасцях і адрозненнях, якія назіраюцца яшчэ зараз у розных сучасных мясцовых гаворках, знаходзяць сваё як бы ўскоснае праяўленне нейкія больш істотныя фанетычныя адрозненні, якія не заўважаюцца зараз пры даследаванні дыялектнай мовы або якія існавалі ў мінулым.

Назіранні над адзначанай з'явай у цэлым паказваюць, што «сярод сучасных беларускіх гаворак няма такіх, дзе б **ф** і **ф'** паслядоўна замяняліся іншымі гукамі і, наадварот, у якім бы вымаўляліся толькі [ф] і [ф']. Гэта значыць у кожнай гаворцы можна знайсці [ф], [ф'], а таксама гукі і спалучэнні, якія замяняюць іх» [88, *146*]. Рознага роду замены **ф** і **ф'** назіраюцца найбольш часта ў прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі, старэйшых па ўзросту. У іх вымаўленні [ф] і [ф'] немагчымы звычайна і ў навейшых лексічных запазычаннях, у якіх ужо малодшае і сярэдняе пакаленні вымаўляюць, як правіла, у адпаведнасці з чужымі **ф** і **ф'** гукі тыпу [ф], [ф'] [1].

Аднак пры ўсёй гэтай непаслядоўнасці і разнастайнасці ў рэалізацыі зычных тыпу **ф** і **ф'** у межах рэспублікі «вылучаюцца ўсходняя і паўднёва-ўсходняя частка беларускіх гаворак (усходняя частка Віцебскай, Магілёўская і Гомельская вобл.), у якіх часцей сустракаецца замена **ф**, **ф'** іншымі гукамі. У гаворках Мінскай і Гродзенскай абласцей часцей захоўваюцца **ф**, **ф'**, а ў тым выпадку, калі **ф**, **ф'** тут замяняюцца іншымі гукамі, гэтыя «замяшчальнікі» іншыя, чым у раней указанай групе гаворак» [88, *146, 147*].

Матэрыялы ДАБМ даюць магчымасць у нейкай меры высветліць характар рэалізацыі **ф** і **ф'** на ўсходзе і на захадзе

---

[1] Якаснае адрозненне паміж гукамі [ф], [ф'] малодшага пакалення і гукамі [х] і [х'], якія адпавядаюць ім звычайна ў вымаўленні старэйшага пакалення, устанаўліваецца ў падобных выпадках досыць груба, на слых. Магчыма, што больш тонкае даследаванне дало б падставы для некалькі іншай характарыстыкі гэтых гукаў. Яно дапамагло б, магчыма, устанавіць таксама якаснае адрозненне паміж гукамі [ф] і [ф'] па абодва бакі ізаглосы, розніцу паміж якімі звычайным спосабам заўважыць цяжка. Але яна, трэба думаць, існуе.

тэрыторыі рэспублікі ў радзе запазычаных слоў, такіх, як *фунт, туфлі, фартух, арфа* (веялка), *ферма, торф, ціф, фронт, фабрыка, фамілія, шофер, тэлефон, кофта, фасоль, Філіп, Фёкла, Фрося, Фёдар, Фама* і некаторых іншых. Што датычыцца слоў *фунт, туфлі, фартух, арфа, ферма, ціф, фронт, торф, кофта,* то ў гаворках усходняй часткі Беларусі ў адпаведнасці з ф і ф' найчасцей вымаўляецца [хв] або [х]: *хунт, тухл'и, хвартух, архва, хв'ерма, торх, ц'их, хронт, кохта.* У гаворках заходняй часткі чуюцца, як правіла, [ф], [ф'], радзей — [х], [хв] або іншы раз [п], [п']: *фунт* і *хунт, туфл'и — тухл'и* або *тупл'и, фартух—хвартух, арфа — арха* (параўн. *архавац'), ф'ерма — хв'ерма, торф — торп, ц'иф — ц'их, фронт — хронт, кохта* (але параўн. *каптан, каптур)* [88, *147, 148*].

Тыповым для адзначаных выпадкаў з'яўляецца характар рэалізацыі **ф** і тэрытарыяльнае пашырэнне адрозненняў у яго рэалізацыі ў слове *фабрыка* ў сучаснай беларускай дыялектнай мове. У адпаведнасці з **ф** у слове *фабрыка* вымаўляюцца ў гаворках гукі [ф], [хв], [х], [хф] і [п]: *фабрыка, хвабрыка, хабрыка, хфабрыка і пабрыка.* Вымаўленне *хабрыка* адзначаецца ў рэдкіх выпадках, па якіх цяжка меркаваць аб тым, дзе яно часцей назіраецца. Вымаўленне ж тыпу *пабрыка* зафіксавана наогул толькі ў адным нас. п. Больш выразна супрацьпастаўляецца вымаўленне *фабрыка,* характэрнае для гаворак захаду рэспублікі, і *хвабрыка* часта паралельна з *фабрыка,* уласцівае гаворкам усходу, з мерыдыянальным размежаваннем. На тэрыторыі, дзе тыповым з'яўляецца вымаўленне **ф** у слове *фабрыка* як [ф], адзначалася даследчыкамі і вымаўленне тыпу *хвабрыка* паралельна з *фабрыка.* Аднак падобныя выпадкі рэдкія (за выключэннем тэрыторыі крайняга паўднёвага захаду, дзе вылучаюцца гаворкі з пераважным вымаўленнем [хв] [1] у адпаведным слове).

Калі ў адносінах вымаўлення **ф** у слове *фабрыка* назіраецца ў гаворках супрацьпастаўленне па мерыдыянальнай ізаглосе пераважна [ф] на захадзе ад яе і [хв] паралельна з [ф] на ўсходзе ад яе, то дыялектныя адрозненні ў вымаўленні зычнага **ф** у слове *фасоль* па сваёй структуры і характару размежавання некалькі іншыя. Дыялектныя адрозненні ў вымаўленні зычнага **ф** у слове *фасоль* рэалізуюцца ў некалькіх структурных варыянтах (ДАБМ, карта № 44).

На паўднёвым захадзе Беларусі на значнай тэрыторыі зычны **ф** у слове *фасоль* вымаўляецца, як [п]: *пасол'а, пасол', пасол'и.* Толькі зрэдку на тэрыторыі такога вымаўлення адзначаецца зычны [ф] або спалучэнні [хв] ці [кв]. Аднак вы-

[1] Карта «Вымаўленне зычнага **ф** у слове *фабрыка»* з архіваў ДАБМ захоўваецца ў сектары дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

лучаецца тут тэрыторыя крайняга паўднёвага захаду (заходнія раёны Брэсцкай вобл.), дзе на самым поўдні назіраецца паслядоўнае вымаўленне [ф] у слове *фасо́ль,* а на невялікай тэрыторыі на поўнач ад гэтых раёнаў — адпаведна спалучэнні [кв] і [хв].

На паўночным захадзе рэспублікі **ф** у слове *фасо́ль* чуецца пераважна як [ф]. На тэрыторыі, сумежнай з папярэдняй, паралельна з [ф] адзначаецца [п].

Усходняя ж частка Беларусі (Віцебшчына, Магілёўшчына і Гомельшчына з усходнім Палессем) характарызуецца вымаўленнем пачатковага зычнага ў слове *фасо́ль* у выглядзе спалучэнняў [кв] або [хв]. Часцей адзначаецца спалучэнне [кв]. Толькі на самай поўначы заўважаецца перавага спалучэння [хв]. Невялікім астраўком на ўсход ад Віцебска адасабляецца каля граніцы з РСФСР мясцовая гаворка, дзе зычны **ф** у слове *фасо́ль* чуецца як [ф].

Такім чынам, супрацьпастаўляюцца тэрытарыяльна па меншай меры тры асноўныя віды дыялектных адрозненняў у вымаўленні пачатковага зычнага ў слове *фасо́ль:* вымаўленне [п] : [ф] : [кв] або [хв]. Утвараюць гэтыя супрацьпастаўленні тры розныя па канфігурацыі ізаглосы. З іх мерыдыянальны характар мае ізаглоса, якая размяжоўвае, з аднаго боку (заходняга), вымаўленне [п] або [ф] і, з другога (усходняга), [кв] і [хв]. Гэта адна з асаблівасцей разглядаемай ізаглосы ў адрозненне ад аналагічных ізаглос дыялектных супрацьпастаўленняў у вымаўленні зычнага **ф** у іншых словах. Другой асаблівасцю яе з'яўляецца тое, што структурныя варыянты дыялектных адрозненняў, супрацьпастаўленых мерыдыянальна, амаль не заходзяць у сваім пашырэнні адзін за адзін у зоне свайго тэрытарыяльнага сутыкнення. Яны выступаюць як бы несумяшчальнымі ва ўжыванні.

Рэалізацыя зычнага **ф** у асабовых імёнах тыпу *Філі́п, Фёкла, Фёдар, Фро́ся, Фама́, Яфі́м, Цімафе́й* у дыялектнай мове розных раёнаў Беларусі мае таксама адрозненні і пры гэтым значна больш складаныя [12, *134*]. Аднак ізаглосы супрацьпастаўленняў у рэалізацыі **ф** у асабовых імёнах з разгледжанымі ізаглосамі практычна не суадносяцца. І гэта зразумела, бо на пашырэнне розных мясцовых варыянтаў асабовых імёнаў у значна большай ступені, чым на пашырэнне падобных варыянтаў звычайных запазычанняў, уплывалі рознага роду экстралінгвістычныя фактары. Так, у гаворках на тэрыторыі Беларусі адзначаюцца суадносныя варыянты асабовага імя *П'ил'і́п* (*Пылып*), *Ф'ил'і́п* (*Фылып*) і *Хв'ил'і́п.* Выразных дыялектных супрацьпастаўленняў у адносінах іх тэрытарыяльнага пашырэння не заўважаецца [1].

---

[1] Карта «Варыянты слова *Фёдар»* з архіваў ДАБМ—у сектары дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

Агульнапашыраным з'яўляецца варыянт *П'ил'ип* (*Пылып*). Варыянт *Ф'ил'ип* (*Фылып*) адзначаецца таксама зрэдку амаль паўсюдна. Праўда, на паўночным захадзе на тэрыторыі каля граніцы з Літоўскай ССР, ён пераважае або нават пануе. Што датычыцца варыянта *Хв'ил'ип,* то ён адзначаецца рэдка, але ўсё ж пераважна на ўсходзе. І не зусім прыкметная мяжа пашырэння яго на захад супадае прыблізна з мерыдыянальнымі ізаглосамі адрозненняў у вымаўленні **ф** у агульных імёнах.

Яшчэ менш выразна размяжоўваюцца суадносныя варыянты імя *Хв'ёдар* (*Хв'ódар*) і *Ф'ёдар* (*Ф'óдар*) [1]. Варыянты з [ф] адзначаюцца паўсюдна, як і варыянты са спалучэннем зычных [хв]. Толькі вымаўленне [ф] у гэтым імені чуецца зноў жа пераважна на паўночным захадзе.

У заключэнне неабходна адзначыць, што, нягледзячы на пэўную несістэмнасць, непаслядоўнасць і супярэчлівасць у рэалізацыі глухіх зычных **ф** і **ф'** у розных словах іншамоўнага паходжання ў сучаснай мясцовай беларускай мове, усё ж ёсць падставы бачыць наяўнасць не зусім выразнай агульнай ізаглосы мерыдыянальнага характару, якая размяжоўвае гаворкі ўсходу і захаду рэспублікі ў адносінах вымаўлення гэтых губных зычных. Сутнасць жа адрознення звязана, відаць, з нейкай неадпаведнасцю паміж усходнімі і заходнімі гаворкамі Беларусі ў адносінах якасці дыферэнцыяльнага прызнака губных зычных наогул. Неадпаведнасць у гучанні губных зычных малапрыкметная зараз пры звычайных назіраннях. Але яна, як можна меркаваць, адлюстравалася ў розных трансфармацыях **ф** і **ф'** у гаворках усходу і захаду Беларусі.

Падобную мерыдыянальную ізаглосу першай падгрупы з усходнім сумяшчэннем маюць таксама адрозненні ў вымаўленні пачатковага зычнага гука ў слове *сэрца* (ДАБМ, карта № 54).

У беларускай дыялектнай мове зараз мерыдыянальна супрацьпастаўляецца паслядоўнае цвёрдае вымаўленне пачатковага зычнага ў выглядзе фанемы [с], пашыранае на заходняй тэрыторыі, і мяккае ў выглядзе фанемы [с'], іншы раз паралельна з цвёрдым, якое адзначаецца на ўсходзе. Ізаглоса гэтага адрознення досыць своеасаблівая па праходжанню. Ды і сучасная структура супрацьпастаўленняў таксама не зусім ясная. Вымаўленне тыпу *сэрца* характэрна для літаратурнай беларускай мовы, і таму на ўсходзе Беларусі зараз падобны структурны варыянт дыялектнага адрознення можна разглядаць як літаратурны. І наадварот, па-

[1] Карта «Варыянты слова *Фёдар*» з архіваў ДАБМ — у сектары дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

асобныя выпадкі вымаўлення тыпу *с'ерца* на захадзе ад ізаглосы звязаны, магчыма, з сучаснымі ўзаемаадносінамі беларускай дыялектнай мовы з рускай літаратурнай мовою.

Адзначанае супрацьпастаўленне ў беларускіх гаворках фанем [с] і [с'] лексікалізаванае. Яно яшчэ назіраецца ў адносінах зычнага **с** у слове *гарсэт* [88, *125*] [1].

Заходняя і ўсходняя часткі гаворак на тэрыторыі Беларусі адрозніваюцца па скланенню назоўнікаў мужчынскага роду тыпу *старшыня́, суддзя́, ста́раста, ваяво́да* [65, *159, 160,* 36, *75—81,* 108, *113—118*). Фармальна гэтыя адрозненні выступаюць у давальным, месным і творным склонах адзіночнага ліку ў двух тыпах канчаткаў: *старшыну́, суддзю́, ваяво́ду* і *старшыні́, суддзі́, ваяво́дзе; старшыно́м, суддзё́м, ваяводам* і *старшынёй, суддзёй, ваяво́дай.* Структурныя варыянты склонавых форм у першым выпадку суадносныя з формамі назоўнікаў мужчынскага роду *(брат, конь),* у другім — з формамі назоўнікаў жаночага роду *(сястра́, ма́ма).*

Аб дыялектных адрозненнях і іх межах у галіне скланення адпаведных назоўнікаў можна меркаваць па адрозненнях у формах творнага склону адзіночнага ліку назоўніка *старшыня́* (ДАБМ, карта № 92). Беларускія гаворкі супрацьпастаўляюцца досыць паслядоўным ужываннем на захадзе формы *старшынёй* (*старшыне́й, старшыно́й*) і пашырэннем на ўсходзе форм *старшынём* (*старшыно́м*) і адначасова *старшынёй* (*старшыно́й*). Размяжоўваюцца ўсходні і заходні тыпы дыялектнага адрознення досыць выразна. Але ізаглоса іх размежавання адрозніваецца па праходжанню ад папярэдніх мерыдыянальных ізаглос. У сваёй паўночнай частцы яна адхіляецца ад іх на захад, а на поўдні, наадварот, значна адступае на ўсход.

Трэба адзначыць, што аналагічнае дыялектнае адрозненне ў формах давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку слова *старшыня́* як па тыпу, так і па мяжы менш выразнае і відавочнае, чым у творным склоне. Але ўсё ж «форма з канчаткам **-і** пашыраецца з захаду на ўсход; у гаворках Магілёўшчыны і паўднёва-ўсходніх раёнаў Віцебшчыны адзначаецца даволі рэдка, наадварот, форма на **-у** пераважае ў гаворках усходняй тэрыторыі, а на Гродзеншчыне і Брэстчыне амаль не заўважаецца» [88, *166*].

Ёсць матэрыялы адносна аналагічных дыялектных адрозненняў назоўнікаў *суддзя́, ба́цька* і *дзя́дзька* (ДАБМ,

---

[1] Падобнымі ізаглосамі характарызуецца таксама лексікалізаванае супрацьпастаўленне фанем [д] і [дз'] у словах *мястэ́чка* і *уздэ́чка.* Карта «Вымаўленне [д] і [дз'] у словах *мястэ́чка* і *уздэ́чка*» знаходзіцца ў архіве сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР. Аб іншых выпадках лексікалізаванага тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення [д] і [дз'] гл. [88, *121*].

карта № 91). Што датычыцца назоўніка *суддзя́*, то ён па формаўтварэнню, тыпах адрозненняў і іх ізаглосах адпавядае назоўніку *старшыня́*. Назоўнікі ж *ба́цька, дзя́дзька* адрозніваюцца па формаўтварэнню ў беларускіх гаворках інакш. У адных гаворках яны маюць формы, суадносныя з формамі назоўнікаў мужчынскага роду: н. *ба́цька,* р. *ба́цькі*, д. і м. *ба́цьку,* т. *ба́цькам,* але в. *ба́цьку*, як і *сястру́*. У другіх гаворках для іх характэрна формаўтварэнне назоўнікаў ніякага роду: н. *ба́цька* (*ба́цько*), р. *ба́цька*, д. і м. *ба́цьку,* в. *ба́цька,* т. *ба́цькам.* Зусім інакш праходзіць ізаглоса адпаведных адрозненняў. Яна ўваходзіць у гродзенска-слуцка-брагінскі пучок. Аналагічныя адрозненні па формаўтварэнню мае таксама назоўнік *та́та.*

Што датычыцца адрозненняў і іх ізаглос у скланенні іншых падобных назоўнікаў (*мужчы́на, вая́ка, звяру́га, музы́ка, ціхо́ня, забо́йца, све́дка, туля́га, запява́ла, кале́ка* або ўласных імён і прозвішчаў *Кузьма́, Мікі́та, Дані́ла, Янка, Ва́ся, То́ля, Віця, Сялі́ба, Маша́ра, Бяду́ля, Купа́ла, Са́ўчанка*), то неабходныя звесткі аб ужыванні іх у гаворках адсутнічаюць. Але, зыходзячы з практыкі і норм літаратурнай мовы, можна меркаваць, што формаўтварэнне іх у гаворках такое ж, як і слоў *старшыня́* і *суддзя́* [1].

Асобнае месца ў першай падгрупе мерыдыянальных ізаглос займае вельмі выразная ізаглоса з усходнім сумяшчэннем, якая размяжоўвае варыянты пачатковага зычнага ва ўказальным займенніку *гэ́ты* (*гэ́ны*). Па ёй адрозніваюцца гаворкі заходняй часткі тэрыторыі Беларусі, дзе ўжываюцца формы з пачатковым зычным [γ], і ўсходняй, для якіх характэрны формы з зычным [й]. У сваёй паўднёвай частцы, прыблізна ад Турава да Мінска, гэта ізаглоса праходзіць у межах іншых мерыдыянальных ізаглос (ДАБМ, карта № 49). Далей яна рэзка адхіляецца на ўсход да Магілёва і ў астатняй сваёй частцы супадае па праходжанню з ізаглосай [р]: [р'], якая ўваходзіць ва ўсходні пучок ізаглос паўднёва-заходняга напрамку (ДАБМ, карта № 42). Адхіляюцца ў напрамку на ўсход ад важнейшых мерыдыянальных ізаглос на поўначы ад Мінска і ізаглосы дыялектных адрозненняў іншых з'яў, але не ў такой меры.

Адрозніваюцца ўсходняя і заходняя часткі дыялектнай мовы Беларусі таксама лексічнымі асаблівасцямі з падобным відам супрацьпастаўлення. Аднак гэтыя дыялектныя адрозненні і ізаглосы іх звычайна вельмі невыразныя і няпоўныя. Мерыдыянальнай ізаглосай першай падгрупы з усходнім сумяшчэннем характарызуюцца, напрыклад, назвы каваля

---

[1] Аб ужыванні ў старой пісьмовай беларускай мове форм падобных назоўнікаў гл. [47, *30*].

(ДАБМ, карта № 314), хворага (ДАБМ, карта № 319), гною (ДАБМ, карта № 284), дзеясловы са значэннем 'мяўкаць' (ДАБМ, карта № 301), назвы зязюлі (ДАБМ, карта № 309), пярэдніка (ДАБМ, карта № 330), пашырэнне слоў *платóк* і *хýстка* (ДАБМ, карта № 332), *спадніца* і *ю́бка* (ДАБМ, карта № 329), назвы вяселля (ДАБМ, карта № 338).

Усе адзначаныя з'явы хоць і вызначаюцца тэрытарыяльным супрацьпастаўленнем заходняга варыянта ўсходняму інварыянту, аднак ступень ужывальнасці і мяжу пашырэння на ўсходняй тэрыторыі характэрнага для яе варыянта той ці іншай з'явы дакладна вызначыць цяжка. Тыповым для іх з'яўляецца, напрыклад, характар і размежаванне адрозненняў у назвах каваля.

Супрацьпастаўленне заходняй часткі тэрыторыі Беларусі ўсходняй па ўжывальнасці назваў каваля ў агульным прыкметнае. У гаворках на захадзе амаль паслядоўна ўказваецца на ўжыванне толькі адной назвы *кавáль*. Другая назва *кузнéц* адзначаецца зрэдку як паралельная. Гаворкам усходняй часткі Беларусі вядома як слова *кавáль,* так і *кузнéц.* Але сумяшчаюцца тут гэтыя назвы ў сваім пашырэнні неаднолькава. Яны выступаюць і паралельна, і спарадычна, і паасобнымі астраўкамі, а дакладна ўстанавіць, дзе праходзіць ізаглоса супрацьпастаўлення *кавáль : кузнéц, кавáль,* амаль немагчыма.

Некалькі выдзяляецца сярод адзначаных ізаглос па характару супрацьпастаўленняў і размежаванню іх ізаглоса назваў відаў спадніцы. У дыялектнай мове ўсходу Беларусі пашыраны назвы *спадніца, андарáк, ю́бка* і зрэдку — *саян.* На захадзе амаль паслядоўна адзначаецца толькі слова *спадніца.* Праўда, на самым захадзе значнай часткі гаворак уласціва ўжыванне тых жа слоў, што і гаворкам усходняй часткі Беларусі (за выключэннем слова *ю́бка*).

Адрозніваецца таксама ад ізаглос іншых лексічных з'яў і ізаглоса супрацьпастаўлення гаворак па дзеясловах са значэннем 'мяўкаць'. На захадзе Беларусі, у паўночнай частцы гаворак, у такім значэнні ўжываюцца словы *курня́ўкаць* паралельна з *мя́ўкаць,* у заходняй частцы — толькі *мя́ўкаць,* у паўднёва-ўсходняй — *я́ўкаць* і *мя́ўкаць.* На ўсходзе адзначаюцца звычайна *кáўкаць* і *мя́ўкаць* і адначасова *курня́ўкаць,* асабліва ў паўночнай частцы, і *я́ўкаць* побач з тэрыторыяй пашырэння гэтага слова на захадзе ад ізаглосы.

Мерыдыянальныя ізаглосы першай падгрупы з заходнім сумяшчэннем менш шматлікія.

Пераважна мерыдыянальнымі ізаглосамі першай падгрупы з заходнім сумяшчэннем характарызуюцца адрозненні ў вымаўленні афрыкаты [ч] у спалучэнні [чн] у словах *пшанічны, я́чны, сóнечны, малóчны, яéчня, ручнік, мучны́,*

*ве́чны, сма́чна, вілачнік, тра́пачны, рачны́* і інш. Для ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі характэрна вымаўленне [шн], для заходняй — [чн] і [шн].

Назіранні паказваюць, што амаль кожнае слова, у якім ёсць спалучэнне [чн], «мае сваю тэрыторыю вымаўлення [ч] і [ш]» [88, *136*].

Умоўна ўсё ж можна вылучыць тры віды рэалізацыі і размежавання падобных адрозненняў. У некаторых словах вымаўленне [ч] і [ш] амаль не сумяшчаецца. На захад ад ізаглосы ў падобных словах назіраецца толькі нешырокая паласа паралельнага або спарадычнага вымаўлення [чн] як [шн], а таксама рэдкія выпадкі пераважна паралельнага вымаўлення на астатняй тэрыторыі. Ізаглосы размежавання паслядоўнай рэалізацыі [чн] як [шн] і астатніх тыпаў вымаўлення ў падобных словах праходзяць прыблізна разам з іншымі мерыдыянальнымі ізаглосамі. Такімі адрозненнямі і ізаглосай характарызуецца, напрыклад, вымаўленне спалучэння [чн] у слове *мало́чны* (ДАБМ, карта № 61), а таксама *пшанічны* і *я́чны* [1]. Гэтыя ізаглосы адносяцца да першай падгрупы з заходнім сумяшчэннем толькі ў сувязі з некаторай тэндэнцыяй да ўжывання варыянтаў са спалучэннем [шн] на захадзе ад іх [2].

Ізаглосы тэрытарыяльных адрозненняў двух іншых відаў супрацьпастаўлення [чн] : [шн] істотна адрозніваюцца ад папярэдніх. Больш блізкая па характару да ізаглосы тэрытарыяльных адрозненняў у рэалізацыі [чн] у слова *мало́чны* ізаглоса вымаўлення [чн] або [шн] у слове *ручні́к* (ДАБМ, карта № 62), а таксама ізаглоса [чн] : [шн] у словах *кане́чна* і *сма́чна* [3]. Яны характарызуюцца таксама заходнім сумяшчэннем [чн] і [шн]. Але праходзяць гэтыя ізаглосы далёка на захадзе ад папярэдніх, а ўжыванне на заходняй тэрыторыі варыянтаў *рушн'ік, кан'ешна, сма́шна* адзначаецца вельмі шырока (за выключэннем гаворак Брэсцкай вобл. і гаворак на граніцы з Літоўскай ССР).

Дыяметральна супрацьпастаўляюцца ізаглосам адрозненняў у рэалізацыі [чн] у слове *пшанічны* і ізаглосам вымаўлення [чн] або [шн] у словах *ручнік, кане́чна, сма́чна* ізаглосы аналагічных адрозненняў у словах *со́нечны*, *мучны́*, *ве́чны* [4]. Яны характарызуюцца не заходнім, а, наадварот, усходнім сумя-

---

[1] Карты «Спалучэнне [чн] ці [шн] у слове *я́чны*» і «Спалучэнне [чн] ці [шн] у слове *пшанічны*» з архіва ДАБМ.

[2] Пры пераважным вымаўленні [чн] варыянты з [шн] не заўсёды адзначаюцца. Вымаўленне [шн] кваліфікуецца ў такіх выпадках як нехарактэрнае і не прымаецца, відаць, пад увагу.

[3] Карты «Спалучэнне [чн] ці [шн] у слове *кане́чна*» і «Спалучэнне [чн] ці [шн] у слове *сма́чна*» з архіва ДАБМ.

[4] Адпаведныя карты знаходзяцца ў архіве ДАБМ.

шчэннем [чн] і [шн] і праходзяць або блізка каля ізаглосы вымаўлення [чн] у слове *пшанічны* або адхіляюцца ад яе на ўсход.

Характарызуючы вымаўленне афрыкаты [ч] у спалучэнні [чн] у цэлым, можна адзначыць, што больш частае паралельнае або спарадычнае ўжыванне [чн] і [шн] у тых ці іншых словах на ўсходняй тэрыторыі суправаджаецца, як паказваюць назіранні, як бы адхіленнем на ўсход ізаглосы іх тэрытарыяльных адрозненняў. І, наадварот, больш шырокае ўжыванне [шн] паралельна з [чн] на заходняй тэрыторыі суправаджаецца перамяшчэннем ізаглосы ў такіх выпадках больш на захад ад асноўных мерыдыянальных ізаглос.

Мерыдыянальная ізаглоса першай падгрупы з заходнім сумяшчэннем характэрна для тэрытарыяльных адрозненняў у назве будынка для захавання збожжа і назве гаспадара (ДАБМ, карты № 239, 334). З назваў спецыяльнага будынка для захавання збожжа мерыдыянальнай ізаглосай з заходнім сумяшчэннем характарызуюцца ў сваім тэрытарыяльным супрацьпастаўленні словы *свіран* і *анбáр*.

Слова *свіран* (*свéран, свірань, свірэ́нь, свірэ́н, свіро́нак*) адзначаецца на заходняй тэрыторыі Беларусі. Усходняя мяжа яго арэала і выступае ў якасці мерыдыянальнай ізаглосы адрозненняў беларускіх гаворак у адносінах адпаведных назваў. Слова *амбáр* (*імбáр, анбáр, інбáр*) — характэрная назва для дыялектнай мовы на ўсходзе ад ізаглосы і адначасова паралельная са словам *свіран* назва на захадзе (з прадметна-функцыянальным размежаваннем; ДАБМ, Каментарыі, стар. 802, 803).

Асаблівасцю праходжання ізаглосы *свіран, амбáр* : *амбáр* з'яўляецца тое, што на поўдні яна значна адхіляецца на ўсход.

Гаспадара асобнага сялянскага двара ў мясцовай мове на тэрыторыі Беларусі называюць *гаспадáр* і *хазя́ін* (гаспадыня — *гаспады́ня* і *хазя́йка,* сялянскі двор або маёмасць калектыву працаўнікоў — *гаспадáрка* і *хазя́йства*). Слова *гаспадáр* (*аспадáр*), як і *свіран,* шырока адзначаецца на заходняй тэрыторыі Беларусі. Паралельна ўжываецца тут, як правіла, слова *хазя́ін* (*хадзя́ян, хаджáін*). Аднак характэрна слова *хазя́ін* для дыялектнай мовы на ўсходзе ад мяжы пашырэння слова *гаспадáр,* якая і выступае ў якасці ізаглосы адпаведных адрозненняў.

Ізаглоса адрозненняў *хазя́ін* : *гаспадáр, хазя́ін,* супадаючы амаль на ўсім працягу з ізаглосай *амбáр* : *свіран, амбáр,* на поўдні разыходзіцца з ёю, адхіляючыся значна на захад.

Мерыдыянальныя ізаглосы другой падгрупы нешматлікія. Узаемазаходжанне арэалаў структурных варыянтаў адпаведных моўных з'яў, або, інакш, тэрыторыя ці паласа

сумяшчэння, у адных з'явах нязначная, у другіх вельмі вялікая.

Сярод мерыдыянальных ізаглос другой падгрупы, таксама як і сярод першай, адрозніваюцца ізаглосы з усходнім і заходнім сумяшчэннем. Ізаглос з усходнім сумяшчэннем значна больш. З іх ліку найбольш істотная ізаглоса супрацьпастаўлення прыназоўнікаў *к* і *да,* якія ўказваюць на назву прадмета як аб'ект напрамку дзеяння (*пайшоў да бацькі* і *пайшоў к бацьку*).

Арэалы ўжывання прыназоўніка *к,* характэрнага для ўсходняй часткі гаворак Беларусі, і прыназоўніка *да,* пашыранага ў заходніх гаворках, заходзяць адзін за адзін на значнай тэрыторыі. Паласа сумяшчэння іх такая, што заходняя мяжа арэала прыназоўніка *к* і ўсходняя мяжа пашырэння прыназоўніка *да* праходзяць як бы па супрацьлеглых ускраінах паласы праходжання мерыдыянальнай групы ізаглос (ДАБМ, карта № 217). Асабліва шырокая паласа сумяшчэння *да* і *к* у цэнтры Беларусі і на поўдні. У паласе сумяшчэння назіраецца паралельнае ўжыванне прыназоўнікаў каля заходняй і ўсходняй граніц Беларусі: прыназоўнікаў каля заходняй і ўсходняй граніц Беларусі: прыназоўнік *да* — Брэсцкая, Гродзенская і паўночна-заходнія раёны Мінскай абласцей, *к* — усходняя частка Віцебскай, Магілёўская і ўсходняя частка Гомельскай абласцей.

Выразную мерыдыянальную ізаглосу з паласой сумяшчэння варыянтаў на ўсходзе ад яе маюць адрозненні ў абазначэнні дзеяння па ручной уборцы ільну. На ўсходзе Беларусі гавораць *браць лён,* на захадзе — *рваць лён.* Заходняя назва дзеяння *рваць лён* адзначаецца зрэдку паралельна на ўсходзе ад ізаглосы. На поўначы паласа адпаведнага сумяшчэння вузкая, у цэнтры і на поўдні больш шырокая (ДАБМ, карта № 267).

У другую падгрупу ізаглос з усходнім сумяшчэннем уваходзіць таксама ізаглоса, якая размяжоўвае назвы *настóльнік* (*настóльніца*) або *настóльнік* і *абрýс,* пашыраныя на захадзе Беларусі, і назвы *скáцерка* (*скáцерсць, скáцерць, скáцерсь, скáцер*), *настóльнік* (*настóльніца*) і часткова *абрýс,* якія выступаюць на ўсходзе. Словы гэтыя абазначаюць штодзённы абрус, якім засцілаецца стол (ДАБМ, карта № 325). Дыялектныя супрацьпастаўленні, звязаныя з гэтай ізаглосай, досыць складаныя.

У агульных рысах характар адрозненняў па разглядаемай ізаглосе тыповы для другой падгрупы мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем. На захадзе ад яе назіраюцца дзве назвы — *настóльнік* (*настóльніца*) і *абрýс,* характэрныя фактычна для ўсёй дыялектнай мовы заходняй тэрыторыі, а на ўсходзе — спецыфічная ўсходняя назва *скáцерць*

(і варыянты яе), якая ў паласе гаворак непасрэдна каля ізаглосы суіснуе з заходнімі, а далей на ўсход ад гэтай паласы яна выступае ўжо адзінай назвай. Але тэрытарыяльнае размяшчэнне назваў, і асабліва іх варыянтаў, мае шмат спецыфічных асаблівасцей.

Усходняя назва выступае ў двух асноўных варыянтах: *скáцерць* (*скáцерсць*) і *скáцерка*. Цікава, што варыянт *скáцерка* адзначаецца пераважна на тэрыторыі, дзе заходнія назвы адсутнічаюць. У суіснаванні з заходнімі назіраюцца абодва варыянты *скáцерка* і *скáцерць*.

Заходняя назва *настóльнік* (*настóльніца*) у паласе свайго суіснавання з усходняй адзначаецца вельмі нераўнамерна і неаднолькава. На поўначы гэта паласа досыць вузкая (арэалы ўсходняй назвы *скáцерць* і заходняй *настóльнік* заходзяць адзін за адзін нязначна). На поўдні ж (усходняе Палессе) паласа сумяшчэння адзначаных назваў вельмі шырокая. Спарадычна або паасобнымі астраўкамі назва *настóльнік* (*настóльніца*) назіраецца амаль на ўсёй паўднёва-ўсходняй тэрыторыі Беларусі (спарадычна ўжываецца яна нават на ўсходзе Магілёўскай вобл.). Цікава таксама адзначыць, што арэал назвы *настóльнік* (*настóльніца*) падзяляецца на тры часткі: паўночную, дзе назіраецца пераважна варыянт *настóльнік* (захад Віцебскай, паўночны захад Мінскай і ўсход Гродзенскай абл.), паўднёвую, дзе таксама выступае варыянт *настóльнік* (Брэсцкая вобл.) і прамежкавую, сярэднюю частку, дзе пашыран варыянт *настóльніца* (поўдзень Гродзенскай вобл. і ўсходняе Палессе).

Заходняя назва *абрýс* як бы накладваецца сваім арэалам на арэал назвы *настóльнік* (*настóльніца*) або як бы спадарожнічае ёй. Аднак ужывальнасць гэтай назвы ў арэале яе неаднолькавая. Паслядоўна як паралельная з назвай *настóльнік* (*настóльніца*) выступае яна каля граніцы з Літоўскай ССР. Далей на поўдзень і на захад яна адзначаецца непаслядоўна, а на поўдні (Брэсцкая вобл.) і ў паласе сумяшчэння заходніх назваў з усходняй — зусім рэдка.

Мерыдыянальнай ізаглосай другой падгрупы з усходнім сумяшчэннем размяжоўваюцца адрозненні ў абазначэнні падлогі (ДАБМ, карта № 336). На ўсходзе ад ізаглосы падлогу называюць *памóст* і *мост,* а на захадзе — *падлóга.* Па праходжанню гэта ізаглоса некалькі адрозніваецца ад іншых мерыдыянальных на поўдні. Там яна значна адхіляецца на ўсход. Але цікава, што ў зоне паміж гэтай ізаглосай і іншымі (Палессе) зрэдку адзначаюцца ўсходнія варыянты. Інакш кажучы, паласа сумяшчэння знаходзіцца тут не на ўсходзе, а на захадзе ад яе.

На ўсходзе пануе слова *мост. Памóст* адзначаецца ў паласе сумяшчэння і з'яўляецца, відаць, своеасаблівай

словаўтваральнай трансфармацыяй слова *мост* пад уздзеяннем назвы *падлóга.*

Мерыдыянальную ізаглосу другой падгрупы з заходнім сумяшчэннем маюць адрозненні ў назвах пярэдняй часткі страхі (у хаце). Аднак гэта ізаглоса супрацьпастаўляецца ізаглосам другой падгрупы з усходнім сумяшчэннем па характару сваіх адрозненняў толькі часткова.

На тэрыторыі Беларусі ў мясцовай мове адзначаецца многа розных слоў, якімі абазначаецца шчыт (або франтон; ДАБМ, карта № 230; Каментарыі, стар. 777—779). Кожнае з гэтых слоў (або амаль кожнае) мае свой арэал пашырэння. Але ўсё ж можна бачыць досыць прыкметнае супрацьпастаўленне заходняй тэрыторыі, дзе адзначаецца пераважна слова *шчыт (зашчы́т, зашчы́так, зашчы́та),* усходняй, найбольш багатай рознымі назвамі. На поўдні ўсходняй тэрыторыі пашыраны асобнымі астраўкамі назвы *фацыя́т, зашалява́не* і *лоб (лабя́к, зало́бак).* Назва *лоб (лабя́к, зало́бак, нало́бнік)* ужываецца таксама на поўначы (Віцебская вобл.) і невялікім астраўком адзначаецца на ўсходзе Магілёўскай вобласці (пераважна варыянт *нало́бнік*) на мяжы са Смаленскай вобласцю РСФСР.

Агульнапашыранымі на ўсходзе з'яўляюцца зараз назвы *франто́н* і *зако́т* (*зако́та*). На ўсходзе ад ізаглосы адзначаюцца часткова на невялікай паласе і заходнія назвы. У сувязі з гэтым ізаглоса назваў пярэдняй часткі страхі магла быць аднесена да ізаглос з усходнім сумяшчэннем. Але адрозніваецца яна ад іх тым, што ў цэнтры Беларусі (поўдзень Мінскай вобл.) усходняя назва *зако́т* (*зако́та*) шырокім клінам заходзіць на тэрыторыю заходняй назвы *шчыт* і адзначаецца ў пагранiччы з Літоўскай ССР на паўночным захадзе. На падставе гэтага адпаведная ізаглоса і характарызуецца як ізаглоса з заходнім сумяшчэннем.

Асобнае месца ў групе мерыдыянальных ізаглос займае ізаглоса значэнняў слова *ля́да* (ДАБМ, карта № 337). На тэрыторыі Беларусі гэта слова адзначаецца ў некалькіх значэннях. На ўсходзе — гэта назва высечанага ўчастка лесу пад поле ці пашу, на захадзе яно такога значэння не мае, а абазначае набіліцы ў кроснах, смецце ў збожжы, беспарадак і г. д. (ДАБМ, Каментарыі, стар. 955—957). Аднак ужыванне слова *ля́да* на заходняй тэрыторыі адзначаецца толькі ў Гродзенскай вобласці і зрэдку ў Брэсцкай. Такім чынам, ізаглоса значэнняў слова *ля́да* з'яўляецца практычна мяжой пашырэння яго на захад як назвы высечанага ўчастка лесу пад поле ці пашу. У гэтым якраз і заключаецца своеасаблівасць разгледжанай ізаглосы.

## ІЗАГЛОСЫ ЗАМКНЁНЫХ ДЫЯЛЕКТНЫХ АРЭАЛАЎ

### Слуцка-капаткевіцка-лунінецкі пучок
(карта № 69)

На тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту некалькі ізаглос выдзяляюць невялікую групу гаворак у раёне Слуцка. Гэта ізаглосы замкнёнага характару, яны не выходзяць за межы Беларусі, не маюць прадаўжэння ні на тэрыторыі УССР, ні на тэрыторыі РСФСР і ўтвараюць своеасаблівы астравок сярод паўднёва-заходняга дыялекту. Гаворкі, выдзеленыя гэтымі ізаглосамі, характарызуюцца такімі моўнымі рысамі, якія не паўтараюцца ў гаворках астатняй тэрыторыі Беларусі.

Чатыры ізаглосы, якія праходзяць прыкладна па лініі Слуцк — Глуск — Капаткевічы — Жыткавічы — Дзятлавічы — Ганцавічы — Клецк, выдзяляюць гаворкі, для фанетычнай сістэмы якіх характэрна наяўнасць [j] пасля губных [м] і [б] у словах *мёд* (*мйод*) і *бёрда* (*бйо́рда*), а таксама пашырэнне фанетычнага варыянта слова *хазя́ін* — *хаджа́ін*. Варыянты *мйод* і *бйо́рда* часам перамяжаюцца з *мёд* і *бёрда* або выступаюць паралельна ў гаворцы адной і той жа вёскі. На поўнач і захад ад тэрыторыі пашырэння слова *мйод* адзначаецца варыянт *м'од,* а на поўдзень і ўсход — часцей за ўсё *м'ед*; слову *бйорда* на паўночным усходзе супрацьпастаўляецца *б'о́рда,* а на поўдні і захадзе — *б'е́рда* (ДАБМ, карты № 30, 31). Слова *хаджа́ін* на акрэсленай тэрыторыі выступае часта побач са словамі *гаспада́р* або *хадзя́ін,* першае з якіх характарызуе гаворкі заходняй, а другое — усходняй частак Беларусі.

З лексічных асаблівасцей гаворак, выдзеленых слуцка-капаткевіцка-лунінецкім пучком, неабходна адзначыць ужыванне слоў *бу́льба* і *бу́льма* ў значэнні 'бручка' і радзей слова *вэ́ндрух* (заходняя частка акрэсленай тэрыторыі). За межамі арэала слоў *бу́льба*, *бу́льма* і *вэ́ндрух* словы *бу́льба* і *бу́льма* ўжываюцца ў значэнні 'бульба' (руск. 'картофель'). Для назвы бручкі ў большай частцы беларускіх гаворак выкарыстоўваюцца розныя славаўтваральныя варыянты ад *бру́чка,* і толькі на поўначы Беларусі вядомы іншыя назвы (*гры́жына, гры́жа, кру́чка, ка́ліка* і некаторыя іншыя; ДАБМ, карта № 276).

Толькі ў гаворках каля Слуцка зафіксавана слова *рэ́хча* ў значэнні 'ржэ' (аб кані). Шырока ўжываецца тут у гэтым жа значэнні і слова *рагóча,* але яно вядома і брэсцка-пінскім гаворкам, а таксама гаворкам на поўнач і ўсход ад Оршы. На астатняй тэрыторыі Беларусі пашырана слова *ржэ* (ДАБМ, карта № 299).

## Слуцка-любанска-салігорскі пучок
**(карта № 70)**

Крыху меншую тэрыторыю ў раёне Слуцка займаюць гаворкі, для якіх характэрны некаторыя словы, невядомыя на астатняй тэрыторыі Беларусі. Так, у значэнні 'вага ў студні з жураўлём' выступае слова *пругло́.* У суседніх гаворках з гэтым значэннем адзначаны словы *страла́* і *ко́варат* з вытворнымі ад яго (ДАБМ, карта № 243).

Толькі на тэрыторыі, выдзеленай слуцка-любанска-салігорскім пучком, зафіксавана слова *жу́піць* са значэннем 'гаварыць'. Праўда, побач ужываюцца словы *гаманіць,* зрэдку — *бала́каць* і як агульнапашыраная, нейтральная форма — *гавары́ць.*

У гаворках каля Слуцка для агульнай назвы жывёлы захавалася старажытнае слова *гавя́да* (*гаўя́да*). На поўдзень і ўсход ад ізаглосы гэтай назвы ўжываюцца словы *тава́р* і *худо́ба,* на поўнач і захад — *скаці́на.*

У гаворках разглядаемай тэрыторыі пашыраны наступныя словы: *ця́ўнік* у значэнні 'сцяблы і лісце бульбы', *касільна*[1], *гурт* 'калектыўная дапамога ў сельскагаспадарчай рабоце'. У адзінкавых выпадках гэтыя словы адзначаны ў іншых месцах Беларусі. У суседніх гаворках у значэнні 'сцяблы і лісце бульбы' ўжываецца слова *картафля́нік,* ручка касы называецца *кассём,* а паняцце 'калектыўная дапамога ў сельскагаспадарчай рабоце' называецца словамі *по́мач, дапамо́га* або *талака́* (ДАБМ, карты № 262, 281, 315).

---

[1] Варыянт *касільно́* (з націскам на канчатку) пашыран ва ўсходніх раёнах Магілёўскай вобласці і на поўнач ад Мінска.

# 2

# ГРУПОЎКА ДЫЯЛЕКТАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## ПАПЯРЭДНІЯ ЗАЎВАГІ

Разгляд фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу і некаторых асаблівасцей лексікі гаворак беларускай мовы паказвае, што ізаглосы асобных з'яў праходзяць па беларускай моўнай тэрыторыі ў самых розных напрамках, супрацьпастаўляючы адна адной розныя яе часткі. Адны ізаглосы выдзяляюць некалькі вялікіх тэрытарыяльных масіваў (гэта ізаглосы многіх фанетычных і марфалагічных з'яў), другія акрэсліваюць значна большую колькасць драбнейшых тэрыторый (гэта шматлікія лексічныя ізаглосы). Ізаглосы розных з'яў нярэдка перакрываюць адна адну ў самых розных напрамках.

Аднак, нягледзячы на разнастайнасць ізаглос розных моўных з'яў па іх канфігурацыі і па таму, якія тэрыторыі яны выдзяляюць і супрацьпастаўляюць, усё ж сярод іх сустракаецца многа тыповых ізаглос, якія праходзяць блізка адна ад другой і выдзяляюць сабою ў асноўным адны і тыя ж тэрыторыі.

Найбольш агульныя з іх, якія супрацьпастаўляюць вялікія тэрытарыяльныя масівы, што характарызуюцца адноснай агульнасцю сваёй моўнай сістэмы, выдзяляюць асноўныя дыялекты беларускай мовы. Тэрыторыя, па якой праходзяць, але не супадаюць блізкія паміж сабою ізаглосы, утварае зону пераходных гаворак паміж асноўнымі дыялектамі. Больш прыватныя ізаглосы, якія супрацьпастаўляюць больш дробныя тэрыторыі ў складзе тэрыторыі асобных дыялектаў, выдзяляюць розныя групы гаворак у складзе гэтых дыялектаў.

Вышэй не раз падкрэслівалася, што дыялекты выдзяляюцца не па адной якой-небудзь рысе, а звычайна па цэламу комплексу рыс. Таму яны не могуць быць прадметам класіфікацыі,

калі ў гэты тэрмін укладваць яго дакладнае значэнне. Разам з тым мы ведаем, што асобныя моўныя з'явы нават пры блізкасці іх ізаглос ніколі поўнасцю не супадаюць па пашырэнню: яны адзначаюцца на блізкіх тэрыторыях, часам паралельна адна другой або перасякаючыся паміж сабою, але выдзяляюць не зусім аднолькавыя тэрыторыі. З гэтага вынікае, што калі ў аснову выдзялення дыялектаў кладзецца не адна рыса, а цэлы комплекс моўных з'яў, то дакладныя межы асобных дыялектаў не могуць быць праведзены: можна выдзеліць асноўныя тэрыторыі адпаведных дыялектаў і зону, паласу пераходных гаворак, якія звычайна характарызуюцца той ці іншай камбінацыяй моўных рыс асноўных дыялектаў, неаднолькавай на розных частках гэтай зоны.

Калі пераходныя гаворкі існуюць на працягу адносна доўгага часу, яны могуць паступова выпрацоўваць свае спецыфічныя рысы, не ўласцівыя асноўным дыялектам. З цягам часу накопліваецца вялікая колькасць спецыфічных рыс, і пераходныя гаворкі могуць паступова стаць дыялектам, які характарызуецца адносным адзінствам сваёй сістэмы, спецыфічнымі, уласцівымі толькі яму моўнымі рысамі. Таму некаторыя сучасныя дыялекты маглі быць у мінулым пераходнымі гаворкамі, а самі пераходныя гаворкі, утвораныя ў выніку ўзаемадзеяння, уплыву аднаго дыялекту на другі, маглі належаць да аднаго з асноўных дыялектаў.

Усё гэта азначае, што групоўка гаворак той ці іншай мовы з сучаснага пункту погляду можа адрозніваццa часам істотна ад групоўкі гаворак з гістарычнага пункту погляду (дакладней, ад груповак гаворак у розныя гістарычныя перыяды). Аднак групоўка гаворак па паходжанню заўсёды з'яўляецца вынікам гістарычнай рэканструкцыі. Практычна ж мы маем перад сабою сучасныя гаворкі ў іх сучасных суадносінах. Таму ніжэй даецца спроба групоўкі гаворак беларускай мовы з сучаснага пункту погляду, выказваюцца меркаванні аб групоўцы, якая непасрэдна папярэднічала сучаснай, г. зн. аб тым, як групаваліся гаворкі Беларусі ў мінулым.

## ПАЛЕСКАЯ ГРУПА ГАВОРАК І АСНОЎНЫ МАСІЎ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ

Пры вывучэнні тэрытарыяльнага вар'іравання сістэмы мовы ў Беларусі перш за ўсё вылучаецца яе невялікая паўднёва-заходняя частка — палеская група гаворак беларускай мовы (у раёнах Брэста, Кобрына, Пінска, Лунінца, а па некаторых з'явах і далей на ўсход; карты № 1—11), якая супрацьпастаўляецца асноўнай тэрыторыі рэспублікі, асноўнаму масіву беларускай дыялектнай мовы.

## Палеская група гаворак

Палескай групе гаворак беларускай мовы ўласцівы наступныя рысы:

1. Оканне, г. зн. адрозніванне галосных няверхняга пад'ёму ў ненаціскных складах. У пазіцыі пасля мяккіх зычных, якія ў гэтых гаворках маглі ацвярдзець (гл. п. 2), мае месца поўнае або частковае адрозніванне галосных няверхняга пад'ёму.

2. Цвёрдасць парных цвёрдых-мяккіх зычных перад [е] і неадрозніванне парных цвёрдых-мяккіх перад [и]: *вечор, селó, мыска, сыла.*

3. Вымаўленне галоснага [и] на месцы «ě»: *л'ис, хл'иб, б'йлы, на вод'ú.*

4. Вымаўленне галоснага [и] на месцы «о», «е» ў закрытых складах пры наяўнасці [о] ў адкрытых складах: *к'ин', н'ис, п'ич, с'им* (пры *кóн'и, нóса, п'éчы, с'óмы*).

5. Вымаўленне мяккіх [д] і [т] без фрыкатыўнага элемента, г. зн. адсутнасць дзекання і цекання: *д'ид, д'йты, т'ýсто, с'ад', ѵ̄ост'.*

6. Вымаўленне спалучэння [мн'] замест [м'] або [мј] перад [а]: *мн'áсо, мн'áта.*

7. Вымаўленне ўказальна-асабовага займенніка 3-й асобы з прыстаўным [в]: *вон, вонá, вонó, воны́.*

8. Форма давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на **-ові**: *сынóві, аб сынóві, братóві.*

9. Форма творнага склону з асновай на [т] ад назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот: *тел'áт'ем, порос'áт'ем.*

10. Форма меснага склону прыметнікаў і займеннікаў на **-ому:** *аб маладóму, на тóму.*

11. Шыпячы зычны ў асабовых формах дзеясловаў, якія ў іншых гаворках маюць аснову на заднеязычны: *сечý, сечéш, сечýт* (ДАБМ, карта № 158).

12. Наяўнасць [л'] асновы пасля губных у 1-й асобе адзіночнага ліку і 3-й асобе множнага ліку пры аснове на губны ў астатніх формах дзеясловаў II спражэння: *лоўл'ý, лóв'иш... лóўл'ат'; купл'ý, кýп'иш... кýпл'ат'.*

13. Адсутнасць чаргавання зычнага [д] і іншых зубных з шыпячымі асновы дзеясловаў II спражэння: *хóд'иш, хóд'ý* (ДАБМ, карта № 204).

14. Наяўнасць цвёрдага [т] у форме 3-й асобы дзеясловаў: *нóсіт, нóсят, хóдіт, хóдят, бэрýт, нэсýт.*

15. Націск на перадапошнім складзе ў форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу дзеясловаў I спражэння з нерухомым націскам на асабовым канчатку: *несéте, берéте.*

16. Наяўнасць формы інфінітыва на **-ці** (**-ты**) пасля галосных: *купы́ты, робы́ты, бу́ты* (*бы́ты*), *чыта́ты.*

17. Наяўнасць слова *прач* у адпаведнасці з *пра́нік* у астатніх беларускіх гаворках.

## Асноўны масіў беларускай дыялектнай мовы

Адзначанымі дыялектнымі рысамі палеская група гаворак супрацьпастаўляецца асноўнаму масіву беларускай дыялектнай мовы, для якога характэрны наступныя суадносныя з першымі моўныя рысы:

1. Аканне, г. зн. неадрозніванне галосных няверхняга пад'ёму ў ненаціскных складах.

2. Мяккасць парных цвёрдых-мяккіх зычных перад [е] і адрозніванне парных цвёрдых-мяккіх зычных фанем перад [и].

3. Вымаўленне галоснага [е] або [ê] ([и͡е]) на месцы старога «ѣ» пад націскам: *л'ес, хл'еб, б'е́лы, на вадз'е́* або *л'êс, хл'êб, б'ếлы на вадз'ế.*

4. Вымаўленне галосных [о], [е] (['о]) або [ô] ([у͡о]), [ê] ([и͡е]) у закрытых складах пад націскам на месцы «о», «е»: *кон', нос, с'ем, м'од* (*мйод*) або *кôн', нôс, п'êч, с'êм, м'ôд* і інш.

5. Дзеканне і цеканне, г. зн. наяўнасць фрыкатыўнага элемента пры вымаўленні мяккіх [т] і [д]: *дз'ет, дз'е́ц'и, ц'е́ста, с'ац', гос'ц'.*

6. Захаванне мяккага губнога зычнага [м] перад галосным [а] або вымаўленне на яго месцы цвёрдага губнога [м] з наступным [j]: *м'а́са, м'а́та* або *мйа́са, мйа́та.*

7. Вымаўленне ўказальна-асабовага займенніка 3-й асобы з прыстаўным [j]: *йон, йана́, йано́, йаны́.*

8. Формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на **-у** або **-е**: *аб сыну, аб бра́ту* або *аб сыне, аб бра́це.*

9. Формы творнага склону назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот (*цялём, парасём*), або формы слоў таго ж кораня з суфіксам *-ёнак* (*цялёнкам, парасёнкам*).

10. Формы меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў мужчынскага і ніякага роду на **-ым** або **-ом**: *аб малады́м, на тым* або *аб маладо́м, на том.*

11. Захаванне заднеязычнага асновы ў 1-й асобе адзіночнага ліку і ў 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў пры наяўнасці [ч], [к'] або [к] у іншых асабовых формах: *с'аку́—с'ачо́ш* або *с'ак'о́ш, с'ак'о́ш, с'аку́ц'.*

12. Наяўнасць [л'] асновы пасля губных толькі ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння пры ад-

сутнасці яго ў іншых асабовых формах: *лаўл'ў — ло́віш, ло́вяць* або *ло́вюць; купл'ў — ку́піш, ку́пяць* або *ку́пюць*.

13. Чаргаванне [д]—[дж] у асабовых формах дзеясловаў II спражэння: *хадзі́ць — хаджу́* (ДАБМ, карта № 204).

14. Наяўнасць [ц'] у форме 3-й асобы дзеясловаў: *ко́с'иц', ко́с'ац', хо́дз'иц', хо́дз'ац', б'ару́ц', н'асу́ц'*.

15. Перамяшчэнне націску на канцавы склад у форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу ў дзеясловах I спражэння з націскнымі асабовымі канчаткамі: *н'ас'иц'о́, б'арыц'о́* або *н'ес'ац'е́, б'ерац'е́.*

16. Форма інфінітыва на **-ць** пасля галосных: *купі́ць, рабі́ць, быць, чыта́ць.*

17. Наяўнасць слова *пра́нік.*

## ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІ І ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНІ ДЫЯЛЕКТЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Вывучэнне ізаглос на тэрыторыі асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы дае магчымасць выдзеліць паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты.

## ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Паўднёвая мяжа паўночна-ўсходняга дыялекту праходзіць прыблізна па лініі ад Свіры на паўночным захадзе да Бягомля і далей на паўднёвы ўсход да Магілёва і Суража Бранскай вобласці. Ізаглосы асобных моўных з'яў, якія выдзяляюць паўночны дыялект, даволі значна вар'іруюць, набліжаючыся да Мінска, а на паўднёвым усходзе — да Бабруйска, даходзячы да Гомеля, г. зн. утвараючы даволі шырокую паласу гаворак, неаднародных па моўных з'явах (карты № 37—39 і дадаткова 46—52, 29).

Паўночна-ўсходняму дыялекту беларускай мовы ўласцівы наступныя рысы:

1. Дысімілятыўнае аканне ў першым пераднаціскным складзе пасля цвёрдых зычных: *въда́, вады́, вадз'е́, ваду́.* На паўночным захадзе дысімілятыўнае аканне суіснуе побач з недысімілятыўным. На поўдні — толькі недысімілятыўнае.

2. Замена галоснага [ы] ў першым пераднаціскным складзе на [ъ] або [а]: *ръба́к* (або *раба́к*), *к съна́м* (або *к сана́м*), *бръɣа́да* (або *браɣа́да*).

3. Дысімілятыўнае яканне ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных: *с'ц'ина́, с'ц'аны́, с'ц'ан'е́, с'ц'ано́й.*

4. Неадрозніванне галосных [о] і [а] ў канцавым адкрытым складзе пасля цвёрдых зычных (поўнае аканне): *с'е́на, са́ла* (параўн. пад націскам у ніякім родзе *акно́*) пры *л'і́па, б'аро́за* (ДАБМ, карта № 14).

5. Галосны [е] на месцы «е» пад націскам перад цвёрдым зычным: *л'ес, хл'еб, б'е́лы, на вадз'е́.*

6. Галосныя [о] і [е] ([ʼо]) на месцы «о» і «е» ў закрытых складах пад націскам: *кон', п'еч, с'ем, м'од.*

7. Падоўжаныя мяккія зубныя і цвёрдыя [ж], [ч], [ш] у адпаведнасці са злучэннем мяккіх зубных з наступным [j]: *нас'е́н'н'е, со́л'л'у, с'м'е́ц'ц'е, судз'дз'а́, пало́з'з'е, во́с'с'у, збо́жжа, су́чча, зац'і́шша.*

8. Аднаскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з галосным [о]: *сц'ано́й, жано́й; м'ажо́й, з'амл'о́й.*

9. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду з ненаціскным канчаткам **-ы** (пасля мяккіх зычных **-і**): *сёлы, во́кны, азёры, по́лі.*

10. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на мяккі, цвёрды або зацвярдзелы зычны з канчаткам **-ы**(**-і**): *кавалі́, дамы́, гарады́, нажы́* (ДАБМ, карты № 95, 96).

11. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду: *жо́нкі, ху́сткі* (ДАБМ, карта № 99).

12. Форма давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з канчаткам **-ам**: *к ляса́м, нажа́м.*

13. Форма меснага склону множнага ліку назоўнікаў з канчаткам **-ах**: *у ляса́х, у дама́х, у гарада́х.*

14. Скланенне назоўнікаў *ба́цька, дзя́дзька* па тыпу назоўнікаў жаночага роду на **-а**: н. *ба́цька,* р. *без ба́цькі,* в. *бачыў ба́цьку,* за выключэннем т. *з ба́цькам.*

15. Наяўнасць назоўнікаў на *-онак*(*-ёнак*), якія абазначаюць маладых істот: *курчо́нак, дзяцёнак, парасёнак, цялёнак.*

16. Форма прыметнікаў і займеннікаў меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду з канчаткам **-ым**: *аб малады́м, у тым.*

17. Форма вінавальнага склону прыметнікаў жаночага роду з ненаціскным канчаткам **-аю**: *но́ваю ха́ту, вялі́каю ры́бу* (ДАБМ, карта № 124).

18. Пераважнае ўжыванне аднаскладовага канчатка ў родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў: *у маладо́й, у маладэ́й, у малады́й дзе́ўкі.*

На паўднёвым усходзе сустракаецца таксама двухскладовы канчатак **-ыя**: *у малады́я дзе́ўкі* (ДАБМ, карта № 120).

19. Адносны прыметнік *каро́ўі* або *каро́ўскі,* а таксама *свіны́, гусі́ны, куры́ны* (ДАБМ, карты № 182, 183, 185).

20. Рухомы націск у прыставачных дзеясловах II спражэння тыпу *прыхадзіць* у асабовых формах: *прыхаджу́ — прыхо́дзіш.*

21. Адсутнасць [л'] пасля губнога зычнага асновы ў асабовых формах дзеясловаў I спражэння: *сы́піш, сы́пюць.*

22. Канчатак **-м** 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў: *глядзі́м, ро́бім.*

23. Ненаціскны канчатак **-ім** у 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў I спражэння: *ме́лім, ко́лім.*

24. Форма 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу з канцавым націскным [о] ад дзеясловаў з націскам на асабовых канчатках: *н'ас'иц'о́, с'адз'иц'о́, гл'адз'иц'о́.*

25. Ненаціскны канчатак 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння **-уць**: *хо́дзюць, во́зюць, но́сюць.*

26. Націскны канчатак 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння **-іце**: *нясі́це, вязі́це, кладзі́це.*

27. Утварэнне будучага часу з дапаможным дзеясловам *буду*: *буду рабі́ць, буду чыта́ць.*

28. Наяўнасць дзеясловаў II спражэння з інфінітывам на **-эць** пасля шыпячых: *дрыжэ́ць, пішчэ́ць, блішчэ́ць.*

29. Наяўнасць слова *ёсць* з галосным [о]: *йос'(ц')*.

30. Канструкцыі з вінавальным склонам тыпу *зрабі́ў стул, знайшо́ў грыб, назу́біў серп.*

31. Канструкцыі з прыназоўнікам *каля* (*кала*): *ішоў каля са́ду, бег каля рэ́чкі.*

32. Асаблівасці ў месцы націску назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах: *рашчы́на, зага́дка, ве́рба, на гару́, па вады́, на нагу́;* прыметнікаў: *тау́сты́, пра́сты́, ма́лы;* прыслоўяў: *ві́дна, хало́дна.*

33. Словы *ву́тка, пу́ня* (будынак, дзе складаюць сена), *ба́нька* (кальцо, пры дапамозе якога касу прымацоўваюць да касільна), *кут* (чырвоны кут), *ле́меш* або *ляме́ш, ла́пік* і іншыя ўтварэнні з тым жа коранем (у значэнні 'заплатка'), *бічо́ўка* або *бічу́к* (у цэпе), назвы лісця і сцяблоў бульбы ад кораня *бульб-: бульбо́ўнік, бульбя́нік, бульба́шнік.* Наяўнасць розных назваў ворнай зямлі, якая некалькі год не апрацоўвалася, у тым ліку ад розных кораняў: *дзірва́н, памёт, абло́га* або *зало́га, абло́г.*

## ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Паўночная мяжа паўднёва-заходняга дыялекту праходзіць прыблізна ад Ліды Гродзенскай вобласці на паўночным захадзе да Мінска і далей на паўднёвы ўсход да Бабруйска, Рэчыцы і Лоева Гомельскай вобласці. Ізаглосы моўных з'яў, якія вылучаюць гэты дыялект, таксама вар'іруюць, часам да-

волі значна аддаляючыся адна ад адной і ўтвараючы шырокую паласу гаворак, неаднародных па моўных з'явах (карты № 15—21, 29).

Паўднёва-заходняму дыялекту беларускай мовы ўласцівы наступныя рысы:

1. Недысімілятыўнае аканне ў першым пераднаціскным складзе пасля цвёрдых зычных: *вада́, вады́, вадз'е́, наγа́, наγ'и́, наз'е́.*

2. Захаванне галоснага [ы] ў першым пераднаціскным складзе: *рыба́к, к сыно́м, брыга́да.*

3. Недысімілятыўнае (моцнае) яканне ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккага зычнага: *с'ц'ана́, с'ц'аны́, з с'ала́, с'ало́.* На паўночным захадзе дысімілятыўнае яканне спалучаецца з моцным. На паўднёвай паласе — яканне моцнае (ДАБМ, карта № 4).

4. Адрозніванне галосных [о] і [а] ў канцавым адкрытым складзе пасля цвёрдых зычных (няпоўнае аканне): *с'е́но, са́ло* пры *л'и́па, б'аро́за* (ДАБМ, карта № 14).

5. Галосны [ê] або дыфтонг [и͡е] на месцы «ě» пад націскам: *л'êс, хл'êб, б'êлы, у вадз'ê* або *л'и͡ес, хл'и͡еб, б'и͡елы, у вадз'и͡е.*

6. Галосныя [ô] і [ê] або дыфтонгі [у͡о], [и͡е] на месцы «о» і «е» ў закрытых складах пад націскам: *кôн', нôс, п'êч, с'êм, м'ôд* (*мйôд*) або *ку͡он', ну͡ос', п'и͡еч, с'и͡ем, м'у͡од.*

7. Захаванне спалучэнняў мяккіх зубных і цвёрдых [ж], [ч], [ш] з наступным [j] або вымаўленне на іх месцы зычнага нармальнай даўжыні: *нас'е́н'йе, со́л'йу, с'м'е́ц'йе, судз'йа́, пало́з'йе, во́с'йу, су́чйе, зац'и́шйе, збо́жйе* або *нас'е́н'е, со́л'у, с'м'е́ц'е, судз'а́, пало́з'е, во́с'у, су́ча, зац'и́ша, збо́жа.*

8. Двухскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з галоснымі [о] пасля цвёрдых зычных (на поўначы) і [е] (на поўдні) пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных: *сц'ано́йу, жано́йу, м'ажо́йу, з'амл'о́йу* і *м'аже́йу, з'амл'е́йу.*

9. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду з ненаціскным канчаткам **-а**: *сёла, во́кна.*

10. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на мяккі або зацвярдзелы зычны з канчаткам **-е**(**-э**): *кавале́, нажэ́.*

11. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду *жанкі́, хусткі́* (за выключэннем гродзенскіх гаворак, дзе ўжываецца форма *жанке́, хустке́*; ДАБМ, карта № 99).

12. Форма давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з канчаткам **-ом**: *лясо́м, дамо́м, гарадо́м.*

13. Форма меснага склону множнага ліку назоўнікаў з канчаткам **-ох**: *у лясо́х, дамо́х, гарадо́х.*

14. Скланенне слова *бáцька* (*бáцько*) па тыпу назоўнікаў з асновай на **-о**: н. *бáцька* або *бáцько,* р. *без бáцька,* в. *бáчыў бáцька,* д. *бáцьку.*

15. Захаванне старых назоўнікаў з асновай на **-т**, якія абазначаюць маладых істот: *дзіця́, цяля́, парася́.*

16. Форма прыметнікаў і займеннікаў меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду з канчаткам **-ом**: *аб маладóм, у том.*

17. Наяўнасць сцягнутых форм прыметнікаў (*нóва* замест *нóвая*) і пераважнае ўжыванне сцягнутай формы ў вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду: *нóву хáту, вялíку рыбу.*

18. Двухскладовы канчатак роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду: *у маладóе дзéўкі.*

19. Побач з адноснымі прыметнікамі *карóўі, свíны, гусíны, курыны* ўжываюцца *карóўячы* або *карóвлячы,* а таксама (на меншай тэрыторыі) *свíня́чы* (*свíнéчы*), *гуся́чы* (*гусéчы*), *курáчы.*

20. Нерухомы націск у асабовых формах прыставачных дзеясловаў II спражэння тыпу *прыхóдзіць: прыхóджу, прыхóдзіш.*

21. Наяўнасць [л'] пасля губнога зычнага асновы ва ўсіх асабовых формах дзеясловаў I спражэння: *сыпл'у, сыпл'еш, сыпл'уц'.*

22. Канчатак **-мо(а)** у 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў: *глядзімó, рóбімо*(*а*).

23. Ненаціскны канчатак **-ем(-ам, -ом)** у 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў I спражэння: *м'éл'ем* (*м'éл'ам, м'éл'ом*); *кóл'ем* (*кóл'ам, кóл'ом;* ДАБМ, карта № 151).

24. Форма 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу з канцавым націскным [е] ад дзеясловаў з націскам на асабовых канчатках: *несяцé, берацé, сядзіцé, глядзіцé.*

25. Ненаціскны канчатак 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння **-яць**: *хóдзяць, вóзяць, нóсяць.*

26. Канчатак 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння з націскам на канчатку **-еце**: *нясéце, вязéце, кладзéце.*

27. Утварэнне будучага часу з дапаможным дзеясловам *іму: рабіціму, рабіцьму.* На паўночным захадзе (у раёне Гродна) звычайна адзначаецца будучы час з дапаможным дзеясловам *буду.* На астатняй тэрыторыі ён таксама можа ўжывацца, але побач з будучым тыпу *рабіцьму.*

28. Наяўнасць дзеясловаў II спражэння з інфінітывам на **-аць** пасля шыпячых: *дрыжáць, пішчáць.*

29. Слова *ёсць* з галосным [е]: *йес'(ц').*

30. Канструкцыі з родным склонам тыпу *зрабíў стýла, знайшóў грыба, назубíў сярпá.*

31. Наяўнасць суадносных канструкцый з прыназоўнікамі *каля* (*кала*) і *паўз*: *ішоў каля рэчкі, ішоў паўз рэчку.*

32. Асаблівасці ў месцы націску назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах: *рóшчына, зáгадка, вярбá, на гóру, на нóгу, па вóду;* прыметнікаў: *тóўсты, прóсты, малы́;* прыслоўяў: *віднó, хóладна.*

33. Словы *кáчка, адры́на* ці *адры́нец* (будынак, дзе складаюць сена), *напáрстак, рэ́хва* (кальцо, пры дапамозе якога касу прымацоўваюць да касільна), *пóкуць* ці *пакýць, пакýцце* (чырвоны кут), *сашнíк* (побач з *лéмеш*), *лáта* ('заплата'), *біч* (у цэпе), назвы лісця і сцяблоў бульбы ад кораня *картóфл'-* (*картóпл'-*): *картафля́нік, картафля́ніска, картафля́нішча;* назва ворнай зямлі, якая некалькі год не апрацоўвалася: *я́лавіна.*

## ГРУПЫ ГАВОРАК НА ТЭРЫТОРЫІ ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯГА ДЫЯЛЕКТУ

На тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы пучкі ізаглос, якія праходзяць у розных напрамках, выдзяляюць асобныя групы гаворак.

### Паўночная група гаворак

Асаблівую цікавасць маюць ізаглосы, якія выдзяляюць самую поўнач або паўночны ўсход тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту. Так, на абмежаванай тэрыторыі поўначы і паўночнага ўсходу ад Віцебска (карта № 54) пашырана некалькі рыс: форма творнага склону множнага ліку назоўнікаў і прыметнікаў (а таксама займеннікаў), якая супадае з формай давальнага склону множнага ліку: *з малады́м людзя́м, за дамáм;* на самай поўначы (к Невелю) форма давальнага і меснага склонаў на **-ы** ад назоўнікаў жаночага роду на **-а**: *к сцяны́, на сцяны́.* У некаторых з гаворак гэтай тэрыторыі сустракаюцца рэлікты (рэшткі) цокання — неадрозніванне [ц] і [ч], што ўласціва многім паўночнавелікарускім гаворкам рускай мовы.

З іншых граматычных і лексічных рыс, ізаглосы якіх аб'ядноўваюцца свірска-лепельска-віцебскім пучком, найбольш характэрнымі з'яўляюцца:

1. Форма на **-ом** 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу нетэматычных дзеясловаў: *йадз'óм, дадз'óм.*

2. Наяўнасць прыналежнага займенніка з суфіксам **-н-**: *йíхны, йéйны.*

3. Захаванне суфікса **-дл-** у назвах прылад: *касавíдла, цапавíдла* побач з іншымі варыянтамі суфіксаў: *касавíлна, цапавíлна, касаўё, цапаўё, касавíла, цапавíла.*

4. Пашырэнне слоў *палец, палюх* 'ручка касы', *стоўб* (назва сахі ў студні з жураўлём); *грыжына* (назва бручкі), *лоб* (назва франтона).

Большасцю адзначаных тут рыс гаворкіназванай тэрыторыі збліжаюцца з суседнімі рускімі гаворкамі, іменна з пскоўскімі, якія па сваёй аснове з'яўляюцца паўночнавелікарускімі.

### Віцебска-магілёўская група гаворак

З пункту погляду групоўкі гаворак істотнымі з'яўляюцца ізаглосы, якія падзяляюць тэрыторыю паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы на дзве няроўныя часткі — на віцебска-магілёўскі паўночны ўсход (усход і паўднёвы ўсход) і полацкі паўночны захад. Таму мэтазгодна ў паўночна-ўсходнім дыялекце беларускай мовы выдзяляць дзве групы гаворак — віцебска-магілёўскую (усходнюю) і полацкую (заходнюю). Зразумела, і тут ізаглосы розных моўных з'яў звычайна не супадаюць, а праходзяць толькі паблізу адна ад адной, захоўваючы свой агульны напрамак і супрацьпастаўляючы, з аднаго боку, усход, а з другога — захад астатняй тэрыторыі дыялекту.

Ізаглосы, якія праходзяць на ўсходзе тэрыторыі па лініі Полацк — на ўсход ад Віцебска, Оршы, Магілёва, звязваюць гаворкі гэтай тэрыторыі з суседнімі смаленскімі і бранскімі гаворкамі рускай мовы (карты № 37, 40, 41, 43, 44).

Віцебска-магілёўскай групе гаворак уласцівы наступныя рысы:

1. Паслядоўнае дысімілятыўнае аканне.

2. Адрозніванне цвёрдасці-мяккасці [р] і [р'] як дзвюх розных фанем на ўсходзе ад намечанай лініі (як у рускай мове) у супрацьлегласць неадрозніванню іх і наяўнасці адной фанемы [р] на ўсёй асноўнай беларускай моўнай тэрыторыі. Параўн. *гару́* (ад *гара́*), *гару́* (ад *гарэ́ць*) на асноўнай беларускай моўнай тэрыторыі і *гару́* (ад *гара́*), *гар'у́* (ад *гарэ́ць*) на ўсходзе і ў суседніх рускіх гаворках.

3. Адсутнасць чаргавання заднеязычных са свісцячымі ў парадыгме назоўнікаў жаночага роду на **-а** (*к дугé, на дугé, к рукé, на рукé*) і ў аснове цяперашняга часу дзеясловаў (*пякéш, стрыгéш*).

4. Форма назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду з канчаткам **-эй**: *маладэ́й, крывэ́й.*

5. Формы ўскосных склонаў на **-эй** прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку: *у маладэ́й, к маладэ́й* і форма назоўнага склону множнага ліку: *маладэ́е.*

6. Скарочаныя формы інфінітываў: *с'ес'ц', н'ес'ц', п'еч, б'арéч, б'арéжч.*

7. Канструкцыя тыпу *каля яго смяюцца.*

8. Наяўнасць слова *свякрова.*

9. Назва вісячай калыскі: *люлька.*

10. Назвы плота з жэрдак: *згарода* або *прасла.*

На паўночнай частцы тэрыторыі віцебска-магілёўскай групы гаворак выдзяляецца больш прыватная група, якую можна назваць віцебскай падгрупай гаворак (карта № 45). Ёй уласцівы наступныя рысы:

1. Дысімілятыўнае яканне віцебскага тыпу: *н'ис'ец', в'из'ец', ц'ип'ер, м'ин'е, с'иб'е.*

2. Форма давальнага склону адзіночнага ліку на **-эй** прыметнікаў жаночага роду: *маладэй.*

3. Форма 1-й асобы множнага ліку абвеснага і загаднага ладу на **-ом** дзеясловаў II спражэння: *с'адз'ом, с'п'ом.*

4. Наяўнасць лексічных асаблівасцей: *жбанок* — назва гліпянай пасуды для малака; *крошні* — прыстасаванне, у якім носяць сена, салому; *згарода* — назва плота з жэрдак.

## Полацкая група гаворак

На захад ад Полацка прыблізна па лініі Расоны — Бягомль — Свір некалькімі пучкамі ізаглос выдзяляецца полацкая група гаворак (карты № 56—58). Ёй уласцівы наступныя рысы:

1. Непаслядоўнае дысімілятыўнае аканне, наяўнасць побач з дысімілятыўным недысімілятыўнага акання: *въда, вады* і *вада, вады.*

2. Чаргаванне заднеязычных са свісцячымі ў парадыгме назоўнікаў жаночага роду на **-а** (свісцячыя ёсць у формах давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку): *дуга — к дузе, аб дузе; рука — к руцэ, аб руцэ.*

3. Наяўнасць на захадзе ад Полацка формы на **-а(-я)** назоўнікаў з коранямі *мыш-*, *гус'-*: *мыша*, *гуся.*

4. Формы ўскосных склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў на **-ой**: *у маладой, к маладой, аб маладой.*

5. Наяўнасць дзеясловаў: *гукаць* са значэннем 'гаварыць', *пяяць* 'спяваць'.

6. Наяўнасць слова *свякроўка.*

7. Назва гліняпай пасуды з вузкім горлам для малака: *стаўбун.*

8. Назва бручкі: *кручка, гручка.*

9. Наяўнасць слова *пастаўнік* — агароджанае месца для жывёлы ў полі ці лесе.

10. Назва вясёлкі: *цмок.*

## ГРУПЫ ГАВОРАК НА ТЭРЫТОРЫІ ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНЯГА ДЫЯЛЕКТУ

На тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы пучкі ізаглос таксама праходзяць у розных напрамках. Некаторыя з іх ідуць з захаду на ўсход, выдзяляючы, такім чынам, поўнач і поўдзень, прычым звычайна ў гэтых выпадках поўдзень зблiжаецца на адпаведных моўных рысах з палескімі гаворкамі.

### Паўднёвая група гаворак

Паўднёвая група ўключае тэрыторыю брэсцка-пінскіх гаворак і прылягаючыя з поўначы і ўсходу ўскраіны паўднёва-заходняга дыялекту. Яна характарызуецца цэлым комплексам фанетычных дыялектных рыс, некаторымі граматычнымі і лексічнымі асаблівасцямі. Аб'ядноўваюцца яны ў некалькі пучкоў, адны з якіх адносяцца да паўночна-ўсходняга, а другія — да паўночнага напрамкаў. Кожны з пучкоў выдзяляе паўднёвую ўскраіну моўнай тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы». Канцэнтрацыя моўных рыс паступова ўбывае ў напрамку на ўсход і на поўнач (карты № 10, 11, 14, 26—29).

Паўднёвай групе гаворак уласцівы наступныя рысы:

1. Оканне: *водá, γóрод, γоловá, с'йн'оγо.*

2. Вымаўленне [е] адпаведна «'а» ў паслянаціскных закрытых складах: *зáйец, пáм'ец'.*

3. Вымаўленне [у] адпаведна «ы» ў дзеяслоўных формах *буў, булá.*

4. Вымаўленне асобных слоў: *м'ед* (*мед*), *дал'éка* (*далéко*), *авйóс.*

5. З'яўленне [j] пасля губных перад [а]: *пйац'* (*п'йац'*), *вйáн'е.*

6. Прыстаўное [в] у займенніках 3-й асобы: *вон, вонá, вонó, воны́.*

7. Цвёрдасць зваротнай часціцы дзеясловаў: *баюса, садзіліса.*

8. Двухскладовы канчатак творнага склону з націскным [е] назоўнікаў адзіночнага ліку жаночага роду: *з'амл'éйу, мяжéйу, душéйу, γус'éйу, мышéйу, пуц'éйу,* а таксама займеннікаў: *майéйу, твайéйу, свайéйу.*

9. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з канцавым націскам: *дзяўкí, хусткí.*

10. Сцягнутая форма роднага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў мужчынскага і ніякага роду: *магó, твагó, свагó.*

11. Наяўнасць [л’] пасля губных у 1-й асобе адзіночнага ліку і 3-й асобе множнага ліку пры аснове на губны ў астатніх формах дзеясловаў II спражэння: *лаўл’ў, ло́в’иш, ло́ўл’ат’*.

12. Наяўнасць форм з асновай на шыпячы ў 1-й асобе адзіночнага ліку і 3-й асобе множнага ліку: *сечу́, сечу́т’* (ДАБМ, карта № 158).

13. Захаванне націскнога [е] ў канчатку 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння: *с’адз’иц’е́* (*седыте́*).

14. Форма 3-й асобы множнага ліку нетэматычнага дзеяслова *е́сці: йадз’а́ц’* (*йадз’е́ц’*).

15. Форма 3-й асобы *йе* ад дзеяслова *быць*.

16. Наяўнасць сінтэтычных форм будучага складанага часу з дапаможным дзеясловам *іму: рабіцьму* (*рабіціму*), *рабіцьмеш, рабіцьме*.

17. Ужыванне беспрыназоўнікавых канструкцый тыпу *былі́ тае́ зімы́, жа́лі гэ́тае пары́*.

18. Назва лемеша ў плузе: *са́шнік*.

19. Агульная назва зжатага поля, а таксама поля, на якім расло жыта: *по́жня*.

20. Наяўнасць адносных прыметнікаў з суфіксам **-яч-**: *сві-ня́чы, каро́ўячы*.

Адны з пералічаных рыс займаюць меншую, другія — большую тэрыторыю, аднак як першыя, так і другія не выходзяць за межы тэрыторыі, акрэсленай на карце № 74, за выключэннем некаторых з іх.

## Мазырская група гаворак

На тэрыторыі ўсходняй часткі паўднёва-заходняга дыялекту выдзяляецца мазырская група гаворак. Яна характарызуецца моўнымі рысамі, ізаглосы якіх аб’ядноўваюцца асобнымі пучкамі (карта № 32).

Ёй уласцівы пераважна фанетычныя асаблівасці:

1. Вымаўленне [у] адпаведна «ы» ў розных пазіцыях: у першым складзе перад націскам пасля губных (*пута́ць*) і ў націскных складах (*кабу́ла, бук*); у канчатках назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў (*паграбу́, бабу́*) і ў займенніках *мы, вы* (*му, ву*).

2. Вымаўленне [е] не пад націскам у канчатку давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з мяккай асновай: *в’и́шн’ем, ка́пл’ем*, а таксама 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння: *хо́дз’ец’, хо́д’ет*.

3. Вымаўленне [’о] не пад націскам у канчатку 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння: *м’е́л’ом(о), ко́л’ом(о)*.

4. Форма творнага склону множнага ліку з канчаткам **-ам**

назоўнікаў ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот: *ц'ал'áм*.

5. Націскны канчатак у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду тыпу *маладэ́*.

6. Наяўнасць слова *стóля* 'столь'.

## Заходняя група гаворак

Пучкі ізаглос выдзяляюць заходнюю групу, моўныя асаблівасці якой пашыраны на заходняй ускраіне тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» (карты № 12, 13).

Заходняй групе гаворак уласцівы наступныя рысы:

1. Наяўнасць прыстаўнога [γ]: [γ]*ýліца*, [γ]*ýліця*, [γ]*ýлыца*, [γ]*арýць*, [γ]*óруць*.

2. Парадыгма цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння з націскным [е]: *идз'*[*é*]*ш* (*ид*[*é*]*ш*), *идз'*[*é*]*мо* (*ид*[*é*]*мо*), *идз'*[*é*]*ц'е* (*ид*[*é*]*те*) (ДАБМ, карты № 150, 152).

3. Форма інфінітыва з суфіксам **-ці** (**-ты**) пасля галоснага асновы: *брáці* (*брáты*), *садзíці* (*садыты*), *рабíці* (*робыты*).

4. Канцавы націск у форме прошлага часу адзіночнага ліку жаночага роду дзеяслова: *памярлá, умярлá*.

5. Канцавы націск у прыслоўях: *халаднó, весялó*.

6. Назвы зжатага поля з суфіксам **-іск-**: *ячмéніска, я́чніска, аўся́ніска, óўсіска, аўсíска*.

7. Назвы сцяблоў і лісця бульбы, агуркоў і гарбузоў з суфіксамі **-ен+ьје**, **-ян+ьје**: *картафля́нне, гуркавéнне, гарбузéнне, гарбузавéнне*.

8. Наяўнасць словаўтваральных варыянтаў: *уж* (*вуж*), *ужóўка* (*вужóўка, гужóўка*) і *ýжык, вýжык* (назва прывязкі ў цэпе).

9. Пашырэнне назваў частак касы: *кýлька* (ручка касы), *напáрстак* (кальцо, якім замацоўваюць касу на касільне).

10. Назвы частак студні з жураўлём: *ключ, клю́чка, клю́ка* 'вочап'; *кóварат* (*калаварóт*), *кóварацень, кóвадыр, калóвер* 'вага'.

11. Назва верхніх мужчынскіх штаноў: *нагавíцы, ганавíцы*.

12. Назва каршуна: *шуля́к*.

На паўночнай частцы тэрыторыі заходняй групы гаворак цэлым радам моўных рыс выдзяляецца прыватная паўночна-заходняя падгрупа гаворак (карта № 60). Ёй уласцівы наступныя рысы:

1. Вымаўленне ['о] пасля мяккіх зычных у канцавым адкрытым складзе: *камéнн*[*'о*], *вéцц*[*'о*].

2. Вымаўленне [а] ў аснове творнага склону лічэбніка *два*: *двамá*.

3. Вымаўленне [’е] ў слове *свіран*: *ç̦в’ëран*.

4. Вымаўленне [ш] у слове *парсюк*: *паршу́к* (непакладаны кабан).

5. Форма меснага склону адзіночнага ліку з канчаткам **-э** назоўнікаў жаночага роду на **-а** з асновай на шыпячы: *на мяжэ́, у дзяжэ́, на шашэ́,* а таксама неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай: *на пне.*

6. Форма назоўнага склону множнага ліку з канчаткам **-е** назоўнікаў жаночага роду: *дзяўке́, хустке́.*

7. Назва сцяблоў і лісця агуркоў з суфіксам **-іна**: *гурко́віна.*

8. Назва прылады, якой вострацб касу: *мянта́, мянця́, ме́нта, ме́нця.*

9. Назва прадмета, якім умацоўваюць снапы або сена на возе: *жэ́ртка.*

## СЯРЭДНЕБЕЛАРУСКІЯ ГАВОРКІ

Як ужо адзначалася, з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, то звужаючыся, то расшыраючыся, цягнецца паласа, па якой праходзяць асноўныя ізаглосы, што адрозніваюць гаворкі паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў беларускай мовы. Паўночная мяжа гэтай паласы, пачынаючыся на паўночным захадзе прыблізна каля г. Свір, далей накіроўваецца на ўсход да Бягомля і на паўднёвым усходзе да Магілёва і Суража Бранскай вобласці РСФСР. Паўднёвая мяжа гэтай паласы, пачынаючыся на паўночным захадзе каля Ліды, затым накіроўваецца на ўсход уздоўж Нёмана, далей ідзе да Рэчыцы і Лоева Гомельскай вобласці. Гаворка гэтай паласы, як правіла, характарызуецца той ці іншай камбінацыяй рыс, адны з якіх уласцівы паўночна-ўсходняму дыялекту, другія — паўднёва-заходняму (карты № 15—21, 42, 46, 48, 49, 52).

Так, напрыклад, многім сярэднебеларускім гаворкам, як і гаворкам паўночна-ўсходняга дыялекту, уласцівы наступныя рысы:

1. Неадрозніванне [о] і [а] ў канцавым адкрытым складзе пасля цвёрдых зычных (поўнае аканне): *с’е́на, са́ла* (параўн. пад націскам у ніякім родзе: *акно́* пры *л’и́па, б’аро́за*; ДАБМ, карта № 14).

2. Галосны [е] на месцы «ё» пад націскам перад цвёрдым зычным: *л’ес, хл’еб, б’е́лы, на вадз’е́.*

3. Галосныя [о] і [е] ([’о]) на месцы «о» і «е» ў закрытых складах пад націскам: *кон’, дом, п’еч, с’ем, м’од.*

4. Падоўжаныя мяккія зубныя і цвёрдыя [ж], [ч], [ш] у адпаведнасці са спалучэннем мяккіх зубных з наступным [j]: *нас’е́н’н’е, со́л’л’у, с’м’е́ц’ц’е, судз’дз’а́, пало́з’з’е, во́с’с’у, су́чча, заці́шша, збо́жжа.*

5. Аднаскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а**: *сцянóй, мяжóй, зямлёй*, а таксама прыметнікаў і займеннікаў жаночага роду адзіночнага ліку: *маладóй, нóвай, ей (ёй), тэй (той), маéй, тваéй, сваéй.*

6. Скланенне назоўнікаў *бáцька, дзя́дзька* па тыпу назоўнікаў жаночага роду на **-а**: н. *бáцька*, р. *без бáцькі*, в. *бáчыў бáцьку*, за выключэннем т. *з бáцькам.*

7. Форма назоўнага склону множнага ліку на **-ы** (**-і**) для розных груп назоўнікаў: *сёлы, вóкны, азёры, кавалí, гарады́, нажы́, жóнкі, ху́сткі.*

8. Форма прыметнікаў меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду з канчаткам **-ым**: *аб малады́м.*

9. Пераважнае ўжыванне аднаскладовага канчатка ў родным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў жаночага роду: *маладóй дзéўкі, нóвай хáты, тэй, маéй, тваéй, сваéй.*

10. Канцавы націск у вінавальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў: *руку́, нагу́, ваду́.*

11. Несцягнутыя канчаткі прыметнікаў жаночага і ніякага роду: *нóвая хáта, нóвую хáту, нóвае вядрó.*

12. Аднаскладовыя канчаткі прыналежных займеннікаў: *нáша хáта, нáша акнó, нáшу хáту, нáшы хáты.*

13. Чаргаванне губных+*л* з губнымі ў аснове цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння: *драмл'у́, сыпл'у, дрéм'іш, сы́п'іш.*

14. Неадрозніванне па спражэнню ненаціскных асабовых канчаткаў у 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку: *кáжа, хóдзя* або *кáжыць, хóдзіць; кáжаць, хóдзяць* або *кáжуць, хóдзюць.*

15. Неадрозніванне канчаткаў у формах 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў абвеснага і загаднага ладу: *стáнім, ся́дзім,* (*давáй*) *ся́дзім!*

16. Ненаціскны канчатак **-ім** у 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў I спражэння: *мéлім, сы́пім.*

17. Форма 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу на **-іце** (**-ыце**): *ідзíце, глядзíце, бяры́це.*

18. Суфіксальнае **-э** пасля шыпячых у формах інфінітыва і прошлага часу дзеясловаў: *пішчэ́ць, дрыжэ́ць, пішчэ́ла, дрыжэ́ла.*

19. Канструкцыі з вінавальным склонам тыпу *знайшóў грыб, апрану́ў кажу́х.*

20. Супадзенне формы вінавальнага з формай роднага склону множнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду: *пагнáў валóў.*

21. Адсутнасць форм парнага ліку назоўнікаў жаночага і ніякага роду ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры*: *два* (*тры, чаты́ры*) *вакны́, пісьмы́, хáты, брыгáды.*

22. Пашырэнне слова *бу́льба.*

23. Адсутнасць асобнай назвы чырвонага кута.

Акрамя таго, на ўсю сярэднебеларускую тэрыторыю або на асобныя часткі яе пашыраюцца моўныя рысы паўднёва-заходняй лакалізацыі. Адзначым некаторыя з іх:

1. Форма давальнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з націскным канчаткам **-ом**: *лясóм, дамóм, гарадóм.*

2. Форма меснага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з націскным канчаткам **-ох**: *у лясóх, у гарадóх.*

3. Наяўнасць форм назоўнікаў з асновай на **-т**, якія абазначаюць маладых істот: *дзіця́, цяля́*(*ё*), *парася́*(*ё*).

4. Форма 3-й асобы без t дзеясловаў I спражэння: *ідзé, нясé, бярэ́, кáжа, мéле, грэ́е.*

5. Нерухомы націск у парадыгме прыставачных дзеясловаў: *прыхóдзіць, прынóсіць, прывóдзіць: прыхóджу, прыхóдзіш, прыхóдзіла, прыхóдзілі.*

6. Форма вінавальнага склону множнага ліку на **-ы**(**-і**) адушаўлёных назоўнікаў жаночага роду тыпу *падаíла карóвы, пасé авéчкі.*

7. Канструкцыі з дзеясловам *вучыцца* і вінавальным склонам назоўніка з прыназоўнікам *за: вучы́цца за дóктара, за настáўніка.*

Суіснаванне рыс палярных масіваў тлумачыцца тым, што сярэднебеларускія гаворкі з'яўляюцца больш познім утварэннем у параўнанні з гаворкамі паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў. Яны ўзніклі на мяжы гэтых розных дыялектаў у выніку ўзаемадзеяння паміж імі, а ў мінулым самі адносіліся да аднаго ці другога дыялекту.

Аднак сярэднебеларускія гаворкі ўзніклі ўжо адносна даўно. За перыяд свайго існавання ў іх развілося некалькі характэрных рыс, якія адсутнічаюць як у паўночна-ўсходнім, так і ў паўднёва-заходнім дыялекце. Так, напрыклад, у сярэднебеларускіх гаворках спарадычна ўжываецца форма творнага склону множнага ліку назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў на **-мы** (*дамáмы, стары́мы, маíмы*). Вядома, што на беларускай моўнай тэрыторыі скрозь распаўсюджаны формы на **-мі** (акрамя нямногіх гаворак на крайняй поўначы, дзе ёсць формы на **-м**). Сярэднебеларускім гаворкам уласціва форма на **-а** ў 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння з ненаціскным канчаткам: *ён хóдзя, вóзя, стáвя* (пры паўсюднай і агульнапашыранай форме на **-іць**: *ён хóдзіць, вóзіць, стáвіць*). У якасці характэрнай рысы сярэднебеларускіх гаворак можна адзначыць таксама форму з ненаціскным канчаткам **-аць** дзеясловаў I спражэння: *яны́ кáжаць, сы́пяць.* Агульнапашырана ў беларускіх гаворках форма з канчаткам **-уць**: *кáжуць, сы́пюць* у паўночна-ўсходнім дыялекце; *сы́плюць* — у паўднёва-заходнім. Нарэшце, як тыповую для

сярэднебеларускіх гаворак можна адзначыць форму адзіночнага ліку жаночага роду прошлага часу з націскам на аснове ад дзеясловаў I спражэння з націскам на асабовым канчатку: *нéсла, вéзла, пéкла* (параўн. *нясý — нясéш, вязý — вязéш*). На астатняй беларускай моўнай тэрыторыі прадстаўлена форма з націскам на канчатку **-а**: *няслá* ў паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім дыялектах (карта № 63).

Характэрна, што сярод гэтых рыс, спецыфічных для ўсіх або для большасці сярэднебеларускіх гаворак, адсутнічаюць фанетычныя рысы. Рысы марфалагічныя носяць вельмі прыватны характар, яны рэдка ахопліваюць паласу сярэднебеларускіх гаворак і ні ў якой меры не вызначаюць іх марфалагічнага ладу. Таму гэтыя гаворкі выдзяляюцца не як асобны дыялект, адрозны ад паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялекту, а як група пераходных гаворак. Аднак трэба падкрэсліць, што размежаванне пераходнай паласы гаворак і асноўных дыялектаў з'яўляецца адносным і да некаторай ступені ўмоўным. З цягам часу пераходная паласа гаворак, развіваючы свае спецыфічныя рысы (калі для гэтага ёсць адпаведныя гістарычныя ўмовы) і надаючы гэтымі рысамі асобнае аблічча сістэме на дадзенай тэрыторыі, можа пастунова перарасці ў асобны дыялект. І, наадварот, асобны дыялект (або гаворкі на частцы тэрыторыі гэтага дыялекту), страчваючы свае спецыфічныя рысы пад уздзеяннем другога дыялекту, можа, несумненна, ператварыцца ў пераходную групу гаворак. Іменна гэта і адбылося на пагранічнай паласе паўднёва-заходняга і паўночна-ўсходняга дыялектаў беларускай мовы.

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ ЗОНЫ

Ізаглосы рада моўных з'яў, пашыраных на вялікіх абшарах, выдзяляюць асобныя дыялектныя зоны. На ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» тэрыторыі выдзяляецца пяць зон: паўднёва-ўсходняя, паўночна-заходняя, сярэдняя, усходняя і заходняя (карты № 76—80).

### Паўднёва-ўсходняя зона

Пучкі ізаглос паўночна-заходняга напрамку, перасякаючы з поўдня на ўсход паўднёва-заходні дыялект, сярэднебеларускія гаворкі і паўночна-ўсходні дыялект, выдзяляюць паўднёва-ўсходнюю зону. Дыялектныя рысы, характэрныя для гэтай зоны, аб'ядноўваюцца ў асобныя пучкі (карты № 31, 33—36), якія выдзяляюць тэрыторыі рознай канфігурацыі з адпаведным комплексам моўных асаблівасцей. Адзначым некаторыя з іх:

1. Адрозніванне глухіх-звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі: *хлеб, го́рад, нож, ло́жка, ка́зка.*

2. Наяўнасць форм роднага склону адзіночнага ліку на **-е** прыналежных займеннікаў жаночага роду: *у мае́, у твае́, у свае́.*

3. Форма меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду з ненаціскным канчаткам **-ам**: *у жо́ўтам.*

4. Форма 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння з асновай на цвёрды зубны зычны або заднеязычны (г. зн. без чаргавання зычных): *ідо́м, нясо́м, стрыго́м, пяко́м.*

5. Варыянт формы 3-й асобы без t ад дзеяслова *быць*: *ё.*

6. Форма інфінітыва з суфіксам **-ці** дзеясловаў з асновай на заднеязычныя: *берагці́, стры́гці, пе́кці.*

7. Наяўнасць слова *я́блык* (мужчынскага роду).

8. Канцавы націск у словаформе *арахі́* (*варахі́, рахі́*).

9. Пашырэнне канструкцыі з прыназоўнікам *паўз* (*выз*) тыпу *бег паўз сад.*

10. Пашырэнне наступных слоў: *тава́р, худо́ба* — агульная назва жывёлы; *каша́ра* — назва агароджанага месца (у полі ці лесе) для жывёлы; *скарада́* — назва ўсходаў азімага жыта; *ка́піца* — назва прывязкі ў цэпе; *ёмка* — назва чапялы; *саха́* — назва часткі студні з жураўлём; *карэ́ц* — назва пасудзіны, якой чэрпаюць ваду з вядра; *адо́нак* (*адзёнак*) — назва падмосткаў пад стог.

## Паўночна-заходняя зона

Пучкі ізаглос паўднёва-ўсходняга напрамку (карты № 59, 61, 62), перасякаючы заходнюю ўскраіну паўночна-ўсходняга дыялекту і сярэднебеларускіх гаворак, выдзяляюць паўночна-заходнюю зону.

Моўную характарыстыку гэтай зоны складаюць наступныя рысы:

1. Пашырэнне слова *фасо́ль* (*фасо́ля*); (ДАБМ, карта № 44).

2. Ненаціскны канчатак [-'а] ў форме меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў: *у ха́ц'а, у л'е́с'а.*

3. Пераважнае пашырэнне інфінітыва *ісці́.*

4. Форма творнага склону з аднаскладовым канчаткам **-ой** назоўнікаў жаночага роду тыпу *гусь: γус'о́й, пуц'о́й.*

5. Наяўнасць указальнага займенніка *гэ́ны.*

6. Ужыванне дзеепрыслоўяў прошлага часу ў ролі выказніка тыпу *тут вада́* (*была*) *перасо́хшы.*

7. Пашырэнне наступных слоў: *дзірва́н* (*дзерва́н, дзярва́н*) — назва абложнай зямлі; *наро́г* — назва лемяша ў плу-

зе; *мэ́ндаль, мэ́ндлік, мэ́тлік, мэ́ндля* і вытворныя—назва малой укладкі снапоў у полі; *асве́р* і вытворныя ад яго: *свіршня́* (*свірсня́*), *перасве́р* — назва вагі ў студні з жураўлём; *ко́найка* — назва пасудзіны, якой чэрпаюць ваду з вядра; *варыўня́* — назва будынка для гародніны; *кашу́ля* 'сарочка'; *по́рткі* — назва верхніх мужчынскіх штаноў; *дзя́га* 'рэмень'; *абру́с, о́брус* — назва настольніка; *зі́мна* 'халодна'.

## Сярэдняя зона

Сярэдняя зона выдзяляецца ізаглосамі паўднёва-заходняга і паўночна-ўсходняга напрамкаў (карта № 64). Моўныя асаблівасці гэтай зоны вызначаюць нацыянальную спецыфіку беларускай мовы Да іх належаць:

1. Недысімілятыўнае аканне: *в*[*а*]*дá, в*[*а*]*ды́, тр*[*а*]*вá, тр*[*а*]*вы́.*
2. Наяўнасць толькі адной цвёрдай фанемы [р]: *ку*[*р*]*у́, за*[*р*]*á, сухá*[*р*], *ку*[*р*]*ы́ць,* [*р*]*э́заць, го́*[*р*]*ад, г*[*р*]*ом.*
3. Форма назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду на **-ы(-і)**: *малады́, но́вы, сі́ні.*
4. Пераважнае пашырэнне формы роднага склону множнага ліку з канчаткам **-аў(-яў)** назоўнікаў жаночага роду: *хáтаў, сцэ́наў, пе́сняў.*
5. Форма назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *уве́сь: усе́.*

## Усходняя зона

Група мерыдыянальных ізаглос заходняга напрамку, што праходзіць з поўначы на поўдзень па лініі на захад ад Полацка, Мінска і на ўсход ад Лунінца, па цэламу комплексу моўных рыс (карты № 65—68) выдзяляе ўсходнюю зону. Ёй уласцівы наступныя рысы:

1. Спалучэнне [шн] у слове *мало́шны.*
2. Указальныя займеннікі з [й]: *йе́ты, йе́ны.*
3. Асаблівасці націску ў асобных прыметніках: *мáлы,* (ДАБМ, карта № 198); *прасты́* (ДАБМ, карта № 199).
4. Пашырэнне прыназоўнікавых канструкцый: *к* з давальным склонам адушаўлёнага назоўніка тыпу *пайшо́ў к бáцьку; у* з родным склонам асабовага займенніка тыпу *ў мя́не балі́ць галавá* (ДАБМ, карта № 223); творны склон з прыназоўнікам *за* тыпу *ісці́ за вадо́й* (ДАБМ, карта № 214).
5. Пашырэнне слоў *хазя́ін, кузне́ц, бальны́, наво́з.*
6. Наяўнасць дзеяслова *брáць* (уборка ільну).
7. Назва будынка для захавання збожжа: *амбáр.*
8. Слова *мост* у значэнні 'падлога'.
9. Пашырэнне назвы вясельнага абраду: *свáдзьба* (ДАБМ, карта № 338).

## Заходняя зона

Мерыдыянальныя ізаглосы ўсходняга напрамку, што перасякаюць з поўначы на поўдзень усю моўную тэрыторыю Беларусі па лініі на ўсход ад Полацка, на захад ад Бабруйска і Мазыра, выдзяляюць заходнюю зону.

Заходняй зоне ўласцівы пераважна граматычныя і лексічныя асаблівасці (карты № 65—68):

1. Спалучэнне [чн] у слове *мало́чны.*
2. Указальныя займеннікі з прыстаўным [γ]: *γе́ты, γе́ны.*
3. Вымаўленне цвёрдага [с] у слове *сэ́рца.*
4. Наяўнасць форм вышэйшай ступені прыметнікаў з суфіксам **-ш-**: *вы́шшы, ні́шшы, глы́бшы* (ДАБМ, карта № 130).
5. Пашырэнне лічэбнікаў тыпу *паўтрацá, паўпятá, паўшастá, паўсямá* (ДАБМ, карта № 147).
6. Асаблівасці націску ў прыметніках: *малы́* (ДАБМ, карта № 198); *про́сты* (ДАБМ, карта № 199).
7. Ужыванне канструкцый тыпу *мне балі́ць галавá* (ДАБМ, карта № 223).
8. Пашырэнне прыназоўнікавых канструкцый: *да* з родным склонам назоўніка тыпу *пайшо́ў да бáцькі; па* з вінавальным склонам назоўніка тыпу *ісці́ па во́ду* (ДАБМ, карта № 214).
9. Наяўнасць канструкцый тыпу *было двух* (*трох, чатырох*) *брато́ў* (ДАБМ, карта № 208).
10. Пашырэнне слоў *гаспадáр, кавáль, хво́ры, гной, падло́га.*
11. Ужыванне дзеяслова *рваць* для абазначэння працэсу ўборкі ільну.
12. Назва будынка для захаванння збожжа: *сві́ран.*
13. Пашырэнне слова *вясе́лле* (ДАБМ, карта № 338).

Адзначаныя моўныя рысы, што пашыраны на тэрыторыі заходняй зоны, адлюстроўваюць агульнасць беларускіх гаворак з суседнімі мовамі. Так, канструкцыі з прыназоўнікамі *да* (*да брáта, да хáты*) уласцівы ўкраінскай і іншым славянскім мовам. Беспрыназоўнікавыя канструкцыі тыпу *мне балі́ць галавá* ўласцівы як славянскім, так і балтыйскім мовам, у прыватнасці літоўскай. Па характару вымаўлення асобных слоў, па наяўнасці асобных лексем заходняя зона зближаецца з украінскай, польскай і часткова з балтыйскімі мовамі.

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ АБ ГРУПОЎЦЫ ДЫЯЛЕКТАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З ГІСТАРЫЧНАГА ПУНКТУ ПОГЛЯДУ

Сучасная групоўка дыялектаў і гаворак беларускай мовы ёсць вынік працяглага гістарычнага развіцця. Ёй папярэднічала іншая групоўка, звесткі аб якой можна знайсці ў сучас-

ных дыялектных матэрыялах — сярод тых моўных з'яў, якія для сучаснай групоўкі гаворак аказаліся мала ці наогул неістотнымі, але якія аб'ядноўваюць сабою часам розныя дыялекты (ці групы гаворак) беларускай мовы або дыялекты беларускай мовы з суседнімі дыялектамі ці групамі гаворак рускай або ўкраінскай мовы.

Так, на поўначы Беларусі (на абмежаванай тэрыторыі на поўнач і паўднёвы захад ад Віцебска) у некаторай ступені і цяпер вылучаюцца гаворкі, якім уласцівы рысы, характэрныя для пскоўскай групы гаворак рускай мовы, а таксама і шырэй — для паўночна-заходніх гаворак рускай мовы. Маюцца на ўвазе такія формы, як *за дамáм, з людзя́м* (тв. скл. мн. л.), *на сцяны́, к сцяны́* (дав. і месн. скл. адз. л.), *ён пашоўшы,* рэлікты цокання. Полацка-віцебская поўнач Беларусі ў мінулым была цесна звязана з Пскоўскім і Наўгародскім краем. Іменна гэта часткова (праўда, вельмі невыразна) і адлюстроўваюць сучасныя беларускія гаворкі на паўночнай ускраіне Беларусі.

Акрамя таго, па цэламу раду істотных рыс паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы збліжаецца са смаленскім дыялектам, а на поўдні — з бранскімі гаворкамі рускай мовы. Дастаткова назваць тыя ці іншыя формы дысімілятыўнага акання, якія аб'ядноўваюць іх. Гэта, несумненна, сведчыць аб тым, што ў мінулым паўночна-ўсходні (полацка-віцебскі) дыялект беларускай мовы і смаленскі дыялект складалі адзінае цэлае беларускага паўночна-ўсходняга тыпу. Гэты дыялект з невялікімі мясцовымі варыянтамі быў распаўсюджан на Смаленскай і Полацкай землях. На поўдні (на поўдзень ад Магілёва) ён набліжаўся да бранскіх гаворак. Толькі пазней у сувязі з пэўнымі гістарычнымі ўмовамі частка гаворак гэтай вялікай тэрыторыі ўвайшла ў склад беларускай мовы, утварыўшы яе паўночна-ўсходні дыялект, а другая — у склад рускай мовы.

Супастаўленне палескіх гаворак з вельмі блізкімі да іх суседнімі ўкраінскімі гаворкамі сведчыць аб тым, што як адны, так і другія генетычна цесна звязаны і прадстаўлялі ў мінулым адзіны дыялектны масіў.

Уважлівае вывучэнне рыс, агульных цяпер або ў мінулым для палескіх гаворак беларускай мовы і яе паўднёва-заходняга дыялекту, сведчыць, што ў мінулым гэтыя дыялектныя адзінкі не выдзяляліся, а складалі адзінае цэлае. Прывядзём асноўныя факты. Паўднёва-заходняму дыялекту беларускай мовы, як і палескім гаворкам, вядомы падаўжэнне і дыфтангізацыя галосных «о» і «е» ў закрытых складах—змены [о] ў [$\widehat{\text{уо}}$], [е] ў [$\widehat{\text{ие}}$]. У далейшым дыфтонгі ў частцы гаворак змяніліся ў манафтонг [и], які змякчае папярэдні зычны. Параўн.

паўднёва-заходняе *кон'* або *куон'*, *п'еч* або *п'иеч* і палескае *к'ин'*, *п'ич*. Вядома, што [и] тут утварылася з [уо] і [ие]. Такім чынам, у паўднёва-заходнім дыялекце працэс не пайшоў так далёка, як у палескіх гаворках. Аднак несумненна, што апошнія ў мінулым прайшлі той этап развіцця, які мы наглядаем у паўднёва-заходнім дыялекце. Тое ж можна сказаць аб развіцці «ě». Параўн. на паўднёвым захадзе: *дз'иет, дз'иело, ц'иесто, л'ието* і ў палескіх гаворках: *д'ид, д'ило, т'исто, л'ито*. Галосны [и] ў палескіх гаворках утварыўся непасрэдна з [ие]. Такім чынам, палескія гаворкі, як і суседнія ўкраінскія гаворкі, у мінулым ведалі [уо] і [ие] на месцы «о» і «е» ў закрытых складах, а таксама [ие] на месцы «ě», г. зн. мелі рысы, якімі і цяпер характарызуюцца гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы.

З фанетычных асаблівасцей, агульных для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту і палескіх гаворак, важна адзначыць адрозніванне ў першых і другіх фанем [о] і [а] ў паслянаціскным канцавым адкрытым складзе. Параўн. *с'ено* або *с'ино, дз'ело* або *д'ило* і *мыло* (назоўнік), *мыла* (прошлы час дзеяслова адзіночнага ліку жаночага роду). Палескія гаворкі характарызуюцца оканнем, г. зн. адрозніваннем галосных няверхняга пад'ёму ва ўсіх ненаціскных складах, у тым ліку і канцавым адкрытым складзе. Што датычыцца паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, то ён наогул характарызуецца аканнем, г. зн. неадрозніваннем галосных няверхняга пад'ёму ў ненаціскных складах.

Аднак аканне не ахоплівае паслянаціскнога канцавога адкрытага складу, дзе захоўваецца прынцып окання. Параўн. у гаворках паўднёва-заходняга дыялекту: *малады́, старана́*, але *л'ето, л'ипа*. Гэта не выклікае сумнення ў тым, што аканне, якое не ахапіла сабою ў паўднёва-заходнім дыялекце канцавога паслянаціскнога адкрытага складу, у гэтым дыялекце з'яўляецца другасным, што яно ўзнікла ў больш позні перыяд пад уплывам акаючага паўночна-ўсходняга дыялекту. Інакш кажучы, сучаснаму тэрытарыяльнаму размеркаванню акання-окання непасрэдна папярэднічала такое становішча, пры якім на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту ўжо было распаўсюджана аканне, а на тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту і палескіх гаворак — оканне. Гэта ў сваю чаргу сведчыць аб адзінстве гаворак тэрыторыі сучасных дыялектаў паўднёва-заходніх і палескіх у мінулым.

Паўднёва-заходнія і палескія гаворкі і зараз аб'ядноўваюцца цэлым радам агульных марфалагічных, словаўтваральных, сінтаксічных і лексічных асаблівасцей. Вось некаторыя з іх:

1. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду з ненаціскным канчаткам **-а**: *сёла, во́кна*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *сёлы, во́кны.*

2. Двухскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з асновай на мяккі або зацвярдзелы зычны пры націскным [е]: *зямле́ю* (або *земле́ю*), *мяжэ́ю* (або *межэ́ю*). Параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *зямлёй, мяжо́й.*

3. Змяненне слова *бацька* па парадыгме мужчынскага роду: *без ба́цька, к ба́цьку, з ба́цьком;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *ба́цька, без ба́цькі, к ба́цьке, з ба́цькай.*

4. Захаванне старых форм назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот, тыпу *цяля́* (або *теля́*), *парася́* (або *порося́*); параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *цялёнак, парасёнак.*

5. Наяўнасць сцягнутых форм прыметнікаў: *но́ва ха́та, но́ву ха́ту*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *но́вая ха́та, но́вую ха́ту.*

6. Двухскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў: *з маладо́ю* або *з молодо́ю*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *з маладо́й, з маладэ́й.*

7. Захаванне [л’] пасля губных асновы ва ўсіх асабовых формах дзеясловаў I спражэння: *сыплю, сыплеш, сыплюць* або *сыплют;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *сыпіш, сыпюць.*

8. Форма 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў на **-мо**: *глядзімо́* або *глядімо́, ро́бімо;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *глядзі́м, ро́бім.*

9. Форма 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў з націскным [е] на канцы: *сядзіце́, несяце́*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *сядзіцё, нясіцё.*

10. Адрозніванне ненаціскных канчаткаў 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў I і II спражэнняў: *хо́дзяць* або *хо́дят* (*хо́дет*), *но́сяць* або *но́сят* (*но́сет*) і *ка́жуць, сыплюць* або *ка́жут, сыплют;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *хо́дзюць, но́сюць, ка́жуць, сыпюць.*

11. Наяўнасць у гаворках (непаслядоўна) формы будучага часу з дапаможным дзеясловам *іму: рабіць*(*і*)*му*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *бу́ду рабі́ць.*

12. Форма 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння з націскным галосным у канчатку, які ўзыходзіць да «ѣ»: у паўднёва-заходнім дыялекце *нясе́це, вядзе́це*; у палескіх гаворках *несі́це, веді́те* (галосны [и], які змякчае папярэдні зычны, узыходзіць да «ѣ» ў гэтых гаворках; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *нясі́ця, вядзі́ця*). Аднак у палескіх гаворках сустракаецца і форма з галосным [и] або [ы], які не змякчае папярэдняга зычнага і ўзыходзіць

к старому «и»: *несыте, ведыте,* г. зн. сустракаецца таксама форма, тоесная адпаведнай форме ў паўночна-ўсходнім дыялекце.

13. Наяўнасць слова *ёсць* з галосным [е]: *есць* (*есь*), *е*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *ёсць* (*ёсь*).

14. Форма прыметнікаў з суфіксам **-ач-**, утвораных ад назваў хатніх жывёл і птушак: *карóўлячы, свінячы, гусячы, курáчы*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *карóўі* або *карóўскі, свіны, гусіны.*

15. Канструкцыя тыпу *назубіў сярпá, знайшóў грыба;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *назубіў серп, знайшóў грыб.*

16. Рухомы націск у радзе назоўнікаў жаночага роду на **-а**: *гарá* (*горá*) — *гóру, вадá* (*водá*) — *вóду, нагá* (*ногá*) — *нóгу*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *гарá — гарý, нагá — нагý, вадá — вадý.*

17. Адрозніванне ў месцы націску асобных слоў: *вярбá* (*вéрба*), *зáгадка, тóўсты,* а таксама *прóсты*; у паўночна-ўсходнім дыялекце: *вéрба, загáдка, таўсты, прасты.*

18. Некаторыя лексічныя адрозненні: назвы латы — *лáта, лáтка*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце *лáпік* і іншыя ўтварэнні з тым жа коранем; назвы покуці: *пóкуць, пакýць, пакýцце*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце *кут*; назва кальца, якім прымацоўваюць касу да касільна — *напáрстак;* параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце *бáнька*; назвы качкі — *кáчка*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце *вýтка*; назвы сцяблоў і лісця бульбы ад *картóфл'-, картóпл'-: картафлянік, картаплянік* і інш.; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце ад кораня *бульб-: бульбóўнік, бульбянік;* назвы лемяша — *сашнік* у слуцка-мазырскіх гаворках і палескіх; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *лéмеш, лямéш.*

Побач з вялікай колькасцю рыс, якія аб'ядноўваюць паўднёва-заходні дыялект з палескімі гаворкамі, ёсць таксама асобныя рысы іншага характару. Напрыклад, палескім гаворкам у адрозненне ад паўднёва-заходняга дыялекту таксама, як і дыялекту паўночна-ўсходняму, уласцівы формы на **-ам, -ах** у давальным і месным склонах множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду: *столáм — стълáм, ножáм — нъжáм, у столáх — у стълáх, у ножáх — у нъжáх*; параўн. у паўднёва-заходнім дыялекце: *сталóм, нажóм; у сталóх, у нажóх.* Ёсць выпадкі, калі палескім гаворкам уласцівы рысы, якія адрозніваюць іх як ад паўночна-ўсходняга, так і ад паўднёва-заходняга дыялекту. Такой з'яўляецца, напрыклад, форма меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыметнікаў і займеннікаў з канчаткам **-ому**: *аб молодóму, на тóму*; параўн. у паўночна-ўсходнім дыялекце: *аб маладым, на тым*; у паўднёва-заходнім: *аб маладóм, на том.* Гэтыя

рысы не змяняюць агульных суадносін паміж дыялектамі і групамі гаворак на беларускай моўнай тэрыторыі.

Прыведзены моўны матэрыял не выклікае сумнення ў тым, што ў мінулым да развіцця акання ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту і да змены падоўжыўшыхся дыфтангічных [о] і [е] ([уо] і [ие]) у палескіх гаворках тыя і другія прадстаўлялі сабою адзіны дыялектны масіў.

Пры рэканструкцыі дыялектаў на тэрыторыі Беларусі ў эпоху, якая папярэднічала сучаснаму размеркаванню дыялектаў, варта ўлічыць сказанае аб гістарычным адзінстве паўднёва-заходняга дыялекту і палескіх гаворак, а таксама палескіх гаворак і гаворак суседніх раёнаў Украіны. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе, што сярэднебеларускія гаворкі прадстаўляюць сабою другаснае ўтварэнне, якое з'явілася ў выніку ўзаемадзеяння двух асноўных дыялектаў. У мінулым, калі гэта ўзаемадзеянне яшчэ не было шырокім (а ў эпоху феадалізму дыялекты былі больш адасоблены), граніцы паміж паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім дыялектамі былі больш выразныя — паміж імі не было паласы (часам шырокай) пераходных гаворак.

Такім чынам, у недалёкім мінулым дыялектная карта Беларусі была больш простай: яна складалася з двух масіваў — паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга, граніца паміж якімі перасякала тэрыторыю Беларусі з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Пры гэтым яны ахаплівалі частку суседніх тэрыторый РСФСР і УССР. У гістарычных адносінах яны адпавядалі двум буйным феадальным утварэнням — Смаленскай і Полацкай землям на поўначы і паўночным усходзе і Турава-Пінскаму княству і Чорнай Русі на поўдні і паўднёвым захадзе.

Дыялектная карта сучаснай тэрыторыі Беларусі ў яшчэ больш аддаленым мінулым — да з'яўлення на яе паўночным усходзе акання, якое прасоўвалася з усходу, з вярхоўяў Акі і Сейма, на захад і паўночны захад — зноў жа была іншай. На тэрыторыі БССР і ў сумежных раёнах РСФСР і УССР быў прадстаўлен смаленска-полацкі дыялект і дыялект Турава-Пінскага княства і Чорнай Русі. Смаленска-полацкі дыялект характарызаваўся: оканнем (у адрозненне ад акання, у той час уласцівага толькі гаворкам па верхняму і сярэдняму цячэнню Акі і верхняму Сейму), відаць, узрыўным [г], адсутнасцю падаўжэння і дыфтангізацыі [о] і [е] ў закрытых складах, а таксама дыфтангізацыі «ě», якое перад цвёрдым зычным пад націскам вымаўляецца, як [е] адкрытае, значная частка гаворак гэтага дыялекту, асабліва на поўначы (у раёнах Полацка і Віцебска), цокала. Дыялекту Турава-Пінскага княства былі ўласцівы оканне, фрыкатыўнае ўтварэнне [г], падаўжэнне і дыфтангізацыя [о] і [е] ў закрытых складах,

а таксама закрытае вымаўленне галоснага на месцы «ě» [ê], які затым дыфтангізаваўся («аě»>[͡ие]), адрозніванне афрыкат [ч] і [ц]. З поўначы смаленска-полацкі дыялект быў цесна звязан з сумежнымі з ім рускімі паўночна-заходнімі гаворкамі (Пскоў, Ноўгарад), а дыялект турава-пінскі прадстаўляў сабою генетычнае адзінства з суседнімі гаворкамі ўкраінскага Палесся.

Сучасны паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы прадстаўляе паўночную частку дыялекту старога Турава-Пінскага княства і Чорнай Русі. У пэўную эпоху паўночная частка тэрыторыі гэтага старога дыялекту ў эканамічных і палітычных адносінах аказалася больш цесна звязанай з Полацкам, Віцебскам і Смаленскам, чым з Туравам і Пінскам. У сувязі з гэтым дыялект вызначанай тэрыторыі не развіваў новаўтварэнняў, уласцівых паўднёвым абласцям, напрыклад манафтангізацыю падоўжыўшыхся дыфтонгаў (параўн. у паўднёва-заходнім дыялекце: *кôн'* або *к͡уон', п'͡иеч, л'͡ието* і палескія: *к'ин', п'ич, л'йто*). З другога боку, ён засвоіў рад рыс, што прыйшлі з паўночнага ўсходу, і сярод іх перш за ўсё аканне (і яканне), якое, аднак, не ахапіла паслянацыскнога адкрытага складу (параўн. *сталы́, малады́,* але *се́но*). У выніку таго што аканне ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту было засвоена ў пазнейшую эпоху, яно мае найбольш простую форму недысімілятыўнага акання без рэдукцыі ў кожным з пераднацыскных складоў. Параўн. у паўднёва-заходнім дыялекце: *малады́, вада́, вады́* пры *мълады́, въда́, вады́* ў паўночна-ўсходнім дыялекце.

Аднак усе гэтыя пытанні выходзяць за межы апісальнай дыялекталогіі, якой прысвечана гэта манаграфія. Яны могуць быць аб'ектам асобных даследаванняў гістарычнай дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы.

# 3

# ПЫТАННІ ГЕНЕЗІСУ ДЫЯЛЕКТАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## ГЕНЕЗІС ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІХ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК У ІХ СУВЯЗЯХ З ДЫЯЛЕКТАМІ ЗАХОДНІХ РАЁНАЎ РСФСР

Разгледжаны матэрыял паказвае, што на паўночным усходзе тэрыторыі Беларусі выдзяляецца некалькі пучкоў ізаглос, якія адлюстроўваюць межы моўных асаблівасцей паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы.

1. Полацка-кармянскі пучок, які праходзіць на тэрыторыі ўсходніх частак Віцебскай і Магілёўскай абласцей. Гэты пучок прадстаўляе сабою ўсходнюю групу ізаглос паўночна-ўсходняга дыялекту, якая аб'ядноўвае структурна разнастайныя моўныя асаблівасці. З іх у першую чаргу можна адзначыць ізаглосу вымаўлення мяккага [р], паслядоўнага ўжывання інфінітыву тыпу *н'ес'ц', п'еч* і формы назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду на **-й**: *малады́й, но́вый,* формы назоўнага склону множнага ліку займенніка *ус'и,* ужывання слова *свякро́ва* і інш. (карты № 37—44). Ізаглосы некаторых з'яў значна адступаюць на захад, набліжаючыся да астравецка-лоеўскага пучка, напрыклад ізаглоса паслядоўнага дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных, паслядоўнага вымаўлення [ъ], [ы] на месцы «о», «а» ў закрытых і адкрытых неканцавых складах пасля націску: *го́ръд, го́рыда, ду́мыў* і інш.

На тэрыторыі, акрэсленай полацка-кармянскімі ізаглосамі, выдзяляецца на паўночным усходзе (каля Віцебска) езярышчанска-ульска-лёзненскі пучок, які прадстаўляе пераважна фанетычныя і лексічныя асаблівасці. Найбольш характэрнымі для гэтага пучка з'яўляюцца ізаглосы дысімілятыўнага якання віцебскага тыпу пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных і звязаных з ім з'яў (стар. 112, 113; карта № 45).

2. Астравецка-лоеўскі пучок, які адступае ад полацка-кармянскага на захадзе, больш збліжаючыся з ім на паўднёвым усходзе. Гэты пучок прадстаўлен ізаглосамі рада

фанетыка-марфалагічных і лексічных асаблівасцей: ізаглосамі дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных (паслядоўнага і непаслядоўнага) і звязаных з дысімілятыўным аканнем з'яў, ізаглосамі ўжывання назоўнікаў словаўтваральнага тыпу *дзіцёнак, цялёнак,* слоў *вýтка, халóдна* і інш. (стар. 114—129; карты № 46—51).

3. Ашмянска-мінска-гомельскі пучок [1], які праходзіць з захаду на паўднёвы ўсход у цэнтральнай частцы Беларусі. Большая частка ізаглос гэтага пучка вызначае пашырэнне з'яў ненаціскнога вакалізму (стар. 130—132; карта № 52). Ізаглосы ў складзе пучка акрэсліваюць з поўдня тэрыторыю моўных асаблівасцей, якія з'яўляюцца канстытутыўнымі для гаворак паўночна-ўсходняй часткі Беларусі (дысімілятыўнае яканне і звязаныя з ім з'явы ненаціскнога вакалізму ў іншых ненаціскных пазіцыях: рэдукцыя ненаціскных галосных і рэалізацыя галосных няверхняга пад'ёму ў [и] ў розных ненаціскных пазіцыях, акрамя канцавога адкрытага складу). Дадзеныя ізаглосы з'яўляюцца крайнімі паўднёва-заходнімі межамі моўных дыялектных з'яў паўночна-ўсходняй часткі Беларусі. Яны падзяляюць гаворкі Беларусі на паўночна-ўсходнія і паўднёва-заходнія. Першыя характарызуюцца дысімілятыўным тыпам ненаціскнога вакалізму пасля мяккіх зычных, другія — недысімілятыўнымі тыпамі ненаціскнога вакалізму. Такое чляненне беларускіх гаворак на фанетычным узроўні дапаўняецца комплексам супрацьпастаўленых моўных рыс на ўзроўні марфалогіі і лексікі, напрыклад ужыванне дзеяслоўных форм тыпу *маўчэ́ць, крычэ́ць, драмлю́-дрэ́міш* і інш.

Усе гэтыя тры пучкі ізаглос збліжаюцца паміж сабою на паўднёвым усходзе, але разыходзяцца на паўночным захадзе. Яны прадстаўляюць сабою тэрытарыяльнае размеркаванне моўных з'яў у напрамку з усходу на захад і паўднёвы захад (заходні і паўднёва-заходні напрамкі). Пераход ад аднаго пучка да наступнага адбываецца ў большасці выпадкаў паступова; ізаглосы рада моўных з'яў займаюць прамежкавае становішча паміж пучкамі, у выніку чаго ствараюцца цяжкасці пры аднясенні некаторых ізаглос да той ці іншай групы. Моўныя асаблівасці гаворак на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту размяркоўваюцца нераўнамерна, у выніку чаго дадзеныя пучкі ізаглос прадстаўлены неаднолькавай колькасцю моўных рыс. Большым комплексам моўных асаблівасцей характарызуюцца полацка-кармянскі і астравецка-лоеўскі пучкі ізаглос. Ашмянска-мінска-гомельскі пучок як ускраінны прадстаўлен меншай колькасцю моўных рыс.

Неаднолькава размяркоўваюцца ізаглосы і ў межах асобных пучкоў: тут таксама наглядаецца градацыя моўных з'яў

[1] Тое ж, што ашмянска-гомельскі пучок (гл. стар. 130).

і паступовае іх размеркаванне ў напрамку з усходу на захад і паўднёвы захад. Многія з'явы паслядоўна рэалізуюцца на тэрыторыі, акрэсленай пэўнай ізаглосай, але непаслядоўна або спарадычна ўжываюцца ў межах наступнага (у напрамку на захад) пучка ізаглос. Так, у полацка-кармянскім пучку наяўнасць мяккага [р] адзначана толькі ва ўсходняй частцы паўночна-ўсходняй тэрыторыі; пашырэнне формы назоўнага склону множнага ліку займенніка *ус'и* ўжо некалькі адступае на захад у параўнанні з ізаглосай [р']. Паслядоўнае ўжыванне [й] у форме назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду: *малады́й, но́вый* зафіксавана на ўсходзе Беларусі, непаслядоўнае — да мяжы астравецка-лоеўскага пучка, спарадычнае — нават да ашмянска-мінска-гомельскага пучка (ДАБМ, карты № 110, 111). Паслядоўнае ўтварэнне форм інфінітыва *н'ес'ц', с'ес'ц', п'еч, б'арéшч* (ДАБМ, карты № 174, 175, 178, 179) адзначана ў межах полацка-кармянскага пучка, непаслядоўнае даходзіць да астравецка-лоеўскага пучка, спарадычнае — да ашмянска-мінска-гомельскага пучка; больш часта на гэтай тэрыторыі сустракаецца форма тыпу *п'еч* (ДАБМ, карта № 179). Паслядоўнае ўжыванне форм меснага склону назоўнікаў жаночага роду *к рак'é, к дуг'é* адзначана на паўночным усходзе, непаслядоўнае даходзіць да мяжы астравецка-лоеўскага пучка, спарадычнае — да ашмянска-мінска-гомельскага пучка (ДАБМ, карта № 66). Набліжаецца да астравецка-лоеўскага пучка (пры спарадычным ужыванні ў межах да ашмянска-мінска-гомельскага пучка) пашырэнне форм лічэбнікаў *двум'á, трым'á* (ДАБМ, карты № 145, 146), канструкцыі *вучы́цца на до́ктара* (ДАБМ, карта № 212), *саладзéйшы мёду* (*ад мёду, за мёду*) (ДАБМ, карта № 225). Да мяжы полацка-кармянскага пучка адзначана ўжыванне слоў *свякро́ва, каро́ўскі* (спарадычна сустракаецца і ў іншых месцах).

Моўныя з'явы езярышчанска-ульска-лёзненскага арэала і ўсходніх ускраін віцебска-магілёўскіх гаворак сустракаюцца пераважна да мяжы полацка-кармянскага пучка: дысіміляцыйнае яканне віцебскага тыпу пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных, ужыванне форм прыметнікаў на **-ей** (*к маладéй, маладéй*), утварэнне форм *стр'игў-стр'иг'éш, п'ак'éш,* ужыванне формы 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу *с'адз'óм, сп'óм.* Лексічныя асаблівасці, уласцівыя дадзенай групе гаворак, часткова сустракаюцца і за яе межамі (спарадычна або паралельна з іншымі лексемамі).

Астравецка-лоеўскі пучок ізаглос таксама не мае поўнага адзінства, бо і ў ім наглядаецца градацыя моўных з'яў у напрамку на паўднёвы захад і непаслядоўнае або спарадычнае ўжыванне рада з'яў да мяжы ашмянска-мінска-гомельскага пучка. У заходняй частцы некаторыя ізаглосы астравецка-

лоеўскай групы набліжаюцца да гэтага ўскраіннага пучка. Асабліва блізка да апошняга праходзяць ізаглосы спарадычнага праяўлення элементаў дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных і рэдукцыі галосных з адпаведнымі іх зменамі ў іншых перадняціскных пазіцыях (ДАБМ, карты № 1, 8, 9), непаслядоўнага ўжывання склонавых форм ад слоў тыпу *цялёнак* і форм 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння з канцавой фанемай [ц'] і без яе (амаль да Мінска), ужывання гэтых дзеяслоўных форм з канчаткам **-ць** або без яго ў залежнасці ад месца націску: *ідзе́ць, гуля́е.* Выходзяць за межы астравецка-лоеўскага пучка, набліжаючыся да ашмянска-мінска-гомельскага, ізаглосы ўжывання слоў *рашчы́на, вуго́л,* пашырэння дзеяслоўных форм з націскам на канчатку: *нясла́, вязла́* і інш.

Аналіз моўных асаблівасцей гэтых трох пучкоў ізаглос, непаслядоўнае або спарадычнае ўжыванне рада асаблівасцей полацка-кармянскага пучка да мяжы наступнага або ўскраіннага, а асаблівасцей астравецка-лоеўскага пучка ізаглос — да мяжы ашмянска-мінска-гомельскага дазваляе зрабіць вывад аб генетычных сувязях дадзеных пучкоў паміж сабою і аб агульнай іх прыналежнасці да паўночна-ўсходняга дыялектнага масіву.

Вялікую цікавасць пры высвятленні генетычных сувязей трох паўночна-ўсходніх пучкоў ізаглос прадстаўляюць асаблівасці сістэмы ненаціскнога вакалізму пасля зычных цвёрдых, мяккіх, шыпячых, [ц], [р]. Найбольш паслядоўнае дысімілятыўнае аканне пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных адзначана на ўсходзе паўночна-ўсходняга масіву, але ізаглосы гэтай з'явы выходзяць за межы полацка-кармянскага пучка, набліжаючыся да астравецка-лоеўскага. Ізаглосы непаслядоўнага дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных праходзяць у зоне астравецка-лоеўскага пучка. Аднак элементы дысімілятыўнага акання пасля гэтых зычных сустракаюцца на тэрыторыі да мяжы ашмянска-мінска-гомельскага пучка. Рэдукцыя галосных і іх змены ў іншыя галосныя ў далейшых складах перад націскам таксама паслядоўна адбываюцца на ўсходзе, менш паслядоўна — даходзячы да мяжы астравецка-лоеўскага пучка, спарадычна — за межамі апошняга. За межамі ашмянска-мінска-гомельскага пучка элементы дысімілятыўнага акання і рэдукцыі ненаціскных галосных не адзначаны. Рэдукцыя ненаціскных галосных у складах пасля націску, акрамя канцавога адкрытага, зафіксавана на значна меншай тэрыторыі, прыблізна ў зоне паслядоўнага дысімілятыўнага акання; непаслядоўна гэта з'ява адзначана і ў межах астравецка-лоеўскага пучка.

Дысімілятыўнае яканне пасля мяккіх зычных даходзіць на паўднёвым захадзе да мяжы ўскраіннага пучка ізаглос. Най-

больш паслядоўнае дысімілятыўнае яканне таксама адзначана на ўсходзе, дзе яно значна адыходзіць на захад ад мяжы полацка-кармянскага пучка. Непаслядоўнае дысімілятыўнае яканне даходзіць да мяжы ашмянска-мінска-гомельскага пучка і з'яўляецца адной з характэрнейшых рыс дадзенага пучка. З гэтай ізаглосай вельмі збліжаюцца (некалькі разыходзячыся на паўночным захадзе) ізаглосы вакалізму пасля мяккіх зычных з рэалізацыяй галосных няверхняга пад'ёму ў [и] ў іншых ненаціскных пазіцыях перад націскам і пасля націску. Тут утвараецца ўстойлівы пучок ізаглос з'яў ненаціскнога вакалізму пасля мяккіх зычных, які дапаўняецца некалькімі ізаглосамі марфалагічнага характару.

Паміж ізаглосамі дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных, якія адносяцца хутчэй да сярэдняга пучка, і ізаглосай дысімілятыўнага якання, якая ўваходзіць у ашмянска-мінска-гомельскі, існуе некаторая адлегласць — даволі значная на паўночным захадзе і звужаная на паўднёвым усходзе, дзе адбываецца збліжэнне ізаглос усіх трох пучкоў. Але разрыў паміж сістэмамі вакалізму пасля цвёрдых і мяккіх зычных (недысімілятыўнае аканне і дысімілятыўнае яканне) у гаворках гэтай тэрыторыі не з'яўляецца поўным, бо і тут наглядаюцца сляды дысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных (ДАБМ, карта № 1), якія праяўляюцца ў выглядзе вымаўлення [ӑ], зрэдку [ъ], [ы] або [у] на месцы «о», «а» ў пазіцыі перад націскным [а] пры ўжыванні [а] поўнага ўтварэння ў пазіцыі перад іншымі націскнымі галоснымі: *въда́ — выда́ — вӑда́, трӑва́, дъва́й — дува́й, кума́р, вуўка́; вады́, ваду́, вадо́й, травы́, траву́* і г. д.

Такое вымаўленне адзначана ў радзе гаворак паўночнай часткі Мінскай вобласці (Лагойскі, паўночная частка Мінскага, Барысаўскі, Бярэзінскі і інш. р-ны) [30, *48—51*]. Аслабленая і некалькі павышаная артыкуляцыя [а] ў пазіцыі перад націскным [а] не заўсёды ўлоўлівалася назіральнікамі, якія ў выніку гэтага часам устанаўлівалі недысімілятыўнае аканне там, дзе дысімілятыўнае аканне мела аслаблены характар або праяўлялася спарадычна. Таму можна меркаваць, што ў радзе разглядаемых гаворак недысімілятыўнае аканне адзначана ў большай ступені, чым існуе ў сапраўднасці (на гэта ў свой час указваў і М. Дурнаво [45, *69, 70*]). У некаторых гаворках непаслядоўны дысімілятыўны характар вакалізму пасля цвёрдых зычных устанаўліваўся толькі кантрольнымі экспедыцыямі. Спарадычна наглядаецца і рэдукцыя галосных у далейшых складах перад націскам.

На аснове аналізу сучаснага дыялектнага матэрыялу, картаграфавання з'яў ненаціскнога вакалізму, вывучэння фальклорна-дыялектных запісаў канца XIX—пачатку XX ст. можна меркаваць, што ў гаворках з дысімілятыўным яканнем і

недысімілятыўным аканнем у больш ранні перыяд таксама існавала дысімілятыўнае аканне, і паралелізм паміж сістэмамі вакалізму пасля цвёрдых і мяккіх зычных не быў парушан. Гэта меркаванне пацвярджаюць наступныя даныя:

1. Наяўнасць вакалізму з суіснаваннем дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных пры дысімілятыўным яканні ў гаворках заходняй часткі Віцебскай вобласці, аслабленне дысімілятыўнага акання і якання ў напрамку на захад і поўдзень, сціранне дысімілятыўнага акання і замена яго недысімілятыўным у гаворках на стыку гэтых тыпаў вакалізму (у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абл.; ДАБМ, карты № 1, 8).

2. Існаванне гаворак з недысімілятыўным аканнем пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных (паслядоўным і непаслядоўным) і дысімілятыўным яканнем; сляды дысімілятыўнага акання больш праяўляюцца ў вакалізме пасля зацвярдзелых зычных, чым пасля цвёрдых зычных.

3. Магчымасць вымаўлення [ă] ў пазіцыі перад складам з націскным [а] пры ўжыванні [а] поўнага ўтварэння перад астатнімі націскнымі галоснымі як след дысімілятыўнага прынцыпу вакалізму ў мінулым.

4. Спарадычнае з'яўленне [у] на месцы «о», «а» перад складам з націскным [а], а таксама і ў іншых ненаціскных пазіцыях як сведчанне рэдукцыі ненаціскных галосных у мінулым і рэштках гэтай з'явы ў сучасных гаворках.

5. Працэс развіцця недысімілятыўнага акання на месцы дысімілятыўнага, як паказваюць дыялектныя матэрыялы, актыўна працякае і ў наш час. Раней страчваюць дысімілятыўны характар сістэмы вакалізму пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных; больш устойліва прынцып дысіміляцыі ўтрымліваецца ў вакалізме пасля мяккіх зычных. Гэта наглядна праяўляецца не толькі ў гаворках на стыку дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання, але і ў гаворках перасяленцаў, якія трапілі на тэрыторыю недысімілятыўнага акання. У радзе запісаў канца XIX—пачатку XX ст. таксама зафіксавана захаванне дысімілятыўнага якання пры большым (або поўным) сціранні дысімілятыўнага акання (напр., у запісах Я. А. Ляцкага).

Рэшткі дысімілятыўнага акання адзначаны П. Бузуком каля Барысава, непаслядоўнае дысімілятыўнае аканне заўважана намі ў 10 км ад Барысава, у нас. п. Стайкі і ў паўночнай частцы Мінскага раёна [30, *566—569*]. П. Бузук і М. Дурнаво заўважалі сляды дысімілятыўнага акання ў некаторых населеных пунктах на стыку дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання ў гаворках б. Самахвалавіцкага, Асіповіцкага і Жлобінскага раёнаў [24, *149, 150*], дзе ў сучасных матэрыялах адзначана недысімілятыўнае аканне.

Аналагічныя працэсы больш хуткага разбурэння дысімілятыўнага прынцыпу ў сістэме вакалізму пасля цвёрдых зычных наглядаюцца і ў рускіх гаворках [119, *63*; 69, *58—60;* 97, *101, 102;* 52, *15, 24, 44, 51*]. Аб прычынах гэтага ёсць наступныя меркаванні: [ъ] як варыянт фанем [а] і [о] не супадае з варыянтамі іншых фанем; наяўнасць [ъ] абумоўлена толькі дзеяннем дысімілятыўнага прынцыпу. Парушэнне дысімілятыўнага прынцыпу ў жыздрынскім аканні выражаецца ў замене [ъ] гукам [а], што вядзе да страты дысімілятыўнага характару акання. Пры дысімілятыўным яканні варыянт «не **а**» супадае з [и], які ўласцівы фаналагічнай сістэме гаворак незалежна ад дысімілятыўнага характару вакалізму, і гэта затрымлівае разбурэнне дысімілятыўнай сістэмы якання [119, *63, 64*].

Акрамя гэтых агульных прычын, для беларускіх гаворак неабходна яшчэ адзначыць ролю суседніх гаворак з недысімілятыўным аканнем, пад уздзеяннем якога адбываецца сціранне дысімілятыўнага прынцыпу акання. Асабліва інтэнсіўна, закранаючы і сістэму вакалізму пасля мяккіх зычных, адбываюцца гэтыя працэсы на стыку дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання-якання. Акрамя ўзаемадзеяння гэтых тыпаў вакалізму, магло адбывацца і змешванне насельніцтва з абодвума тыпамі акання; некаторую ролю, магчыма, адыгрывала этнічнае змешванне насельніцтва ў больш ранні перыяд (на гэтай тэрыторыі калісьці былі пасяленні крывічоў і дрыгавічоў [133, *325, 326*].

З развіццём недысімілятыўнага акання на аснове дысімілятыўнага неабходна звязваць рад з'яў, якія адбываюцца пераважна на тэрыторыі непаслядоўнага недысімілятыўнага акання і дысімілятыўнага якання і ўказваюць на рэдукцыю ненаціскных галосных і дысімілятыўны характар вакалізму ў гэтых гаворках у больш ранні перыяд. Да такіх з'яў неабходна аднесці змену ненаціскных галосных верхняга пад'ёму ў [а]:

1. Найбольшае пашырэнне [а] на месцы «ы» (з «ы» і «и» пасля зацвярдзелых зычных) зафіксавана ў гаворках з непаслядоўным дысімілятыўным аканнем, пераважна на стыку дысімілятыўнага і недысімілятыўнага акання: *патáц', чатáц', балá, жаватнавóд* (ДАБМ, карты № 22, 23).

2. У паласе гаворак, якая праходзіць з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход у сярэдняй частцы Беларусі, наглядаецца пераважнае вымаўленне дзеяслоўнага суфікса **-ава-**: *раскáзаваці'* (ДАБМ, карта № 25). На тэрыторыі недысімілятыўнага акання (паслядоўнага і непаслядоўнага) і дысімілятыўнага якання гэта паласа вельмі шырокая; на стыку абодвух тыпаў акання на паўднёвым усходзе — вельмі вузкая.

3. Вымаўленне [а] на месцы «у» ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду

(*высókайу хáту, гарáчайу, рáнн'айу*) таксама адзначана ў паласе гаворак у сярэдняй частцы Беларусі, прыблізна па лініі Паставы—Мінск—Гомель[1]. На значнай тэрыторыі ўтварэнне [а] на месцы «у» супадае з пашырэннем суфікса **-ава-**. Такімі ж прычынамі можна растлумачыць з'яўленне [а] на месцы «у» ў дзеяслоўных формах тыпу *ц'йснаў, к'йнала* ў групе паўночнагродзенскіх і суседніх паўночнамінскіх гаворак.

Першапачатковае развіццё недысімілятыўнага акання на аснове дысімілятыўнага пачалося, напэўна, на стыку гаворак з дысімілятыўным і недысімілятыўным тыпамі акання недзе ў межах ашмянска-мінска-гомельскага пучка ізаглос, недалёка ад сучаснай мяжы дысімілятыўнага якання. У сучасных гаворках тут наглядаецца поўнае недысімілятыўнае аканне з вельмі слабымі слядамі рэдукцыі ненаціскных галосных пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных і рэшткамі дысімілятыўнага якання. Дысімілятыўнае аканне ў гэтай зоне было перыферыяй дадзенага тыпу вакалізму на тэрыторыі Беларусі і таму раней, чым у іншых месцах, пачало выцясняцца пад уздзеяннем суседніх гаворак з недысімілятыўным аканнем. Дысімілятыўнае яканне разбуралася больш павольна, і гэта прывяло да парушэння структурнага паралелізму паміж сістэмамі вакалізму пасля цвёрдых і мяккіх зычных.

Такім чынам, сучасныя дыялектныя матэрыялы даюць падставу лічыць, што на тэрыторыі паміж астравецка-лоеўскім і ашмянска-мінска-гомельскім пучкамі ізаглос, дзе існуе дысімілятыўнае яканне, у больш ранні перыяд дысімілятыўны характар быў уласцівы і сістэме вакалізму пасля цвёрдых зычных, у выніку чаго і ў разглядаемых гаворках існаваў структурны паралелізм паміж сістэмамі вакалізму пасля цвёрдых і мяккіх зычных, як гэта наглядаецца ў сучасных гаворках з паслядоўным дысімілятыўным аканнем і яканнем на ўсходзе тэрыторыі Беларусі. Дысімілятыўны характар усёй сістэмы ненаціскнога вакалізму, які быў характэрны для папярэдняга перыяду, яшчэ больш падмацоўвае думку аб паўночна-ўсходнім характары гаворак гэтай тэрыторыі.

Працэс выцяснення дысімілятыўнага акання недысімілятыўным з'ўляецца адносна познім і даволі актыўна працякае ў сучасных гаворках. Без даследавання помнікаў пісьменнасці немагчыма дакладна ўстанавіць перыяд яго зараджэння, але можна лічыць, што выцясненне дысімілятыўнага акання недысімілятыўным магло адбывацца толькі пасля развіцця поўнага недысімілятыўнага акання ў паўднёва-заходніх гаворках, пад уздзеяннем якога распачалося развіццё недысімілятыўнага акання на аснове дысімілятыўнага.

---

[1] Матэрыял падаецца паводле рабочай карты аўтара раздзела; на карце № 124 ДАБМ пад знакам **-айу** аб'ядноўваюцца канчаткі **-айу, -ыйу, -ъйу.**

Паказальна тое, што даныя аб развіцці сістэмы ненаціскнога вакалізму дапаўняюцца і пацвярджаюцца матэрыяламі аб пашырэнні дыялектных дзеяслоўных форм у беларускіх гаворках.

Ізаглоса паслядоўнага ўжывання дзеясловаў I спражэння з канчаткам **-ць** набліжаецца да астравецка-лоеўскага пучка (ДАБМ, карты № 148, 149). Даволі блізка да ашмянска-мінска-гомельскага пучка праходзіць ізаглоса непаслядоўнага ўжывання форм 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння з канчаткам **-ць**: *н'ас'éц', б'арéц'* (ДАБМ, карты № 148, 149). На поўдзень ад першай ізаглосы праходзіць паласа гаворак з наяўнасцю форм 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння без **-ць**: *кóс'а, л'ýб'а* (ДАБМ, карта № 153), якія пераважна ўтвараюцца пры паслядоўным ужыванні формы 3-й асобы дзеясловаў I спражэння без **-ць**. На поўнач ад гэтых гаворак выдзяляецца паласа з суіснаваннем форм 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння без **-ць** (*хóдз'а, л'ýб'а*) і форм дзеясловаў I спражэння з націскам на аснове (*в'áжа, м'éл'а*) пры захаванні **-ць** у дзеясловах I спражэння з націскам на канчатку (*идз'éц', н'ас'éц'*).

Ізаглосы форм без **-ць** ад дзеясловаў II спражэння вызначаюць межы пераходных гаворак, у якіх размежаванне форм у залежнасці ад спражэння перакрываецца размежаваннем форм з **-ць** і без **-ць** у залежнасці ад тыпу дзеяслоўнага націску. Гэтыя формы без **-ць** (у параўнанні з формамі без **-ць** у паўднёва-заходніх гаворках) з'яўляюцца пазнейшымі, якія ўзніклі неарганічна ў выніку міждыялектнага ўзаемадзеяння (паслядоўнага ўжывання форм з **-ць** для дзеясловаў I і II спражэнняў у паўночна-ўсходніх гаворках і форм I спражэнця без **-ць** для паўднёва-заходніх гаворак). Больш паслядоўнае ўтварэнне форм без **-ць** ад дзеясловаў I і II спражэнняў сведчыць аб большай даўнасці гэтага працэсу ў разглядаемых гаворках; тэрытарыяльна такія гаворкі знаходзяцца бліжэй да паўднёва-заходняга дыялекту. Бліжэй да паўночна-ўсходняй групы гаворак наглядаецца няўстойлівае ўжыванне форм з **-ць** і без **-ць** ад дзеясловаў абодвух спражэнняў. Па характару афармлення 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння (*нясé—нясéць*) гэтыя гаворкі з'яўляюцца пераходнымі ад паўночна-ўсходніх да паўднёва-заходніх. Формы дзеясловаў II спражэння без **-ць** адрозніваюць гэтыя гаворкі ад двух асноўных груп і з'яўляюцца пазнейшым марфалагічным утварэннем [79, *125—127*, *132—134*].

Наяўнасць гаворак з рознымі тыпамі суіснавання форм з **-ць** і без **-ць** ад дзеясловаў I і II спражэнняў сведчыць аб доўгай, шматвяковай гісторыі кантактавання гаворак з розным афармленнем дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку.

Заўважана, што ізаглосы форм 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў з **-ць** і без **-ць** не супадаюць з палітычнымі аб'яднаннямі феадальнага часу, а хутчэй збліжаюцца з этнічнымі межамі — межамі пашырэння плямёнаў. Сучасныя формы 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў з **-ць** і без **-ць** адносяцца да такіх дыялектных рыс, якія непасрэдна не звязаны з гісторыяй беларускай мовы, а атрыманы як моўныя рысы, уласцівыя дыялектным групам больш ранняга перыяду — часу племянных аб'яднанняў [79, *130, 135*].

Такім чынам, асаблівасці ненаціскнога вакалізму і ўжывання пэўных дзеяслоўных форм у сучасных паўночна-ўсходніх гаворках сыходзяцца ў тым, што ўказваюць на падзел гаворак на тэрыторыі Беларусі ў ранні феадальны перыяд на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні масівы, які ўзнік на аснове дыялектнага адрознення гаворак старажытных усходнеславянскіх плямёнаў. Рад звестак ускосна ўказвае на лінію ўзаемадзеяння старых дыялектных масіваў недзе ў межах сучаснага ашмянска-мінска-гомельскага пучка. У сучасных гаворках на гэтай мяжы захавалася толькі частка ізаглос ненаціскнога вакалізму ў пазіцыі пасля мяккіх зычных паўночна-ўсходняга паходжання. Большасць з'яў ненаціскнога вакалізму, а таксама і дзеяслоўных форм, рад марфалагічных і лексічных ізаглос ужо адыходзяць да мяжы астравецка-лоеўскага пучка, але спарадычнае ўжыванне гэтых з'яў сустракаецца і на дадзенай тэрыторыі. Улічваючы паказанні ненаціскнога вакалізму і дзеяслоўных форм, можна меркаваць, што пад уздзеяннем паўднёва-заходняга дыялектнага масіву адбываецца выцясненне паўночна-ўсходніх асаблівасцей на поўнач і ўсход.

Што датычыцца іншых паўночна-ўсходніх дыялектных асаблівасцей, якія на тэрыторыі паміж ашмянска-мінска-гомельскім і астравецка-лоеўскім пучкамі або апошнім і полацка-кармянскім сустракаюцца непаслядоўна або спарадычна, то пытанне аб іх абмежаваным ужыванні можа вырашацца па-рознаму ў кожным канкрэтным выпадку: або яны з'яўляюцца толькі рэшткамі з'яў, выцесненых пад уздзеяннем паўднёва-заходніх моўных рыс, або, магчыма, яшчэ не атрымалі належнага развіцця.

Гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы знаходзяцца ў цеснай сувязі з гаворкамі, якія пашыраюцца далей на ўсход у межах РСФСР. Большасць ізаглос паўночна-ўсходняга дыялектнага масіву беларускай мовы працягваецца за дзяржаўнай граніцай БССР, але акрэсліваюць яны неаднолькавыя арэалы: адны з'явы пашыраюцца далёка на ўсход, другія абмяжоўваюцца тэрыторыяй, блізкай да грані-

цы БССР; адны з'явы ўласцівы паўночна-ўсходняму дыялекту беларускай мовы, другія — беларускай мове ў цэлым.

Паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы з усходу мяжуе з паўднёвым дыялектам рускай мовы. Тыповымі ізаглосамі паўднёвარускага дыялекту з'яўляюцца: фрыкатыўнае вымаўленне задненёбнай звонкай фанемы [γ], неадрозніванне галосных няверхняга пад'ёму ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых зычных (аканне), пашырэнне словаформы *у жене̂* (род. скл. адз. л.), ужыванне [т'] у формах 3-й асобы дзеясловаў, пашырэнне дзеяслова *браць* для абазначэння працэсу ўборкі ільну: *лён беру́т* і інш. [119, *235*, карта 2].

Можна адзначыць яшчэ некалькі асаблівасцей паўднёвага дыялекту, выдзеленых на аснове двухчленных адпаведных з'яў: неадрозніванне галосных няверхняга пад'ёму як асноўны прынцып структуры ненаціскнога вакалізму, прадстаўленае як у складах перад націскам, так і ў паслянаціскных складах пасля цвёрдых і мяккіх зычных, наяўнасць толькі цвёрдых [ж] і [ш], ужыванне ненаціскнога канчатку **-ы** (у частцы гаворак побач з канчаткам **-а**) у форме назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду з цвёрдай асновай (*п'а́тны, о́кны*), прыналежнасць да мужчынскага роду і ўтварэнне з суфіксам **-онак** назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот (*цыпл'о́нак, реб'о́нак*), утварэнне формы назоўнага склону множнага ліку гэтых назоўнікаў ад іншай асновы з канчаткам **-ы** (*цыпл'а́ты, реб'а́ты*), наяўнасць форм роднага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку асабовых і зваротнага займенніка (*мене́, тебе́, себе́*), супадзенне ненаціскных канчаткаў 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў I і II спражэнняў: *де́лай(ут), но́с'(ут), п'и́ш(ут), ду́ш(ут),* ужыванне дзеясловаў *до́р'иш, бро́н'иш, ко́т'иш* і інш. [119, *239, 240*]. Пераважная большасць гэтых з'яў уласціва і паўночна-ўсходняму дыялекту беларускай мовы.

Некаторыя з'явы, выходзячы на ўсход за межы Беларусі, пашыраны толькі ў заходняй дыялектнай зоне, якая ахоплівае заходнія часткі паўночнага, паўднёвага і сярэдняга дыялекту рускай мовы. Да такіх з'яў неабходна аднесці: наяўнасць (*j*) у формах указальнага займенніка *та́йа, тайе́, ты́йе* і інш., форма займенніка 3-й асобы адзіночнага ліку мужчынскага роду з прыстаўным [j] (*йон*), канчатак **-ы** ў назоўным склоне множнага ліку займенніка 3-й асобы: *оны́* (*йены́, йаны́*). Ізаглосы гэтага пучка праходзяць на ўсход ад Ржэва, Вязьмы, Масальска, Жыздры, Сеўска [119, *242—244*, карта 3].

Далёка на ўсход за дзяржаўную граніцу БССР выходзіць ізаглоса пашырэння розных тыпаў або разнавіднасцей якання, звязаных з дысімілятыўнасцю (дысімілятыўных, умерана-

дысімілятыўных, асімілятыўна-дысімілятыўных і дысімілятыўна-ўмераных), якая праходзіць на поўнач ад Невеля, Белага, на ўсход ад Вязьмы, Масальска, Арла, Ліпецка, Варонежа і г. д., і ізаглоса ўжывання канчатка **-ого** ў прыметніках і займенніках роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду [119, *252*].

На тэрыторыі першага пучка паўднёва-заходняй дыялектнай зоны гаворак рускай мовы праходзяць усходнія ізаглосы ўжывання форм ускосных склонаў адзіночнага ліку займенніка *адна́* з канчаткам **-ей**: *у адне́й, к адне́й,* наяўнасці прыстаўнога [в] перад пачатковымі галоснымі [о] і [у]: *ву́тка, во́сень* (прыблізна па лініі Ржэў—Калуга—Ялец). Для гэтых гаворак характэрна дысімілятыўнае аканне і яканне розных тыпаў, ужыванне форм меснага склону адзіночнага ліку з націскным і ненаціскным канчаткам **-у** як ад адушаўлёных, так і ад неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду (*на быку́, на сто́ліку*), наяўнасць галоснага ў першым складзе перад націскам перад пачатковым злучэннем санорнага з наступным зычным (*иржи́, ильну́*), утварэнне [w] на месцы [в] у канцы склада і слова, магчымасць вымаўлення галоснага [у] адпаведна [в] у пачатку слова (*уну́к, у до́ме*), паслядоўная замена [ф] на [х], [хв] (*торх, хвакт*), пашырэнне вінавальнага склону адзіночнага ліку з націскам на канчатку ў пэўных групах назоўнікаў жаночага роду (*руку́, ваду́, старану́*) [119, *254—256,* карта 8].

На тэрыторыі, акрэсленай другім пучком ізаглос паўднёва-заходняй дыялектнай зоны гаворак рускай мовы, распаўсюджаны наступныя з'явы: лабіялізацыя [а] і [о] ў першым складзе перад націскам (*л(у)па́та, поп(у)ла́м, рук(у)ва́*), выпадкі ўжывання [у], [ъ], [а] адпаведна фанеме [и(ы)] у словах *широ́кий, живо́т, была́,* пэўныя асаблівасці ў вымаўленні асобных слоў: *шийа, ип'а́т', л'е́жа, ад'е́жа, кры́шиш* і інш. Тут праходзяць ізаглосы пашырэння словаформ *ніко́га, нічо́га, ры́йу, мы́йу,* слова *дачка́,* словаформы *йо, йос', йост',* чаргавання [е]—[и] ў інфінітыве і формах цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння з шыпячым у аснове: *кры́чет', ды́шет'—кричи́ш, ды́шиш* і інш. [119, *256—259,* карта 9).

На ўсходзе да паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы непасрэдна прымыкае заходняя група паўднёвага дыялекту рускай мовы, якая з усходу абмяжоўваецца прыблізна лініяй Белый—Ельня—Рослаўль—Трубчэўск. На тэрыторыі заходняй групы паўднёвага дыялекту рускай мовы пашыраны ўскраінныя часткі арэалаў з'яў, якія характэрны ў асноўным для гаворак беларускай мовы: вымаўленне [р] адпаведна [р'] у асобных словах, ужыванне [шч] адпаведна [ш], утварэнне [т'], [д'] з моцным свісцячым прыгукам як [ц'], [дз'], ужыванне форм загаднага ладу дзеясловаў *пі, бі, лі,* слова *гуро́к,* злу-

чэння *на хáту* 'гара' і інш. Пры гэтым арэалы рада з'яў, спецыфічных для беларускай мовы, часцей за ўсё пашыраны ў паўднёва-заходняй частцы гэтай групы, у раёнах Навазыбкава, Старадуба [119, *272*].

Гаворкам заходняй групы паўднёвага дыялекту рускай мовы ўласцівы наступныя рысы: дысімілятыўнае яканне жыздрынскага тыпу, выпадкі лабіялізацыі галосных [о] і [а] ў другім складзе перад націскам *(п(у)болéв)*, адрозніванне цвёрдых (або паўмяккіх) [ц] і [ч], ужыванне [ў] адпаведна [л] у пэўных умовах *(даў, воўк)*, утварэнне форм назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з націскам на канчатку (*гарады́, браты́, лясы́*), форма назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў з націскнымі канчаткамі **-ый**, **-ей** (*малады́й, маладэ́й, плахéй*) і ўказальнага займенніка *тэй*, ужыванне лічэбнікаў *два, тры, чаты́ры* з формамі назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду (*тры сталы́*), пытальнай часціцы *ці*, пашырэнне канструкцыі *пайсці ў я́гады,* слоў *вілкі, вілы* 'вілкі', *чаплá, лáпік, лáпка, лáпіна* 'латка', *лáпіць, кут, бурáк, мурáшкі, хавáць* і інш. [119, *272, 273*].

На аснове пашырэння ізаглос рада з'яў у заходняй групе паўднёварускіх гаворак выдзяляюцца паўночная (прыблізна да Смаленска на поўдні) і паўднёвая часткі. Для апошняй характэрна некаторае пашырэнне арэалаў тых з'яў, якія з'яўляюцца беларускімі па сваёй асноўнай прыналежнасці і могуць служыць для размежавання гаворак рускай і беларускай моў [119, *272, 273*].

Сучасныя паўночна-ўсходнія гаворкі (паводле выдзеленых трох пучкоў ізаглос) займаюць прыблізна паўночна-ўсходнюю палавіну тэрыторыі Беларусі. Па раду фанетыка-граматычных і лексічных асаблівасцей ім выразна супрацьпастаўляецца паўднёва-заходні дыялектны масіў.

Гістарычныя і археалагічныя даныя даюць некаторы матэрыял для разумення гісторыі такога дыялектнага падзелу, бо тэрытарыяльнае размеркаванне дыялектных адрозненняў нашага часу прадстаўляе сабою след пройдзеных народам гістарычных шляхоў. Таму разуменне сучаснай дыялектнай дыферэнцыяцыі становіцца немагчымым без уліку гістарычных даных. Археалагічныя даныя ў асноўным пацвярджаюць паказанні летапісаў аб рассяленні ўсходнеславянскіх плямёнаў і дазваляюць даволі дакладна вызначыць тэрыторыю, якую займалі асобныя плямёны ў розныя перыяды іх развіцця, даюць звесткі аб больш ранніх перыядах, чым адзначаныя ў пісьмовых крыніцах, дапамагаюць вызначыць тэрыторыі неславянскіх суседзяў — балтаў, фінаў і інш. [119, *27*].

Пры супастаўленні запісаў летапісаў, археалагічных матэрыялаў і складзеных на іх аснове карт рассялення ўсходнеславянскіх плямёнаў з сучаснымі картамі размеркавання важнейшых пучкоў ізаглос моўных дыялектных з'яў выяўляецца, што тэрыторыя паўночна-ўсходніх гаворак, акрэсленых крайнім, ашмянска-мінска-гомельскім пучком ізаглос, прыблізна адпавядае тэрыторыі летапісных полацкіх і часткі смаленскіх крывічоў, на паўднёвым усходзе — заходняй часткі радзімічаў. «Рѣчьки ради, яже втечеть въ Двину, имянемъ Полота, от сея прозвашася полочане... ...От них же кривичи, иже сѣдять наверхъ Волги. а на верхъ Двины и на верх Днѣпра, их же градъ есть Смоленьскъ; туда бо сѣдять кривичи». Радзімічы «сядзелі» па р. Сожу, паведамляе летапіс, яны займалі басейн Сожа (акрамя вярхоўя) з Іпуццю і Бесяддзю, на захадзе даходзілі да Дняпра, на ўсходзе размяшчаліся ў водападзеле басейнаў Сожа і Дзясны [123, *28*].

Пры параўнанні сучаснай карты БССР з картай рассялення ўсходнеславянскіх плямёнаў IX—XI стст. (ДАБМ, карта I, укладка № 1) тэрыторыя палачан прыблізна акрэсліваецца наступнымі сучаснымі населенымі пунктамі: Расоны—Глыбокае—Вілейка—Івянец—Заслаўль — каля Смалявіч — Барысава—на поўдзень ад Крупак—да Друці—па Друці (на ўзроўні Барысава) да Магілёва—Шклова—каля Оршы—на поўдзень ад Лёзна. На захад ад гэтай лініі адзначана тэрыторыя змешаных літоўска-палачанскіх пасяленняў, на ўсходзе — смаленскіх крывічоў, на поўдні — дрыгавічоў, на паўднёвым усходзе — радзімічаў. Тэрыторыя радзімічаў, паводле гэтых жа карт, акрэсліваецца прыблізна наступнай лініяй: Мсціслаўль — на поўдзень каля Чавусаў і Быхава — да Друці, далей па Дняпру — на Буда-Кашалёва і Уваравічы — на поўдзень ад Гомеля, далей у межах РСФСР.

Але супастаўленне тэрыторыі полацкіх, часткі смаленскіх крывічоў і радзімічаў з тэрыторыяй сучаснага паўночна-ўсходняга дыялекту не можа быць праведзена механічна. Ужо тое, што сучасныя паўночна-ўсходнія гаворкі склаліся на аснове двух племянных груп — крывічоў [1] і радзімічаў, сведчыць аб тым, што паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы складваўся ў больш позні час, не ў племянны, а ў феадальны перыяд, калі сталі выпрацоўвацца агульныя рысы дадзенага дыялекту. А гэта азначае, што непасрэдна звязваць межы сучасных дыялектаў з старажытнымі ўсходнеславянскімі плямёнамі нельга.

У перыяд з XI па XIV ст. Полацкая зямля займала значна

[1] Крывічы полацкія і смаленскія былі вельмі блізкія паміж сабою; паводле археалагічных даных, мяжа паміж імі была даволі няпэўная, але ўвогуле набліжалася да палітычнай мяжы, якая раздзяляла Полацкае і Смаленскае княствы [123, *26*].

большую тэрыторыю, дасягаючы на поўдні Нёмана і мяжуючы з Турава-Пінскай зямлёй, на ўсходзе даходзячы да вусця Бярэзіны, далей па Дняпру ўверх амаль да Копыся, затым мяжа ішла на поўнач даволі блізка каля сучаснай граніцы БССР. З усходу да яе прымыкала Смаленскае княства, уключаючы паўночную частку зямлі радзімічаў (да Чачэрска і Крычава). Паўднёвая частка тэрыторыі радзімічаў уваходзіла ў гэты час у Чарнігаўскае княства( ДАБМ, карта II).

Змешванню патомкаў смаленска-полацкіх крывічоў і радзімічаў на тэрыторыі Беларусі спрыялі войны, паходы князёў і каланізацыйныя перамяшчэнні насельніцтва. Сувязі палачан са смаленцамі ўвесь час не спыняюцца. У канцы XI — пачатку XII ст. Полацк актыўна наступае ўбок Смаленска. Полацкая зямля ў гэты час даволі блізка даходзіла да Смаленска [90, *155, 165*], некаторыя ўсходнія гарады неаднаразова пераходзілі з рук у рукі, напрыклад Друцк, Копысь і інш. У сваю чаргу Смаленскае княства захоплівала землі былых радзімічаў (ДАБМ, карта II).

Пад напорам татар на тэрыторыю былых радзімічаў і часткова смаленскіх крывічоў рушыла частка насельніцтва з чарнігаўскіх і северскіх земляў. Патомкі дрыгавічоў значна прасоўваюцца на поўнач і пачынаюць асіміляваць сабе паўднёвыя групы патомкаў крывічоў [64, *111, 172*]. У выніку гэтых зрухаў насельніцтва і ўзаемных уздзеянняў патомкаў смаленска-полацкіх крывічоў і радзімічаў паступова выпрацоўваюцца агульныя рысы паўночна-ўсходняга дыялекту. Пад уздзеяннем суседніх паўднёвых этнічных груп — патомкаў дрыгавічоў, часткова драўлян і севяран пачынаюць складвацца рысы, характэрныя ў далейшым для беларускай мовы. Гэтаму садзейнічала палітычнае аб'яднанне насельніцтва ў межах адной дзяржавы.

У сярэдзіне XIV ст. амаль уся тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Усходняя частка сучаснай Магілёўскай вобласці некаторы час адносілася да Смаленскага, а землі ад Чачэрска на поўдзень — да Чарнігаўскага княстваў (ДАБМ, карта II). Але пазней і гэтыя землі ўвайшлі ў склад Літоўскай дзяржавы. З 1569 г. па ўмовах Люблінскай уніі Беларусь была ў складзе Рэчы Паспалітай. У сярэдзіне XVII ст. усходнія межы беларускіх земляў у складзе Рэчы Паспалітай вельмі блізка праходзілі каля сучаснай дзяржаўнай граніцы БССР (ДАБМ, карта III). За імі на ўсходзе знаходзіліся Смаленская і частка Віцебскай зямлі, на паўднёвым усходзе — Чарнігава-Северская зямля (ДАБМ, карта III). Такія ўсходнія межы Беларусі праіснавалі да канца XVIII ст., акрэсліваючы з усходу тэрыторыю фарміруючайся беларускай народнасці. Аб'яднанне ў межах адной дзяржавы на працягу значнага перыяду

паўночна-ўсходняга беларускага дыялекту з паўднёва-заходнім спрыяла выпрацоўцы агульных рыс беларускай мовы.

Але сувязі са Смаленшчынай і Рускай дзяржавай увесь час падтрымліваліся. У час войнаў не раз змянялася дзяржаўная граніца на ўсходзе: смаленскія землі то ўключаліся ў Літоўскае княства, то выходзілі з яго. Некаторыя гарады, напрыклад Полацк з 1563 г., Віцебск, Орша з 1562 г., пэўны час знаходзіліся ў складзе Рускай дзяржавы [57, *114*]. У канцы XVI— пачатку XVII ст. наглядаюцца масавыя ўцёкі беларускіх сялян у Расію і на Украіну [57, *114, 121*]. У сваю чаргу на тэрыторыю Беларусі накіроўваліся ўцекачы з Маскоўскай Русі. Яны сяліліся галоўным чынам на Гомельшчыне (у раёне Веткі) і на Віцебшчыне: у сярэдзіне XVIII ст. у Магілёўскай губерні налічвалася каля 40 тысяч рускіх, у Віцебскай губерні, як адзначае Я. Ф. Карскі, у 1891 г. была 91 тысяча старaабрадцаў [63, *181*, *182*]. Перасяленнем рускага насельніцтва з тэрыторыі паўднёварускіх гаворак можна растлумачыць наяўнасць астраўкоў асімілятыўна-дысімілятыўнага якання, ікання, данскога і суджанскага якання і іншых асаблівасцей рускай мовы на поўдні Гомельшчыны (ДАБМ, карта № 4).

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі ўз'ядналася з Рускай дзяржавай (ДАБМ, карта IV). К гэтаму часу асноўныя рысы беларускай мовы і яе буйных дыялектаў ужо сфарміраваліся. Граніцы Беларусі паводле гэтых трох падзелаў існавалі кароткі час і значнага ўплыву на развіццё беларускіх дыялектаў зрабіць не маглі.

З усіх разгледжаных палітычных, адміністрацыйных і этнічных межаў на беларускай тэрыторыі значную ролю ў гісторыі фарміравання паўночна-ўсходняга дыялекту, напэўна, адыгралі паўднёва-заходнія межы рассялення крывічоў і радзімічаў. Такім чынам, тэрытарыяльнае пашырэнне сучаснага паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы ў некаторай ступені адпавядае тэрыторыі раннефеадальных дзяржаў (княстваў, земляў), створаных на базе старажытных аб'яднанняў крывічоў (полацкіх і часткова смаленскіх) і заходняй часткі радзімічаў. Смаленскае і Полацкае княствы з'яўляліся прамымі наследнікамі племянных саюзаў, іх тэрыторыя ў значнай ступені адпавядала абласцям смаленскіх і полацкіх крывічоў [120, *62*]. Крывічы былі буйнейшай этнічнай усходнеславянскай групай. Яны займалі вялікую тэрыторыю ляснай паласы ва ўсходняй Еўропе: ад Верхняга Панямоння на захадзе да Кастрамскога Паволжа на ўсходзе і ад Пскоўскага возера на поўначы да вярхоўяў Сожа на поўдні. Змешванне патомкаў крывічоў і радзімічаў на тэрыторыі Беларусі, аб'яднанне часткі іх у межах Смаленскага княства, каланізацыйныя перамяшчэнні смаленцаў на тэрыторыю ра-

дзімічаў стварылі ўмовы для выпрацоўкі рыс паўночна-ўсходняга дыялекту.

Значнае пашырэнне ізаглос паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы за межы БССР на ўсход у пэўнай меры неабходна паставіць у сувязь з распаўсюджаннем этнічна блізкага насельніцтва на гэтай тэрыторыі (патомкаў крывічоў і радзімічаў) пры аднолькавым у асноўным субстраце[1], што спрыяла ў значнай меры развіццю агульных моўных асаблівасцей на гэтай тэрыторыі. Звяртае ўвагу той факт, што найбольшая колькасць ізаглос паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да сучаснай дзяржаўнай граніцы БССР з усходу (заходняя група паўднёвага дыялекту рускай мовы). У гэтай зоне праходзілі дзяржаўныя граніцы Літоўскага княства і Рэчы Паспалітай, якія аддзялялі з усходу тэрыторыю фарміруючайся беларускай мовы. Па меры далейшага перамяшчэння на ўсход колькасць рыс, агульных з паўночна-ўсходнім дыялектам беларускай мовы, змяншаецца.

## ПАЎНОЧНАЯ ГРУПА ГАВОРАК У СУВЯЗІ З ГАВОРКАМІ ПСКОВА І НОЎГАРАДА

На тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту выдзяляецца паўночная група гаворак (карта № 74), якая акрэсліваецца свірска-лепельска-віцебскім пучком ізаглос (карта № 54). Па сваёй структуры гэта група гаворак з'яўляецца неаднароднай. На ўсходзе яе перакрывае віцебска-магілёўская група гаворак, на захадзе — полацкая.

Акрамя асаблівасцей, якія характарызуюць паўночную групу і ўвайшлі ў названы пучок, гэтым гаворкам уласцівы асаблівасці, якія цяжка акрэсліць ізаглосай, таму што яны або не маюць кампактнага распаўсюджання, або размяшчаюцца на частцы тэрыторыі паўночнай групы гаворак.

Аднак гэтыя асаблівасці з'яўляюцца істотнымі пры характарыстыцы гаворак разглядаемай групы. Сюды трэба аднесці такія з'явы, як дысімілятыўнае яканне віцебскага тыпу, супадзенне форм роднага і давальнага склонаў назоўнікаў жаночага роду на **-а (-ja)** у форме на **-ы** або **-е** (*сцяны́* або *зямле́, радне́*). Апошняя форма больш характэрна для назоўнікаў з мяккай асновай. Часам яе можна сустрэць і ў формах назоўнікаў з цвёрдай асновай (*пад'ехаў к Масквé* і *да Масквé*). Характэрна для разглядаемых гаворак і скланенне назоўнікаў на **-а** з цвёрдай асновай па мяккай разнавіднасці. На ўсходзе

---

[1] Паводле археалагічных даных, у Верхнім Падняпроўі жылі ўсходнія балты, выходзячы за межы сучаснай Беларусі на ўсходзе і даходзячы да Прыпяці на поўдні [139, *5*; 120 (мал. 5.), *297*].

выдзеленай тэрыторыі адзначаны гаворкі, у якіх супадаюць формы давальнага і творнага склонаў.

Моўныя асаблівасці, якія адзначаны на тэрыторыі полацка-віцебскіх гаворак, не замыкаюцца на акрэсленай тэрыторыі, а пераходзяць граніцу Беларусі і працягваюцца ў гаворках РСФСР і рускіх і беларускіх гаворках у Літве. З мэтай высвятлення характару моўных асаблівасцей паўночнай групы гаворак спынімся на некаторых з іх.

Замена [ч] на [ц] у разглядаемых гаворках адзначаецца непаслядоўна. Часцей яна назіраецца ў суфіксе **-ічк-**, хоць і тут нярэдка варыянты **-ічк-** і **-іцк-** ужываюцца паралельна. Такая замена ў корані слова і іншых суфіксах сустракаецца радзей: *ца́ста, цы́сты, цаго́, пе́цка, каца́лка, пец, дацка́* [88, *149*]. Ізаглоса пашырэння гэтай з'явы выходзіць за межы Беларусі на поўначы.

Наяўнасць [ц] на месцы [ч] сустракаецца ў паўднёва-заходніх раёнах Віцебскай вобласці і асобных раёнах Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. Аднак тут гэта з'ява ў большасці выпадкаў уласціва асобным словам. Напрыклад, у Талачынскім раёне Віцебскай вобласці [ц] на месцы [ч] адзначаецца ў словах *ту́таცька, та́мацька, цяпе́рацька, цыгуно́к.* У Бялыніцкім, Шклоўскім, Магілёўскім раёнах Магілёўскай вобласці і на паўночным усходзе Мінскай — у слове *бічу́к — біцу́к.* У Брэсцкай вобласці [ц] на месцы [ч] адзначаецца ў суфіксе **-ічк-** і ў асобных словах. Але такая замена ў суфіксе **-ічк-** на Брэстчыне не фанетычная з'ява. Суфікс **-іцк-** узыходзіць да памяншальнай або непамяншальнай формы на **-іц-+-к-**: *рукавіцка, травіцка.*

Замена [ч] на [ц]—з'ява вельмі старажытная. Яна з'яўляецца характэрнай асаблівасцю наўгародска-пскоўскіх і полацка-смаленскіх гаворак. М. Карынскі, аналізуючы пскоўскія помнікі XV ст., адзначае, што замена [ч] на [ц] сустракаецца амаль ва ўсіх рукапісах [60, *178*]. Вывучаючы смаленска-полацкія гаворкі XIII—XV стст., А. І. Сабалеўскі ўказвае, што яны здаўна маюць агульную з наўгародскімі і пскоўскімі гаворкамі ўзаемную замену [ч] і [ц] [132, *20*]. Наогул цоканне на пэўных тэрыторыях фіксуецца, пачынаючы з XI ст. [99, *6*].

Ф. Сярэбранікаў у сваёй працы «Звычаі і абрады сялян Себежскага павета» прыводзіць частушкі, дзе паслядоўна адзначаецца цоканне: *сердзецушки, перакладоцки, круцынушка, отголосоцки, цымъ* і г. д. [127, *82—85, 88*].

У больш позні час даследчыкі гаворак Пскоўшчыны адзначаюць таксама наяўнасць цокання, але ўжыванне яго ўжо абмежавана. Вывучаючы гаворкі Невельскага павета, Н. Зорын [53, *41*] заўважае, што цоканне (і чоканне) характэрна не для ўсяго павета, а для раёнаў, пагранічных з Беларуссю. Прычым гэта з'ява ахоплівае ў асноўным рад аднатыпных слоў.

Пераважае яна ў паўночнавялікарускіх гаворках і асабліва пашырана ў пскоўскіх. Е. Р. Раманаў і П. Бузук паўднёвую мяжу цокання праводзяць па р. Каспле [117, *70, 71;* 24, *12*].

Захаваўшыся да нашага часу ва ўсіх названых вышэй гаворках, цоканне адзначаецца ў іх у рознай ступені. У полацка-віцебскіх гаворках яно мае ў асноўным больш паслядоўнае адлюстраванне ў суфіксе **-ічк-**, радзей фіксуецца ў іншых выпадках. За межамі Беларусі гэта асаблівасць характэрна для гаворак паўночна-заходняй зоны рускай мовы. Амаль паслядоўна цоканне прадстаўлена тут у формах дзеепрыслоўяў тыпу *ушóццы* [119, *248*]. Даследчыкі гэтай асаблівасці на тэрыторыі рускіх гаворак, сумежных з беларускімі, адзначаюць, што цоканне ў гаворках абмяжоўваецца лексічна [53, *41*; 119, *248*].

Такім чынам, з'ява цокання, агульная для часткі беларускіх і рускіх гаворак, утварае адзіны арэал. Моўную агульнасць на гэтай тэрыторыі можна тлумачыць гістарычнымі сувязямі полацкіх, смаленскіх, пскоўскіх і наўгародскіх земляў. Распаўсюджанне цокання займае тэрыторыю старажытнага рассялення крывічоў і славен, а таму яго можна разглядаць як племянную дыялектную рысу. У Беларусі больш паслядоўна цоканне захоўваецца на тэрыторыі полацка-віцебскіх гаворак і затухае ў напрамку паўднёва-ўсходняй мяжы крывічоў — на паўночным усходзе Магілёўскай вобласці. Р. І. Аванесаў адзначае, што цоканне з'яўляецца адной з нешматлікіх рыс, якія ўзыходзяць да дагістарычнага часу. Перажылі гэту з'яву славене і значная частка крывічоў (за выключэннем усходніх) у выніку напластавання фінскага элемента [1, *125*].

Акрамя фанетычных асаблівасцей, паўночная група вызначаецца радам уласцівых толькі дадзенай групе марфалагічных з'яў. На разглядаемай тэрыторыі пашыраны формы прыналежнага займенніка *íхны, éйны, ягóны,* якія з'ўляюцца новаўтварэннямі і адзначаюцца ў рускай, беларускай і ўкраінскай мовах.

Такі тып займенніка ў множным ліку ўжываецца і ў астатніх гаворках Беларусі, але ў іх ён суіснуе з формай указальна-асабовага займенніка (*іх*). Прычым прыналежная форма з цвёрдай асновай (*íхны*) зафіксавана толькі на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту. На астатняй тэрыторыі аснова мяккая (*íхн'и*).

Паўночная група гаворак характарызуецца агульнасцю асабовых канчаткаў тэматычных і нетэматычных дзеясловаў. Па тыпу *нясём, ідзём* у гэтых гаворках пашыныры ўтварэнні *ядзём, дадзём.* Такія формы нетэматычных дзеясловаў з'яўляюцца новаўтварэннямі.

У паўночнай групе гаворак пашырана слова *агурэ́чнік* як назва лісця агуркоў. З поўдня ў гэту групу пранікае слова

*агурóчнік* у тым жа значэнні і пераходзіць на тэрыторыю рускіх дыялектаў. Апошняя назва на разглядаемых тэрыторыях беларускіх і рускіх гаворак з'яўляецца пазнейшай па паходжанню.

У беларускіх гаворках для назвы касільна адзначаны словы з коранем *кас-*. Па дыялектах назвы адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі. На разглядаемай тэрыторыі ўсе словы ўзыходзяць да ўтвараючай асновы *касав-*, ад якой пры дапамозе розных суфіксаў, большасць якіх распаўсюджана і за межамі паўночнай групы гаворак, утвараюцца назвы касільна. Такім з'яўляецца суфікс **-ілн-**: *касавíлна*.

Шырока вядомы ў беларускай мове суфікс **-ішч-** з'яўляецца адным са сродкаў пры утварэнні назвы касільна. Аднак ён займае нязначную тэрыторыю на ўсходзе разглядаемага арэала.

Такім жа шырока вядомым у беларускай мове, асабліва ў антрапаніміцы, з'яўляецца суфікс **-іл-** (*касавíла*). Утварэнні назвы касільна ад асновы *касав-* пры дапамозе гэтага суфікса адзначаюцца ў заходніх раёнах паўночнай групы гаворак.

Не ўсе суфіксы, пры дапамозе якіх утвараецца назва касільна, з'яўляюцца агульнапашыранымі. Так, суфікс **-дл-** распаўсюджаны на нязначнай тэрыторыі ў заходніх раёнах паўночнай групы гаворак. На поўдзень ад ізаглосы( у гаворках па-за межамі разглядаемай тэрыторыі) ён займае невялікі масіў на захад да Бярэзіны.

Па свайму паходжанню гэта старажытны суфікс, які ў мове ўсходніх славян замяніўся на **-л-** або **-іл-**. Адны даследчыкі беларускай мовы лічаць суфікс **-дл-** польскім па паходжанню. Другія адзначаюць, што ў беларускай мове ёсць дзве групы слоў з суфіксам **-дл-**. Да першай адносяцца словы, якія з'яўляюцца лексічнымі запазычаннямі з польскай мовы. Другая група слоў — гэта назоўнікі, утвораныя на беларускай глебе [6, *90*].

Назоўнікі з суфіксам **-дл-**, якія абазначаюць назву прылады працы, вядомы не толькі паўночнай групе гаворак, але сустракаюцца і ў гаворках на поўдзень ад выдзеленых раёнаў. Суфікс **-дл-** пераходзіць межы Беларусі на поўначы. Адзначаецца ён у пскоўскіх гаворках і даволі пашыран тут на месцы суфікса **-л-** у дзеясловах (*ведлú*). У гэтых гаворках магчымы пераход групы **-дл-** у **-гл-** (такая замена вядома і беларускай мове, напр. *вянглíна* [6, *90*], але гэта з'ява не атрымала пашырэння ў беларускай мове).

З даўніх часоў суфікс **-дл-** вядомы польскай, літоўскай і латышскай мовам (магчымы ў варыянце **-гл-**). А. І. Сабалеўскі [130, *232—234*] выказаў меркаванне аб тым, што паколькі суфікс **-дл-** мае найбольшае пашырэнне ў літоўскай мове, то па паходжанню ён з'яўляецца літоўскім. Ва ўсходнеславянскіх

гаворках ён з'явіўся пад уплывам літоўскай мовы. Наяўнасць суфікса **-дл-** у пскоўскіх гаворках А. І. Сабалеўскі тлумачыць тым, што гэтыя гаворкі былі некалі суседнімі з літоўскімі і іншымі славянскімі і маглі быць пераходнымі.

Такім чынам, гаворкі пскоўскіх продкаў былі пераходнымі ад усходніх гаворак агульнаславянскай мовы да паўночна-заходніх. Значыць, можна меркаваць, што наяўнасць суфікса **-дл-** у рускіх, беларускіх і польскіх гаворках мае агульнае і вельмі старажытнае паходжанне. Для канчатковага вырашэння пытання неабходна мець археалагічныя даследаванні аб засяленні разглядаемых тэрыторый. Магчыма, што ва ўсходніх славян (рускіх і беларусаў) і заходніх (палякаў) быў адзін продак — група крывічоў, якая па нейкіх прычынах не прайшла на поўнач [120, *58*, *59*]. Наяўныя археалагічныя даныя сведчаць, што ў канцы І тысячагоддзя н. э. намячаецца перамяшчэнне насельніцтва паміж Пскоўшчынай і Верхнім Прынямоннем [120, *59*].

Да ліку суфіксаў, вядомых паўночнай групе беларускіх гаворак і пскоўскім гаворкам, адносіцца **-ьј-**. Назва касільна, утвораная ад асновы *касав-* і суфікса **-ьј-** (*касавьё*), мае значнае пашырэнне ў пскоўскіх гаворках.

Назва цапільна ў паўночнай групе беларускіх гаворак паходзіць ад утвараючай асновы *цапав-* і тых жа суфіксаў, што выступаюць у назве касільна (**-ьј-**, **-іл-**, **-іль-н-**, **-дл-**, -**ішч**-): *цапаўё, цапавіла, цапавільна, цапавідла, цапавішча.*

Для назвы рукаяткі касы на разглядаемай тэрыторыі ўжываюцца два словы — *пáлец* і *палю́х* (*палю́к*). Слова *пáлец* распаўсюджана ў гаворках на поўнач ад дзяржаўнай граніцы БССР. Яно зафіксавана ў пскоўскай і паўночнай частцы заходняй групы рускіх гаворак. Матэрыялы Пскоўскага абласнога слоўніка паказваюць, што слова *пáлец* шырока бытуе ў гаворках Пскоўшчыны. Слова *палю́к* (або *палю́х*) у асноўнай картатэцы гэтага слоўніка не сустракаецца. Суфікс **-ук** у рускай літаратурнай мове адсутнічае. У беларускай мове ён лакалізуецца ў заходняй частцы паўночнай групы гаворак, у раёнах, блізкіх да Літвы. На гэтай жа тэрыторыі адзначаюцца і формы з суфіксам **-ук** у словах, што абазначаюць назвы маладых істот,— *цялю́к, гусю́к.* Можна меркаваць, што гэты суфікс трапіў у беларускія гаворкі з літоўскай мовы і з цягам часу страціў сваё першапачатковае значэнне памяншальнасці. Варыянт суфікса **-ух** (*палю́х*), відаць, з'явіўся пад уплывам слоў тыпу *свіню́х, катý́х.* У польскай мове суфікс **-ух** захаваў значэнне памяншальнасці (*paluch*) [151, *391*].

У паўночнай групе гаворак для назвы франтона зафіксаваны словы з коранем *лоб-* (*лоб, лабя́к, залóбак, налóбнік*). Часта лексічныя варыянты з гэтым коранем суіснуюць са словамі *франтóн, закóт, пакóт* і інш. Часткова такое суіснаванне

можна тлумачыць тым, што, як адзначае Е. Бломквіст [19, *97*, *98*], назва залежыць ад характару пабудовы. Франтон, зроблены з бярвенняў, у велікарусаў называюць *поруб, лобяк, залобник,* у беларусаў — *пакóт, закóт.* Пры страпільнай тэхніцы франтон застаецца свабодным і яго зашываюць дошкамі. Пры такой пабудове ў рускіх франтон завецца *щит, лбище*, у беларусаў — *шчыт, зашчы́так, лоб.* Такая дыферэнцыяцыя назвы адзначана ў пскоўскіх і беларускіх гаворках.

Мы не маем магчымасці ўстанавіць паходжанне разгледжаных слоў, але разнастайнасць словаўтваральных сродкаў і лексем у гаворках паўночнай групы можна тлумачыць рознымі па часе напластаваннямі.

Адной з характэрных асаблівасцей гаворак паўночнай групы з'яўляецца дысімілятыўнае яканне віцебскага тыпу. Тут выступаюць два астраўкі (Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Міёрскі р-ны на захадзе і Шумілінскі, Гарадоцкі, Віцебскі, Лёзненскі, Сенненскі — на ўсходзе; ДАБМ, карта № 4), гаворкі якіх адрозніваюцца характарам вымаўлення ненаціскных [о], [е], [а]. Вымаўленне гэтых галосных не пад націскам залежыць ад якасці наступнага націскнога галоснага. У гаворках Верхнядзвінскага, Браслаўскага і Міёрскага раёнаў гэты тып якання адзначаецца непаслядоўна (гл. стар. 113).

Рад асаблівасцей аналізуемага арэала — з'явы, якія адзначаюцца менш паслядоўна (і, трэба меркаваць, з'яўляюцца рэшткамі былой граматычнай сістэмы або заходзяць з суседніх тэрыторый). Да ліку іх адносіцца супадзенне канчаткаў роднага, давальнага і меснага склонаў у формах на **-ы** назоўнікаў жаночага роду на **-а(-ja)**: *да сцяны́, на вайны́, к вясны́, у галавы́.* Такі канчатак магчымы як пад націскам, так і не пад націскам: *на бярóзы, у хáты, к хáты.* На гэтай жа тэрыторыі адзначаюцца формы роднага, давальнага і меснага склонаў з канчаткам **-е:** *у радне́, да зямле́, аб хáце.* Пры гэтым цвёрдая аснова па аналогіі з назоўным склонам у часткі гаворак захоўваецца: *прóсіць ядэ́, прынясі вадэ́, не хачу вайнэ́,* але і *да Маскве́.*

Ужыванне агульных форм у родным, давальным і месным склонах адзначаецца ў прымыкаючых да паўночнай групы рускіх гаворках. Пашырэнне форм з канчаткам **-е** з'яўляецца характэрнай рысай паўднёвых раёнаў пскоўскіх гаворак. Сістэматычна канчатак **-е** адзначаецца ў раёне воз. Селігер [74, *23*].

Сінкрэтызм форм роднага, давальнага і меснага склонаў даследчыкі лічаць асаблівасцю паўночнавелікарускіх гаворак [119, *289*]. Вядома гэта з'ява паўднёвавелікарускім і заходнім смаленскім гаворкам. Агульныя канчаткі ў родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а(-ja)** адзначаюцца даследчыкамі помнікаў рускай мовы [60, *189*].

Вядома, што супадзенне форм роднага, давальнага і меснага склонаў назоўнікаў жаночага роду на **-а(-jа)** фіксуецца наўгародскімі помнікамі, пачынаючы з XI ст. К XIV ст. сінкрэтызм форм ужо поўнасцю развіўся. Такім чынам, узнікненне гэтай з'явы адносіцца да агульнарускага перыяду.

У помніках старабеларускай пісьменнасці гэта з'ява не выяўлена. Можна меркаваць, што супадзенне форм роднага, давальнага і меснага склонаў у беларускіх гаворках паўночнай групы з'явілася пад уплывам рускіх гаворак, магчыма, яшчэ ў агульнарускі перыяд.

Адной з марфалагічных асаблівасцей гаворак усходніх раёнаў паўночнай групы з'яўляецца супадзенне форм давальнага і творнага склонаў, што ўласціва ўсім іменным формам (*з двум карзінам, пайшлі за грыбáм, с крáсным платкáм, з закрытым óкнам*). Гэта асаблівасць не займае суцэльнай тэрыторыі. Часта форма творнага склону з канчаткам **-м** суіснуе з іншымі канчаткамі гэтага склону. На тэрыторыі рускіх гаворак такое супадзенне даволі пашырана, асабліва ў паўночнарускіх гаворках (за выключэннем крайніх паўночных раёнаў) [119, *98*]. Значна распаўсюджана гэта з'ява ў гаворках рускіх перасяленцаў на тэрыторыі Літвы [27, *308*].

У лінгвістычнай літаратуры ўказваецца, што рускае насельніцтва Літвы і Латвіі з'яўляецца выхадцамі з Пскоўскай зямлі.

Супадзенне форм давальнага і творнага склонаў характэрна таксама для латышскіх і некаторых літоўскіх гаворак. У літоўскіх гаворках супадзенне давальнага і творнага склонаў адзначана даволі шырока ў словах з асновай на **-о(-jо)**. Пры іншых асновах склоны адрозніваюцца. Шырока прадстаўлена супадзенне ў латышскіх гаворках [94, *70, 71*]. Такім чынам, супадзенне форм давальнага і творнага склонаў ахоплівае значны арэал рускіх, беларускіх, літоўскіх і латышскіх гаворак.

Многія даследчыкі ўказваюць, што ў мове ўсходніх славян гэта з'ява мае паўночнарускую аснову. Можна меркаваць, што ў рускай і беларускай мовах з'яўленне агульных форм у давальным і творным склонах было выклікана ўплывам былой катэгорыі парнага ліку. З другога боку, гэта з'ява ў пэўных гаворках звязана з адпадзеннем канцавых галосных у слабым становішчы.

Разгледжаны матэрыял паказвае, што гаворкі паўночнай групы, уваходзячы ў склад паўночна-ўсходняга дыялекту Беларусі, разам з тым маюць рад рыс, агульных з суседнімі гаворкамі за межамі беларускай тэрыторыі. Моўныя асаблівасці, неаднародныя па часе ўзнікнення і паходжанню, могуць быць растлумачаны ў сувязі з гісторыяй народа. У Полацкім Падзвінні крывічы пасяліліся ў VII—VIII стст. [120, *59*]. З поўначы іх суседзямі былі пскоўскія крывічы. У VII—IX стст. на

тэрыторыю крывічоў пранікаюць іх суседзі славене. Апошнія даходзяць да Верхняга Падняпроўя. Такое суседства і перасяленне адбілася і на мове—славене, якія пасяліліся на тэрыторыі фіна-ўгорскіх плямёнаў, неслі з сабою фінскі элемент — цоканне.

Захаванне старажытных асаблівасцей на поўначы Беларусі і моўная агульнасць паўночнай групы гаворак з гаворкамі Пскоўшчыны і Наўгародчыны тлумачыцца гістарычнымі абставінамі. Тэрыторыя паўночных беларускіх гаворак аб'ядноўваецца агульнасцю археалагічных культур. Аддаленне ад цэнтра садзейнічала захаванню цэласнасці гэтых абласцей. Гісторыкі ўказваюць: «На поўначы, у аддаленні ад палітычнага жыцця Прычарнамор'я, ход гістарычнага жыцця быў адносна мерным і бесперапынным, і племянныя групы захавалі свае этнічныя асаблівасці і сваю племянную цэласнасць на працягу многіх стагоддзяў» [138, *246*, *247*]. У прыватнасці, Полацкае княства захоўвала сваю самастойнасць на працягу доўгага часу і, безумоўна, па сваіх этнічных і моўных асаблівасцях было бліжэй да непасрэдных суседзяў — паўночных і заходніх рускіх земляў. Таму па больш старажытных дыялектных рысах паўночная група гаворак аб'яднана з гаворкамі Пскова і Ноўгарада і мае некаторае адрозненне ад гаворак паўночнага ўсходу Беларусі.

Разгледжаны матэрыял паказвае, што ўзнікненне асобных моўных асаблівасцей на тэрыторыі паўночнай групы гаворак адбывалася ў розныя часы. Да ліку найбольш старажытных з'яў можна аднесці цоканне і словаўтварэнне пры дапамозе суфікса **-дл-**, якія ўзніклі да з'яўлення пісьменнасці. Сінкрэтызм склонавых форм узыходзіць, магчыма, да агульнарускага перыяду. Формы прыналежных займеннікаў *іхны, ейны* і дзеясловы тыпу *ядзём, дадзём* з'яўляюцца новаўтварэннямі.

Наяўнасць такіх асаблівасцей, як супадзенне форм давальнага і творнага склонаў і суфікса **-дл-** у беларускіх, латышскіх і літоўскіх гаворках, дае магчымасць гаварыць аб беларуска-балтыйскай агульнасці.

У асноўным рысы, якія характарызуюць паўночную групу гаворак, не ўласцівы беларускай мове. Пад уплывам літаратурнай мовы і паўночна-ўсходняга дыялекту архаічныя рысы ў разглядаемай групе гаворак паступова знікаюць.

## ГЕНЕЗІС ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНІХ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

Пры вызначэнні генезісу дыялекту, групы гаворак ці адной гаворкі ў першую чаргу неабходна адказаць на пытанне аб адноснай старажытнасці іх рыс у параўнанні з суседнімі

дыялектамі ці гаворкамі. У гэтым плане тэарэтычна магчымы два палярныя варыянты.

1. Рысы дыялекту з'яўляюцца больш архаічнымі ў параўнанні з суадноснымі рысамі суседніх дыялектаў. Такі дыялект умоўна можна назваць «кансерватыўным», бо ён узнік, вылучыўся з больш ранняга моўнага адзінства не ў выніку працэсаў, якія адбываліся ў ім самім, а ў выніку тых змен, якія пераджывалі прылягаючыя дыялекты.

Схематычна ўзнікненне кансерватыўнага дыялекту паказана на рыс. 18, 19.



Рыс. 18



Рыс. 19

На рыс. 18 паказаны дадыялектны перыяд — стан моўнага адзінства, а на рыс. 19 — перыяд утварэння дыялектаў. Тэрыторыя са стрэлкамі на рыс. 19 — гэта тэрыторыя з новаўтварэннямі, а напрамак стрэлак паказвае напрамак пашырэння законаў, у выніку якіх узніклі гэтыя новаўтварэнні. Заштрыхаваная суцэльнымі лініямі частка на рыс. 19 — гэта дыялект-кансерват, які захаваў элементы перыяду моўнага адзінства.

Зразумела, што дыялекты-кансерваты паступова звужаюцца, размываюцца. Гэта значыць, па адных рысах межы іх пад уздзеяннем суседніх дыялектаў адступаюць углыб тэрыторыі, а па другіх могуць заставацца ранейшымі, але ў дыялект пранікаюць і бытуюць у ім дублетныя варыянты, якія з'яўляюцца элементамі суседніх дыялектаў.

2. Рысы дыялектаў з'яўляюцца новаўтварэннямі ў параўнанні з суадноснымі рысамі суседніх дыялектаў. Такі дыялект можна назваць дынамічным, бо ён узнік у выніку працэсаў, што адбываліся ў ім самім, стаў прычынай парушэння папярэдняга моўнага адзінства канкрэтнай тэрыторыі, прычынай узнікнення дыялектнага члянення.

Схематычна ўзнікненне дынамічнага дыялекту паказана на рыс. 20, 21.

Як і ў папярэднім выпадку, на рыс. 20 паказан стан моўнага адзінства, а на рыс. 21 — узнікненне дыялектаў: тэрыторыя са стрэлкамі — тэрыторыя ўзнікнення дынамічнага дыялекту.

Аднак практычна кансерватыўных і дынамічных дыялектаў у чыстым выглядзе не існуе. Дакладней, трэба гаварыць аб кансерватыўных ці дынамічных рысах, з'явах. Звычайна тэрытарыяльныя супрацьпастаўленні суадносных з'яў уключаюць і архаічны, і дынамічны варыянты, але вядомы выпадкі супрацьпастаўлення дзвюх дынамічных рыс, двух новаўтварэнняў. У кожным дыялекце ёсць і адны, і другія рысы. Таму мы маем справу з дыялектамі, адны з якіх стаяць бліжэй да тыпу



Рыс. 20



Рыс. 21

кансерватыўных дыялектаў, бо большая частка ўласцівых ім рыс кансерватыўная, а другія бліжэй да дынамічных дыялектаў, бо пераважная колькасць іх рыс з'яўляецца новаўтварэннямі, г. зн. дынамічнымі. Таму першая задача пры вызначэнні генезісу дыялекту заключаецца ў тым, каб вызначыць характар яго важнейшых рыс.

Паўднёва-заходняя група гаворак беларускай мовы на поўначы мяжуе з сярэднебеларускімі гаворкамі, на захадзе некалькі пашыраецца за межы Беларусі на Польскую Народную Рэспубліку, дзе мяжуе з гаворкамі польскай мовы, і на поўдні, у межах Брэсцкай вобласці,—з брэсцка-пінскімі гаворкамі, а далей на ўсход — з гаворкамі Украіны.

Важнейшыя рысы, якімі характарызуюцца паўднёва-заходнія гаворкі, па іх адносінах да суадносных рыс перыяду, што папярэднічаў узнікненню гэтага дыялекту, падзяляюцца на дзве групы. Да першай належаць кансерватыўныя рысы, г. зн. рысы, якія адлюстроўваюць моўныя асаблівасці перыяду да ўтварэння паўднёва-заходняга дыялекту — асаблівасці агульнаўсходнеславянскія ці нават агульнаславянскія. Да другой групы належаць новаўтварэнні, якія ўзніклі ў працэсе складвання дыялекту як яго спецыфічныя асаблівасці.

Паўднёва-заходні дыялект захаваў наступныя кансерватыўныя рысы:

1. Двухскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку:

а) у назоўніках жаночага роду на **-а**, дзе пры цвёрдай аснове ўжываецца канчатак **-ойу** і яго ненаціскныя варыянты

**-айу** : **-ойу** : **ыйу** : **-уйу** (*сцянóю, вадóю, хáтаю* : *хáтою* : *хáтыю* : *хáтую*), а пры мяккай і зацвярдзелай асновах — канчатак **-ойу** : **-ейу** і яго ненацiскныя варыянты **-айу** : **-ейу** : **-ойу** : : **-ийу** : **-уйу** (*зямлёю, мяжóю* : *зямлéю, мяжэ́ю, вíшняю* : *вíшнею* : *вíшнiю* : *вíшнюю*; ДАБМ, карты № 69—72; карта № 21);

б) у асабовых займенніках 1-й і 2-й асобы адзіночнага ліку *я, ты* (*мнóю, табóю*) [88, *218*];

в) ва ўказальна-асабовым займенніку 3-й асобы адзіночнага ліку жаночага роду *янá* (*ёю* : *éю*; ДАБМ, карта № 132; карта № 21);

г) ва ўказальных займенніках жаночага роду (*тóю* : *тэ́ю* : : *таéю*; *гэ́таю, éтаю* і інш.; ДАБМ, карта № 137; карта № 21);

д) у зваротным займенніку *сябé* (*сабóю*) [88, *230, 231*];

е) у азначальных займенніках жаночага роду *усá, кóжная, íншая, самá* і інш. (*усёю* : *усéю, кóжнаю, íншаю, самóю* і інш.; карта № 21) [88, *228*];

ж) у прыналежных займенніках жаночага роду *мая́, твая́, свая́, нáша, вáша* (*маёю, тваёю, сваёю* : *маéю, тваéю, сваéю, нáшаю, вáшаю*; ДАБМ, карты № 125, 126; карта № 21);

з) у прыметніках жаночага роду (*маладóю, нóваю* : *нóвою* : *нóвую*);

і) у парадкавых лічэбніках жаночага роду (*другóю, пя́таю*);

Якасць першага галоснага гука ў ненаціскных варыянтах двухскладовага канчатка абумоўлена характарам ненаціскнога вакалізму канкрэтных гаворак. Канчатак **-ойу**<**-ейу** пасля мяккіх і зацвярдзелых асноў з'явіўся пад уплывам форм на **-ойу** цвёрдай разнавіднасці. Такім чынам, старажытнарускі двухскладовы канчатак творнага склону адзіночнага ліку ў паўднёва-заходніх гаворках захаваў сваю структуру, перажыўшы толькі некаторыя фанетычныя змены ці змены па аналогіі.

Паўднёва-заходні дыялект па разглядаемай рысе разам з паўночнымі, часткай паўднёва-ўсходніх (сярэдненаддняпроўскімі) і часткай паўднёва-заходніх (валынскімі) украінскіх гаворак і разам з брэсцка-пінскімі гаворкамі, якім таксама ўласцівы канчатак **-ойу(-ейу)** [49, *79, 80, 193, 253, 254*], утварае адзіны арэал. Арэал аднаскладовага канчатка **-ой(-ай)** уключае паўночна-ўсходні дыялект і часткова сярэднебеларускія гаворкі, арэал аднаскладовага канчатка **-ой(-ей)** — частку паўднёва-заходніх украінскіх гаворак [49, *80*]. Гэтыя два арэалы адлюстроўваюць новаўтварэнні канчаткаў **-ойу(-ейу)**, г. зн. склаліся пазней за кошт звужэння тэрыторыі ўжывання двухскладовага канчатка.

Узнікненне аднаскладовага канчатка ў прыметніках адносяць у асноўным на перыяд пасля XVII ст. [26, *92*], але асобныя выпадкі ўжывання аднаскладовага канчатка **-ой(-ей)**

вядомы ўжо ў XIV—XVI стст. [88, *178*]. Адносна прычын замены двухскладовых канчаткаў аднаскладовымі ёсць два пункты погляду. А. А. Шахматаў лічыў, што гэта замена адбылася ў выніку марфалагічнага выраўноўвання: першапачаткова аднаскладовы канчатак творнага склону з'явіўся ў назоўніках, бо канчаткі ўсіх астатніх склонаў былі аднаскладовымі [144, *340, 341*], а пасля пашырыўся на прыметнікі, займеннікі і парадкавыя лічэбнікі. У «Нарысах па гісторыі беларускай мовы» ўзнікненне аднаскладовых канчаткаў на месцы двухскладовых тлумачыцца фанетычна [88, *113*].

Такім чынам, формы творнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў, займеннікаў і парадкавых лічэбнікаў жаночага роду да XVIII ст. мелі двухскладовыя канчаткі на ўсёй тэрыторыі бытавання беларускай мовы. Спарадычна, відаць, у той перыяд у гаворках паўночнай часткі Беларусі ўжываліся і аднаскладовыя канчаткі. Інакш кажучы, дыялектная дыферэнцыяцыя па разглядаемай рысе намячаецца ў XVII ст. і ажыццяўляецца ў XVIII ст.

Пад уплывам форм творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** з двухскладовым канчаткам у межах арэала яго бытавання набылі канчатак **-ойу(-ейу)** і назоўнікі былых асноў на **-і**: *гусёю, мышóю* : *гусéю, мышэ́ю* : : *гу́сяю, мы́шаю* (ДАБМ, карты № 82, 83).

Назоўнікі былых асноў на **-і** падпадаюць індукцыі склонавых форм назоўнікаў на **-а** і набываюць іх у паўночных (валынска-палескіх і левабярэжнапалескіх), паўднёва-заходніх, а таксама ў частцы паўднёва-ўсходніх гаворак украінскай мовы [49, *80*].

2. Двухскладовы канчатак роднага склону адзіночнага ліку **-ое, -ёе, -яе, -ее**:

а) у прыметніках жаночага роду, дзе пры цвёрдай, зацвярдзелай і асновах на [г], [к], [х] ужываецца канчатак **-ое** : : **-ой** і яго ненаціскныя варыянты на **-ае** : **-ое** : **-аі** (*маладóе* : : *маладóі, чужóе* : *чужóі, сухóе* : *сухóі, нóвае* : *нóваі, гара́чае* : : *гара́чаі, вялíкае* : *вялíкаі*), а пры мяккай аснове — ненаціскны канчатак **-яе** : **-ее** : **-яі** (*сíняе* : *сíнее* : *сíняі*; ДАБМ, карты № 119, 120; карта № 6) [85, *68—72*];

б) ва ўказальных займенніках жаночага роду *та́я, така́я, гэ́та* (*таé* : *тóе, такóе, гэ́тае;* ДАБМ, карта № 135; карта № 16) [88, *225, 226*];

в) у азначальных займенніках жаночага роду *уся́, уся́кая, сама́, кóжная* (*усяé, уся́кае, самóе, кóжнае*);

г) у прыналежных займенніках жаночага роду *мая́, твая́, свая́, на́ша, ва́ша* (*маé, тваé, сваé, на́шае, ва́шае*; ДАБМ, карта № 140) [88, *229*].

д) у парадкавых лічэбніках жаночага роду (*другóе, пя́тае*).

Такім чынам, агульнаўсходнеславянскія канчаткі **-оě**, **-еӗ** ў паўднёва-заходнім дыялекце беларускай мовы захавалі сваю структуру. Яны перажылі толькі пэўныя фанетычныя змены, абумоўленыя спецыфікай вакалізму гэтага дыялекту. Канцавы «ě», як і ў іншых пазіцыях не пад націскам, супаў з [е], але ў частцы гаворак на паўночнай ускраіне паўднёва-заходняга дыялекту, г. зн. на стыку з сярэднебеларускімі гаворкамі, якім уласцівы канчаткі **-ой**, **-ай**, **-яй**, у выніку моцнай рэдукцыі канцавога ненаціскнога галоснага ўжываюцца фанетычныя варыянты канчатка з канцавым [і]: **-оі**, **-аі**, **-яі** (*маладо́і, но́ваі, сіняі;* ДАБМ, карты № 119, 120), што, відаць, можна лічыць прамежкавай стадыяй на шляху да канчаткаў **-ой**, **-ай**, **-яй**.

Першы галосны двухскладовага канчатка рэалізуецца ў адпаведнасці з характарам ненаціскнога вакалізму канкрэтных гаворак. У прыналежных займенніках *мая́, твая́, свая́,* відаць, у выніку сцяжэння ў паўднёва-заходнім дыялекце з'явіліся і атрымалі вялікае пашырэнне формы *мае́, твае́, свае́,* а формы з двухскладовым канчаткам *мае́е, тваее, сваее* вядомы толькі ў брэсцка-пінскіх гаворках, г. зн. за межамі паўднёва-заходняга дыялекту.

Сістэма выкарыстання агульнаўсходнеславянскага двухскладовага канчатка ў формах жаночага роду адзіночнага ліку прыметнікаў у паўднёва-заходнім дыялекце размытая — шырока ўжываюцца і канчаткі без канцавога галоснага. Сказанае ў вялікай ступені датычыцца гродзенска-баранавіцкай групы гаворак, дзе, па сведчанню ДАБМ, апошнія нават пераважаюць. З другога боку, кідаецца ў вочы, што ва ўсходняй частцы Беларусі арэал двухскладовага націскнога канчатка далёка выходзіць за межы паўночна-заходняга дыялекту, ахопліваючы паўночна-ўсходнюю частку Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Аршаншчыны, а арэал двухскладовага ненаціскнога канчатка замыкаецца ў межах паўночна-заходняга дыялекту.

Відаць, пры націску на канчатку канцавы галосны менш падпадаў рэдукцыі і захоўваўся больш працяглы час, у выніку чаго больш працяглы час захоўваецца і двухскладовы націскны канчатак. Можна меркаваць, што выцясненне двухскладовага канчатка пачынаецца з ненаціскных канчаткаў. Але гэта тэндэнцыя зусім не праяўляецца ў заходніх гаворках, дзе, як ужо адзначалася, пераход да аднаскладовых канчаткаў таксама адбываецца ў выніку рэдукцыі канцавога ненаціскнога галоснага і ў націскных і ненаціскных канчатках.

На поўдні арэал двухскладовага канчатка ў прыметніках жаночага роду захоплівае брэсцка-пінскія гаворкі, дзе выступаюць канчаткі **-оі**, **-аі**, **-яі**, **-еі** (*маладо́і, но́ваі, сіняі* : *сінеі*; карта № 21).

Не абмяжоўваецца рамкамі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы і ўжыванне двухскладовага канчатка роднага склону адзіночнага ліку ўказальнага займенніка *тая́* (*тае́* : *то́е*). У межах паўночна-ўсходняга дыялекту гэты арэал уключае Гомельшчыну і Магілёўшчыну, пашыраючыся на поўначы аж да Оршы (*ты́е, тые́, тае́*). На поўдні Беларусі ён уключае брэсцка-пінскія гаворкі (*тэ́е*).

Арэал сцягнутых форм *мае́, твае́, свае́* адпаведна больш старажытным *мае́е, твае́е, свае́е* ў межах Беларусі ў асноўным укладваецца ў рамках паўднёва-заходняга дыялекту. Праўда, гэтыя формы асобнымі астраўкамі вядомы і ва ўсходніх гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту. У брэсцка-пінскіх гаворках адзначаны формы *мое́е, твое́е, свое́е.*

На тэрыторыі Украіны ў частцы паўночных гаворак на поўнач ад лініі Жытомір—Кіеў—на захад ад Прылук (Чарнігаўская вобл.) — Казялец — Ноўгарад-Северскі захоўваюцца старыя канчаткі **-ойе**, **-айе**, **-ейе** [49, *90, 145*], формы займеннікаў з двухскладовым канчаткам (*то́йе, се́йе, на́шейе*) [49, *145*].

«Па беларускіх пісьмовых помніках наяўнасць аднаскладовых канчаткаў роднага склону жаночага роду можна прасачыць з другой палавіны XIV ст., аднак у жывой мове яны, зразумела, пачалі ўжывацца значна раней» [26, *72*]. У XVI—XVII стст. яны ўжываюцца ўжо часта, а ў некаторых дакументах нават пераважаюць над двухскладовымі канчаткамі [26, *73*].

Як і адносна паходжання аднаскладовых канчаткаў у творным склоне, даследчыкі не маюць адзінага погляду на прычыны ўзнікнення аднаскладовых канчаткаў **-ой**, **-ей** у родным склоне. Адны лічаць, што яны з'явіліся ў выніку аналогіі — пад уплывам форм давальнага і меснага склонаў, а таксама творнага склону, у якім двухскладовы канчатак **-ою** (г. зн. **-ойу**) скараціўся ў **-ой** спачатку ў назоўніках, а пасля і ў займенніках і прыметніках [54, *348, 349*]. Другія мяркуюць, што з'яўленне аднаскладовых канчаткаў выклікана фанетычнымі зменамі — рэдукцыяй канцавога ненаціскнога [ĕ] або [е] ў канчатку **-оĕ**, **-ое** [89, *175*].

Два асноўныя дыялекты беларускай мовы — паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні — па наяўнасці двухскладовых ці аднаскладовых канчаткаў, відаць, адрозніваліся ўжо з XIV ст., але мяжа гэтых адрозненняў праходзіла дзесьці далей на поўнач — у глыбіні сучаснага паўночна-ўсходняга дыялекту. Двухскладовыя канчаткі з'яўляюцца кансерватыўнымі, і цяжка дапусціць, што ў нейкі час яны трансфармаваліся ў аднаскладовыя на пэўнай тэрыторыі, а пасля адцяснілі іх на больш вузкую тэрыторыю. Аднаскладовыя канчаткі — нова-ўтварэнні, таму верагодней, што з цягам часу яны паступова

пашыраліся з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад і, нарэшце, дасягнулі сучаснай мяжы. Ізаглоса супрацьпастаўлення аднаскладовых і двухскладовых канчаткаў роднага склону праходзіць у непасрэднай блізкасці ад ізаглосы супрацьпастаўлення аднаскладовых і двухскладовых канчаткаў творнага склону, абедзве ўваходзяць у агульны пучок. Агульнасць тэрыторыі аднаскладовых канчаткаў роднага і творнага склонаў, нягледзячы на тое што першыя, як ужо адзначалася, з'явіліся не пазней XIV ст., а другія — пасля XVII ст., відаць, можна растлумачыць паступовым распаўсюджаннем форм роднага склону з аднаскладовым канчаткам, тым, што сучаснай мяжы яны дасягнулі толькі к таму часу, калі ўзніклі аднаскладовыя канчаткі творнага склону прыметнікаў—к пачатку XVIII ст.

3. Канчаткі меснага склону адзіночнага ліку **-ом, -ам, -ум, -ем** з **-омъ<-омь** і **-емъ<-емь**:

а) у прыметніках мужчынскага і ніякага роду, дзе пры цвёрдай, зацвярдзелай і аснове на заднеязычны ўжываецца канчатак **-ом** (ДАБМ, карта № 117; карта № 16) [85, *124*] і яго ненаціскныя варыянты **-ам** : **-ом** : **-ум** *(аб маладóм, у чужóм, на сухóм; у жóўтам : у жóўтом : у жóўтум; у вялікам : у вялíком : у вялікум; у харóшам : у харóшом : у харóшум*; ДАБМ, карта № 118; карта № 21) [85, *83, 84, 124—127*], а пры мяккай аснове — варыянты канчаткаў **-ем : -ам : -ом : -ум** *(у сінем : у сіням : у сінём : у сінюм*) [85, *83, 84, 124—127*];

б) ва ўказальна-асабовым займенніку 3-й асобы адзіночнага ліку мужчынскага роду **-ён** (*на ём*);

в) ва ўказальных займенніках мужчынскага роду *той, гэты* (*на том, на гэтом* : *на гэтум* : *на гэтам*);

г) у азначальных займенніках мужчынскага роду *увéсь, кóжны, іншы (на усём, на самóм, на кóжном : на кóжнум* : *на кóжнам, на іншом* : *на іншум* : *на іншам*);

д) у прыналежных займенніках мужчынскага роду *мой, твой, свой, наш, ваш* (*на маём, на тваём, на сваём, на нáшом : на нáшум : на нáшам, на вашом : на вашум : на вашам);*

е) у адносна-пытальным займенніку *хто* (*на ком*).

Арэал канчаткаў **-ом**(<**-омь** і <**-емь**) у межах Беларусі выходзіць за рамкі паўднёва-заходняга дыялекту. На поўдні, ва ўсходняй частцы, ён працягваецца ва ўкраінскіх гаворках, а на ўсходзе — у гаворках рускай мовы. Яму супрацьпастаўляецца на поўначы арэал паўночна-ўсходніх гаворак, дзе замацаваўся канчатак творнага склону **-ым** (**-ім**), а на поўдні, у заходняй частцы, — арэал брэсцка-пінскіх гаворак, якія характарызуецца канчаткам **-ому**.

У гаворках паўднёва-заходняга дыялекту пад уплывам гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту і літаратурнай мовы ўжываецца дублетны канчатак **-ым**(**-ім**).

Найбольш раннія выпадкі ўжывання форм на **-ым(-ім)** у месным склоне прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду адносяцца да XV ст. [26, *89, 99, 179;* 65, *237*], у XVI ст. яны сустракаюцца часта [26, *99*]. Такім чынам, супрацьпастаўленне дыялектаў па канчатках меснага склону **-ом(-ем)** : **-ым(-ім)** намецілася яшчэ ў XV ст. Першапачатковы арэал канчатка **-ым(-ім)** пастунова пашыраўся з поўначы на поўдзень і, відаць, сучасных памераў, як і арэал двухскладовага канчатка роднага склону, дасягнуў толькі к XVIII ст.

4. Канчатак назоўнікаў назоўнага склону множнага ліку **-а**:

а) у назоўніках ніякага роду: *сёла, гнёзда, вóкна, вёдра, балóта* (*балатá*);

б) у назоўніках тыпу *парасята.*

Арэал канчатка **-а** ў названых назоўніках на поўдні выходзіць за межы паўднёва-заходняга дыялекту — працягваецца ў брэсцка-пінскіх гаворках (ДАБМ, карты № 97, 98; карта № 18) і ў дыялектах украінскай мовы. Паўночна-ўсходні дыялект характарызуецца канчаткам **-ы(-і)**, які з'явіўся пад уплывам назоўнікаў мужчынскага роду форм на **-ы(-і)**, па помніках адзначаны ў XVI ст. [65, *141*]. Можна меркаваць, што дыялектныя адрозненні **-а** : **-ы(-і)** існавалі ўжо ў XV ст.

5. Формы на **-а** ў назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот: *цялá, парасá, ягнá* (ДАБМ, карта № 84; карта № 16), *дзіцá* (ДАБМ, карта № 85) і з суфіксам **-ат-** у родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку тых жа назоўнікаў (ДАБМ, карты № 86, 88). Арэал форм *цялá, парасá, ягнá* на поўначы супадае з мяжой паўночна-ўсходняга дыялекту, а форма *дзіцá* ўжываецца і ў сярэднебеларускіх гаворках. На поўдні названы арэал уключае ўкраінскія дыялекты і брэсцка-пінскія гаворкі з частым **-я>-ё** (*цялё*). Арэал суфікса **-ат-** супадае з арэалам назоўніка *дзіцá.* У пераважнай большасці паўночна-ўсходніх гаворак назоўнікі тыпу *цялá* набылі суфікс **-онак** (*цялёнак, парасёнак*), а ў гаворках раёнаў, што прымыкаюць да паўднёва-заходніх гаворак на ўчастку на захад ад Бярэзіны, бытуе наваўтварэнне — уніфікаваныя па асновах на **-о** формы *цялё, парасё* (ДАБМ, карты № 86, 88). Па помніках пісьменнасці разглядаемыя формы не датаваны.

6. У спалучэннях з лічэбнікам *два* форма парнага ліку назоўнікаў ніякага і жаночага роду адзіночнага ліку: *два* (*дзве*) *вакнé, дзвé хáце* (ДАБМ, карты № 206, 207; карта № 18). Праўда, ужыванне формы парнага ліку ў гаворках паўночна-заходняга дыялекту з'яўляецца няўстойлівай рысай, побач з ёю часта адзначаюцца формы ніякага роду на **-ы, -а** (*два акны́, два акнá*) і формы жаночага роду на **-ы** (*дзве хáты*).

Больш паслядоўна адзначаецца форма парнага ліку ў назоўніках ніякага роду. Арэал форм парнага ліку назоўнікаў ніякага роду ахоплівае брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карты № 206, 207; карта № 18), частку палескіх гаворак украінскай мовы, паўднёва-заходні дыялект украінскай мовы і частку гаворак паўднёва-ўсходняга дыялекту ўкраінскай мовы [49, *84, 175*]. Арэал форм парнага ліку назоўнікаў жаночага роду крыху меншы — у яго не ўваходзяць брэсцка-пінскія гаворкі, у якіх названыя формы сустракаюцца толькі спарадычна.

Пад уплывам традыцыйных форм парнага ліку ў паўднёва-заходнім дыялекце сталі ўжывацца формы парнага ліку назоўнікаў ніякага і жаночага роду і ў спалучэннях з лічэбнікамі *тры, чаты́ры.*

7. Старажытныя клічныя формы назоўнікаў жаночага роду: *ма́мо, Ма́нё, Ва́лё* (ДАБМ, карта № 94; карта № 19). Назоўнікі мяккай разнавіднасці набылі канчатак **-о** пад уплывам форм цвёрдай разнавіднасці. У заходняй і паўночна-ўсходняй частцы паўднёва-заходняга дыялекту клічныя формы сустракаюцца рэдка ці адсутнічаюць зусім. Такім чынам, арэал клічных форм на поўначы абрываецца ў межах паўночнай часткі паўднёва-заходняга дыялекту. На поўдні арэал клічных форм ахоплівае брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карта № 94; карта № 19), за межамі Беларусі ён уключае дыялекты ўкраінскай мовы [49, *80*].

8. Ненаціскныя канчаткі 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння цяперашняга часу **-аць (-яць : -ать : -ять)** (*хо́дзяць, но́сяць, ко́рмяць*) ці іх фанетычны варыянт **-ець : -еть** (*хо́дзець, но́сець, ко́рмець;* ДАБМ, карта № 157; карта № 18). Арэал гэтай рысы на поўдні захоплівае брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карта № 157; карта № 18) і дыялекты ўкраінскай мовы (іншы раз з ацвярдзеннем канцавога зычнага). У паўночна-ўсходнім дыялекце пад уплывам форм I спражэння дзеясловы II спражэння з націскам на аснове набылі канчатак **-уць (-юць)**.

9. Старажытны націск на аснове ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на **-а** пры канцавым націску ва ўсіх іншых склонах адзіночнага ліку (*но́гу* пры *нага́, нагі́, назе́, наго́ю, на назе́; во́ду* пры *вада́, вады́, вадзе́, вадо́ю, на вадзе́;* ДАБМ, карта № 195; карта № 18). Пад уплывам літаратурнай мовы ў межах паўднёва-заходняга дыялекту ў частцы гаворак вядомы і канцавы націск у форме вінавальнага склону (*нагу́, ваду́*). Арэал форм вінавальнага склону з націскам на аснове распаўсюджваецца і на поўдзень ад паўднёва-заходняга дыялекту. Ён уключае брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карта № 195; карта № 18) і дыялекты ўкраінскай мовы.

10. Старажытны націск на аснове ў форме меснага склону множнага ліку назоўнікаў *лю́дзі, гру́дзі, са́ні, го́сці, ла́пці, се́ні (аб лю́дзях, у гру́дзях, у са́нях, у го́сцях, у ла́пцях, у се́нях;* ДАБМ, карта № 106; карта № 19). Ужываюцца таксама і формы з канцавым націскам, якімі характарызуецца паўночна-ўсходні дыялект. Арэал форм з націскам на аснове ўключае брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карта № 106; карта № 19) і дыялекты ўкраінскай мовы.

11. Форма 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння цяперашняга часу без канцавога **-ць** (*ідзе́, бярэ́, нясе́, ка́жа, ме́ле, грэ́е;* ДАБМ, карты № 148, 149; карта № 18). На поўначы арэал ужывання формы 3-й асобы без **-ць** уключае сярэднебеларускія, а на поўдні — брэсцка-пінскія гаворкі (ДАБМ, карты № 148, 149; карта № 18) і дыялекты ўкраінскай мовы. Адсутнасць канцавога зычнага ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння характэрна таксама для польскай (*niesie, wiezie*), чэшскай (*nese, vede*), балгарскай (*тъче, чете*) і іншых моў, што можа сведчыць аб даўнім паходжанні падобных форм [42, *223*]. Паўночна-ўсходні дыялект характарызуецца наяўнасцю канцавога **-ць**.

Частка агульных для ўсяго паўднёва-заходняга дыялекту рыс прадстаўляе сабою новаўтварэнні ў параўнанні з суадноснымі рысамі паўночна-ўсходняга дыялекту. Такімі з'яўляюцца:

1. Наяўнасць у закрытых націскных складах фанем [ê(ие͡)]<«ě», [ô(уо͡), у]<«о» (ДАБМ, карты № 34, 35; карта № 16), якія ўзніклі ў сувязі з падзеннем рэдуцыраваных. А. А. Патабня першы выказаў меркаванне, што асноўныя «о», «е» перад зычным, пасля якога выпаў слабы рэдуцыраваны, апынуўшыся ў закрытым складзе, атрымалі дадатковую (замяшчальную) даўгату [106, 107, *34—36*]. Такія доўгія [о], [е] пад націскам сталі вымаўляцца як дыфтонгі [ие͡], [уо͡]. Такога ж погляду прытрымліваліся П. Э. Жыцецкі [50], А. А. Шахматаў [143, *94, 95*], А. І. Сабалеўскі [131, *50, 51*], аўтары «Опыта диалектологической карты в Европе» [46, *52, 53*]. М. Дурнаво, напрыклад адзначае, што страта «ъ», «ь» слабых выклікала ў паўднёвых раёнах замяшчальнае падаўжэнне галосных папярэдняга склада, які станавіўся пасля страты «ъ»,«ь» закрытым. Доўгія галосныя новага паходжання [о], [’о], [е] з агульнаславянскіх «о», «ě» пераходзілі ў дыфтонгі, якія першапачаткова, відаць, гучалі як [уо͡], [ио͡], [ие͡] [44, *193*]. Гэту ж думку падкрэслівае і Р. І. Аванесаў. Ён адзначае, што гаворкі поўдня і паўднёвага захаду былой Кеіўскай дзяржавы пасля падзення рэдуцыраваных перажылі некаторыя працэсы, невядомыя гаворкам іншых тэрыторый. Адным з такіх працэсаў з'яўляецца «падаўжэнне і пазней дыфтангізацыя **о** і **е** ў новых за-

крытых складах (*нуос, пиеч*), якія паклалі пачатак адной з самых характэрных асаблівасцей сучаснай украінскай мовы» [1, *130*]. А. А. Шахматаў лічыць, што перадумовы для ўзнікнення дыфтонгаў на месцы «о», «е» ў некаторых дыялектах існавалі яшчэ ў агульнарускай мове. «У адных дыялектах агульнарускай мовы доўгія галосныя, атрыманыя з агульнаславянскай мовы, скараціліся..., у другіх дыялектах доўгія **о**, **ё**, **е** захаваліся доўгімі і распаліся напаследак на дыфтангічныя спалучэнні» [143, *94, 95*]. Падобнае распадзенне, на думку Шахматава, магло адбыцца яшчэ ў агульнарускай мове: «...у некаторых гаворках агульнарускай мовы агульнаславянскія гукі доўгае **о** і замяніўшыя ў агульнарускай мове **е**—**о** доўгае і **е**[і] доўгае не захаваліся, а распаліся ў дыфтангічныя спалучэнні **ыо, ио, іе**» [143, *110*]. Такое меркаванне трэба лічыць слушным у тым сэнсе, што к моманту падзення рэдуцыраваных у частцы дыялектаў асноўныя «о», «е» ў пазіцыі перад складам са слабым рэдуцыраваным і перад складам з моцным рэдуцыраваным, відаць, былі ўжо неаднолькавымі. Працэс паступовага размежавання слабых і моцных рэдуцыраваных, безумоўна, аказваў некаторы ўплыў на асноўныя «о», «е» ў папярэднім складзе. Інакш кажучы, к перыяду падзення рэдуцыраваных асноўныя «о», «е» перад складам са слабым рэдуцыраваным ужо былі «падрыхтаваны» да дыфтангізацыі, а ў некаторых выпадках, магчыма, ужо вымаўляліся як дыфтонгі. Відаць, у першую чаргу дыфтангізавалася «е», якое пры падаўжэнні станавілася падобным да «ě», а таму адпаведна «е» мог быць той жа дыфтонг, што і адпаведна «ě».

У значнай меры з думкай А. А. Шахматава пераклікаецца думка У. Курашкевіча. Ён піша: «Працэс замяшчальнага падаўжэння галосных **о, е** ў закрытых складах пры падзенні слабых ераў сведчыць, што на тэрыторыі старажытнай паўднёвай Русі аж да Вільна і Мінска доўгія і кароткія галосныя адрозніваліся даўжэй, альбо, кажучы інакш, што ў перыяд падзення ераў тут яшчэ існавала фанетычная катэгорыя даўгаты... У рускіх жа і паўночнабеларускіх дыялектах даўгата знікла раней, а слабыя еры пазней, таму замяшчальнае падаўжэнне ўзнікнуць тут не магло» [160, *36, 37*].

Такім чынам, фанемы [ê]<«ě», [ô]<«ǒ» з'яўляюцца элементамі рэгіянальнай фанетычнай сістэмы, што ўзыходзіць непасрэдна да эпохі пасля падзення рэдуцыраваных, але апасродкавана адлюстроўваюць больш старажытныя фанетычныя асаблівасці.

Калі ўслед за Шахматавым і Курашкевічам дапусціць, што ў паўднёвай частцы Беларусі к часу падзення рэдуцыраваных яшчэ існавала «фанетычная катэгорыя даўгаты», то

трэба думаць, што [ê(и͡е)] і [ô(у͡о, у)] на ўсім арэале, на якім яны вядомы зараз, узніклі прыкладна адначасова, а не распаўсюджваліся паступова з поўдня на поўнач. Неверагодна, што яны першапачаткова з'явіліся толькі ў нейкай адной частцы гаворак, якім была ўласціва фанетычная катэгорыя даўгаты, а пасля пашырыліся і на астатнюю частку такіх гаворак, бо ў такім разе незразумела, якія галосныя гукі ў гэтых гаворках вымаўляліся на месцы «е» і «о» ў перыяд непасрэдна пасля падзення рэдуцыраваных. Неверагодна, што «е» і «о» пасля падзення рэдуцыраваных не прынялі замяшчальную даўгату, а проста захавалі сваю першапачатковую даўгату і толькі пазней ужо пад уплывам гаворак, у якіх замяшчальнае падаўжэнне адбылося, трансфармаваліся ў [ê(и͡е)], [ô(у͡о, у)]. Відаць, тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне [ê], [ô] : [е], [о] існуе з перыяду непасрэдна пасля падзення рэдуцыраваных і ў межах, блізкіх да сучасных.

Арэал распаўсюджання [ê(и͡е)], [ô(у͡о, у)] уключае левабярэжныя і правабярэжныя гаворкі паўночнага дыялекту ўкраінскай мовы [1]. Брэсцка-пінскія гаворкі ў межах Беларусі і валынска-палескія гаворкі паўночнага дыялекту ўкраінскай мовы складаюць асобны арэал [2]. Адпаведна «е», «о» ў новых закрытых складах у іх выступае фанема [и], што з'яўляецца новаўтварэннем у параўнанні з [ê(и͡е)], [ô(у͡о, у)] паўднёва-заходніх гаворак. Гэта сведчыць аб тым, што непасрэдна пасля падзення рэдуцыраваных арэал ужывання [ê(и͡е)], [ô(у͡о, у)] і арэал ужывання [и] ўтваралі адзін агульны дыялектны масіў.

2. Канчатак **-а** ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на **-а** *(бáцька, дзя́дзька — без бáцька, без дзя́цька;* ДАБМ, карта № 91; карта № 19).

Арэал канчатка **-а** ў названых назоўніках на паўночна-ўсходняй ускраіне паўночна-заходняга дыялекту абрываецца, не даходзячы да сярэднебеларускіх гаворак, г. зн., што ў межах паўднёва-заходняга дыялекту пачынаецца новы, суадносны з першым арэал, дзе выступае канчатак **-і**. На поўдні канчатак **-а** выходзіць за межы паўднёва-заходняга дыялекту. Ён характэрны і для брэсцка-пінскіх гаворак (ДАБМ, карта № 91; карта № 19).

3. Двухскладовы канчатак прыналежных займеннікаў жаночага і ніякага роду *нáшая, вáшая, нáшае, вáшае* (ДАБМ, карта № 142; карта № 16). Двухскладовы канчатак займенні-

---

[1] Атлас української мови, т. 1. Атлас західних говорів української мови, карты № 10, 36, 60, 364. Рукапіс.

[2] Хоць, як сведчаць карты «Атласа західних говорів української мови», рэфлексы «о» ў націскных складах [у͡о], [у] вядомы і ў валынска-палескіх гаворках.

каў жаночага роду захоўваецца і ў формах роднага (*нáшае, вáшае*), вінавальнага (*нáшую, вáшую*) і творнага склонаў (*нáшаю, вáшаю*). Арэал двухскладовых канчаткаў у назоўным склоне адзіночнага ліку на поўначы некалькі не ахоплівае ўсю тэрыторыю паўднёва-заходняга дыялекту, а на поўдні выходзіць за межы Беларусі, уключае гаворкі паўночнага дыялекту ўкраінскай мовы. Брэсцка-пінскі дыялект у разгледжаны арэал не ўваходзіць.

4. Сцягнутыя формы прыметнікаў жаночага роду назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку (*нóва хáта, бéла хýстка; нóву хáту, бéлу хýстку;* ДАБМ, карты № 113, 124; карта № 18) і прыметнікаў ніякага роду назоўнага склону адзіночнага ліку (*нóва* (*нóво, нóвэ*) *вядрó;* ДАБМ, карта № 115; карта № 19). Аднак у многіх гаворках ужываюцца і несцягнутыя формы. Арэал сцягнутых форм ахоплівае і брэсцка-пінскія гаворкі, а таксама некаторыя дыялекты ўкраінскай мовы [49, *89*]. Праўда, у апошніх хутчэй маем справу з кароткімі, а не са сцягнутымі формамі.

5. Форма 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу на **-мо(ма)**: *спíмо, стáньма* (*стáньмо*), *сядзьма* (*сядзьмо*) (ДАБМ, карта № 169; карта № 18). Аднак у многіх гаворках побач з такімі формамі або нават пры адсутнасці іх ужываюцца формы на **-ем, -ём, -им**: *ідзём (ідзём), спем (спім)*. Арэал форм на **-мо** ўключае брэсцка-пінскія гаворкі і частку дыялектаў украінскай мовы [49, *103*]. Даследчыкі формы 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу на **-мо** тлумачаць уплывам форм 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў абвеснага ладу на **-мо** [49, *103*].

Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы па цэламу раду агульных для ўсяго дыялекту рыс у параўнанні з паўночна-ўсходнім дыялектам і сярэднебеларускімі гаворкамі з'яўляецца больш архаічным — захаваў некаторыя больш старажытныя, чым іншыя дыялекты, элементы моўнай структуры папярэдніх перыядаў (рыс. 22). Прытым частка кансерватыўных рыс аб'ядноўвае паўднёва-заходні дыялект з брэсцка-пінскімі гаворкамі і суседнімі ўкраінскімі гаворкамі — двухскладовы канчатак назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў і парадкавых лічэбнікаў жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку, двухскладовы канчатак прыметнікаў, займеннікаў і парадкавых лічэбнікаў жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку, канчатак **-а** назоўнага склону множнага ліку ў назоўніках ніякага роду, рэшткі форм парнага ліку, клічныя формы, ненаціскныя канчаткі 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння цяперашняга часу **-аць, -яць,** націск на аснове ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку ў назоўніках жаночага роду, націск на аснове ў форме меснага склону множнага ліку ў назоўніках *людзі,*

*грудзі, сані, госці, лапці, сені* і інш. (рыс. 22), а другая частка кансерватыўных рыс аб'ядноўвае паўднёва-заходні дыялект толькі з украінскімі гаворкамі — канчаткі меснага склону адзіночнага ліку **-ом, -ам** у прыметніках і займенніках (рыс. 22).

Рад уласцівых паўднёва-заходняму дыялекту рыс з'яўляюцца новаўтварэннямі. Іх арэалы, як і арэалы кансерватыўных




Рыс. 22. Арэалы кансерватыўных рыс

I Паўночна-ўсходні дыялект
II Паўднёва-заходні дыялект
III Сярэднебеларускія гаворкі
IV Брэсцка-пінскія гаворкі

 Рысы, агульныя для II, IV і суседніх украінскіх гаворак

 Рысы, агульныя для II і суседніх украінскіх гаворак

рыс, звычайна выходзячы за межы паўднёва-заходняга дыялекту, збліжаюць яго з суседнімі дыялектамі (рыс. 23). Такія рысы-новаўтварэнні, як наяўнасць фанем [ê(ие)], [ô(уо)], двухскладовы канчатак прыналежных займеннікаў жаночага і ніякага роду, аб'ядноўваюць яго з часткай суседніх украінскіх гаворак. Такія рысы, як канчатак **-а** ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на **-а**, сцягнутыя формы прыметнікаў жаночага роду ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку, формы дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу на **-мо**, збліжаюць яго з брэсцка-пінскімі і суседнімі ўкраінскімі гаворкамі. Нарэшце, некаторыя рысы (форма 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння цяперашняга часу без канцавога **-іць**) аб'яд-

ноўваюць яго з брэсцка-пінскімі, суседнімі ўкраінскімі і сярэднебеларускімі гаворкамі (рыс. 23).

Відаць, да XII—XIII стст. асноўныя сучасныя беларускія дыялекты выразна не супрацьпастаўляліся. Можна думаць, што першым штуршком, што раскалоў адноснае адзінства гаворак таго часу, было падзенне рэдуцыраваных. У выніку яго ўзнікла адрозненне дыялектаў паўднёвай і паўночнай




Рыс. 23. Арэалы рыс-новаўтварэнняў

Рысы, агульныя для II і часткі ўкраінскіх гаворак

Рысы, агульныя для II, IV і суседніх украінскіх гаворак

Рыса, агульная для II, III, IV і суседніх украінскіх гаворак

частак Беларусі па характару рэфлексаў агульнаславянскіх «о», «е», «ě»: паўднёвыя гаворкі характарызуюцца рэфлексамі [ô], [у͡о], [ê], [и͡е], [и], а паўночныя — рэфлексамі [о], [е]. На працягу XIV—XVII стст. у гаворках паўночнай часткі Беларусі развіваецца рад інавацый, якія не закранаюць зусім ці закранаюць толькі спарадычна гаворкі паўднёва-заходняй Беларусі. Некаторыя новаўтварэнні ўзнікаюць і ў гаворках паўднёвай часткі Беларусі. У гэты перыяд складваюцца важнейшыя асаблівасці, якімі характарызуюцца сучасныя паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні дыялекты.

Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы, брэсцка-пінскія гаворкі і паўночны (палескі) дыялект украінскай мовы складалі адзіны дыялектны арэал, які вылучаўся большай старажытнасцю суадносных з'яў у параўнанні з іншымі дыялектнымі групамі таго часу.

У больш блізкі да нашага часу перыяд з названага дыялектнага масіву па раду з'яў, якія сталі развівацца ў некалькі іншым напрамку, вылучыўся дыялектны арэал, які ўключае сучасныя брэсцка-пінскія гаворкі на тэрыторыі Беларускай ССР і валынскія гаворкі паўночнага дыялекту ўкраінскай мовы.

З другога боку, старажытны дыялектны «беларуска-ўкраінскі» масіў звузіўся на поўначы дзякуючы ўзаемадзеянню са старажытным дыялектным «беларуска-рускім» масівам, у выніку чаго на базе сумежных гаворак аднаго і другога скласіся сярэднебеларускія гаворкі.

## ГАВОРКІ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ Ў ІХ СУВЯЗІ З ГАВОРКАМІ ЧАРНІГАЎШЧЫНЫ І БРАНШЧЫНЫ

Гаворкі паўднёва-ўсходняй зоны, а таксама мазырская група займаюць усходнюю частку паўднёва-заходняга дыялекту, прычым гаворкі паўднёва-ўсходняй зоны выходзяць за яго межы больш на поўнач, часткова захопліваюць сярэднебеларускія гаворкі і паўднёва-ўсходнюю частку гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту. На поўдні і паўднёвым усходзе тэрыторыя разглядаемай групы гаворак даходзіць да граніцы з УССР, а на ўсходзе — з РСФСР. У склад комплексу асаблівасцей гаворак паўднёвага ўсходу ўваходзіць значная колькасць рыс, якія, з аднаго боку, характарызуюць паўднёва-заходні дыялект, сярэднебеларускія гаворкі і паўночна-ўсходні дыялект. З другога боку, рад моўных асаблівасцей гэтай тэрыторыі не паўтараецца ў гаворках астатняй часткі Беларусі, але мае месца ў гаворках на тэрыторыі Украіны і Бранскай вобласці.

Некаторыя моўныя рысы гаворак паўднёвага ўсходу з'яўляюцца вельмі старажытнымі. Гэта, напрыклад, адрозніванне глухіх-звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі, ужыванне канструкцыі з прыназоўнікам *паўз (выз)* тыпу *бег паўз сад*. Тут захавалася больш старажытнае значэнне слова *тава́р* (буйная хатняя жывёла).

Многія рысы, якія характарызуюць гаворкі паўднёвага ўсходу, па часу ўзнікнення з'яўляюцца больш познімі інавацыямі ў параўнанні з суадноснымі моўнымі рысамі астатняй тэрыторыі Беларусі. Так, у гаворках паўднёва-ўсходняй зоны адметнай рысай дзеяслова з'яўляецца наяўнасць цвёрдага зычнага ў канцы асновы ў 1-й асобе множнага ліку дзеясло-

ваў I спражэння незалежна ад месца націску (*нясо́м, по́йдам*), а таксама заднеязычных [г] і [к] (*стрыго́м, пяко́м*). У гэтай форме адбылося выраўноўванне асновы на цвёрды і заднеязычны па аналогіі з формай 1-й асобы адзіночнага ліку (*нясу́—нясо́м, стрыгу́—стрыго́м*).

Асаблівасцю разглядаемых гаворак з'яўляецца тое, што форма 1-й асобы множнага ліку з аднаўленнем заднеязычнага не выступае як адзіны магчымы марфалагічны варыянт. У заходняй іх частцы і зрэдку на паўночнай мяжы (па суседству з сярэднебеларускімі гаворкамі) адзначаецца варыянт з шыпячым у 1-й асобе множнага ліку (*стрыжо́м*).

У паўднёвай жа частцы і зрэдку на астатняй тэрыторыі гэтых гаворак адзначаюцца формы з паслядоўнай або частковай уніфікацыяй асновы на шыпячы [1]. Тут жа пашырана форма інфінітыва на **-ці**, якая паслядоўна захоўвае заднеязычныя [г], [к] (*пякці́, берагці́, се́кці, стры́гці, стрыгці́*), а таксама варыянт формы 3-й асобы без *t* ад дзеяслова *быць*, а іменна форма *ё*.

Гаворкі паўднёва-ўсходняй зоны адрозніваюцца ад астатніх беларускіх гаворак ужываннем такіх слоў, як *скарада́* 'усходы азімых', *каша́ра* 'агароджанае месца для жывёлы ў полі ці лесе', *адо́нак* і *адзёнак* 'падмосткі пад стог', *ко́ршак* 'драпежная птушка', *ёмка* 'прыстасаванне, якім дастаюць скавараду з печы', *саха́* 'частка студні з жураўлём' і некаторых іншых.

Больш познімі па часе ўзнікнення моўнымі рысамі характарызуецца і мазырская група гаворак. Тут назіраецца вымаўленне [у] на месцы [ы] пасля губных [б], [п], [м] і губназубнога [в] у розных марфалагічных тыпах незалежна ад пазіцыйных умоў, у якіх аказваецца гук **ы**: *кабу́ла, прыву́к, пута́ц', адмука́ц'; му, ву, γрыбу́, ба́бу, зу́бу; ву́рас'л'и, чарству́, сла́буй* — назоўны склон адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду; *но́вуйе, к но́вум, но́вум'и, у ро́завух*.

Упершыню вымаўленне [у] на месцы [ы] было адзначана М. Янчуком у запісах з Рэчыцкага павета 1886 г. (*му, сун, бук, бу́йстрый*) [64, *237*]. Што датычыцца беларускіх пісьмовых помнікаў, то напісанне **у** на месцы **ы** сустрэлася толькі ў Катэхізісе 1562 г. *(властывуе́)*, у чым Я. Ф. Карскі бачыць апіску пад уплывам польскай графікі [64, *239*]. Пазней Карскі катэгарычна сцвярджаў, што ў помніках беларускай пісьменнасці **у** на месцы **ы** не адзначана [67, *89*].

---

[1] Дзеяслоўная парадыгма з чаргаваннем заднеязычных і шыпячых ва ўсіх іх членах — характэрная рыса ўкраінскай мовы і брэсцка-пінскай групы беларускіх гаворак. Адзначана чаргаванне заднеязычных і шыпячых ва ўсіх членах парадыгмы і ў нас. п. Воркі Наўлінскага раёна на Браншчыне: *запр'ажу́, исп'ачу́, ст'ир'ажу́, исп'ач'о́ш, ст'ир'ажо́ш, ст'ир'ажу́т', запр'ажу́т', п'ачу́т'* [142, *207*].

Праяўленне разглядаемай фанетычнай рысы ў гаворках мазырскай групы неаднолькавае. Напрыклад, у нас. пп. Вулкан, Дзеражычы, Ручаёўка Лоеўскага раёна [у] на месцы [ы] адзначана ва ўсіх словах. У нас. пп. Карпаўка, Першамайск, Рудня Марымонава, Чапліна гэтага ж раёна [у] на месцы [ы] наглядаецца толькі ў коранях і прыстаўках (*муш, бук, вýн'есла*); у нас. пп. Бывалкі, Казярог, Крупейкі, Перадзелкі — толькі ў прыстаўках (*вýв'ела, вýп'иў*) [148, *147*].

Адзначаецца таксама паралельнае ўжыванне спалучэнняў губных з [ы] і [у] ў гаворцы аднаго і таго ж населенага пункта. Часцей за ўсё паралелізм спалучэнняў губнога з [у] і [ы] зафіксаван на мяжы з гаворкамі, якім не ўласціва спалучэнне губнога з [у] на месцы [ы]. Больш паслядоўна такая з'ява наглядаецца ў гаворцы жыхароў старэйшага пакалення, аб чым сведчаць заўвагі збіральнікаў дыялектных матэрыялаў (ДАБМ, Каментарыі, стар. 358, 360, 400). Залежыць гэта таксама ад ступені адукаванасці інфарматара [28, *116*].

Спалучэнні губных з [у] на месцы [ы] не характэрны ні для гаворак украінскай, ні для гаворак рускай мовы, сумежных з тэрыторыяй Беларускай ССР. Толькі зрэдку, прычым пазіцыйна абмежавана, адзначаны такія спалучэнні ва ўкраінскіх гаворках у раёне ніжняй Прыпяці: *вýп'іт', вýгнат', бук, кабýла* (пераважна ў прыстаўках) [87, *125*]. У самай паўднёвай частцы мазырскай групы, як і ў брэсцка-пінскіх гаворках, развіліся спалучэнні губных з [и]: *паγраб'ú, слуп'ú, б'ик, прыв'úк, в'и, м'и, бáб'и, п'итáц* і інш. (ДАБМ, карты № 22, 24, 37—39, 41).

У паўночнаўкраінскіх гаворках адпаведна з [и] украінскай літаратурнай мовы выступаюць фанемы [$и^і$] і [$і^и$]: *$ми^і$, $ті^и$* і інш. [49, *54*]. Спалучэнні губных з [и] адзначаны і ў паўднёвай частцы Навазыбкаўскага раёна (*мúла, миш, ми, ви, вúнул, вúхад, пил, бик, бил, пúрскать* і інш.) [104, *15*].

Спалучэнні губных з [у] або [и] на месцы [ы] — больш позняя рыса. Яны развіліся са спалучэння губнога і [ы] па розных прычынах. Першае спалучэнне (губны + *у*) з'явілася ў выніку вельмі лабіяльнага вымаўлення зычных **б**, **в**, **м**, **п** у гаворках разглядаемай тэрыторыі [64, *239*]. Другое спалучэнне (губны + *і*) звязана з рознымі варыянтамі фанемы [и]. У сучасны момант разглядаемы фанетычны працэс не з'яўляецца актыўным. Пад уплывам суседніх беларускіх гаворак, а таксама літаратурнай мовы назіраецца паступовае выцясненне спалучэнняў губнога з [у] спалучэннямі губнога з [ы].

Другая фанетычная рыса разглядаемай групы гаворак — наяўнасць [е] ў ненаціскным канчатку давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з асновай на мяккі зычны (*в'úшн'ем, сарáйем, канóпл'ем*). Тут жа адзначаецца [е] на месцы каранёвага **а** (*пáм'ец', зáйец*), што характарызуе і гаворкі брэсц-

ка-пінскага арэала. У паўднёвай частцы мазырскай групы гаворак адзначаецца вымаўленне [е] ў ненаціскным канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння (*хóдз'ець, кóс'ець, рóб'ець*). Вымаўленне [е] на месцы [а] пасля мяккіх зычных звязана з характарам ненаціскнога вакалізму (а іменна з еканнем) у разглядаемай групе гаворак і аб'ядноўвае іх з паўночнаўкраінскімі гаворкамі, дзе [е] на месцы ненаціскнога [а] пасля мяккіх зычных адзначаецца даволі паслядоўна: *пáмет', калóдез', зéрнетко, дéвет', вони хóдет', нóсет, хóдечи, нóсечи* [48, *68, 69*], *вони хóдет', прóсет', тóпет', вáрет'* [75, *35*].

Гук [е] на месцы [а] пасля мяккіх зычных адзначан таксама ў гаворках Бранскай вобласці на граніцы з БССР. П. А. Растаргуеў заўважыў, што гукі [е] і [а] пасля мяккіх зычных могуць вымаўляцца як [и] або вельмі закрытае [е], радзей — як [а], прычым вымаўленне [е] вельмі распаўсюджана ў гаворцы: *пяцера, дрóбен, за гáем, рóдненькі* і інш. [115, *32, 33*]; *ребúнка, рескóй, улекнýлася* [77, *196*].

Назоўнікі ніякага роду са старой асновай на t (*цялЯ, парасЯ*) у сучаснай беларускай літаратурнай мове, як і ва ўкраінскай, захавалі аснову на зычны ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага, вінавальнага і творнага адзіночнага ліку: *цялЯ, цялём* — у беларускай мове; *теля, телям* — ва ўкраінскай мове [7, *90*].

Форма творнага склону адзіночнага ліку гэтых назоўнікаў у мазырскай групе гаворак мае націскны канчатак **-ам(-ям)** (*целЯм, парасЯм, лошáм*), як і ва ўкраінскай літаратурнай мове і большасці ўкраінскіх гаворак, напрыклад у частцы паўднёва-ўсходняга дыялекту ўкраінскай мовы [32, *121*].

Формы ж з канчаткам **-ям** узніклі, як мяркуюць некаторыя ўкраінскія лінгвісты, пад уплывам канчатка творнага склону адзіночнага ліку **-ям** назоўнікаў II скланення тыпу *зілля, гілля* [7, *91;* 56, *233*]. Магчыма, што канчатак **-ям** творнага склону адзіночнага ліку разглядаемай групы назоўнікаў з'явіўся і падтрымліваецца ў гаворках мазырскай групы дзякуючы форме назоўнага склону адзіночнага ліку тыпу *цялЯ*.

У паўднёва-ўсходняй зоне выдзяляюцца дзве невялікія групы гаворак, слоўнікавы састаў якіх характарызуецца наяўнасцю некаторых лексем, што адсутнічаюць у астатняй частцы разглядаемага моўнага масіву і наогул не сустракаюцца ў іншых гаворках Беларусі.

У першую чаргу неабходна назваць гаворкі, акрэсленыя лельчыцка-мазырска-гомельскім пучком, для якіх характэрна ўжыванне наступных слоў: *валачы́ць* 'баранаваць', *крапíць* 'латаць', *фацыЯт* 'франтон', *стáўка, ставóк, ставéц* 'малая ўкладка снапоў у полі', а таксама падзыўных для курэй: *цюцю-цю*. Другая невялікая група гаворак, вызначаная церахоўска-гомельскім пучком, характарызуецца пашырэннем слоў

*ца́мра* 'зруб у студні', *тало́ка* 'абложная зямля', *за́пан* 'фартух', *прач* 'пранік', *зама́шкі* 'плоскуні', *бар-бар-бар* (падзыўныя для авечак).

Такім чынам, многія моўныя рысы (фанетычныя і марфалагічныя), якія характарызуюць гаворкі паўднёвага ўсходу, прадстаўляюць сабою больш познія па часе ўзнікнення інавацыі ў параўнанні з суадноснымі моўнымі рысамі астатняй тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту (формы 1-й асобы множнага ліку на цвёрды зычны, формы інфінітыва на **-ці** з аднаўленнем задненёбных зычных у аснове, спалучэнні губных з [у] на месцы [ы] і некаторыя іншыя).

У слоўніку гаворак паўднёвага ўсходу наглядаюцца таксама лексічныя адзінкі, якія атрымалі распаўсюджанне пазней, відаць, пад уплывам мовы гарадскога насельніцтва. Да іх ліку можна аднесці наступныя: *фацыя́т* — праз польскую мову з італьянскай *facciata*, якое ўжывалася ў значэнні 'фасад' [151, *116*], *ца́мра (цэ́мра)* — з польскай *cembrowac̈, cęb-rowac̈, cębra* [151, *57*]; *каша́ра* — з румынскай мовы *kaszare* 'загарадзь для авечак' [151, *260*], відаць, праз украінскую.

У суседніх гаворках маюць месца ўтварэнні з каранямі *шчыт-* (*шчыт, зашчы́т, зашчы́так*), *руб-* (*зруб, абру́б, ізру́б*), *гарад-*(*дз-*) (*за́гарадзь, за́гарадка* і інш.), якія ўзыходзяць да старажытнарускіх *щит-*, *руб-*, *город-*.

Вызначыць адносна дакладную тэрыторыю пашырэння той ці іншай рысы, якая характарызуе гаворкі паўднёвага ўсходу, за межамі Беларусі цяжка, таму што яшчэ няма дыялекталагічных атласаў украінскай і рускай моў. У працах і артыкулах, прысвечаных вывучэнню гаворак, якія мяжуюць з беларускімі гаворкамі, знаходзім толькі асобныя заўвагі аб падобных моўных рысах. Так, напрыклад, у гаворках заходніх раёнаў Бранскай вобласці, каля Навазыбкава і Старадуба, адзначаны формы 1-й асобы множнага ліку з асновай на цвёрды зычны (*нясо́м, бяро́м, вядо́м, вязо́м, идо́м, дзяро́м, ирво́м, жном, бирягóм, пяко́м, сяко́м, маɣо́м, наталко́м* [104, *25;* 115, *116*; 142, *207*], формы інфінітыва на **-ць(-ть)** з аднаўленнем задненёбных (*пекть, берéгть*) [119, *148*]. Такія формы сустракаюцца ў гаворках каля Гомеля (*бярэ́гць, стрыгць, цекць, секць* і інш.).

У паўднёва-заходняй частцы паўднёвых рускіх гаворак (у асноўным у Бранскай вобл.) і ва ўсходнепалескіх (левабярэжных) гаворках украінскай мовы адзначаецца рад слоў, якія характарызуюць гаворкі паўднёвага ўсходу Беларусі. Так, слова *валачы́ць* у значэнні 'баранаваць' ужываецца ва ўсходняй (разанскай) групе гаворак [119, *279*], у курска-арлоўскіх гаворках [59; 43, т. I, *236*]; *ця́мра* з мяккім [ц] у значэнні 'зруб у студні' адзначана ў некаторых раёнах Чарнігаўшчыны [39, т. IV, *440*]. У значэнні 'поле пад парам, на якім

пасцяць скаціну' даецца слова *тало́ка* ў слоўніку Б. Д. Грынчанкі [39, т. IV, *272*]. З паметай «заходняе», «паўднёвае» прыводзіць слова *тало́ка* ў значэнні 'паравое поле' У. І. Даль [43, т. IV, *413*].

Слова *каша́ра* 'скацінны двор' уласціва гаворкам каля Навазыбкава і Старадуба [115, *139*]; адзначана яно і значна далей на ўсход, у тульскіх гаворках [43, т. II, *181*]. Гэта слова з'яўляецца і літаратурнай нормай украінскай мовы.

Назва *одёнок* пашырана ў сярэднепалескіх гаворках украінскай мовы [48, *81*], *одо́нок* — у тамбоўскіх і курска-арлоўскіх гаворках [43, т. II, *655*].

Слова *худо́ба* 'хатняе дабро' адзначана ў некаторых гаворках Чарнігаўшчыны [11, *320;* 115, *138*]. Наогул гэта слова ў значэнні 'буйная хатняя жывёла' з'яўляецца літаратурнай нормай украінскай мовы. *Тава́р* 'хатняя жывёла' адзначаецца ў частцы паўднёва-заходніх украінскіх гаворак [48, *74*]. Параўн., *това́рина* 'адна штука рагатай жывёлы' — у падольскіх гаворках паўднёва-заходняга ўкраінскага дыялекту [48, *128*], *това́ришник* 'двор для жывёлы' — у слабажанскіх гаворках паўднёва-ўсходняга дыялекту ўкраінскай мовы [48, *175*].

Слова *за́пан* 'фартух без рукавоў, які надзяецца вышэй грудзей', адзначана ў Навасільскім павеце Тульскай губерні [21]. У значэнні 'занавеска' гэта слова знаходзім у слоўніку Б. Д. Грынчанкі [39, т. II, *83*]. Слова *прач* 'пранік', якое з'яўляецца літаратурнай нормай украінскай мовы, адзначана ў Ноўгарад-Валынскім павеце [39, т. III, *403*]. Аднакарэнныя ўтварэнні *пра́йнік, пра́льнік, пра́ннік* распаўсюджаны ў паўднёва-заходняй зоне рускіх гаворак [119, *258*; 115, *149;* 104, *33*].

Слова *зама́шкі* ў значэнні 'плоскуні' пашырана ў верхнедзяснінскай і курска-арлоўскай групах паўднёварускіх гаворак [119, *277*, *278*; 43, т. I, *601*; 116, *221*; 21; 115, *139*].

У курска-арлоўскай групе паўднёварускіх гаворак слова *емо́к* (*емки́*) ужываецца ў значэнні 'прыстасаванне для даставання гаршкоў з печы' [119, *278;* 59]. У гэтым жа значэнні даецца гэта слова У. Далем з паметамі «кур.» (курскае) [43, т. I, *519*]. У мазырскай групе беларускіх гаворак слова *ёмка* ўжываецца ў значэнні 'чапяла' (блізкія па функцыі прадметы называюцца адным і тым жа словам).

Слова *скарада́* ўжываецца ва ўсходнепалескіх украінскіх гаворках [49, *157*].

Такім чынам, у гаворках паўднёва-ўсходняй зоны пры захаванні асноўных рыс паўднёва-заходняга і паўночна-ўсходняга дыялектаў з'явіліся некаторыя моўныя рысы храналагічна больш позняга ўтварэння. Яны маюць сваё прадаўжэнне на тэрыторыі РСФСР і УССР і аб'ядноўваюць беларускія гаворкі паўднёвага ўсходу з усходнепалескімі гаворкамі

украінскай мовы, а таксама з заходняй, курска-арлоўскай, а часткова і з усходняй (разанскай) групамі паўднёварускіх гаворак.

Моўныя асаблівасці гаворак разглядаемай тэрыторыі, відаць, можна растлумачыць тым, што тут у больш ранні гістарычны перыяд сутыкаліся паміж сабою плямёны дрыгавічоў, радзімічаў, северан і драўлян і зносіны паміж імі не маглі не аказаць уплыву на фарміраванне пэўных моўных рыс. Акрамя моўных кантактаў розных племянных груп, моўныя асаблівасці гаворак паўднёвага ўсходу выкліканы, відаць, у значнай меры і экстралінгвістычнымі фактарамі. Яны тлумачацца адарванасцю ў XII—XIV стст. паўднёва-ўсходняй тэрыторыі Беларусі ад Гродзенскага, Мінскага, Клецкага княстваў. Сучасныя раёны Мазыра, Гомеля, Рэчыцы, Чачэрска былі ў той час ускраіннымі землямі Кіеўскага і Чарнігаўскага княстваў і больш прыцягваліся да вялікіх культурных цэнтраў таго часу, якімі былі Кіеў і Чарнігаў.

## БРЭСЦКА-ПІНСКІЯ ГАВОРКІ

Азнаямленне з гаворкамі брэсцка-пінскага арэала сведчыць аб тым, што яны, набліжаючыся да суседніх заходнепалескіх гаворак украінскай мовы і палескіх гаворак, размешчаных на тэрыторыі Польшчы, супрацьпастаўляюцца асноўнаму масіву беларускай дыялектнай мовы наяўнасцю такіх фанетыка-марфалагічных асаблівасцей, як поўнае ці частковае адрозніванне галосных няверхняга пад'ёму на месцы «е», «ё», «'а» ([*вы*]*сна́*, [*сы*]*ло́*, [*в'и*]*сна́*, [*с'и*]*ло́*, [*ве*]*сна́*, [*се*]*ло́*, [*в'е*]-*сна́*, [*с'е*]*ло́*, [*бы*]*да́*, [*вы*]*дро́*, [*б'и*]*да́*, [*в'и*]*дро́*, [*бе*]*да́*, [*ве*]*дро́*, [*б'е*]*да́*, [*в'е*]*дро́*, [*пе*]*та́*, [*ге*]*гну́*, [*п'е*]*та́*, [*пúе*]*та́*, [*ц'е*]*гну́*, [*пы*]*та́*, *дзе*[*сы*]*ці́*, [*п'и*]*та́*, [*ц'и*]*гну́*, [*п'а*]*та́*, [*ц'а*]*гну́*); галосны **и** на месцы «ё» ў націскным складзе ([*л'и*]*с*, *х*[*л'и*]*б*, [*б'и́*]*лы*, *на*[*з'и́*]); **и**(**ы**) на месцы **о** ў закрытым націскным складзе ([*д'и*]*м*, [*ды*]*м*, [*к'и*]*нь*, [*кы*]*нь*, [*в'и*]*л*, [*вы*]*л*); спалучэнне **мн**' на месцы мяккага губнога «м» у пазіцыі перад **а** ([*мн'*]*а́са*, [*мн'*]*а́та*, [*мн'*]*аць*); цвёрдыя губныя **б**, **п**, **м**, **в** і свісцячыя **з**, **с** у пазіцыі перад **и**, **е** ([*б*]*ыць*, [*п*]*ыць*, [*м*]*ы́ска*, *гра*[*бе́*], *на* [*пе́*]*чы*, [*ме́*]*сці*, [*ве́*]*чар*, [*зе*]*лёны*, [*се́*]*мя*, [*зы*]*ма́*, [*сы́*]*ла*, *ка*[*сы́*]*ць*); цвёрдыя **д**, **т** перад **е**, **и**, а таксама перад націскным галосным, які адпавядае «ё» (*и*[*ды́*], [*ты́*]*ха*, [*де*]*нь*, [*те*]*нь*, [*де*]*д*, [*те́*]*ста*); канчаткі **-ові**(**-овы**), **-аві**(**-авы**), **-еві**(**ёві**) у месным склоне адзіночнага ліку адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з рознай асновай (*на быко́ві, аб ваўко́ві, на быке́ві, аб ваўке́ві, на луго́ві, на стаго́ві, на лу́гаві, на сто́гові, у кажухо́вы, у катухо́вы, у кажу́хавы, у ко́тухавы, на канцо́ві, на ключо́ві, на пнёві, аб сы́наві, пры бра́таві, аб сва́таві*); канчаткі **-а, -ам, -аві** ў родным, творным і месным склонах адзіночна-

га ліку назоўнікаў, назваў маладых істот (*тэлята, парасята, ягнята, тэлёта, парасёта, ягнёта, цялятам, парасятам, ягнятам, аб тэлятаві, аб парасятаві, аб ягнятаві*); націскны і ненаціскны канчатак **-ому** ў месным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (*аб маладому, у жоўтаму*); націскны канчатак **-ыі** ў назоўным склоне множнага ліку прыметнікаў (*маладыі*): канчатак **-ёго** ў родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду і **-ее** ў родным склоне жаночага роду прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* (*маёго, тваёго, сваёго, у маее, у тваее, у сваее*) і некаторыя іншыя.

Акрамя таго, толькі ў гаворках брэсцка-пінскага арэала адзначаюцца словы *клуня, клюня* (будынак для складвання снапоў, саломы), *шур, шурык* (пабудова для гаспадарчых прылад), *шпіхір* (будынак для захавання збожжа) [1]; *повал, полак, полап* (назвы столі), *вышкі* ў значэнні 'гара'; *калодяз* (варыянт літаратурнага *калодзеж*); *звод* (саха ў студні з жураўлём) [2]; *калышка, нэнька, нянька* (назвы вісячай калыскі); *бунька, банька* (гарлач); *каблукі* (рэзгіны); *ужоўка, вужоўка, гужоўка* (прывязка ў цэпе); *затулач, затулок, зателок* (клінок у касе); *тырпуга, трэпуга, трыпушка* (назвы лапатачкі для вастрэння касы); *сыўба* ў значэнні 'рунь'; *стырня* (назва зжатага поля, на якім расло жыта); *злог* (*аблога*); *стаўка, стропэц, стрыпчык, стропцы* (апошнія тры як назвы малой укладкі снапоў у полі ўтварыліся ад таго ж кораня, што і ўкраінскае *стропа* 'ворах, куча'); *няўчыць* (мяўкае); *бычыт* (бляе); *быцю-быцю, мізю-мізю, тлось-тлось* (падзыўныя для кароў) [3]. Разам з тым па раду сваіх істотных асаблівасцей гаворкі брэсцка-пінскага арэала аб'ядноўваюцца з прымыкаючымі да іх паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі. Да ліку такіх асаблівасцей адносяцца адрозніванне [о], [а] ў паслянаціскным канцавым адкрытым складзе (*сено, много*); канчаткі **-ям**, **-ем** у давальным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з мяккай асновай (*віш[н'а]м, віш[н'е]м, кап[л'а]м, кап[л'е]м*); націскныя канчаткі ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду **-ою** з асновай на цвёрды зычны (*сцяною, вадою*), **-ою**, **-ёю**, **-эю**, **-ею** з асновай на мяккі і зацвярдзелы зычны (*мяжою, зямлёю, мяжэю, зямлёю*); ненаціскны канчатак **-а** ў назоўным склоне множнага ліку

---

[1] Суфіксальнае **-л** у слове *шпіхір* страцілася (параўн. укр. *шпіхлір*, польск. *szpichlerz*).

[2] Слова *звод* у гаворках брэсцка-пінскага арэала ўжываецца таксама для абазначэння вочапа. Як назва вагі ў студні з жураўлём яно, акрамя названых вышэй гаворак, іншы раз адзначаецца ў гаворках Гомельскага і Добрушскага раёнаў Гомельскай вобласці.

[3] Іншы раз побач з *тлось-тлось* у гаворках брэсцка-пінскага арэала адзначаюцца падзыўныя *тлошка-тлошка*, вядомыя ў гэтым значэнні гаворкам Лельчыцкага і Ельскага раёнаў Гомельскай вобласці.

назоўнікаў ніякага роду (*сёла, гнёзда, вокна, вёдра, парасята*); націскны канчатак **-і** ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на [к] (*дзяўкі, хусткі*); ненаціскныя канчаткі **-а** ў назоўным склоне, **-у** ў вінавальным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (*нова, нову хату*); націскны канчатак **-ою** і ненаціскны **-аю** (**-ою**) ў творным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (*з маладою, за новаю* (**-ою**)); канчатак **-ма** ў творным склоне лічэбнікаў *два, тры* (*двумá, трымá*); адсутнасць **т'** (**ц'**) у канчатку 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння (*ідзé* (*ідэ́*), *бярэ́* (*бэрэ́*), *нясé* (*нэсэ́*), *кáжа, мéле, грэ́е*); галосны [о] ў канчатку 1-й і 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння (*с'адз'имó* [*с'едымó*], *γладз'имó* [*γл'едымó*], *рóб'имо, с'адз'иц'ó, γл'адз'иц'ó*); галосны [а] ў ненаціскным канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння (*хóдз'ац'* [*хóд'ат*], *нóс'ац'* [*нóс'ат*], *кóрм'ац'* [*кóрмл'ат*]); наяўнасць *l*(epentetykum) у парадыгме цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння з асновай на губны зычны (*драмл'ý, сыпл'у, дрéмл'еш, сыпл'еш, дрéмле, сыпле, дрéмлем, сыпл'ем, дрéмл'ец'е, сыпл'ец'е, дрéмл'уц', сыпл'уц'*); націскны канчатак **-ем** у 1-й асобе множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння (*жн'ем* [*жн'êм*], *идз'ем* [*идз'ем*]); канчатак **-мо** ў 1-й асобе множнага ліку загаднага ладу (*идз'éмо, с'п'íмо* [*с'п'имó*], *стáн'мо* [*стáн'ама, стáн'имо*], *с'áдз'мо* [*с'áдóмо*]); канчаткі **-ці, -ты** ў неазначальнай форме дзеясловаў з нерухомым націскам на аснове (*с'éс'ц'и* [*с'éсты*], *прáс'ц'и* [*прáсты*], *клáс'ц'и* [*клáсты*]).

Агульнымі для палескіх і паўднёва-заходніх беларускіх гаворак з'яўляюцца таксама наступныя моўныя рысы: канчатак **-ёю** ў творным склоне адзіночнага ліку назоўніка *гусь* (*гусёю*); канчаткі **-ою, -эю, -аю, -ыю** ў творным склоне адзіночнага ліку назоўніка *мыш* (*мышóю, мышэ́ю, мы́шаю, мы́шыю*); канчаткі **-о** ў назоўным склоне, **-а** ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў *бáцька, дзя́дзька* (*бáцько — без бáцька*); клічная форма назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду (*брáце(я), брáту, мáмо, Мáнё, Вáлё*); ненаціскны канчатак **-ях** у месным склоне множнага ліку назоўнікаў *лю́дзі, грýдзі, сáні, гóсці, лáпці, сéні* (*аб лю́дзях, у грýдзях, у сáнях, у гóсцях, у лáпцях, у сéнях*); канчатак **-ю** ў творным склоне адзіночнага ліку ўказальна-асабовага займенніка жаночага роду (*éю*); аснова *дво-* ў родным і давальным склонах лічэбніка *два* (*двох, двом*); варыянты *йéс'ц'и* (*йес'т', йес'*), *йе* дапаможнага дзеяслова *ёсць*; месца націску ў вінавальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а** (*нóгу, рýку, вóду*); месца націску на аснове ў назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў *тóўсты, прóсты*; ужыванне форм парнага ліку былых асноў на **-о** ніякага роду і асноў

на **-а** жаночага роду з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* (*два* [*тры, чатыры*] *вакне́, дзве* [*тры, чатыры*] *ха́ты*); канчатак **-ы** ў вінавальным склоне множнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць жывёл (*пагна́ў валы́, падаі́ла каро́вы*); наяўнасць спалучэння *вучы́цца за до́ктара*, якому ў паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках адпавядае спалучэнне *вучы́цца на до́ктара*.

Некаторыя моўныя катэгорыі ці формы, з'яўляючыся агульнымі для брэсцка-пінскіх і большасці паўднёва-заходніх гаворак, у той ці іншай ступені вядомы паўночна-ўсходнім беларускім гаворкам. Гэта ненаціскны канчатак **-ы** ў канцавым адкрытым складзе пасля губных зычных (*ба́бы, удо́вы*); націскны галосны [а] ў пазіцыі перад [ў] (*да́ў, каза́ў, пра́ўда, наста́ўнік*); асабовы займеннік *мы*; націскны галосны [ы] пасля губных у корані слова (*бык, кабы́ла, прывы́к, мы́ла*); суфікс **-ічк-** у назоўніках жаночага роду на **-а** (*палі́чка, рукаві́чка*); нулявы канчатак у назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў *мыш, гусь*; двухскладовы канчатак **-амі** ў творным склоне множнага ліку назоўнікаў (*за дама́мі, за агаро́дамі, за нажа́мі, за ха́тамі, за вёдрамі, за ві́шнямі*); націскныя канчаткі **-ая** ў назоўным, **-ой** у давальным, **-ую** ў вінавальным склонах адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (*малада́я, малад́ой, малад́ую*); націскны канчатак **-ымі** ў творным склоне множнага ліку прыметнікаў (*з малады́мі*); указальны займеннік *той* у форме назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду і давальнага склону адзіночнага ліку жаночага роду (*к той*); наяўнасць **т'**(**ц'**) у канчатку 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння з націскам на аснове (*хо́дз'иц'* [*хо́д'ит*], *но́с'иц'* [*но́с'ит*], *во́з'иц'* [*во́з'ит*]; адсутнасць указальнага займенніка *гэ́ны*; месца націску на канчатку ў назоўным склоне адзіночнага ліку прыметніка *малы́*.

Тое ж можна сказаць і аб словах *трэ́ба* (*тра́ба, трэ, патрэ́бна*), *гара́* (чардак), *аўча́рнік, сві́ран, свёран, свіро́нак* (будынак для захавання збожжа), *калы́ска, ку́бак, ква́рта, то́рба* (аброчная), *палі́ца* (у плузе), *цапі́льна, кассё* (*касьё, кассе́, касье́*), *рваць* у значэнні 'браць лён', *рунь* (усходы азімых), *бацьві́нне, гной, стог, стажо́к, скі́рда, скі́рта, рубе́ль, ру́бель* (жэрдзь), *кнур* (непакладаны кабан), *скаці́на* (агульная назва жывёлы), *пе́вень, квакту́ха, кураня́ты, ка́чка, акацілася* (у адносінах да авечкі), *ржэ* (аб кані), *мя́ўкае* (аб кошцы), *бляе́* (аб авечцы), *зязю́ля, ра́дуга, хма́ра, кава́ль, спява́ць, пла́каць, галасі́ць, хво́ры, гавары́ць, хо́ладна* (*хало́дна, халадно́*), *ве́льмі* (*ве́льма, ве́льмо, ве́льме*), *на́дта, зана́дта, ла́тка* ў значэнні 'заплата', *запла́тка, насто́льнік, саро́чка, спадні́ца, андара́к, фарту́к, чапе́ц, ху́стка, рукаві́цы, гаспада́р, хазя́ін,* (*хадзя́ін*), *падло́га, вясе́лле*.

У гаворках брэсцка-пінскага арэала ў той ці іншай ступені адзначаюцца і такія пашыраныя ў іншых беларускіх гаворках словы, як *столь, паталóк, чардáк, шчыт, лоб, лабя́к* (назвы франтона), *павéць* (пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад), *амбáр, варыўня́* (кладоўка для гародніны), *сахá* (стоўб у студні з жураўлём), *стоўб, кóварат*[1] (у тым жа значэнні), *зруб* (у студні), *плот, калубéль, крýжка, ладышка* (гарлач), *чапялá, чапляя́, лямéш, акладня́, аткладня́, аткладніца* (назвы паліцы ў плузе), *біч, кáпіца* (прывязка ў цэпе), *рýчка, кýлька* (у касе), *напáрстак* (кальцо ў касе), *клінóк, затылак* (клінок у касе), *арáць, баранавáць, браць* (лён), *пóжня* (агульная назва зжатага поля ці назва зжатага поля, на якім расло жыта), *аўсянішча* (назва зжатага поля, на якім рос авёс), *пакóша* (скошаны луг), *я́лавіна, брýква, бýльба, агурóчнік, гарбýзнік, пласкуні, пасáд, пасцéль* (раскладка снапоў для малацьбы), *стажáр'е, адóнак* (падмосткі пад стог), *бугáй* (непакладаны бык), *кабáн, рагóча* (аб кані), *рыкáе, равé* (аб карове), *я́ўкае* (аб кошцы), *крýмкаюць, кýмкаюць* (аб жабах), *бéлка, кóршун, шуля́к* у значэнні 'каршун', *бліскавіца, малáнка, тýча, талакá, пóмач* у значэнні 'талака', *прычытываць* (плакаць па нябожчыку), *мóгілкі, мóгліцы, клáдбішча, бальны́, гаманіць, балáкаць, дýжа, скáцерць, абрýс, абрýсак, абрýснік, штаны́, нагавіцы, рэ́мень, папрýга, ю́бка, пярэ́днік, каптýр* (чапец), *платóк, кут, пóкуць, пóкут, пóкутье, пóкуцье, мост, памóст* (падлога), *свáдзьба.*

Вядомыя гаворкам брэсцка-пінскага арэала словы *шóпа, шóпка* (назва пабудовы са сценамі для гаспадарчых прылад), *прузýк* (прывязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна); *ставéц* (малая ўкладка снапоў у полі); *майдáн* (*агароджанае* месца для жывёлы ў полі ці лесе); *буя́н* (непакладаны бык); *пуць-пуць* (падзыўныя для курэй); *гуль-гуль, пыль-пыль* (падзыўныя для гусей) у іншых беларускіх гаворках адзначаюцца рэдка.

Пераважна ў палескіх гаворках ужываюцца словы *валачыць* у значэнні 'баранаваць'; *пакóт, пóкат* (назвы гары); *рэ́скі* (рэзгіны); *вязóк* (ручка касы); *ля́шка, ляшóк, ляшкі* (назвы малой укладкі снапоў з адной ляхі); *падцэ́пак* (раскладка снапоў для малацьбы); *падóк* (падмосткі пад стог)[2]; *гарахвя́нне, гарашынне, гарахавіска, гарóшыска* (назвы сцяблоў і лісця гароху); *гуркавéнне* (агурочнік); *гарбузéнне* (гарбузнік); *кар-*

---

[1] Іншы раз слова *кóварат* ужываецца для абазначэння сахі або вочапа ў студні з жураўлём (ДАБМ, карты № 242, 244).

[2] У нас. пп. Белая, Войская Камянецкага, Багданаўка Лунінецкага, Чухава Пінскага, Хотамель Столінскага раёнаў Брэсцкай вобласці, Сіманічы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці словамі *под, падóк* называюць раскладку снапоў для малацьбы.

*тафле́нне* (бульбоўнік); *стырня́* (агульная назва зжатага поля); *вяпру́к* (непакладаны кабан).

Некаторыя назвы зжатага поля, на якім рос ячмень або авёс (ДАБМ, карты № 272, 273), напрыклад, *ячме́ніска, аўся́ніска*, акрамя гаворак брэсцка-пінскага арэала, адзначаюцца ў гаворках Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, а таксама ў гаворках Свіслацкага, Ваўкавыскага, Слонімскага, Гродзенскага, Шчучынскага, Воранаўскага, Лідскага раёнаў Гродзенскай вобласці. Пры гэтым пераважна на тэрыторыі Драгічынскага, Пінскага, Столінскага, Лунінецкага раёнаў побач з *ячме́ніска, аўся́ніска* ўжываюцца словы *я́чніска, о́ўсіска, во́ўсіска, аўсіска*. Словы *я́чнисько, о́всіско* вядомы таксама гаворкам заходняй часткі Украінскага Палесся [168, *32, 83*; 48, *88*].

Да ліку слоў, якія ўласцівы брэсцка-пінскім гаворкам і ў той ці іншай ступені вядомы іншым беларускім гаворкам, адносяцца *сяльні́к* (будынак, у якім складаюць сена); *фацыя́т* (франтон); *пако́т* (столь); *бія́к* (біч); *косцэ́* (касільна); *скры́ня, скры́нка* (зруб у студні) [1]; *прач* (пранік); *ухва́т* (скавароднік) [2]; *шыці́к* (рэмень); *жэ́рдкі* (плот з жэрдак); *ключ, клю́чка, ты́чка* (назвы вочапа ў студні з жураўлём); *ля́да* (драўлянае карыта); *лата́ць, лата́ты* ў значэнні 'ставіць латы'.

Некаторыя з разгледжаных вышэй слоў, а іменна *клу́ня, шу́рык, шо́па, шпіхір, вы́шкі, покат* у значэнні 'столь', *кальі́шка, нэ́нька, сте́рня, ко́варат, ко́вадыр, коловорот, ключ, клю́чка, ты́чка, аткладня́, капы́ця, бія́к, вязо́к, заты́лок, волочы́ты, овсіско, буя́н, нагавіцы, шыці́к*, вядомы на тэрыторыі заходняй часткі Украінскага Палесся [168]. Агульнымі для палескіх гаворак і ўкраінскай мовы з'яўляюцца таксама словы *ба́нька, стоўб* (*стовп*), *звод* (*звід*), *прач, напа́рстак* (*напе́рсток*), *шуля́к, лата́ты, прычы́тываць* (*причитува́ти*), *няўчыць* (*нявчати, нявкати*), *ячменісько, горохвяння* (*горохвиння*), *гарбузе́нне* (*гарбузі́ня*), *картафля́нне* (*картоплі́нне*), *падзыўныя бы́цю-бы́цю* (для каровы), *пуць-пуць* (для курэй) і некаторыя іншыя.

Такім чынам, гаворкі брэсцка-пінскага арэала па раду моўных рыс, што вызначаюць іх як своеасаблівае тэрытарыяльнае ўтварэнне, набліжаюцца або да ўкраінскай

---

[1] Як назва зруба ў студні слова *скры́нка* адзначаецца толькі ў нас. пп. Ялова Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, Дзежкаўцы, Хруства Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці.

[2] Зрэдку побач са словам *ухва́т* адзначаюцца іншыя назвы, утвораныя ад таго ж кораня: *хват* (Тэльмы Брэсцкага р-на); *ухва́тнік* (Брады Пружанскага р-на); *патхва́т, падхва́т* (Рудня Свіслацкага р-на, Дарашэвічы Гродзенскага р-на); *падхва́тнік* (Мяшэтнікі Гродзенскага р-на); *ухва́ч* (Гостраў Ваўкавыскага р-на).

(пераважна ў галіне фанетыкі), або да беларускай мовы (у галіне марфалогіі і лексікі). Адзначанае прамежкавае становішча разглядаемых гаворак абумоўлена асаблівасцямі моватворчага працэсу на тэрыторыі пашырэння іх, што ў сваю чаргу цесна звязана з гісторыяй засялення яе. Літоўцы, якія з'яўляліся абарыгенамі, з цягам часу былі выцеснены славянамі. К XI ст. на тэрыторыі брэсцкага і пінскага Палесся пасяліліся драўляне і валыняне. Само сабою зразумела, што племянныя дыялекты іх як генетычна роднасныя мелі значна больш агульнага, чым адрозненняў. Гэта ў сваю чаргу садзейнічала выпрацоўцы новых моўных рыс, агульных для насельнікаў усёй адзначанай тэрыторыі. Далейшае збліжэнне рода-племянных дыялектаў драўлян і валынян і ўтварэнне на базе іх мясцовых моўных сістэм было абумоўлена тым, што брэсцкае і пінскае Палессе ўваходзіла ў склад адных і тых жа тэрытарыяльных аб'яднанняў. Спачатку гэта было Турава-Пінскае, а затым Уладзіміра-Валынскае княства.

Мясцовыя моўныя сістэмы, у генетычных адносінах блізкія да прымыкаючых гаворак украінскай мовы, працягвалі развівацца ў адзіным рэчышчы з апошнімі і пасля дазасялення тэрыторыі брэсцкага і пінскага Палесся выхадцамі з паўднёвага захаду, што адбылося ў выніку татарскага нашэсця, «калі ўсе паўднёварускія плямёны вымушаны былі пацясніцца на поўнач» [63, *111*]. Збліжэнню і змешванню іх і паўночна-заходніх украінскіх гаворак у значнай ступені садзейнічала ўваходжанне названых вышэй тэрыторый у склад Галіцка-Валынскага княства, якое як найменш пацярпеўшае ад татарскай навалы адыгрывала прыкметную ролю ў эканамічным і палітычным жыцці тагачаснай Паўднёвай і Паўднёва-Заходняй Русі. У перыяд знаходжання беларускіх і ўкраінскіх земляў спачатку пад уладай Літвы, а затым Польшчы ўзаемаўплыў паміж гаворкамі брэсцка-пінскага арэала і суседнімі гаворкамі ўкраінскай мовы таксама быў непазбежны. Аднак, як аб гэтым сведчаць апісаныя вышэй ізаглосы і пучкі ізаглос, што выдзяляюць арэалы моўных элементаў розных узроўняў, пашырэнне ўкраінскіх асаблівасцей у межах Беларусі з поўначы і ўсходу ў асноўным абмежавана ўмоўнай лініяй, якая праходзіць на поўнач ад Камянца ў напрамку Пружаны — Бяроза і далей па Ясельдзе, Прыпяці, Стыры да граніцы з Украінскай ССР. Гэта перш за ўсё тлумачыцца тапаграфічнымі і ландшафтнымі асаблівасцямі краю: вялікія лясы, суцэльныя масівы непраходных балот у ваколіцах Пінска, Лунінца, Целяхан, Лагішына, Бярозы.

Не апошнюю ролю ў гэтых адносінах адыгралі прыгонніцтва, нацыянальны і рэлігійны ўціск, у выніку чаго вясковая і гарадская бедната, папаўняючы рады казацтва, уцякала ў менш заселеныя стэпавыя раёны поўдня Украіны. Нельга

таксама не ўлічваць і тое, што далейшае прасоўванне на поўнач і ўсход носьбітаў моўных сістэм брэсцка-пінскага арэала стрымлівалася карэнным насельніцтвам сумежных беларускіх земляў. У аснноўным гэта былі патомкі дрыгавічоў, на аснове рода-племянных дыялектаў якіх развіліся моўныя сістэмы, што ляглі ў аснову сучасных паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. Гэтыя моўныя сістэмы ўвесь час уплывалі як на гаворкі брэсцка-пінскага арэала, так і на прымыкаючыя да іх валынска-палескія гаворкі ўкраінскай мовы. Уплыў гэты працягваецца і ў наш час. Асабліва гэта датычыцца тэрыторый на ўсход ад Гарыні, г. зн. сярэднепалескіх і ўсходнепалескіх гаворак украінскай мовы.

## ГЕНЕЗІС СЯРЭДНЕБЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

У папярэдніх раздзелах ужо адзначалася, што сярэднебеларускія гаворкі характарызуюцца як спецыфічнымі рысамі, так і камбінацыямі моўных рыс супрацьлеглых дыялектаў (карта № 63; стар. 155, 194).

На тэрыторыю сярэднебеларускіх гаворак заходзяць моўныя рысы з паўднёвага захаду і з паўночнага ўсходу. Не пашыраючыся на ўсю цэнтральную тэрыторыю, яны займаюць большыя або меншыя ўскраіны яе. Пры гэтым адны з іх (пераважна паўднёва-заходнія) адлюстроўваюць большую ступень дыферэнцыяцыі граматычнай структуры, другія (пераважна паўночна-ўсходнія) — уніфікацыю яе.

Такія граматычныя катэгорыі паўднёва-заходніх гаворак, як скланенне назоўнікаў ніякага роду, што абазначаюць маладых істот (*цяля́(ё) — цяля́ці*), форма давальнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на **-ом** (*брато́м*), формы 3-й асобы адзіночнага ліку без t дзеясловаў I спражэння і некаторыя іншыя, сведчаць аб захаванні элементаў граматычнай структуры ранейшай пары. Наадварот, паўночна-ўсходнія рысы — формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў на **-ы(-і)** (*сёлы, лясы́*), давальнага множнага на **-ам** (*брата́м*), тып цяперашняга часу асновы з чаргаваннем губных зычных дзеясловаў I спражэння (*драмлю́ — дрэ́меш*) і інш. сведчаць аб пазнейшых працэсах выраўноўвання і уніфікацыі форм скланення і спражэння.

Такім чынам, у храналагічным плане моўныя рысы, якія аб'ядноўваюць цэнтральную тэрыторыю з паўднёва-заходняй, з'яўляюцца больш старажытнымі, а з'явы, агульныя з паўночна-ўсходняй, адносяцца да новаўтварэнняў, якія развіліся ў выніку перабудовы старажытных сістэм у пазнейшы час.

Ізаглосы моўных з'яў паўночна-ўсходняй лакалізацыі не замыкаюцца на тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы», а працягваюцца ў сумежных

рускіх гаворках. Да агульных беларуска-рускіх асаблівасцей належаць:

1. Нерухомы націск на канчатку ў формах адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а** (*вада́, вады́, вадзе́, ваду́;* ДАБМ, карта № 195). Такі тып націску ўласцівы не толькі гаворкам на тэрыторыі Беларусі, але і вялікім абшарам рускіх гаворак [119, *103, 256*]. Захоўваецца ён і ў гаворках рускіх перасяленцаў Прыбалтыкі (*ваду́, з'иму́, нъ гару́* [93, *37, 39, 46*].

2. Адзін тып канчатка на **-і(-ы)** ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў, якія ў адзіночным ліку адносяцца да розных скланенняў (*лясы́, сёлы, го́ры, ху́сткі*; ДАБМ, карты № 95—99). Такія формы найбольш паслядоўна выступаюць у заходніх абласцях рускіх гаворак [119, *113, 114*].

3. Разнавіднасці скланення прыметнікаў і неасабовых займеннікаў, што разам з іншымі асаблівасцямі характарызуюцца неадрозніваннем творнага і меснага склонаў (*сухім, на сухім*; ДАБМ, карта № 117), таксама распаўсюджаны ў рускіх гаворках на тэрыторыі заходніх абласцей, сумежных з БССР [119, *121*].

4. Аснова цяперашняга часу без [л'] дзеясловаў I спражэння на губны (ДАБМ, карта № 159) характэрна для сярэдніх і паўднёва-заходніх велікарускіх гаворак [97, *115, 116*]. Гэта рыса адзначана ў гаворках рускіх перасяленцаў Прыбалтыкі (*насы́п'ьш, сып'ут, тр'эп'ут*) [93, *103, 122, 326*]. Можна меркаваць, што яна ўласціва пскоўскім гаворкам і заходнім абласцям паўночнавелікарускіх гаворак.

5. Супадзенне ў агульным тыпе **-уць(-уть)** (ДАБМ, карта № 157) ненаціскных канчаткаў у 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў I і II спражэнняў характэрна для сярэдне- і паўднёвавелікарускіх гаворак [1].

Такім чынам, па цэламу раду марфалагічных з'яў паўночна-ўсходнія гаворкі аб'ядноўваюцца з велікарускімі гаворкамі заходніх абласцей, утвараючы суцэльныя арэалы агульных моўных з'яў, якія сведчаць аб адзіным напрамку дыялектных змен.

Акрамя перакрыжоўвання дыялектных з'яў супрацьлеглых напрамкаў, ёсць моўныя рысы, пашырэнне якіх абмежавана пераважна цэнтральнай тэрыторыяй Беларусі: канчатак **-мы** ў творным склоне множнага ліку, форма без t у 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння з рухомым націскам і нерухомым націскам на аснове і рад іншых.

У літаратуры выказаны меркаванні аб тым, што спецыфічныя рысы, уласцівыя сярэднебеларускім гаворкам, утва-

---

[1] В. Г. Арлова адзначае, што дзеясловы II спражэння з канчаткам **-ут'**(*но́с'ут'*) характэрны для заходніх гаворак рускай мовы [100, *8*].

рыліся на мяжы двух розных дыялектаў у выніку кантактавання іх. Гэта сцвярджэнне ў адносінах да рада моўных рыс не выклікае пярэчання. Так, напрыклад, форма творнага склону множнага ліку на **-мы** іменнага і займеннага скланенняў (*рукáмы чóрнымы, з нáмы*) магла з'явіцца ў выніку ўзаемадзеяння былых форм парнага ліку на **-ма** і множнага ліку на **-мі** не толькі назоўнікаў, але і лічэбнікаў [1]. Аб гэтым сведчыць наяўнасць у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках форм творнага склону лічэбнікаў на **-ма** (*двумá, двóма, трымá*; ДАБМ, карты № 145, 146).

У выніку ўзаемадзеяння супрацьпастаўленых моўных з'яў развілася форма інфінітыва *пекць, секць,* якая па характару асновы аб'ядноўваецца з паўднёва-заходняй формай *пéкці, сéкці,* а па тыпу суфікса — з паўночна-ўсходняй формай *печ, несць* (ДАБМ, карты № 174, 175, 178, 179). Нават рысы, якія заходзяць з палярных тэрыторый, носяць на сабе яскравы адбітак пераходнасці. Так, напрыклад, у выніку кантактавання розных тыпаў скланення назоўнікаў ніякага роду з асновай на зычны (*цялá — цялáці* : *цялёнак, цялёнка*) на заходняй частцы цэнтральнай тэрыторыі выдзелілася змешаная парадыгма з выразна выяўленай тэндэнцыяй да выраўноўвання па тыпу скланення назоўнікаў з асновай на **-о**(**-jo**) як у назоўным (*цялё,* параўн. *сялó*), так і ва ўскосных склонах (р. *цялá* як *сялá*, д. *цялю* як *сялý* і паралельна захоўваецца традыцыйная форма *цялáці*; ДАБМ, карты № 84—88).

У гэтых адносінах і паходжанне форм 3-й асобы адзіночнага ліку без t дзеясловаў II спражэння з ненаціскнымі канчаткамі можна разглядаць як вынік уплыву і пашырэння адпаведных форм дзеясловаў I спражэння ва ўмовах міждыялектнага кантактавання на стыку асноўных беларускіх масіваў. Пераходны характар форм без t дзеясловаў II спражэння пацвярджаецца іх геаграфічным размяшчэннем паміж арэаламі адпаведнай формы (*идзé, кáжа*), з аднаго боку, і паслядоўным бытаваннем формы з **-ць** (*ідзéць, кáжыць*) — з другога.

Неабходна ўлічваць і той факт, што ў параўнанні з дзеясловамі I спражэння форма без t дзеясловаў II спражэння рэдка фіксуецца пісьмовымі помнікамі, прычым у пазнейшы час. Так, некаторыя даследчыкі прыводзяць формы без t (*стои, доложи*) з помнікаў XV ст. [98, *7*]. Такія ж формы знаходзім

---

[1] С. П. Абнорскі ў свой час формы творнага склону на **-мы** разглядаў як кантамінацыйныя ўтварэнні: формы парнага ліку з канчаткам **-ма** пашыраліся на множні лік і ўступілі ў сувязь з формамі множнага ліку на **-ми,** у выніку з'явіліся фанетычна заканамерныя формы на **-мы,** г. зн. з цвёрдым зычным элементам старажытнага канчатка парнага ліку [96, *348*].

у актах XVII ст. (*невинне чини, належи, хто не роби*) [140, *259, 289, 291*].

Аднак некаторыя сярэднебеларускія рысы, напрыклад суфікс **-ава-** ў аснове незакончанага трывання, каранёвы націск у форме прошлага часу жаночага роду дзеясловаў (*нéсла, вéзла*) і некаторыя іншыя, нельга аднесці да пераходных з'яў.

У мэтах высвятлення прыроды і паходжання спецыфічных сярэднебеларускіх рыс спынімся на характары размеркавання і тэрытарыяльнага акружэння іх. Прамежкавая паласа пашырэння формы без t дзеясловаў II спражэння выходзіць за межы тэрыторыі Беларусі.

П. Бузук на аснове работ А. Курыла, П. А. Растаргуева і К. П. Міхальчука адносіць да пераходнай паласы тэрыторыю былых паветаў: Навазыбкаўскага, Старадубскага, Мглінскага і Суражскага, разам з тым ён указвае на тэрытарыяльны працяг формы без t дзеясловаў II спражэння ў былой Чарнігаўскай губерні [25, *82*; карта № 18].

З другога боку, беларускія гаворкі, якія захаваліся на тэрыторыі Трокскага, Віленскага і іншых раёнаў Літвы, таксама характарызуюцца наяўнасцю формы без t дзеясловаў II спражэння [1].

Геаграфічны фактар не дае падстаў адносіць разглядаемую форму да асаблівасцей гаворак асобных племянных груп, бо ў цэнтральнай частцы Беларусі, дзе пашырана разглядаемая дыялектная рыса, у эпоху племянных саюзаў сутыкаліся тэрыторыі дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і іншых племянных аб'яднанняў, а пазней, у эпоху феадальнай раздробленасці, тут перакрыжоўваліся граніцы асобных княстваў — Полацкага, Смаленскага, Чарнігаўскага [57, *42—65*].

Значна большы арэал формы без t дзеясловаў II спражэння прыпадае на басейны Бярэзіны і Сожа — тэрыторыю позняй каланізацыі славян, дзе, паводле археалагічных помнікаў і гідраніміі [2], у параўнальна нядаўні час пражывалі верхнедняпроўскія балты.

Як мяркуе П. М. Траццякоў, у сярэдзіне і другой палавіне I тысячагоддзя н. э. славяне асобнымі плынямі прабіваліся

---

[1] У матэрыялах, сабраных на гэтай тэрыторыі Я. Ф. Карскім, адзначаюцца формы тыпу *прынóся, кóся* [61, *243—259*]. Такія формы зафіксаваны сумеснай літоўска-беларускай дыялекталагічнай экспедыцыяй у радзе населеных пунктаў Трокскага і Віленскага раёнаў: *(ён) рóбя, залóжа, вóзя, устрóя* пры наяўнасці форм 3-й асобы множнага ліку на **-аць:** *(яны) трапáяць, баранýяць, сéяць, раскáпуяць* (Старыя Трокі, Ліпнякі, Новыя Мацалі і інш.).

[2] Як адзначаюць лінгвісты, найбольшая колькасць балтыйскіх гідронімаў сканцэнтравана ў басейнах рэк Бярэзіны і Сожа [137, *233, 235*].

на поўнач, парушаючы тэрытарыяльную цэласнасць верхнедняпроўскіх балтаў. Апошнія ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. захоўваліся ў выглядзе асобных «астравоў». Адзін з найбольш буйных астравоў і складаў басейн Сожа. Акрамя таго, астраўкі балтыйскага насельніцтва знаходзіліся і ў прылягаючых частках волга-окскага міжрэчча. Усе яны ў той ці іншай форме пакінулі этнічныя сляды не толькі IX—X стст., але і пазнейшага часу [139, *280*] [1].

Пры высвятленні паходжання формы адзіночнага ліку без t неабходна ўлічваць характар формы 3-й асобы множнага ліку тых жа дзеясловаў. Супастаўленне лінгвістычных карт «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» № 149, 153, і 156, 157 сведчыць, што формам адзіночнага ліку (*кáжа, хóдзя*) даволі часта адпавядае форма на **-аць** множнага ліку (*кáжаць, хóдзяць*). Яны аб'ядноўваюцца націскам і агульнасцю галоснага ў канчатках. Толькі форма множнага ліку на **-аць** мае рассеяны характар тэрытарыяльнага пашырэння [2]. Але і форма адзіночнага ліку на **-а**, што выдзяляецца кампактным арэалам, і форма множнага ліку на **-аць**, разрозненыя астраўкі якой сумяшчаюцца з тэрыторыяй пашырэння першай формы, выступаюць як агульныя уніфікаваныя формы ў адносінах да зыходных дыферэнцыраваных форм па тыпах спражэння (*кáжа* : *хóдзіць, кáжуць* : *хóдзяць*). Сучасная структурная агульнасць форм *кáжа, хóдзя, кáжаць, хóдзяць* у пэўнай меры можа сведчыць аб тым, што ў мінулым існавала форма 3-й асобы множнага ліку без t.

У межах Беларусі такія формы не захаваліся, але ў фальклорных матэрыялах, сабраных Я. Ф. Карскім на тэрыторыі Літвы, адзначана форма 3-й асобы множнага ліку без t (*сястрóнкі... накладáя, дзявóчкі... прыспевáя, вéтры... расплятáя, сусéдзі... накладáя*; матэрыялы сабраны ў раёне Трок) [65, *265*]. Магчыма, што ва ўмовах білінгвізму на тэрыто-

---

[1] В. В. Сядоў адзначае, што ў басейне ніжняга цячэння Заходняй Дзвіны, а таксама ў басейнах Віліі, Бярэзіны і ўздоўж Дняпра ад Оршы да Рагачова вядомы гарадзішчы з культурнай штрыхаванай керамікі, якія засталіся ад лета-літоўскага насельніцтва [121, *12*].

А. Г. Мітрафанаў у сваёй манаграфіі «К истории населения средней Белоруссии в эпоху раннего железа» даказвае, што ў басейнах рэк Нёмана, Віліі, Бярэзіны і Друці, а таксама ў басейне левабярэжжа Заходняй Дзвіны прыкладна да сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры пражывалі ўсходнебалтыйскія плямёны, стваральнікі і носьбіты культуры штрыхаванай керамікі, этнічна блізкія да плямёнаў, што пражывалі ў тую эпоху на тэрыторыі сучаснай Літвы [81].

Гл. таксама В. В. Седов. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья [123, *28*].

[2] Я. Ф. Карскі прыводзіць формы на **-аць** дзеясловаў I спражэння з фальклорных і дыялектных матэрыялаў, сабраных каля Гомеля і Быхава (*кáжаць, узнáяць, чытáяць, рабóтаяць, патóпчаць, гуляять, почитáять, ускáкуять, торгýять* [65, *265*].

рыі Літвы беларуская форма 3-й асобы множнага ліку без t падтрымліваецца літоўскай формай 3-й асобы цяперашняга часу падобна да таго, як на беларускай тэрыторыі форма адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння падтрымліваецца адпаведнай формай дзеясловаў I спражэння аднолькавага акцэнталагічнага тыпу; форма ж 3-й асобы множнага ліку, якая не мела такой адпаведнасці, з часам магла знікнуць, выцесніцца поўнай формай.

У гэтым плане заслугоўвае ўвагі меркаванне С. П. Абнорскага аб тым, што формы на **-т**, **-ть** у сапраўднасці з'яўляюцца пазнейшымі, якія замянілі сабой у розных напрамках былую сістэму форм без t адзіночнага і множнага ліку [97, *126*].

Сумяшчэнне арэалаў цэлага комплексу моўных з'яў з арэаламі балтыйскай тапанімікі і комплексамі археалагічных культур, а таксама антрапалагічных тыпаў дае падставы меркаваць аб уплыве балтыйскага моўнага субстрату, які ў пэўнай меры мог вызначыць характар трансфармацыі і змен, што прывялі да аднолькавых вынікаў на вялікіх тэрытарыяльных масівах.

З гэтага пункту погляду і пры высвятленні гісторыі форм без t дзеясловаў I і II спражэнняў неабходна ўлічваць не толькі фактар міждыялектнага кантактавання, якое працягваецца і ў наш час, але і кантактаванне ў мінулыя эпохі, якое адбывалася паміж славянскімі і балтыйскімі мовамі ў межах адзінай тэрыторыі.

Звычайна лічаць, што граматычны лад з'яўляецца найбольш устойлівай часткай моўнай сістэмы ў параўнанні з лексікай і фанетыкай, а таму запазычанне асобных марфем адносіцца да больш рэдкіх выпадкаў. Так, Л. У. Шчэрба адзначае, што марфалагічныя наваўтварэнні адбываюцца сінтаксічным шляхам. Асобныя марфемы запазычваюцца вельмі рэдка [146, *194*].

У падобных выказваннях маецца на ўвазе ўстойлівасць граматычнага ладу. Што датычыцца набору форм і асобных утварэнняў, то яны могуць даволі хутка змяняцца пад уплывам граматычнай аналогіі.

У апошні час адзначаны выпадкі пранікнення элементаў граматычнага ладу нават у межах рознасістэмных моў. На асобны факт пранікнення канчаткаў спражэння з рускай мовы ў алеуцкую мову ўказвае Г. А. Мяноўшчыкаў. Кантакты рускіх з алеутамі на Камандорскіх астравах, на яго думку, адбіліся ў своеасаблівым замяшчэнні больш складаных граматычных элементаў алеуцкай мовы параўнальна больш простымі дзеяслоўнымі формамі рускай мовы [80, *100—106*].

Для больш дакладнага ўяўлення аб моўных з'явах, што развіваюцца пры кантактаванні розных моў, варта звярнуцца да гаворак, якія да нашага часу знаходзяцца ў іншамоўным

акружэнні, напрыклад гаворкі рускіх перасяленцаў Прыбалтыкі. З дыялектных рыс гэтых гаворак, зафіксаваных у Эстоніі, звяртаюць увагу формы без t 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку (ён) *расц'ó, нóс'и, стай,* (яны) *нъзывáйу, растý, стайá, нóс'у,* некаторыя з якіх маюць адпаведнасці ў паўночнавелікарускіх гаворках [93].

Акрамя формы на **-о** (*жыв'ó*), у мове рускіх перасяленцаў на тэрыторыі Літвы ўжываецца форма на **-а** дзеясловаў з ненаціскнымі канчаткамі тыпу (ён) *хóча, плáц'а, рóб'а,* што адпавядае, як мяркуюць даследчыкі, асаблівасцям пскоўскіх гаворак [1]. Аднак рускія перасяленцы на тэрыторыі Прыбалтыкі паходзяць не толькі з Пскоўшчыны, але і з Наўгародскай і іншых паўночных абласцей, гаворкам якіх вядома форма без t ад дзеясловаў I спражэння [89, *126*]. Гэта дае падставы меркаваць аб пазнейшым узнікненні форм без t дзеясловаў II спражэння ў рускіх гаворках Эстоніі і іншых рэспублік Прыбалтыкі. Тут яны маглі з'явіцца ў новых умовах славяна-балтыйскага і славяна-фінскага кантактавання.

Калі параўноўваць сучасныя сярэднебеларускія формы 3-й асобы без t з адпаведнымі формамі рускіх гаворак, то яны зближаюцца з пскоўскімі і паўднёвавелікарускімі. Падабенства рускіх і беларускіх дыялектных асаблівасцей можа быць вынікам агульнасці этнічнага субстрату.

«Пскоўшчына,— як адзначае Р. І. Аванесаў, — з даўняга часу прадстаўляе сабою тэрыторыю, на якой адбывалася інтэнсіўнае этнічнае змешванне: славянскае насельніцтва тут змешвалася з балтыйскімі плямёнамі, фінамі, а таксама, магчыма, і з асобнымі заходнеславянскімі плямёнамі» [1, *119*]. Адсюль і некаторыя моўныя рысы, відаць, з'яўляюцца прадуктам змешвання племянных моў. У гэтых адносінах і за формамі без t рускіх і беларускіх гаворак крыюцца сляды больш старажытных марфалагічных адрозненняў.

Як ужо адзначалася вышэй, агульнапрызнанай з'яўляецца думка аб удзеле балтыйскага этнічнага элемента ў этнагенезе славянства [139, *280;* 123, *36*]. З прасоўваннем славянскіх плямёнаў углыб ўсходнебалтыйскіх зямель адбывалася славянізацыя балтыйскага насельніцтва. Вучоныя мяркуюць, што гэты працэс пры наяўнасці двухмоўя працякаў як паступовае ўзаемапранікненне з асіміляцыяй балтыйскага элемента ў розныя часы на розных частках тэрыторыі з паследуючым захаваннем этнаграфічных рыс, а таксама моўных асаблівасцей балтыйскіх дыялектаў [70, *60—94;* 137, *173*].

---

[1] Улічваючы факт супадзення фанетычных і марфалагічных асаблівасцей рускіх гаворак на тэрыторыі Літвы і пскоўскіх гаворак, В. Н. Немчанка выказвае меркаванне, што продкі рускіх перасяленцаў з'яўляліся носьбітамі пскоўскіх гаворак [92].

Папярэднія балтыйскія плямёны не зніклі бясследна, яны пакінулі багатую тапаніміку, вызначылі пэўны антрапалагічны тып, а таксама, відаць, аказалі і моўны ўплыў.

Як вядома, бываюць такія выпадкі, калі мова субстрату поўнасцю знікае, аднак пры кантактаванні такіх блізкіх моўных сістэм, як балтыйская і славянская, уплыў мовы абарыгенаў мог адбіцца не толькі ў захаванні аднатыпных і падобных структурных рыс, але і абумовіць напрамак працэсу пераўтварэння моўнай структуры прышлага насельніцтва.

Калі к часу глыбокага пранікнення славян на тэрыторыю, заселеную балтамі, дапусціць, што ва ўмовах змешвання насельніцтва і засваення славянскай мовы абарыгенамі адбываліся моўныя кантакты балтыйскіх і славянскіх дыялектаў, пры гэтым першым не ўласцівы быў фармант t у 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў, а ў другіх ён размяркоўваўся ў залежнасці ад тыпу спражэння, то на тэрыторыі з колькаснай перавагай балтыйскага насельніцтва маглі скласціся спрыяльныя ўмовы для пашырэння форм без t у некаторых дыялектах усходнеславянскіх моў.

У далейшым пад нарастаючым уплывам навакольных дыялектаў развіццё магло праходзіць у напрамку выцяснення формы без t у множным ліку. На асобных тэрыторыях у выніку ўзаемадзеяння і трансфармацыі зыходных форм магла скласціся сістэма, падобная да сучаснай сярэднебеларускай, якая прадстаўляе пераразмеркаванне фармантаў спражэння ў залежнасці ад дзеяслоўнага націску.

З пункту погляду дыяхраніі сучасная сістэма захоўвае архаічны пласт форм без t адзіночнага ліку (*кáжа, хóдз'а*). На наяўнасць у мінулым формы множнага ліку без t тых жа дзеясловаў, магчыма, указвае сучасны канчатак **-ац**, яго агульны элемент [а] ў дзеясловах розных класаў (*кáжац', хóдз'ац'*).

Такім чынам, сучасная сістэма форм 3-й асобы адзіночнага ліку без t дзеясловаў, відаць, з'яўляецца заканамерным вынікам, прыватным выпадкам былой складанай гісторыі моўных кантактаў, вынікам арганічнага ўрастання балтыйскага этнічнага элемента ва ўсходнеславянскі этнагенез. У гэтай сувязі можна меркаваць, што ізаглоса формы без t дзеясловаў II спражэння як адна з тыповых рыс сярэднебеларускіх гаворак сведчыць аб глыбокіх сувязях славянскіх і ўсходнебалтыйскіх плямёнаў, аб этнічным узаемапранікненні і моўнай пераемнасці, аб уплыве моўнага субстрату як аднаго з шматлікіх выпадкаў уплыву адной мовы на другую [126, *10*].

Спарадычныя формы адзіночнага ліку з **-ць** (*кáжыць, хóдзіць*) і множнага ліку на **-уць** (*кáжуць, хóдзюць*) маглі

з'явіцца на тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак у пазнейшы час пад уплывам паўночна-ўсходняга дыялекту.

З іншых сярэднебеларускіх рыс заслугоўвае ўвагі формаўтваральны суфікс незакончанага трывання **-ава-**. Як ужо адзначалася вышэй, гэты суфікс, падобна да іншых рыс, займае цэнтральную тэрыторыю і акружаецца іншымі варыянтамі: з поўдня — суфіксам **-ва-**, з паўночнага ўсходу — суфіксам **-ыва-**, з паўднёвага ўсходу — суфіксам **-ува-**. Кожны з іх заходзіць і на цэнтральную тэрыторыю, дзе суіснуе з суфіксам **-ава-**.

Марфемны склад асновы цяперашняга часу ад дзеясловаў з разглядаемымі суфіксамі падзяляецца на два тыпы: да першага адносіцца аснова без захавання суфіксаў **-ова-**, **-ава-**, **(-ува-)**, **-ыва-** (*роскáзовац'и — роскáзујеш — роскáзујуц'*), да другога належыць аснова з наяўнасцю суфікса **-ава-(-ва-)** (*раскáз(а)вац' — раскáз(а)вајеш — раскáз(а)вајуц'*).

Тып суадносін асноў цяперашняга часу і інфінітыва з захаваннем суфіксальных марфем займае цэнтральную тэрыторыю, якая на паўночным захадзе прымыкае да літоўскай тэрыторыі, з поўдня і ўсходу абмяжоўваецца першым тыпам суадносін асноў, у якім суфікс не захоўваецца ў формах цяперашняга часу. У храналагічным плане апошні тып з'яўляецца ранейшым, другі — пазнейшым, бо ён адлюстроўвае адыход ад першапачатковага тыпу асновы, сведчыць аб ускладненні яе суфіксам адпаведна інфінітыўнай аснове і як вынік працэсаў, што працякалі на вялікіх тэрытарыяльных масівах, адносіцца да новаўтварэнняў.

Суфікс **-ава-** як форма 3-й асобы без t дзеясловаў II спражэння належыць да моўных з'яў, якія звязаны з працэсам уніфікацыі. Калі ў галіне спражэння уніфікаваліся формы розных класаў дзеясловаў, то ў другім выпадку уніфікацыя закранула дзеяслоўныя асновы.

Інавацыі кампактнага і рассеянага пашырэння на цэнтральнай тэрыторыі аб'ядноўваюцца. Развіццё іх праходзіла ў адным напрамку — у напрамку пераразмеркавання і уніфікацыі: ад размежавання дзеясловаў па тыпах спражэння да аб'яднання дзеясловаў з ненацiскнымі канчаткамі ў аднолькавых тыпах форм, пераход ад зыходнага супрацьпастаўлення дзеяслоўных асноў да адзінага тыпу. Падобныя новаўтварэнні таксама маглі ўзнікнуць пад уплывам мовы-субстрату ў выніку кантактавання і паследуючага пераразмеркавання зыходных форм.

Як вядома, балтыйскі моўны субстрат мог праявіцца не толькі ў пераразмеркаванні зыходных марфем, якія ў той ці іншай ступені адрозніваліся, але і ў захаванні агульных балта-славянскіх рыс. Так, дзеясловы з адносінамі асноў **-е-** : **-і-**. Я. С. Атрэмбскі разглядае як адну з вельмі важных агульных

асаблівасцей славянскіх і ўсіх балтыйскіх моў, якая адрознівае іх ад астатніх індаеўрапейскіх моў [101, *36*]. Адсюль беларускія інфінітывы на **-эць**, **-ець** (*трашчэ́ць, пішчэ́ць, сядзе́ць*), магчыма, захоўваюць адзіны тып асновы з літоўскай мовай (*sėdėti*).

П. Бузук адзначае, што праславянская перагаласоўка **е** ў значнай частцы беларускіх гаворак адбываецца толькі перад наступным складам з цвёрдай галоснай, у выніку гэтага ў беларускіх дыялектах маем формы *стучэ́ць, дрыжэ́ць, пішчэ́ць, вышэ́йшы* і інш. [22, *67*]. Аднак гэта меркаванне з'яўляецца праблематычным.

Да асаблівасцей, якія заходзяць на тэрыторыю сярэднебеларускіх гаворак, адносяцца формы прошлага часу дзеяслова з націскам на каранёвай марфеме: *не́сла, ве́зла, не́слі, ве́злі*. Форма інфінітыва гэтых дзеясловаў з аднолькавым націскам займае некалькі большую тэрыторыю. Арэал форм інфінітыва і прошлага часу з націскам на першым складзе мяжуе на ўсходзе з арэалам скарочанай формы інфінітыва *несць, везць*. Сумежнасць поўнай і скарочанай форм інфінітыва выступае і на паўночна-ўсходнім абшары (ДАБМ, карты № 175, 203).

Беларускі арэал скарочанай формы інфінітыва змыкаецца з заходняй зонай рускіх гаворак, дзе пашырана падобная форма [1].

Перамяшчэнне націску на аснову з'явілася адной з перадумоў для фанетычнай страты суфіксальнага галоснага. У адносінах да рускіх форм С. П. Абнорскі зазначае: «Несумненна, аднак, перш чым атрымацца новым формам тыпу *бресть, несть* і пад., яны павінны былі ў інфінітыве гучаць з перамешчаным на аснову націскам — як *бре́сти, не́сти* і інш., адкуль толькі і маглі далей атрымацца формы *бресть* і пад.» [97, *182*].

Сучасныя беларускія формы тыпу *не́сці, ве́зці* маюць паралелі ў літоўскай мове: *nèšti, vèžti*. Супадзенне інфінітыўных форм суседніх моў, магчыма, таксама адлюстроўвае зыходную балта-славянскую агульнасць па націску. Такім чынам, па цэламу раду падобных беларуска-літоўскіх моўных рыс намячаюцца агульныя ізаглосныя тэрыторыі.

Некаторыя фанетычныя з'явы, напрыклад лабіялізацыя націскнога (**а**>**о**) у пазіцыі перад [ў] тыпу *про́ўда* (праўда), *казо́ў* (казаў) [2], на цэнтральнай тэрыторыі выдзяляюцца асобнымі астраўкамі. У выніку лабіялізацыі ўтварылася дыфтангічнае спалучэнне, у якім першы элемент вымаўляецца доўга,

---

[1] Скарочаная форма інфінітыва тыпу *несть, рость* адзначаецца як характэрная асаблівасць паўднёварускага дыялекту і асобных населеных пунктаў сярэднерускай тэрыторыі [97, *177;* 119, *240,* 249].

[2] Я. Ф. Карскі, які першы апісаў гэту з'яву, прыблізна вызначаў яе геаграфічнае распаўсюджанне, лічыў яе пазнейшай мясцовай асаблівасцю, паколькі ў пісьмовых помніках яна не адлюстравана [62, *158*; 64, *97*, *98*].

а другі каротка. У фанетычным плане [оў] адпаведна [аў] адрозніваецца ад падобнага спалучэння ў словах *во́йна, по́йны, во́йк*, у якіх [о] не падаўжаецца. У гэтых адносінах разглядаемыя спалучэнні супрацьпастаўляюцца ў залежнасці ад кольнасных адрозненняў галосных: [ōў] : [ŏў] і як бы аднаўляюць колькасныя адносіны і дыфтангічныя спалучэнні старэйшай пары.

У заходняй частцы выдзяляецца невялікая тэрыторыя пашырэння [а] адпаведна [о] ў націскным канчатку роднага склону адзіночнага ліку займеннікаў мужчынскага роду тыпу *майγа́, твайγа́, свайγа́*.

Як і папярэдняя рыса з лабіялізацыяй націскнога **а** ў **о** (*дай>дой*), так і пераход **о** ў **а** (*майγо́>майγа*) маглі ўзнікнуць у выніку працяглага кантактавання беларускіх і літоўскіх гаворак (што мае месца і ў сучасных умовах) пад уплывам колькасных адрозніванняў галосных фанем у літоўскай мове.

Такім чынам, сярэднебеларускія рысы не толькі тэрытарыяльна, але і па свайму характару падзяляюцца на асобныя тыпы.

Ёсць падставы меркаваць, што адны з іх развіліся ў працэсе кантактавання розных дыялектных груп і носяць ярка выражаны пераходны характар, другія прадстаўляюць сабою абагульняючыя формы, вынік перараскладання і трансфармацыі зыходных тыпаў пад уплывам моўнага субстрату, тых працэсаў, якія працякалі ў розныя часы і з рознай інтэнсіўнасцю, трэція адлюстроўваюць захаванне былой агульнасці.

У паўднёва-заходняй частцы сярэднебеларускіх гаворак, дзе больш кампактнымі арэаламі выдзяляюцца моўныя з'явы і сканцэнтраваны замкнутыя ізаглосы некаторых фанетычных рыс, уплыў субстрату працягваўся і ў пазнейшы час.

Паўночна-заходняя частка беларускай моўнай тэрыторыі мяжуе з паўднёва-ўсходняй часткай Літвы. На пагранoccчы і ў сучасных умовах працягваюцца беларуска-літоўскія моўныя кантакты, якія ажыццяўляюцца ў форме двухмоўя [1].

Характар тэрытарыяльнага пашырэння уніфікаваных форм таксама сведчыць аб напрамках распаўсюджання новаўтварэнняў: з захаду і паўночнага захаду на ўсход або паўднёвы ўсход і з поўначы на поўдзень.

Многія дыялектныя асаблівасці найбольш кампактнымі арэаламі выдзяляюцца на беларуска-літоўскім пагранічы, на-

---

[1] М. Я. Грынблат адзначае, што этнаграфічная экспедыцыя АН БССР 1964 г. выявіла наяўнасць літоўскага насельніцтва ў радзе раёнаў паўночна-заходняй і заходняй частак тэрыторыі (Радунскім, Воранаўскім, Астравецкім, Відзаўскім, Браслаўскім), якое пераважна з'яўляецца двухмоўным — захоўвае літоўскую мову ў гутарцы паміж сабою, а ў зносінах з суседзямі-беларусамі карыстаецца беларускай мовай [38, *531*].

прыклад уніфікаваны тып асновы цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння на губны зычны (*драмлю — дрэмеш*), форма 3-й асобы множнага ліку на **-аць** тых жа дзеясловаў (*кажаць* і інш.), іменна там, дзе ўплыў літоўскай мовы і ў сучасных умовах праяўляецца больш.

«Для інтэрпрэтацыі лінгвістычных карт,— указвае Р. І. Аванесаў,— важнае значэнне мае той факт, што ў адносінах да гістарычнага развіцця ладу мовы адна з дыялектных асаблівасцей, якая складае дыялектнае адрозненне, звычайна прадстаўляе сабою захаванне старажытнасці (архаізм), другая (або другія) — рысу новую (новаўтварэнне, часам запазычанне)» [3, *26*].

З гэтага пункту погляду мы павінны падыходзіць да адзначаных паўночна-ўсходніх і сярэднебеларускіх асаблівасцей, якія ў плане супрацьпастаўлення з зыходнымі тыпамі, што часткова захаваліся ў паўднёва-заходніх гаворках, з'яўляюцца новаўтварэннямі. Паколькі змены іх праходзілі ў адным напрамку, у напрамку аб'яднання і уніфікацыі, то аснова гэтых змен магла быць агульнай.

## АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІЯ МОЎНЫЯ З'ЯВЫ

Арэалы рада моўных рыс тэрытарыяльна сумяшчаюцца, утвараючы сярэднебеларускую зону (карта № 78). Як паказаў папярэдні аналіз, комплекс моўных з'яў, які характарызуе гэту зону, колькасна нязначны, але ён аб'ядноўвае сабою асноўныя дыялектныя масівы і вызначае нацыянальную спецыфіку беларускай літаратурнай мовы.

Да агульнабеларускіх моўных з'яў адносяцца недысімілятыўнае аканне (ДАБМ, карта № 1), наяўнасць мяккіх афрыкат [дз'] і [т'] (ДАБМ, карты № 56, 57), цвёрдага [р] (ДАБМ, карта № 42), форма без канцавога [й] у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду (ДАБМ, карты № 110, 111) і інш. Яны ўласцівы гаворкам большай тэрыторыі Беларусі і з'яўляюцца нормай беларускай літаратурнай мовы.

Афрыкаты [дз'] і [ц'] пашыраны на тэрыторыі паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх гаворак, цвёрдае [р] уласціва большасці беларускіх гаворак, за выключэннем усходняй і паўднёва-заходняй ускраін Беларусі, недысімілятыўнае аканне з'яўляецца асаблівасцю паўднёва-заходніх і сярэднебеларускіх гаворак.

На поўначы і ўсходзе ізаглосы пералічаных з'яў не ўтвараюць пучка, яны праходзяць на значнай адлегласці адна ад адной, адступаючы на паўночны ўсход. Толькі на адрэзку Быхаў — Ветка ізаглосы праходзяць больш кампактна. Таксама не ўтвараюць пучка паўднёвыя ізаглосы разглядаемага арэала. Тут яны праходзяць разрознена, з перарывамі.

Арэалы некаторых з'яў выходзяць за межы моўнай тэрыторыі, ахопленай «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы», напрыклад дзеканне і цеканне (ДАБМ, карты № 56, 57), а таксама аканне, калі не ўлічваць характар рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму, а толькі супрацьпастаўленне — наяўнасць і адсутнасць акання (ДАБМ, карты № 1, 2).

Недысімілятыўнае аканне — пашыраная з'ява на выдзеленай тэрыторыі. Супрацьпастаўляецца яна на паўночным усходзе дысімілятыўнаму аканню, на поўдні — оканню [31, *8*, *9*].

Прыкладна такую ж тэрыторыю, што і недысімілятыўнае аканне, займае адна з характэрных беларускіх рыс — няпарная па цвёрдасці-мяккасці зычная фанема [р]. На паўночным усходзе ізаглоса гэтай асаблівасці праходзіць па лініі Полацк — Віцебск — Орша — Магілёў — Гомель, некалькі адхіляючыся на поўнач ад папярэдняй ізаглосы недысімілятыўнага акання. Паўднёвая ізаглоса праходзіць па лініі Кобрын — Пінск — Лунінец і да дзяржаўнай граніцы з УССР, потым зноў з'яўляецца на тэрыторыі Беларусі, падыходзіць да Мазыра і па Прыпяці пераходзіць на ўкраінскую тэрыторыю.

На поўначы і ўсходзе арэал цвёрдага [р] супрацьпастаўляецца тэрыторыі адрознівання дзвюх фанем—цвёрдай і мяккай: [р] : [р']. На поўдні арэал цвёрдага [р] супрацьпастаўляецца тэрыторыі, дзе ў пэўных фанетычных умовах (у пазіцыі перад рэфлексамі «ě», а таксама перад [и], што паходзіць з «е», «о» ў закрытых складах), акрамя [р], захоўваецца яго разнавіднасць — [р'].

З'ява дзекання і цекання ўласціва большасці беларускіх гаворак, як і беларускай літаратурнай мове. На поўначы і ўсходзе яна выходзіць за межы тэрыторыі Беларусі. Фанемы [д'], [т'] вядомы толькі гаворкам паўднёвай часткі Брэсцкай і паўднёвай ускраіны Гомельскай абласцей. Па характару мяккіх зычных фанем, якія з'яўляюцца парнымі да [д], [т], вылучаюцца, такім чынам, дзве групы гаворак: гаворкі, якія характарызуюцца наяўнасцю дзекання і цекання, і гаворкі, якім вядомы [д'], [т'].

З іншых рыс, ізаглосы якіх выдзяляюць цэнтральную частку Беларусі, можна адзначыць форму назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду з націскным і ненаціскным канчаткам **-ы(-і)** (яна ж мае месца і на супрацьпастаўленай тэрыторыі; апошняй на паўночным усходзе і на поўдні ўласцівы канчатак **-ый**: *малады́й, но́вый*), форму роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а**, форму назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *усе́*.

У тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі арэалаў моўных з'яў, уласцівых цэнтральнай тэрыторыі, відаць, адлюстраваліся вынікі моўных працэсаў розных храналагічных перыядаў —

ранейшых і пазнейшых. Звычайна адным з крытэрыяў вызначэння храналогіі моўных з'яў прынята лічыць час адлюстравання іх у мове пісьмовых помнікаў. З фактам пранікнення некаторых беларускіх моўных рыс у помнікі XIV—XV стст. звязваецца іх позняе паходжанне.

Формы на **-ы(-і)** ў назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага роду зафіксаваны ў другой палавіне XIII ст. [65, *229*]. З XV ст. гэта з'ява распаўсюдзілася на значнай тэрыторыі беларускай мовы [26, *48*]. Канчатак **-ы(-і)** без элемента [й] вядомы польскай і чэшскай мовам. Тут ён з'яўляўся агульнай нормай ужо ў XIV—XVI стст. [159, *330*; 155, *539*, *540*].

Цвёрдае [р] на месцы мяккага сустракаецца ў помніках беларускай мовы XIV ст., але найбольшая колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу заўважаецца ў помніках XV—XVI стст. [64, *306—309*]. З'ява дзекання і цекання развілася ў беларускай мове самастойна, не пазней XIV ст., але помнікі даюць прыклады з пачатку XVI ст. [64, *345*].

Разглядаемыя з'явы цэнтральнай тэрыторыі Беларусі аб'ядноўваюцца ў тых адносінах, што яны з'яўляюцца уніфікаванымі ў параўнанні з зыходнымі асаблівасцямі. Так, адпаведна адрозніванню ненаціскных [а] : [о], цвёрдага і мяккага [р] : [р'] тут выступае адзін тып: у першым выпадку [а], у другім [р].

Выказваецца меркаванне, што аканне ў беларускай мове ўзнікла ў выніку ўзаемадзеяння окаючых паўднёва-заходніх гаворак і гаворак з дысімілятыўным аканнем на паўночным усходзе Беларусі, звязаных з паўднёвавялікарускімі гаворкамі. Пытанні ранняга развіцця дысімілятыўнага акання ў беларускай мове, аб узнікненні тут недысімілятыўнага акання ў выніку сутыкнення окання і дысімілятыўнага акання, аб развіцці дысімілятыўнага акання ў напрамку з усходу на захад разглядаюцца ў радзе прац Р. І. Аванесава [1, *135*; 3, *37—40*; 88, *398, 401* і інш.]. В. Г. Арлова падкрэслівае, што пры дыялектным узаемадзеянні захаванне дысімілятыўнага прынцыпу акання пры яго засвойванні з іншых гаворак не з'яўляецца абавязковым. Гэта пацвярджаецца назіраннямі над сучаснымі гаворкамі, у якіх адбываецца пераход ад окання да акання састратай дысімілятыўнага прынцыпу, што прыводзіць да засвойвання недысімілятыўнага акання [100, *6*]. Такога ж пункту погляду прытрымліваюцца і іншыя даследчыкі [31, *48—55*]. Аднак праблема акання ў славянскіх мовах мае яшчэ многа нявырашаных пытанняў. У апошні час выказана многа новых меркаванняў, якія патрабуюць глыбокага вывучэння [35, 68, 76, 118, 141].

Цвёрдае [р] не толькі асаблівасць кансанантызму беларускіх гаворак, яно ўласціва польскай, сербскай, часткова сла-

венскай мовам. Першыя прызнакі мяккасці ў польскіх пісьмовых помніках адзначаюцца з XIII ст. На думку польскіх даследчыкаў, працэс ацвярдзення праходзіў на працягу ўсяго XVI ст. [159, *168*].

Страта карэляцыі [г] : [г'] адбылася таксама на частцы літоўскай моўнай тэрыторыі [37, *199—201*]. Я. Ф. Карскі, маючы на ўвазе даныя стараславянскіх пісьмовых помнікаў, а таксама наяўнасць цвёрдага [р] у радзе славянскіх моў, прыйшоў да думкі, што дыялектны працэс ацвярдзення [р] узыходзіць да агульнаславянскай эпохі. Разам з тым ён лічыў, што гэта рыса характэрна для дыялекту дрыгавічоў, у далейшым яна падтрымлівалася суседствам польскіх дыялектаў, што прывяло да паслядоўнага замацавання яе ў мове паўднёва-заходніх беларусаў — патомкаў дрыгавічоў [64, *306*].

Аднак фактар геаграфічнага пашырэння супярэчыць такому погляду, паколькі з'ява ацвярдзення [р] развівалася на больш шырокай тэрыторыі. Арэалы цвёрдага [р], як і недысімілятыўнага акання, а таксама дзекання і цекання выходзяць за межы тэрыторыі асобных плямёнаў.

Па пытанню аб паходжанні дзекання і цекання выказваюцца розныя пункты погляду. Р. І. Аванесаў, напрыклад, мяркуе, што яно развілося ў выніку засваення ўзмоцнена палаталізаваных зычных [т'] і [д'] гаворкамі, якім палаталізацыя не была ўласціва або праяўлялася ў меншай ступені [1, *134*]. П. А. Растаргуеў, выступаючы з крытыкай тэорый А. А. Шахматава аб паходжанні дзекання і цекання, адзначаў, што моцная палатальнасць [д'] і [т'] — прычына пераходнага памякчэння іх, развіцця фрыкатыўных зычных [з] і [с] (першапачаткова з шыпячым адценнем) пры палаталізаваных выбухных [д] і [т] [114, *40*].

Вядома, што наяўнасць пэўнай рысы ў мове пісьмовых помнікаў з'яўляецца важным момантам пры вызначэнні храналогіі, аднак час адлюстравання моўных з'яў не можа быць часам іх узнікнення. Геаграфічны фактар, кампактнае пашырэнне на вялікіх тэрыторыях дае падставы адносіць узнікненне беларускіх фанетычных рыс да з'яўлення пісьменнасці. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што прычыны ўтварэння недысімілятыўнага акання, мяккіх афрыкат [дз'] і [ц'], цвёрдага [р], формы без канцавога [й] у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду з'яўляюцца аднолькавымі.

## ГАВОРКІ ПАЎНОЧНАГА ЗАХАДУ

Рад ізаглос праходзіць па тэрыторыі Віцебскай, Мінскай і Гродзенскай абласцей, выдзяляючы паўночна-заходнюю зону (карта № 77). У залежнасці ад канфігурацыі і накіраванасці ізаглосы аб'яднаны ў пучкі верхнядзвінска-слуцка-

гродзенскі, свірска-слуцка-лідскі, полацка-мінска-лідскі, свірска-бягомльска-расонскі, смаргонска-глыбоцка-пастаўскі, пастаўска-глыбоцка-верхнядзвінскі.

Максімальная тэрыторыя паўночна-заходняй зоны гаворак выдзяляецца на аснове ізаглос з'яў розных бакоў моўнай структуры.

З фанетычных з'яў акрэслены арэал характарызуецца распаўсюджаннем канчатка **-а** ў канцавым адкрытым складзе ў форме меснага склону назоўнікаў жаночага роду (*у л'éс'а, у хáц'а*), а ў паўднёвай частцы — у 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў (*м'éл'а, кáжа, хóдз'а*), вымаўленнем гука [ф] у словаформе *фасóля.* З марфалагічных рыс паўночна-заходнім гаворкам уласцівы формы творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў былых асноў на **-і** (*гусёй, мышóй*), займеннік *гэ́ны,* формы інфінітыва дзеясловаў *ісці́, знайсці́.* Ізаглоса ўжывання дзеепрыслоўяў прошлага часу ў ролі выказніка выдзяляе тэрыторыю пашырэння сінтаксічнай з'явы.

Найбольшую колькасць ізаглос, якія аб'ядноўваюцца ў названыя пучкі, складаюць ізаглосы з'яў лексічнага, лексіка-семантычнага і словаўтваральнага ўзроўняў. Выдзяляючы гаворкі паўночна-заходняга арэала, ізаглосы ў сваёй большасці выходзяць за межы Беларусі і працягваюцца ў беларускіх гаворках на тэрыторыі Літвы.

Сумежная з Літвой тэрыторыя Беларусі характарызуецца цэлым комплексам моўных рыс, якія пашыраны не толькі на ўсход, але і на захад ад дзяржаўнай граніцы БССР [1].

Да моўных асаблівасцей, якія выдзяляюцца большымі або меншымі арэаламі на сумежных тэрыторыях, адносяцца: страта пачатковага [γ]: *усь, усю́к* (гусь, гусю́к), *арóх* (гарох), *алу́п* (галу́б), *аспадáр* (гаспадар) пры захаванні прыстаўнога [γ]: *γарáць, γу́ліца, γу́ткі* (параўн. ДАБМ, карты № 48, 196); канцавы націск у назоўніках на **-а**: *мухá, асінá, вудá* (*мухі́, асіны́, вуды́* і інш.); канструкцыя з давальным аб'екта, выражанага формамі асабовых займеннікаў: *мне конь падóх, а нам хáта маглá згарэ́ць* (Паляцкішкі); *ён мне руку́ разрэ́заў, табé адарвáлі чáсу* (Нестанішкі); словазлучэнні з родным колькасці пры дзеясловах наяўнасці: *умéя пéсняў* (Новыя Мацалі), *барсукóў ест* (Паляцкішкі), *ёсць я́гадаў* (Нестанішкі). Падобныя канструкцыі адзначаны і ў рускіх гаворках на тэрыторыі Літвы, якія падтрымліваюцца з боку літоўскай мовы [129, *11*].

Тут пераважаюць дзеепрыслоўі ў прэдыкатыўнай функцыі ад асноў дзеясловаў закончанага трывання: *мы былі замары-*

---

[1] Гэта пацвярджаецца матэрыяламі, сабранымі ў час сумеснай літоўска-беларускай экспедыцыі, якая была арганізавана Інстытутам літоўскай мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР у кастрычніку 1966 г.

*наваўшы троха грыбоў* (Старыя Трокі), *возера было высахшы, хата згарэўшы* (ДАБМ. Каментарыі, стар. 740—749). Сустракаюцца ў такой ролі дзеепрыслоўі, утвораныя ад дзеясловаў незакончанага трывання: *на жвіроўні начаваўшы* (Стральцы), *каб быў хто ішоўшы і зайшоўшы, два мужчыны сядзеўшы* (Паляцкішкі).

Такога тыпу канструкцыі характэрны для балтыйскіх моў [125] і славянскіх гаворак на тэрыторыі Літвы і Латвіі [91], а таксама для часткі паўночнавелікарускіх гаворак. Вядомы яны польскім гаворкам на тэрыторыі Літвы і Латвіі [102, *80, 169*].

У лінгвістычнай літаратуры выказаны розныя думкі адносна паходжання гэтых форм. Так, адзначаючы наяўнасць перфектыўных форм на тэрыторыі Літвы, Латвіі і паўночна-заходняй часткі велікарускіх гаворак, а таксама ў фінскіх мовах, У. М. Тапароў і А. М. Трубачоў гавораць аб фінскім уплыве: «Можна меркаваць, што фінскі спосаб выражэння не толькі выклікаў адпаведныя ўтварэнні ў літоўскім, латышскім і рускіх дыялектах, але і спрыяў захаванню рэштак аналагічнага старажытнага індаеўрапейскага тыпу» [137, *250*]. Прэдыкатыўныя формы на **-шы, -ўшы** ў беларускай мове і ў польскіх гаворках на тэрыторыі Віленшчыны [163; 167, *71—75*] маглі развіцца пад уплывам балтыйскіх моў.

Гаворкі паўночна-заходняй зоны і беларускія гаворкі Літвы вызначаюцца лексікай, якая адносіцца да розных галін гаспадаркі, быту, узаемаадносін людзей і інш. Адзначаны тры словы са значэннем 'старшы пастух': *пастýр, прадзяльнíк, скéрдзь* (*скéрць*). Слова *пастýр* пашырана к поўначы і ўсходу беларускага пагранічча [1]. Як і *пастýр,* слова *скéрдзь* (*скéрць*) ужываецца ў значэнні 'галоўны, пастаянны пастух': *кал'úс' нан'имáл'и ск'éрдз'а; пры ск'éрдз'у пастух'ú* (Старыя Трокі); *скéрдзь* — стары пастух. Гэта назва адзначана пераважна ў гаворках на літоўскім пагранічы. У значэнні 'галоўны пастух' на беларуска-літоўскім моўным пагранічы адзначана яшчэ слова *прадзяльнíк* (Стральцы Эйшышскага і Паляцкішкі Воранаўскага р-наў). Згодна з тлумачэннямі мясцовых жыхароў, назва гэта паходзіць ад таго, што «галоўнага пастуха апрадзяляюць, ставяць» (Стральцы). Магчыма, гэта слова мае адпаведнасці ў літоўскай мове з назоўнікам pradėjėjas 'пачынальнік, ініцыятар'; параўн. дзеяслоў pradėti 'пачынаць' [161, *489*].

[1] У Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці зафіксавана слова *пастýр* 'пастаянны пастух, які адказвае за статак' [110, *70*]. У такім значэнні гэта слова зарэгістравана ў гаворцы нас. п. Нестанішкі Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці. Са значэннем 'пастух' слова *пастýр* ужываецца ў гаворцы нас. п. Кліманты Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці [9, *103*].

Слова *поліц* (*поляц*) ужываецца ў значэнні 'суцэльны кавалак сала, роўны ўсёй бакавіне' (Ліпнякі, Новыя Мацалі, Паляцкішкі). У літоўскай мове páltis — 'вялікі кавалак сала' [161, *409*].

Для абазначэння стравы, прыгатаванай з аўса або аўсянай мукі, існавалі дзве назвы: *мілта* і *цілта* (параўн. літ. miltai 'мука') [161, *333*]. Слова *цілта*, відаць, адлюстроўвае значэнне дзеяслова tilžti 'мокнуць, мякнуць; размакаць, размякаць' [161, *663*].

Сухі зімовы корм для жывёлы абазначаецца словам *пошар* (Старыя Трокі, Паляцкішкі, Нестанішкі), якое адпавядае літоўскаму pãšaras 'корм для жывёлы, фураж' [161, *442*].

Назва *абрус* даволі пашырана ў гаворках беларускага пагранічча. Я. Ф. Карскі адзначае, што і ў літоўцаў ёсць слова abrũsas, якое ўзята ў беларусаў [66, *5*]. Са значэннем пасудзіны для піцця вады тут ужываецца слова *коўш* з літоўскага káũsas [154, *232*; 39, *128*] (ДАБМ. Каментарыі, стар. 813—821).

У гаворках беларуска-літоўскага арэала словам *нарог* называецца лемеш у плузе [34, *164*, *165*]. У аснову развіцця тэрміналагічнага значэння лягла семантычная прадпасылка— месцазнаходжанне дэталі на прадмеце: насадзіць, прымацаваць, надзець на рог.

Пры апісанні сахі ў А. Сержпутоўскага сказана наступнае: «плаха або «расоха»... мае відэльцападобную форму з двума рагамі, на якія ўзбіваюцца нарогі» [128, *49, 50*]. У іншых славянскіх мовах слова *нарог* не ўжываецца. Вядома ў польскай мове (гаворкам Мазавецкага Памор'я) назва *нарожнік* у значэнні лемяша [157, *32*].

Літоўскай мове (і літаратурнай, і гаворкам) уласціва назва лемяша norãgas, якая запазычана з беларускай мовы.

Лакальныя моўныя асаблівасці беларуска-літоўскага пагранічча маюць выключна вялікую цікавасць у аспекце вывучэння балтыйскага моўнага субстрату, а таксама літоўска-беларускіх моўных кантактаў, у выяўленні заканамернасцей гэтых складаных працэсаў, якія працякалі з глыбокай старажытнасці да нашага часу. У сумежных з Літвой раёнах да апошняга часу працягвалася беларуска-літоўскае двухмоўе: «Нашы дзяды гаварылі па-літоўску і папросту» (Паляцкішкі).

Як вядома, вывучэнню вынікаў узаемаўплыву розных моў, моўным кантактам у апошні час аддаецца многа ўвагі [170]. У працэсе моўнага кантакту адна мова можа перадаць некаторыя свае рысы другой. У выніку кантактавання моў развіваецца двухмоўе. «Уплыў мовы-субстрату па сутнасці прадстаўляе сабою адзін са шматлікіх тыпаў уплыву адной мовы на другую» [126, *10*]. Як заўважае Ю. Шэрах, «балтыйскі субстрат паўднёвых крывічоў спрыяў захаванню акання ў нена-

ціскных складах» [166, *88*]. У выніку працягласці перыяду славянска-літоўскага сумеснага жыцця магло адбыцца запазычанне з адной мовы ў другую на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы.

## МЕРЫДЫЯНАЛЬНАЯ ІЗАГЛОСНАЯ МЯЖА

Сярод разнастайных пучкоў ізаглос, якія праходзяць на тэрыторыі Беларусі, ізаглосы ўсходняга і заходняга напрамкаў (гл. стар. 163), або мерыдыянальныя ізаглосы,— адно з асаблівых па праходжанню ізаглосных адзінстваў. Гэтыя ізаглосы ўтвараюць хоць і не зусім чоткую, але прыкметную мяжу ў сучаснай беларускай дыялектнай мове.

Для даследчыкаў беларускіх гаворак да апошняга часу яна была невядома. Праўда, можна было меркаваць аб магчымасці адрознення беларускай дыялектнай мовы ўсходу і захаду рэспублікі некаторай колькасцю розных новых слоў (пераважна запазычанняў), звязаных з прадметамі і з'явамі ў культуры, грамадскім жыцці і быце, якія атрымалі пашырэнне адносна нядаўна. Падставай для гэтага з'яўлялася тая агульнавядомая акалічнасць, што заходняя і ўсходняя часткі Беларусі ў недалёкім мінулым на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў былі раз'яднаны, насельніцтва іх мела розныя палітыка-эканамічныя, а тым самым і розныя культурныя і моўныя сувязі з суседнімі краінамі і народамі [1].

Але канкрэтны моўны матэрыял, які пацвярджаў бы такое меркаванне, спецыяльна не вывучаўся. Ды і пры падобных гіпатэтычных заключэннях меліся на ўвазе, зразумела, выключна толькі зусім познія і няўстойлівыя адрозненні ў лексіцы (такія, як, скажам, *ро́вар, валі́ска, зага́рак* на захадзе — *лісапе́т, чамада́н, часы́* на ўсходзе або адпаведна *фэст — база́р, ценгля — усягда́, буса́к — баго́р, мака́тка — вышы́ўка, жэ́нса — расні́ца, варко́чы — ко́сы, а́рфа — ве́ялка, во́гер — жарабе́ц, пшэ́рва — перары́ў, ксёнжка — кні́га, навучы́цель — учы́цель, зэ́шыт — цятра́дзь, за́крэнт — паваро́т, пянёндзы — дзе́ньгі, дзісь — сяго́дня, прэнт — прут, тэн — тот*.

Аднак у ліку ўстаноўленых зараз мерыдыянальных ізаглос аказаліся не толькі лексічныя ізаглосы, але і ізаглосы з'яў, характэрных для розных бакоў («узроўняў») структуры дыялектнай мовы. Ужо нават гэта акалічнасць сведчыць аб тым, што мерыдыянальная ізаглосная мяжа не можа разглядацца як вынік нядаўняй і непрацяглай раз'яднанасці заходняй і ўсходняй частак Беларусі.

Зразумела, што адзначаны гістарычны факт нельга адкідаць зусім, асабліва пры разглядзе лексічных адрозненняў,

---

[1] Мяжа гэтага палітычнага раз'яднання беларускага народа праходзіла прыблізна там, дзе групуюцца мерыдыянальныя ізаглосы.

межы якіх складаюць усё ж пераважную большасць групы мерыдыянальных ізаглос. Але нават павярхоўны погляд толькі на характар размежавання і варыянтнасці з усходняга і заходняга бакоў ад мерыдыянальных ізаглос розных лексічных з'яў схіляе да думкі, што гэтыя ізаглосы неаднолькавыя па паходжанню, што складваліся блізкія па праходжанню мерыдыянальныя межы паміж лексічнымі адрозненнямі рознымі шляхамі і не ў адзін і той жа гістарычны час. Пры гэтым нават не ўсе лексічныя, а тым больш фанетычныя і граматычныя ізаглосы мерыдыянальнага праходжання, як паказвае іх аналіз, можна звязваць па паходжанню і ўтварэнню з гістарычнымі або палітычнымі «бар'ерамі» падобнага роду [1].

Пераважная большасць мерыдыянальных ізаглос характарызуецца няпоўнай, неўзаемавыключаючай супрацьпастаўленасцю сваіх адрозненняў. Дыялектнай мове на супрацьлеглых тэрыторыях Беларусі па розных баках ад гэтых ізаглос уласціва розная рэалізацыя пэўных моўных з'яў, але гэта не выключае сумяшчэння ва ўжыванні на адной з тэрыторый — на частцы яе ці на ўсёй поўнасцю — абодвух тэрытарыяльна супрацьпастаўленых відаў рэалізацыі. У залежнасці ад таго, дзе назіраецца падобнае сумяшчэнне, з якога боку ад ізаглос, яны падзяляюцца на дзве асноўныя падгрупы — ізаглосы з усходнім сумяшчэннем і ізаглосы з заходнім сумяшчэннем. Падабенства ў размежаванні і тэрытарыяльных адносінах варыянтаў адрозненняў у ізаглосах кожнай з гэтых падгруп паасобку сведчыць, відаць, аб сувязі ізаглос, якія ўваходзяць у іх склад, паміж сабою ў адносінах умоў, характару, а ў некаторых выпадках і часу складвання. Спецыфіка ж адрознення паміж падгрупамі мерыдыянальных ізаглос указвае, наадварот, на неаднолькавасць паходжання ізаглос адной падгрупы ў параўнанні з другой.

Найбольш шматлікая па колькасці падгрупа мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем. Галоўнае месца ў гэтай падгрупе належыць ізаглосам лексічных адрозненняў. Да ліку іх адносяцца супрацьпастаўленні ў назве каваля (*кава́ль* — на захадзе : *кава́ль, кузне́ц* — на ўсходзе; ДАБМ, карта № 314), хворага (адпаведна *хво́ры* : *хво́ры, бальны́;* ДАБМ, карта № 319), гною (*гной* : *гной, наво́з;* ДАБМ, кар-

---

[1] «Супастаўленне палітычных і моўных межаў — пытанне вельмі складанае, да якога трэба падыходзіць вельмі асцярожна: як палітычных, так і моўных межаў, калі іх сабраць у адно цэлае, бясконцае мноства, і заўсёды можна знайсці супадзенне якой-небудзь моўнай мяжы з якой-небудзь палітычнай»,— піша М. А. Барадзіна [20, *199*]. Аднак папярэджваючы адносна ненадзейнасці падобных супастаўленняў, яна зазначае: «І ўсё ж трэба думаць, што палітычныя межы найбольш часта служаць моўнымі бар'ерамі; фарміраванне гэтых межаў, аднак, знаходзіцца ў залежнасці ад геаграфічных, культурна-гістарычных і субстратных з'яў» [20, *203*].

та № 284), у адносінах дзеясловаў са значэннем 'мяўкаць' (*мяўкае* : *мяўкае, каўкае*; ДАБМ, карта № 301), у назве зязюлі (*зязюля* : *зязюля, кукушка*; ДАБМ, карта № 309), пярэдніка (*пярэднік* : *пярэднік, хвартух*; ДАБМ, карта № 330), хусткі (*хустка* : *хустка, платок*; ДАБМ, карта № 332), спадніцы (*спадніца* : *спадніца, юбка*; ДАБМ, карта № 329), у назве вяселля (*вяселле* : *вяселле, свадзьба*; ДАБМ, карта № 338) і, нарэшце, у назвах дзеяння па ручной уборцы ільну (*ірваць* : *ірваць, брацъ*; ДАБМ, карта № 267), абруса ( *настольнік, абрус* : *настольнік, абрус, скацерка*; ДАБМ, карта № 325) і падлогі (*падлога* : *падлога, памост, мост*; ДАБМ, карта № 336).

Сярод лексічных ізаглос з усходнім сумяшчэннем у сваю чаргу адрозніваюцца два віды. Першы від, найбольш шматлікі,— гэта ізаглосы лексічных адрозненняў з сумяшчэннем (паралельным або спарадычным ужываннем) усходняга і заходняга варыянтаў абазначэння на ўсёй тэрыторыі ўсходняй часткі Беларусі. Таму іх можна назваць ізаглосамі з поўным сумяшчэннем. У супрацьлегласць яму другі від ізаглос з усходнім сумяшчэннем характарызуецца сумяшчэннем усходняга варыянта з заходнім толькі на частцы ўсходу Беларусі, звычайна непасрэдна каля ізаглосы на ўсім яе працягу вузкай або шырокай паласою. Гэта ізаглосы з частковым сумяшчэннем. Да апошніх адносяцца ізаглосы назвы дзеяння па ручной уборцы ільну, абруса і падлогі. Размежаванне мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем на два віды таксама з'яўляецца падставай для неаднолькавых меркаванняў адносна фарміравання кожнай з іх паасобку і адносна ўзнікнення канкрэтных супрацьпастаўленняў абодвух відаў.

Ізаглосы лексічных з'яў з усходнім сумяшчэннем, калі зыходзіць з іх дамінуючага становішча ў адпаведнай падгрупе мерыдыянальных ізаглос, маюць, відаць, прынцыповае значэнне для раскрыцця важнейшых пытанняў яе фарміравання ў цэлым. Іх вялікая колькасная перавага над падобнымі па сумяшчэнню фанетычнымі і марфалагічнымі ізаглосамі невыпадковая. Пытанне аб тым, якім шляхам і ў выніку чаго склалася ўся падгрупа мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем, а таксама чаму ў такім напрамку прайшла гэта ізаглосная мяжа, цесна звязана з тлумачэннем яе лексічных ізаглос.

Папярэдне ізаглосную мяжу адзначаных лексічных з'яў можна тлумачыць з дзвюх розных пазіцый. Яе можна разглядаць як рэлікт або рэшткі мяжы нейкіх асобных дыялектных сістэм мінулага, нівеліраваных у адносінах іншых сваіх адрозненняў (мяжы размяшчэння іх адна адносна другой тэрытарыяльна). А гэта азначае, што адпаведныя ізаглосы склаліся ў выніку размяшчэння дыялектных сістэм, звязаны

з імі і абумоўлены імі ў сваім геаграфічным праходжанні. Пры такім падыходзе канкрэтныя лексічныя адрозненні адзначанага тыпу ізаглос трэба прызнаць мясцовымі па сваёй прыродзе на адпаведных тэрыторыях і досыць старажытнымі па часе ўзнікнення. Адсюль вынікае, што адказ на пытанне аб наяўнасці розных слоў у сучаснай дыялектнай мове па адзін і другі бок ад дадзеных ізаглос і аб паходжанні саміх ізаглос крыецца недзе ў структуры або гісторыі складвання гэтых гіпатэтычных мінулых дыялектных адзінак.

Зразумела, што адрозненні *кава́ль — кузне́ц* або *ірва́ць — браць* і інш. папярэдне можна інтэрпрэтаваць і як мясцовыя па паходжанню, і як адносна больш даўнія гістарычна, чым, напрыклад, агульнае для ўсходу і захаду Беларусі дзеканне і цеканне, некаторыя агульныя беларускія асаблівасці у марфалогіі, сінтаксісе, лексіцы. Словы гэтыя досыць старажытныя па свайму паходжанню, хоць, вядома, немагчыма даказаць, чаму словы *кава́ль* і *ірва́ць* былі характэрны ў далёкім мінулым для «дыялектнага субстрату» беларускай мовы на захадзе тэрыторыі Беларусі, а словы *кузне́ц* і *браць* — для «дыялектнага субстрату» беларускай мовы ўсходняй тэрыторыі.

Разам з тым падобная гіпотэза грунтуецца на дапушчэнні генетычнай або нейкай іншай рознасці дыялектнай мовы, а тым самым і насельніцтва ў мінулым па адзін і другі бок ад адпаведнай мяжы. Ніякіх жа гістарычных даных, якія б пацвярджалі існаванне ў мінулым падобных асобных моўна-этнічных адзінстваў насельніцтва на ўсходзе і захадзе сучаснай тэрыторыі Беларусі, а потым іх інтэграцыю, зараз не існуе.

Агульнавядома, аднак, што дыялектныя адзінкі не заўсёды вызначаюць і абмяжоўваюць межамі свайго існавання арэалы пашырэння сваіх асобных структурных элементаў, як не з'яўляюцца яны і наглуха закрытымі для распаўсюджання ўнутры іх і замацавання ў іх структуры элементаў сумежных (суседніх) дыялектных адзінак. А таму адзначаную ізаглосную мяжу можна разглядаць таксама як вынік тых ці іншых узаемадзеянняў самой беларускай дыялектнай мовы і як вынік розных змяненняў у ёй пад уплывам суседняй моўнай сістэмы, а не як дыялектную мяжу.

Пры такім падыходзе ізаглосная мяжа адзначаных лексічных з'яў з дыялектным падзелам мовы не звязваецца. Яна ставіцца ў залежнасць толькі ад гістарычнай сувязі насельніцтва, у залежнасць ад узнікнення розных часовых або працяглых адасобленых гістарычных агульнасцей яго на ўсходняй і заходняй частках тэрыторыі Беларусі. Дыялектная рознасць ці адзінства насельніцтва і яго мовы ў такім выпадку асаблівага, прынцыповага значэння для ізаглоснай мяжы не

мае. Сама ж яна характарам і саставам уваходзячых у яе склад адрозненняў можа стаць крыніцай для заключэння аб глыбіні і храналагічных рамках тых працэсаў у гісторыі народа і яго мовы, якія абумовілі ўзнікненне ў ёй такіх тэрытарыяльных адрозненняў.

Падобныя ізаглосныя межы могуць утварацца ізаглосамі розных бакоў структуры дыялектаў. Таму адназначнага, канчатковага рашэння адносна прыроды лексічных ізаглос з усходнім сумяшчэннем прыняць нельга. Аднак калі іх інтэрпрэтацыя як дыялектнай мяжы грунтуецца на адных толькі бяздоказных дапушчэннях, то супрацьлеглую гіпотэзу можна ўсё ж абараняць і з некаторых агульных меркаванняў аб моўнай (дыялектнай) структуры, устойлівасці розных яе бакоў і сістэмнай сувязі элементаў або сродкаў мовы.

Хоць неспантаннае змяненне магчыма ў любой галіне моўнай структуры, аднак калі гутарка ідзе аб кантактах насельніцтва пэўных тэрыторый або аб розных аб'ядноўваючых ці раз'ядноўваючых з'явах у адносінах паміж падобнымі групамі людзей, то найбольш чула рэагуе на гэта, як вядома, лексіка іх дыялектаў ці моў. Словы досыць часта выходзяць далёка за межы той сістэмы, з якой яны звязаны генетычна, калі для гэтага складваюцца нават мінімальныя ўмовы, прытым раней і свабодней, чым элементы якога-небудзь іншага боку адпаведнай сістэмы. Шляхі пашырэння слоў за межамі сваёй моўнай сістэмы самыя разнастайныя і індывідуальныя, але ў сваім пашырэнні словы нярэдка адлюстроўваюць тэрытарыяльныя межы розных гістарычных адзінстваў або аб'яднанняў насельніцтва, нават адносна кароткатэрміновых, або межы таго ці іншага ўзаемадзеяння іх пры суседстве [1].

Пры тлумачэнні гэтай непараўнальна вялікай здольнасці слоў пераходзіць паасобку ці групамі з адной дыялектнай ці моўнай адзінкі ў другую і першымі рэагаваць на моўнае ўзаемадзеянне звяртаецца ўвага пераважна на тое, што словы служаць для абазначэння такіх з'яў, якія знаходзяцца за межамі мовы, не ў яе структуры. Канкрэтныя прадметы і грамадскія з'явы, напрыклад, не асабліва лічацца з моўнымі або дыялектнымі межамі. Для іх пашырэння моўнае адзінства людзей нярэдка не патрэбна. Яны могуць пранікаць па мінімальных і элементарных каналах сувязі людзей. А разам з прадметамі або паняццямі аб іх пераходзяць з адной моўнай адзінкі ў другую і замацоўваюцца там словы, таму што яны, а не якія-небудзь іншыя элементы структуры мовы ці дыялекту служаць непасрэднымі абазначэннямі паняццяў.

---

[1] Шляхі ўздзеяння адной мовы (ці дыялекту) на другую настолькі разнастайныя і складаныя, «што іх цяжка ўкласці ў рамкі якой-небудзь пэўнай агульнапрынятай тэрміналогіі» [105, *6*].

І нават цяжка сказаць, наколькі садзейнічаюць гэтаму ці перашкаджаюць ступень і характар моўнага адрознення кантактуючага насельніцтва.

Аднак пераход слоў з адной моўнай адзінкі ў другую адбываецца і не ў сувязі з пашырэннем прадметаў, з'яў і паняццяў аб іх. Сувязь слоў з тым, што яны абазначаюць, не такая ўжо фатальная і непарушная, каб быць прычынай неаддзельнасці паняцця і слоўнага абазначэння і важнейшым доказам непазбежнасці пераходу слова з адной моўнай адзінкі ў другую пры пераходзе ад адной групы насельніцтва да другой таго, што яно ўвасабляе. Не менш фактаў сведчыць аб тым, што словы могуць пераходзіць хутчэй і інтэнсіўней, чым іншыя з'явы моўнай структуры, з адной моўнай адзінкі ў другую і проста як абазначэнні вядомых і абазначаных там сваімі сродкамі прадметаў і паняццяў, суіснаваць з уласцівымі для прыняўшай іх моўнай адзінкі абазначэннямі і ўрэшце замяняць іх. Да таго ж вядома, што абазначэннямі паняццяў выступаюць не толькі словы, але і сінтаксічныя спалучэнні слоў (словазлучэнні). Аднак яны ў гэтых адносінах карэнным чынам адрозніваюцца ад лексікі. Для іх функцыянальныя (тэрытарыяльныя) межы моўных адзінак, як і структурныя, амаль непераадольныя як для выйсця, так і для ўваходжання [1].

Гэта адносна вялікая рухомасць слоў абумоўлена, відавочна, тым, што лексіка ў цэлым незалежна ад сваёй камунікатыўнай функцыі валодае пэўнай аўтаноміяй у самой структуры мовы. Яна адрозніваецца ад іншых камунікатыўных сродкаў мовы (сінтаксічных), а тым больш ад сігніфікатыўных (фанетычных і граматычных асаблівасцей) сваімі адносінамі да структуры мовы.

Разглядаючы лексіку з гэтага боку, у большасці выпадкаў нельга сказаць, па-першае, нічога пэўнага і бясспрэчнага адносна таго, ці з'яўляецца тое або іншае слова элементам або, інакш, вынікам дадзенай моўнай (дыялектнай) структуры, у прыватнасці ў семантычных і словаўтваральных адносінах. Словаўтварэнне — у большай ступені факультатыўны механізм папаўнення слоўніка, чым паказчык структурна-семантычных адносін, што звязвалі б лексіку ў строгую сістэму, як,

[1] Адзначаецца таксама і прынцыповая розніца паміж лексічнымі і фанетыка-марфалагічнымі дыялектнымі адрозненнямі. Фанетычныя і марфалагічныя адрозненні знаходзяцца звычайна ў адносінах узаемавыключэння і процістаяць адно другому папарна. Лексічныя адрозненні адно другое не выключаюць. Абумоўлена гэта тым, што тоесныя з'явы ў фанетыцы і граматыцы, з аднаго боку, і ў лексіцы, з другога устанаўліваюцца на зусім розных падставах: у фанетыцы і граматыцы — на падставе тоеснасці месца ў структуры мовы (дыялекту), у лексіцы — на падставе тоеснасці (блізкасці нават) адносін да паняццяў аб рэчаіснасці [33, *12—21, 233—234*].

скажам, сінтаксіс у дачыненні да словазлучэнняў і сказаў. Калі, напрыклад, сярод словазлучэнняў мовы ці дыялекту цяжка адшукаць такое спалучэнне слоў, якое было б індывідуальнай, індыферэнтнай да сінтаксісу з'явай у фармальных і семантычных адносінах, то падобнага роду індывідуальныя і ў многім самастойныя словы складаюць асноўную масу лексікі. Ды і так званыя вытворныя словы, або матываваная лексіка, у сувязі з рознымі семантычнымі зрухамі і пераразмеркаваннямі ў межах семантыка-стылістычных пластоў непазбежна страчваюць сваю структурную сувязь з сістэмай словаўтварэння. Бо любое слова, як бы яно ні ўзнікала ў мове ці дыялекце, арыентуецца на пэўныя асобныя адзінкі свядомасці, а не на рэалізацыю толькі свайго ўнутранага значэння, якое ўтвараецца спалучэннем уласцівых для яго словаўтваральных сродкаў. Значэнне слова — гэта яго семантычныя адносіны да іншых слоў у сістэме лексікі, яго месца сярод іх у адносінах да паняццяў аб рэчаіснасці і адначасова самыя паняцці, а не вынік спалучэння значэнняў словаўтваральных частак (марфем), якія ўваходзяць у склад яго (як, напрыклад, значэнне словазлучэнняў), хоць практычна супадзенне, тоеснасць сапраўднага (камунікатыўнага) і гэтага так званага ўнутранага (вытворнага) значэння слова можа мець, як вядома, месца.

Іменна гэта і абумоўлівае пэўную аўтаномнасць слоў як у структуры мовы ці дыялекту ў цэлым у адрозненне ад фанетычных і граматычных з'яў, так і ў лексіцы, у яе сістэме, у плане сувязі слоў адно з адным. Дзякуючы свайму ў значнай меры ўмоўнаму, а не абумоўленаму структурай значэнню і такой жа фармальнай будове слова можа замацоўвацца і функцыяніраваць як у межах уласнай для яго моўнай ці дыялектнай сістэмы, так і ў іншай, чужой, што практычна немагчыма, напрыклад, для фанетычных асаблівасцей [1].

Таму лексічныя ізаглосы не могуць быць наогул надзейным сведчаннем тэрытарыяльнага пашырэння і межаў моў або дыялектаў. Зразумела, што ўваходжанне іх у састаў ізаглосных пучкоў, якія з'яўляюцца моўнымі або дыялектнымі межамі, не выключаецца і не адмаўляецца гэтым. Аднак такая іх прырода або сутнасць можа быць дастаткова верагоднай толькі пры наяўнасці ў моўнай структуры, акрамя лексічных, значных фанетычных і марфалагічных адрозненняў па дадзенай мяжы. Бо захаванне толькі лексічных адрозненняў паміж дыялектамі пры ўмове поўнай нівеліроўкі іх фанетыка-марфалагічных асаблівасцей па сутнасці малаверагоднае.

---

[1] «Вандруючае слова падобна іншаземцу, яно спыняецца там, дзе яму захочацца, — піша Л. Гаша, — у той час як блукаючы гук заходзіць толькі да знаёмых» [20, *22*].

У сувязі з гэтымі агульнымі меркаваннямі лексічныя мерыдыянальныя ізаглосы з усходнім сумяшчэннем больш падстаў разглядаць папярэдне і ў цэлым як мяжу моўнай або дыялектнай інтэрферэнцыі — мяжу пранікнення лексічных асаблівасцей у дыялектную мову часткі тэрыторыі Беларусі са знешніх у адносінах да яе дыялектных або моўных адзінак. Гэта інтэрферэнцыя і яе мяжа могуць быць звязаны або са з'яўленнем у насельніцтва адной часткі тэрыторыі іншай моўнай арыентацыі ці сувязі ў параўнанні з другой, або з выхадам некаторых слоў з адной дыялектнай адзінкі на тэрыторыі Беларусі ў другую да адпаведнай ізаглоснай мяжы.

З гэтага пункту погляду магчыма таксама найбольш верагоднае тлумачэнне і наяўнасці двух відаў мерыдыянальных лексічных ізаглос з усходнім сумяшчэннем — ізаглос з поўным і частковым сумяшчэннем.

Калі разглядаць адзначаныя лексічныя ізаглосы як вынік інтэрферэнцыі, то структуру іх усходняга адрознення, яго асаблівасць у параўнанні з заходнім адрозненнем можна тлумачыць як вынік інтэрферэнцыі двух розных напрамкаў. Такая структура адрозненняў можа скласціся, па-першае, у выніку непасрэднага кантакту і ўплыву адна на адну сумежных дыялектных адзінак на тэрыторыі Беларусі. Адпаведныя адрозненні могуць утварыцца, па-другое, таксама і ў выніку ўзаемадзеяння дыялектнай мовы ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі з якой-небудзь знешняй у адносінах да яе, «наддыялектнай» моваю — моваю, якая атрымала тут пашырэнне ў пэўных функцыянальных межах, але не пашырылася на заходняй тэрыторыі. Гэта розныя напрамкі інтэрферэнцыі, але прыводзяць яны, як вядома, да аднолькавых па структуры дыялектных адрозненняў: у межах падпадаючай пад той ці іншы ўплыў дыялектнай мовы замацоўваюцца лексічныя сродкі ўплываючай мовы ці дыялекту, чым якраз і характарызуецца ўвогуле структура ўсходняга адрознення лексічных ізаглос з усходнім сумяшчэннем. Таму аднолькава магчыма звязваць гэтыя адрозненні ў цэлым як з адным, так і з другім напрамкам інтэрферэнцыі.

Аднак працэс інтэрферэнцыі, яе характар і паслядоўнасць у працяканні ў адным і другім выпадках неаднолькавыя. Лексічны ўплыў «наддыялектнай» мовы на падпаўшую пад яго дыялектную — гэта ўвогуле адначасовае пранікненне на ўсёй адпаведнай тэрыторыі і паступовае замацаванне тут тых ці іншых слоў са слоўніка ўплываючай мовы. Інтэнсіўнасць уплыву ў розных месцах можа быць, зразумела, розная. Гэта залежыць ад многіх умоў і прычын (характар населенага пункта, склад насельніцтва, яго заняткі, гаспадарчыя і культурныя сувязі, матэрыяльны і культурны ўзровень яго жыцця і г. д.). Аднак тэрытарыяльная сумежнасць узаема-

дзейнічаючых моўных сістэм, калі яна існуе, асаблівага значэння ў адпаведных выпадках не мае.

Пры непасрэдным кантакце сумежных дыялектаў пранікненне лексікі аднаго дыялекту ў другі не можа быць адначасовым на ўсёй тэрыторыі пашырэння апошняга. Яно пачынаецца непасрэдна на стыку дыялектаў, у выніку чаго ўтвараецца паласа сумяшчэння іх асаблівасцей у адпаведнасці з зонай натуральных узаемаадносін насельніцтва. Далейшае пашырэнне лексікі аднаго дыялекту ў другім пры такім узаемадзеянні адбываецца шляхам паступовага адсоўвання гэтай паласы ў глыбіню падпаўшага пад уплыў дыялекту[1].

Зыходзячы з гэтага, мерыдыянальныя лексічныя ізаглосы з поўным усходнім сумяшчэннем найбольш верагодна тлумачыць як вынік знешняга ўплыву на дыялектную мову ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі, а нешматлікія мерыдыянальныя лексічныя ізаглосы з частковым усходнім сумяшчэннем — як вынік непасрэдных кантактаў паміж самімі дыялектамі на тэрыторыі Беларусі. Пацвярджаецца гэта папярэдняе заключэнне і асаблівасцямі канкрэтных адрозненняў большасці лексічных з'яў, хоць малюнак лексічнага ўзаемадзеяння, утварэння адрозненняў і ізаглос у кожным канкрэтным выпадку больш складаны і разнастайны, чым падобныя абагульненыя яго схемы.

Досыць пераканаўча сведчаць аб паходжанні сваіх мерыдыянальных ізаглос як выніку міждыялектных кантактаў лексічныя адрозненні з частковым сумяшчэннем на ўсходняй тэрыторыі Беларусі заходніх і ўсходніх варыянтаў у назвах. Асабліва яскравыя ў гэтых адносінах адрозненні ў назвах падлогі і абруса.

З асаблівасцей сумяшчэння і тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення назваў падлогі звяртае на сябе ўвагу наяўнасць у паласе сумяшчэння ўсходняга слова *мост* і заходняга *падлóга* своеасаблівага па ўтварэнню слова *памóст*.

Па словаўтваральнай форме слова *памóст* трэба, відаць, разглядаць як вынік кантамінацыі слоў *мост* і *падлóга* або ўпадабнення аднаго з іх да другога. Такое тлумачэнне словаўтваральнай структуры слова *памóст* верагодна ў сувязі з тым, што назіраецца *памóст* не на ўсёй тэрыторыі сумяшчэння ва ўжыванні ўсходняй і заходняй назваў, а толькі пераважна каля мерыдыянальнай мяжы. Далей на ўсход у паласе

[1] «Патрэбна адрозніваць два спосабы прасоўвання моўных форм пры ірадыяцыі. Як правіла, наступаючыя здалёк моўныя элементы пераскокваюць праз шырокія прасторы, каб заваяваць асобныя «пункты прыцэлу» гарадскіх калектываў, адкуль яны... пранікаюць на падпарадкаваную ім тэрыторыю». «З другога боку, моўныя неалагізмы могуць пранікаць здалёку ў калектыў зносін бесперарыўнай плынню, г. зн. прасоўваючыся ад аднаго пункта да другога» [8, *130*].

сумяшчэння адзначаюцца словы *мост* і *падлóга* з перавагай слова *мост*.

Утварэнне слова *памóст* з'яўляецца, безумоўна, фактам больш глыбокага ўзаемадзеяння суіснуючых у гаворцы сінанімічных слоў *падлóга* і *мост,* чым іх простае ўзаемазамяшчэнне пры ўжыванні. Аднак магчыма такое незвычайнае ўтварэнне слова толькі ва ўмовах аслабленага функцыянальнага адрознення паміж суіснуючымі варыянтамі назвы, ва ўмовах іх раўнапраўя. Такім чынам, паласа ўжывання слова *памóст* з'яўляецца ў пэўным сэнсе перыферыйнай у адносінах да тэрыторыі паралельнага ўжывання слоў *мост* і *падлóга.* Яна выступае як бы зонай нейтралізацыі іх функцыянальнага супрацьпастаўлення.

У сувязі з гэтым натуральна тлумачыць утварэнне разгледжанага лексічнага адрознення ў назвах падлогі ў беларускай мясцовай мове з яго мерыдыянальнай ізаглосай непасрэдным кантактам паміж дыялектамі. Калі б гэта было звязана з уплывам якой-небудзь «наддыялектнай» мовы, то падобнае ўпадабненне павінна было б мець месца ў той ці іншай ступені на ўсёй тэрыторыі сумяшчэння [1].

Пры назіранні над сумяшчэннем і супрацьпастаўленнем назваў абруса таксама звяртае на сябе ўвагу наяўнасць непасрэдна з усходняга боку ад ізаглосы (або на заходнім краі тэрыторыі сумяшчэння) прыкметнай, хоць і не зусім выразнай паласы гаворак, для якіх характэрны некалькі своеасаблівы варыянт тыповай усходняй назвы. У гэтай паласе заходнія назвы *настóльнік* або *настóльніца* ўжываюцца паралельна са словам *скáцерць,* у той час як на астатняй тэрыторыі сумяшчэння адзначаецца слова *скáцерка,* характэрнае для ўсходняй тэрыторыі за паласой сумяшчэння.

Своеасаблівасць слова *скáцерць* заключаецца ў яго словаўтваральнай будове. Слова *скáцерць* адрозніваецца ад *скáцерка* адсутнасцю словаўтваральнага фарманта. Яно ў сувязі з гэтым менш звязана са словаўтварэннем мясцовай мовы, чым *скáцерка.* Зусім відавочна таксама, што *скáцерць* з'яўляецца першасным, а *скáцерка* — другасным утварэннем. Бо меркаваць аб страце словам *скáцерка* словаўтваральнага фарманта **-ка** на заходняй мяжы арэала яго сучаснага пашырэння няма ніякіх падстаў (наяўнасць слова *скáцерць,* а не *скáцер*, пашыранасць фарманта **-ка** ў аналагічных умо-

---

[1] Сучаснае становішча заходняй назвы *падлóга* як агульнанацыянальнай літаратурнай назвы абумоўлівае яе спарадычнае ўжыванне на ўсёй усходняй тэрыторыі рэспублікі. Але выпадкаў яе ўпадабнення да ўсходняй назвы *мост* тут нідзе не адзначаецца. Гэта зноў жа сведчыць аб тым, што пры ўзаемадзеянні функцыянальна розных моўных сістэм падобная з'ява немагчыма наогул. Літаратурныя словы хутчэй выцесняць дыялектныя, чым уступяць з імі ў кантамінацыю.

вах ва ўсёй беларускай дыялектнай мове: *сурвэ́тка, салфе́тка, накры́йка, по́сцілка, пасці́лка* і інш.).

Назіраецца, такім чынам, як бы нешта адваротнае таму, што мела месца ў папярэднім лексічным адрозненні ў назвах падлогі: на самай мяжы супрацьпастаўлення ўсходніх назваў абруса заходнім адзначаецца не структурнае ўзаемадзеянне і ўпадабненне іх і нават не суіснаванне (сумяшчэнне), а, наадварот, асобны варыянт назвы, аднолькавы па кораню з усходняй, але больш архаічны ў параўнанні з ёю па сваёй словаўтваральнай будове. Аднак і гэта крыху парадаксальная з'ява знаходзіць усё ж сваё тлумачэнне з пункту погляду непасрэдных міждыялектных кантактаў, хоць і з некаторым адначасовым удзелам знешніх у адносінах да дыялектаў моўных фактараў.

Наяўнасць на заходнім беразе паласы сумяшчэння ўсходніх і заходніх назваў абруса словаўтваральнага варыянта *ска́церць* замест звычайнага ўсходняга *ска́церка* нельга зразумець, калі зыходзіць з ацэнкі яго як архаізма, які захаваўся на перыферыі арэала ўсходняй назвы абруса. Захаванне такога архаічнага словаўтваральнага варыянта можна было б дапусціць у выпадку прасоўвання заходніх назваў *насто́льнік, насто́льніца* і *абру́с* на ўсход яшчэ да ўтварэння на базе слова *ска́церць* усходняга варыянта *ска́церка*[1]. Аднак у такім выпадку застаецца незразумелым, чаму слова *ска́церць* адзначаецца толькі ў дыялектнай мове на беразе паласы сумяшчэння, а не на ўсёй яе тэрыторыі.

Больш верагодна можна тлумачыць наяўнасць слова *ска́церць* на заходнім беразе паласы сумяшчэння ўсходніх і заходніх назваў абруса, калі лічыць, што з'явілася яно тут у больш позні час, чым слова *ска́церка* на астатняй тэрыторыі паласы сумяшчэння. Звязваць яго з'яўленне трэба з працэсам міждыялектнага ўзаемадзеяння. Але на гэты працэс пры яго завяршэнні аказала, відаць, уплыў руская літаратурная мова, дзе падобнае бессуфіксальнае слова выступае ў якасці літаратурнай назвы абруса. Пад яе ўплывам і замацавалася паралельна з дыялектным варыянтам *ска́церка* слова *ска́церць*, пры тым як больш ужывальнае. Бо трэба мець на ўвазе, што і на самым усходзе Беларусі побач з суфіксальным варыянтам *ска́церка* назіраецца і бессуфіксальны *ска́церць* (*ска́церсць*), праўда, менш ужывальны, чым папярэдні. Адзначаецца ён зрэдку і ў паласе сумяшчэння. Па заходнім жа беразе яе, дзе адносіны паміж усходнім і заходнімі варыянтамі назвы абруса яшчэ дастаткова не стабілізаваліся, пад уплы-

---

[1] Такое прасоўванне азначала б фактычна адрыў адпаведнай часткі арэала ўсходняга абазначэння і пэўнае «замарожванне» на ёй у адносінах далейшага развіцця дыялектнага варыянта абазначэння.

вам рускай мовы варыянт *скáцерка* адышоў на другі план як больш прастамоўны.

Што датычыцца ізаглосы адрозненняў у назвах дзеяння па ручной уборцы ільну, то кваліфікаваць яе як вынік міждыялектных кантактаў можна толькі ўлічваючы больш паслядоўны паралелізм ужывання заходняга абазначэння *ірвáць* і ўсходняга *брáць* на ўскраіне іх тэрыторыі сумяшчэння непасрэдна каля ізаглосы. Далей на ўсход ад ізаглосы ўжыванне заходняга варыянта *ірвáць* адзначаецца ўсё больш спарадычна. Нельга не ўлічваць таксама і падабенства гэтай мерыдыянальнай лексічнай ізаглосы, а таксама характару і нават тэрыторыі пашырэння яе дыялектных супрацьпастаўленняў да дзвюх разгледжаных лексічных ізаглос, з якімі яна ўтварае адзін з асобных відаў ізаглос з усходнім, у прыватнасці частковым сумяшчэннем. Аб'ядноўвае іх тыпалагічнае падабенства, безумоўна, невыпадкова.

Калі кваліфікаваць ізаглосы адзначаных лексічных з'яў як вынік міждыялектнага ўзаемадзеяння, узнікае пытанне аб напрамку гэтага ўзаемадзеяння, або, інакш, аб дыялектнай аднесенасці паласы сумяшчэння.

Зразумела, што для вырашэння гэтага пытання неабходна высветліць адносіны межаў тэрыторыі сумяшчэння да дыялектных. З гэтага пункту погляду ўсходняя мяжа тэрыторыі сумяшчэння гістарычна можа быць звязана з усходнім пучком ізаглос паўднёва-заходняга напрамку, якія з'яўляюцца ў пераважнай большасці ізаглосамі паслядоўнай рэалізацыі розных структурных асаблівасцей паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы (наяўнасць мяккай фанемы [р], дысімілятыўнае аканне і яканне і г. д.). Такім чынам, паласа сумяшчэння выступае як частка паўднёва-заходняга беларускага дыялекту і сярэднебеларускіх гаворак, а мерыдыянальныя ізаглосы лексічных адрозненняў з частковым усходнім сумяшчэннем — як мяжа адпаведнага лексічнага ўплыву з боку паўночна-ўсходняга дыялекту. У карысць гэтага меркавання сведчаць і ўказаныя асаблівасці ў абазначэнні падлогі і абруса, якія склаліся ў гаворках непасрэдна каля мерыдыянальных ізаглос гэтых лексічных адрозненняў. Так, слова *памóст* ёсць больш падстаў разглядаць як словаўтваральную трансфармацыю слова *мост* пад уплывам мясцовай дыялектнай назвы *падлóга,* чым наадварот. Грунтуецца такая думка на тым, што граматычная (у тым ліку і словаўтваральная) перабудова запазычаных слоў пад уплывам наяўных у мове або дыялекце — з'ява вельмі звычайная (яна лёгка абгрунтоўваецца статыстычна), у той час як адваротнае магчыма толькі, відаць, пры масавым наплыве запазычанняў, пры разбурэнні фанетыка-марфалагічнай сістэмы мовы або дыялекту.

Слова ж *скáцерць*, як ужо адзначалася, хоць і нельга аднесці непасрэдна да ўсходняга абазначэння па паходжанню, але яго пашырэнне і замацаванне ва ўжыванні звязана з паступовым пранікненнем на захад усходняй назвы *скáцерка*.

Да разгляду мерыдыянальных лексічных ізаглос з частковым усходнім сумяшчэннем як выніку міждыялектнага кантакту схіляе яшчэ і той факт, што выйшаўшыя за мяжу паўночна-ўсходняга дыялекту словы *мост, скáцерка* і *брацъ* з'яўляюцца па сваёй канкрэтнай семантычнай або словаўтваральнай спецыфіцы відавочнымі дыялектызмамі, характэрнымі для ўсходняй беларускай дыялектнай мовы. Ніякай іншай крыніцы іх магчымага запазычання назваць нельга.

Мерыдыянальныя лексічныя ізаглосы з поўным усходнім сумяшчэннем, якія інтэрпрэтуюцца як вынік знешняга, «наддыялектнага» моўнага ўплыву, маюць толькі адну і толькі такую інтэрпрэтацыю. Звязана гэта з тым, што адзін з лексічных варыянтаў іх усходніх адрозненняў у дыялектнай мове на тэрыторыі сумяшчэння, заходняя мяжа пашырэння якога выступае фактычна ў якасці мерыдыянальнай ізаглосы, можа разглядацца толькі як чужы для гаворак, знешні ў адносінах да іх лексікі. У папярэдніх лексічных ізаглосах падобны варыянт адрозненняў меў такі характар толькі ў паласе сумяшчэння, а не на тэрыторыі свайго пашырэння наогул.

У пераважнай большасці лексічных ізаглос з поўным усходнім сумяшчэннем адным з лексічных варыянтаў адрознення на тэрыторыі сумяшчэння выступае слова, якое адзначаецца ў якасці адзінага абазначэння на захадзе ад ізаглосы: *хвóры* — на захадзе : *хвóры* і *бальны́* — на ўсходзе, адпаведна *кавáль* : *кавáль* і *кузнéц, гной* : *гно́й* і *навóз, зязю́ля* : *зязю́ля* і *куку́шка, пярэ́днік* : *пярэ́днік* і *хварту́х, ху́стка* : *ху́стка* і *платóк, вясéлле* : *вясéлле* і *свáдзьба* і інш. Відавочна, што ў падобных выпадках можна толькі прызнаць агульнаўжывальныя словы або агульнадыялектнымі (характэрнымі для гаворак як захаду, так і ўсходу Беларусі), або характэрнымі для гаворак на захад ад ізаглос і запазычанымі з захаду ў дыялектную мову на ўсходзе ад ізаглос.

Супраць апошняга дапушчэння выступае сама мерыдыянальная дыялектная мяжа. Можна было б дапускаць магчымасць пашырэння адпаведных заходніх слоў на ўсход пад уплывам сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Але ў такім выпадку мерыдыянальныя ізаглосы гэтых лексічных адрозненняў выступаюць як адносна больш старажытныя межы лексічнага супрацьпастаўлення беларускай дыялектнай мовы, і, акрамя таго, варыянты адрозненняў, пашыраныя зараз на ўсходзе (*кузнéц, бальны́, навóз* і інш.), трэба было б прызнаць у такім выпадку старымі мясцовымі ўсходнімі беларускімі дыялектнымі словамі.

Больш правільна разглядаць агульнапашыраныя, характэрныя для ўсёй тэрыторыі лексічныя абазначэнні адзінымі агульнабеларускімі абазначэннямі ў мінулым (словы *кава́ль, хво́ры, гной* і г. д.). Паралельныя ж адпаведнікі да іх, што адзначаюцца зараз на ўсходзе ад ізаглос (*кузне́ц, бальны́* і інш.), трэба звязваць з уплывам рускай мовы. У карысць гэтага пункту погляду можна знайсці многа аргументаў пры канкрэтным разглядзе адпаведных адрозненняў (паходжанне лексікі, тэрыторыя пашырэння за межамі Беларусі і г. д.). Але дастаткова, відаць, звярнуць увагу толькі на тое, што падобныя словы ў многіх выпадках яшчэ канчаткова не страцілі ў мясцовай мове сваёй адасобленасці ад мясцовага прастамоўя і што ўжыванне іх на ўсходняй тэрыторыі яшчэ досыць хаатычнае, нестабілізаванае, як і самі іх ізаглосы ў сваім праходжанні.

Некалькі адрозніваюцца ад разгледжаных лексічных ізаглос з поўным усходнім сумяшчэннем ізаглосы адрозненняў у назве спадніцы і ў дзеясловах са значэннем 'мяўкаць'. Гэтыя ізаглосы таксама адносяцца да таго ж віду, што і папярэднія. Толькі тут з розніцай у словах звязана, відаць, у некаторых выпадках і розніца ў прадметах або паняццях, якія яны абазначаюць, што ўскладняе тлумачэнне.

Тэрытарыяльныя суадносіны арэалаў пашыраных у гаворках назваў спадніцы наступныя. Агульнапашыраным з'яўляецца слова *спадніца*. На ўсходзе паралельна з ім адзначаецца *ю́бка* з большай інтэнсіўнасцю ўжывання на поўначы арэала. На самай поўначы гэта слова выступае амаль што адзіным. Заходняя мяжа яго арэала (не зусім выразная) і звязваецца з мерыдыянальнай групай ізаглос.

Пазадыялектнае паходжанне слова *ю́бка* (як і канкрэтнага віду рэчы, якую яно абазначае) відавочнае і не патрабуе доказаў. Не зусім зразумелае, аднак, супадзенне тэрыторыі пашырэння слова *ю́бка* з арэалам слова *андара́к*. Наяўнасць апошняга ў гаворках на ўсходзе ад мерыдыянальных ізаглос не можа быць растлумачана як вынік яго запазычання падобна да слова *ю́бка*. Ды і тэрыторыя слова *андара́к* не абмяжоўваецца толькі ўсходам. Яно пашырана яшчэ і на захадзе, дзе ўтварае таксама асобны арэал, не звязаны тэрытарыяльна з усходнім, каля дзяржаўнай граніцы Беларусі. Аднак словы *ю́бка* і *андара́к* усё ж абумоўліваюць адно другое. Нават у заходнім арэале слова *андара́к* адзначаецца зрэдку і слова *ю́бка,* у той час як пры ўжыванні толькі слова *спадніца* назву *ю́бка,* як правіла, не адзначаюць. Магчыма, што адказ на пытанне аб паходжанні і пашырэнні слова *андара́к* на ўсходзе можна было б даць у выніку вывучэння прадметна-семантычных адносін паміж назвамі спадніцы. Але неабходныя для гэтага матэрыялы адсутнічаюць. Праўда,

гэта пытанне не мае першаступеннага значэння для інтэрпрэтацыі мерыдыянальнай ізаглосы адрозненняў у назвах спадніцы. Яе паходжанне звязана з пашырэннем на ўсходзе Беларусі слова *юбка,* запазычанасць якога з рускай мовы не выклікае сумнення.

Асаблівасць суадносін лексічных адрозненняў у адносінах дзеясловаў са значэннем 'мяўкаць' заключаецца ў тым, што ўсходні дзеяслоў *каўкаць* па сутнасці накладваецца сваім арэалам не на адзін агульнабеларускі варыянт абазначэння, як было ў папярэдніх выпадках, а на некалькі дыялектных варыянтаў са сваімі арэаламі, межы якіх не звязаны з мерыдыянальнай групай ізаглос. Асноўных такіх арэалаў два — паўночны і паўднёвы. На поўначы дзеяслоў *каўкаць* захоплівае ў сваім пашырэнні ўсходнюю частку арэала дзеяслова *курняўкаць,* на поўдні—адпаведную частку арэала дзеяслова *мяўкаць* і часткова яго варыянта *яўкаць* (відаць, ад *мйаўкац*').

Асаблівасць гэту ўсё ж можна вытлумачыць. Немагчыма, зразумела, разглядаць дзеяслоў *каўкаць* як запазычанае слова не толькі таму, што гэта гукапераймальнае абазначэнне бытавой з'явы (слова адносіцца да пазалітаратурнага прастамоўя), але перш за ўсё па той прычыне, што ў адзначаным значэнні дзеяслоў *каўкаць* з'яўляецца фактычна ўсходнім дыялектызмам. Таму па паходжанню мерыдыянальную ізаглосу гэтага лексічнага адрознення, звязаную з пашырэннем слова *каўкаць,* трэба, відаць, аб'ядноўваць з мерыдыянальнымі лексічнымі ізаглосамі з частковым усходнім сумяшчэннем. Аднак сумесная ўжывальнасць на ўсходзе дзеясловаў *каўкаць* і *мяўкаць,* якія нічым як быццам не адрозніваюцца па значэнню, застаецца не зусім яснай (семантычная тоеснасць дзеясловаў *каўкаць* і *курняўкаць* у межах іх сумеснай ужывальнасці няпоўная: *каўкаць*—'крычаць, прасіцца', *курняўкаць*—'падаваць голас, клікаць'.

Кваліфікуючы разгледжаныя ізаглосы лексічных адрозненняў дыялектнай беларускай мовы ўсходу ад мовы заходняй часткі Беларусі пераважна як вынік уплыву рускай мовы, неабходна адзначыць, што гэты ўплыў не зводзіцца, безумоўна, да ўказаных запазычанняў. Гэта толькі асобныя прыклады лексічнага ўплыву рускай мовы на беларускую дыялектную мову, асобныя паказчыкі яго характару і геаграфіі.

Разгляд мерыдыянальных ізаглос лексічных адрозненняў з усходнім сумяшчэннем як мяжы змяненняў у лексіцы дыялектнай мовы ў выніку міждыялектнага і пазадыялектнага моўных уплываў, калі мець на ўвазе тое, што яны складаюць аснову адпаведнай падгрупы мерыдыянальных ізаглос, схіляе да меркавання аб магчымасці падобнай інтэрпрэтацыі ізаглос дадзенай падгрупы дыялектных адрозненняў у фанетыцы

і граматыцы. Гэта, у прыватнасці, ізаглосы адрозненняў у рэалізацыі глухіх зычных **ф** і **ф'** слоў іншамоўнага паходжання, ізаглоса адрозненняў у вымаўленні пачатковага зычнага **с** у слове *сэрца,* ізаглоса адрозненняў па тыпу скланення назоўнікаў мужчынскага роду *старшыня́, ста́раста, суддзя́* і інш. і ізаглоса прыназоўнікаў **к : да** (*пайшоў да ба́цькі : пайшоў к ба́цьку*). Аднак такі пункт погляду на іх не заўсёды можна дастаткова пераканаўча абгрунтаваць.

Пры разглядзе адрозненняў у рэалізацыі **ф** і **ф'** у словах іншамоўнага паходжання ў беларускіх гаворках звяртае на сябе ўвагу перш за ўсё наяўнасць як бы ўзаемавыключаючай супрацьпастаўленасці гаворак Беларусі на ўсходзе і захадзе ад мерыдыянальнай мяжы ў адносінах характару замены гэтых гукаў. На ўсходзе ад мерыдыянальнай мяжы ў адпаведнасці з **ф** і **ф'** вымаўляецца [хв], [кв] або [х], на захадзе ж ад яе чуюцца часцей [п], [ф]. Гэта адрозненне ў рэалізацыі **ф**, **ф'** схіляе да думкі аб тым, што паміж гаворкамі ўсходу і захаду існуе, магчыма, розніца ў якасці паасобных дыферэнцыяльных прызнакаў зычных, у прыватнасці губных, якая і абумоўлівае неаднолькавасць замены **ф** і **ф'** на ўсходзе і захадзе.

Калі прыняць такое тлумачэнне адрозненняў у адносінах рэалізацыі гукаў **ф** і **ф'** у гаворках усходу і захаду Беларусі, то разгляд дадзеных мерыдыянальных ізаглос у адзінстве з падобнымі лексічнымі ізаглосамі выключаецца. Бо ў такім выпадку трэба меркаваць аб наяўнасці розніцы паміж гаворкамі ўсходу і захаду ў адносінах губнога дыферэнцыяльнага прызнака як досыць старажытнай дыялектнай асаблівасці. Гэта азначае, што яшчэ да ўваходжання ў склад лексікі беларускіх гаворак вядомых зараз іншамоўных слоў з замененымі гукамі **ф** і **ф'** у мясцовых гаворках мела ўжо месца мерыдыянальная мяжа адрознення паміж губнымі, якая вызначыла розніцу ў рэалізацыі губных **ф** і **ф'** у іншамоўных словах.

Такая думка не з'яўляецца толькі тэарэтычна верагоднай. Наяўнасць нейкай розніцы ў артыкуляцыі губных дапускаецца даследчыкамі і ў сучаснай мясцовай мове на ўсходзе і захадзе. Бо інакш ніяк нельга было б растлумачыць розніцу ў рэалізацыі **ф** і **ф'** у навейшых аднолькавых запазычаннях з гэтымі зычнымі гукамі ў жывой мове на адной і другой тэрыторыі. Яна не вельмі істотная, але ўсё ж назіраецца.

Пры ўсім гэтым мерыдыянальныя ізаглосы замены **ф** і **ф'** ў запазычанай лексіцы можна ў нейкай меры разглядаць і ў непасрэднай сувязі з лексічнымі ізаглосамі адпаведнай падгрупы як вынік лексічнага дыялектнага ўплыву з усходу Беларусі ў напрамку на захад.

Для пераканаўчага абгрунтавання такога пункту погляду наяўных фактычных матэрыялаў недастаткова. Неабходна

было б дэталёвае лінгвагеаграфічнае вывучэнне значнай колькасці запазычанай лексікі, якая ілюструе рэалізацыю **ф** і **ф'** у беларускіх гаворках. Аднак нават факты, устаноўленыя зараз, наводзяць на думку аб тым, што сучасныя ў агульным мерыдыянальныя межы паміж рознымі мясцовымі варыянтамі запазычанняў з **ф** і **ф'** у адносінах іх замены з'явіліся ўсё ж вынікам у некаторай ступені і дыялектнага ўзаемадзеяння.

Адрозненне паміж гаворкамі ўсходу і захаду тэрыторыі Беларусі ў адносінах якасці губных адмаўляць у сувязі з гэтым нельга. Хоць зараз няма ніякіх матэрыялаў адносна мяжы гэтай малапрыкметнай і невыразнай з'явы, акрамя ўскосных даных, звязаных з розніцай у рэалізацыі **ф** і **ф'**, аднак і на падставе гэтых даных можна выказаць усё ж некаторыя меркаванні аб магчымым праходжанні падобнай мяжы. У сувязі з гэтым звяртае на сябе ўвагу тое, што найбольш паслядоўная рэалізацыя **ф** і **ф'**, як [хв], [хв'] і [х], [х'], назіраецца ў гаворках паўднёва-ўсходняй часткі ўсходняй тэрыторыі Беларусі (Магілёўшчына і Гомельшчына з усходнім Палессем). Аб гэтым сведчыць, напрыклад, рэалізацыя **ф** у слове *фа́брыка*. Таму магчыма, што мяжа розніцы ў якасці губных не з'яўляецца мерыдыянальнай, а праходзіць недзе па заходняй ускраіне адзначанай тэрыторыі. У такім выпадку яна звязваецца з невялікім па колькасці пучком цікавых і на першы погляд досыць архаічных столінска-слуцка-аршанскіх ізаглос паўночна-заходняга напрамку. Пры гэтым важна, што ў гэтай мяжы можна бачыць працяг на паўднёвым захадзе. Справа ў тым, што ў гаворках Брэсцкай вобласці ў выглядзе астраўкоў таксама назіраецца пераважная рэалізацыя **ф**, **ф'** у гуках, тыповых для паўднёвага ўсходу Беларусі. А ў такім выпадку гэту мяжу можна звязваць і з другім пучком ізаглос паўночна-заходняга напрамку — пружанска-слуцка-аршанскім, які таксама з'яўляецца вельмі цікавым па паходжанню.

На гэтай жа паўднёва-заходняй тэрыторыі Беларусі назіраецца таксама вымаўленне [кв] замест **ф** у слове *фасо́ля* побач з [хв], якое больш характэрна для паўночнай часткі ўсходняй тэрыторыі. А наогул дыялектная мова адзначанай тэрыторыі найбольш «нецярпіма» да зычных **ф**, **ф'** і ў цяперашні час.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што хоць ізаглосы рэалізацыі **ф** і **ф'** у асобных словах супадаюць у цэлым па напрамку і праходжанню, аднак кожная з іх у той ці іншай меры індывідуальная па канфігурацыі і па мясцовых асаблівасцях у адрозненнях.

Таму з пэўнымі асаблівасцямі розных дыялектных фанетычных сістэм на тэрыторыі Беларусі трэба, відаць, звязваць

толькі структурную спецыфіку і генезіс розных замен зычных **ф** і **ф'** у запазычаных словах. Што датычыцца сучаснага мерыдыянальнага размежавання розных фанетычных варыянтаў адпаведных слоў, то можна меркаваць, што яно з'яўляецца вынікам тых жа працэсаў, з якімі звязана размежаванне разгледжаных вышэй варыянтаў лексічных адрозненняў. Мерыдыянальныя ізаглосы розных варыянтаў слоў, якія атрымаліся шляхам замены **ф** і **ф'**, як і падобныя лексічныя ізаглосы, склаліся ў выніку некаторага тэрытарыяльнага пашырэння паўднёва-ўсходніх варыянтаў на паўночны захад. Гэта, між іншым, адзіна магчымае тлумачэнне, бо заходнія варыянты слоў з захаваннем [ф] і [ф'] фанетычна немагчымыя на паўднёвым усходзе [1].

Не зусім зразумелае ўтварэнне ў беларускай дыялектнай мове адрознення ў вымаўленні пачатковага зычнага ў слове *сэ́рца* з яго мерыдыянальнай ізаглосай (цвёрдае [с] на захадзе і мяккае [с'] або спарадычна мяккае і цвёрдае на ўсходзе).

Ізаглоса адрознення ў вымаўленні пачатковага зычнага ў слове *сэ́рца* дапускае некалькі тлумачэнняў. Яе можна разглядаць як мяжу варыянтаў вымаўлення, уласцівых розным дыялектным сістэмам. Такое дапушчэнне натуральна, але яно патрабуе доказаў структурнай дыялектнай абумоўленасці варыянтаў *се́рца* на ўсходзе і *сэ́рца* на захадзе Беларусі. Аднак з гэтага боку натуральным быў бы варыянт *се́рца* як для ўсходу, так і для захаду. У беларускіх гаворках перад [е] ў словах неіншамоўнага паходжання, якім з'яўляецца, вядома, і *сэ́рца*, магчыма толькі [с']. Няма падстаў таксама для пацвярджэння наяўнасці [с] у слове *сэ́рца* ў гаворках на захадзе зыходзячы з якіх-небудзь іх мінулых фанетычных асаблівасцей. Таму падобнае тлумачэнне адпаведнай ізаглосы па меншай меры малаверагоднае.

Застаецца тлумачыць указаную ізаглосу як вынік запазычання аднаго з варыянтаў. З асаблівасцей узаемазаходжання арэалаў абодвух варыянтаў вынікае, што вымаўленне *сэ́рца* з'яўляецца не толькі характэрным на захадзе, але спарадычна адзначаецца і на ўсёй усходняй тэрыторыі. У гэтым сэнсе дадзеная ізаглоса ў адносінах адрозненняў мае падабенства да лексічных мерыдыянальных ізаглос з поўным усходнім сумяшчэннем. І ўтварэнне яе як быццам можна было б тлума-

---

[1] Ёсць матэрыялы, якія сведчаць, што варыянты некаторых запазычанняў з зычнымі **ф** і **ф'** утварылі зоны з ізаглосамі, не звязанымі з мерыдыянальнай групай. Так, паўднёва-заходні па замене **ф'** варыянт асабовага імя *Пілíп* (параўн. *пасóл'а*, характэрнае для паўднёвага захаду) пашыраны і на ўсходзе. Адзначаюцца тут падобныя ж заходнія варыянты іншых асабовых імёнаў *(Прóся, Прэ́са, Пёкла)*. Усё гэта — сведчанне адваротнага ўплыву і аргумент у карысць меркавання аб інтэрферэнцыйнай прыродзе мерыдыянальных ізаглос адпаведных з'яў.

чыць аналагічна як вынік пашырэння на ўсходзе іншамоўнага варыянта *сéрца.*

Такое тлумачэнне было б досыць пераканаўчым, калі б гутарка ішла аб пашырэнні на ўсходзе варыянта *сэ́рца,* а не наадварот. Таму звязваць разглядаемую ізаглосу з пазнейшым пашырэннем на ўсходзе варыянта *сéрца* замест *сэ́рца* таксама немагчыма. Гэтым адмаўлялася б натуральнасць для дыялектнай мовы ўсходу варыянта *сéрца* і сцвярджалася б спрадвечнасць для яе варыянта з цвёрдым пачатковым [с] — *сэ́рца,* які, наадварот, па характару гэтага зычнага з'яўляецца як быццам не мясцовым. Цвёрдасць [с] перад [е] ў ім яўна недыялектнага паходжання.

Таму найбольш верагодным будзе апошняе з магчымых тлумачэнняў дадзенай ізаглосы як выніку пашырэння ў гаворках на захадзе варыянта *сэ́рца.* Па паходжанню ён з'яўляецца, відаць, паланізмам. Калі гэта так, то ён звязваецца ў адзіную групу з такім запазычаннем, як *гарсэ́т,* які мае падобны арэал на захадзе Беларусі, а таксама з фанетычнымі заходнебеларускімі варыянтамі *мястэ́чка* і *вуздэ́чка* спрадвечна беларускіх слоў *мясцéчка* і *вуздзéчка.* У сваю чаргу гэта група адрозненняў можа быць звязана з адрозненнямі мерыдыянальных ізаглос, але не з усходнім, а заходнім поўным сумяшчэннем.

Пры такім тлумачэнні застаецца крыху незразумелым спарадычнае ўжыванне варыянта *сэ́рца* на ўсходзе ад ізаглосы. Аднак можна меркаваць, што гэта вынік уплыву сучаснай беларускай літаратурнай мовы, дзе варыянт *сэ́рца* з'яўляецца лексічнай нормай.

Хоць апошняе тлумачэнне з'яўляецца як бы больш пераканаўчым, але пытанне адносна паходжання варыянта *сэ́рца* ў беларускай дыялектнай мове нам здаецца яшчэ не зусім вырашаным. Некалькі незвычайна і дзіўна тое, што іменна гэта слова закрануў уплыў польскай мовы.

Ізаглоса адрозненняў па тыпу скланення назоўнікаў мужчынскага роду на **-а** (*старшыня́, ста́раста* і інш.) у некаторай ступені ўмоўная. Аб наяўнасці яе сцвярджаецца на аснове матэрыялаў аб форме творнага склону адзіночнага ліку назоўніка *старшыня́* ў беларускіх гаворках з улікам некаторых дадатковых матэрыялаў. На падставе гэтых матэрыялаў можна ўвогуле гаварыць аб тым, што на захадзе падобныя назоўнікі скланяюцца па тыпу назоўнікаў жаночага роду на **-а**, а на ўсходзе — падобна да назоўнікаў мужчынскага роду з чыстай асновай, але не паслядоўна: тут ужываюцца паралельна такія ж формы, як і на захадзе. Таму разглядаемая ізаглоса і кваліфікуецца як ізаглоса з усходнім сумяшчэннем.

Хоць у цэлым адзначаныя адрозненні ў скланенні назоўнікаў на **-а** па тэрыторыі размяшчэння звязваюцца з падгрупай

мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем, аднак канкрэтная мяжа іх не зусім выразная і ясная. Можна заўважыць, што па свайму праходжанню ізаглоса гэтых адрозненняў прыкметна адрозніваецца ад разгледжаных мерыдыянальных ізаглос. Магчыма нават, што пры больш дэталёвым вывучэнні дыялектных асаблівасцей скланення розных назоўнікаў на **-а** яна атрымала б некалькі іншую тыпалагічную інтэрпрэтацыю і трапіла б у іншы пучок ці групу.

Своеасаблівасць гэтага адрознення заключаецца ў тым, што як заходнюю, так і ўсходнюю асаблівасць скланення назоўнікаў на **-а** можна тлумачыць толькі як з'явы мясцовага, дыялектнага паходжання. Дыялектная прырода ўсходняй асаблівасці відавочная. Запазычанай яе нельга лічыць па той простай прычыне, што ніякіх крыніц запазычання яе нельга назваць. Заходнюю ж асаблівасць скланення назоўнікаў на **-а** нельга лічыць запазычаннем у сувязі з тым, што яна папярэднічае ўсходняй гістарычна.

Пры такіх храналагічных адносінах паміж усходняй і заходняй асаблівасцямі ў скланенні назоўнікаў на **-а** найбольш натуральным будзе тлумачэнне ўтварэння ізаглосы ў сувязі з узнікненнем і пашырэннем усходняй асаблівасці. Гэта тлумачэнне можна лічыць бясспрэчным. Аднак вытокі і генезіс усходняй асаблівасці ўсё ж не зусім ясныя. Інтэнсіўнасць яе праяўлення на ўсёй усходняй тэрыторыі пашырэння прыблізна аднолькавая. Таму сучасны арэал гэтай асаблівасці можна лічыць і арэалам яе першапачатковага ўзнікнення. Праўда, ёсць некаторыя падставы звязваць гэту ізаглосу па характару адрозненняў з мерыдыянальнымі ізаглосамі з частковым усходнім сумяшчэннем. Калі разглядаць факты паралельнага ўжывання на самым усходзе заходніх форм адпаведных назоўнікаў як вынік пазнейшага ўплыву літаратурнай беларускай і рускай моў, то арэал першапачатковага ўзнікнення ўсходніх форм можна абмяжоўваць на захадзе ўсходнім пучком ізаглос паўднёва-заходняга напрамку (як і заходнюю мяжу арэала слова *мост*), а мерыдыянальную мяжу разглядаць як вынік далейшага пашырэння іх на захад у сувязі з астатнімі падобнымі ўсходнімі адрозненнямі мерыдыянальных ізаглос.

Найбольш пераканаўча можна тлумачыць падобным чынам паходжанне адрозненняў і ўтварэнне мерыдыянальнай ізаглосы прыназоўнікаў **к** і **да**. Тут зусім выразна ў арэале прыназоўніка **к**, характэрнага для дыялектнай мовы на ўсход ад ізаглосы, вылучаецца тэрыторыя паслядоўнага яго ўжывання. Заходняя мяжа гэтай тэрыторыі супадае з усходнім пучком ізаглос паўднёва-заходняга напрамку. З дыялектнай моваю гэтай тэрыторыі прыназоўнік **к** у адзначаным значэнні, відаць, звязан генетычна. На астатняй тэрыторыі свайго па-

шырэння ў напрамку на захад ён суіснуе з прыназоўнікам **да** і з'яўляецца, напэўна, другасным і ўсходнедыялектным па паходжанню. Адсюль вынікае, што гэта ізаглоса склалася ў выніку міждыялектнага ўзаемадзеяння ў напрамку з усходу на захад (магчыма, што гэтаму садзейнічала таксама характэрнасць прыназоўніка *к* для рускай мовы).

Асобнае месца па праходжанню сярод мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем займае ізаглоса адрозненняў у вымаўленні пачатковага зычнага ў займенніку *гэ́ты* (а таксама *гэ́ны*). Яе адносіны да мерыдыянальных ізаглос праблематычныя. Мяжа пашырэння ўсходняга варыянта з пачатковым зычным [й] праходзіць зусім інакш, чым мерыдыянальныя ізаглосы. Ёсць падставы меркаваць, што першапачаткова [й] у займенніку *гэ́ты* — дыялектная асаблівасць толькі мяккаэрых магілёўска-віцебскіх гаворак. У іх варыянт з [й] (*йе́ты*) адзначаецца паслядоўна. Аднак чаму варыянт з [й] пашырыўся адсюль у напрамку на захад толькі на поўдні і часткова на самай поўначы, але не пашырыўся ў цэнтральнай частцы Беларусі (нават адступіў на ўсход), незразумела. Прыняўшы такое тлумачэнне, трэба прызнаць, што мерыдыянальная ізаглоса ў выніку пашырэння на поўдзень і захад Беларусі варыянта з пачатковым (й) па сутнасці не склалася. Паходжанне гэтага адрознення і ўтварэнне яго ізаглосы патрабуюць далейшага высвятлення.

Мерыдыянальных ізаглос з заходнім сумяшчэннем вядома зараз значна менш, чым папярэдніх. У гэту падгрупу ўваходзяць лексічныя ізаглосы адрозненняў у назвах будынка для захавання збожжа, гаспадара асобнага сялянскага двара, пярэдняй часткі страхі ў хаце і фанетычныя па прыродзе сваіх адрозненняў ізаглосы вымаўлення спалучэнняў **чн** у паасобных словах.

Ізаглосы адрозненняў у назвах будынка для захавання збожжа і гаспадара асобнага сялянскага двара блізкія паміж сабою па сваіх адрозненнях і могуць разглядацца як мерыдыянальныя ізаглосы з поўным заходнім сумяшчэннем. Але кожная з іх мае свае асаблівасці ў тэрытарыяльных узаемаадносінах дыялектных варыянтаў.

Паходжанне мерыдыянальнай ізаглосы адрозненняў у назве будынка для захавання збожжа звязана, відаць, з паходжаннем і пашырэннем у беларускіх гаворках слова *сві́ран* (*све́ран, свіро́нак* і інш.). Характэрна яно для мясцовай мовы захаду Беларусі. Усходняя мяжа яго арэала выступае фактычна зараз у якасці адпаведнай ізаглосы. Бо ўсходнія назвы *клець* і *амба́р* (*інба́р*) пашыраны на захад досыць значна ў глыбіню арэала слова *сві́ран*.

Слова *сві́ран* на заходняй тэрыторыі Беларусі можа разглядацца або як больш ранняя назва адпаведнага будынка

ў адносінах да назваў *клець* і *амбар*, або, наадварот, як напластаванне на гэтыя назвы.

Што датычыцца слова *амбар*, то ёсць пэўныя падставы лічыць яго больш познім на захадзе ў параўнанні са словам *свіран*. Назіраецца яно зараз у дыялектнай мове на захадзе спарадычна невялікімі астраўкамі з невыразнымі межамі або ў паасобных пунктах. На ўсходзе ад ізаглосы слова *амбар* адзначаецца амаль паслядоўна паралельна са словам *клець*. Таму мерыдыянальную ізаглосу можна разглядаць нават як ізаглосу мінулага супрацьпастаўлення арэалаў слоў *амбар* і *свіран*.

Больш складаныя для тлумачэння тэрытарыяльныя ўзаемаадносіны слоў *клець* і *свіран*. Можна было б выказаць думку, што *клець* у арэале слова *свіран* таксама з'яўляецца параўнальна з ім больш познім абазначэннем. Аднак застаецца не зусім зразумелай адна дэталь у тэрытарыяльным пашырэнні слова *клець*. Справа ў тым, што адзначаецца яно не на ўсёй тэрыторыі сучаснага пашырэння слова *свіран*. Арэал назвы *клець* мае досыць выразную заходнюю мяжу, па якой адасабляецца значная паўночна-заходняя частка дыялектнай мовы Беларусі, дзе яно зусім не адзначаецца. Утварэнне гэтай мяжы, або ізаглосы наяўнасці і адсутнасці слова *клець*, калі разглядаць яе як назву, адносна больш познюю па часе пашырэння, чым *свіран*, дастаткова пераканаўча растлумачыць немагчыма.

Трэба прыняць, відаць, пад увагу апошняе з магчымых тлумачэнняў. Найбольш старажытным у групе слоў *клець*, *амбар* і *свіран* у беларускай дыялектнай мове з'яўляецца *клець*. Мяжа яго сучаснага пашырэння ў напрамку на захад— гэта ў мінулым адначасова і паўднёва-ўсходняя мяжа арэала слова *свіран*. Звязваць паходжанне слова *свіран* першапачаткова з гэтай тэрыторыяй ёсць пэўныя падставы. Яна непасрэдна прымыкае да тэрыторыі літоўскай мовы, якая з'яўляецца гістарычнай крыніцай слова *свіран*. Можна нават думаць, што яно на адзначанай тэрыторыі не пашыралася пад уплывам літоўскай мовы, а захавалася ў мясцовых беларускіх гаворках як субстратны літуанізм. Тут, дарэчы, яно прадстаўлена двума варыянтамі — *свіран* і *сверан* з досыць чоткай мяжой. Далей на ўсход на тэрыторыі Беларусі яно пашырылася з гэтых гаворак (у прыватнасці, толькі варыянт *свіран*), замацаваўшыся ў дыялектнай мове ўсёй заходняй часткі Беларусі, у выніку чаго і ўзнікла сучасная мерыдыянальная ізаглоса адрозненняў у адпаведных назвах. Некалькі незразумелай з'яўляецца адсутнасць слова *клець* і наяўнасць слова *свіронак* у гаворках паўднёвага захаду (гаворкі каля Брэста). Субстратнае літоўскае паходжанне яго тут, як вядома, неверагоднае. Але ў дадзеным выпадку адзначаецца ва ўжыванні

дэрыват у мясцовай словаўтваральнай форме, што дазваляе разглядаць яго ўсё ж як запазычанне.

Такі пункт догляду ўзгадняецца і з данымі аб гісторыі адпаведных слоў. Дарэчы, гісторыя і пашырэнне разгледжаных слоў у беларускіх гаворках — гэта ў значнай меры гісторыя і пашырэнне тых рэалій, якія яны абазначаюць. Хоць функцыянальна будынкі клець, амбар і свіран тоесныя, але па тыпу і характару не зусім аднолькавыя.

Тэрытарыяльныя ўзаемаадносіны назваў гаспадара простыя. Ёсць два абазначэнні. Для дыялектнай мовы заходняй тэрыторыі Беларусі характэрна слова *гаспада́р,* якое адзначаецца пераважна паралельна са словам *хадзя́ін* (*хазя́ін*). На ўсходзе Беларусі пашырана толькі слова *хадзя́ін* (*хазя́ін*). Такім чынам, мерыдыянальнай ізаглосай адрозненняў у назве гаспадара выступае фактычна мяжа пашырэння на ўсход слова *гаспада́р* (*аспада́р*). Таму ўтварэнне гэтага лексічнага адрознення з яго мерыдыянальнай ізаглосай абумоўлена хутчэй за ўсё з'яўленнем слова *гаспада́р* на тэрыторыі свайго сучаснага пашырэння.

Пераканаўча растлумачыць з'яўленне і пашырэнне слова *гаспада́р* на заходняй частцы тэрыторыі Беларусі толькі на аснове сучасных даных аб яго геаграфіі і ўжыванні досыць цяжка. Бо з таго, што яно характэрна для дыялектнай мовы захаду Беларусі, нельга зрабіць ніякага пэўнага вываду адносна яго паходжання і пашырэння тут. Папярэдніх, аднолькава магчымых пунктаў погляду на гэта можа быць па меншай меры тры. Слова *гаспада́р* можна лічыць, па-першае, спрадвечным у дыялектнай мове ў межах яго сучаснага пашырэння. Яго можна, па-другое, разглядаць тут як позняе запазычанне. Нарэшце, сучасны арэал слова *гаспада́р* з яго ўсходняй мерыдыянальнай мяжой можа быць, па-трэцяе, вынікам выцяснення яго з ужывання словам *хазя́ін* на ўсходзе Беларусі. Можна гаварыць толькі аб большай ці меншай верагоднасці гэтых меркаванняў.

Самым малаверагодным можна лічыць першы пункт погляду. Няма грунтоўных падстаў думаць, што гэта слова са сваім сучасным арэалам звязана з дыялектнай асобнасцю мовы заходняй часткі тэрыторыі Беларусі. Дыялектныя межы, як вядома, праходзяць па тэрыторыі Беларусі зусім інакш, чым мяжа яго сучаснага пашырэння.

Малаверагодным з'яўляецца таксама і трэці пункт погляду. Зыходзячы з яго, трэба было б лічыць слова *гаспада́р* або агульнадыялектным, г. зн. вядомым ужо ў межах сучаснай Беларусі яшчэ да пачатку складвання мясцовых дыялектаў, або ў крайнім выпадку агульнабеларускім папярэднікам слова *хазя́ін.* Погляд на яго як на лексічны элемент спрадвечнай лексічнай агульнасці сучасных беларускіх дыялектаў

няма патрэбы абвяргаць. Калі ж прызнаць яго агульнабеларускім да пашырэння слова *хазяін,* то застаюцца нерастлумачанымі сучасныя тэрытарыяльныя ўзаемаадносіны яго з адзначаным словам. Застаюцца без адказу такія пытанні, як і чаму слова *гаспада́р* поўнасцю выцеснена на ўсходзе Беларусі і чаму суіснуе са словам *хазяін* толькі на частцы тэрыторыі на захадзе, а на другой частцы ўжываецца ізалявана ад яго, самастойна.

Таму лінгвагеаграфія слоў *гаспада́р* і *хазяін,* як і лексічных адрозненняў у назве будынка для захавання збожжа, схіляе да думкі, што з усіх меркаванняў адносна больш верагодным з'яўляецца погляд на арэал і ўсходнюю мяжу пашырэння слова *гаспада́р* (мерыдыянальную ізаглосу) як вынік пазнейшага распаўсюджання яго ў напрамку на ўсход. Першапачатковая ж тэрыторыя яго існавання, магчыма, вызначаецца мяжой сучаснага пашырэння на захад слова *хазяін.* Гэта тэрыторыя, дзе ўжываецца зараз толькі слова *гаспада́р* (літоўска-беларускае пагранічча і самы захад Беларусі). Відавочна, што вытокі слова *гаспада́р* у дыялектнай мове на захадзе Беларусі можна высветліць пры тлумачэнні яго з'яўлення ў акрэсленым вышэй першапачатковым арэале.

Супрацьпастаўляецца мясцовая мова ўсходу і захаду тэрыторыі Беларусі ў некаторай ступені назвамі пярэдняй часткі страхі (у хаце). Мерыдыянальная ізаглоса гэтага лексічнага адрознення вызначаецца як ізаглоса з частковым заходнім сумяшчэннем. Аднак частковае сумяшчэнне назваў пярэдняй часткі страхі істотна адрозніваецца ад таго, што назіралася пры падобным сумяшчэнні назваў у іншых адрозненнях з аналагічнымі ізаглосамі з заходнім сумяшчэннем. Усходнія назвы адзначаюцца ў межах пашырэння заходняй або асобнымі ізаляванымі невялікімі арэаламі, або досыць глыбока ўкліньваюцца ў некаторых месцах у напрамку з усходу на захад. Узаемазаходжанне ж заходніх і ўсходніх назваў каля ізаглосы нязначнае.

Усходнімі назвамі з'яўляюцца зараз словы *зако́т* (*зако́та*) і *франто́н,* якія пашыраны больш-менш раўнамерна на ўсёй тэрыторыі ўсходняй часткі Беларусі. Некалькімі астраўкамі выступае на ўсходзе слова *лоб (лабяк, зало́бак, нало́бнік* і інш.), якое таксама, улічваючы яго агульнапашыранасць (хоць і астраўную) на ўсходзе, можна лічыць усходняй назвай. Пашыраны на ўсходзе таксама нязначнымі астраўкамі назвы *фацыят* (вакол Мазыра), *запе́р* (каля Бабруйска) і *зашалява́нне* (каля Глуска).

На заходняй тэрыторыі агульнапашырана назва *шчыт* (*зашчы́т, зашчы́та, зашчы́так*). На поўначы ад Мінска невялікім астраўком (каля Радашковіч) паралельна са словамі *шчыт* і *зашчы́так* адзначаецца *застрэ́шак.* Назва *застрэ́шак*

(*застрэ́шына, прыстрэ́шак*) выступае таксама астраўком каля г. Свір (на граніцы з Літоўскай ССР). Акрамя гэтага, на заходняй тэрыторыі назіраюцца адзначаныя на ўсходзе назвы *зако́т, лоб* (*зало́бак, лабя́к*) і *фацыя́т.*

Такім чынам, мерыдыянальную ізаглосу і гэтага лексічнага адрознення ўтварае фактычна ўсходняя мяжа арэала заходняй назвы *шчыт.* Супрацьпастаўляецца ёй у нейкай меры тэрытарыяльна толькі пашыраная на ўсходзе назва *франто́н.* Аднак яна ў пашырэнні ў напрамку на захад у некаторых месцах нават не дасягае арэала назвы *шчыт* (у прыватнасці, на поўдні). Пазадыялектны, іншамоўны характар слова *франто́н* зусім відавочны. Паходжанне яго самога і ўтварэнне заходняй мяжы яго пашырэння такое ж, як і лексічных асаблівасцей дыялектнай мовы ўсходу Беларусі, якія звязаны з мерыдыянальнымі ізаглосамі з поўным усходнім сумяшчэннем. Слова *франто́н* пашырылася тут праз рускую мову.

Назву *шчыт* на заходняй тэрыторыі Беларусі і сучасную мяжу яе пашырэння ў напрамку на ўсход, калі прыняць пад увагу падабенства яе тэрытарыяльных адносін з усходняй назвай *зако́т* (і часткова *лоб*) да адносін паміж заходнімі і ўсходнімі варыянтамі папярэдніх адрозненняў з мерыдыянальнымі ізаглосамі з усходнім сумяшчэннем, можна разглядаць таксама як параўнальна больш позняе абазначэнне. Не зусім зразумела толькі тое, што амаль на ўсёй заходняй тэрыторыі слова *шчыт* з'яўляецца адзіным абазначэннем. Паасобныя астраўкі іншых назваў у яго арэале амаль усе пазнейшыя па ўтварэнню.

Выключэнне складае слова *зако́т.* Яно заходзіць з усходу шырокім клінам на поўдні ад Мінска да граніцы з Літоўскай ССР. *Зако́т* на гэтай тэрыторыі ўжываецца паралельна са *шчыт.* Адносная храналогія іх тут зусім відавочная. Храналагічныя адносіны іх вынікаюць з таго, што слова *шчыт* у заходняй паласе пашырэння слова *зако́т* выступае ў выглядзе словаўтваральнага варыянта *зашчы́т* (*зашчы́так*). Яго словаўтваральную форму нельга разглядаць інакш, як вынік упадабнення да слова *зако́т.* З гэтага ж у сваю чаргу вынікае, што *зако́т* папярэднічала тут храналагічна слову *шчыт,* а не наадварот.

Такім чынам, на адзначанай частцы свайго арэала слова *шчыт,* бясспрэчна,—больш позняе напластаванне на частку арэала слова *зако́т.* Такое ж упадабненне, між іншым, назіраецца і непасрэдна каля мерыдыянальнай ізаглосы пры паралельным ужыванні слоў *шчыт* і *зако́т.* Відавочна, што першапачаткова слова *шчыт* займала толькі невялікую тэрыторыю на самым захадзе Беларусі і, магчыма, яно выступала астраўком на паўночным захадзе, на беларуска-літоўскім пагранічча.

Цікава, што ў абодвух выпадках заўважаецца сувязь папярэдніх раёнаў пашырэння слова *шчыт* са старымі культурна-эканамічнымі цэнтрамі заходняй часткі Беларусі: на захадзе — з Навагрудкам і Гродна, на паўночным захадзе — з Вільнюсам. Таму магчыма, што назва *шчыт* разам з тым канструктыўным тыпам пераду страхі, які яна абазначае, пашырылася першапачаткова з гэтых гарадскіх цэнтраў, выцесніўшы паступова ранейшыя назвы (параўн. арэалы слова *фацыят,* якія вельмі яскрава сведчаць аб распаўсюджанні яго з Пінска і Мазыра). Такой папярэдняй назвай было слова *закóт* і, відаць, *лоб.* Цікава, што слова *лоб* (або словаўтваральныя варыянты яго) як назва сустракаецца і зараз зрэдку на заходняй тэрыторыі (на паўднёвым захадзе нават астраўкамі). У некаторых выпадках рэлікты назвы *лоб* знаходзім у абазначэнні дэталей пераду страхі. Так, невялікі казырок («стрэшка») над шчытом у многіх месцах на захадзе Беларусі называецца *лабóк* (ДАБМ, Каментарыі, стар. 779).

Ізаглосамі мерыдыянальнага характару з частковым заходнім сумяшчэннем размяжоўваецца адрозненне ў вымаўленні **ч** у спалучэнні [чн]. Сумяшчэнне, г. зн. паралельнае вымаўленне, на захадзе [чн] і [шн] назіраецца, аднак, не ва ўсіх групах адпаведных слоў. Пры гэтым у розных групах слоў сумяшчэнне адрозніваецца па тэрыторыі і характару. Можна лічыць, відаць, што гэта фанетычнае адрозненне з'яўляецца зараз лексікалізаваным.

Лінгвагеаграфічны матэрыял аб вымаўленні **ч** у спалучэнні [чн] ёсць зараз толькі па словах *смáчна, канéчна, ручнíк, пшанíчны, малóчны, я́чны, сóнечны, вéчны* і *мучны́.* Па тэрыторыі сумяшчэння варыянтаў і праходжанню ізаглос яны падзяляюцца на тры групы.

Найбольш шырокае тэрытарыяльна вымаўленне [шн] паралельна з [чн] у мясцовай мове на захадзе адзначаецца ў словах *смáчна, канéчна* і *ручнíк.* Пры гэтым і межы ўсходняга паслядоўнага вымаўлення [шн] прыкметна змешчаны на захад ад іншых мерыдыянальных ізаглос.

У словах *пшанíчны, малóчны, я́чны* і *сóнечны* варыянты з [чн] і [шн] на захадзе ад ізаглос сумяшчаюцца тэрытарыяльна на нязначнай тэрыторыі. Самі ж ізаглосы ў адрозненне ад папярэдніх адхіляюцца па праходжанню некалькі на ўсход ад іншых мерыдыянальных ізаглос. У паўночнай і сярэдняй частцы яны набліжаюцца да ўсходняга пучка ізаглос паўднёва-заходняга напрамку. Толькі на поўдні гэтыя ізаглосы набліжаюцца да мерыдыянальных.

Апошняя група прадстаўлена словамі *вéчны* і *мучны́.* Характарызуюцца яны мерыдыянальнымі ізаглосамі з поўным усходнім сумяшчэннем. На захад ад гэтых ізаглос адзначаюцца толькі варыянты *вéчны* і *мучны́* з [чн], а на ўсходзе — ва-

рыянты з [чн] і [шн]. Ізаглосы гэтых адрозненняў яшчэ больш блізкія да ўсходняга пучка (па праходжанню).

Калі прыняць пад увагу тое, што гістарычна спалучэнне [шн] з'яўляецца змяненнем спалучэння [чн], то з агляду асаблівасцей размежавання варыянтаў у розных групах адпаведных слоў робіцца відавочным працэс развіцця разглядаемых адрозненняў у цэлым і складванне іх ізаглос. Ізаглосы гэтых адрозненняў звязаны не з пашырэннем заходніх асаблівасцей на ўсход, як ізаглосы іншых адрозненняў з заходнім сумяшчэннем, а наадварот — з паступовым распаўсюджаннем у лексічным парадку ўсходняга тыпу вымаўлення. Па паходжанню гэта вымаўленне з'яўляецца дыялектнай асаблівасцю ўсходняй групы беларускіх гаворак (гэта тэрыторыя найбольш паслядоўнага вымаўлення [чн] ва ўсіх словах, інакш, лексічна не абмежаванага, фанетычнага).

Вылучаецца сярод усіх лексічных з'яў з мерыдыянальнымі ізаглосамі адрозненняў тэрытарыяльная супрацьпастаўленасць слова *ляда* ў адносінах сваіх значэнняў. Цікавым з гэтага боку з'яўляецца, у прыватнасці, ужыванне яго са значэннем высечанага ўчастка лесу пад поле ці пашу.

У сувязі з тым што лінгвагеаграфічна даследавалася толькі семантыка слова *ляда* ў сучаснай мове на тэрыторыі Беларусі, зараз ёсць дастатковыя звесткі аб тэрыторыі ўжывання слова *ляда* са значэннем высечанага ўчастка лесу. Гэта значэнне мае слова *ляда* на ўсходзе Беларусі, і мяжа пашырэння яго ў такім значэнні з'яўляецца вельмі выразнай мерыдыянальнай ізаглосай.

Пры адсутнасці матэрыялаў аб адпаведным паняцці і яго абазначэнні на захадзе ад мяжы пашырэння слова *ляда* ізаглосу гэту тлумачыць цяжка. Бо зусім розныя меркаванні магчымы, з аднаго боку, у тым выпадку, калі на захадзе існуе адпаведнае паняцце, але абазначаецца іншым словам і, з другога боку, калі на захадзе адсутнічае такое паняцце, а тым самым і абазначэнне. У апошнім выпадку фарміраванне адпаведнай мерыдыянальнай ізаглосы можа быць вынікам міждыялектнага лексічнага ўзаемадзеяння, якім было абумоўлена складванне іншых мерыдыянальных ізаглос. Калі ж на захадзе ад ізаглосы існуе такое паняцце, але абазначаецца інакш, складванне ізаглосы тлумачыць так будзе немагчыма.

Такім чынам, у мерыдыянальную групу аб'ядноўваюцца досыць разнастайныя па ўтварэнню і паходжанню ізаглосы. Таму ізаглосная мяжа, якую яны ўтвараюць на тэрыторыі Беларусі, патрабуе яшчэ дадатковага вывучэння. Неабходна далейшае лінгвагеаграфічнае даследаванне беларускай дыялектнай мовы, асабліва ў галіне лексікі, у выніку якога будзе выяўлена, безумоўна, шмат іншых мерыдыянальных ізаглос. Патрэбна таксама дэталёвае высвятленне праходжання

розных мерыдыянальных ізаглос і тэрытарыяльнага размяшчэння тых адрозненняў, якія яны размяжоўваюць, за межамі Беларусі. Гэта дасць магчымасць больш дакладна ўстанавіць як гістарычную прыроду мерыдыянальнай ізаглоснай мяжы ў дыялектнай мове на тэрыторыі Беларусі, так і час, а таксама храналагічную паслядоўнасць яе складвання.

Разгляд вядомых зараз мерыдыянальных ізаглос і спроба ўстанаўлення паходжання кожнай з іх схіляе ў пераважнай большасці выпадкаў да меркавання, што гэта група ізаглос з'яўляецца гістарычнай мяжой адносна позніх адасобленых кантактаў і ўзаемадзеяння беларускай дыялектнай мовы на ўсходняй і заходняй частках тэрыторыі Беларусі, вынікам ізаляваных моўных працэсаў на ўсходзе і захадзе рэспублікі, звязаных з дыялектнай інтэграцыяй і ўзаемаадносінамі з суседнімі мовамі. Складвалася гэта ізаглосная мяжа, якую па яе прыродзе можна назваць кантактнай, у дыялектнай мове на тэрыторыі Беларусі двума шляхамі.

Найбольшая колькасць ізаглос абавязана сваім утварэннем моўным працэсам, якія адбываліся ў дыялектнай мове на ўсходняй тэрыторыі Беларусі. Ізаглосы з інавацыямі ўсходняй тэрытарыяльнай аднесенасці (з усходнім сумяшчэннем), асабліва ізаглосы лексічных з'яў, утварыліся пераважна ў выніку пашырэння элементаў іншамоўнага паходжання, у прыватнасці русізмаў. Гэтыя элементы больш-менш раўнамерна напластаваліся на структуру мясцовай дыялектнай мовы, ужываючыся паралельна з яе эквівалентамі (з некаторым размежаваннем у сферы зносін) або спарадычна. Мясцовыя моўныя структурныя элементы, якія падвергліся адпаведнаму ўплыву, з'яўляюцца, як правіла, агульнабеларускімі. Дыялектна супрацьпастаўляюцца толькі асобныя з іх. Трэба адзначыць таксама, што ў сістэмную семантычную сувязь, а тым больш у фармальна-граматычную з мясцовымі эквівалентамі адпаведныя запазычанні не ўступаюць, г. зн. сапраўднай інтэрферэнцыі паміж імі не назіраецца. Прычынай гэтага можа быць адносна позні характар запазычанняў і частковае захаванне імі яшчэ сваёй недыялектнай моўнай аднесенасці. На гэта ўказвае таксама і досыць раўнамерная ўжывальнасць іх на ўсёй тэрыторыі, што магло скласціся толькі ў выніку непасрэднага і прамога кантакту мясцовых гаворак з рускай мовай, а не ў выніку паступовага франтальнага тэрытарыяльнага пашырэння з усходу на захад адпаведных элементаў ці з культурных гарадскіх цэнтраў.

Некаторыя ізаглосы з усходнім сумяшчэннем склаліся таксама ў працэсе міждыялектнага ўзаемадзеяння, у прыватнасці ў выніку пашырэння асаблівасцей паўночна-ўсходняга беларускага дыялекту (з яго ўсходняй зоны найбольшай структурнай паслядоўнасці) на частку паўднёва-заходніх гаворак

(паўднёва-ўсходнюю). Тут у некаторых выпадках заўважаецца як бы паступовасць тэрытарыяльнага пранікнення ўсходніх дыялектных асаблівасцей на захад і словаўтваральная інтэрферэнцыя паміж мясцовымі словамі і запазычаннямі.

Складванне мерыдыянальных ізаглос з усходнім сумяшчэннем у выніку пашырэння дыялектных усходніх асаблівасцей папярэднічала, відаць, утварэнню ізаглос запазычанняў з рускай мовы. У сваім пашырэнні на захад усходнія дыялектныя асаблівасці ўтвараюць больш выразныя межы, чым запазычанні з рускай мовы. Да таго яшчэ ўплыў гаворак адна на адну пры падпадзенні іх пад уплыў якой-небудзь мовы малаверагодны. Аднак магчыма, што ізаглосы, якія скlаліся ў выніку пашырэння ўсходніх дыялектных асаблівасцей у напрамку на захад, адыгралі пэўную ролю ў вызначэнні межаў найбольш інтэнсіўнага пашырэння ў мясцовай мове Беларусі русізмаў.

Некаторыя мерыдыянальныя ізаглосы ўтварыліся, відаць, і ў выніку моўных працэсаў на заходняй тэрыторыі Беларусі. У прыватнасці, паасобныя словы пашырыліся на захадзе пад уплывам мовы дзяржаўных і культурна-гістарычных цэнтраў Беларусі ў мінулым.

Вызначыць час, калі адбываліся адзначаныя працэсы і канкрэтныя моўныя тэрытарыяльныя змяненні, на падставе лінгвагеаграфічных даных амаль што немагчыма. Ды і гэта па сутнасці не ўваходзіць у круг задач гістарычнай лінгвагеаграфіі. Яе справа — раскрыць ход моўных працэсаў, іх напрамак або характар і ўтварэнне межаў. Ускрыццё ж прычын тэрытарыяльнай абмежаванасці і храналагічных рамак падобных працэсаў, асабліва калі гутарка ідзе аб моўных з'явах кантактнага паходжання,—справа гістарычнай навукі, якая абагульняе факты ўсёй гісторыі народа, а не толькі яго моўнага развіцця.

Дыялектны падзел мовы знаходзіцца ў бесперапыннай перабудове ў выніку розных працэсаў дыферэнцыяцыі і інтэграцыі ў ёй. Перабудова гэта адбываецца, безумоўна, паступова. Таму падзел ізаглосных межаў на дыялектныя і кантактныя ў пэўным сэнсе ўмоўны і адносны. Розніца паміж кантактнымі і дыялектнымі межамі па сутнасці ў глыбіні і ступені дыферэнцыяцыі дыялектнай мовы па адпаведнай мяжы. Гэта — зве пераходзячыя адна ў адну ступені дыферэнцыяцыі. Кантактная ізаглосная мяжа — пачатак дыферэнцыяцыі, першы эап фарміравання па абодва бакі ад яе адасобленых дыялектных адзінак. Дыялектная мяжа — завяршэнне дыферэнцыяцыі, утварэнне дыялектаў як асобных структурных адзінак.

Такім пачаткам моўнай дыферэнцыяцыі з'яўляецца фактычна і мерыдыянальная ізаглосная мяжа на тэрыторыі

Беларусі. Але гэтаму пачатку ў сувязі з моцнымі інтэграцыйнымі працэсамі, якія ахапілі зараз беларускую дыялектную мову на ўсёй тэрыторыі Беларусі, не суджана ўжо стаць больш глыбокім і значным і прыйсці да свайго лагічнага завяршэння.

Мерыдыянальная дыялектная мяжа выступае тэрытарыяльна як адносна шырокая паласа праходжання адпаведных ізаглос. Ізаглосы ў гэтай паласе ў многіх выпадках не пераплятаюцца і не супадаюць адна з адной. Але было б дзіўна, калі б мяжа гэта была вузкай, утваралася ў выніку поўнага супадзення канкрэтных ізаглос па праходжанню. Бо ніякія гістарычныя бар'еры, раз'яднальныя межы пры захаванні непасрэднага тэрытарыяльнага судакранання зусім роднаснага насельніцтва не маглі поўнасцю выключыць яго кантакт і ўзаемадзеянне. Таму натуральна, што ў адных выпадках гэта магло садзейнічаць пранікненню некаторых асаблівасцей за межы падобнага бар'еру або, наадварот, перашкаджаць замацаванню іх у непасрэднай блізкасці каля яго.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

**У** гэтым даследаванні, прысвечаным аналізу лінгвагеаграфічных матэрыялаў на тэрыторыі Беларусі, асноўная ўвага звернута на некалькі досыць складаных пытанняў беларускай дыялекталогіі. Яны ў асноўным датычацца характару беларускай дыялектнай мовы і яе генезісу. Распрацоўка паасобных пытанняў ужо мае сваю гісторыю ў беларускім мовазнаўстве. Некаторыя з іх закранаюцца ўпершыню. Разглядаюцца яны ў пэўнай паслядоўнасці ў залежнасці ад іх падпарадкавальнай сувязі паміж сабой. Такі комплексны падыход стаў магчымым на аснове даных «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы».

Высвятленне характару дыялектнай мовы на абшары Беларусі (інакш яе сучаснага выгляду), а таксама асноўных шляхоў яе складвання звязана ў першую чаргу з устанаўленнем рэальнай карціны праходжання ізаглос тых тэрытарыяльных адрозненняў, якія назіраюцца зараз у яе структуры. Гэта агульная карціна перапляцення і перасячэння ізаглос на тэрыторыі Беларусі, атрыманая ўпершыню, мае досыць складаную структуру. Яна ў многім не адпавядае таму ўяўленню аб тэрытарыяльных асаблівасцях беларускай мовы, на якое абапіралася беларуская дыялекталогія да апошняга часу. Аднак прынцыповых поглядаў на дыялектную мову яна ўсё ж не парушае. Выявілася, што адносіны паміж ізаглосамі па праходжанню досыць складаныя. Але, як меркавалася і раней, відавочнай аказалася іх узаемасувязь, падабенства і супадзенне па праходжанню. Яны ўтвараюць пераважна розныя па колькасці аб'яднанні, або пучкі. Такія пучкі выступаюць у якасці межаў складаных і шматбаковых дыялектных супрацьпастаўленняў неаднолькавага структурнага і гістарычнага значэння.

Вынікі аналізу тэрытарыяльнай узаемасувязі ізаглос і першай спробы іх тыпалогіі падаюцца і абгрунтоўваюцца ў даследаванні. Устанаўліваюцца пучкі ізаглос на тэрыторыі Беларусі, высвятляецца склад кожнага з іх паасобку, раскрываецца змест тэрытарыяльных адрозненняў па кожнай ізаглосе. Даследаванне гэтага пытання не толькі пашырыла і ўдакладніла ранейшыя ўяўленні аб межах тэрытарыяльных

дыялектных адзінак розных рангаў у беларускай дыялектнай мове. У выніку яго выявілася многа цікавых і невядомых да гэтага досыць значных пучкоў ізаглос.

На аснове тыпалагічнай класіфікацыі ізаглос разгледжана было пытанне аб гаворках, групах гаворак і дыялектах у Беларусі, а таксама зусім новае пытанне аб зонах беларускай дыялектнай мовы. А гэта ў сваю чаргу выклікала і абумовіла неабходнасць закрануць пытанні генезісу і гісторыі важнейшых дыялектных адзінак беларускай мовы, а таксама некаторых зон і пучкоў ізаглос.

Было б заўчасна рабіць зараз абагульненні назіранняў і вывадаў праведзенай даследчай работы над наяўнымі лінгвагеаграфічнымі матэрыяламі па Беларусі. Яны не з'яўляюцца яшчэ, безумоўна, бясспрэчнымі і падаюцца пераважна як найбольш верагодныя меркаванні з пункту погляду ўлічаных і прааналізаваных фактаў. Нельга з упэўненасцю сцвярджаць перш за ўсё аб дакладнасці і бездакорнасці тыпалогіі ізаглос. У паасобных выпадках магчымы іншыя погляды і на вылучэнне тых ці іншых пучкоў у якасці асобных аб'яднанняў ізаглос і на ўваходжанне канкрэтных ізаглос у пучкі. Тым больш не з'яўляецца канчатковай як колькасць ізаглос, так і колькасць пучкоў ізаглос. Многія адрозненні ў беларускай дыялектнай мове, асабліва лексічныя, лінгвагеаграфічна яшчэ не вывучаны. Амаль не закранута пытанне аб сінхроннай іерархіі пучкоў ізаглос.

Адсюль зразумела, што ўсе іншыя разгледжаныя ў даследаванні пытанні, абмеркаванне якіх грунтуецца на тыпалогіі ізаглос, застаюцца яшчэ ў многім дыскусійнымі. Што ж датычыцца пытанняў генезісу і гісторыі розных з'яў беларускай дыялектнай мовы, то ўвага звернута толькі на некаторыя з іх. Ды і яны былі закрануты часткова, у той меры, у якой было магчыма зараз гэта зрабіць. Грунтоўная распрацоўка падобных пытанняў стане рэальнай пры наяўнасці дастатковых лінгвагеаграфічных матэрыялаў па тэрыторыі ўсіх усходнеславянскіх моў (у прыватнасці, атласаў рускай і ўкраінскай моў) і Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа.

Агульнавядома, што лінгвагеаграфічныя матэрыялы раскрываюць перад даследчыкамі выгляд мовы з тэрытарыяльнага боку: тэрытарыяльнае размяшчэнне дыялектных адзінак і структурных элементаў яе сістэмы і іх узаемаадносіны. У гэтым аспекце лінгвагеаграфія з'яўляецца апісальнай галіной навукі аб мове. Дзякуючы лінгвагеаграфіі моўныя аб'екты выступаюць перад даследчыкамі ва ўсіх сваіх асаблівасцях. Для навуковага разумення і гістарычнага тлумачэння іх гэта, безумоўна, вельмі важна. Але даныя лінгвагеаграфіі — не толькі аб'ект навуковых доследаў і гістарычнай інтэрпрэтацыі. У геаграфічных, тэрытарыяльных асаблівасцях мовы

рэалізуюцца і адлюстроўваюцца як агульныя заканамернасці развіцця яе структуры, так і гісторыя паасобных моўных з’яў і тэрытарыяльных адзінак сістэмы адпаведнай мовы. Тэрытарыяльнае размяшчэнне, пашырэнне і ўзаемаадносіны моўных адзінак і з’яў — гэта своеасаблівы шыфр, за якім крыюцца розныя працэсы ў мове і іх узаемасувязі, своеасаблівая трансфармацыя і рэалізацыя іх. Таму даныя лінгвагеаграфіі з’яўляюцца не толькі аб’ектам тлумачэння, але і крыніцай звестак і заключэнняў аб паходжанні, развіцці і гісторыі моўных адзінак і з’яў. Значэнне і вялікая каштоўнасць лінгвагеаграфічных даных з гэтага боку пастаянна падкрэсліваецца пры іх ацэнцы і ні ў каго не выклікае сумнення. Але не знойдзена яшчэ надзейных шляхоў падыходу да такой інтэрпрэтацыі і спосабаў раскрыцця і ацэнкі значэння розных тэрытарыяльных асаблівасцей моўных з’яў і адзінак. Толькі ў апошні час у агульным рэчышчы пошукаў новых метадаў даследавання моўных фактаў пачалі выпрабоўвацца некаторыя новыя спосабы раскрыцця лінгвагеаграфічных даных.

Гэты аспект лінгвагеаграфічных матэрыялаў аб гаворках Беларусі меўся таксама на ўвазе пры вырашэнні пытанняў, якім прысвечана даследаванне. Але методыка гістарычнай інтэрпрэтацыі лінгвагеаграфічных асаблівасцей беларускіх дыялектных з’яў спецыяльна ў даследаванні не разглядаецца. Стварэнне тэорыі «дэшыфроўкі» тэрытарыяльнага боку дыялектных з’яў, распрацоўка прыёмаў падобнага гістарычнага тлумачэння адзначаных асаблівасцей дыялектнай мовы — гэта складаная і актуальная задача дыялекталогіі ўсходнеславянскіх моў.

# ЛІТАРАТУРА

1. Аванесов Р. И. Вопросы образования русского языка в его говорах. Вестник Московского университета, 1947, № 9.

2. Аванесов Р. И. Вопросы фонетической системы русских говоров и литературного языка. Известия АН СССР, ОЛЯ, VI, вып. 3, 1947.

3. Аванесов Р. И. Лингвистическая география и история русского языка. ВЯ, 1952, № 6.

4. Аванесов Р. И. Описательная диалектология и история языка. Славянское языкознание. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963.

5. Аванесов Р. И. Очерки русской диалектологии, ч. I. М., 1949.

6. Арашонкава А. У. Аб так званых паланізмах у беларускай мове (суфіксы *-дл-* і *-ск-*). «Весці АН БССР», серыя грамад. навук, 1963, № 2.

7. Баймут Т. В. и др. Порівнальна граматика української і російської мов. Київ, 1957.

8. Бах А. Немецкая диалектология. Сб. Немецкая диалектография. М., 1955.

9. Бекіш В. З лексікі вёсак Абідавічы і Журавічы. Матэрыялы для слоўніка. Мінск, 1960.

10. Белорусско-русский словарь. М., 1962.

11. Белявский В. Народный говор уездного гор. Глухова (Черниговской губернии). РФВ, т. 50, 1903, № 3—4.

12. Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мінск, 1966.

13. Бірыла М. В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў. Даклады. V Міжнародны з'езд славістаў. Мінск, 1963.

14. Бірыла М. В. Вынікі пераходу е (<е, ь) у о і з'явы, звязаныя з ім, у беларускай мове. Prace filologiczne, t. XVIII, cz. 2. Warszawa, 1964.

15. Бірыла М. В. Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Бабруйскай вобласці (Канд. дыс.). Мінск, 1953.

16. Блінава Э. Д. і Жакава З. І. Пытанні беларускай дыялекталогіі. Мінск, 1962.

17. Блінава Э. Д. Парны лік назоўнікаў у гісторыі беларускай мовы (Канд. дыс.). Мінск, 1963.

18. Блинова Э. Д. Двойственное число в истории белорусского языка (Автореферат канд. дисс.). Минск, 1963.

19. Бломквист Е. Э. Крестьянские постройки восточных славян. Восточнославянский этнографический сборник. М., 1956.

20. Бородина М. А. Проблемы лингвистической географии. М.—Л., 1966.

21. Будде Е. Ф. О говорах Тульской и Орловской губерний. Материалы, исследования и словарь. Сб. ОРЯС, т. 76, 1904, № 3.

22. Бузук П. Да пытання аб лёсе перадгістарычнага (праславянскага) ę. Запіскі аддзялення гуманітарных навук. Працы класа філалогіі, т. II, кн. 9. Мінск, 1929.

23. Бузук П. Да характарыстыкі паўночнабеларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Веліжскага паветаў. Мінск, 1926.

24. Бузук П. Да характарыстыкі цэнтральнабеларускіх дыялектаў. Гутаркі Асіповіцкага раёна. Запіскі аддзялення гуманітарных навук. Працы класа філалогіі, т. II, кн. 9. Мінск, 1929.
25. Бузук П. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Мінск, 1928.
26. Булахаў М. Г. Прыметнік у беларускай мове. Мінск, 1964.
27. Булычев П. О говорах русских поселенцев Лифляндской губ. РФВ, т. 64, 1910, № 3—4.
28. Вайтовіч Н. Т. Аб рэалізацыі ненаціскнога гука *ы* ў беларускіх гаворках. Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, вып. VII. Мінск, 1960.
29. Вайтовіч Н. Т. Аб своеасаблівай гармоніі галосных у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках. «Весці АН БССР», серыя грамад. навук, 1965, № 5.
30. Вайтовіч Н. Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі (Докт. дыс.). Мінск, 1966.
31. Войтович Н. Т. Безударный вокализм народных говоров Белоруссии (Автореферат докт. дисс.). Минск, 1966.
32. Ващенко В. С. Полтавські говори. Харків, 1957.
33. Вопросы теории лингвистической географии. М., 1962.
34. Гайдукевіч І. М. Аб мясцовых назвах лемяша і паліцы. Беларуская мова. Мінск, 1965.
35. Георгиев В. И. Русское аканье и праславянская система фонем. ВЯ, 1963, № 2.
36. Граматыка беларускай мовы, т. I. Мінск, 1962.
37. Гринавецкис В. Новое в литовской диалектологии. Acta-Baltica-slavica, ч. II. Białystok, 1965.
38. Гринблат М. Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов. Вопросы этнографической истории народов Прибалтики. М., 1959.
39. Гринченко Б. Д. Словарь украинского языка, т. I—IV. Киев, 1907—1909.
40. Груцо А. П. Аб некаторых сельскагаспадарчых назвах у беларускіх народных гаворках. «Весці АН БССР», серыя грамад. навук, 1961, № 4.
41. Груцо А. П. Аб некаторых прадметна-бытавых назвах у беларускіх народных гаворках. Беларуская мова. Мінск, 1965.
42. Гурскі М. І. Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў. Мінск, 1962.
43. Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка, т. I—IV. М., 1955.
44. Дурново Н. Очерк истории русского языка. М., 1924.
45. Дурнаво М. Увагі да беларускай фанетыкі. 1. Да пытання аб беларускім аканні. Запіскі аддзялення гуманітарных навук. Працы класа філалогіі, т. II, кн. 9, 1929.
46. Дурново Н. Н., Соколов Н. Н. и Ушаков Д. Н. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе. М., 1915.
47. Жидович М. А. Именное склонение в белорусском языке (Автореферат докт. дисс.). Минск, 1958.
48. Жилко Ф. Т. Нариси з діалектології української мови. Київ, 1955.
49. Жилко Ф. Т. Нариси з діалектології української мови. Київ, 1966.
50. Житецкий П. Очерк звуковой истории малорусского наречия. Киев, 1876.
51. Жураўскі А. І. Гісторыя загаднага ладу ў беларускай мове. Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, вып. IV. Мінск, 1957.
52. Захарова К. Ф. Архаические типы диссимилятивного яканья в говорах Белгородской и Воронежской областей. Материалы и исследования по русской диалектологии, т. 1. М., 1959.
53. Зорин Н. Вопрос об этнографическом составе населения Невельского уезда в связи с диалектическими особенностями местного говора

с данными истории местного края и экономическими центрами его тяготения. Сб. Псковского краеведческого общества, вып. III, 1927.

54. Иванов В. В. Историческая грамматика русского языка. М., 1964.

55. Исаенко В. Ф. Мезолит и неолит Припятского Полесья. Древности Белоруссии. Материалы конференции по археологии Белоруссии и смежных территорий. Минск, 1966.

56. Історична граматика української мови. Київ, 1962.

57. История Белорусской ССР, т. 1. Мінск, 1961.

58. История Украинской ССР, т. 1. Киев, 1956.

59. Кардашевский С. М. О лексике курско-орловских говоров, общей с украинской и белорусской. Ученые записки Московского обл. пед. ин-та, т. 78, вып. IV. М., 1957.

60. Каринский Н. Язык Пскова и его области в XV в. Зап. ист.-филол. фак-та С.-Петербургского ун-та, ч. 93, СПб, 1909.

61. Карский Е. Ф. Белорусские песни деревни Новоселок-Затрокских Виленской губ. Трокского уезда. РФВ, т. 21, 1889, № 1—2.

62. Карский Е. Ф. Белорусское *óў* на месте *áл-áв*. РФВ, т. 34, 1895, № 3—4.

63. Карский Е. Ф. Белорусы, т. 1. Вильна, 1904.

64. Карский Е. Ф. Белорусы, вып. 1. М., 1955.

65. Карский Е. Ф. Белорусы, вып. 2—3. М., 1956.

66. Карский Е. Ф. Культурные завоевания русского языка в старину на западной окраине его области. Изв. ОРЯС, (1924), т. 29, 1925.

67. Карский Е. Ф. Русская диалектология. Л., 1924.

68. Колесов В. В. Особенности фонологической модели, развивающей аканье. ВЯ, 1964, № 4.

69. Котков С. И. Говоры Орловской области со стороны их вокализма. Уч. зап. Орловского гос. пед. ин-та, т. 5. Кафедра рус. яз., вып. 2. Орел, 1951.

70. Кочубинский А. А. Территория доисторической Литвы. ЖМНП, ч. 309, январь 1897.

71. Крывіцкі А. А. Формы асабовых і зваротнага займеннікаў сучаснай беларускай мовы ў іх гісторыі (Канд. дыс.). Мінск, 1958.

72. Кузнецов П. С. Очерки исторической морфологии русского языка. М., 1959.

73. Кузнецов П. С. Русская диалектология. М., 1954.

74. Лингвистический атлас района оз. Селигер. М.—Л., 1949.

75. Лисенко П. С. Деякі особливості говірок Олишівського району Чернігівської обл. Діалект. бюлетень, вип. IV. Київ, 1953.

76. Лыткин В. И. Еще к вопросу о происхождении русского аканья. ВЯ, 1965, № 4.

77. Марков А. В. Данные по говору Стародубского уезда Черниговской губернии. Изв. ОРЯС, т. 15, кн. 1, 1910.

78. Марузо Ж. Словарь лингвистических терминов. М., 1960.

79. Мацкевіч Ю. Ф. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. Мінск, 1959.

80. Меновщиков Г. А. К вопросу о проницаемости грамматического строя языка. ВЯ, 1964, № 5.

81. Митрофанов А. Г. К истории населения средней Белоруссии в эпоху раннего железа (Автореферат канд. дисс.). Л., 1955.

82. Моора Х. А. О древней территории расселения балтийских племен. «Советская археология», 1958, № 2.

83. Мурашка А. Р. Дыялектныя назвы свойскай жывёлы. Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, вып. VII. Мінск, 1960.

84. Мурашка А. Р. Формы меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду ў беларускіх гаворках. Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, вып. III. Мінск, 1957.

85. Мурашка А. Р. Формы прыметнікаў у беларускай мове (Канд. дыс.). Мінск, 1958.

86. Мурашко А. Р. і Орешонкова Г. В. До питання про класифікацію білоруських говорів. Праці XI республік. діалект. наради. Київ, 1965.

87. Назарова Т. В. Украинско-белорусская языковая граница в районе нижней Припяти. Вопросы диалектологии восточнославянских языков. М., 1964.

88. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мінск, 1963.

89. Нарысы па гісторыі беларускай мовы. Мінск, 1957.

90. Насонов А. Н. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства. М., 1951.

91. Немченко В. Н. Наблюдения над синтаксисом говора русского населения Йонавского района Литовской ССР. Kalbotyra, II, 1961.

92. Немченко В. Н. Фонетические и морфологические особенности говора населения Йонавского района Литовской ССР. Уч. зап. Вильнюсского ун-та им. В. Капсукаса. «Языкознание», т. 1, 1958.

93. Немченко В. Н., Синица А. И., Мурникова Т. Ф. Материалы для словаря русских старожильческих говоров Прибалтики. Рига, 1963.

94. Непокупный А. П. Ареальные аспекты балто-славянских языковых отношений. Киев, 1964.

95. Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

96. Обнорский С. П. Именное склонение в современном русском языке, вып. II. Л., 1931.

97. Обнорский С. П. Очерки по морфологии русского глагола. М., 1953.

98. Орешонкова А. В. Личные формы глагола настоящего времени в белорусской письменности XVI века (Автореферат канд. дисс.). Минск, 1958.

99. Орлова В. Г. История аффрикат в русском языке в связи с образованием русских народных говоров. М., 1959.

100. Орлова В. Г. Русско-белорусские языковые отношения. Материалы и исследования по русской диалектологии, вып. II. М., 1961.

101. Отрембский Я. С. Славяно-балтийское языковое единство. ВЯ, 1954, № 6.

102. Паршута Ю. М. Употребление деепричастия на -szy, -wszy в роли сказуемого в польском говоре Вилянского района Латвийской ССР. Kalbotyra, VIII, 1963.

103. Повесть временных лет, ч. 1. М.—Л., 1950.

104. Полевой А. О языке населения Новозыбковского уезда Гомельской губернии. Минск, 1926.

105. Попов А. И. Некоторые вопросы и задачи исследования лексики русских говоров. Лексика русских народных говоров. М.—Л., 1966.

106. Потебня А. А. Заметки о малорусском наречии. Филологические записки, вып. 1, 1870.

107. Потебня А. А. Два исследования о звуках русского языка. I. О полногласии. II. О звуковых особенностях русских наречий. Воронеж, 1866.

108. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мінск, 1959.

109. Преображенский А. Г. Этимологический словарь русского языка. М., 1958.

110. Ралавец М. З лексікі вёскі Пустаселле. Матэрыялы для слоўніка. Мінск, 1960.

111. Рамановіч Я. М. Гаворкі Уздзенскага раёна Мінскай вобласці (Канд. дыс.). Мінск, 1953.

112. Рамановіч Я. М. і Чабярук А. І. Некаторыя акцэнталагічныя адрозненні ў сучасных беларускіх гаворках. «Весці АН БССР», серыя грамад. навук, 1966, № 3.

113. Расторгуев П. А. Говоры на территории Смоленщины. М., 1960.

114. Расторгуев П. А. К вопросу о ляшских чертах в белорусской фонетике. Труды постоянной комиссии по диалектологии рус. языка, вып. 9. М., 1927.

115. Расторгуев П. А. Северско-белорусский говор. Л., 1927.

116. Родинов М. А. Лексика говоров Навлинского района Брянской области в системе русских диалектов. Ученые записки Ленинградского гос. пед. ин-та, т. 130. Л., 1957.

117. Романов Е. Р. Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Могилев, 1898.

118. Рудилев В. Г. К фонологической интерпретации русского аканья. ВЯ, 1963, № 2.

119. Русская диалектология. М., 1964.

120. Седов В. В. Кривичи. «Советская археология», 1960, № 1.

121. Седов В. В. Кривичи и словене (Автореферат канд. дисс.). М., 1954.

122. Седов В. В. О происхождении белорусов. Древности Белоруссии. Материалы конференции по археологии Белоруссии и смежных территорий. Минск, 1966.

123. Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья (до XIV в.) (Автореферат докт. дисс.). М., 1966.

124. Селищев А. М. Славянское языкознание. М., 1941.

125. Семенова Ф. М. К вопросу о формах прошедших времен глагола в латышском языке сравнительно с русским. М., 1954.

126. Серебренников Б. А. О взаимодействии языков. ВЯ, 1955, № 1.

127. Серебренников Ф. Обычаи и обряды крестьян Себежского уезда. Памятная книжка Витебской губернии на 1865 год. СПб, 1865.

128. Сержпутовский А. К. Земледельческие орудия Белорусского Полесья. Материалы по этнографии России, т. 1. СПб, 1910.

129. Сивицкене М. Некоторые вопросы изучения островных говоров. Kalbotyra, VIII, 1963.

130. Соболевский А. Важная особенность старого псковского говора. РФВ, т. 62, 1909, № 3—4.

131. Соболевский А. И. Лекции по истории русского языка, изд. 4-е. М., 1907.

132. Соболевский А. Смоленско-полоцкий говор в XIII—XV вв. РФВ, т. 15. 1886, № 1.

133. Спицын А. А. Расселение древнерусских племен по археологическим данным. ЖМНП, ч. 324, август, 1899.

134. Суднік М. Р. Слоўнік асабовых уласных імён. Мінск, 1965.

135. Сцяшковіч Т. Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці (Канд. дыс.). Мінск, 1954.

136. Телентюк Д. С. Перехідні говірки Лунинецького району Пінської обл. Білоруської ССР. Діалект. бюлетень, IV. Київ, 1953.

137. Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

138. Третьяков П. Н. Восточнославянские племена. М., 1953.

139. Третьяков П. Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.—Л., 1966.

140. Тяжбы литовских крестьян и жителей местечек с управителями имений. Сб. документов, ч. 1, XVI—XVII вв. Составил К. Яблонскис. Вильнюс, 1959.

141. Харбургаев Г. А. О фонологических условиях развития русского аканья. ВЯ, 1965, № 6.

142. Чагишева В. И. О брянских говорах. Ученые записки Ленинградского пед. ин-та, т. 130. Л., 1957.

143. Шахматов А. А. Исследования в области русской фонетики. Варшава, 1893.

144. Шахматов А. А. Историческая морфология русского языка. М., 1957.

145. Шахматов А. А. Курс истории русского языка (читан в С.-Петербургском университете в 1908—1909 гг.), изд. 2-е. СПб, 1910—1911.
146. Щерба Л. В. Восточнолужицкое наречие, т. 1. Пг, 1915.
147. Юргелевич П. Я. Особенности говоров Могилевской области. Ученые записки Могилевского пед. ин-та, вып. 1. Минск, 1955.
148. Янкова Т. С. Гласные в переходном говоре Лоевского района. Ученые записки Гомельского пед. ин-та, вып. 3. Минск, 1956.
149. Янкоўскі Ф. М. Глускія гаворкі (Канд. дыс.). Мінск, 1954.
150. Яшкін І. Я. Фанетычныя асаблівасці гаворак Слаўгарадчыны. Лінгвістычны зборнік. Мінск, 1966.
151. Brückner A. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957.
152. Buga K. Aisčiu praeitis vietu vardu šviesoje. Kaunas, 1924.
153. Dejna K. Gwary ukraińskie Tarnopolszczyzny. Wrocław, 1957.
154. Fraenkel E. Litauisches etymologisches Wörterbuch, b. 1, 1932.
155. Gebauer J. Historicka mluvnice jazyka českého, III. Praha, 1960.
156. Glinka S. Granica językowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny. Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych PAN, R. 3.
157. Judycka I. Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach Pomorza Mazowieckiego. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1961.
158. Klemensiewicz Z. Historia języka polskiego, cz. I. Warszawa, 1961.
159. Klemensiewicz Z., Lehr-Spławiński T., Urbańczyk S. Gramatyka historyczna języka polskiego. Warszawa, 1955.
160. Kuraszkiewicz W. Zarys dialektologii wschodnio-słowiańskiej z wyborem tekstów gwarowych. Warszawa, 1954.
161. Lyberis A. Lietuviu-rusu kalbu žodynas. Vilnius, 1962.
162. Mały atlas gwar polskich, t. VII.
163. Nitsz K. Język polski na Wileńszczyźnie. Przegląd współczesny, 1925.
164. Smułkowa E. Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny. Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych PAN, R. 3, z. 5.
165. Stiber Z. Zarys dialektologii języków Zachodniosłowiańskich. Warszawa, 1956.
166. Šerech J. Problems in the Formation of Belorussian. Word, t. IX. New Jork, 1958.
167. Szwejkowska H. Imiesłów czynny przeszły na -szy. Język Polski, XIV, 1929.
168. Tarnacki J. Studia porównawcze nad geografią wyrazów (Polesie-Mazowsze). Warszawa, 1939.
169. Turska H. Język polski na Wileńszczyźnie, Wilno i ziemia wileńska, t. I. Wilno, 1930.
170. Weinreich U. Languages in contact. New Jork, 1953.

## ЗМЕСТ

Уводзіны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

1

Тыпалогія ізаглос

Ізаглосы паўночна-ўсходняга напрамку . . . . . . . . . . 19

Дамачэўска-целяханска-столінскі пучок (карта № 1) . . . . . 19
Камянецка-бярозаўска-пінскі пучок (карта № 2) . . . . . . 20
Камянецка-антопальска-дзвінскі пучок (карта № 3) . . . . . 21
Камянецка-пружанска-пінскі пучок (карта № 4) . . . . . . 22
Камянецка-пінска-столінскі пучок (карта № 5) . . . . . . 23
Камянецка-целяханска-столінскі пучок (карта № 6) . . . . . 25
Пружанска-лунінецка-столінскі пучок (карта № 7) . . . . . 27
Пружанска-лунінецка-давыд-гарадоцкі пучок (карта № 8) . . 27
Пружанска-лунінецка-тураўскі пучок (карта № 9) . . . . . 28
Пружанска-лунінецка-нараўлянскі пучок (карта № 10) . . . 30
Пружанска-слуцка-мазырскі пучок (карта № 11) . . . . . . 33
Ваўкавыска-баранавіцка-лунінецкі пучок (карта № 12) . . . 34
Гродзенска-баранавіцка-лунінецкі пучок (карта № 13) . . . 35
Гродзенска-ружанска-мазырскі пучок (карта № 14) . . . . . 36
Лідска-бабруйска-мазырскі пучок (карта № 15) . . . . . . 37
Лідска-бабруйска-рэчыцкі пучок (карта № 16) . . . . . . 41
Лідска-слуцка-мазырскі пучок (карта № 17) . . . . . . . 49
Лідска-бабруйска-лоеўскі пучок (карта № 18) . . . . . . 51
Гродзенска-слуцка-брагінскі пучок (карта № 19) . . . . . . 59
Ашмянска-лоеўскі пучок (карта № 20) . . . . . . . . 62
Воранаўска-чэрвеньска-лоеўскі пучок (карта № 21) . . . . . 63

Ізаглосы паўночнага напрамку . . . . . . . . . . . 71

Лельчыцка-мазырска-брагінскі пучок (карта № 22) . . . . . 71
Лунінецка-жыткавіцка-мазырскі пучок (карта № 23) . . . . . 72
Давыд-гарадоцка-слуцка-мазырскі пучок (карта № 24) . . . 74
Пінска-слуцка-петрыкаўскі пучок (карта № 25) . . . . . . 75
Пружанска-салігорска-брагінскі пучок (карта № 26) . . . . . 75
Пружанска-слуцка-рэчыцкі пучок (карта № 27) . . . . . . 76
Пружанска-гомельскі пучок (карта № 28) . . . . . . . 78
Свіслацка-бабруйска-рэчыцкі пучок (карта № 29) . . . . . 79

Ізаглосы паўночна-заходняга напрамку . . . . . . . . . . 82
Церахоўска-гомельскі пучок (карта № 30) . . . . . . . 82
Мазырска-бабруйска-гомельскі пучок (карта № 31) . . . . . 83
Давыд-гарадоцка-глуска-лоеўскі пучок (карта № 32) . . . . . 84
Пінска-слуцка-гомельскі пучок (карта № 33) . . . . . . . 86
Столінска-чэрвеньска-кармянскі пучок (карта № 34) . . . . . 88
Столінска-слуцка-аршанскі пучок (карта № 35) . . . . . . 89
Пружанска-слуцка-аршанскі пучок (карта № 36). . . . . . 92

Ізаглосы паўднёва-заходняга напрамку . . . . . . . . . . 94
Полацка-кармянскі пучок (карты № 37—44) . . . . . . . 94
Езярышчанска-ульска-лёзненскі пучок (карта № 45) . . . . . 112
Астравецка-лоеўскі пучок (карты № 46—51) . . . . . . . 114
Ашмянска-гомельскі пучок (карта № 52) . . . . . . . . . 130

Ізаглосы паўднёвага напрамку . . . . . . . . . . . . . 133
Браслаўска-ушацка-расонскі пучок (карта № 53) . . . . . . 133
Свірска-лепельска-віцебскі пучок (карта № 54) . . . . . . 134
Ашмянска-мінска-клімавіцкі пучок (карта № 55) . . . . . 138

Ізаглосы паўднёва-ўсходняга напрамку . . . . . . . . . 139
Пастаўска-глыбоцка-верхнедзвінскі пучок (карта № 56) . . . 139
Смаргонска-глыбоцка-пастаўскі пучок (карта № 57) . . . . . 141
Свірска-бягомльска-расонскі пучок (карта № 58) . . . . . . 143
Полацка-мінска-лідскі пучок (карта № 59) . . . . . . . 146
Лідска-баранавіцка-ваўкавыскі пучок (карта № 60) . . . . . 149
Свірска-слуцка-лідскі пучок (карта № 61) . . . . . . . 151
Верхнядзвінска-слуцка-гродзенскі пучок (карта № 62) . . . . 153

Ізаглосы паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга напрамкаў . . 155
Сярэднебеларускія ізаглосы першай групы (карта № 63). . . 155
Сярэднебеларускія ізаглосы другой групы (карта № 64). . . 160

Ізаглосы ўсходняга і заходняга напрамкаў (карты № 65—68) . . 163
Ізаглосы замкнёных дыялектных арэалаў . . . . . . . . . 177
Слуцка-капаткевіцка-лунінецкі пучок (карта № 69) . . . . . 177
Слуцка-любанска-салігорскі пучок (карта № 70) . . . . . . 178

## 2

### Групоўка дыялектаў на тэрыторыі Беларусі

Папярэднія заўвагі . . . . . . . . . . . . . . . . 179
Палеская група гаворак і асноўны масіў беларускай дыялектнай мовы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 180
Палеская група гаворак . . . . . . . . . . . . . 181
Асноўны масіў беларускай дыялектнай мовы . . . . . . 182
Паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты беларускай мовы . 183

Паўночна-ўсходні дыялект . . . . . . . . . . . . . 183
Паўднёва-заходні дыялект . . . . . . . . . . . . . 185

Групы гаворак на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту . . 188
Паўночная група гаворак . . . . . . . . . . . 188
Віцебска-магілёўская група гаворак . . . . . . . . 189
Полацкая група гаворак . . . . . . . . . . . . 190

Групы гаворак на тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту . . . 191
Паўднёвая група гаворак . . . . . . . . . . . 191
Мазырская група гаворак . . . . . . . . . . . 192
Заходняя група гаворак . . . . . . . . . . . 193

Сярэднебеларускія гаворкі . . . . . . . . . . . . 194
Дыялектныя зоны . . . . . . . . . . . . . . 197
Паўднёва-ўсходняя зона . . . . . . . . . . . 197
Паўночна-заходняя зона . . . . . . . . . . . 198
Сярэдняя зона . . . . . . . . . . . . . . 199
Усходняя зона . . . . . . . . . . . . . . 199
Заходняя зона . . . . . . . . . . . . . . 200

Некалькі заўваг аб групоўцы дыялектаў беларускай мовы з гістарычнага пункту погляду . . . . . . . . . . . . . 200

## 3

### Пытанні генезісу дыялектаў беларускай мовы

Генезіс паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак у іх сувязях з дыялектамі заходніх раёнаў РСФСР . . . . . . . . . . 207
Паўночная група гаворак у сувязі з гаворкамі Пскова і Ноўгарада . 223
Генезіс паўднёва-заходніх беларускіх гаворак . . . . . . . 230
Гаворкі паўднёвага ўсходу ў іх сувязі з гаворкамі Чарнігаўшчыны і Браншчыны . . . . . . . . . . . . . . 246
Брэсцка-пінскія гаворкі . . . . . . . . . . . . 252
Генезіс сярэднебеларускіх гаворак . . . . . . . . 259
Агульнабеларускія моўныя з'явы . . . . . . . . . . 270
Гаворкі паўночнага захаду . . . . . . . . . . . 273
Мерыдыянальная ізаглосная мяжа . . . . . . . . . 277
Заключэнне . . . . . . . . . . . . . . . . 307
Літаратура . . . . . . . . . . . . . . . . 310

На белорусском языке

**Лингвистическая география и группировка белорусских говоров**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар Н. Царова
Мастак А. Беспалый
Мастацкі рэдактар В. Саўчанка
Тэхнічны рэдактар І. Валахановіч
Карэктар І. Пархімовіч

---

АТ 15392. Здадзена ў набор 5/VI-68 г. Падпісана да друку 26/XII-68 г. Фармат $60 \times 90^1/_{16}$. Папера друк. № 2. Друк. арк. 20. Уч.-выд. арк. 20,5. Выд. зак. 375. Друк. заказ 511. Тыраж 1000 экз. Цана 1 р. 41 к. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

**Л 59** **Лінгвістычная** геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Атраховіча (К. Крапівы), Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск, «Навука і тэхніка», 1968.

320 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа). 1000 экз. 1 р. 41 к. У перапл.

У кнізе аналізуюцца шматлікія пучкі ізаглос, складзеныя на аснове «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», асвятляюцца пытанні паходжання і развіцця асноўных з'яў фаналагічнай сістэмы, граматычнай структуры і лексікі беларускіх гаворак у іх узаемасувязі з рускімі і ўкраінскімі гаворкамі. — Бібліягр.: с. 310—315. (170 назв.).

**4 Бел**